Бібліятэка беларускай прозы

**Генрых Далідовіч**

# Міг маладосці

*Апавяданні, аповесці*

Мінск
Мастацкая літаратура
1987

# АПАВЯДАННІ

## ЦЯПЛО НА ПЕРШАЦВЕТ

*Трыпціх*

### КАУНЕР З ЗАМОРСКАГА ЗВЕРА

**1**

— Сынок! Га, сыне! — хтосьці дужы тузаў мяне за плячо, але я не мог прачнуцца і пазнаць голасу: вельмі хацелася спаць.

Мяккім і ўлежным здаваўся сяннік, хоць напхнулі яго толькі ўчора: за зіму леташняя салома ў ім збілася, перасеклася, нібы яе стачылі мышы, і спаць на ёй было надта мулка. Бацька распароў сяннік, занёс яго ў хлеў і вытрас гэтую «сечку» карове на подсціл, схадзіў у гумно і выбраў жоўценькай саломы. Была яна халодная, доўга ляжала ля грубкі і грэлася. Калі стала сухая і цёплая, бацька запхнуў яе ў сяннік і зашыў яго. Сяннік выйшаў тоўсты, гарбаты, калі я лёг на яго, то не мог утрымацца і скаціўся долу.

«Абтапчы»,— усміхаўся задаволены бацька, і я скакаў, уціскаў салому, аж нацёр калені аб вострыя яе камлюкі.

— Стасік! — зноў пачуў я хрыплаваты голас і пазнаў: будзіць мяне бацька.

Не хацелася нават расплюшчваць вачэй: так было цёпла, утульна, мякка, але бацька настойліва, нават з нейкім сполахам клікаў мяне, што я пераадолеў сон, глянуў, адразу зажмурыўся ад яркага, як здавалася, святла газоўкі. Зразумеў, што яшчэ вельмі рана: і спаць хочацца, і не днее, і маці не відаць ля печы.

— Уставай, сыне, імчы да бабы. Скажы, хай да нас ідзе...

У мяне адна баба, матчына маці, жыве за лесам, за добрую вярсту ад нас. Яна сама кожнага дня прыходзіць, спрасоння думаю я, чаго яе клікаць у такую рань! Вось і ўчора была, не дазваляла маме насіць поўныя вёдры, скубці і даваць карове сена, паднімаць на прыпек цяжкія саганы, а рабіла ўсё гэта сама. Дамоў пайшла вечарам, паабяцала, што назаўтра зноў прыйдзе.

— Скажы, што мама... захварэла...

Калі я пачуў гэта, усхапіўся, хуценька апрануўся: вельмі любіў маму і цяпер прыпомніў, што, мусіць, вінаваты ў яе хваробе: учора не паслухаўся, не прынёс у хату дроў, а пабег коўзацца на сажалку. Мама хадзіла па іх сама, прывалакла бярэма, апусціла ля грубкі,

абаперлася аб яе, заплюшчыла вочы, не глядзела, што выцірае рукавом мел, доўга стаяла і аддыхвалася — так ёй было цяжка...

Я глянуў на ложак, на якім штоночы спіць маці: і цяпер яна была там, ляжала тварам да сцяны і цяжка стагнала, часам нават ускрыквала. Я захваляваўся, таму паслухмяна надзеў порткі і камізэльку, якія мне падаў бацька, уссунуў на босыя ногі гумовікі, ушчапіў на галаву аблавушку і выйшаў з бацькам на двор. Было яшчэ цёмна, не відаць ні лесу, ні поля. Толькі за лугам на небе выплывала светленькая палоска, паднімалася, і я не ўбачыў, а толькі адчуў недалёкую, ціхую, яшчэ замёрзлую, нежывую рэчку, на якой тоўсты сіні лёд, праз яго ўдзень ледзь-ледзь відаць чырвона-жоўтае дно, усыпанае маленькімі бліскучымі каменьчыкамі, адчуў халодную, залітую талай вадой сенажаць, а на ёй два рудыя стагі, якія не паспелі перавезці. Калі добра прыгледзеўся, то ўбачыў блізка частаколіны, а на іх анучы і збаны.

У хляве ціха стагналі свінні і цяжка дыхала карова. Нечакана галасіста запеў певень. Здаецца, ніколі я не чуў, каб ён так моцна гарланіў.

— Ужо другі,— прамовіў бацька.

Рана, ціха, цёмна і страшна, думаю я. А ў лесе...

— Спушчу сабаку, пабяжыш з ім,— кажа бацька, нібы адгадвае мае думкі.— Трымай за ланцужок. Смялей будзе.

Ён ідзе да будкі і, пазвоньваючы зашчапкаю аб дрот, адвязвае і прыводзіць Шарыка.

— Не бойся,— заспакойвае мяне бацька.— Цяпер ціха... Прабяжыш. Ну...— Ён дае ў мае рукі халодны ланцужок і падштурхоўвае ў спіну.

Сабака нюхае зямлю і цягне мяне, я падаюся за ім, нічога не бачу, але трапляю выйсці з варотаў, падацца за хлеў. За ім — дарога да лесу.

У полі холадна: цягне стылым ад зямлі і павявае вясновы колкі вецер. Снегу ўжо няма — счарнеў за сакавік, растаў на ваду і сцёк. Мясцінамі, дзе ніжэй, трымаецца толькі лёд — стары, яшчэ асенні, скамянелы за зіму,— блішчыць днём на сонцы і нехаця слязіцца — танчэе і асядае; маладзенькі, вясновы лядок, што сабраўся ноччу на лужынах, тонкі, нямоцны, хрумсціць, як папера, і ломіцца пад нагамі. Днём паднімеш кусок, танюсенькі і празрысты, як шкло, і доўга не патрымаеш: хутка растае ў цёплых руках, і халодныя, аж пякучыя, кроплі цякуць у рукаво, халодзяць...

У лесе яшчэ цямней, я не бачу сцежкі, бягу, куды вядзе сабака. Але дарогу адчуваю добра: помню кожную ямінку, узгорачак, камень,

ля якога абтапталі пясок. Летась аб адзін такі валунец тут, ля Ваўкавенькі, за выгібам, які будзе скора, я збіў палец.

У бары ціха, толькі чуваць мае крокі і ціхенькае рэха, якое коціцца следам за намі. Страшна, вельмі страшна. Здаецца, за кожным кустом стаіўся воўк, каб схапіць мяне і завалачы ў пушчу. Хоць і цёмна, я заплюшчваю ад страху вочы і імчу за сабакам, ды так хутка, што часамі наступаю яму на ногі. Але думаю, што бягу памалу: уперадзе яшчэ многа дарогі, далека да бабулі, а маме цяжка... Стараюся бегчы яшчэ хутчэй, каб прамінуць гэты лес, за якім будзе бабуліна хата.

Калі нарэшце прыпыняемся ля бабулінай хаты, мне няма чым дыхаць. Адчуваю, што памлелі і ногі.

Я пастукаў кулаком у дзверы — бабуля тут жа пытаецца, хто гэта, і пускае мяне ў сенцы. Здаецца, і не здзіўляецца, што я так рана прыбег да яе.

— Ест што ці яшчэ няма? — толькі запытала яна.

Я зусім не разумею, пра што яна пытаецца, паціскаю плячыма.

— Ну, дзіцяці яшчэ няма?

— Не,— гавару я.

— Пабяжым тады,— кажа бабуля.

Яна качаргою раскідала ў печы дровы, якія ўжо ўгарэліся, заліла агонь, узяла вузялок, што ляжаў на стале, патушыла газоўку, і мы выйшлі на двор.

— О божа! Як ты толькі бачыў дарогу? — здзіўляецца яна,— Я сваімі старымі вачамі дык нічога не бачу, не паспяшу такою цемраю.

Я і сам ведаю, што яна не можа хутка ісці: пажылая, хваравітая, ды перад самаю вайною яшчэ зламала нагу, цяпер ходзіць з палачкаю.

Бабуля распытвае ў мяне, што рабіла нядаўна маці, а пасля нечакана кажа, што ў нас сёння «прыбавіцца сям'я — дасць бог хлопчыка ці дзяўчынку».

Цяпер я прыпамінаю, што маці з бацькам даўно дапытваліся ў мяне, ці хачу, каб «купілі сястрычку». Я гаварыў, што «не трэба яна нам». Добра, смяяліся яны, не будзем збіраць на яе грошай.

Цяпер я задумаўся: дык адкуль жа возьмецца сёння ў нас малое?

— Ты вырас ужо, дзяцюк,— кажа бабуля,— сем годзікаў маеш. Падобраму, пара даўно мець і другое. На гэтым жа свет стаіць... Але як будзеце жыць, не ведаю. Ратоў прыбаўляецца, а яды... Ды маці нікуды надта не адвернецца, будзе сядзець ля калыскі. Каб не гэтая вайна яшчэ... Такая бясхлебіца...

Калі мы, спяшаючыся, дайшлі да нашай хаты, пачало выплываць чырвонае сонца, калюча і холадна асвяціла небакрай. Мы тупалі і бачылі ўжо дарогу. Ногі мае закарчанелі ў гумовіках.

Маці ляжала на тым жа ложку, толькі цяпер была нейкая вялікая, на ўсю пасцель, глянула на нас, калі мы ўвайшлі, і зноў заплюшчыла вочы. Я заўважыў, што ў яе бледныя вусны, сухія, аж патрэсканыя, як зімою ў мароз.

— Ну, што тут? — спытала бабуля ў бацькі.

— Ды во! — сарамліва ўсміхнуўся ён і паказаў рукою на маці.

Бабуля падышла да пасцелі, нагнулася, разгарнула невялікі белы скрутачак, паглядзела і сказала:

— Ну, во і добра, дзяўчынка...— Пасля паклікала мяне: — Ідзі глянь, і ты некалі гэтакі быў, тож так у руках трымала...

Я падышоў і ўбачыў загорнутае ў чысценькае прасцірадла маленечкае дзіця, здзівіўся: адкуль яно ўзялося?

— Не зачыніў учора коміна,— папракнуў мяне бацька,— вось і ўкінуў нам бусел дзіця. Раз не дапільнаваў, то будзеш цяпер гуляць з ім.

Я разгубіўся, стаяў і лыпаў вачамі.

— Не слухай, сынок, бацька насміхаецца. Гэта твая сястрычка,— ціха сказала маці.— Паглядзі, яна на цябе і падобная.

Бабуля апусціла ніжэй гэтае не пекнае дзіця, але я, разгублены, блізка не падышоў і добра не зірнуў на сястрычку.

Так і не дабіўшыся, каб я прылашчыў хоць позіркам малое, бабуля адышла ад мяне, палажыла дзіця, сказала бацьку прынесці ночвы, выпаласкаць іх і наліць цёплай вады. Я пастаяў, патоўкся пад рукамі і, калі ўбачыў, што лішні, ніхто на мяне не глядзіць, нікому я не трэба, выйшаў на двор. Не ведаў, што буду рабіць там, але падаўся за хлеў, на поле, далей ад дому. Таптаў на лужынах тонкую намаразь, коўзаўся па старым лёдзе, быў неспакойны, не рады, што вырваўся з хаты. Але вяртацца ў яе не хацелася.

З лесу пачулася, як заляскалі па прымерзлай зямлі колы, зарыпелі гужы ды драбіны. Я ведаў, што едзе мамін брат, дзядзька Янусь, такі ж высокі, дужы, як і мой бацька.

Дзядзька Янусь добры, ён увесь час жартуе, расказвае цікавае ці прынясе які ласунец. Ён амаль штодня катаў мяне на калёсах, садзіў ля сябе і даваў «кіраваць». Я моцна трымаўся за лейцы, ехаў і здзіўляўся, чаму такая вузкая дарога: конь кідаўся з абочыны на абочыну. Дзядзька пасміхаўся і гаварыў, што канём не трэба кіраваць, тузаць яго — ён і сам умее выбіраць дарогу.

Цяпер, як бачылася, дзядзька спяшаўся і не думаў заязджаць да нас. Раней, бывала, заскочыць, паставіць ля хлява каня, падкіне яму сена, зойдзе ў хату, паснедае і паедзе далей.

Сёння ён не заехаў, павярнуў ля сажалкі, што была за паўвярсты адсюль, і выехаў на дарогу-сыпанку, якая вяла да суседняй вёскі, Ніўнага.

У Ніўным ужо з паўгода быў калгас, і нашы хутарскія мужчыны часта хадзілі туды глядзець, як жывуць «калгоснікі». Дзядзька Янусь таксама бываў, памагаў свайму брату-ніўнянцу — вазіў з іхняга калгаснага лесу дровы да «хаткі», дзе варылі калгасным цялятам і коням бульбу, каб падмяшаць яе ў сечку. Я часта ездзіў з ім у Ніўнае, заходзіў да другога свайго дзядзькі, Антуся, які працаваў конюхам.

Дзядзька Антусь — не карэнны ніўнянец. Сям'я яго, жонка і двое дзяцей, жылі да нядаўняга часу ля нас у зямлянцы. Але дзядзька Антусь, як толькі вярнуўся з вайны, не захацеў жыць болей на хутары, схадзіў да ніўнянскага старшыні калгаса, дамовіўся з ім і пераехаў туды, уступіў у калгас і стаў працаваць на канюшні: вельмі любіў коней, ён і на вайне быў кавалерыстам.

Дзядзька Антусь, відаць, расказаў старшыні, што мой бацька каваль, бо на днях той, высокі, вусаты, у ваенным адзенні, але без пагонаў, з адным пустым рукавом, якое было заткнута за рэмень, прыязджаў да нас і ўгаворваў, каб і мы перабіраліся ў Ніўнае, прасіў бацьку працаваць кавалём, перавозіць туды і нашу «кузеньку», агораную ўсёй бацькавай раднёю яшчэ да вайны.

Я слухаў і глядзеў на старшынёву, некалі зялёную, а цяпер пабялелую, гімнасцёрку з медалямі, здзіўляўся, як іх многа, з зайздрасцю аглядаў яго выцвілую фуражку, на якой не было зорачкі, а бачылася толькі на яе месцы плямінка і дзірачка. Старшыня быў заклапочаны, худы, зусім не смяяўся, пільна глядзеў на бацьку і гаварыў: «Каваль нам надта трэба, бо даюць трактар, сеялкі, плугі, а правіць іх няма каму, бо ўсе кавалі нашы на вайне паклалі галовы... А ты што тут, на хутары, будзеш рабіць і што заробіш? Хутаранец многа табе не заплаціць, калі ты яму які серп склеплеш».

Бацька згадзіўся, што тут яму няма чаго рабіць і заработкі малыя, ён не супроць працаваць у іхняй калгаснай кузні. Ведаў, што там яму будзе «разгарненне», але бедаваў, што тут у яго стаіць яшчэ дзедава хата, і будзе многа клопатаў, калі яе раскідаць, перавезці, злажыць: паспрабуй крані толькі — пасыплецца ўся. А памагчы надта няма каму: сваякі самі будуюцца. Ды ўвогуле мужчын мала, усе будуюцца, не хочуць жыць у зямлянках.

— Можа, буду хадзіць пакуль што да вас на работу, калі прымеце,— сказаў бацька.— Тут недалёка, вярсты тры. А кузню перадам ужо свайму калгасу, бо і ў нас жа, відаць, скора будзе...

Старшыня шкадаваў, што не можа цяпер памагчы пераехаць і пабудавацца, хоць бы, гаварыў, ніўнянскім уловам агораць якія хаціны, але прасіў прыходзіць і кавальнічаць.

Я, калі бываў у Ніўным, то спярша заварочваў на кашошню, да дзядзькі Антуся. Памагаў яму карміць коней — разносіў па загарадках сена, вотруб'е, найболей стараўся даць чаго-небудзь смачненькага жарабяткам, але дзядзька не дапускаў да іх: баяўся, каб мяне не ўбрыкнулі кабылы. Даваў мне лёгкую работу: прайсці па калідоры і пазакладаць жэрдкі ў стойлах, а ў загарадках самых памаўзлівых коней забіць над жэрдкамі ў дзюркі калочкі.

Вечарамі, калі быў у канюшні, дзядзька садзіў мяне на рахманага Ангора, і мы ганялі на раку паіць коней. Пакуль коні вярталіся — ішлі яны панурыя, цяжкія ад вады, апусціўшы галовы, не брыкаліся і не гулялі, як хвілін колькі таму,— валасы ля пыс абмярзалі, звісалі тоненькімі лядзяшкамі, якія дакраналіся адна да адной і ціхенька пазвоньвалі...

...Я пабег за возам, стаў крычаць і махаць рукою. Каб летам, то мог бы яго і не дагнаць, але цяпер, бездарожжам, цяжка нагружаны конь цягнуўся паволі, і я хутка дагнаў яго.

Дзядзька прыпыніўся і злез з калёс, прывітаўся са мною за руку, спытаў:

— Што скажаш добрага?

— Сёння нам бусел дзяўчынку прынёс,— сказаў я.

— А! — дзядзька ўсміхнуўся, ускалашмаціў свае валасы.— Ёсць адзін такі бацян, ён ніколі не адлятае на зіму, а разносіць па хатах дзяцей. Правароніў юшку зачыніць?

Я апусціў галаву: сапраўды ўчора не зачыняў, бо дагледжваў грубку бацька — тоўк галавешкі, разгортваў жар. І бацька, і дзядзька вінавацяць толькі мяне...

Дзядзька Янусь падхапіў мяне на рукі, пасадзіў на дровы, і мы паехалі да нас. Калі зайшлі ў хату, я ўбачыў, што бацька дастаў за гэты час з вышак калыску, абцёр яе ад пылу. Знайшоў недзе маленькі сеннічок і паспеў ужо напхнуць яго сенам.

— Я не бачыў, што ты, малец, выскачыў на двор,— усміхнуўся ён.

— Цяпер цябе, пляменнік, будуць часта не бачыць,— прамовіў дзядзька.— Цяпер будуць калаціцца па ёй. Што смачнейшае, лепшае — усё будзе ёй, а не табе...— ён нагнуўся, глянуў на дзяўчынку,

здзівіўся: — О, якая брыдкая! Ну што, малец, язык высалапіў? Не ўгледзеў?.. Калышы цяпер.

## 2

Зусім мяне растрывожыў дзядзька. Я стаў прыглядацца, чым жа смачнейшым будуць карміць малую? Што мне застанецца? Дасюль, калі траплялiся якія цукеркі-падушачкі, то былі мае. А цяпер, выходзіць, дастануцца ёй.

Праз колькі дзён я ўбачыў, што маці яе нічым яшчэ не корміць, дае толькі грудзі. Я не вытрываў і спытаў аднойчы, калі будуць даваць малой есці і што-небудзь іншае.

— Падрасце — будзем падкормліваць,— адказала маці.— Пакалышы, а я схаджу ў хлеў.

«Глядзі во яе!.. Няма як пабегчы да Антоніка, нагуляць»,— думаў я, гойдаючы гэтую капрызу: калі тармасіў калыску — спала, толькі адыходзіўся, хацеў выйсці да свайго сябрука — кугакала на ўсю хату. Я ўсё болей разумеў, што цяпер давядзецца мне меней гуляць — трэба глядзець малую.

— Мама,— спытаў я аднаго дня,— а ці забірае бусел маленькіх дзяцей назад?

— Чаму ты хочаш гэта ведаць? — усміхнулася яна.

— Хай забірае, не трэба яна нам...— сказаў я, успомніўшы, як на днях бабуля прынесла салодкі пернік, то маці адламала мне толькі маленькую скібачку, а астатняе схавала «даваць Ганьцы».

— Чаму ты хочаш аддаць сястрычку? — дапытвалася яна.

Я прамаўчаў, але хацеў сказаць, што яна, мама, была дасюль да мяне добрая, ласкавая, а цяпер на мяне мала глядзіць, палюбіла гэтую маленькую дзяўчынку, болей думае пра яе, як пра нас з бацькам. Але нічога не сказаў, толькі насупіўся.

— Буслік мой! — прытуліла маці мяне да сябе.— Бадян дзяцей назад не забірае. Ен яшчэ нам брацiка прынясе. Хочаш?

— Не,— крыкнуў я.

— Чаму, сынок? — здзівілася маці.

— Не хачу.— Я не сказаў, чаму не жадаю яшчэ і хлопчыка, хацеў толькі запытаць, ці любіць яна мяне яшчэ, але стрымаўся.

— Ох, мае вы дзеці! Некалі будзеце радавацца адно аднаму,— прамовіла маці, але я не зразумеў, што яна хацела сказаць, не пераставаў думаць пра брацiка і баяцца яго.

Рашыў, што трэба ўсяляк не дапусціць да коміна бусла: зноў укіне дзіця. Я штохвіліны прасіўся на двор і, колькі дазвалялі мне, быў там, паходжваў і выглядваў, ці не ляціць бацян.

Пакажацца — праганю, няхай вяслуе да суседзяў, у іх даўно няма маленькіх дзяцей... Але бусла не было, і я зразумеў, што не дапільную яго. Укіне яшчэ адно малое, калі адвярнуся куды, і давядзецца гэтаксама калыхаць яго. I не толькі гушкаць...

Вечарам маці расказала бацьку, як хацеў я пазбавіцца ад сястрычкі. Ён слухаў яе, пасміхаўся, а пасля пачаў дакараць мяне:

— Пара ўжо табе, Стаська, сталейшым быць. Скора ў школу ісці, а ты ўсё дзяцінішся. I чаму ты не хочаш яшчэ і брацікa? Весялей жа будзе.

— Нам і так мала есці,— сказаў я.— Лусту хлеба мама цяпер дзеліць на чатыры кавалкі, а тады будзе рэзаць на пяць...

— Ты і праўда ўжо сталы.— Бацька перастаў усміхацца, сеў за стол.— Колькі яшчэ, маці, у нас засталося жыта?

— Сам жа ведаеш, чаго пытаецца? — адказала яна.— На раз змалоць. А ўперадзе — лета... Пакуль тое новае...

— Да новага далека...— уздыхнуў бацька, пацёр далоняю лоб, пасля глянуў на мяне, ды так пільна, як на дарослага.— Дык не хочаш гуляць з маленькаю? Не? Тады будзеш штодзень хадзіць са мною ў кузню памагаць зарабляць хлеб...

## 3

Цемната дагнала нас за лесам; у бары быў цёплы пясок, душнаватае паветра, а тут, у полі, бралася раса, студзіла ногі. Я ішоў побач з бацькам, маўчаў, адчуваў на плячах астуджаны пот, стомленасць, ведаў, што хутка мы прыйдзем дадому і я буду паліваць ваду бацьку на яго чорныя, вымазаныя вуглём і жалезам рукі, а пасля буду мыцца сам, смачна есці і моцна спаць, нават не прасіць расказваць мне казкі.

Я не доўга гуляў з сястрычкаю, да якой пачаў прывыкаць, бо да нас пераехала бабуля, цяпер жыве з намі і гуляе з унучкаю, а я стаў працаваць.

Бацькава кузня стаіць непадалёку, тут, на хутары, дзе да вайны жыў ён і сам. Калі ў блакаду хату спалілі, бацька з маці перабраліся сюды, да дзеда, а кузня засталася на ранейшым месцы. Вось нам і даводзіцца хадзіць на працу за добрую вярсту.

Работа мая ў кузні не такая ўжо і цяжкая. У бацькі ёсць памочнік, хударлявы, стары, з задышкай, дзед Васіль, які памахае крыху молатам, сядзе і не можа адсапціся, нават не курыць, сядзіць і глядзіць у зямлю, пакуль не нагрэецца жалеза. Я падмяняю старога — паддзімаю агонь. Даюць мне і другую работу — зубіць сярпы. Дзед

Васіль слепаваты, добра не бачыць, часта б'е малаточкам бацьку па пальцах, таму тата налаўчыў зубіць мяне.

Рабіць гэта нялёгка, хоць і цікава: бацька кладзе на дзве калоды стальны роўны вал, ложыць на яго гладка вытачаны серп і настаўляе зубільца, а я часта-часта, з аднолькавай сілай, б'ю па ім малатком. Спачатку ў мяне не выходзіла: біў я моцна і рассякаў вастрыё сярпа, а то стукаў слаба, і зубы былі нявострыя. Часта ўгоджваў бацьку па пальцах, набіваў сінякі, бацька аж войкаў ад болю, лізаў пальцы і крычаў на мяне, але скора я прызвычаіўся — зубікі атрымоўваліся роўненькія і востранькія. Бабы, як жалі, не маглі нахваліцца гэтымі сярпамі і болей хвалілі мяне, чым бацьку...

— Стаміўся, малады каваль? — спытаў бацька, паклаў мне на плечы цяжкую руку. Ён сярдзіты, калі працуе, а калі падыходзім да хаты, ажыўляецца, жартуе.

— Не,— адказваю я.

— Прагаладаўся?

— Не,— зноў гавару я, хоць ужо даўно смокча ў жываце, цякуць слінкі, аж баліць у роце, але я мужчына, я не сусед — аднагодак Антонік, які гуляе цэлымі днямі ў «коні», лепіць гліняныя домікі ці пячэ пясочныя аладкі, плача, калі застрэміць нагу ці ўджыгне яго пчала. Мне няма часу гуляць, мне трэба памагаць бацьку ў кузні, памагаць зарабляць хлеб... Я не плачу, калі мая рука трапіць пад малаток, замлее ад болю, пасінее; не бядую, што ў мяне звініць у вушах ад стуку.

Антонік не ведае, як ударацюць малаткі, а я знаю: пудовы малацішча б'е глуха, як у барабан, а маленькі малаток, які часцей гуляе па кавадле, ляскае дробна, бацька выладжвае ім усялякую тонкую работу — клепле сярпы, нажы, шылы.

Я іду і гадаю, чым будзе карміць нас сёння маці. Відаць, наварыла бульбы — яна яшчэ маладая, цвёрдая, мылкая, але есці ўжо можна. Яе добра пасыпаць соллю і есці сухама ці нашчыпаць звялага пер'я цыбулі і кусаць з ёю. А можа, маці сабрала малака, паставіць на стол кіслага?

Я сам здзіўляюся, чаму гэтае лета думаю многа пра ежу, ці таму, што ў нас даўно выйшла сала і мы не ядзім скваранага, ці таму, што працую, трачу многа сілы, ці таму, што ўсё лепшае — смятану, тварог — берагуць для сястрычкі. Забыўся я ўжо, калі ўволю з'еў і чорнага хлеба — адрэжа маці лусту, дасць, а бохан загорне ў белы ручнік і пакладзе на паліцу, напамяне, каб без яе не чапалі...

На ганку нас сустрэла маці, усміхнулася: «Ах, мае вы работнікі!»— - але чамусьці абняла ды пацалавала толькі мяне, хоць я цяпер вельмі

хацеў, каб мама прылашчыла і бацьку: ён многа працуе — цэлы дзянёчак махае молатам, адпускае мяне паляжаць на траве, пакупацца ў рэчцы, а сам не выходзіць з кузні, стукае, пацее ля агню, а ноччу глуха і цяжка кашляе...

— Ну, што вы сёння зрабілі? — пытаецца маці і палівае нам на рукі халодную ваду.

Мы з бацькам намыльваем рукі, крэкчам і не спяшаемся адказваць. Другім часам я не вытрымаў бы, адразу пахваліўся б, але сёння маўчу, чакаю, што скажа бацька.

— Мы заробім скора Стасю на боты,— кажа ён.

— Малайцы! — радуецца маці.— І я вас сёння нечым пачастую...

Мы заходзім у хату, садзімся за стол. Маці высыпае ў глыбокую місу гарачую бульбу, пара з якой валіць пад столь, і ставіць маласольныя гуркі. Як убачыў я картоплю, у мяне так пацяклі з рота слінкі, што я перастаў стрымлівацца, быць «сталым», напоўніцу набіў рот бульбаю, толькі зяхаў: была яна надта гарачая, апякала рот. Дасюль я, здаецца, не ведаў, што бульба такая смачная.

— Гэта вам, мужчынам,— усміхнулася маці, узяла з паліцы невялікі кавалак сала, адрэзала два роўныя кусочкі, падала мне і бацьку.

Я добра ведаю, што ў нас ужо няма свайго сала, кончылі яшчэ вясною, хрэсьбінамі. Сама мама і бабуля сала не ўзялі, хрумстаюць гуркі і запіваюць бульбу расолам, і хоць часта гавораць, што посная гэта яда, некалі будзе лепшая, але сёння маўчаць, і, здаецца, усе задаволеныя. Толькі наша Ганька не радуецца, не засмучаецца, спіць сабе — сапе ў носік і цмокае губкамі...

— Мама, дзе вы ўзялі сала? — спытаў я, калі крыху збіў голад.

— Вы зарабілі,— кажа яна.— Занесла сёння Пётрыкавым серп, што вы змайстравалі, вось і далі. Так што і ты ўжо наш карміцель...

Я ўсміхаюся, нават бянтэжуся: так мне добра. І тут жа думаю, што, відаць, і бабуля, і маці гэтаксама хацелі б пакаштаваць сала, і я ўзяў нож, адрэзаў ад свайго кусочка і ім па скрыліку.

— Еш сам, сынок,— адмаўляецца бабуля.— Мы тут пры доме... А вы ж у кузні...

І бацька, як толькі цяпер я заўважыў, не еў сала, глядзеў на мяне і пасміхаўся, адрэзаў два кусочкі, падаў іх кабетам, хоць тыя нізавошта не хацелі браць. Узялі толькі тады свае долі, калі сказаў, што і ён не будзе есці.

## КРЫЧАТЫ

### 1

Чуў я раней у сваім налібоцкім краі, як знаёмяцца чужыя людзі:

— Адкуль самі будзеце?

— З Налібак.

— А я з Хлябовіч, з Янковіч...

Толькі не помню, каб пахваліўся хто, што ён з Крычатоў — за вярсту якую схаваўся за нашым мястэчкам, за Шабуневым лесам, такі невялікі хутарок, хат дзесяць, не болей. Спытаюць незнаёмыя крычатоўца, дзе жыве,— ніколі не прызнаецца, скажа: стаіць яго хата «непадалёку Рудні, Янковіч ці Пільніцы»...

Месца, на якім аселі Крычаты, і добрае, і нядобрае: жывуць людзі на беразе шырокай ракі. У ёй многа шчупакоў, ментузоў, плотак — хапае круглы год і свежай рыбы, і сушанай, самі ўволю ядуць і прадаюць, добрую капейку бяруць. Не ведаюць людзі гора і на сена: месца ля іх нізкае, мокрае, не скора высушваецца — расце трава ў пояс, пахкая, ядкая. І коні ахвотна ядуць і каровы.

Але ў крычатоўцаў мала ворыўнай зямлі: вясною выходзіць з берагоў рака, залівае поле; вада стаіць да чэрвеня, не дае ні араць, ні што лапатаю пасадзіць. А то ворыва забірае лес — ля самага хутарка накідваецца, прыжываецца самасейка, а воддаль уросся, укамліўся бор Налібоцкай пушчы. Дровы, ягады, грыбы блізенька, хоць лапатаю грабі, а зямлі, каб зрабіць добрыя грады ці пасадзіць бульбу, няма.

З-за гэтай зямлі яшчэ раней, за панамі, не хацелі нашы местачкоўцы браць крычатовак, а дзяўчат з вёскі нельга было зацягнуць да іх на хутар. Удавалася ў мястэчку якая бедная ці брыдкая дзяўчына, пасміхаліся: «Табе толькі за крычатоўца ісці...»

Вось так гадамі чужыя людзі абнеслаўлялі гэты лапік зямлі, пасміхаліся, забываліся пра яго, успаміналі, калі выходзіла сваё сена і трэ было дакупіць, ці ўзяць у іх рыбы, мёду або піва, якое ўмелі рабіць толькі на гэтым хутарку. Бралі і стараліся, каб ніхто пра гэта не ведаў... І благая слава трымалася, ліпла да крычатоўцаў, як смала...

Як і я помню ўжо, у Крычатах да самага калгаса не было ні школы, ні магазіна, з іх хутара ніхто не вывучыўся за настаўніка, урача, самае вялікае— налоўчваліся хлопцы рабіць бочкі, шыць касцюмы ды кажухі, век цягаліся па свеце па заработках, прыставалі ў прымы, каб пакінуць меншым кусок зямлі, а самім сесці на жончын.

Праўда, казінцы (так яшчэ завуць крычатоўцаў) амаль усе ўмелі добра спяваць і іграць на цымбалах, гармоніках. Калі паблізу бывала якое вяселле ці вечарынка, казінцы тады хадзілі каралямі: ігралі іхнія

баяністы і цымбалісты, і тады іх паважалі, нават зайздросцілі, бо і танцоры былі яны спраўныя, люба глянуць было, як яны танцуюць. Вальсамі ды полькамі іхнія хлопцы знясільвалі дзяўчат, танцавалі падоўгу, прыпеўвалі, скакалі, траслі валасамі, грукалі ботамі, і ніхто з імі не мог параўнацца.

Праходзілі танцы, і забывалася гэтая павага, і нават адчувалі гэта і нашы дзеці-янкоўцы і не толькі помнілі, але і часта крычатоўцам-аднакласнікам стараліся не даць пра гэта забыцца.

Яны хадзілі ў нашу пачатковую школу, то мусілі часцей, чым нашы, падмятаць у класе, не старацца на ўроках добра адказваць і не атрымліваць пяцёрак; калі гулялі ў хованкі, ім даводзілася часцей шукаць, а не хавацца.

У нашай школе самым старэйшым і дужым быў Мішка — стараста другой змены. З раніцы вучыўся першы і трэці клас, пасля полудня — мы, другакласнікі, і большыя.

Мішка быў высокі, плячысты, пад носам у яго ўжо чарнеліся вусы — ён яшчэ да вайны адзін ці два гады вучыўся ў польскай школе, «нямала пастаяў на коленках у кутку». Дома ён араў, касіў, піў з мужчынамі гарэлку, на вечарынках агрызаўся са сталымі хлопцамі, не «папускаўся», каб над ім так жартавалі, як над намі, на гадоў восем меншымі за яго.Ён і ў школе не надта слухаўся маладой настаўніцы, часта даводзіў яе да плачу, і тая пасылала каторага з нас, каб мы паклікалі Мішкавага бацьку. Але мы, гэўрыкі, як ён дражніў нас, не хадзілі і не клікалі: баяліся Мішкі. З ім дружылі толькі пераросткі Пятро і Віця, але гэтаксама надта не пярэчылі яму.

## 2

...У той лютаўскі дзень яны завяліся з-за сцежкі. Праўда, яе спачатку не было: пакуль мы вучыліся, вецер круціў і перасыпаў снег, гнаў па полі, залізаў ім санную дарогу, і нам трэ было ісці па цальнягу.

Мішка, Віця і я жылі на другім ад школы канцы вёскі, і нам ладны кавалак дарогі выпадала ісці разам з крычатоўцамі, бо мы хадзілі не вуліцаю (так было далей), а па полі, напрасткі. Вось, калі выйшлі на голае поле, Мішка і пагнаў крычатоўцаў таптаць сцежку, а сам цягнуўся па іх слядах і падганяў: «Ну, ну, гэўрыкі!»

Крычатоўцы, усе дробныя, нядужыя, спачатку паслухаліся, як і заўжды, мяняліся па чарзе, ішлі след у след, але хутка стаміліся, набралі ў боты снегу, памарозілі ногі і сталі прасіцца падмяніць іх, але Мішка нават і слухаць не хацеў пра гэта, піхаў іх у плечы і гнаў наперад. Тады яны адмовіліся ісці першымі, збіліся ў кучку і плакалі, пагражалі, што раскажуць настаўніцы.

Мішка пасміхаўся, абы-што гаварыў, з месца не кратаўся, стаяў, сціскаўся ад холаду, калючага ветру, цёр халодныя шчокі і загадваў крычатоўцам падавацца. Я не вытрымаў холаду ды гэтай гыркатні і, абышоўшы ўсіх, памкнуўся таптаць сцежку, але Мішка хапіў мяне за плячо, прыцягнуў да сябе, прасіпеў: «Што — шкода іх стала? Эх ты, гэўрык!..»

Цямнела, хацелася есці, было холадна, але Мішка і не думаў здавацца, усё сыкаў: «А ну пайшлі, казіне». Калі яны так і не падаліся, ён узвярэў, накінуўся на іх і стаў матлашыць сумкаю. Хлопцаў паваліў, панатыкаў кожнага тварам у снег. Пасля кінуўся да маленькай Камці — адзінай дзяўчынкі-крычатоўкі,— піхнуў яе, хапіў жменю снегу, хацеў нацерці ёй твар, але яна павалілася, засланіла нос і шчокі рукою, папрасіла: «Не бібя» — і так жаласна глянула на яго, што я сумеўся, у мяне сцялося ад страху сэрца, і я ледзь не заплакаў. Але Мішка сціснуў снег на лядзяшку і пляснуў ёю у твар Камці. Яна заплакала, з носа паказалася кроў.

— Бандзюга! — крыкнуў я.

— Ну, ты! — Мішка вызверыўся на мяне, вылупіўшы вялікія, па яблыку, вочы.— Калі так, то смалі першы. Я цябе...

Я не чакаў, пакуль крычатоўцы падбяруць вытрасеныя з кішэняў ручкі ды гумкі, пайшоў пракладаць сцежку, глыбока правальваючыся і набіраючы ў боты снегу.

— Які жаласлівы! Смаркаты гэўрык! — гудзеў ззаду Мішка, ужо на мне спаганяючы сваю злосць.— Будзеш такі добранькі, дык яны цябе заганяюць... Але каб дома маўчаў, як нічога і не было. Папробуй толькі пахваліцца!..

Дома я звычайна расказваў маці пра ўсё, што было за дзень у школе, паказваў, якую атрымаў ацэнку, за што мяне пахваліла настаўніца. Але на гэты раз прамаўчаў, нічога не прамовіў, бо добра ведаў: маці не пахваліла б за тое, як мы абышліся сёння з Камцяю. А яе плач не выходзіў з маіх вушэй, у вачах стаяла, як толькі заплюшчуся: Мішка б'е лядзяшкай Камці ў твар...

Ноччу мне снілася, як мы ішлі па цальнягу, гналі перад сабой казінцаў, піхалі іх у снег. І мне здалося, што я ўдарыў Камцю ў твар лядзяшкаю, разбіў ёй губу... Я крычаў спрасоння і ўскакваў, так мне было страшна — маці колькі разоў уставала і супакойвала мяне.

Назаўтра, калі я падняўся раненька, сон не выходзіў з галавы; я не чакаў, калі да мяне зойдуць Мішка і Віця, пайшоў у школу адзін. Плёўся і бачыў, што крычатоўцы ўчора ці першая змена сёння панапісвалі на снезе абышто пра нас, янкоўцаў,— выводзілі пальцамі ля сцежкі. Я добра ведаў, што Мішка не даруе ім гэтага, будзе

помсціць, і, каб ён не прачытаў іхніх абраз, не прыдзіраўся, каб зноў не папала Камці, стаптаў нагамі надпісы.

Калі сустрэўся з крычатоўцамі ў школе, яны злаваліся, не гаварылі, не прынеслі сушаных яблыкаў і плотак; Камця, як толькі пайшла дамоў першая змена, не глянула на мяне, спырскала і пачала падмятаць падлогу — была сёння дзяжурная.

Хлопцы, баючыся пылу, выйшлі на двор. Я застаўся ў класе, глядзеў на Камцю, невысокую, чорнавалосую, адзетую ў сінюю сукеначку і белы фартушок, і яна ўсё болей мне падабалася. Я жахаўся: як Мішка мог учора падняць на яе руку? Пасля падышоў да яе і сказаў:

— Давай памагу.

— Я сама,— сказала Камця і не дала мне веніка, хоць я прасіў і яшчэ раз.

А мне так хацелася дагадзіць ёй; каб яна згадзілася, дала венік, а сама пастаяла, паглядзела, мне, здаецца, намнога было б лягчэй. Камця старалася не глядзець на мяне, і гэта зусім засмучала.

— Я папрашу Мішку, дам яму што-небудзь, і ён больш не будзе цябе прымушаць ісці першай па цальнягу,— сказаў я.— Ты маленькая...

— Я не меншая за цябе,— запярэчыла, з крыўдаю глянула на мяне Камця.— У адзін клас ходзім. Я дома бульбу абіраю, падлогу мыю.

— А я дровы рэжу і калю,— тут жа, не падумаўшы, зманіў я: пілаваць бярвенні бацьку памагаў, але калоць іх мне не дазвалялі — баяліся, каб не пасек нагу.

— Мне летам ровар купяць, у трэці клас буду ездзіць, а не хадзіць.

Я змоўк: колькі разоў прасіў узяць у магазіне веласіпед, але бацька не хацеў купляць, казаў, што грошы на вартнейшае патрэбны, а ў школу недалёка, можна пешшу хадзіць.

У клас зайшоў Мішка, у бацькавых высокіх валёнках і доўгім, да зямлі, кажусе, уваліўся, як стаяк усунуўся. Як я і чакаў, спытаўся:

— Чаму не пачакаў сёння?

— Бацька раней паслаў,— сказаў я і стараўся не глядзець на яго.

— Што — не хоча казінка падмятаць? — спытаў ён, пагардліва глянуўшы на Камцю, і хацеў, відаць, пацягнуць яе за касу ці піхнуць, бо шэрыя вочы яго нядобра бліскалі.

— Падмятае,— апраўдаў яе я.— Не называй казінка, яна — Камця...

— Камця-мамця! — перакрывіў Мішка.— Казінка... Бэ-э-э...

Я сярдзіта паглядзеў на яго, і мне не спадабаўся яго кірпаты нос, непрыгожымі здаліся адтапыраныя аблавухія вушы, ягоныя рукі, якія

мыліся, мусіць, раз у тыдзень. Нядаўна Мішка так накурыўся, што ля яго нельгаі было стаяць.

— Як вынесці смецце? — спытала ў мяне Камця, і я зарадаваўся, што яна нарэшце загаварыла са мною.

Я хуценька адчыніў сваю сумку, дастаў сшытак, вырваў з яго ліст і падаў Камці. Яна змяла на гэтую паперу пясок і панесла на двор. Здаецца, перад гэтым глянула на мяне і прыемна ўсміхнулася, выходзіла, азірнулася і зноў засмяялася.

— Я ім і сёння дам чосу, папру першымі па цальнягу, хоць і сцежка будзе,— сказаў Мішка, скідаючы з плячэй кажух.— Будуць ісці збоку і новую таптаць.

— Не трэба,— папрасіў я,— яны і так...

— Што — яны?.. Не бойся, жывыя будуць,— сказаў ён.— Вось не пайду налета ў школу, паеду вучыцца на трактарыста, дык вам, жабянятам, на галаву сядуць. А так будуць помніць...

— Будзем таптаць сцежку па калейцы,— сказаў я.

— Што яны табе далі? — скрывіўся Мішка, ён вось-вось ад злосці мог ударыць мяне.

— Нічога яны мне не давалі,— прамовіў я.

— Падсунулі, мусіць, нешта, калі заступаешся,— загневаўся ён, што я сапраўды мог што-небудзь атрымаць смачнае, а з ім не падзяліцца.

— Няўжо табе была вялікая радасць, калі ўчора набіў Камцю? — спытаў я.

— Жывая будзе,— махнуў ён рукою.— Яны прывыклі, каб іх матлашылі. Гэта вы, гэўрыкі, саплякі, а я помню, што я янковец, а яны — казіне... Рашыў задачку? То давай, перапішу. Малы, але што ў цябе за галава гэтыя задачкі рашаць!.. Я б гэтую арыхмецыку зусім выкінуў бы...

...Дамоў мы ішлі моўчкі. Паперадзе, па сцежцы, спяшаючыся, падганяючы адзін аднаго, крочылі крычатоўцы, махалі рукамі, толькі сумкі боўталіся па баках. За імі пляліся мы, Мішка, Віця і я.

Сёння наша настаўніца зноў плакала ад Мішкі, абазвала яго ў злосці дурнем і сказала, што яму, такому «быку», ужо сорамна хадзіць з дзецьмі ў школу і што ён «забраў у яе ўсё здароўе»; яна сёння пойдзе ў сельсавет і будзе скардзіцца старшыні. Мішка нават не спалохаўся настаўніцы, перад намі сказаў, што наб'е Васіля, які ходзіць да яе. Яна выганяла яго з класа, цягнула рукамі, але Мішка ўпёрся і не пайшоў.

Цяпер Мішка быў злосны, і я бачыў, што ён хоча задрацца з крычатоўцамі: то скажа якое брыдкае слова на іх, то пхне ў спіну

апошняга, то чарпане наском у снег так, каб ён ляцеў пярэднім на галовы.

Крычатоўцы нават не азіраліся, як не бачылі і не чулі гэтага, подбегай трусілі да лесу, дзе дарогі нашы разыходзіліся. Першая ішла Камця, адною рукою яна трымала сумку, прыціскала да боку, другою махала і калі прыспешвала, то шырэй ступалі і мы, калі замаруджвала, то ўсе збіваліся, наступалі адзін аднаму на ногі. Тады Мішка піхаў у плечы крычатоўцаў, усяк зневажаў іх, лаяўся.

— Не трэба,— прасіў я,— не чапай іх.

Камця, пачуўшы гэта, падбягала ўперад, за ёю прыспешвалі хлопцы, і бойка зрывалася.

Ля хвайняку мы разышліся. Крычатоўцы падаліся лесам, а мы павярнулі ўправа, ля краёў маладняку патрусілі ў свой край вёскі.

— Казіне, казіне! — крычаў Мішка,— Бэ-э-э!

— Смагаль, смагаль! — нарэшце асмеліліся, азваліся і тыя.

— Бэ-э-э! — дражніў іх Мішка і падскакваў на месцы — страшыў, што пабяжыць за імі.

Тыя аж выцягваліся, так уцякалі.

— Дурань ты! — упікнуў я Мішку.— Вялікі, але дурань.

— Ты на каго гэта, гэўрык, пляцеш? — Ён падышоў да мяне і звузіў вочы.— Ды я цябе адным пальцам... Як камара... Я, калі захачу, вашу школу перакулю — і не будзеце сваім розумам хваліцца...

Я не спалохаўся, не адступіў, глядзеў яму ў твар і бачыў, як дрыжыць яго губа, як ён, дужы, разгубіўся, пачуўшы, што я сказаў.

— Дык хто я? — прасіпеў ён.

— Ты — дурань, ты сам ніводнай задачкі не рошыш...

Гэта ўжо яго раззлавала, ён размахнуўся рукою — і я са сполахам убачыў, як з яго рукава вылецела прывязаная на гумцы гірка і стала набліжацца да майго твару. Я не паспеў ухіліцца — гірка пляснула мне па пераносіцы.

Я нема завыў ад болю, закрыў твар рукою.

— Будзеш ведаць, як агрызацца...— сказаў Мішка, як апраўдваў сябе.

Я са злосці, крыўды нагнуўся, схапіў жменю снегу, не баючыся, што зноў пападзе (колькі ўжо баяцца), кінуў яго ў твар Мішку.

— Ну ты, гэўрык! — Ён адступіў, закрыў твар рукавом.— Не лезь, а то растапчу...— гразіўся, але біцца не збіраўся, адыходзіў.— У мяне не паскачаш... Вы павінны мяне баяцца... Як агню... А будзеш абзываць — будзеш палучаць. Вытры нос... Калі дома пажалішся, то яшчэ... Заступнік зялёны!..

— Я... Я...— мне хацелася сказаць тое, што думаў, але слёзы душылі, нос балеў, і я не мог стрымаць плачу.

Так, плачучы, з крыўдаю і злосцю, мучачыся, што нічога не магу зрабіць Мішку, прыйшоў дахаты.

## 3

Ужо летам, калі мы не хадзілі ў школу, калі ў садах акругляліся, трацілі горасць і пачыналі цукравець яблыкі, бацька паслаў мяне ў Крычаты. Там я быў часта, хадзіў па розных патрэбах, але адзін ішоў туды першы раз. Як нашы матлашылі казінцаў у сваёй вёсцы, так і яны, залавіўшы нас на сваім хутарку, стараліся адпомсціць, не выпусціць цэлымі; калі не наштурхаюць ці не дадуць кухталёў, то хоць прабягуць, пастрашаць ды каменняў услед нашпурляюць...

Бацька ўкаваў калёсы аднаму крычатоўцу, і вось цяпер я ішоў да яго па плату. Тупаў і асцерагаўся, каб не злавілі мяне там аднаго і не адлупцавалі, бо не забыліся, як на днях Мішка ля нашай вёскі пераняў Тосіка, паваліў яго, адабраў торбачку, у якой той нёс з нашага магазіна цукар, і насыпаў у яе пяску...

Калі я мінуў Шабунеў лес, выйшаў на луг і ўбачыў, што ля крычатоўскага моста купаецца многа хлопцаў, я ўзяў ля абочыны і засунуў у кішэні пару камянёў. Мяне згледзелі, павылазілі на бераг. Я падрыхтаваўся да бойкі.

— Хадзі, Стасік, пакупаемся,— паклікаў мяне Тосік, але я мала верыў яго дабраце, думаў, што заманьвае.

Я адмовіўся купацца, стараўся хутчэй падысці да моста і перабегчы яго. Азіраючыся, перайшоў і бачыў, што гнацца за мною не збіраюцца. Тады я, адышоўшыся, прысеў, каб мяне ніхто не бачыў, і выкінуў з кішэні камяні.

Калі я забраў плату і вяртаўся дамоў, мяне сустрэла Камця. Здаецца, яна падрасла за лета, стала высокая, загарэлая, леташняя яе сукенка была маленькаю.

— Дзе ты быў? — спытала яна.

Я прызнаўся.

— А мне ровар купілі,— пахвалілася яна.

У мяне такіх радасцей не было, таму я прамаўчаў.

— У Прудах школу адкрылі,— сказала яна.— І мы будзем хадзіць не да вас, а да іх, бо туды бліжэй.

Я пачуў гэта і засумаваў, што мы не будзем больш бачыцца, што цяпер ужо могуць крыўдзіць яе прудзяне, і ніхто, можа, за яе не заступіцца.

— Пачакай мяне,— прамовіла яна і пабегла ў сваю хату, хутка вярнулася і несла ў руках лусту батона, намазанага мёдам.

Белы хлеб мы елі толькі па святах, а так мама пячэ на нядзелях сухарыкі.

— На,— сказала Камця і падала лусту.— Бяры, у нас многа булак.

Я ўзяў і са смакам пачаў уплятаць, хоць шкадаваў: ніяк не мог выхітраваць, каб мёд быў на лусце і яго з'ядаць, бо ён цёк па пальцах і капаў на зямлю.

— Хочаш пакатацца на ровары? — спытала Камця.

— Хачу,— сказаў я.

— Прыходзь заўтра, таты і мамы не будзе дома, то мы і пакатаемся. Прыйдзеш?

— Прыйду,— з радасцю прамовіў я.

— Прыходзь, толькі Мішкі не бяры з сабою. Я не дам яму катацца...

— Я яму нічога не скажу,— паабяцаў я.

Толькі што перастаў ліць, як з дзіравага мяха, дождж. Рассунуліся, пасвятлелі на небе шэрыя хмары — павіднела, стала высокае, блакітнае неба. Прыпякло і прыпарыла.

Камця і я сядзелі ля рэчкі, глядзелі, як блішчыць на сцяблах асакі вада, збіраецца ў кроплі і падае долу. Яшчэ нядаўна мы былі ў хаце, сцішана сядзелі і са сполахам слухалі, як лютаваў, ляскаў гром, жудасна паліла неба маланка, як ліло,— здавалася, затопіць усё на свеце. Калі пацішэла, пакацілася навальніца кудысьці за Налібакі, мы выбеглі з хаты і гойсалі па цёплых лужынах, пырскаліся, абліліся з ног да галавы вадою, а пасля прыбеглі сюды, на пясчаны бераг крычатоўскай ракі. Тут мы часта ўжо гулялі, ляпілі з мокрага пяску домікі — «школу, магазін, хаты».

Я глядзеў на Камцю і бачыў: за лета яна добра паправілася. Як хадзіла ў школу, была бледная, тоненькая, як сцяблінка, цяпер пачырванела, налілася сілаю, здароўем. Вельмі пекная стала, глядзіш і нельга наглядзецца. Ды яшчэ гэтыя вочы — сінія-сінія, глянеш — і сэрца замірае. І голас яе мне падабаецца — мяккі такі, тоненькі, гаворыць — ручаёк па каменьчыках бурлікае...

— Стаська, ты такі няўмека,— кажа Камця.— Растаптаў хатку цёці Зосі і страху са школы сарваў. Ці ты вучыцца не хочаш?

— Хачу,— збянтэжана кажу я.

— А чаму тройкі маеш?

— Таму,— насупіўся я, нічога не сказаў болей, апусціў галаву долу, пасля разбурыў нагамі «школу».

— А я буду вучыцца на настаўніцу,— усміхнулася Камця.

Я маўчаў.

Яна падсела да мяне:

— Стаська, як вырасцем, мы з табою будзем жаніцца?

— Не ведаю,— прамовіў я.— У вас сваіх хлопцаў многа, яны цябе возьмуць.

— Я за іх не хачу ісці замуж,— сказала Камця.

— Чаму? — абрадавана спытаў я.

— Яны б'юцца, за валасы цягаюць,— прызналася яна,— я не хачу з імі дружыць. А ты не б'ешся, за нас, крычатоўцаў, заступаешся. Ці і ты будзеш насміхацца?

— Не,— запэўніў я.

— Але ты мяне ўсё роўна не возьмеш,— сказала з жалем Камця.

— Чаму? — я ледзь не пакрыўдзіўся.

— З вашай вёскі нашых не бяруць,— прамовіла яна.— Вы — местачкоўцы... А мы... Мы — казіне...

— Я вазьму цябе.

— Праўда? — узрадавалася і яна.— І бацькі баяцца не будзеш?

— Не,— зноў запэўніў я і захваляваўся: бацькі я пабойваўся.Ён не крычаў так многа, не бедаваў, як маці («О божа! Нашто мне гэта гора на галаву!»), калі я рабіў блага, а гаварыў разок і, калі было не па яго, браўся за папружку... Вось і думаў я, ці дазволіць ён мне ажаніцца з крычатоўкаю Камцяю, бо сапраўды дасюль з нашай вёскі ніхто з імі не парадніўся...— Калі тата не дазволіць, то я маму папрашу. Яна добрая...

— Мы будзем жыць у нас,— сказала Камця.— Я прывыкла тут.

— І я прывык да сваіх Янковіч,— прамовіў я, і мне стала шкода роднай вёскі.

— А як пажэнімся, будзем разам гуляць? Ці ты захочаш камандаваць мною?

— Не,— сказаў я і адчуў на сваім твары цень.

Падняў галаву: перад намі стаяў Гаптар — Камцін бацька — малы, няголены, злосны. Ступіў і патаптаў сваімі ботамі нашыя «хаткі».

— Дык вось чаго сюды ходзіць пан местачковец...— сказаў ён, і я ўбачыў, што ён п'яны, стаіць і хістаецца, не можа ўтрымацца на нагах. Рэдкія валасы яго апалі на лоб, рукі ён трымаў у кішэнях штаноў і растапырваў іх у бакі. Час ад часу ён ікаў, плюскаў вачамі.

Я ўскочыў.

— Вы... Каб нагі тваёй тут не было,— ён зноў ікнуў, аж трасянуўся.— Мне вы... Пасміхаецеся век... Вон,— ступіў, пагразіў рукою,— вон, не магу бачыць.

Я сарваўся з месца і куляю памчаўся дадому.

— Дзе ты гэта бываеш? — накінулася на мяне маці, калі ўбачыла задыханага ў двары.

Я не сказаў, дзе быў.

— Гойсае недзе, а тут хоць разарвіся: дзіця плача, з рук не злазіць, нешта трэба зрабіць па гаспадарцы, свінні развярнулі загарадку і вылезлі... Ды ў школе людзей збіраюць, відаць, будуць у калгас запісвацца, то трэба схадзіць.

— Мама,— калі яна крыху паспакайнела, спытаў я,— чаму крычатоўцы горшыя за нас?

— Чаго гэта яны горшыя? — здзівілася яна.— Людзі як людзі.

— А чаму з іх смяюцца? — спытаў я.

— Смяецца той, хто розуму не мае,— сказала маці.— Гэта ўсё з некаляшняга... Тады, за панамі, яны бяднейшыя былі, меней зямлі мелі. Цяпер усе роўныя... І яны, і мы скора будзем калгаснікамі.

— А ты не будзеш смяяцца з іх? — хвалюючыся, запытаў я.

— Я ніколі, сынок, не смяялася, бо і сама такая была, ні капелькі не багацейшая,— сказала маці, і я зарадаваўся: значыць, і з Камці не будзе пакепліваць, дазволіць, каб мы пажаніліся.

Мне вельмі хацелася схадзіць у Крычаты, сустрэцца з Камцяю і расказаць ёй пра гэта. Але я баяўся яе бацькі, які нечага неўзлюбіў мяне, і не пайшоў. Сумаваў, кожнага дня хацеў убачыць Камцю.

**4**

Хутка, калі трэ было на днях ісці ў школу, я пачуў ад людзей, што Гаптар прадаў хату, скаціну, сабраўся з'язджаць з Крычатоў.

— Можа, і добра робіць чалавек,— гаварыла маці бацьку,— паедзе ў горад і жыць, як усе, будзе... А тут нялёгка яму: Мішуковы яшчэ за палякамі не аддалі замуж Манькі — пасумаваў нямала... Хоць яна плача цяпер, што не пайшла за Гаптара, можа, шчаслівейшая была б, а то яе Стэфусь — багацей — у паліцыі быў, светёй і дзецям завязаў. Ды і надакучыла, відаць: крычатовец ды крычатовец... Маладыя не такія ўжо, не разбіраюцца, хто адкуль. А старыя... Такі ўжо гонар!.. Хоць цяпер каторыя крычатоўцы, каго не спалілі ў вайну, лепей за нашых жывуць.

Мне вельмі хацелася ўбачыць Камцю, я перасіліў свой страх і пабег у Крычаты.

Гаптар, паголены, у вычышчаных старых хромавых ботах, у белай кашулі, зашпіленай на верхні гузік, выносіў з хаты клункі і ляжыў на воз. Там ужо ляжалі мяхі з мукою, цабэркі, стаяў куфар, абвязаны вяроўкаю. На мяне Гаптар нават не глянуў.

Заплаканая, папраўляючы на галаве хустку, выйшла з хаты невысокая, гарбаценькая гаспадыня, абаперлася на частакол і загаласіла.

— Сціхні! Горш не будзе. Такое ўжо дабро пакідаем і славу...— абураўся Гаптар.

— Што не было, а свой куточак,— плакала жанчына.

— А ты дзе там? — крыкнуў гаспадар.— Ідзі, са сваім кавалерам развітайся, бо паедзем ужо. Не развітацца няможна: местачковы кавалер!

— Зусім здурэў,— папракнула яго жонка.

— Хіба няпраўду гавару? — незалюбіў Гаптар, са злосцю глянуў на жонку.— Даўся мне іхні гонар!

— Калі што было...

З сенцаў выйшла Камця. Падышла да мяне і нічога не магла сказаць. Сёння яна зноў была бледная, худзенькая, зусім нямоглая. Стаяла і плакала.

З-за сенцаў выбег рудаваты сабачка, жаласна скуголіў і цёрся гаспадыні аб ногі. Тая дастала з кішэні акраец хлеба і падала яму. Шчанюк нават не нагнуўся да куска, глядзеў на кабету і скуголіў.

— І шчаня ростань чуе...— зноў заплакала жанчына.

— Ну, скарэй...— ужо не са злосцю, а спакойна сказаў Гаптар, адвярнуўся, нацягнуў брылёўку на вочы.

— На, на памяць,— прамовіла Камця і падала мне невялікі, загорнуты ў паперу ад шпалераў, пакуначак.

Я ўзяў падарунак і не мог сказаць ні слова. Маўчала і Камця, толькі з яе вока выкацілася і паплыла па шчацэ празрыстая, як расінка, слязіна. Нешта ў душы маёй перавярнулася, заныла, і я не вытрымаў, заплакаў. Яшчэ мацней загаласіла і Камця.

— Ну, пайшлі, дачка, на воз,— падышоў і ціха сказаў Гаптар.— Усё роўна ехаць трэба...

— Камця і вы, цёця, я ніколі нічога благога не скажу на Крычаты,— прамовіў я.

— Дзякуй, сынок,— пацалавала мяне ў лоб гаспадыня.— Будзь шчаслівы і не забывай нас. І будзь заўсёды такі разумны... Дасць бог, яшчэ ўбачымся...— яна ўзяла Камцю за руку і павяла да воза.

Нечакана падышоў да мяне Гаптар, падаў моўчкі руку, моцна паціснуў маю, не прамовіў і слова,зноў хутка-хутка пайшоў да калёс. Я зусім разгубіўся, стаяў і глядзеў, як яны паселі — гаспадар уперадзе, спіною да мяне, а жанчыны прымасціліся ззаду, тварам сюды.

Гаспадар цмокнуў, махнуў лейцамі, і конь крануўся. Заляскалі на возе цабэркі, зацерлася аб атосу пярэдняе кола, правае задняе кола было зусім крывое, ківалася ў бакі і шмаравала па лястцы.

Жанчыны сталі махаць рукамі — сваёй хаце і, відаць, мне. Следам за імі бег і шчанюк.

Я, разгублены і заплаканы, стаяў на чужым пустым двары і адчуваў, як штосьці вялікае, дарагое, моцнае выплывае з маёй душы, імкнецца туды, за лес, у якім схаваўся нагружаны клункамі воз...

## КАСЦЮМ

— Ідзі, мурза, вымыйся,— зласнавата сказала мне маці,— такога бруднага з сабою не вазьму, не хачу, каб чужыя людзі смяяліся ды пальцамі паказвалі.

Я даўно ведаў, куды збіраецца ісці сёння мама, вельмі хацеў пайсці з ёю і цяпер моўчкі выслухаў, як яна папракала мяне. Я знаў, што другім разам дасталося б ад маці матуза па спіне ці яна прыстрашыла б: калі я такі непаслухмяны, неахайны, то пакараюць — абстрыгуць маю чупрыну, будзе галава голая, як бубен, і ніколі мне новага, людскага чаго не купяць. Словам, з гэтай часіны возьмуцца за мяне, бо далі неразумную патолю, і я стаў вялікім раздуронцам...

Але маці цяпер не напомніла гэтага, не пастрашыла, і я ўзрадаваўся, пабег да студні, выцягнуў вядро вады. Выліў яе ў доўгае і глыбокае карыта, адарваў галінку палыну і адагнаў пчол, якія пачулі вільгаць і прагнулі асвяжыцца, лезлі да вады, тады намыліў «запушчаныя» рукі, «чорныя, з куранятамі» ногі і пачаў церці іх пяском і сухадзяроўкаю, заплюшчваючы ад болю вочы.

Калі рукі мае і ногі не так пачысцелі, як пачырванелі, зайшліся ад сцюдзёнай вады, я пакінуў драць іх і, ступаючы на пятках, вярнуўся ў хату.

— Людское дзіця адзенуць, і яно дзень чысценькае ходзіць, а ты ды Ганя... Не цэніце вы маёй працы, не шкадуеце рук маіх,— гневалася маці і здзірала праз галаву маю брудную кашулю,— толькі ведаю — дзянёчак цэлы ля вас таптацца: карміць, абмываць ды пераадзяваць.

Я стаяў, моўчкі нацягваў свежыя штонікі, апусціўшы галаву, слухаў маці: праўда была яе. Перад полуднем я ўжо мяняў майку, скідаў брудную і надзяваў чысценькую, але нядаўна, як прагнаў карову на пашу, сустрэўся са сваім лепшым сябруком, суседам Антонікам, капаў з ім «акопы», добра прапацеў, пасля мы не паладзілі і абсыпалі адзін аднаго пяском...

Нехаця я надзеў штонікі: не любіў іх. Былі яны выцвелый, кароценькія, на шлейках, зусім «дзяціныя», а я даўно ўжо хацеў доўгія, па костачкі, з кішэнямі, «мужчынскія», каб у іх зацягваўся рэмень. Антонік, як і я, скончыў гэтым летам чатыры класы, але мае цёмна-сінія «дарослыя» порткі, хваліцца, пасміхаецца, што ў мяне такіх няма.

Я многа прасіў маці купіць і мне такія штонікі, бо ўжо, гаварыў ёй, не малы, саромлюся насіць «майткі» на шлейках ці шаравары на гумцы. Маці абяцала «расстарацца», але пасля забывалася, распорвала бацькавы зношаныя фрэнчы і штаны, выразала з іх цэлыя, не працёртыя кускі і сшывала з іх мне «портачкі», якія былі зноў без кішэняў. І я не быў рады ім, чакаў той любай часіны, калі буду мець «мужчынскае» новае адзенне...

І вось сёння гэты дзень настаў: маці збіраецца ісці ў суседняе мястэчка купляць мне касцюм. Гэта будзе мой першы «куплены» касцюм: сёлета я скончыў «школку» ў сваёй вёсцы і пайду «ў людзі» — у пяты клас суседняй дзесяцігодкі, і бацька з маці рашылі, што не выправяць мяне ў чужую вёску неахайным, горшым за людскіх дзяцей, «выкамбінуюць» мне яшчэ новыя чаравікі і паліто.

Дзед Караль часта гаворыць, што і цяпер я «разумны»: умею чытаць, пісаць, складаць вяскоўцам заявы, лісты, чытаю пра навіны ў газетах, і ён кажа, што мне ўжо і гэтай навукі хопіць, да нядаўняга ў вёсцы ніхто далей чацвёртага класа не вучыўся. Як бацька і маці, я дзеда не слухаю, хачу яшчэ вучыцца, мару стаць лётчыкам — высока і са свістам лётаць, збіваць варожыя самалёты, пускаць белы дым па небе і калі-небудзь пакатаць маму і сястрычку, яны ніколі не ляталі на самалёце, толькі што бачылі яго ў небе...

Я вельмі хацеў схадзіць у магазін і сам выбраць касцюм, які, як думаў, будзе харошы, самы лепшы на свеце, паможа мне стаць дарослым, цікавым, у ім я буду лепш вучыцца, даб'юся, чаго захачу, ды і людзям можна паказаць: ужо і мы можам купляць новае і пекнае адзенне, быць не горшымі за іншых... І я не мог дачакацца, калі настане такі дзень.

Маці пабурчала на мяне ды сціхла, падышла да люстэрка, надзела светленькую блузку, завязала ружовую хустку, паглядзелася і перамяніла адзенне — дастала з шуфляды другую, сіненькую, блузачку, з маленькімі, як мак, кропелькамі. Пасля ўзяла з-пад шафы туфлі, якія носіць толькі па нядзелях ці вялікіх святах, абмахнула іх ад пылу і абулася. Як ні гавары, трэба прыхарашыцца: ідзём мы ў Налібакі — там сельсавет, пошта, магазіны, жыве многа настаўнікаў...

Гляджу я на маму і любуюся: пекная яна. Невысокая, чорненькая валасамі і бровамі, кругленькая ў твары, вясёлая, паглядаю я на яе і радуюся, што ні ў кога няма такой красуні мамы, ёсць адна такая на свеце, і тая толькі ў мяне... Падумаў я так і адчуў, што няма ў мяне ні злосці, ні крыўды, што ні ў чым яна не вінаватая, не прыдзіраецца да мяне, нядобрым стаў я сам і часамі гэтага не бачу.

— Ці не на дождж збіраецца? — калі мы выйшлі на двор, занепакоілася мама, зажмурылася і паглядзела на вадкае, нельга было глянуць, расплаўленае сонца, якое абложвалі маленькія чорненькія хмаркі.

— Не будзе дажджу,— заспакойваю я, стараюся вывесці маці з двара.— Пайшлі хутчэй!

— Можа, і раскалышацца, не будзе марасі,— сказала яна і падалася на брукаванку, азірнулася, глянула на новую нашу хату, якую паставілі тут, у вёсцы, толькі пазалетась — дасюль жылі на хутары ў цеснай дзедавай перасыпанцы. Сёлета перавезлі ў вёску і бацькаву кузню, калгас аплаціў нам за інструменты, і кузня стала калгаснай. Але бацька застаўся ў ёй кавалём, толькі цяпер ужо амаль не робіць нажоў ды сякер, а куе калёсы, правіць жняяркі і машыны...

Я пачыльгікаў за маці і весела засвістаў: хацеў, каб цяпер мяне ўбачыў Антонік — не часта і ён бывае ў мястэчку, хоць трапіць туды хоча, бо ўсе малыя дзеці стараюцца пабываць у чужой вёсцы.

Антонік, белавалосы, высокі і тонкі, як дубец, гэтаксама ўжо вымыты і пераадзеты, стаяў у сваім гародзе, нагінаў вялікую жоўтую галаву сланечніка і выбіраў з яе зярняты. Згледзеў нас, памкнуўся спытаць, куды іду, але ўспомніў, што мы цяпер «злуём», і не затрымаў мяне, адвязаў хустку з шапкі другога сланечніка (абвязвалі, каб не вылушчвалі зярнят вераб'і), адвярнуўся, як не ўбачыў, пачаў скручваць недаспелую шапку. І я не зачапіў яго, адвярнуўся, узняў галаву і моўчкі прайшоў ля іхняга частаколу. Калі, выходзячы з вёскі, я не сцярпеў і азірнуўся, то ўбачыў: Антонік выйшаў са свайго двара на дарогу і глядзеў нам услед. Згледзеў я яго — і пашкадаваў, што не загаварыў з ім: мы ідзём «далека», а ён будзе дома, не ўбачыць таго, што я ўбачу хутка. Памахаў яму рукою, і Антонік заківаў, аж падскакаў, каб я яго лепей бачыў.

Маці ішла, маўчала, і я не ведаў, пра што яна думала. Я ўглядаўся на дарогу, сабе пад ногі. Бачыў шматкі пабялелага сена, бітае шкло, згубленую некім сасновую галіну, цяпер ужо абабітую, высахлую, раздушаны яблык. Але гэта мяне не цікавіла, як не цікавіць і адзінокі падголены, цудам не зрэзаны жняяркамі высокі асот на аўсянішчы. Я нічога не заўважаю ў гэтым новага, бачу такое штодня, я глядзеў, ці

не трапіцца на дарозе якая жалезіна, бо Антонік знайшоў тут учора гаечны ключ, а днямі раней — вялікую адвёртку з касцяною ручкаю: сюдою праходзіць за дзень многа машын, і , бывае, што-небудзь вытрасецца з іх. Вось і цяпер паблізу камбайн жне авёс, разварочваецца ля дарогі. Каб я пахадзіў там, то нешта знайшоў бы.

Я даваў Антоніку шапку салодкіх яблыкаў, але ён не прадаў мне адвёрткі, хваліўся, што аддасць суседу-шаферу, і той пакатае за гэта, нават дазволіць «пакіраваць».

Антонік любіць хваліцца, я... Я гэтаксама хачу, каб у мяне ўсё добра выходзіла, але мне неяк меней шанцуе, хоць сёння і я дачакаўся радасці, магу пахваліцца, як надзену неўзабаве новы касцюм.

Нечакана ў мяне ёкнула сэрца: убачыў у пыле абцугі. Я з радасцю падхапіў іх і — тут жа затрывожыўся: былі яны ў салідоле, і я адчуў, што вымазаў рукі.

Згледзела гэта маці, загневалася і не магла нічога сказаць ад нечаканасці, хацела раззлавацца, але не знаходзіла сярдзітых слоў.

— Выкінь! — спрабавала крычаць, але злосці ў яе так і не было.— Ну, чаму ты такі?.. Чысценькі, у людзі ідзём, а ты ўсялякае жалеззе бруднае паднімаеш. Будзь ты ўжо разумнейшы крыху.

Мне не хочацца выпускаць з рук такую знаходку, але я не мог выцерпець такіх слоў маці, шкадаваў і любіў яе — шпурнуў абцугі далей ад дарогі, у куст алешніку.

— Не відаць, што і мыўся,— сказала маці, гледзячы, як я пакручваў брудныя рукі, стараўся іх недзе схаваць, пасля падабраў шматок саломы, спрабаваў выцерці ёю мазуту, але рукі мае не пачысцелі: салідол расціраўся і ўядаўся ў цела.

Добры настрой мой пагоршыўся. Я захваляваўся, растрывожыўся, і мне стала крыўдна на самога сябе. Чаму я такі бесталковы? Калі ўжо сапраўды прыйдзе да мяне гэты «розум»?

Злаваўся я на сябе і адчуваў, як моцна паліць сонца, прыпарвае. Лес нагрэўся, прымлеў — цягне душным, густым пахам ад шыгалля, пяску і мурашніку. Смалою пахнуць зялёныя ігліцы, карэнні і залысіны на камлях сосен. Хтосьці зачасаў сякераю хвою — кропелькамі-слёзамі выступіла жоўтая сырыца-смала, прыцвярдзела, пабялела і пахне.

Даўнавата не быў я ў лесе, але адчуваю, што пачынае ўжо красавацъ верас: прыемна пахне салодкім цёпленькім мядком. Здаецца, прыгледзься добра і ўбачыш, як садзіцца на верасоўку пчолка, гойдаецца, нахінаецца ледзь не да самай зямлі і суне галоўку ў кветачку — п'е соладзь...

Ад гарачыні мітусяцца, медна звіняць разамлелыя авадні; даўно стаіць суш, пыліцца зямля — не зялёнымі, а шэрымі сталі кусты, вецер не можа стрэсці з іх пыл, як не здолее іх абмыць раса, вызеленіць і прасвяжыць. Чакае ўсё дажджу.

І тут я ўспомніў, што мы ідзём купляць касцюм, які будзе прыгожы, з доўгімі штонікамі, у якія можна будзе зацягваць пояс, у кішэні якіх пакладу палавіну свайго дабра — гаечкі, шпунцікі, складанчык. Да ножыка я зашмаргну матузок, які прывяжу і да штаноў — каб не згубіць.

Падумаў так — і адразу павесялеў, шпарчэй затупаў, паразважаў, што рукі памыю ў рачулцы, якая цячэ перад самым мястэчкам, і будуць яны чыстыя. Чаго так па іх бедаваць? Самае важнае, што мы ідзём у магазін, будзем купляць «мужчынскі» касцюм, якога я ніколі не меў, але які хутка ў мяне будзе...

Пясок цёплы, пульхны, і я мякка тупаю, маці стараецца ісці сцежкаю, дзе цвярдзей: там не паднімаецца пыл, і ёй лягчэй шанаваць, каб туфлі блішчалі, а не былі запыленыя.

— Не забалелі ногі? — усміхаецца маці.

— Не,— адказваю я, хоць і паколвае ад быстрае хады ў лытках.

— Напомні, каб кніжак паглядзелі, а то магу забыцца,— просіць маці.— Хоць усё роўна, купляй ці не купляй, толк з цябе малы, вучыцца не хочаш. Троек вунь колькі.

— Не,— адмаўляюся я.

— А кім жа ты хочаш стаць?

— Лётчыкам.

— Ого! Хоць бы за якога шафера вывучыўся б! А Антонік твой кім думае быць?

— Камандзірам-пагранічнікам.

— Ого, начальнікамі хочаце стаць,— кажа маці,— хоць цяпер мала думаеце, што трэба меней мячык ганяць, а болей кніжак чытаць.

— А настаўніца нам гаварыла: каб быць дужым, трэба болей бегаць, хадзіць,— апраўдваўся я.

— Трэба,— згадзілася маці,— але розуму вялікага ад бегатні не набярэшся. Трэба чытаць, калі хочаш лётчыкам стаць. Я хацела настаўніцаю быць, дужа многа чытала, што толькі пападала ў рукі, але бацькі далей чацвёртага не пусцілі вучыцца: сям'я, сказалі, вялікая, няма ад каго вучыць цябе, налаўчыся во на швачку, дык скарэй толк убачым... Паплакала я ад крыўды і пачала хадзіць да адной тутэйшай швачкі, глядзець, як яна шые. За месяцы два вывучылася і з таго часу абшываю вёску... У навуку вы ўжо ідзіце, мы з бацькам дарогі вам заступаць не будзем і знойдзем, з чаго вучыць.

Маці азіраецца, і мы, прыслухаўшыся, чуем, як непадалёку грукоча па карэннях, ляскае бартамі, падтрасаючыся на выбоінах, машына. Прыпыняемся і чакаем яе, бо вельмі хочацца пад'ехаць, хутчэй трапіць у магазін.

Веска наша маленькая, у адну вулачку, у баку ад вялікіх дарог, і аўтобус да нас не заглядвае. Вось і мусім хадзіць у школу ці ў магазін за колькі вёрст у суседняе мястэчка.

Шафёр трапіўся добры, прыпыніў машыну і дазволіў нам пад'ехаць. Мы залезлі ў кузаў, пасталі. Калі паехалі, нас трэсла, кідала, біла бочкаю, якая шалёна качалася, але мы не падпускалі яе да сябе нагамі, радаваліся, што едзем.

Мігам праскочылі лес, рачулку, у якой я збіраўся памыць рукі, і ўехалі ў Налібакі. Мястэчка гэтае вялікае — шырокі пасярэдзіне пляц, тут стаіць высокі помнік, адсюль разыходзіцца многа вуліц, па якіх багата дамоў, садоў, магазінаў. Кожная вуліца мае сваю назву, а дамы пазначаны нумарамі.

Я люблю бываць у гэтым мястэчку, але заўсёды, як і цяпер, калі мы злезлі з машыны і пайшлі, губляюся: здаецца мне яно чужое. Я здзіўляюся, як тут дзеці могуць добра гуляць, у нашай вёсачцы болей волі...

Мы абышлі помнік і пайшлі ўніз, на Пяскі, да сельмага. Маці вітаецца з каторымі жанчынамі, загаворвае, і я вітаюся, усміхаюся, хоць нікога тут не ведаю.

У сельмагу мала людзей, цяпер жнівень — хто сянуе, збірае ягады ці першыя грыбы — часу гуляць няма. Я гляджу на полкі, набітыя адзеннем, і ў мяне разбягаюцца вочы: колькі сукенак, плашчоў, касцюмаў! Тут цяжка і выбраць, і я баюся, што мне трапіць не самае лепшае...

Я пачаў сам углядацца, каб знайсці прыгожы пінжачок. Прайшоўся колькі разоў ля прылаўка і прыпыніўся, дзе вісеў чорненькі касцюм, паказаў яго маці.

— Сама бачыла,— ціха сказала яна,— дарагі вельмі...— прамовіла і паглядзела на шэры, у жоўтыя палосачкі.

Той мне зусім не спадабаўся, здаўся выгаралым, выцвілым, самым горшым на свеце.

Калі маці больш не стала глядзець на яго, я зарадаваўся, што і ёй не спадабаўся гэты касцюм. Яна абышла колькі разоў і нічога не выбрала. Я насцярожыўся: яшчэ скажа, што нічога добрага няма, касцюмы благія, а грошы вялікія, не будзем купляць, перашыем з бацькавага рудога, яшчэ паносіш сёлета. А мне так ужо надакучыла насіць гэтыя цесныя, паношаныя, перашытыя касцюмы...

— Што вы хацелі? — спытала ў мамы магазіншчыца.
— Ды касцюмчык майму кавалеру трэба,— збянтэжылася мама.
— За колькі рублёў?
— Таннейшы які...
— Таннейшы ды пякнейшы,— кажа і ўсміхаецца магазіншчыца, перакладае на прылаўку кіпы адзення і дастае спадыспаду густа-сіні пінжачок.
Маці ўзяла яго, але сказаць што не спяшаецца, аглядае рукавы, падкладку, гузікі.
— Памерай,— кажа потым і надзяе на мяне пінжак, круціць мяне ва ўсе бакі і аглядае.— Здаецца, добра, сіненькі, надта мазацца не будзе, не тое што светлы які. Плечыкі во не паднятыя.
Магазіншчыца ўсміхаецца і падае «мужчынскія» штонікі, я хачу сам узяць іх, але мяне перапыняе маці:
— Не бяры сваімі рукамі.
— Як на яго,— кажа магазіншчыца,— лепшага не падбераце.
— Вымажа за дзень, падзярэ за тыдзень,— цяпер усміхаецца і маці.
— Ды яны, дзеці, такія. У мяне чацвёра, дык не набрацца ні касцюмаў, ні абутку,— згаджаецца магазіншчыца.
Я слухаю іх і не веру, што магу не толькі падраць, але нават выпацкаць такі чысценькі, з прыемным пахам касцюм. Я не прылягу ў ім, прыйду са школы, зніму яго, вычышчу і павешу ў шафу, дома буду бегаць у старым. Я сёлета пастараюся добра вучыцца, лепш, як летась, каб стаць лётчыкам...
Маці дае магазіншчыцы грошы, знімае з мяне пінжак і азіраецца: у магазін заходзіць высокі вусаты мужчына.
— Ой, якія краслатыя штаны табе, хлопец, купілі,— сур'ёзна кажа ён.— Я такіх краслатых не насіў бы.
Я гляджу на яго, разгубліваюся, адчуваю, што вочы мае туманеюць, бо ў іх збіраюцца слёзы.
— Не слухай яго, хлопчык, дзядзька смяецца,— суцяшае мяне магазіншчыца, бярэ пінжак, штаны, абгортвае іх папераю, звязвае вяровачкаю — Харошанькі касцюмчык... Насі на здароўе і вучыся добра.
Я забываюся ад шчасця сказаць якое добрае слова, толькі калі маці штурхнула ў бок, апомніўся, прамовіў: «Дзінькую». . -
Маці папрасіла магазіншчыцу паказаць блакітную хустку, узяла яе, разгледзела, відаць, хацела купіць, бо доўга не аддавала, але нехаця палажыла на прылавак, апраўдалася:
— Тоненькая вельмі...

Мы развіталіся з магазіншчыцай і вусатым дзядзькам-жартуном і выйшлі на двор. Парыла, было душна і ціха; ніводзін лісточак на бярозах не кратаўся, маўчалі, млосна блішчалі драты, вакол стаяла прыглушаная разамлелая ціш. Я прыклаў руку да грудзей і чуў, як радасна тохкае сэрца.

— Не паспеем мы, Стась, да навальніцы зайсці дадому,— занепакоілася маці,— а пра кніжкі і забыўся, лётчык... Пабеглі хутчэй.

Мы подбегам падаліся ў кнігарню, з яе — у прадуктовую лаўку: трэба купіць булак, цукру, запалак, цукерак маёй сястрычцы — лічы, не быў у мястэчку, калі вярнуўся без гасцінцаў...

Дождж, уліўны, цёплы, грыбасей, дагнаў нас у лесе, абрынуўся як з вядра. Пасвяжэла, пацягнула ветрыкам, пасля бліснула, асляпіла маланка, а за ёю звонка ляснуў гром. Маці зняла з ног туфлі, і мы сышлі з дарогі, сталі пад густой маладою елкай. Увачавідкі змыўся з лесу шэры пыл, вакол усё азелянілася, сабраліся ў спадзінках мутныя ручайкі, падхапілі і панеслі ігліцы, растрэсенае сена.

— Бацька на рабоце, мы гуляем, а сена мокне,— бядуе маці.— Не зусім добра ўсё выйшла... Пападзе нам сёння. Хіба як папяросамі бацьку ўлагодзім, каб не крычаў. Ну, пакажы...

Я падаю ёй пакунак. Яна развязвае матузок, разгортвае паперу і разглядвае.

— Добры касцюмчык! — радуецца маці.— І колер харошы, і падкладачка мякенькая, і моцненькі. Я таго не мела ў твае гады... Шануй толькі.

— Ага,— згаджаюся я.

— Мы адзяём, кормім, а ты вучыся... Цяпер вучыцца можна: хочаш на настаўніка падавайся, хочаш на лётчыка старайся. Ты шчаслівы, што нарадзіцца ведаў калі...— кажа маці, задумваецца і як бы сумуе аб нечым.— Ну, стала далека грымець, то падаліся, сынок. Не з цукру, не растанем.

Мы выйшлі з-пад елкі, пабеглі па сцежцы, цёплых мутных лужынах, і я чуў, як дробна, гулка шалясцяць па маім пакунку празрыстыя чыстыя кроплі дажджу.

1973

## Маня

1

Нарэшце перастаў ліць, а пасля імжэць дождж. Неба пачало святлець, пакрысе выблакітніваццa, а невысокія чорна-сінія хмары пасунуліся за Налібацкі лес, і там цяпер злосна крыжавала маланка, бухкаў гром ды абвісала шэрая дажджавая сцяна. Тут жа, у Янковічах, ужо выбліснула сонца, зазіхацела ў кроплях расы на траве і на лісці, у запененых раўчуках і сцішэлых лужынах, прыпарыла — і мокрае наваколле задымілася.

Маня перачакала вялікі лівень і грымоты на лузе ў капе сена разам з вясковымі кабетамі. Як прыбегла дадому, адразу паглядзела, дзе сын. Баялася, каб не напалохаўся: гэтак было сцямнела, а пасля паліла і смаляла. Але Пецькі дома не знайшла: ён, відаць у навальніцу быў у суседзяў, бо цяпер бегаў з іхнім меншым хлопцам на вуліцы па лужынах.

У хаце з пазачынянымі вокнамі і дзвярмі стаяў густы дух, што сабраўся ад напаленай раніцай печы, ад спякоты на дварэ. Ведаючы, што сёння на луг яна ўжо не пойдзе, будзе ля свайго дома, падышла да акна, адкруціла ад цвічка дроцік (кручок вырваўся з падгнілай рамы), піхнула, расчыняючы дзве палавінкі.

Яна затрымала позірк на вуліцы: па ёй ішлі незнаёмыя мужчыны. Двое з іх былі маладыя — высокія, вузкаплечыя, доўгавалосыя і абутыя ў лёгкія сандалі, за плячамі ў іх віселі поўныя сумкі, трэці — пажылы, меншы ростам, але статны ў плячах, у саламяным капелюшы і ў ботах — нёс невялікі чамаданчык. Маладыя не дайшлі да яе хаты, завярнулі ў Янукоў двор, а старэйшы, здаецца, ішоў сюды. Маня ведала: гэтыя людзі — электрыкі і цяпер заходзяць да янкоўцаў і просяцца стаць на кватэру.

Электрыкі прыехалі ў вёску на тым тыдні. Лепш сказаць, спярша паказаліся не яны: спачатку рабочыя прывезлі на машынах, згрузілі і зламжылі на выгане доўгія чорныя, прасмаленыя слупы. Потым адключылі святло, абарвалі дрот на старой электралініі, зрэзалі старыя слупы і пачалі выкопваць ямкі, ставілі ў іх цэментаваныя шалі, пасынкі, а да іх прывязвалі новыя высокія слупы.

Тады ўжо заявіліся электрыкі. Яны прыехалі на грузавіку, што вазіў вялікую шпульку тоўстага белага, аж сіняга, дроту, лазілі на слупы, свідравалі ў іх дзюркі і ўкручвалі жалезныя крукі са шклянымі ізалятарамі, пасля нацягвалі і прывязвалі да іх дрот. Жылі першы дзень у тутэйшай школе, самі сабе варылі есці. Але сёння, як гаварылі кабеты на сенакосе, будуць прасіцца ў вяскоўцаў стаць на кватэры.

Маня, як ад агню, адскочыла ад акна: мужчына напраўду ішоў у яе двор. Яна пачала хуценька збіраць і вешаць раскіданае на пасцелі адзенне, выбегла на кухню і паставіла на прыпек чыгуны з зеллем — толькі што збіралася карміць свіней, — зацягнула фіранку. Пачула, як незнаёмец скінуў на ганак лазы і зайшоў у сенцы. Убачыла, што ляжыць на стале нарэзаны хлеб, стаіць міска з кіслым малаком, у малако была накрышана зялёная цыбуля — збіраў сабе есці сын, падсілкаваўся і не прыбраў за сабою. Яна цяпер не паспела нават захінуць гэта газетаю, як незнаемы зайшоў у хату.

— Здарова, гаспадыня! — бойка прывітаўся ён, і яна ўбачыла, што не такі госць пажылы ўжо: проста ходзіць, апусціўшы галаву і згорбіўшыся, няголены, брудны, а так яму недзе гадоў, як і ёй, — за трыццаць. Каб быў светлавалосы, болей дробны на твары, то маладзей выглядаў бы, а то мае буйны нос, вялікі лоб, чорныя валасы, ад таго і старэйшым здаецца.

— Вазьмі, гаспадынька, на кватэру, — калі яна адказала на прывітанне, сказаў ён. — Пажыву з тыдзень, не болей.

— Ды цесна ў нас... — Ёй і адмовіць было цяжка, і запрашаць не хацелася.

— Пакояў мне тваіх не трэба... — ён гаварыў басавітым голасам, раз-пораз акідваючы яе ўсю позіркам, не саромеўся. — Спаць магу на падлозе або ў гумне на сене, калі маеш. Зварыш сабе раніцай ці вечарам — і мне міску якога булёну дасі. Мне абы гарачае. Заплачу, колькі скажаш.

— Мне не шкода, — засаромелася яна. — Жывіце...

— Ну, то дзякую, — узрадаваўся ён. — Сходзім зараз з хлопцамі на рэчку, памыемся, бо чорныя, што чэрці. Тады прыйду, шукаць ужо жытла нікуды не пайду. Заходзіў тут да адных — нават слухаць не захацелі.

— Я і праўду булёну зараз пастаўлю, засмажу цыбуляю, — сказала яна, збянтэжыўшыся яго позірку.

— Ды глядзіце самі, — ён назваў яе на «вы», і яна падумала: агледзеўся, падумаў, што яна старэйшая.

«Няўжо я так нямолада выглядаю?» — падумала яна і ўспомніла, што пасля смерці мужа, мусіць, добра і не глядзелася ў люстэрка. А ў верасні будзе ўжо шостая восень, як няма яе Сцяпана...

— Ну, я пайду, — здаецца, заўважыўшы яе гэтую сарамлівасць, сказаў электрык, паставіў пад лаўку свой чамаданчык і выйшаў з хаты.

«Шосты год... — Маня села на крэсла, невідушча зірнула ў акно на двор, забылася пра незнаёмца, падумала пра сваё. — Я толькі два ле-

ты пажыла са Сцяпанам. Год да войска і год, калі вярнуўся з салдатаў. Чакала тры гады... І цяпер колькі ўжо чакаю, але не дачакаюся...»

Яна паднялася, стрымалася, не заплакала, хоць вочы і павільгатнелі, пайшла на гарод і накапала маладой ранняй бульбы. Паскрэбла яе, прамыла, расклала на двары агеньчык і паставіла варыць на ім булён. Успомніла пра вясковага кладаўшчыка Франака, той сёлета пачаў ужо не толькі заляцацца да яе, але і лезці сляпіцаю. Сёння нават кабеты на лузе жартамі рабілі намёкі, ці не «сышліся» яны, расказвалі, што ўчора паднімала лямант Віцця, Франакава жонка...

Маня выйшла з хаты, дала есці свінням, пастаяла ля іх: зусім не хочуць браць паранай лебяды, варочаюць лычамі ў карыце, шукаюць бульбіны ці якой скарынкі, выкідваюць траву долу. Калі сцебане дубцом па вушах, то перастаюць наравіцца, усё глытаюць. Паблізу хадзілі куры і стараліся гэтаксама што-небудзь ухапіць з карыта. Маня не ўзлавалася на іх: сёлета добра нясліся — хапала яек і сабе, і было на продаж. І цяпер пад ложкам стаіць поўнае рэшата іх, трэ было б завезці ў горад, прадаць і купіць сала: старое выходзіць, ды і нясмачнае ўжо, нейкае ёлкае, а да новага яшчэ далёка.

Карова яшчэ не скора павінна была прыйсці з пашы, таму Маня рашыла схадзіць на аселіцу, у свой гарод, — паглядзець, ці не пара зноў яго прапалоць, нашчыпаць шчаўя. Наўмысна, як і яе суседзі, зрабіла гарод далей ад дома, бо ля хаты і свае, і чужыя куры не дадуць ні ўзысці, ні завязацца якому зярнятку — выграбуць, здзяўбуць. Ды тут і свінні, калі ўварвуцца, златошаць.

...Гуркі, памідоры, морква ды капуста буялі, цёмна зелянеліся, і яна палюбавалася, парадавалася, што хутка будзе многа ўсякай гародніны, пайшла да градкі са шчаўем.

Толькі нагнулася яго нашчыпаць, як пачула крокі. Азірнулася: ішла суседка Ядзя — замужняя кабета амаль яе гадоў, маці пяцярых дзяцей.

— Во якія ў цябе ладныя грады! — Ядзя не падалася ў свой гарод, а прыйшла сюды, акідвала зайздросным позіркам кожную лапінку.

— Цьфу, цьфу! — усміхнулася Маня. — Прагаворыш...

— Ай, забабоны! — махнула рукою тая, адставіла поўны жывот: хадзіла шостым дзіцем. — Кватаранту прыйшла шчаўя нарваць? Кісленькага захацеў?

Маня не здзівілася, што Ядзя ўжо ведае пра тое, што яна ўзяла на кватэру электрыка: тая ўсё пра ўсіх у вёсцы знае. Яна ўсміхнулася і паківала толькі галавою.

— Можа, зарвецца язык Франакавай Віцці, не будзе страшыць, што прыйдзе і памалоціць твае вокны... — загаварыла Ядзя. — Хоць

яе дурны поп хрысціў, будзе мянташыць, што ты наўмысна, з хітрынкай кватаранта ўзяла...

— Мне ад гэтага ні холадна, ні горача, — сказала Маня, адчуваючы на душы вялікую непрыемнасць ад гэтых плётак, і, каб не гаварыць пра гэта больш, сказала Ядзі: — Ну, я пайду: булён на агеньчыку варыцца.

Калі вярнулася дадому, несучы ў прыполе шчаўе, кватарант стаяў на двары, падкідаў у агонь трэскі. Быў ён цяпер паголены, мокрыя валасы залізаны назад, стаяў не ў ботах, а ў туфлях, у новых штанах, у белай тэнісцы. На яго даўгаватым носе блішчэў пот.

«Ды ён зусім малады», — падумала яна і засаромелася, што так і не пераадзелася, тупае босая.

— Кінула во агонь без дагляду... — усміхнулася Маня.

— Нічога. Не суха ж, — сказаў ён, нагнуўся, дастаў з агню галавешку, прыкурыў.

Маня адразу адчула папяросны дым, што казытнуў у носе: пасля смерці Сцяпана, здаецца, ніхто і не курыў у яе хаце. Цяпер яе захваляваў гэты дым, зноў напомніў ён дарагога чалавека... Яна неяк уся зноў аслабела, пасумнела, стала абыякавай да плётак, што ўжо ёсць, што яшчэ будуць...

Вярнулася з пашы карова, відаць, наскублася ў полі добра, бо бакі былі поўныя, як бочкі, але ўсё роўна ткнулася ў свіныя вёдры, аблізала муку, што прыліпла там.

Маня загнала карову ў загарадку. Прынесла з хаты патэльню, кавалак сала і цыбулю, паставіла ля агню.

— Падсмажце, можа, самі, — ужо не з сорамам, а спакойна сказала яна электрыку, — я пайду карову падаю.

Зняла з частаколу даёнку і пайшла да каровы. Калі даіла, бачыла, як ён замітусіўся (відаць, ліўся на агонь булён), як зняў чыгунок, паставіў на трыножнік патэльню, смажыў, адхіляўся ад дыму, як варушыў сала і цыбулю.

Калі Маня прынесла малако ў хату, ён ужо сядзеў на лаве. На стале былі яго кілбаса, кансервы, слоік куплёнай капусты, пляшка віна.

—Ды вы ешце, нас не чакайце, — сказала яна. — Я пачакаю сына.

Працадзіла малако, наліла з адстойніка ў кубак, паставіла на стол, астатняе, што было ў бляшанцы, паставіла ў вядро з халоднаю вадою. Бачачы, што сам ён не бярэ есці, змахнула крошкі са стала, абчысціла кілбасу, нарэзала яе скрылікамі на талерку, памыла і падала гуркі, наліла міску булёну.

—Дык за знаёмства... — ён усміхнуўся, садраў зубамі з пляшкі бляшаную галоўку. — Мяне Віцем завуць. Віця Салавей. Голасу

добрага не маю, а прозвішча во пявучае... — жартаваў ён і ўвесь час каўтаў у роце сліну, з прагаю пазіраў на ежу.

— А мяне Маняю завуць, пішуць Марыяй, — сказала яна, дастала з куфэрка і паставіла на стол кілішкі.

—Вы мне шклянку дайце, — папрасіў ён. — Не люблю цыркацца гэтымі... — Наліў ёй у кілішак, сабе ў шклянку, астатняе віно паставіў на падаконнік.

— Ну, будзьце здаровыя!

Яна кіўнула яму, крыху пакаштавала і паставіла кілішак на стол.

Еў ён са смакам. Відаць, добра прагаладаўся, з'еў усё, што толькі падала. Павячэраў, падзякаваў і падаўся ў вёску, дзе ўжо чуўся гармонік, — свае цяпер, летняю парою, вечарамі мала граюць, рана кладуцца спаць, — весяліліся, відаць, прыезджыя.

Маня не дачакалася сына і села адна есці, падумала, што трэба пагаманіць, каб не круціўся ля гэтых электрыкаў, не замінаў людзям працаваць. Вымыла пасуду і пачала збірацца спаць, ведаючы, што не хутка засне, пакуль усяго не перабярэ ў памяці, пакуль не паплача і не пагадае, як жыць далей...

2

Назаўтра кватарант падняўся рана, услед за ёю — яна спяшалася адправіць на пашу карову.

Вечарам, калі вярнуўся з работы, зноў хадзіў купацца, сядзеў ля агню і варыў бульбу, пасля, ужо ў хаце, згледзеў, што стаіць некранутае віно.

— Няма каму піць, — прамовіла Маня, сёння ўжо дзеля госця ў новай сукенцы, абутая ў басаножкі, у новай хустцы (у Янковічах усе замужнія кабеты і летам носяць хусткі).

— Гаспадар ваш не бярэ? — здзівіўся ён, пазіраючы на яе не так, як учора, а з нейкім агеньчыкам у вачах.

—Няма ў хаце гаспадара... — чамусьці незадаволеная, што ён так гаворыць, адказала яна.

— Паехаў куды?

— Памёр...

— Так... Вы... — ён развёў рукамі. — Удава, значыць... Маладая ўдава...

—Жыву з хлопцам, — прамовіла яна. — Увосень ужо шосты год будзе...

—Я тож адзінокі... — сказаў ён. — Быў жанаты, меў дачку... — прамовіў і стаў самотны.

Маня не спытала, дзе яго жонка, збаялася вымавіць слова «памерла». Страшнае для яе было гэтае слова... Толькі неяк па-новаму, дабрэй зірнула на яго, паспачувала.

— Праўда, жонка мая жывая, — сам сказаў ён. — Работа мая такая — у паездках... Прытуліў яе другі, лепшае паабяцаў. Кінула... Езджу вось ужо чацвёрты год па свеце, нідзе затрымацца не магу. А хутка ўжо трыццаць з палавінаю, хочацца асесці...

— А дачка ваша дзе? — спытала Маня, шкадуючы госця і яго дзіця.

— Не аддала мне. Судзіўся, але прысудзілі ёй. Яна на месцы, а я вечна ў раз'ездах.

— І ў вас гора... — са спачуваннем прамовіла яна, села на лаўку.

— Спачатку мучыўся, цяпер прывык, ачарсцвеў.

— І я неяк адзервянела, звыклася з удоўскаю доляю — работа ды работа.

— А вы ж, відаць, маладзейшая за мяне? — спытаў ён, зірнуў на яе, гэтак сама са спачуваннем і лагодаю.

— Мне трыццаць тры.

— Сама жыць, а мы ў гэтыя гады...

— Што зробіш, калі так Бог даў, — сказала яна.

— Бог гэты... Да аднаго дык і дужа добры, а да другога ўвесь час спіною...

— Мне дык век не шанцуе... — паскардзілася Маня. — Не хочацца і расказваць...

— Так, бывае... — мармытнуў ён, закурыў і выйшаў на двор, каб дыміць там.

З акна Маня бачыла, як ён сустрэўся ў двары з яе сынам, загаварыў з ім. Сын гэтаксама нешта расказваў, паказваў рукамі, смяяўся.

Пасля кватарант вярнуўся да ганка і падняў лазы, ускінуў іх на плячо. Пайшоў на вуліцу, сын падаўся за ім. Яна, каб лепш бачыць, перайшла хату, прыпала да другога акна, што глядзела на вёску.

Кватарант адзеў на ногі лазы і лёгка, як кот, палез на слуп; сын стаяў і глядзеў разявіўшы рот, так, што ў яе зашчымела сэрца: мужчына мужчынскае любіць...

Салавей злез са слупа, пачаў адзяваць лазы на ногі яе сыну. Яна затрывожылася, пазірала, як сын няўмела, чапляючы лазамі то за свае ногі, то за зямлю, падышоў да слупа, лез на яго і спаўзаў долу. Тады Салавей падперазаў яго сваім поясам, прыхапіў і слуп, падняў малога і рукою прыціснуў лазы да слупа. Сын палез наверх, азіраўся ўніз і смяяўся. Такі ён быў задаволены, шчаслівы.

Калі крыху падняўся, зноў глянуў на зямлю, спыніўся і спалохаўся. Яна затрывожылася, што зваліцца яшчэ ды пакалечыцца. Сын закрычаў. Яна выскачыла з хаты. Але сын ужо стаяў на зямлі. Салавей адвязваў ад яго ног лазы, супакойваў.

— Скруціш галаву, калі такі дападны! — сярдзіта сказала сыну, хоць, мусіць, яе гэтая сярдзітасць была залішне мяккай.

— Нічога, — усміхнуўся Салавей, разумеючы яе. — Спачатку і сталыя вышыні баяцца. Але ўсе хочуць яе. Добра там?

— Ага, — кіўнуў галавою малы, пазіраючы на кватаранта.

— Будзеш электрыкам? — усміхнуўся той.

— Угу.

— Чаго ж галасіў тады? — усміхнулася і Маня, узяла сына за руку і павяла ў хату.

Следам за імі, усміхаючыся, падаўся Салавей.

Гэтым вечарам ён не пайшоў у вёску, рана лёг на канапе і чытаў. Іх раздзяляла тонкая шырма, і яна чула, як ён загарнуў кнігу, патушыў лямпу, уздыхнуў. Яна гэтаксама не спала, думала і пра Сцяпана, і пра свайго кватаранта, і яе аж палохала: пра чужога чалавека думала больш. Разважала, што благая была ў яго жонка: яна, Маня, каб быў у яе добры чалавек, — берагла б яго, калацілася б за ім, як за дзіцем...

«Што ён добрага бачыць? Лазіць па слупах, цягаецца па чужых хатах. Хто пусціць, а хто і не пусціць, каторы добры пачастуе, а другі абы-як. Глядзі ў чужую міску. Але што я пра яго?.. Чужы чалавек...»

...Назаўтра і паслязаўтра кватарант яе не прыйшоў вячэраць і начаваць. Яна ўжо моўчкі бедавала, што не ўтрымаўся і зляцеў са слупа, пакалечыўся. Перабрацца на другую кватэру не мог: яна глядзела добра — што мела, тое і ставіла на стол, не павінен быў пакрыўдзіцца, ды рэчы яго засталіся, каб пераходзіў, то забраў бы. Яна ўжо хацела схадзіць да Януковых хлопцаў, якія штовечар прыходзілі дадому, спытацца, дзе падзеўся яе Салавей. Нават выйшла ўжо за вароты свайго двара, але вярнулася, паслала спытаць сына і гэтаксама вярнула яго: падумала, што скажуць на гэта людзі...

Варта было папрасіць мужчыну выкасіць дзялянку травы, з'ездзіць з ім у лес ці папрасіць закалоць свінню, як пра гэта ведала ўся веска. Аднойчы нават, калі частавала брыгадзіра, суседку Ядзю злавіла ля акна — стаяла і падцікоўвала... А цяпер во запляліся гутаркі пра яе і Франака...

«Ды, відаць, начуе недзе ў сяброў», — падумала яна і старалася забыцца пра яго, але ноччу не спала, уздрыгвала, калі рыпелі вароты, якія, відаць, матляў вецер...

## 3

Прыйшоў Салавей праз тры дні, у суботу. Спачатку памыўся ў Януковай лазні, выпіў там з хлопцамі, тады паказаўся ўжо. Ад вячэры адмовіўся, загаворваў, жартаваў з яе сынам, браўся вывучыць яго за электрыка.

— Будзе лазіць па слупах, і ад яго жонка ўцячэ, — пасміхалася Маня.

— Тады не ідзі па маіх слядах, малец, — гаварыў ён, і яна заўважыла: вып'е — смешна плюскае вачамі.

— Лепш вучыся, малец. Скора ў школу?

— Ды сёлета, — сказала Маня.

— І мая скора пойдзе...

— Растуць дзеці, — уздыхнула яна.

— Яны растуць, а мы старэем.

— На гэтым і зямля трымаецца, — сказала Маня. — Некалі і мы маладыя былі.

— Ну, мы яшчэ... — Локаць саслізнуў са стала, і ён боўтнуў галавою ўніз, ледзь не зваліўся з лавы. — Але мне трэба спаць. Калі можна, пасцялі мне, гаспадынька, на сене. У хаце будзе душна, ды яшчэ ты гэтую печ напаліла.

— Не паліла б, каб есці не варыць ды свінням траву, — адказала яна, узяла падушку, старую дзяругу і коўдру, падалася з хаты. Хістаючыся, выйшаў і ён.

— Налізаўся я сёння, — не трапляў ісці за ёю. — Ты не спяшайся, а то не бачу, куды ісці.

Яна пачакала яго на цёмным двары, адчыніла гумно і пачала слаць.

— Мала сена, — сказаў ён, убачыўшы нешта ў цемені.

— Ужала на межах, — сказала яна, думаючы, што кожны год мае шмат клопатаў з сенам. Ногі саб'еш, рукі ўварвеш, пакуль яго назбіраеш на зіму.

— Цяжка вам без мужчыны?

— А вам без кабеты легка? — смела спытала яна, паслала пасцель, пастаяла з хвіліну. — Спіце...

— Цяжка, — сказаў ён. — Застанься са мною, — злавіў яе руку, прыцягнуў да сябе: — Надаела мне аднаму. Вера...

— Вось і будзьце з Вераю, — нечакана ўзлавалася яна і вырвала руку.

— Ой! — ён зноў ступіў да яе. — Маня... Мы абое... Ну, не ўцякай.

— Спіце лепш, — з папрокам сказала яна і не спынілася нават: легка пераскочыла цераз загарадку, зачыніла дзверы, узяла іх на кручок.

«Усе яны такія, гэтыя мужчыны, — ішла ў хату і думала. — Вытуру заўтра... Дарэмна спачувала яму: падоўгу, можа, не быў дома, піў, не даваў капейкі, вось і кінула кабета, скінула гора з плячэй, жыць захацела. Крыўдзіцца яшчэ, сам на сябе наракаў бы...»

...Назаўтра ўстала позна: была нядзеля. Спачатку, праўда, паднялася раненька, падаіла, выпусціла на пашу карову і зноў легла. Не спяшаўся ўставаць і кватарант, доўга не выходзіў з гумна.

Злосць за ноч улеглася, але Маня ўсё роўна думала прагнаць яго, ляжала, пасля тапталася ля печы і абдумвала, якімі словамі адчытаць, адвучыць. Папусціся толькі такім...

Падняўшыся, прыгатавала сняданак, паставіла на стол, а кватаранта ўсё не было.

— Ідзі ў гумно, скажы, хай ідзе есці, а то галодны дзень будзе, — паслала сына, сама прытаілася ля акна і пачала глядзець, што будзе.

Салавей хутка выйшаў. Ступаў, апусціўшы галаву. Відаць, і не раздзяваўся: касцюм на ім быў скамечаны, у сене. Падышоў да калодзежа, доўга мыўся, відаць, чакаў, што яна выйдзе, падасць ручнік. Але яна не вынесла, стаяла, глядзела на яго і не са злосцю ды з крыўдаю, а крышку з пометаю ўсміхалася. Як убачыла, што прастуе ў хату, кінулася ад акна да печы — нібы адсунуць ад агню чыгунок.

— Здарова! — не бойка, як раней, а з разгубленасцю прывітаўся ён, калі зайшоў і стаў у парозе.

—Здрастуйця, — спакойна і як бы абыякава адказала яна не азірнуўшыся, хоць сама чакала, што будзе далей.

Ён зняў з цвічка ручнік, выцерся, зноў павесіў, сказаў маломy:

— Схадзі, дружа, у гарод, паглядзі гуркоў.

Маня хацела затрымаць сына, але пасля падумала, што напраўду лепш пагаварыць без яго. Сын паслухаў, выбег з хаты.

— Маня, — ён падышоў, хацеў, каб яна зірнула на яго. — Ты не злуй... Я-то не апраўдваюся і сёння тое думаю, але ўчора не тымі словамі сказаў...

— Я ўсё разабрала, — зноў спакойна, не пазіраючы, прамовіла яна.

— Не, я не тое... І давай не будзем выкацца, — папрасіў ён, разгубліваючыся, што яна такая спакойная. — Кінулася ты мне ў вока. Добрая ты і спагадлівая... Калі згодзішся, бяры мяне за гаспадара.

Маня азірнулася, цяпер ужо з разгубленасцю глядзела на яго, вінаватага, але, здаецца, не з маною ў вачах, сур'ёзнага. Недзе

торгнула і балюча зашчымела жылка, закалацілася сэрца так, як даўно ўжо не трывожылася.

— Гаворыце вы... — толькі вымавіла яна. — Гэта з учарашняга.

— Што я благое гавару? — ён сеў на лаве. — Сёння мне або ісці з тваёй хаты, або застацца... Не думай, што абманшчык, гуляка, што да чаркі вялікі любіцель. Магу жыць і без гэтага... Мы ўсё законна. Тады ўжо...

— Ці тое вы думаеце, што гаворыце? — пажартавала яна, а ў галаве паплылі самыя розныя думкі, і нельга было разабрацца, што з ёю робіцца.

— Тое, — сказаў ён хвалюючыся. — А ты што скажаш?

Яна пацiснула плячыма.

— Сам не ведаю, скора мо гэта, не варта спяшацца, — ён устаў. — З другімі не хачу звязвацца, а з табою... Прыпала ты мне да сэрца, — сказаў і выйшаў з хаты. Яна бачыла: пайшоў у вёску.

Прыбег сын і прынёс маленькіх гурочкаў. Здзіўлена паглядзеў на яе: дзе ж дзядзя?

— Скажы мне, сын, не баішся ты дзядзькі Віці? — спытала яна, села, прыхіліла сына да сябе, зірнула яму ў вочы.

Той усміхнуўся, паціскаў плячыма.

— Дык не баішся?

— Не.

— Ну, садзіся есці, — чамусьці павесялела яна.

Самой ёй не хацелася снедаць: натапталася ля печы, нанюхалася стравы — адпаў апетыт. Яна выпіла шклянку малака і пайшла ў другую палавіну, падышла да люстэрка. Убачыла ля вачэй глыбокія маршчынкі, але яшчэ іх было мала. Падумала: трэба не насіць хусткі, не захутвацца: шчокі, нос чырвоныя ад сонца, а лоб зусім белы. Скінула хустку, распусціла валасы. Чорныя, яшчэ без ніводнай сівінкі, доўгія. Пачала расчэсваць. Падумала, што няма калі за работаю і за сабою паглядзець.

«Ды я яшчэ маладая, — узрадавалася яна, павярнулася, убачыла, што яшчэ і статная — грудзі, плечы і ногі як у дзяўчыны. — Так што, можа, недарэмна ліпне Франак, сватаецца во Салавей...»

Маня прыткнулася да халоднага люстэрка лбом і заплюшчыла вочы, пагладзіла сябе рукою па шчоках, падумала, што даўно не ведае ласкі, адчула, як цяжка жыць без яе.

...Салавей сам не пайшоў ад яе, і яна не праганяла. Ранічкаю ўставаў і ішоў на работу, вечарам не затрымліваўся, яшчэ да заходу сонца вяртаўся і стараўся што-небудзь зрабіць ля хаты. Памяняў дрот, паставіў яшчэ некалькі разетак, уключальнікаў, парэзаў з малым,

раскалоў круглякі, што ляжалі яшчэ з зімы, на якіх ужо згніла кара, а самі пазарасталі травою.

Больш не сватаўся, як усё роўна і не гаварыў пра гэта ці забыўся. І яна не загаворвала, давала есці, адказвала, калі пра што пытаўся, хадзіла на работу, тапталася пры хаце і чакала, што ж будзе.

Праз тыдзень Салавей застаўся ў вёсцы толькі адзін. Раніцай прыходзіла і забірала яго машына, а вечарам толькі аднаго прывозіла.

Маня ведала, што так доўга цягнуцца не будзе. Трэба адно: браць у прымакі або не браць. Відны мужчына, працавіты, але што скажуць людзі, свякроў? Не пахваліць яна, узлуецца за сына.

4

Свякроў прыйшла сама. Маня якраз вярнулася з саўгаснай работы і капала ў садзе на вячэру бульбу.

— Добрая картофля? — падышла, запытала свякроў і не павіталася.

— Дабро такое, — адказала Маня, — велькая, але не ядраная.

Свякроў, тоўстая, абутая ў цёплыя валёнкі, у старой фуфайцы, стаяла ля яе і гаманіла пра гаспадарскае, пакуль яна не накапала поўнае вядро. Пасля пайшла ўслед за ёю ў двор. Маня адразу здагадалася, чаго тая прыйшла, але маўчала, першая не загаворвала. Яна добра ведала сваю свякроў: адразу не скажа ў вочы, будзе падыходзіць здалёку, старацца мацней уджаліць.

— І доўга ён яшчэ будзе жыць? — нарэшце не вытрымала і запытала тая.

— Хто, мама? — як не здагадваючыся, спытала Маня і хацела, каб свякроў хутчэй пасунулася дадому.

— Хто — яшчэ пытае! — узлавалася тая. — Ён, кватарант твой.

— Не ведаю, — спакойна прамовіла Маня. — Не прагоніш жа чалавека.

— Магла і не браць, — папікнула свякроў. — Другія з мужамі, але не бралі.

— Папрасіўся... — апраўдвалася Маня.

— Мала хто прасіцца будзе. Ты чуеш, што людзі гавораць?

— Хай гавораць... — прамовіла Маня, трымала ў руках вядро, забылася паставіць яго на зямлю.

— Бачу, ты яго не думаеш праганяць, рада, што не выбіраецца, — свякроў злосна бліснула вачыма. — Надта скора забылася пра Сцяпана.

— Перастаньце, мама, не трывожце душы, — напрасна Маня, стрымалася, каб не раскрычацца. — Не паднімем мы яго ўжо...

— Во што ў цябе ў галаве, — усміхнулася свякроў, рукавом фуфайкі выцерла слёзы на маршчыністай шчацэ. — Гэта я толькі ўбіваюся, свету не бачу. Бо я маці, а ты хто...

— Прашу вас, сціхніце, або... — не вытрымала Маня, паставіла на зямлю вядро і рыдлёўку, але стрымалася, больш нічога не сказала.

— Ужо і не трэба мы табе? — гаварыла свякроў, як хвастала па шчоках. — А як дасюль чаго дранага-рванага трэ было, то да нас бегла... «Татачка, мамачка, памажыце». Цяпер ужо не трэба, з двара гоніш.

— Не ганю я вас, — усхліпнула Маня, — але не мучце вы мяне, бо і дагэтуль разам з чужымі людзьмі нямала пазласлівілі, а мне ніколі ласкавага слова не сказалі... Жыў бы Сцяпан — была б рада яму... Адзін Бог ведае, колькі я папамучылася, уплакала, які лёд у мяне на сэрцы. Пачала адтаваць крыху, а вы... І пра дзіця падумаць не хочаце.

— Не звальвай на дзіця, — крыкнула свякроў, сарвала з яе галавы хустку. — Валасы вунь надрала, сукенкі новыя носіш...

— Жывая ж я яшчэ! — крыкнула і Маня. — І не трэба мяне жывую без часу хаваць...

Яна пакінула свякроў на двары і пайшла ў дрывотню, каб не бачылі яе людзі, села на калодку, закрыла твар рукамі і заплакала.

Свякроў не зайшла — ці падалася дамоў, ці мо дзе стаяла паблізу і слухала.

Ды Мані было гэта ўсё роўна. Адно, што ёй было дарага, дык гэта сын, яе сіротка, які гэтаксама не зведаў мужчынскае ласкі, гадуецца самапасам.

Маня доўга плакала і не пачула, як зайшоў Салавей — стомлены, брудны ад смалы, — стаў і слухаў, здзіўляўся спачатку, а пасля занепакоіўся. Падняў яе, спытаў:

— Чаго ты, Маня?

Яна зірнула на яго, не вытрымала, зноў захліпала, ткнулася да яго грудзей і, не сціхаючы, плакала.

— Ну, супакойся, — з пяшчотаю папрасіў ён і гладзіў яе па галаве. — Ну, сціхні... Чуеш?

Але яна не чула, не адказвала.

— Ну, не трэба. Цябе больш ніхто не будзе крыўдзіць, — ён цалаваў яе шчокі, глытаў салёныя слёзы, так і не дабіўшыся ад яе і слова, а сам гаварыў ёй тыя словы, якія даўно ўжо, можа, не ўспамінаў, гладзіў сваёй шурпатай, як тарка, рукою яе валасы.

5

Назаўтра Салавей, як яна бачыла праз адчыненыя дзверы, прачнуўся позна. Прахапіўся і ўсміхнуўся, быў, здаецца, памаладзелы, лёгкі, дужы.

Ускочыў, адзеўся, зірнуў на канапу, дзе спаў да сённяшняй ночы і якая сёння не разбіралася нанач, і выйшаў на кухню. Расчырванелая ад агню, у светлай сукенцы з кароткімі рукавамі, без хусткі, з гладка зачасанымі валасамі, зусім, здаецца, маладая, Маня зірнула на яго і ўсміхнулася, бачачы, што ён хоча нешта сказаць, а то і пажартаваць, засаромелася, успыхнула і заплюшчыла вочы.

— Маўчы! — сама падышла, прытулілася, моцна пацалавала, а пасля піхнула: — Прынясі вады... Гаспадар!

Ён усміхнуўся, узяў вядро і падаўся на двор, да калодзежа.

1973

## Дарога

1

Палуднёвая пара.

Ліпеньскае сонца — не круглае ды маленечкае, як у звычайны цёплы дзень, а нібы расплаўленае, разлітае шырокім кругам — вісіць сама высока на пабялелым, амаль без блакіту небе. Гарачынёю дыхаюць зямля, каменні, нібы пераліваецца-мітусіцца блакітнае паветра; ад спякоты, здаецца, агнём гараць голыя плечы, на лобе буйнымі кроплямі выступіў пот. Ён цячэ струменьчыкамі па шчоках, трапляе на вусны — і ў перасохлым роце робіцца солана.

Я, абуты ў цяжкія ялавыя, з белымі жалезнымі заклёпкамі чаравікі, у выцягнутых на каленях картовых штанах, пад поясам якіх вільготна ад поту, у газетным капелюшы, ужо каторую пару — з раніцы, калі было яшчэ свежа і халаднавата ад расы,— дубасіў сырой тоўстай мятровай калодкай па каменнях, забіваў іх у цвёрды грунт. Тыя каменні, што я ўжо ўбіў, здаецца, лезлі ў зямлю з ахвотаю, але вось гэты — тоўсты, пляскаты — ніяк не лезе, толькі ўціскае, моршчыць пад сабою тугі пясок. Ад працы гараць, пацеюць у рукаўках далоні, ныюць локці і плечы, агортвае стома, і я, спадзеючыся на кароценькі адпачынак, зірнуў на другога трамбоўшчыка, на свайго аднавяскоўца Антона, старэйшага на гады тры, ніжэйшага, але болей плячыстага: ён, як і гадзіну-дзве назад, усё гэтак, здаецца, ціха і без спеху таўчэ і таўчэ ўсё новыя і новыя каменні, аж калоцяцца мускулы рук, і не думае адпачываць. Хоць стаміўся і ён: цячэ вунь ручайком з лоба пот, збіраецца на доўгім носе і падае кропелькамі долу, але Антон не

спыняецца, усё трамбуе, калі-нікалі паварочвае галаву то да аднаго, то да другога плечука і выцірае аб іх пот з носа.

Я нарэшце пе вытрываў, не збаяўся, што з мяне, такога рабочага, пасмяюцца маладыя языкастыя дзяўчаты — яны падносілі нам з крушняў каменне. Я прыпыніўся, абапёрся грудзінай па калодку і прыбітую да яе зверху круглую невялікую, на паўметра, палку-ручку, за канцы якой я абедзвюма рукамі паднімаў і апускаў дасюль калодку, аддыхваўся, чуючы, як сохне, моршчыцца ад сонечнай гарачыні спіна, як торгае кроў у скронях,

Падышлі дзяўчаты — у выцвілых сініх трыко-штанах і ў кедах, у выпаленых сонцам белых станіках і хустках,— прынеслі перад сабою на апушчаных руках каменне. Здаецца, нават не зірнулі на мяне, прамаўчалі. Відаць, гэтаксама стаміліся. Моўчкі кінулі ля нас каменне і адышліся.

Я павярнуў грудзінай калодку, сам павярнуўся і са стомаю паглядзеў на прымлелы наш, янкоўскі, лес, на новую, у вёрст пяць, дарогу. Яе мы брукуем ад Дзераўной замест старой, выбоіністай, мясцінамі вельмі пясчанай, сыпкай улетку, мокрай ды гразістай увосень. Глядзеў, бачыў і чуў непадалёку нашу дарожную тэхніку: з бліскучымі вальцамі цяжкія каткі, што поўзалі па дарозе то ўперад, то назад і ўціскалі пясок, за каткамі гудзеў грэйдэр, што адвалам распіхваў кучы пяску, засыпаў яміны, раўняў дарогу, і далёка ўперадзе, ля самага лесу, там, дзе надта пераліваласся-мітусілася паветра, кратаўся скрэпер — зразаў грунт на пагорках. Ад мройлівага паветра ні вадзіцеля самага далёкага адсюль скрэпера, Васіля, ні брыгадзіра, дзядзькі Стася — самага сталага чалавека нашай маладой брыгады,— не было відаць, як і зусім не відаць за імі і акоранай сасновай жэрдкі праз усю дарогу. На жэрдцы пасярэдзіне вісіць жоўты трохкутнік з чырвоным абадком, а на трохкутніку намаляваны сагнуты чалавек, што ўпіхвае ў грудку пяску лапату. Такі самы знак стаіць і ля дзераўнянскай павароткі, там, адкуль мы пачалі ўкладаць брук. Яшчэ ў нашай брыгадзе дзве грузавыя машыны, адна з іх, самазвал, возіць пясок з кар'ера, дзе стаіць наш экскаватар, другая дастаўляе з блізкіх і далёкіх палёў каменне.

Самазвал сёння сапсаваўся, стаіць ля Дзераўной, у БМУ, там і шафёр ды экскаватаршчык, рамантуюць яго; грузавік недзе на ніўнянскім полі, ён павінен вось-вось вярнуцца. Як будзе тут і дзяўчаты-грузчыцы скінуць каменне, тады мы пойдзем палуднаваць.

Толькі я, сёлетні выпускнік тутэйшай дзесяцігодкі, самы малады з нашай хлапеча-дзявочай брыгады, куды сабралася моладзь з блізкіх вёсак, падумаў, што трэба перасіліць сваю стому, узяцца зноў трам-

баваць, як пачуў сярод назойнага шуму каткоў, грэйдэра і скрэпера далекаватае ціхае, але натужнае вуркатанне грузавіка,— сэрца маё, здаецца, спачатку прымлела, так заціхла, што не стала чуваць яго, а пасля так раптоўна азвалася, як вынырнула аднекуль з глыбіні, што я мусіў прыжмурыцца ад болю. Я адчуў, што разгубіўся і захваляваўся: едзе грузавік, едзе і яна, Вікця, у якую я за гэтыя два тыдні, што працую тут, вельмі закахаўся.

Закахаўся, праўда, не ўпершыню, бо з бояззю, тоячыся ад усіх, кахаў некаторых харошых з твару аднакласніц, але ніколі пра гэта ім не прызнаўся. Цяпер, як мне здавалася, кахаю зусім інакш. Са сталасцю ды сур'ёзнасцю. Вельмі хачу пра гэта сказаць Вікцы, бо вельмі хачу, каб і яна мяне пакахала. Зноў коса пазіраю на Антона: ці не прыкмеціў ён маё хваляванне. Але той, выціраючы аб плечукі спацелы твар, так і не прыпыніўся ні на хвілінку, тоўк і тоўк калодкаю каменне, большыў брук на невялікай бездарожнай лапінцы стаўбцоўска-налібацкага шляху. Ад моцных удараў аб зямлю з яго бярозавай калоды адлушчылася, абвісла і трасецца бела-рудая кара, а на ручцы пасярэдзіне ўсё больш вылазяць наверх цвікі, і ручка пачынае паднімацца-апускацца на іх, замінаць, але Антон, вельмі ядавіты да работы, хоць можна было на хвіліну якую прыпыніцца і забіць каменем цвікі, не зважаў на гэта, усё трамбаваў.

«Ці два ў яго сэрцы? — з зайздрасцю падумаў я.— Адкуль толькі бярэцца ў яго сіла?»

Я зноў, адчуваючы яшчэ большую ад кароценькай перадышкі стому, пачаў гэтаксама трамбаваць: ніяк няможна, каб Вікця ўбачыла, што Антон працуе, а я стаю. Я не толькі баяўся яе насмешкі, без чаго яна, здаецца, і жыць не можа, але мне і самому хацелася пахваліцца, што я не гультай і не такі ўжо «маладзенькі» сярод усіх астатніх, на гады тры-чатыры старэйшых за мяне.

Грузавік пад'ехаў сюды абочынай дарогі ад Дзераўной, запыліў — следам за ім цягнулася шэрая пясчаная сцяна. Яе не зносіла ўбок, бо не было ветру, а пакрысе, жаўцеючы на сонцы, яна асядала долу. Ужо здалёку ўбачыў, што ў кузаве на каменнях сядзіць толькі рабацiністая, вельмі дужая Гэлька, а Вікця сядзіць у кабіне побач з Фэлікам.

Сэрца маё зноў спачатку заціхла, а пасля затрапяталася хутка-хутка. Можа, і ад таго, што я добра ведаў: нядаўна дэмабілізаваны Фэлік думае жаніцца і, здаецца, вельмі ўпадабаў Вікцю. І мяне каторы ўжо дзень палохае не толькі тое, што Фэлік, якога я цяпер ненавіджу, такі смелы, а і тое, што Вікця, здаецца, яго ўпадабала.

Машына пад'ехала і прыпынілася паблізу нас, ля саменькага неглыбокага рова, абцiснула яго бераг, і я, не перастаючы трамбаваць,

правым вокам убачыў задаволенага, са шчаслівай ўсмешкаю Фэліка, убачыў ля яго невялікую, з чорнымі валасамі галоўку, з круглаватым прыгожым тварыкам. Мне здаецца, што Фэлікава і Вікціна галовы вельмі блізка адна ад адной.

Фэлік, нарэшце вызваліўшы рукі ад руля, не асцерагаецца, што мы ўсё бачым, прыхінуўся, абняў Вікцю, і яна, мусіць, не зусім шчыра пішчучы, не адрывалася ад яго, сядзела побач, пакуль ён не пацалаваў яе ў шчокі. Толькі пасля выскачыла з кабіны, скокнула ў роў, шчасліва пасміхалася. У гэтую хвіліну яна — высакаватая, вельмі стройная ў трыко — была надта харошая, як красуня на карцінах.

Вікця, усё смеючыся, паднялася, стала адною нагою на задняе кола машыны — яе трыко пры гэтым яшчэ больш абціснулася, паказала, якія стройныя яе ногі,— ухапілася рукамі за борт кузава і, матлянуўшы кароткімі распушчанымі валасамі, перавязанымі ля галавы гумкай, ускочыла наверх. Адчыненыя дзверцы ўсё яшчэ хіляліся, рыпелі.

Сюды высунуўся Фэлік, прыжмурыў левае вока. Я не вытрываў гэтай пераможнай ухмылкі, адвёў позірк; маўклівы Антон нават не зірнуў на машыну сваім адным вокам, нібы нічога не бачыў і не чуў. Я ж коса кінуў яшчэ позірк на Вікцю: яна, седзячы на каменнях, глядзела на нас, пасміхалася («Няўжо так усцешыла яе Фэлікава заляцанне?»), а пасля, сустрэўшыся позіркам з маім, нечакана пасур'ёзнела.

— Малавата, малавата вы, хлапцэ, падагналі!— заківала яна галавою.— Можна было і далей умасціць. Відаць, болей сядзелі, чым рабілі.

Антон прамаўчаў, толькі, здаецца, яшчэ больш сярдзіта, раздзімаючы шырокія ноздры ды прыкусваючы сасмяглыя вусны, заляскаў калодкай, і я зразумеў, чаму ён сярдзіты: і ён, як і ўсе астатнія хлопцы, нядаўна гэтаксама заляцаўся да красуні Вікці, і яна спачатку яму, як і кожнаму, усміхалася, жартавала, заманьвала, а пасля высмеяла за гэтае кавалерства, асаромела. Хлопцы-няўдачнікі хутка перажылі гэта, па-ранейшаму ліпнуць да яе, а Антон зацяўся — не дакарае, не ліпне, але болей яе як не бачыць.

— Дзе дзядзька Стась?— спытала Вікця.— Трэба нацкаваць яго на вас — лепей будзеце таўчы... З такім спрытам мы і да зімы нейкую там вярсту не забрукуем і нічога не заробім... Таўкачы!

Антон зноў прамаўчаў. А я не ведаў, як трэба аджартавацца. А апраўдвацца, што мы добра працуем, стараемся, не варта: Вікця ўсё роўна яшчэ да печага прычэпіцца, скажа дасціпней, а то і асароміць, не дасць, каб яе перагаварылі.

Фэлік — невысокі, але плячысты, у вайсковых зялёных штанах і ботах, у чырвонай майцы — вылез з кабіны, адшчапіў бліжэйшы ад сябе борт — каменне абсунула, выгнула яго, як адшчапіў і з другога боку, адскочыўся, кінуўшы борт уніз: у кузаве было поўна камянёў, і палавіна іх адразу, абіваючы край борта і грукочучы, пасыпалася ў роў. Узбіла там перагрэты пясок, стукалася адзін аб адзін ды пырскалася дробненькімі адбітымі кавалачкамі. Некаторае, руда-чырвонае ўсярэдзіне, крохкае, каменне раскольвалася папалавіне, а то і зусім на маленькія драбкі. Калі каменне далей само не падала, Віцця і Гэлька пачалі піхаць каменне нагамі — і яно адно за адным кацілася долу, на верх крушні.

— Не згружвайце ў адну кучу! — нарэшце, прыпыніўшыся, зірнуў на грузчыкаў і сярдзіта сказаў Антон.— Трэба думаць і пра тых, хто будзе іх тут разносіць.

Грузчыцы паслухаліся яго, намесніка брыгадзіра і вельмі сур'ёзнага хлопца, перасталі скідаць, прыхінуліся да таго борта, што — цяпер добра не змацаваны — перагінаўся і гайдаўся; Фэлік, пасміхаючыся сам сабе, як змаўляючыся, падміргнуў Віцці, падаўся ў кабіну і ад'ехаўся — як ехаў і машыну падтрасала, з кузава па адным падала долу каменне. Прыпыніўся за крокаў дваццаць, і грузчыцы рукамі пачалі ўжо браць і скідаць на дарогу астатняе каменне.

Калі зірнуў на янкоўскі прылесак, я ўбачыў, што сюды пешшу ідуць грэйдэрыст, скрэперыст і брыгадзір. Значыць, пойдзем ужо на полудзень.

Вадзіцелі прыпыніліся ля машыны і пачалі жартаваць з грузчыцамі, брыгадзір, дзядзька Стась — гадоў трыццаці васьмі, высокі лысы мужчына, адзеты ў новыя шэрыя штаны, жоўтую з кароценькімі рукавамі тэніску, у саламяным капелюшы — падышоў да нас з Антонам, зірнуў, колькі і як мы тут зрабілі без яго, пасля зайшоў на ўтрамбаваны намі брук, стаў на край уплясканага ў цвёрды дол каменя і пагойдаўся на адной назе,— але ні камень, ні пясок вакол яго нават не зварушыліся. Раней, як толькі я пачынаў брукаваць, было, што камень кратаўся, і мне прыходзілася вяртацца і перабрукоўваць. Дзядзька Стась патаптаўся яшчэ па некалькіх маіх і адным-двум Антанавых каменнях і іх не зрушыў, але нам нічога не сказаў. Падышоў затым да правага боку дарогі, дзе стаяў я, прысеў і паглядзеў, ці ладна — роўненька па нацягнутым шнуры — клаў я ля ўзбочыны каменне. Доўга пазіраў і зноў маўчаў.

— Хоць трыма вокамі глядзяць, але не крывяць...— вылезшы зноў з кабіны, захіхікаў Фэлік, скінуў майку і пагладзіў сваю дужую, загарэлую да колеру бронзы грудзіну.

Яму ніхто не адказаў; не ведаю, як у каго, а ў мяне паднялася лютая злосць на Фэліка, а пасля, калі ўбачыў, як успыхнуў сарамлівай чырванню Антонаў твар,— і нянавісць.

Дзядзька Стась раптоўна выпрастаўся, з гневам глянуў на Фэліка — і той, як і мы ўсе, вельмі паважаючы строгага, але справядлівага нашага брыгадзіра, зніякавеў, закруціўся, як вінаваты шчанюк. Пастаяў крыху навідавоку і схаваўся за машыну.

— Абед, хлопцы,— чамусьці толькі нам сказаў дзядзька Стась.— Кідай калодку, Антоне. Адпачывайце, падсілкуйцеся. Пасля абеду, Антоне, будзь за старшага, мне трэба падскочыць у Стоўбцы...

Я адразу паваліў долу калодку; Антон гэтаксама прыпыніўся, але не паваліў калодку, а ўзяў з зямлі невялікі камень, забіў на ручцы выпаўзлыя цвікі, абадраў з калоды адлушчаную кару і кінуў яе ў роў. Пасля ён падаўся па ўтрамбаваным намі бруку, туды, дзе мы сёння раніцай пачыналі працаваць, узяў свой і мой пінжакі, нашы сумкі з ежаю, вярнуўся сюды, бліскаючы адным вокам. Быў маўклівы і, здаецца, злосны. Ён першы, а я за ім услед залез у кузаў машыны. Тут у полі, пад сонцам, мы ніколі не палуднуем, пад'язджаем да лесу, садзімся ў бярозавым гайку на густой мяккай мураве.

— Паехалі, дзядзька Стась,— сказаў з віною Фэлік, выйшаўшы з-за машыны, падняў і пачаў зачыняць борт.

— Я пасля...— як і заўсёды, адмовіўся брыгадзір, збіраючыся і сёння есці адзін.— Едзьце ды на хвілін якіх трыццаць і зацягніце полудзень: гэтакая ж гарачыня! Пекла! Лепш вечарам пазней папрацуйце.

Віцця, стоячы ў кузаве, стрэсла з грудзей, са штаноў пыл, паправіла валасы, усміхнулася — і ад гэтай яе ўсмешкі палягчэла, прапала стома, хацелася думаць пра нешта вельмі прыемнае. Але Віцця не засталася з намі: саскочыла долу і падалася да Фэліка ў кабіну. І я праз задратаванае акенца бачу, як яны там сядзяць блізка, плячо ў плячо, усміхаюцца. Ніхто не ведаў, як я цяпер зайздросціў шчаслівуцу Фэліку, як шкадаваў, што я яшчэ такі малады, не быў у войску і не вывучыўся за шафера.

Фэлік, увесь час рагочучы з Віццяю, падвёз нас да бярозавага гайка, прыпыніўся. Як мы злезлі, развярнуўся і паехаў дамоў. Разам з ім паехала і Віцця.

Паехала Віцця з Фэлікам у кабіне і вечарам...

2

Назаўтра, з самай раніцы, Віцця шапталася, пасміхалася з дзяўчатамі, і тыя, слухаючы яе, заліваліся смехам, часта кідалі насмешлівыя позіркі на Фэліка. Ён быў сумны, злосны, амаль не вылазіў з кабіны.

Прывязе грузчыкаў і каменне з поля, сядзіць у кабіне і чакае, пакуль тыя разгрузяць. Калі аднаго разу Віцця паспрабавала сесці побач з ім, дык ён не пусціў: седзячы ў кабіне, трымаў за ручку дзверы і не даваў іх адчыніць.

Антон, бачачы гэта, ляпаў калодкай і, здаецца, пасміхаўся. Павесялеў і я, аднак з трывогаю думаў, якая яна смелая ды хітрая, гэтая Віцця. Як добра ўмее прыблізіць і адштурхнуць!..

У гэты дзень Фэлік не падвёз нас да лесу на полудзень: як толькі ў апошні рэйс згрузілі каменне, развярнуўся і памчаўся дахаты. І мы ўсе гуртам, стомленыя, але вясёлыя, падаліся пешшу. Як і заўсёды, без брыгадзіра.

— Дзівак гэты чалавек...— сказала Віцця, несучы на плечуку мужчынскую чорную, на доўгім поясе сумку з ежаю.— Ніяк не магу разгадаць гэтага нашага дзядзьку Стася... Нейкі ж надта нелюдзіна ён...

— Табе толькі і засталося аднаго яго паэкзаменаваць...— усміхнуўся скрэперыст Васіль — высозны, але тонкі, бледны,— які, здаецца, вельмі хутка перажыў Віццціну насмешку з яго заляцання.— Усіх жа ўжо прымусіла, каб у любві прызналіся, і ўсіх жа ўжо абсмяяла.

Васіль сказаў гэтак, а мяне пакрыўдзіў: застаўся я яшчэ, каго Віцця не асаромела. Але Васіль, відаць, не зважаў на мяне, лічыў зусім замаладым, раннім для такіх заляцанняў.

Віцця прамаўчала, усміхнулася сама сабе.

— Фэліку ж ужо, відаць, гэтаксама дала анучаю па зубах? — дапытваўся Васіль.

— З такога фацэтнага кавалера, можа, і грэх смяяцца...— з жартам адказала Віцця.— Прывёз учора дадому і хваліцца, які ён багаты. Водзіць усюды і паказвае: паглядзі, які добры дом... «А гэта вось наш сад, нашы бджолы...» — яна гаварыла Фэлікавым голасам, і за ёю амаль упокат рагаталі і хлопцы і дзяўчаты.— А частаваў як, людцы мае!.. Чаго толькі не было на стале! Пасля ўсе куры, свінні свае паказаў, пахваліўся, колькі мае новых кашуль і шкарпэтак. У лазню з паўсотні венікаў унад навязаў... Жонцы сарочак і трусоў, служачы за граніцай, пакупляў... Я вось як раз падыходжу да памеру таго адзення...

Я, слухаючы гэтыя абгаворы, адчуваў: можа, так усё і не было, бо Віцця можа цяпер і наўмысна шмат перакруціць. І сам сябе перасцерагаў: глядзі, Чэсь, не трапляй ёй на язык — каго-каго, а цябе, такога смелага і гаварлівага, яна зусім звядзе са свету!

...Сёння селі палуднаваць на новым месцы — на свежай зялёнай траве, у цяні ад вялікай разлапістай ды густой бярозы,— разгарнулі газеты, выклалі на іх усе свае стравы — хлеб, вараныя яйкі, сырое і

печанае сала, гуркі, малако ў бутэльках — і абселі «стол» з усіх бакоў, елі ўсе разам — як адна вялікая сям'я.

Першыя наеліся дзяўчаты, адышліся, разаслалі свае пінжакі ды курткі і палеглі на спіны, падклаўшы пад галовы рукі.

— Хай тлушчык завязваецца,— нікога не саромеючыся, пажартавала дужая, як мужчына, Гэлька і пагладзіла тугі жывот.— Толькі сёння не мяшайце падрамаць.

Усе ўсміхнуліся, бо кожны ведаў: так, як яна хоча, яшчэ не было ніколі і не будзе: заўсёды яны, дзяўчаты, просяць спакою і заўсёды хлопцы не даюць ім ціха паляжаць, лезуць да іх, дурэюць. Янкоўцы — ні Антон, ні я — не лезем, і дзяўчаты, калі хочацца ім адпачыць, хваляць нас, папікаюць надта нахабных Васіля, Войтуся, Жэніка, а другою парою, калі працуем, калі ідзе між намі даверлівая гутарка пра ўсё маладое, дзяўчаты тады чамусьці якраз папікаюць нас з Антонам, кажуць, што мы цельпукі, што да нас ні адна дзяўчына сама не прыгорнецца.

— Дадзім падрамаць, калі толькі пусціце прытуліцца...— усміхнуўся Васіль, першы з хлопцаў адвярнуўся ад «стала» і на каленях ды на руках папоўз да Гэлькі, лёг побач, і тая не ўцякала, дазволіла вялікую, нават нечуваную для мяне, вольнасць яго рукам. Праўда, пасля, калі яны, гэтыя рукі, «палезлі туды, куды ім няможна», Гэлька схапіла іх, сціснула, што Васіль не змог і вырваць — і між імі пачалася валтузня, ад чаго Васіль хутка апынуўся наверсе, трымаў раскінутыя ў бакі дзявочыя рукі, пачаў цалаваць Гэльку. Яна і са злосцю, і са смехам крычала, што ёй цяжка. Моршчылася, адварочвала твар, які разружовіўся да чырвані, як спелы памідор.

— Пусці, вой!— лямантавала Гэлька.— Злазь і ляж збоку крыцаю...

Ад гэтага зайздроснага піску пачалі ўхмыльвацца другія хлопцы: Войтусь, пасміхаючыся, падаўся да Ядзі, Жэнік — да Люсі, і яны гэтаксама пачалі гарэзна валтузіцца і качацца па зямлі. Дзяўчаты, вызваляючыся, здаецца, злаваліся, але так «сердавалі», што хлопцы ад іх не адыходзіліся, ліплі і молада, як ад агню, чырванелі.

— Хадзем, Гэлька, пашукаем ягад...— услых сказаў Васіль, усё яшчэ цалуючы яе ў шчокі ды цягнучы за руку, каб яна паднялася.

— Уга, пайдзі цяпер з табою!— зарагатала тая.— Дык добрую ягадку знойдзеш!

— Вой, які гадасны! Адлезь! — амаль у адзін голас вішчалі паблізу Ядзя і Люся.

Юзік, Антон — спакойныя, сарамлівыя хлопцы — адышліся ў зусім іншы бок і палеглі на спіны; я згарнуў газеты ў адну кіпку, падпаліў яе — каб не засмечваць лес. Бачыў, што Вікця сядзела, паклаўшы бараду

на калені, усміхалася. Глядзела спачатку на гарэзных дзяўчат і хлопцаў, пасля павярнулася і зірнула на мяне. Усміхнулася так міла, што ў мяне сціснула дыханне ў горле.

— Давай, Чэсік, пабарукаемся: хто дужэйшы...— нечакана сказала яна і махнула рукою, каб я падышоў да яе.

Я засаромеўся: яна лічыла мяне зусім маладым, роўным па сіле дзяўчыне. Не зважала, што ў мяне ўжо і пышная прычоска, і вусы растуць, што я, нарэшце, закончыў ужо школу.

— Хадзі, міленькі...— ужо як сур'ёзна папрасіла яна і, як убачыла, што сам я не падыду, падышла, узяла мяне за руку і пацягнула да сябе.

Трымаючыся за невялікую, але дужую цёплую яе руку, я запалымнеў ад сораму, не хацеў уставаць: брыдка барукацца з дзяўчынаю! Нібы нікога з хлопцаў я і не падужаю!

— Ды грымні ты яе, малец! — пажартаваў Васіль. Ён не толькі дурэў з Гэлькаю, але і бачыў, чуў, што робіцца вакол.— Хоць адзін з нас пабудзь на ёй, наверсе...

Я не змог выцерпець, што яна так доўга просіць, і падняўся, з сорамам усміхнуўся, затаптаўся на адным месцы, не ведаючы, як узяцца за дзяўчыну, а Віцця хуценька, што я не паспеў міргнуць, прыпала, хапіла мяне пад пахі, сціснула, перагнула ў паясніцы — і я, баючыся паваліцца на спіну, ледзь устаяў на нагах, перагнуўся, замахаў рукамі, хапіўся за яе трыко, пачуў, што з мяне смяюцца. А Віцця моцна ціснула мне барадою ў шыю, а ж скрыгітала зубамі, але сілы яе паволі слабелі, і я, ледзь утрымаўшыся, здолеў крутнуць яе ўбок — і цяпер ужо яна, саслізнуўшы цераз мой клуб, нахілілася, а я выпрастаўся, адчуваючы, што яна амаль вісіць на маіх руках. Каб хлопца, дык я гэтай хвілінай добра ляснуў бы спіною вобземлю, а Віцю з асцярогаю, але па-дужаму пераціснуў, толькі пачаў шукаць рукою зямлі, каб абаперціся і балюча не ўдарыць, не пабіць ёй спіны. Віцця, моцна перагнутая, не змагла ўтрымацца, упала на спіну, цягнучы мяне за сабою, і я разагнуў калені, каб не прыціспуць яе, упаў, знецойкі моцна націснуў грудзінай яе грудзі, што яна аж зморшчылася. Яна войкнула, аж зяхнула, і я, баючыся, што прыціснуў яе, хацеў хуценька ўскочыць, але яна нечакана абхапіла мяне за шыю рукамі, прыціснула, і я з хваляваннем адчуў пякучы дотык тугіх грудзей, жывата, сцёгнаў — нібы правялі па мне нечым гарачым. Віцця пацалавала ў шчаку, і шчака мая суха запалымнелася. Я з сорамам скаціўся, лёг побач, але не мог яшчэ вызваліць шыю.

— Ты самы лепшы за ўсіх... Я цябе люблю...— зашаптала Віцця, і я паверыў і не паверыў у яе шчырасць, але зусім разгубіўся: вось, вось

яно, каханне! — Сёння будуць у нас танцы, прыходзь. Буду танцаваць толькі з табою, вось паглядзіш...

Яна адпусціла рукі — і я мігам адскочыўся, як ад нечага недазволенага, грэшнага, сеў і з сорамам падумаў, што ўсе чулі яе гэтыя словы, усе бачаць на маёй шчацэ след пацалунка.

— Не ўцякай, паляжы ля мяне...— шапнула Вікця, паляпала рукою ля сябе на зямлі.

— Яшчэ адна будзе ахвяра любві...— уздыхнуў Васіль.— Ну і крывапіўка: нават дзіця не пашкадавала! Але глядзіце, людзі, хлапчанё, а як расчырванеўся! Чуе ўжо — халера — бабу... Зашумела маладая кроў...

Вікця міргнула, каб я не зважаў, але пасля такіх Васілёвых слоў я не магу не толькі прылегчы ля яе, але не магу ўвогуле тут быць: мне хочацца праваліцца скрозь зямлю. Але адчуваю, што Вікця мілая, добрая; так смяялася з усіх, бо ўсе залішне смелыя, недалікатныя, а я вось далікатны, і яна адчула гэта. І, можа, не толькі адчула, але і пакахала. Як і я яе. З першага позірку.

Усё ж які добры і мілы гэты наш свет! Як добра жыць у ім!

...На танцах у вялікім «смусаўскім клубе» Вікця — у чорнай кароткай спадніцы, у белай блузцы з маленькімі рукавамі, з пышнай прычоскай — была самая харошая з усіх дзяўчат.

Амаль цэлы вечар яна папраўду танцавала толькі са мною. Сама запрашала на дамскія вальсы, не адпускала, калі канчалі танцаваць, адводзіла мяне ў куток і абы пра што пыталася — я адказваў і добра не ведаў, што гаварыў ці добра гаварыў. Калі зноў пачынаўся танец і хто-небудзь з хлопцаў прыставаў да нас, яна ціснула мяне за локаць — і мы зноў ішлі танцаваць. Ад кружні, хвалявання я ўзмакрэў, ды яшчэ без толку, каб выглядаць больш стала і вабней, адзеў касцюм, кашулю і гальштук. Другім хлопцам, адзетым у штаны і лёгкія тэніскі, было нашмат вальней і лягчэй.

Я і радаваўся, што ўвесь час з Вікцяю, нікому яе, прыгожую, мілую, не аддаю, і трывожыўся, што вось-вось яна кіне мяне на насмешкі: бачыць жа маю таўкачаватасць. Збяжыць да некага другога, больш гаваркога, смелага: вунь колькі хлопцаў пазірае на мяне з зайздрасцю!

Як зайгралі развітальны марш, Вікця ўчапілася за маю руку і прытрымала, каб усе выйшлі. Толькі мы пасля ступілі ў сені-веранду, дзе звычайна перад пачаткам кіно стаіць кантралёр і прадае білеты, як патушылі святло. Я адчуў, што хлопцы, што стаялі тут, пачалі адпіхаць мяне плячамі, наўмысна наступаць мне на ногі — я ўжо, можа, і збянтэжыўся б, а то і збаяўся б тутэйшых задзірлівых

кавалераў, аддаў бы ім Вікцю, але яна з рашучасцю расштурхнула ўсіх, вырвала мяне з гурту, выцягнула на цёмны двор і прымусіла пабегчы, мінаючы маладыя пары, што ўжо расцягнуліся ад клуба да дзераўнянскай дарогі.

Вікця жыла гэтую пару, што працавала тут, на дарозе, ля БМУ ў прычапным вагончыку на колах: у адной палавіне спалі хлопцы, у другой — дзяўчаты.

— Не пойдзем туды,— прашаптала Вікця, прытулілася да пляча,— чуеш, колькі там стаіць скалазубаў? Будуць аціраццa да раніцы і лезці ў дзверы ды вокны. Я хачу з табой пагуляць...— І яна ўзяла за пальцы маю апушчаную руку, захінула яе сабе за спіну, а пасля прыціснула мае пальцы пад сваёю пахаю, і я, вось так неспадзявана абняўшы яе, адчуў тугую яе спіну, цвёрдую зашчапку ад статна, адчуў такое хваляванне, што мне стала і радасна, і трывожна, што здалося, што цяпер, ноччу, іду не па янкоўска-дзераўнянскай дарозе, а іду па нейкім невядомым казачным каралеўстве, іду з казачнай каралеўнай...

— Вельмі чакаеш выкліку ў інстытут?— мусіць, бачачы, што я разгубіўся, запытала Вікця, як мы павярнулі і пайшлі па блішчастай і ўночы янкоўскай брукавайцы.

— Чакаю,— прызнаўся я, неяк нялёгка вяртаючыся са сваіх мар на гэтую зямлю.

— А я два разы, Чэська, паступала і два разы правaліла...— уздыхнула Вікця.— Летась — у медыцынскі, а сёлета — на завочнае ў педагагічны. Сачыненні спляжылі... Так што не шанцуе ў навуцы. Няздара я, мусіць, нейкая...

Я дасюль не ведаў пра гэта, дык цяпер здзівіўся, што Вікця, меўшы столькі непрыемнасцей, усё ж заўсёды вясёлая, гарэзная.

— Але не трэба больш пра гэта...— як папрасіла яна і мацней прыціснулася да мяне, прыпынілася, зірнула мне ў твар.

Ці мне здалося ў цемені, што твар яе блізіцца, ці, заміраючы, я сам нагнуўся, але хутка нашы насы сустрэліся, размінуліся, і я адчуў яе халаднаватыя вусны. Ад першага ў сваім жыцці пацалунка я аслабеў, асмялеў і абняў яе за плечы, прытуліў, адчуў, як яна блізка і аддана прыціснулася грудзьмі. Адчуў, як пахнуць яе валасы, як мяне ўсяго захлынае нейкае дзіўнае мяккае жапочае цяпло.

— Задушыш...— ціхенька засмяялася яна.— Малады, але гэтакі дужы... Чаго маўчыш? Прызнайся: любіш? Ці не?

Я змаўчаў — не паварочваўся язык вось так ні з таго ні з сяго сказаць: я цябе люблю і вельмі моцна люблю.

— Не бойся, з другіх смяялася, каб яны з мяне не пасміхаліся ды што ўсе такія з доўгімі рукамі...— як угадаўшы мае думкі, сказала

Вікця.— З цябе не буду смяяцца. Ты гжэчны, не такі, як усе. Можа, нават і залішне ўжо нейкі далікатны, сарамлівы...

Я прамаўчаў. Але калі праз хвіліну мы зноў пачалі цалавацца, я пачаў шаптаць, што вельмі-вельмі кахаю яе...

...У панядзелак, калі толькі прыйшоў на працу (прыйшоў заспаны, бо і ў нядзелю позна гуляў з Вікцяю), з трывогаю ўбачыў, што Гэлька, Ядзя, Люся пазіраюць на мяне і хіхікаюць, таўкуцца ля Вікці, а яна ім нешта шэпча. У мяне прыпынілася, здаецца, ад страху і крыўды сэрца, не мог дачакацца, калі дзядзька Стась, які даўно ўжо прыехаў са Стоўбцаў, ад сям'і, ранішнім аўтобусам, скажа: «Ну, пара! Пайшлі на дарогу». Але брыгадзір сядзеў на камені, трымаў на каленях пераґнуты вучнёўскі сшытак і нешта пісаў.

— Малы, малы, а як упіўся, што клешч... І гне...— пачуў я, як Вікця шаптала дзяўчатам.— Ледзь абаранілася.

Твар мой раптоўна загарэўся, і яго, мусіць, заліла чырвань: чаму я гэтак паверыў, быў такі шчыры? Дзеля чаго яна і з мяне строіць такія кепікі? Чаму яна такая?

І Вікця, і дзяўчаты зарагаталі — аж узняў галаву і са здзіўленнем зірнуў на іх сур'ёзны дзядзька Стась, усміхнуўся. Я ж, здаецца, зненавідзеў у гэтую хвіліну Вікцю. Любіў і ненавідзеў...

3

Пайшоў на схіл жнівень.

За гэтую пару мы яшчэ далей выбрукавалі дарогу, а я атрымаў вельмі чаканы выклік у інстытут на вучобу.

Усе мяне, шчаслівага, павіншавалі з гэтым. Толькі адна Вікця, здаецца, пасумнела пасля гэтай весткі. Але я ўжо, як і Антон, не зважаў на яе, як і не чуў ды не бачыў, што яна робіць.

У апошні дзень маёй працы на дарозе дзядзька Стась прывёз мне пад вечар са Стоўбцаў плату, прэмію. Я думаў, як толькі распісаўся ў ведамасці і паклаў у кішэню грошы, развітацца з усімі і пайсці дадому, але хлопцы так мяне не адпусцілі.

Калі звечарэла, мы гуртам падаліся ў аблюбаваны лясок, паселі, разлажылі перад сабою пачастункі.

— Ну, вучыся добра, Чэсь,— першы сказаў тост дзядзька Стась,— А вучыцца будзеш: маеш старанне, цярплівы, цягавіты. А дарогу мы ўжо давядзём да ладу, будзеш некалі ездзіць па ёй дадому са студэнцкім чамаданчыкам па сала, дык успомні і нас, і нашу работу тут.

Пасля гаварылі амаль усе, жадалі мне добра вучыцца. Дзядзька Стась, як і ўсе, падпіў, развесяліўся, пачаў спяваць песні: да яго падсела Вікця, прымушала яго дапіваць, «не пакідаць зла». Яна з ім вы-

піла і на брудэршафт. І, як мне здавалася, сёння, каб захацела, магла і яго прымусіць заляцацца да яе: мела такую ўладу. Уладу красы.

Як усе наспяваліся, нажартаваліся,— а я крыху самотны ад ростані з сябрамі,— пачалі разыходзіцца. Я падаўся ў свае Янковічы з Антонам.

— Чэсь, пачакай! — тут жа пачуў я Вікцін голас.

Антон азірнуўся і мігам адвярнуўся, падаўся дадому адзін. Я не мог не прыпыніцца.

Вікця падышла, зірнула з нейкім смуткам. Яна, канечне, хацела мне нешта сказаць, але, мусіць, чакала, што загавару першы я, хлопец.

Але я маўчаў, пазіраў долу. На прыцемнены вечарам верас, на ўсыпаную рыжым шыгаллём зямлю, што пахла гарачынёю, смалой, мёдам, стомаю.

— Выбачай, Чэсь, не крыўдуй...— як папрасіла, усё ж першая загаварыла Вікця.— Я і сама не ведаю, чаму і цябе так пакрыўдзіла. Ты ж не такі, як каторыя, ты добры, а вот найшоў дур...— і зірнула на мяне з такою пяшчотаю, што я, каб быў старэйшы, смялейшы ды разумнейшы, можа, нічога і не сказаў бы, але ўзяў бы яе за руку — і ўсё-ўсё перамянілася б, было б у нас з Вікцяю нешта новае.

Я адчуваў, што гэтыя хвіліны вельмі важныя, але так і не здаўмеўся, што сказаць, не асмеліўся падысці да яе бліжэй. А яна — ці залішне паспадзявалася на маю сталасць, ці гэтаксама не асмелілася пасля ўсіх сваіх насмешак падысці бліжэй — стаяла, гэтаксама пазірала долу, наском кедаў шмаравала па зямлі, кусала сасмяглыя вусны. Ніколі я не бачыў яе такой нерашучай.

— Ну, я пайду даганяць Антона,— сказаў я, парушыў вельмі гнятлівую цішыню.— Усяго табе добрага.

— Напішы, Чэсь, мне...— папрасіла яна, зірнула на мяне, і ці ў прыцемку, ці напраўду я ўбачыў, што яе вочы як затуманіліся.— Я буду чакаць твайго пісьма. Як напішаш, як уведаю твой адрас, тады сама табе буду пісаць. Напішаш?

— Напішу,— адказаў я.

— Добра,— сказала яна, зноў з пянічотаю зірпула па мяне.

І я зноў не вытрымаў яе гэтага позірку, патаптаўся, пажадаў ёй яшчэ раз усяго добрага і пабег даганяць Антона.

4

...І вось зноў полудзень.

Толькі ўжо праз дванаццаць гадоў. І не ў вёсцы, не на дарозе Стоўбцы — Кляцініча, а ў Мінску, на Камароўцы.

Я, як і часта дагэтуль, зайшоў сюды купіць гуркоў ды памідораў у вясковых кабет.

Гандлярак, пажылых і маладых, было шмат, і яны наперабой заклікалі пакупнікоў узяць толькі іхняе дабро; тых жа таўклося яшчэ больш, але яны не спяшаліся купляць што-небудзь, а хадзілі натоўпам між радоў, прыглядаліся, прыцэньваліся.

— Бярыце, мужчынка, гурочкі, укропчык,— запрасіла і мяне яшчэ маладая, прыгожая, загарэлая кабета ў светла-жоўтай даўгаватай сукенцы,— большыя во па рублю кіля, меншанькія — па семдзесят капеек... Звязка ўкропчыку зусім дарэмна, па пятнаццаць...

Я запыніўся: хацеў паслухаць дарагую мне вясковую гаворку і хацеў непрыкметна яшчэ і яшчэ паглядзець на прыгожую кабету. Пачаў дзеля прыліку пазіраць на гладкі, пакрыты сашмараванаю бляхаю стол, на два сплеценыя з сасновага карэння і дзе-нідзе падладжаныя ўжо белым дротам кошыкі з ссунутымі на бакі старымі хусткамі: у кошыках зелянеліся гуркі. Свежыя, крамяныя, пахкія ад вятроў, сонца і расы.

Пасля, калі я агледзеў не толькі стол, гародніну, але і мазолістыя, крышку зеленаватыя ад травы гаспадыніны рукі, яе крышку паўнаваты ўжо жывот, які паказваў, што кабета ўжо раджала і не раз, высокія грудзі, доўгую прыгожую шыю, лыпнуў позіркам па загарэлым прыгожым твары — і мы пазналі адно аднаго: я — Вікцю, а яна — мяне.

Усміхнуліся, і, здаецца, абое абрадаваліся гэтай неспадзяванай сустрэчы: як-ніяк мы не бачыліся дванаццаць гадоў. Папісалі спачатку адно аднаму лісты, а пасля і гэтая перапіска раптоўна абарвалася: яна, Вікця, напісала, што выходзіць замуж.

— Чэсь?— усклікнула яна, заківала ад неспадзяванага дзіва галавою, пляснула па стале рукою, з захапленнем зірнула на мой дарагі шэры касцюм, белую кашулю і шыракаваты руда-чорны гальштук.

— Пастарэў?— ужо без разгубленасці, а смела, толькі крыху з хваляваннем усміхнуўся я, бачачы, што Вікця не толькі ўжо добра ўсталелася, але і пастарэла: ёсць вунь — і нямала іх — маршчыны ля вачэй, на лобе, страціла некалькі зубоў, замест іх паставіла залатыя, мае сур'ёзны, сталы позірк.

Не страціла толькі былой сваёй красы, а, наадварот, набрала яе, як кветка ў цяпло ды ў дождж, яшчэ больш.

— Чысценькі які во!— пажартавала яна, відаць, па-ранейшаму была смелай, гарэзнай, толькі і я цяпер быў не такі ўжо сарамлівы, легка вытрымаў яе позірк.— Не тое што мы, вясковыя. Ведама, у горадзе жывеш, лёгкую работу маеш. Чула, колькі раз чула, як

спраўна гаворыш па радыё... Журналіст... Пачую — сяду і паслухаю: ведаю ж чалавека, рабілі некалі разам, нават крышку ўлюбляліся...— і ўсміхнулася з сорамам, як за даўні свой грэх, і я не вытрываў, гэтаксама крыху засаромеўся.— Колькі раз бралася табе пісьмо на радыё напісаць, напомніць, што ёсць такая, але баялася, што смяяцца будзеш: мы ж людзі простыя... Куды там да вас...

— Дзе ты і як цяпер жывеш, неператможаная красуня? — запытаў я, не зважаючы на яе астатнія словы.

— Дзе?— паківала яна галавою.— На зямлі... І даўно пераможаная ўжо. Я тады, як ты пайшоў ад нас, зноў рабіла на дарозе, ля Стоўбцаў. Ой, колькі я таго камення папацягала! Яшчэ крыху быў дур у галаве, яшчэ кепікі строіла. І дажартавалася: наляцела на прыезджага шафера, і ён перажартаваў... Пасля не смяялася, а плакала, каб узяў...— яна нікога не саромелася, расказвала голасна, рэплікамі адказвала пакупнікам, колькі каштуе яе гародніна, злавалася, калі тыя нядобра гаварылі пра яе гуркі.— Жывём пад Мінскам на яго радзіме. Ён шаферам робіць, я на птушкаферме. Трое дзяцей гадуем, дом свой, гарод, соткі маю. А ты?

— Думаеш, я да трыццаці ўсё яшчэ хаджу халасты?— усміхнуўся я.— Ці так і не здолеў перамагчы якой красуні?

— Ну, не...— зачырванелася яна.— Дзяўчат жа хапае... Ды цяпер гэтулькі многа пекненькіх дзяўчат. Каб і я разумнейшая некалі была, дык цяпер магла б быць жонкай такога важнага чалавека, у горадзе — пры газе, цёплай вадзе — жыла б... Але папікаю сябе і не папікаю: ты ж маладзейшы ды вучаны... Агледзеўся б некалі, мог бы яшчэ і не ўзяць. А са сваім мы абое рабое...

Я гэтаксама ўсміхнуўся: што было б, каб гэтая вось Вікця была маёй жонкай. І, можа, зусім іншае жыццё было б. А якое — цяжка і сказаць.

— Пэўне, бабы надта любяць: ладны ж?.. З такім і не грэх паўлюбляцца...

— У мяне і жонка ладная, дзеці харошыя,— адказаў я.

— Ведаеш...— ціха прашаптала яна,— каб зноў выпала калі з табою падужацца, дык, далібог, сама паваліласяб... Было не было...— і гарэзна бліснула маладым бляскам у вачах.— Пастарэла, растраціла малады агонь на дзеці, але не ўвесь яшчэ дур з галавы выйшаў... Помніш, якая я тады была? Дык і цяпер пачці гэтакая...

— Калі ўжо тое было! — махнуў я рукою, падумаў, колькі за гэтую пару было ўжо чаго новага і вартнейшага.— Ды і дзяцінства было!

— Ну, чаму дзяцінства?— не згадзілася яна,— Маладосць была. Самыя лепшыя нашы гады, можа... Цяпер мы інакш жывём, надта

пра ўсё думаем, а тады іначай жылі... Вось жывеш-жывеш — возьме ды ўспомніцца, заные душа, захочацца нечага лепшага...

— Гэта праўда,— усміхнуўся я.— Напраўду не раз хочацца нечага інакшага.

— Мне — хоць бы тваё...— сказала Вікця, а пасля як спахапілася: — Занясі сваім гурочкаў...— узяла абедзвюма рукамі з кошыка гуркоў, запатрабавала, каб я разгортваў і падстаўляў сетку.— Нарасло процьму, дык вот і прадаць рашыла, капейку на што сабраць. Не крыўдзі...— нахмурылася, калі я загаварыў пра плату.— Ешце на здароўе... А сам прыедзь калі ў нашу Сенніцу, саўгас наш добры, багаты — і напішаш нешта, і па радыё сваім зможаш сказаць добрае пра нас. Сазановіч цяпер я, на птушкаферме працую... Тады яшчэ болей пагаворым...

— Паглядзім...— падзякаваўшы, усміхнуўся я, развітаўся і адышоўся.

Калі пасля азірнуўся, дык убачыў, што Вікця не кліча да сябе пакупнікоў, а стаіць і з нейкаю журбою пазірае мне ўслед.

1976

## СТРАТА

### 1

Як цяпер, помню: Бокуці прыехалі ў нашу вёску ўвосень. У разлагоджаную, ціхую і сонечную часіну — у самае красаванне бабінага лета.

Казалі, дагэтуль Бокуць-бацька працаваў у горадзе, быў на добрай пасадзе, але сам папрасіў, каб яго назначылі дырэктарам нашага саўгаса. Разам з ім заявіліся яго жонка і двое дзяцей, хлопчык і дзяўчынка.

Дзяўчынка, Валя, была яшчэ маленькая, мела ці не тры гады, а хлопчык, Міця, быў мой аднагодак, як і я, пяцікласнік.

Міця адразу выдзеліўся сярод янкавінскіх падлеткаў. Ужо нават тады, калі выходзіў з таксі, шпацыраваў з маці ды з сястрою па вёсцы альбо калі ішоў першы раз у школу. На дварэ шчадрыўся яшчэ пышным цяплом верасень, мы, янкавінскія дзеці, былі яшчэ ў касцюмчыках, а Міця апрануў ужо руды плашчык, начапіў на шыю шалік адпаведнага колеру, на галаву — карычневую кепачку з чорным гузікам наверсе, нёс у руцэ не ранец, як насілі мы, а пакоўны чорны скураны партфель з металічнаю акоўкаю на рагах. І яшчэ Міця быў у акулярах, надзвычай белы; амаль усе гараджане, што прыязджалі да

нас, мелі не чырвань ці ружовасць, як мы, вясковыя, але такой белізны на твары дасюль мы не бачылі ні ў кога.

Адмысловае адзенне, партфель, акуляры рабілі Міцю сур'ёзным, разумным і сталым — ледзь не малараслым дзядком. Усе ў вёсцы, хто спатыкаў яго на вуліцы, здзіўляліся, азіраліся не то з усмешкаю, не то з пачцівасцю на такога незвычайнага вучня, які ішоў у школу не адзін, а з маці, трымаючы яе пад руку. Кабета таксама мела на сабе адмысловыя, гарадскія, уборы — светлы плашч, жоўтую касынку на шыі, жоўтыя туфлі. На галаве ў яе красавалася прыгожая завіўка.

Міця з маці спачатку зайшлі ў настаўніцкую, а пасля ўжо наша класная кіраўніца прывяла навічка ў пяты «А». Як і заўсёды перад пачаткам урока, мы бегалі, штурхаліся, гаманілі, але пры Ірыне Вітальеўне і навічку пацішэлі, бачачы, што дырэктараў сын будзе вучыцца якраз у нашым класе: сын ранейшага дырэктара саўгаса, ганарлівец Артур, таксама вучыўся разам з намі і нямала папсаваў нам ды настаўнікам крыві. Які ж будзе гэты навічок, як ён пачне паводзіцца? Я здзівіўся, можа, больш за ўсіх: класная сказала, што Міця Бокуць будзе сядзець са мною на першай парце (мяне пасадзілі тут як летуценнага, не зусім уважлівага вучня, каб я заўсёды быў на вачах і каб пастаўнікі ў любую часіну маглі перапыняць мае марымроі ды вяртаць да рэчаіснасці).

Калі пачаўся ўрок, я адчуў нейкую нядобрую насцярожанасць. Міця не толькі не загаворваў, але і зусім не зважаў на мяне; паклаўшы, як першакласнік, рукі на парту, выпрамлена сядзеў і не зводзіў вачэй з маладой настаўніцы беларускай літаратуры. Ці ён задзіраў па прыкладу свайго папярэдніка нос (усё ж гараджанін, дырэктараў сын, вунь адзін з усяго класа мае на руцэ гадзіннік!), ці хітраваў, ці на самай справе быў сур'ёзны, глыбакадумны. Я час ад часу скасавурваў на яго вока, але ён па-ранейшаму быў непарушны, толькі, бадай, яшчэ болей ненатуральна белы, нібы не меў у сваіх жылах ні кроплі крыві.

Калі настаўніца задала нялёгкае, нават цяжкае для ўсяго класа пытанне, дык сярод нас не шмат знайшлося ахвотнікаў адказаць. Але Міця падняў руку, здаецца, не задумваючыся.

— Калі ласка, новенькі, адкажы,— усміхнулася настаўніца.

Ён устаў і, хвалюючыся, пачаў гаварыць. Гаварыў ціха, але абдумана, ясна і, галоўнае, як мне здалося, вельмі глыбока, нібы настаўнік. Я з нейкаю нават трывогаю адчуў: не, я так добра не адказаў бы, хоць быў, як казалі, «харошы» вучань. І Янка, наш круглы выдатнік, бадай, таго не ведае.

— Ды ты выдатна ведаеш тэорыю літаратуры, паэтычныя памеры! — усклікнула ўражаная маладая настаўніца.— Звычайна вучні гэта знаюць слаба.

— Я і сам пішу вершы...— прызнаўся, сумеўшыся, Міця. Іншы вучань, канечне, у такую хвіліну ўспыхнуў бы чырванню, як паспелы памідор, а колер Міцевага твару амаль не змяніўся; толькі сям-там на шчоках заружовіліся тоненькія жылачкі.

— Дык ты, можа, прачытаеш тое-сёе сваё зараз? — напрасіла настаўніца.

— Не,— збянтэжыўся той.— Я пасля... Сшытак свой пакажу... Я якраз пішу па-беларуску...

— Малайчына! — пахваліла здзіўленая настаўніца.— Я з задавальненнем пачытаю твае вершы.

Пасля гэтых слоў у мяне, сказаць шчыра, аж сціснулася, замерла сэрца: вунь яно што! Міця — паэт! Вось чаму, мусіць, ён носіць акуляры, плашч, кепку, партфель! Паэт, відаць, не як усе — незвычайны. Ва ўсім. Міця, хоць і падлетак яшчэ, ужо таксама незвычайны. Можа, і таму, што гарадскі, больш і лепш нешта ведае. І я ад Міцевай перавагі востра адчуў сваю мізэрнасць. Я не маю такога гарадскога адзення, абутку, не ўмею так прыгожа гаварыць, хоць таксама пішу вершы, тое-сёе з іх надрукавалі ўжо ў школьнай насценнай газеце, але цяпер, можа, гэты навенькі адным якім вершам заслоніць мяне. Бадай, грэх — зайздросціць вельмі заўзята ці мець да шчасліўца непрыязь, але не так і лёгка адолець свае ўзбуджаныя пачуцці. Як я ні затаіўся, але, мусіць, настаўніца заўважыла маю рэўнасць, мае пакуты, бо неяк нязвыкла ўсміхнулася, паківала галавою.

Тут жа, калі Міця пераможна, як герой, сеў, здарылася на першы погляд непрадбачанае, а на самай справе звычайнае для нашага класа і, можа, для ўсіх вучняў нашага ўзросту: нехта з задніх парт запусціў у Міцю кавалачак гліны. Камячок уцэліў Міцю ў вуха; ён уздрыгнуў, але не падхапіўся, не азірнуўся, а ўціснуў галаву ў плечы. Я аж пазлараднічаў: так табе, выхваляка, і трэба! Ведай, што ганарыцца вельмі не варта! Яшчэ праз хвіліну я заўважыў, што па яго белай шчацэ пакацілася буйная слязіна. Значыць, здагадаўся я, гэты навічок — не ганарлівец ды задзірака, як сын ранейшага дырэктара саўгаса, а цяльпук. Як і наш аднакласнік Антон, які таксама не ўмее абараніцца, плача, калі яго хто-небудзь пакрыўдзіць.

Настаўніца заўважыла і кінуты камячок, і Міцевы слёзы.

— Хто зняважыў навічка? — ціха, але строга, спахмурнела запытала яна, здаецца, найбольш пазіраючы туды, дзе на апошняй парце на нашым радзе сядзеў пераростак Віця Шпак.— Ты, Віця?

— Не,— загуў той.— Чаму гэта ўсё я ды я вінаваты, калі што якое?!

— Нельга так, дзеці,— сказала настаўніца.— Трэба не засмучацца, а радавацца, што ў наш клас прыбыў добры вучань, выдатнік. Ад гэтага ўсім нам будзе толькі карысць.

Прамовіла і пільна зірнула мне ў вочы. Я не вытрываў яе красамоўнага позірку, апусціў галаву і густа пачырванеў: раптоўна мне стала горача ў шчокі.

## 2

У вольны час мы любілі гуляць у футбол. Любілі — нават не тое слова; лепш сказаць, мы самаахвярна, адрынута ад іншых захапленняў і ўцех ганялі мяч, адчуваючы велізарную страсць у гульні, забітых галах, у перамозе, а таксама адчуваючы моцную горасць ад прапушчаных галоў і прыкрых паражэнняў.

Нашы бацькі часта наракалі на такую нашу заўзятую захопленасць, бо мы хутка збівалі свой абутак, дралі адзенне, бывала, і скалечваліся, пераставалі быць памочнікамі пры доме — а, як усе ведаюць, работы па гаспадарцы ў вёсцы вельмі шмат, бацькі самі ўсяго перарабіць не могуць. Для нашых бацькоў было, канечне, мала толку ад таго, што мы дацямна бегалі па футбольным полі, галёкалі, перажываючы то горыч, то прыемнае ўзрушэнне, але для нас, кажу, у гульні была вялікая радасць: мы не толькі загартоўваліся, але і добра навучваліся гуляць у футбол, усё часцей і часцей абыгрывалі футбольныя каманды з суседніх вёсак.

Вось і тады, неўзабаве пасля школы, да мяне зайшлі мае сябры Янка, Віця. Мы зашылі ў мячы дзірку (ні суравыя ніткі, ні дратва не вытрымлівалі нашых бязлітасных удараў па сухім ці мокрым мячы, ірваліся), напампавалі паветра і рушылі на футбольнае поле.

У Засценку я заўважыў у садзе Міцю.

Бокуці пачалі жыць у хаце нашага чалавека, які на час аддаў саўгасу сваю гаспадарку і паехаў з сям'ёю на цаліну. У ранейшага гаспадара быў вялікі сад, дык вось цяпер на зялёнай атаве на поплаўчыку пад ачахла зеленаватаю яблыняю антонаўкаю, пад якой ляжала нямала апалых яблыкаў, і быў Міця. У кепачцы, у плашчыку, ён сядзеў на нейкім дзіўным, здаецца, сплеценым ці то з карэнняў, ці то з дубцоў крэсле, гайдаўся ўперад-назад, трымаючы на каленях загорнутую кнігу. Вочы яго былі заплюшчаныя, твар задуменны — ён шчодра

быў асветлены ўжо нізкаватым, крыху жоўтым, блеклым, але ўсё яшчэ лагодным сонцам. Увесь зялёна-рудаваты сад быў азалочаны мяккім, пяшчотным і ў той жа час развітальным сумнаватым святлом. Восеньскія жаўтавата-рудыя ці чырвоныя мазкі на лісцях, на траве, а таксама паніжэлае, засмяглае неба, астылае сонца, лёгкае белае павуцінне ў паветры, апусцелыя палі — усё гэта выклікае ў душы харошую журботу. Міця, відаць, у гэтыя хвіліны якраз і быў у палоне нейкай узнёсласці ці занепакоенай задумлівасці.

Янка і Віця зірнулі на яго з вясёлым здзіўленнем; я душою адчуваў, што Міцю цяпер няможна непакоіць, але палічыў, што, можа, будзе лепш, калі паклікаць Міцю ісці разам з намі. Усё ж ён наш аднакласнік.

— Міця! — бадай забыўшыея пра сваю нядаўнюю рэўнасць, а таксама збянтэжанне, паклікаў я. Дзеці, як усе ведаюць, даволі хутка забываюць свае гаркоты, пакуты і слёзы, хутчэй, чым дарослыя, становяцца жыццярадасныя.

Міця ўздрыгнуў. Адплюшчыў вочы, учапіўся за ствол яблыні і запыніў крэсла. Хоць і быў на дварэ, але ўсё роўна твар, рукі яго бялеліся, быццам злепленыя са снегу.

— Хадзем з намі гуляць у футбол,— запрасіў я.

— Дзякую,— падняўся, прамовіў Міця.— Я яшчэ не ўсе вывучыў урокі.

— Ды нічога ж цяжкага не задалі,— сказаў я.— Усё лёгкае.

— Усё, самае і лёгкае, трэба вывучыць, зразумець вельмі ясна,— без крыўды, але па-сталаму сур'ёзна адказаў той.— Вывучыш, зразумееш — навучышся думаць, разважаць, усё будзеш схопліваць на хаду. Мозг свой трэба трэніраваць змалку.

— Ад вялікага розуму галава баліць...— уставіў слова пераростак (пяцікласнік-другагоднік) Віця, як кажуць настаўнікі, «заядлы абібок, вораг навукі».

Міця на гэты жарт нічога не адказаў, нібы і не пазважаў — як сталы ўжо чалавек.

— Хадзем,— зноў наклікаў я.— Калі не хочаш быць абаронцам ці нападаючым, дык можаш стаць варатарам. У нас якраз няма яго.

— Я не ўмею гуляць у футбол,— нечакана прызнаўся Міця і, здаецца, нават крыху збянтэжыўся. Можа, і за тое, што яго могуць палічыць за нейкага хліпака, а не за мужчыну.— А па-другое, мне няможна бегаць, цяжка падымаць. У мяне лейкоз...

Я, канечне, як і мае сябры, не зразумеў, што такое лейкоз, але чамусьці ўсцешыўся, што не ўсё здольвае і ўмее наш навічок-выдатнік. Вось, бачыце, у такую прыгожую і захапляльную гульню, як

футбол, гуляць не можа. А сапраўды, які гэта ты хлопец, мужчына, калі не ўмееш гуляць у футбол?

— Дык, можа, пабудзь у нас за суддзю...— паблажліва прамовіў я.

— Дзякую,— зноў пачціва адмовіўся Міця.— Я не ўмею і судзіць, бо не знаю правілаў. Гуляйце без мяне. Я яшчэ крыху пасяджу ды пайду ў хату.

— Беленькі... Смятаннік! — як мы адышліся, пакпіў Віця.— Сынок-пястунчык...

Я адчуваў, што Віця залішне зласлівы, але не заступіўся за Міцю. Бо не думаў асабліва пра гэта: усе думы былі пра футбол. Але нейкі гаркаваты след на душы застаўся.

Увечар, калі я, стомлены, вярнуўся дадому, дык якраз маці і бацька гаварылі ў хаце пра прыезджага дырэктара саўгаса.

— Надта ж белы іх хлопец,— пахітала галавою маці.— Мусіць, надта хворы ён.

— Кажуць, белакроўе ў яго,— адказаў бацька.— Не жылец ён на гэтым свеце. Рана-позна памрэ.

— Божа мой, божа! — забедавала спагадная маці.— Такі ж маладзенькі, ветлівы і, як кажуць, разумны, сталы, а гэтакі нешчаслівы... Вот гора дык гора для бацькоў...

Чуючы гэта, я, канечне, не ўсё разумеў, не так глыбока адчуваў Міцева і яго бацькоў няшчасце, як адчувалі мае маці і бацька, але і дзіцячым сэрцам усвядоміў: не буду злы, няшчыры ці помслівы да Міці. Нейкая незразумелая мне самому пяшчота да хворага навічка агарнула маю душу, здаецца, напоўніла яе нечым новым, больш змястоўным.

## 3

На ўроку матэматыкі, калі мы рашалі задачу, Міця нечакана нахіліўся да мяне.

— Давай, Стась, выйдзем на двор,— ціха прашаптаў ён.— Мне блажыць.

Падняўшы галаву, я ўбачыў: твар яго не толькі звыкла белы, але цяпер яшчэ і стомлена-спакутаваны, з нейкім ценем цяжкога болю ды страху.

Мы папрасіліся ў настаўніка і падаліся з класа.

— Калі я ўпаду раптам, дык ты не бойся,— сказаў ён.— У мяне часта кружыцца галава, бывае млосць, а то нават ідзе з носа кроў. Здараецца, зусім трачу прытомнасць.

Гэтая сталая гаворка пра страшныя выпадкі напалохала мяне, і я аж разгубіўся. Бадай, упершыню сваім яшчэ дзіцячым сэрцам адчуў

тое, пра што раней, бадай, і не думаў, а калі і думаў, дык з не такім усведамленнем,— пра смерць. Адчуў яе пагрозны подых. У мяне аж сціснулася душа: сапраўды, як кажуць мае бацькі, чаму Міця, шчыры, далікатны, разумны хлопец, такі нешчаслівы? Адкуль, навошта прычапілася да яго такая страшная хвароба? Чаму яна ўвогуле ёсць? Я задаваў сабе гэтыя і іншыя пытанні, канечне, не знаходзіў на іх адказ, і гэта вельмі прыгнятала мяне. Здавалася, каб сказалі, што для Міцевага вылячэння трэба нешта аддаць — руку, нагу, вока,— дык я аддаў бы не задумваючыся. Я адчуў вялікі, небывалы дагэтуль прыліў спагады і шкадавання.

На дварэ, сонечным, але ветраным і пасцюдзянелым ужо, Міця запыніўся, прытуліўся да сцяны. Ногі і рукі яго трымцелі і, канечне, не ад холаду.

— Можа, на свежым паветры палягчэе,— прамовіў ён.— Можа, не самлею.

— А можа, я скажу настаўнікам, што табе блага? — запытаў я з трывогаю.— Няхай яны выклічуць па тэлефоне ўрача з Дзераўной.

— Не, не трэба,— адказаў ён.— Ніякі ўрач, нават прафесар ці акадэмік, мне надта не паможа. Я ў «Медицинском справочнике» вычытаў, што мая хвароба невылечная. Ніхто яшчэ не ведае, адкуль і чаму яна бывае, як яе лячыць...— дрыготкаю рукою дастаў з кішэні пінжака два невялікія пачкі з надпісамі на незразумелай мне мове, адчыніў іх і ўзяў з кожнага ў рот па адной белай таблетцы.— А падругое, ніхто не павінен ведаць, што я такі хворы... З-за гэтага мы нават пераехалі сюды... Таму я папрашу цябе: не гавары, калі ласка, нікому, што ты пачуў і ўбачыў. Я цябе паклікаў, бо думаў: упаду, як падаў ужо. Ды я табе веру...

Я падакляраваў, што буду маўчаць, не расказваць Міцевай тайны, хоць яна ўжо не была тайнай для нашай вёскі. Нехта быў у горадзе, неяк уведаў усё пра Бокуцяў і расказаў янкавінцам пра страшную Міцеву хваробу.

Неўзабаве, калі Міцю палягчэла, мы вярнуліся ў клас. Я з той часіны глыбока ў душы пачаў насіць Міцеў цяжкі сакрэт.

## 4

Мінула пагодная, а пасля і дажджлівая восень, насталі сіберныя халады.

Міця скончыў першую чвэрць лепш за нас усіх — толькі на «моцныя», як казалі, пяцёркі, пахадзіў пасля канікулаў у школу яшчэ крыху, недзе да паловы марознага, гурбістага снежня і нечакана злёг у пасцель.

У яго часта, па некалькі разоў на дзень, пачала здарацца непрытомнасць альбо ішла з носа ці рота кроў: ён схуднеў, абяссілеў, аж пасінеў — з ложка не ўставаў.

За восень я прывык да стрыманага, крыху дзікаватага, але шчырага суседа па парце, дык цяпер кожны дзень прыходзіў да яго. Мы рабілі разам урокі, чыталі кнігі ці доўга гаварылі пра раней прачытаныя раманы і аповесці, бывала, нават і спрачаліся — кожны з нас па-свойму разумеў тое, што было апісана ў прачытанай кнізе. Найбольш хвалявалі нас кнігі Аляксандра Дзюма, Жуля Верна, Джэймса Купера, Марка Твэна, Гарыет Бічэр-Стоў, Майна Рыда, Чарльза Дзікенса, Данізля Дэфо, Пушкіна, Талстога, а з нашых, беларускіх, пісьменнікаў — аповесці «Дрыгва» Якуба Коласа, «Міколка-паравоз» Міхася Лынькова і ўсе творы Янкі Маўра. Гэта значыць, нас вабілі прыгоды, небяспечныя, але цікавыя падарожжы ў незнаёмыя краіны, пошукі скарбаў, сутычкі з ворагамі, пагоні, подзвігі, высакародныя пачуцці, пазнанне свету, што быў далёка ад нас. Мы нават павыбіралі і прысвоілі сабе імёны, мянушкі герояў, што нам найбольш спадабаліся. Жартуючы, за вочы давалі іншыя імёны, мянушкі і нашым аднакласнікам. Ні Міця, ні я тады нават і не здагадваліся, што цікавае ёсць і паблізу нас: чамусьці здавалася, што яно, цікавае, было і ёсць толькі недзе далёка, а вось тут, на нашай зямлі, яго ці няма, ці ёсць вельмі мала. Яшчэ чыталі мы адзін аднаму свае вершы, правілі іх альбо нават і разам складалі доўгія ці кароценькія вершаваныя творы для нашай новай насценнай газеты. Трэба шчыра прызнацца: у Міці ўсё выходзіла хутчэй і лепш: ён і спрытней знаходзіў патрэбныя словы, рыфмы, і ясней, ямчэй выяўляў думку, і ўмеў сказаць пра звычайнае неяк вельмі ж незвычайна, хораша. Я часамі аж не даваў сабе веры: няўжо Міця ўсё гэта прыдумляе сам? А па-другое, уражваўся, што ён, мой аднагодак, думае зусім іначай, чым я, нібы зазірае ўжо туды, куды я яшчэ зазірнуць не магу. Адыходзячы дадому, я браў яго сшыткі і назаўтра заносіў іх у школу, а пазней ужо іх, правераныя настаўнікамі, прыносіў Міцю.

## 5

На дварэ шалее завіруха (вые ахаладжаны вецер, бяжыць па заснежанай зямлі няўцямная замець, насыпаецца ў гурбы снег вакол плота і прыбудоў), але ў Бокуцевай хаце не холадна. Пакаёўка, цётка Гэля, яшчэ, мусіць, з раніцы напаліла стаяк, дык у хаце нават горача. За стаяком аж зазумкала ад цеплыні адна з самых неспакойных і шустрых мух, мусіць, падумаўшы, што прыйшла ўжо вясна.

Я сяджу на крэсле каля ложка, а на ложку ляжыць накрыты коўдраю Міця. Пад яго галавою горка падушак, падушка ляжыць і на яго грудзіне. На ёй — разгорнуты сшытак. Мы рашаем задачу — на пяць ці шэсць дзеянняў. Калі я не пачуў Міцевага голасу, падняў галаву, адарваўшы позірк ад свайго сшытка, што ляжаў на каленях, дык убачыў: Міця, закінуўшы галаву, ляжыць з заплюшчанымі вачыма. Лоб, шчокі яго ссінелыя, вочы запалыя, вусны пасмяглыя і таксама быццам пасінелыя, шыя худая, з вострым кадыком. Краёк грудзіны, што відаць праз расхінутую ля горла кашулю, белы-белы, як вымазаны крэйдаю.

— Давай крыху адпачнём,— ціха прашаптаў Міця слабым голасам.— Вельмі кружыцца галава. Можа, і ад таго, што ў хаце горача і я даўно ўжо выходзіў на двор.— Перадыхнуў, а пасля папрасіў: — Толькі ты сёння маму не кліч... Ёй і так цяжка... Трэба яе пашкадаваць...

Я, канечне, не ведаю, чаму Міцю раптоўна становіцца блага, але гэтая раптоўнасць заўсёды ашаламляе мяне: у апошні час яна ўсё часцейшая і страшнейшая. Мусіць, вось і зараз хлыне з носа ці горла кроў. Тут жа, бачу, Міця хапае з-пад падушак белы ручнічок, затульвае рот і паварочваецца на бок. Сэрца мае сціскаецца ад болю: ну, чаму Міця так пакутуе, чаму і за што так яго нехта пакрыўдзіў, не даў здароўя?

Усё ж, думаю, трэба выйсці і паклікаць Міцеву маці, цётку Веру. Але я не паспеў нават падняцца, як яна, нібы адчуўшы душою бяду, заходзіць сама і подбегам кідаецца да ложка.

— Сыночак ты мой бедны...— як і кожны раз, пачынае плакаць яна. Бярэ ручнічок, выцірае сынавы вусны, шчаку і шыю. Ручнік усё больш і больш робіцца чырвоны, і гэтая непажаданая яркая пляміна на ім коле вочы.— Можа, каб ты не напружваўся, дык усё было б добра. Не старайся ўжо так, сыночак, не адстаць ад іншых. Паправішся — хутка ўсё нагоніш. Ты ж кемны хлопчык.

Міця павярнуўся, лёг на спіну і заплюшчыў вочы. На яго лбе расою выступіў пот. Я адчуваю: мне трэба пайсці адгэтуль, пакінуць Міцю ў спакоі. Без мяне ён, можа, не будзе больш ні чытаць, ні пісаць, а прысне, адпачне.

— Стась, пабудзь яшчэ,— адчуўшы мой рух, ціха прамовіў Міця.— Зараз мы кончым рашаць задачу.

— Пабудзь, Стасік,— просіць услед за сынам і цётка Вера, садзіцца на ложку ля сынавых ног.— Толькі вы не рашайце ніякіх задач. Пасядзіце, адпачніце. А я вам зараз тое-сёе падсілкавацца прынясу.

— Не, мама. Задачу мы ўсё ж павінны кончыць рашаць,— не згаджаецца Міця.— А падсілкавацца сапраўды прынясі, калі ласка.

— Добра, сыночак,— кажа цётка Вера, выходзіць з залы і праз хвіліну вяртаецца з падносам. На ім у вазе горкаю ляжаць буйныя чырванабокія яблыкі, жаўтаватыя апельсіны (іх, апельсіны, я ўпершыню ўбачыў і пакаштаваў тут, у Бокуцяў), побач два кубкі з чаем, дзве лустачкі булкі, з маслам і чорнаю ікрою.

Мне і сёння няёмка: па-першае, як ні дакараю сябе, а з прагаю пазіраю на гэтыя дзівосныя цяпер, зімою, дары, а па-другое, ёсць адчуванне, што цётка Вера болей радавалася б, каб гэтак ахвотна і апетытна еў усё, як і я, і Міця. Ён звычайна есць мала, нібы праз сілу, хоць яго бацька дастае яму ўсё, што ён толькі не зажадае.

— Ешце, хлопчыкі,— кажа цётка Вера, падае Міцю, а пасля і мне чай і лустачкі.— Гэта ўсё дужа спажыўное.

Сказаць шчыра, чай я піў рэдка (піў малако ці ваду з вядра), гэтую ікру недалюбліваў за яе кісласць (у тыя разы, бывала, і згортваў яе ўпотай пальцам з лустачкі, выкідаў), але цяпер узяўся сілкавацца, каб і ўталіць голад, і паддаць апетыту Міцю. Раней я першы з'ядаў усё, а цяпер стараюся не спяшацца, хоць яблыкі, якія дасць цётка Вера пасля, мяне вельмі вабяць. Я адзін з'еў бы іх усе на гэтай вазе.

— Даядай, сыночак,— просіць цётка Вера,— не адставай ад Стасіка. Дык і ты будзеш гэтакі здаровенькі, крэпенькі, ружовенькі.

Пазней, калі мы перакусілі, рашылі задачу, я заспяшаўся дадому. Цётка Вера выйшла мяне праводзіць.

— Дзякую, дзіцятка, што ты прыходзіш, памагаеш Міцю, разганяеш яго сум,— прамовіла яна, прытрымаўшы мяне на ганку. Паклала мне руку на плячук, прытуліла.— Я і не ведаю, што мы без цябе рабілі б. Міця так прывык да цябе, так чакае...— усхліпнула.— Хоць ты і малы яшчэ, не ўсё разумееш, але ведай: Міцю нашаму вельмі блага... Дзяды, бацькі нашы, я, Мікалай Іванавіч — усе мы, дзякуй богу, здаровыя, а вось да Міці чамусьці прычапілася гэткая страшная хвароба... Ён змалку хварэе і хварэе, не бачыць дзяцінай уцехі, стаў дарослы... Ён усё ведае пра сябе, але, як сталы, умудроны які чалавек, трымаецца з усіх сіл, хоча быць такі, як і ўсе здаровыя дзеці... Сам бачыш: хвароба не зрабіла яго злым ці сумным. Наадварот, у яго гэтулькі дабрыні, шчырасці, што аж душа баліць: такі добры чалавек быў бы... Ён жа ўжо адабраў са сваёй бібліятэкі кнігі, а таксама асобныя свае дарагія яму рэчы, цацкі і наказаў *пасля* аддаць табе... На памяць...— Замаўчала, затуліла твар рукою, здаецца, мацней прыціскаючы мяне да сябе. Падштурхнула.— Ну, бяжы. Будзь здаровенькі, разумны, шчаслівы. Заўтра зноў прыходзь, калі ласка. Мы будзем цябе чакаць. Я сёння гаварыла з тваёй маці, яна дазваляе, каб ты прыходзіў да нас, рабіў разам з Міцем урокі...

Расчулены словамі, а найбольш тым, чаго недагаварыла цётка Вера, а таксама яе болем, я пабег у зімовы цёмны вечар, адчуваючы, што нешта мяняецца і мяняецца ў маёй душы, прыходзіць тое, чаго я раней ці не ведаў, ці ведаў не ў такой меры.

**6**

Пад цяпло, перад маем, Міця памёр.

Хавалі яго мы ўсёй школай на нашых вясковых могілках, плакалі разам з дарослымі, шчыра шкадуючы, што пайшоў ад нас такі добры, але нешчаслівы хлопчык. Бокуці пазней, пасля пахавання, перадалі мне ўсё, што наказваў Міця. Я і сёння берагу тыя кнігі, што мы некалі любілі чытаць, а таксама Міцеву кепачку, яго пенал і любімы компас. Берагу як памяць, як даўнюю і, можа, яшчэ няздзейсненую мару.

Прыязджаючы з горада, я кожны раз заходжу да Бокуцяў. Яны, цяпер пенсіянеры ўжо, сівыя дзед і баба, засталіся назаўсёды жыць у нашых Янкавінах, каб быць паблізу свайго любімага сына. Заходжу я і на могілкі, падоўгу стаю ля агароджы і помніка — з яго з лёгкаю журботнаю ўсмешкаю пазірае на мяне па-ранейшаму маладзенькі Міця, можа, здзіўляючыся, што я пасталеў ужо, нават крышку пасівеў і стаміўся.

Часамі, калі мне бывае нялёгка на душы, калі мне нехта зробіць прыкрасць ці калі я сам ашукаюся альбо зраблю ганебны ўчынак, я думаю: жыў бы Міця, дык ён памог бы мне лепш ва ўсім разабрацца. Нямала ў мяне знаёмых, сяброў, але Міця, можа, быў бы маім самым лепшым і надзейным таварышам.

1984

## АПЛЯВУХА

**1**

Толькі ўжо на трамвайным прыпынку, калі развітваліся, Вішнявец запытаў пра тое, пра што, мусіць, думаў увесь час.

— Скажы, Васільевіч, ты помніш пра некалішнюю маю аплявуху? — ён не то гарэзна ўсміхнуўся, не то крышку засаромеўся, падняў правую руку і пацёр далонь, быццам яна засвярбела.— Ці забыў даўно ўжо тое?

Вішнявец запытаў, а я збянтэжыўся. Быццам ён невінаваты, быццам я зграшыў. Міжволі зірнуў на гэтую руку, што некалі так балюча ўдарыла мяне. Яна і цяпер, калі Вішнявец пастарэў, трохі асеў, як асядае ў камлі старое дрэва, была яшчэ дужая — шырокая, як шуфель, далонь, тоўстыя пальцы. Ён сцепануўся ад майго пільнага

позірку, апусціў руку і, здаецца, без дай прычыны схаваў яе ў кішэні светлага пінжака.

— Даўно тое было...— нібы апраўдваўся Вішнявец, нібы заадно хацеў супакоіць і мяне, каб я хоць цяпер не меў на яго крыўды.— Можа, гадоў трыццаць прайшло ўжо... Я тады быў яшчэ зусім малады, гарачы, а ты — горкае дзіця... Як і наш Міхась...— гаварыў і адводзіў вочы, не вытрымліваючы майго позірку.— Ды і час тады быў... Ого, які гарачы быў тады і час... Многа не гаварылі...

«Які б ні быў час, дзядзька Іван, але чалавек павінен заўсёды быць чалавекам»,— хацеў сказаць я, але змаўчаў.

Я, прызнаюся шчыра, не забыў пра той былы, сапраўды даўні ўжо выпадак, але і не ўспамінаў яго каму-небудзь: па-першае, ці варта доўга выношваць крыўду і помсту, а па-другое, у жыцці маім за гэты час было яшчэ нямала ўсякіх — значных і дробных, прыемных і гаркотных — выпадкаў. Хіба ўсё ўтрымаеш у памяці?! Хіба на ўсё зважаць?! Але сёння, як пачуў званок, адчыніў дзверы і ўбачыў на пляцоўцы нечаканага знаёмага госця, дык адразу і ўспомніў той час, маладога дзёрзкага Вішняўца, тое прыкрае здарэнне.

Запрасіў у кватэру, слухаў яго крыўду, папрокі, частаваў, але не напамінаў былога. Ды і лічыў: Вішнявец пра ўсё ўжо забыў. Калі ўжо тое было! Ды ці варта за яго папікаць цяпер старога ўжо чалавека?! Лепш паглядзець, кім ён стаў на старасці. Маладыя грахі ды памылкі навучылі яго чаму-небудзь карыснаму ці нічога не змянілі ў чалавеку?

Я і цяпер, усміхаючыся, пазіраў на Вішняўца — невысокага, камлістага, у белым капелюшы і ў светлым касцюме, з кішэнькі пінжака якога вытыркаліся два хвосцікі самапісак, з гаспадарчай пакоўнай сумкаю ля ног.

Нейкую хвіліну мы абодва маўчалі, мусіць, кожны па-свойму ўспамінаючы той няблізкі час, тое здарэнне, сваё некаляшняе і цяперашняе жыццё.

— Я, Васільевіч, прызнаюся: я забыў тое... зноў нібы гарэзна, нібы крышку з няёмкасцю ўсміхнуўся Вішнявец.— Кажу, колькі вады ўжо сплыло, чаго толькі не было... Але як параілі знаёмыя пад'ехаць да цябе папрасіць помачы, дык адразу ўспомніў... Як у памяці нешта адчынілася... Думаў: ты цяпер важны чалавек, не захочаш нават гаварыць са мною, пенсіянерам. Каб я яшчэ на базе, як раней, два гады таму, рабіў, дык, можа, паразумеліся б, а так... З-за крыўды, з-за цяперашняй сваёй важнасці можаш нават не дапусціць мяне да дзвярэй... Аж ты просты, бачу, чалавек. Можа, і занадта просты. Во іншы на тваім месцы... Ого, не так бы паводзіўся, не тое меў бы...— Усклікнуў у захапленні.— О, якія ёсць пыхліўцы ды грабуны! І я табе,

Васільевіч, скажу, што і трэба марку сваю высока трымаць. Тады болей паважаюць, а то і баяцца... З простага пасміхоўваюцца, а то і папіхаюць яго ўсюды...

Я моўчкі слухаў. Вішнявец гаварыў-гаварыў пра сваіх знаёмых падначаленых і кіраўнікоў, хваліў ці ганіў іх, а пасля, убачыўшы, што падыходзіць патрэбны трамвай, заспяшаўся ехаць дадому, у свой гарадок.

— Дык, Васільевіч, заступіся, не дай у крыўду заслужанага чалавека,— зноў, як і ў кватэры, пачаў прасіць. — Цыкні зверху на нашага Сідаровіча, іншым падсып перцу. Памажы дабіцца мне праўды і справядлівасці.

Я падакляраваў узяць ад газеты камандзіроўку і пад'ехаць разабрацца са скаргаю Вішняўца. Ён аж рассыпаўся, як кажуць, ад падзякі ды паехаў сваёю дарогаю.

Неўзабаве я і з'ездзіў туды, як і абяцаў. Мясцовыя кіраўнікі выслухалі мяне, з болем паскардзілся, што Вішнявец замучыў іх ужо сваімі просьбамі ды скаргамі. Ён па льгоце атрымаў у горадзе вялікую кватэру, легкавік, а цяпер хоча атрымаць яшчэ адну машыну і яшчэ адну кватэру — для сына. Для Міхася, з якім я некалі разам хадзіў у школу. Мне не толькі расказалі пра ўсё гэта, але і дакументамі пацвердзілі, што той Міхась, заводскі інжынер, можа жыць і з бацькамі, бо плошчы хапае.

Калі я, маючы на руках копіі Вішняўцовых лістоў, адказаў з раённых устаноў, зайшоў да Вішняўца ды паказаў усё гэта, дадаў ад сябе, што ён скардзіцца без дай прычыны, дык ён мігам змяніў сваю ласку на гнеў, пачаў нагаворваць і на мясцовых людзей, і на мяне самае што ні ёсць паганае. Мяне яшчэ папікнуў, што я не хачу памагчы яму за тую сваю даўнюю, «нікчэмную», як сказаў, крыўду. Уз'юшыў супраць мяне і свайго сына, бо той не сказаў мне ніводнага прыемнага слова, толькі кпіў з мяне ды таксама нагаворваў на сваіх людзей.

З прыкрасцю я зразумеў, што Вішнявец і на старасці не толькі не змяніўся, не палагоднеў ды не падабрэў, але яшчэ болей закасцянеў ад зла. Недарэмна ж, мусіць, людзі кажуць: калі нарадзілася цялятка з лысінкай, дык з ёю і памрэ.

**2**

Той даўні выпадак, пра які не адзін раз напамінаў Вішнявец, здарыўся, калі я пайшоў у першы клас.

Што такое пайсці дзіцяці ў школу, усе ведаюць. Гэта — і вялікая падзея, і немалая перамена ў жыцці, і новыя хваляванні ды трывогі, і велізарная радасць ды доўгая, без канца і краю, дарога ў навуку, да

пазнання. Тым больш усё гэта было ашаламляльнае і важнае для мяне: я нарадзіўся і гадаваўся на хутары, дзе было ўсяго некалькі аддаленых адна ад адной хат, не мелася яшчэ электрычнага святла, дык для мяне дарога ў вёску, да людзей, навучанне ў школе, дзе было электрычнае святло, радыё, а таксама была досыць вялікая бібліятэка тоўстых і тоненькіх, з малюнкамі кніг, стала, можна сказаць, дарогаю ў вялікі свет. Канечне, свет той быў не такі ўжо вялікі, але для мяне, тагачаснага, быў, паўтару, не малы.

У школе я хораша сышоўся са сваім суседам па парце, Міхасём Вішняўцом. Быў ён крышку ніжэйшы за мяне, як казалі, «гонкага, але худога», але камлісты, дужы і вельмі прыгожы, нібы дзяўчынка. Яшчэ ён быў разумны, кемны, умеў ужо добра чытаць — не толькі «Буквар», але і кнігі ды газеты,— а таксама спрытна пісаць ды лічыць, здаецца, бясконца. Я яшчэ столькі ўсяго не ўмеў, мог толькі чытаць і пісаць друкаванымі літарамі, лічыў з запінкаю, не мог вызначыць, які дзесятак ідзе ўслед за якім.

Пасябраваўшы з Міхасём, я пачаў заходзіць да яго дадому — ці раніцай, ці пасля вучобы. Хата Вішняўцоў мяне таксама ўразіла: у нас, на хутары, хата, хлеў, гумно — усё было над адной страхою, жыллё наша было з аднаго пакоя, з адным, ад вёскі, ад поля, акном, з гліняным долам. У Вішняўцоў высокі светлы дом стаяў ля вуліцы, за плотам і гародчыкам, а астатнія прыбудовы былі воддаль. Дом быў з трох пакояў, з мноствам вокнаў, з дашчанаю падлогаю. Вішнявецбацька быў у той час нашым брыгадзірам, жыў заможна.

Мы з Міхасём ці забаўляліся ў двары альбо на блізкім поплаве, ці каталіся на яго дзіцячым веласіпедзе, ці былі ў хаце і гулялі ў «школу», у «настаўніка» і «вучня». Міхасёва маці, цётка Франя, сустракала мяне ветліва, частавала смачнымі грушамі ды яблыкамі альбо разам з Міхасём садзіла за стол, а гаспадара я мала калі бачыў у хаце: ён, лічы, не стыкаўся дома. Сядзе на свайго жарэбчыка, стукне яму нагамі пад бакі — толькі яго і бачылі.

## 3

Тады, у першым класе, я з зачараваннем адносіўся да нашай настаўніцы — маладзенькай Клаўдзіі Ільінічны. Яна — у белых туфлях, блакітным касцюме, з выкладзеным наверх вялікім каўняром белай блузкі — была вельмі наглядная, а па-другое, ветлівая, хораша тлумачыла, чытала, а таксама спявала. Бачыць, чуць яе была для мяне кожны дзень найвялікшая радасць. Маці мая часамі аж «скардзілася»: пайшоў ты, сынок, казала, у школу, дык зусім змяніўся — мяне перастаў любіць, а палюбіў сваю настаўніцу, чужую жанчыну.

Помню, тады Клаўдзія Ільінічна чытала нам са сваёй кніжкі казку, хораша гаварыла чужымі, «мядзведжым», «лісіным» ды «воўчым», галасамі, што мы ўсе не зводзілі з яе зачараваных позіркаў, затойвалі дыханне і слухалі, перанёсшыся думкамі з гэтага рэальнага свету ў нейкі іншы, казачны.

Нечакана рэзка адчыніліся класныя дзверы, і мы дружна павярнулі на рып галовы: хто там нам замінае? За парогам стаяў Міхасёў бацька — невысокі, камлісты, у хромавых запыленых ботах, у сінім галіфэ і зялёным кіцелі, не зашпіленым зверху на два ці тры гузікі, у зялёнай фуражцы, на абручыку якой замест зорачкі была відаць свежая зялёная плямачка. Такое адзенне для нашых мужчын тады было звыклае — яны яго куплялі на таўкучцы ў Ракаве.

— Ідзі сюды,— запатрабаваў у анямелай цішыні Вішнявец-бацька, кіўнуўшы пальцам на свайго сына.— І ты, друг хутаранскі,— кіўнуў і мне, — выйдзі.

— Што такое, Іван Станіслававіч? — здзівілася Клаўдзія Ільінічна, прытульваючы кнігу да грудзей.— У нас жа ўрок...

— Нічога, урок можна і перарваць,— непачціва адказаў ёй Вішнявец.— Мне трэба разабрацца во з гэтымі героямі...

— Выйдзем, хлопчыкі,— ціха прамовіла настаўніца,— А вы, дзеткі, пасядзіце ціха. Хутка я вярнуся, дачытаю казку.

Мы падняліся і пайшлі пад здзіўленыя позіркі аднакласнікаў на калідор. Услед за намі падалася і Клаўдзія Ільінічна, нібы маці за дзецьмі.

Вішнявец, чакаючы нас, дастаў з кішэні пачак цыгарэт «Казбек» (Міхась збіраў пустыя пачкі і абменьваў на іх жаданыя сабе рэчы), закурыў, зачыніў за намі дзверы і кіўнуў, каб мы ішлі за ім у настаўніцкую. Там ён, як дырэктар, сеў за стол, зняў фуражку і хустачкаю выцер з ілба буйны пот.

— Іван Станіслававіч, я нічога не разумею...— і разгублена, і незадаволена абурылася Клаўдзія Ільінічна. Не села, стаяла побач з намі. Як старэйшая вучаніца.— Што здарылася?

— Спачатку, паважаная навучыцелька, дазвольце ў вас запытаць: чаму вы кепска вучыце даверанных вам вучняў? — павысіў голас Вішнявец, нібы на сваю жонку ці дачку,— Чаму выхоўваеце не чэсных людзей, а спрытных зладзеяў?

Клаўдзія Ільінічна хуценька зірнула нам абодвум у вочы: што вы ўтварылі, дзеці? Мы паапускалі галовы, хоць і не адчувалі ніякай віны. Вішняўцоў рэзкі тон гаворкі, спалоханы і разгублены настаўнічышын позірк збянтэжылі нас. Мусіць, не толькі для дзіцяці, але і для

сталага чалавека абвінавачванне ў невядомым граху страшней за абвінавачванне ў вядомым учынку.

— Растлумачце, Іван Станіслававіч, ясней, падрабязней, у чым мая віна ці віна маіх вучняў,— папрасіла Клаўдзія Ільінічна, чырванеючы на шчоках. Ад разгубленасці аж выступілі на іх вялікія пляміны.

— Што тут тлумачыць! — спапяліў нас позіркам Вішнявец.— Во ім, гэтым малойчыкам, трэба даваць адказ.

Тут жа вылез з-за стала, хапіў Міхася за вуха.

— Дзе грошы?

Міхась зморшчыўся, нібы раскусіў дробку перцу, залыпаў вейкамі. І ад болю, і ад нечаканага бацькавага запытання.

— Чуеш? Дзе грошы, што ляжалі ў новай шафе між прасціраддамі? — не зважаючы на сынавы моршчыкі, дапытваў Вішнявец.— Адзін узяў ці ўдвух укралі?

— Татачка, баліць...— заенчыў Міхась, пачаў прасіцца: — Пусці. Я не браў ніякіх грошай. Татачка...

— Перастаньце! — нечакана павысіла голас Клаўдзія Ільінічна, аж ён у яе сарваўся,— Што за дамастроеўскія метады?! Гэта зусім не педагагічна!

— У мяне свае метады...— пырснуў слінай Вішнявец і ўдарыў адзін-другі раз Міхася па шчацэ.— Гавары, падшывалец, дзе грошы?

Міхась, енчучы, пачаў клясціся, што нічога не ведае. Тады Вішнявец схапіў мяне за вуха.

— Можа, ты, госць наш даражэнькі, скажаш, дзе нашы грошы, уся выручка за бычка? — прыблізіў гарачы потны твар, дыхнуў гарэлкаю. Настаўніца мітусілася, крычала штосьці, але раззлаваны Вішнявец не слухаў яе, здаецца, з усёй сілы круціў-вырываў мне вуха.— Можа, успомніш, чаго ўчора з нашым бэйбусам лазіў у шафу?

— Мы ніткі шукалі...— адказаў я, плачучы ад крыўды і болю. Караў мяне часам і бацька, але яго кара не была такая цяжкая і крыўдная, як гэтая. Цярпець кару за сваю віну не так ужо і пакутліва, а вось пакутаваць за незаслужанае, за недарэчнае вельмі цяжка.

— Ніткі шукалі, а знайшлі грошы? — здзекаваўся з мяне Вішнявец, усё яшчэ круцячы вуха. Яно гарэла, нібы ад агню,— Дзе іх дзелі? Ну, гавары, а то...

— Мы не бралі...— з плачам выціснуў я.

— І ён не браў, і ты не браў? Я ўкраў? Сам у сябе? На вас, анёлкаў, нагаворваю? — Вішнявец разлютаваўся, а пасля нечакана і мяне, чужога, агрэў па адной і другой шчацэ. У галаве маёй аж зазвінела, шчокі запяклі.

Ад цяжкай крыўды і ад горкага болю я нічога больш не чуў, толькі скрозь слёзы бачыў, як Клаўдзія Ільінічна раптоўна аж змянілася ад перапалоху на твары, штурхнула Вішняўца ў грудзі, паказала гнеўна рукою, каб выйшаў прэч. Той ад нечаканасці хіснуўся, бухнуўся спіною ў сцяну. Калі выпрастаўся, закрычаў ужо на настаўніцу, а пасля, патросшы кулаком, выскачыў з настаўніцкай.

Мы з Міхасём, стоячы пасярод пакоя, плакалі наўзрыд.

— Хлопчыкі міленькія мае,— прытуліла нас абодвух да сябе Клаўдзія Ільінічна і таксама заплакала.— Што ж гэта такое? На што ж такая жорсткасць? Што ж гэта за ліха? Скажыце, скажыце, родненькія, мне шчыра: вы бралі ці не бралі тыя грошы? Не бойцеся, кажыце толькі праўду.

Мы не маглі нічога адказаць толкам, хоць і спрабавалі, перабіваючы адзін аднаго ды глытаючы горкія слёзы, расказаць, што не рабілі ніякага крадзяжу.

— Супакойцеся, хлопчыкі. Супакойцеся, міленькія,— прасіла Клаўдзія Ільінічна і ў настаўніцкай, і пазней у класе, але мы не маглі суцішыць ні плачу, ні ўздрыгвання.— Я веру: вы невінаватыя. Выйшла нейкая прыкрая памылка альбо недарэчнасць. Грошы знойдуцца, ад вас будзе адведзена ўсякая ганьба...

## 4

Яшчэ з гародчыка мяне ўбачыла маці.

Яна разам з малодшаю маёю сястрою выбірала там бульбу — як я згледзеў, на сотках было разагнана колькі баразён, што падсохлі ўжо ад нізкага, няяркага, але яшчэ не цалкам астылага вераснёўскага сонца ды на цеплаватым ветрыку.

Каб іншы раз, дык я абавязкова адразу ж падаўся б да маці, расказаў бы, што ўведаў у школе новае ці якія сёння атрымаў адзнакі. Але цяпер я пакрочыў адразу ў хату. Маці, разагнуўшыся ды трымаючы ў руках бульбу, толькі праводзіла мяне позіркам.

Данута (з ёю, аднакласніцай, мы ішлі разам дадому), відаць, пра ўсё расказала маці, бо тая, тады яшчэ маладая, рухавая, не нашмат, мусіць, старэйшая за нашу настаўніцу, хутка ўбегла ў хату і адразу пляснула рукамі.

— Сыночак мой! — ускрыкнула,— Ды ты ж аж змяніўся на твары!

Я дагэтуль уздрыгваў і ўсхліпваў, а цяпер зноў разжалобіўся і не вытрываў — заліўся горкімі слязьмі. Маці, прытуліўшы мяне да сябе, як у настаўніцкай Клаўдзія Ільінічна, гладзіла мяне па галаве, прасіла супакоіцца і толкам усё ёй расказаць. Я, глытаючы слёзы, збольшага пераказаў сваё гора.

— Можа, ты, сыночак, усё ж узяў тыя грошы? — напужалася маці,— Можа, растрацілі ўжо на нешта ці схавалі дзе? Гавары, прызнавайся — дадзім нейкую раду. Грэх вялікі — маніць, быць злодзеем. Гэта ўжо пляма на ўсю сям'ю, на ўвесь род.

Калі я пакляўся, што і ў вочы не бачыў грошай, маці разжалобілася і таксама заплакала разам са мною.

— Божачка, ты аж апух...— забедавала яна.— На шчоках відаць сінія сляды ад пальцаў... Не чалавек ён, а звер! Без душы і сэрца! Не разбярэцца, не пагаворыць толкам — б'е чужое дзіця... Няхай бы яму рукі паадсыхалі...

Матчына спагада зусім размякчыла мяне. Я плакаў, як бабёр.

— Не хадзі болей да іх, сыночак,— прасіла маці.— Адвучышся — адразу шыбуй дадому... Сам крадзе, сам адмысловы злодзей, дык нікому не верыць, думае, што і ўсе заграбушчыя ды завідушчыя...

Ад крыўды, плачу забалела галава. Маці распранула мяне і паклала на ложак, просячы супакоіцца і заснуць. Наплакаўшыся, я пасля трохі і прыснуў.

Прачнуўся ад бацькавага сярдзітага голасу.

— «Ніхто не бачыў!» «Ніхто не бачыў!» — злаваўся ён і гаманіў на маці,— І ты нічога не бачыла. А раз не бачыла — дык надта не заступайся. Бо, можа, і ўзялі ці адзін узяў... Прывучыцца красці — вырасце злодзеем...

Бацька запаліў і павесіў лямпу на дрот, а маці ў гэты час высыпала з гаршка ў вялікую місу звараную бульбу — сям'я збіралася вячэраць.

— Як жа не верыць свайму дзіцяці? — заступалася за мяне маці.-— Ніколі ж у жыцці ні ў кога нічога не ўзяў!

— Але ж грошы, кажа Іван, прапалі. З шафы. А яны абодва лазілі ў шафу — меншыя дзеці гэта добра бачылі...

— Па-першае, столькі грошай дзеці не возьмуць, можа, хто і са сталых падгледзеў ды ўкраў, а па-другое, не мае права гэтак палохаць і біць чужое дзіця...— усхліпнула маці.— Думае, што наша дзіця вінаватае, дык няхай і скажа пра гэта нам. Самі разбяромся. А ён без суда і совесці рукі распускае, упалохаў хлопца, што і ў сне плакаў ды прасіўся...

Я прыкідваўся, што сплю; бацька замаўчаў; відаць, і яго, строгага, кранулі такія бессардэчныя Вішняўцовы выхадкі; маці падышла да мяне, прыклала вусны да лба, а пасля да скроні.

— Гарачанькі. Гарыць увесь...— уздыхнула, пацалавала мяне ў адну і другую набітыя сёння шчокі.— Зараз адвару з журавінак дам, кампрэс халодны на лоб пакладу...

## 5

Я назаўтра ў школу не пайшоў.

Гарэў, моцна балела галава. Маці сказала, што гэта ў мяне ад моцнага перапалоху. Вельмі злякаўся — вось і прычапілася хвароба. Часамі мне было так горача, што аж траціў прытомнасць — у вачах не то раіліся пчолы, не то лёталі мухі, бесперастанку стаяў звон-гул у вушах. Я то разумеў, дзе я і што са мною, то раптоўна падаў у забыццё.

Не хадзіў я ў школу з тыдзень. Усе гэтыя дні не то спаў, не то трызніў, сніў нейкія дзіўныя сны. Мала помню, што прывозілі да мяне з Дзераўной урача, што маці па некалькі разоў у суткі давала піць разведзеныя ў вадзе парашкі і таблеткі і што прыводзілі да мяне з далёкага хутара бабу Аршулю, каб яна «выгнала сполахі».

Калі я нарэшце ачуняў, дык адразу ўбачыў каля сябе маці.

— Сыночак, ты і праўда невінаваты,— абцалавала мяне.— Учора была тут твая настаўніца, дык сказала, што Вішняўцы знайшлі грошы. Іх украў іхні сусед, Кузёмка. Хаваў, таіў, а потым падкінуў Вішняўцам... Але людзі ўбачылі, расказалі пра ўсё ўсім...

Хоць быў я невінаваты, але мне, здаецца, адразу ж палягчэла ад гэтай навіны. Усцешыўся, што і маці з бацькам супакоіліся, не будуць думаць абы-чаго пра мяне ды саромецца перад вёскаю. Сапраўды ж, было б не паказацца нікому на вочы, каб я аказаўся злодзеем. Заадно радаваўся, што і з мяне спала абвінавачванне. Ужо ў маладыя свае гады я адчуў: няма на свеце болей пакутлівага ды гораснага, чым хітра прыдуманы паклёп, падазрэнне.

Увечар, калі вярнуўся з работы бацька, маці запатрабавала:

— Падавай, Васіль, на Вішняўца ў суд. Няхай патрасуць, каб не задзіраў нос ды не распускаў рукі. Няхай пакараюць, што дзіця ў пасцель уклаў, душу пакалечыў...

— Абышлося ўсё, дык і добра,— буркнуў бацька, здаецца, саромеючыся, што меў злосць, не верыў мне.

— Дзе ж яно «добра»?! — не адступала маці,— Ён хоць папрасіў выбачэння, што нас абразіў, дзіця набіў?

Бацька ўнурыў галаву і нічога не адказаў. Закурыў і зморшчыў лоб.

— Каб ён быў чалавек, меў душу і сэрца, дык сам прыйшоў бы і перад невінаватым дзіцем на калені стаў бы...— папікала маці бацьку за падатлівасць ды заадно выказвала сваю злосць на Вішняўца.— Але ён не прыйшоў і не прыйдзе, бо мы зашмат патураем яму, усё даруем. Іншы перадумаў бы ды чалавекам стаў, а ён толькі свінее...

Маці ў той вечар яшчэ доўга дакарала бацьку, кляла майго крыўдзіцеля. Я сам сабе рашыў: трэба абавязкова пакараць Вішняўца. І я пакараю яго. Сваёю пагардаю.

Сапраўды, я доўга, пакуль жыў у вёсцы, пагарджаў Вішняўцом, хоць, здаецца, гэтым надта яго не бянтэжыў. Спачатку пры сустрэчах ён пасміхаўся, жартаваў, нават пакепліваў з мяне, а пасля, бачачы, што я пазіраю на яго спадылба, абмінаў мяне і абы-што нагаворваў за вочы. Нібы не ён мне, а я яму зрабіў прыкрасць.

### 6

Прайшлі гады, і тая даўняя мая крыўда, як казаў ужо, паволі забылася ці ўспаміналася ўжо не з такім, як у маленстве, болем. Ажыла, абзыўнулася, калі ўбачыў старога ўжо Вішняўца на пляцоўцы каля нашай кватэры. Дагэтуль добрыя пятнаццаць гадоў ён не трапляў мне на вочы ні ў сталіцы, ні ў тым горадку, дзе цяпер жыве, ні ў нашай вёсцы, куды і ён, як кажуць, зрэдку прыязджае.

...Пасля сустрэчы з Вішняўцом я даў сабе зарок: стрымлівайся з усіх сіл і без дай прычыны не крыўдзі чалавека. Калі ведаеш цяжар крыўды, болю, дык не трэба свядома жадаць гэтага некаму.

1984

## СТАРАЯ САСНА

### 1

Зубрэй вяртаўся дахаты.

Ён паволі ішоў тупкаю лясною дарогаю, адчуваючы, што нахадзіўся за дзень, стаміўся пад гарачым чэрвеньскім сонцам, дык цяпер цяжкія сталі не толькі кірзавыя боты, сумка ці стрэльба, але цяжкая зрабілася і леснікоўская фуражка на галаве. Ён зняў яе і панёс у руцэ, адчуваючы, як прыемна ад хады ўзнікае ветрык, лагодна халодзіць скроні, лоб, густыя валасы.

Вёска, куды набліжаўся, была ўжо блізка: праз ціхі лясны звон, перасільваючы зумканне мошак і птушыныя спевы, даносіліся людскія галасы, дробны і часты стук малатка — нехта ў гэтым, бліжэйшым, засценку кляпаў касу.

Зубрэй крочыў і, здаецца, нічога не бачыў, без ніякага інтарэсу пазіраў на каляіны, на ababітае карэнне ды на абадраныя і засмаленыя сасновыя камлі, на шматкі сена, што нядаўна вырвалі з высокіх вазоў густыя асінавыя і бярозавыя галіны і што цяпер, зусім зрыжэлае, усё яшчэ вісела на дрэвах — адным словам, не ўзіраўся на лес, а

вось раптам, калі быў ужо ля гары, ля Ям, дзе некалі, у вайну, вяскоўцы хаваліся самі і хавалі бульбу ды жыта, запыніўся і душою адчуў: чагосьці не хапае ў гэтым вялікім лесе...

Ён замёр і той рукой, якой за цвёрды брыль трымаў фуражку, пачасаў галаву, прыжмурыўся і пачаў узірацца, дзе і што тут знікла. Павёў вачыма на самы грудок, на рэдкія сосны і густое кустоўе і ўбачыў, што там чамусьці лысіцца вельмі вялікая прагаліна. У яго аж страпянулася сэрца: ды там жа яшчэ ўчора ўполудзень, калі ён праходзіў сюдою, стаяла старая, самая высокая і тоўстая тут паблізу, налітая смалой і ад таго, мусіць, цвёрдая што камень хвоя з зачасаным некалі ім жа камлём. Цяпер там гэтай сасны не было, як праваліласе скрозь зямлю.

Пазіраў туды і не верыў сваім вачам, пасля збочыў з дарогі, прайшоў па папараці і густым, з яшчэ зялёнымі ягадамі чарнічніку і цяжка, нізка нахіляючыся ўперад, уссунуўся на гару. Убачыў: не, хвою не вывернуў вецер (ды і як яна, сырая, цяжкая, магла паваліцца, калі не было на днях ні навальніцы, ні моцнага ветру?), яе не было зусім. На месцы яе ляжала невялікая, складзеная наўмысна кучка старога лому. Раскідаў яго нагою — паказаўся свежы шырокі смалісты пень, нізка, амаль ля самай зямлі, зрэзаны. Вакол яго сярод нацярушаных ігліц і аблушчанай кары бачылася белае і рудое пілавінне.

Галля, ні старога ды сухога, што было знізу, ні зялёнага верхавіння, паблізу не бачылася: яго, пэўна, параскідалі па лесе. Толькі добра было відаць, куды падала хвоя: падаючы, яна ламала, гнула ядловец і тонкія бярззінкі, папараць, а некалькі тоўстых сукоў, што былі спаднізу і зламаліся, яшчэ і цяпер сядзелі ў зямлі, бялеючы вострымі смалістымі канцамі-пікамі.

«І каго халера сюды ўвагнала? — і гнеўна і адчайна разгублена падумаў Зубрэй.— Здаецца, учора тут, у лесе, ні трактара, ні калёс не было. Няўжо нехта ўночы ўлез? Калі ўночы ўкралі, дык гэта свае, з вёскі».

Не сказаць, што ў яго абходзе часта былі пакражы: наадварот, яны здараліся рэдка, як кажуць, рады ў гады. Можа, і таму, што стараўся, глядзеў лес, поле, сенажаці, як сваю гаспадарку. А то і лепей. А можа, і таму, што да браканьераў і парубшчыкаў быў не толькі строгі, але і суровы. Новы ляснічы, Клімуць, хваліў яго, часта гаварыў астатнім леснікам: «Вучыцеся працаваць у Зубрэя. Не канчаў, як вы, вучылішчаў, няпоўную сярэднюю адукацыю мае, але лепш за вас, вучоных, спраўляецца...»

Праўда, сам ён, Зубрэй, пры такіх гутарках не так цешыўся ад гэтай пахвальбы, як саромеўся: лічыў малою пахвальбою ды заслугаю

тое, што за яго плячыма толькі ўсяго пяць класаў, ведаў, што каб выжыў у вайну бацька і памог маці дагледзець іх, пяцярых дзяцей, дык у іх зусім іншае жыццё, канечне, было б... А цяпер позна ўжо брацца за навуку.

Зубрэй падаўся, куды валілася хвоя. Бачыў тоненькія сухія трэсачкі, што нападалі там, дзе абсякалі голле; прайшоўшы далей, згледзеў параскіданыя ў бакі галіны. Далей, у папараці, ляжала і адсечаная зялёная верхавінка.

Пад'язджалі сюды на машыне: на той бок гары, ад сенакосу, была паламаная коламі папараць, а між каляін на ўцалелую траву пачаплялася мазута. Каляіны вялі на край лесу — відаць, да дарогі. За папараццю, дзе не было травы, ляжала ўсыпаная ігліцамі зямля, адбіткі колаў амаль не бачыліся, і дзе праехала машына, можна было пазнаць толькі па зломленых старых галінках — пераціснутых папалавіне, а то і на некалькі кавалачкаў. А на самой тупка-жвірыстай дарозе сляды зусім прапалі: засыпаліся пяском.

Зубрэй падаўся гэтаю дарогаю, выйшаў са старога, а пасля і з маладога лесу на гуляшчае поле, дзе сам па сабе сеяўся дзікі хвойнік, і, зусім стомлены, прыгнечаны, пайшоў напрасткі да блізкай ужо, нізкай і старой сваёй хаты, стараючыся прыпомніць, хто ў вёсцы будуецца ці думае падладзіць старую хаціну, хто загаворваў калі з ім пра лес.

## 2

Падхапіўся Зубрэй раненька, яшчэ на світанні.

— Чаго ты ўспароўся? — прачнуўшыся ўслед за ім, запытала жонка, спрасонак пазірала, як ён сядзіць паблізу на зэдліку і накручвае на нагу анучу і яшчэ гэтаксама спрасоння не можа абмацаць пад ложкам з сагнутаю халяваю бот.

Ён прамаўчаў, стараючыся паадолець санлівасць, знайшоў нарэшце бот, абуўся, кіўнуў жонцы, каб маўчала: дзеці ж паблізу спяць.

Падышоў да ложка, што стаяў пры стаяку, і накрыў лёгкім коцам сыноў — пяцікласніка Янака і трэцякласніка Гіполіка; жонка моўчкі накрыла маленькую дачку, накінула на сябе халат, пагладзіла рукою сонны, але прыгожы твар, закруціла ў «куклу» валасы і прыткнула іх грэбнем. І, босая, поўная ды цяжкаватая ўжо ў свае сорак гадоў (яны былі равеснікі), пайшла са спальні, а ўслед за ёю падаўся і ён, прыпаднімаючы і ціха зачыняючы за сабою дзверы.

— Крадуць людзі, бо лепей хочуць жыць...— сказала ўжо на кухні Ядзя. Здагадалася, чаго ён так рана падхапіўся.— А ты ляснік, лічы,

гаспадар лесу, а яшчэ ў бацькавай перасыпанцы жывеш... Трасешся за кожную хвоечку...

Ён змаўчаў, узяў з падаконніка пачак цыгарэт і закурыў. Падумаў: жонка гаворыць праўду — у старой ды халоднай хаце яны жывуць. Даўно час новую ставіць. Сёлета дык ужо абавязкова трэба выпісаць лесу на новы дом.

— «Пахвалу», «выгоду» вялікую атрымаеш за сваё старанне... — мыючыся, папікнула Ядзя.— Як і ў таго ляснічага... Вось упрэшся на сваім, не ўгодзіш, раз-другі не даўшы самому дзерава, дык перастане хваліць, а пачне чапляцца за ўсякую дробязь. Кажуць людзі, і гэты ласы на дармавое...

— Надта ты ды твае «людзі» многа ведаюць! — буркнуў ён.— Ды хіба я раблю дзеля пахвалы ці выгоды?!

Ядзя не адказала, уздыхнула, нібы сказала: дзе цябе перайначыш! Які нарадзіўся, такі і памрэш. Падалася на двор — даіць карову. Праз акно было відаць, як яна зняла з частаколу росную ад ночы даёнку і пайшла да хлява.

Зубрэй накінуў на плечы паношаны форменны фрэнч, надзеў фуражку і гэтаксама выйшаў з хаты.

Янковічы толькі прачыналіся: развейваючы густы, як дым ад сырога сасняку, бела-сіні туман, выплывала з-за зямлі ружовае сонца; спрасонку адзін за адным гарланілі пеўні; гулка паблізу і воддаль па вёсцы стукалі дзверы і звінелі вёдры; недзе ў далёкім засценку затрашчаў матацыкл.

Зубрэй выйшаў са двара, абгароджанага старым, дзе-нідзе падпёртым каламі плотам, прайшоў па загуменні і павярнуў на сценку, хочучы яшчэ раз папрыглядацца да чужых загуменняў: а можа, хто ўжо выцягнуў са схованкі дзерава і пачаў яго абкорваць ці пілаваць? Учора пад вечар, вярнуўшыся з працы, гэтаксама праходжваўся, але нічога падазронага не заўважыў, а распытваць паасцерагаўся: баяўся насцярожыць парубшчыка.

Сценка была сыпкая ад пяску і бязросная; ён ішоў, падбіваў гэты пясок, і той ледзь не пыліўся ўслед за ім.

«Сваяк ці не сваяк украў — складу акт,— думаў, напружваючы зрок,— няхай не скупіцца, капейку заплаціць, не лезе, як свіння ў чужы агарод. Няхай не лічыць, што ў дзяржавы можна браць як сваё... Будуць пасля гэтага, любіць ці не любіць — такой бяды... Але затое адаб'ю ахвоту красці».

Зубрэй прайшоў усю сценку. Як і ўчора, не ўбачыў нічога падазронага. Другую палавіну вёскі пачаў абыходзіць гэтаксама з агародаў, ідучы крайком аселіцы: тут блізка не было ні поля, ні лесу, а

шырока раскінулася сенажаць, а ўздоўж яе цягнулася аброслая лазовымі кустамі старая канава.

Ён ішоў, расіўся да каленяў. Вось убачыў пенсіянера Асташонка. Той выкошваў за сваімі градамі, ля самай аселіцы, абгароджаную лапіну травы. Нізенькі, тоўсты, у паношанай сынавай салдацкай форме. Агледзеўшы яго, запыніўся і пачаў чакаць, калі ён падыдзе.

Прывіталіся.

— Ці не згубіў што? — усміхнуўся Асташонак.

— Шукаю...— адказаў Зубрэй, пазіраючы на траву — яе той не выкасіў, а нібы выгаліў брытваю да самых белых карэньчыкаў.

— Ці не хвойку якую ўкралі ў цябе?

Зубрэй змаўчаў.

— Відаць, добры спец трапіўся, калі ўжо ў цябе хапнуў,— паківаў галавою Асташонак.

— Можа, хто ў вашага Юзі машыну на днях прасіў? — спытаў Зубрэй, стараючыся не гаварыць пра пакражу ў сваім абходзе.

— Не ведаю, брат,— пацісну плячыма стары.— Але дзіва ты мне прынёс.

— Дзіва вам...— зазлаваў Зубрэй і адышоўся, пацягнуўся далей па сцежачцы, што была між агародаў і аселіцы.

«Можа, даўно тая хвоя ўжо на пілараме,— падумаў.— Так яе дома трымаць будуць! Уночы ўкралі, уночы і адвезлі... Тут ужо загадзя абдумана ўсё і дамоўлена было».

Зубрэй дайшоў да доўгіх белых цялятнікаў, павярнуў ля іх і падаўся напрасткі праз Равок у лес, да Ям.

...І ў лесе, надта ў папаратніку, было сыра ад расы, вісела набрынялае вадою і зіхаткое ад сонечных праменняў павуцінне, мокры стаяў ядловец. Зубрэй абрасіўся па грудзі. Яшчэ раз агледзеў смалісты пень, пасля адышоў ад яго (куды падала хвоя) і пачаў пасвіць вачыма зямлю, стараючыся абсачыць, дзе відаць апілкі. Дайшоўшы да верхавінкі, павярнуў да камля, заадно мераючы крокамі дол. Вылічыў, што хвою парэзалі на чатыры бярвёны і на доўгую верхавіну.

«Пайду на пілараму і спытаю, хто прывёз чатыры тоўстыя бярвёны. Не пакажуць — сам агледжу бярвёны, пазнаю».

Ён павярнуўся на груд, сеў на пень, змахнуў з твару наліплае павуцінне і закурыў. І патухлую запалку па даўняй звычцы не схацеў кідаць долу, дык нагнуўся, каб запахнуць яе ў пясок. Запхнуў і ўбачыў ля ссечанага ядлоўцу замусоленую, складзеную ў некалькі столак, аброшаную паперку. Без вялікай цікавасці падняў яе, спакойна разгарнуў, расправіў — і, здаецца, апала сэрца. Гэта была вельмі мажная паперчына — квітанцыя за ўзяты напракат тэлевізар. Не ёй крышку

разбрынялымі ад вільгаці, велікаватымі цяпер літарамі была запісана вёска, прозвішча.

«Агароднікі. Дзеравяка В. М.»,— прачытаў Зубрэй і адразу ўспомніў гэтага чалавека.

## 3

У суседнюю, за вёрст пяць, вёску Агароднікі Зубрэй выбраўся вечарам: з раніцы, пазваніўшы на янкоўскую ферму, яго выклікалі на нараду ў лясніцтва, пасля хадзіў пад Крычаты, дзе людзі рэзалі сабе бярэзнік на дровы і палілі галлё. Нікому пра кражу ён нічога не сказаў, надумаў сам з'ездзіць да Дзеравякі, абгледзець усё, пагаварыць, а калі трэба будзе, дык і перамовіцца з людзьмі-суседзямі, а тады ўжо думаць, што рабіць, як і каму што сказаць.

На матацыкле Зубрэй заскочыў у Агароднікі мігам.

Новы, ашаляваны, вымаляваны вялізны Дзеравякаў дом стаяў амаль на самым канцы вёскі ў засені вішань і бзэу. За прыбудовамі гусціўся вялікі сад. Пад'ехаўшы, Зубрэй аж з зайздрасцю агледзеў трывалы новы дашчаны плот, бетонныя слупы ў ім, высокія жалезныя вароты і вылітыя цэментам дарожкі ў двары.

Гаспадар — былы кладаўшчык, рослы, у целагрэйцы без рукавоў, у выпнутых на каленях штанах і ў лёгкіх сандалях на босую нагу — быў у двары. Стаяў ля дрывотні каля тоўстай калодкі і перасякаў галлё. Пасля азірнуўся, усадзіў у калоду сякеру, выпрастаўся і пайшоў насустрач.

— Здароў быў, сваяк! — адказваючы на прывітанне, пажартаваў: калі даводзілася сустракацца, ён заўсёды называў яго сваяком (Зубрэй узяў з гэтай вёскі жонку).— Здароў! Заходзь, скажы якую навіну. А то я цяпер болей дома сяджу, мала што чую, дзе што робіцца...

— Я, дзядзька, з нецікавымі весткамі,— Зубрэй не меў ахвоты шмат перастарэкваць попусту, пачаў, як кажуць, хапаць быка за рогі.

— Што такое? — здаецца, шчыра ўстрывожыўся Дзеравяка.— Бяда якая?

— Прыехаў, дзядзька, на вас акт складаць...

— Дзе ж я так правініўся перад табою, сваяча? — Дзеравяка мігам змяніўся, усміхнуўся, і Зубрэй раптоўна разгубіўся, адчуваючы, што той, можа, і не браў ніякага дрэва, а калі і ўзяў, дык не надта ў гэтым прызнаецца: во які смелы ды вёрткі. Той ухмыляўся і цяжка, нібы жартуючы, нібы насміхаючыся, пазіраў у вочы.— Можа, дрэнны сваяк я: здаецца, ніколі і не пачаставаў цябе?

— Хвойку вы ў маім абходзе на Ямах зрэзалі,— рашыў астудзіць яго кепікі Зубрэй, зірнуў у Дзеравякавы глыбокія вочы і сумеўся, што яны такія вялікія, шэрыя, нейкія пустыя.

— А каб на цябе! — Дзеравяка засмяяўся, лэпнуў на каленях.— Напалохаў ты мяне, чалавек. Я думаў ужо, што з маткай тваёй нешта сталася... Як яе здароўе?

— Добрае,— Зубрэй пільна пазіраў у вочы Дзеравяку, бачыў, што хітруе, як ліс, адчувае за сабою віну.— Дома лес ці на пілараму ўжо завезлі? Чатыры кавалкі і пятая вяршынка...

— Не браў я, чалавек, ніякай хвойкі, як ты мог падумаць на мяне? — спакойна, упэўнена, голасам старэйшага сказаў Дзеравяка, падняў з зямлі цвік і ўсадзіў яго ў паз сцяны.— Раз прыйшоў, Косцік, сюды з такімі думкамі, то благія людзі пастараліся нагаварыць на мяне.

— Каб жа так, дзядзька. Паперка вось цвердзіць, што гэта вы... Відаць, вытраслі, калі даставалі запалкі...

Дзеравяка хацеў узяць квітанцыю, але Зубрэй не даў, схаваў у кішэню.

— Такую паперку мог і я напісаць на любога. Ты толькі вер усім. Ды паперкам усякім.

— Не простая гэта паперка, дзядзька, а ваша квітанцыя. Ваша вёска запісана, прозвішча. Так што я прыйшоў з доказам...

Дзеравяка, канечне, адчуваў, што яму не варта ўпірацца, маніць. Нейкую хвіліну ён нібы зычліва пазіраў, а пасля быццам па-прыяцельску зарагатаў:

— Следчы, гы-гы-гы! Вынюхаў, каб на цябе ваўкі!.. Вось табе і простая паперчына, каб ты згарэла!

— Адмаўляцца не будзеце, што ўзялі, ці з міліцыянерам і дэпутатам прыйсці? — спытаў Зубрэй сур'ёзна, не маючы ніякай ахвоты смяяцца.

— Я, браток... — усміхнуўся Дзеравяка і, відаць, гадаў, што ж далей будзе, але зусім не саромеўся, што дасюль так маніў, адпіраўся.

— Пазаўчора ўночы ўкралі, машынаю з сенакосу пад'ехалі...

— Усё выследзіў... Вось ляснік! Следчы, далібог!— нібы хваліў, але, мусіць, у душы кіпеў кіпнем.

— Хвойка гэта, дзядзька, адмысловая, навідавоку была... — зморшчыўся Зубрэй, зірнуў на дрывотню і на дварышча, спадзеючыся ўбачыць дрэва, але нічога не ўбачыў: яно, відаць, было добра схавана хітрым парубшчыкам.— Будзем, дзядзька, складаць акт, паеду толькі па міліцыянера...

— Не спяшайся...— Дзеравяка нечакана заступіў дарогу.— Не гарачыся, Косцік... Канстанцін Пятровіч. Зойдзем спярша ў хату, пасядзім, пагаворым. Мы ж людзі, згаворымся неяк...

— Не, дзядзька. Ды пра што тут гаварыць: парубка ёсць парубка...— Зубрэй узяўся за брамку, хацеў адчыніць яе.

— От чаго ты лезеш на ражон! Не кіпі? — сказаў Дзеравяка.— Зойдзем у хату, я табе паперку з лясніцтва на дзерава пакажу, каб супакоілася твая душа. Сам Пятровіч, а не хто іншы падпісваў.

Зубрэй разгубіўся, з недаверам зірнуў Дзеравяку ў вочы.

— Калі вы мелі дакументы, дык чаго цішком ды ўночы лезлі, кралі?

— Ды каб людзям вочы не мазоліць,— адказаў Дзеравяка, пацягнуў за рукаво ад брамкі.— Хадзі пакажу паперку.

Павёў за локаць, адчыніў у сенцах дзверы і прапусціў паперадзе сябе.

— Мы тут разуваемся, ходзім у хаце ў тапачках, але ты ідзі ў ботах, табе можна,— гаварыў Дзяравяка і падштурхоўваў яго ў спіну, нібы стараўся хутчэй запхнуць у хату. Сам скінуў сандалі, абуў тапачкі і ў іх падаўся ўжо ў хату.

Там было чыста, утульна: свежая белая столь, вымаляваная ў блакітны колер печ, на падлозе ляжаў новы чысты ходнік, стол быў засланы новаю цыратаю. Зубрэй аж сумеўся, што зайшоў у запыленых ботах.

З другой, лепшай, палавіны хаты выйшла невысокая пажылая гаспадыня, пільна, бадай з насцярожанасцю зірнула на Зубрэя, на свайго мужа і, разгубіўшыся, стала.

— Можа, павячэраем спярша? — спытаў Дзеравяка, выключыў радыё, зацягнуў на вокнах фіранкі.— Нашча і язык не так ходзіць...

— Не, дзядзька, другім разам не адмовіўся б, але сёння не магу,— сказаў Зубрэй.— Паказвайце паперы.

— А ты садзіся і сёння, не адмаўляйся.— Дзеравяка зняў з яго галавы фуражку, павесіў яе на вешалку, запрасіў садзіцца на столаку.

Сам сеў на лаву, палажыў рукі на край стала.

— Я табе, чалавек, зараз усё раскажу, каб не думаў многа ды не баяўся нічога... Уздумаў я сабе яшчэ асобны паднавесік скідаць, а дошак няма. Я — да Пятровіча, а Пятровіч — даўні мой друг, з тых яшчэ ваенных, часоў... Паслухаў ён мяне і кажа: вазьмі ў аднаго ды ў другога лесніка па хвоі. У тваім абходзе, як ехалі з ім да мяне, сам мне тую таўстулю паказаў. Ну, я доўга не думаючы — і за яе... Таўсценная, братачка ж, была, смалістая, вось памучыліся, рэжучы! Сам ведаю: не

надта добра выйшла, трэба было спачатку перагаварыць з табою, але спяшаўся ды і цябе напаткаць не мог...

— Дык Пятровіч ведае?— спытаў Зубрэй, крыху супакойваючыся.

— Кажу ж табе,— пацвердзіў Дзеравяка, пасля павярнуўся да жонкі: — Дастань, баба, тую, пачатую...

— Не буду я, дзядзька,— Зубрэй не хацеў звязвацца з гэтым Дзеравякам.

— Не памрэш, калі кроплю возьмеш. А мне сорам: быў добры чалавек у хаце, а я яго па-людску не прыняў.

— Але ж быў я сёння ў лясніцтве, нешта ўсе маўчалі,— сказаў Зубрэй.— Ні перасцераглі, ні спыталі...

— Забыліся, можа. Сам ведаеш, колькі ў іх дзялоў.— Дзеравяка падняўся, прынёс з кухні чаркі, хлеб, следам за ім жонка падала нарэзанае сала, агуркі.

— Можа, яно і так, як вы гаворыце, але мае дзела далажыць, а начальства хай разбірае,— сказаў Зубрэй.— А па-другое, паперку ўсё ж дайце мне, а то слова вашага нідзе не пакажаш у апраўданне і ў справаздачу не прышпіліш...

— Ну і палахлівец ты, як бачу. Кажу ж: нічога нікуды не пішы і нікога не бойся.— Дзеравяка выцягнуў гумавы корак з пляшкі і наліў поўную чарку Зубрэю, палавіну сабе.— Я зладжу з Пятровічам, усё будзе добра і ціха... Бяры, будзь здароў.

Дзеравяка першы падняў чарку, стукнуўся і памалу выцягнуў усё. Зубрэй вагаўся — піць ці не піць. Гаспадар ківаў галавою, каб выпіваў ды хутчэй прыкусваў.

— Бяры во гурочкі,— падсоўваў і гаварыў Дзеравяка.— На кірмашы дарагія яшчэ, не дакупішся, але я, брат, лічы, за дармавіну дастаў. Сын мой на базе... Адходы, так сказаць... Сапсаваліся ці мышкі пагрызлі — ёсць жа працэнты порчы... А гэтыя адходы смачныя. Ге-ге-ге...

Зубрэй маўчаў, прыкусваў.

— Дык гаворыш, перажываў крыху, не паспаў гэту ноч? Ге-ге-ге...— Дзеравяка расчырванеўся, бліснуў вачыма, неяк не хочучы, рагатаў.— Ведаю, што службіст ты адмысловы... Але не перажывай. Усё будзе добра, кажу. Прапала адна хвойка — дык прапала... І абход табе будзе, застанецца, і плата ісці не перастане, і ляснічы задаволены будзе... Мала што ў лесе бывае: і ветрам тыя хвойкі выварочвае, і громам б'е... Знойдзеш сведак, складзеш акт — і ўсё... Лесу хопіць, ды ён не твой. А дзяржава па адной хвойцы не абяднее...

— Так можна, дзядзька, калі слухадь вас, і ўвесь стройкі лес уціху выразаць,— сказаў Зубрэй.— Я дык добра знаю, што ўжо яго паменшала...

— Ты менш, дружа, бядуй, бяры да сэрца.— Дзеравяка махнуў рукою.— А матацыклет ты ладны купіў,— і жартоўна прыжмурыў вочы.— Гаворыш вось тут мне пра чэснасць ды беражлівасць, а сам, відаць, грошыкі ў лесе знайшоў...

— Не займаюся я гэтым, дзядзька,— незалюбіў Зубрэй.— Цялушку летась увосень прадаў і за яе купіў...

— Такой бяды, каб і загнаў машыну-другую каму надзейнаму, падзарабіў крыху. Жыць жа трэба... Пятровіч нешта таксама хутка «масквічок» купіў... Прыехаў сюды яшчэ нядаўна з чамаданчыкам, а цяпер ужо не толькі ў сваім легкавіку, але яшчэ і на грузавіку ўсяго свайго дабра не вывезе...— яхіднавата і з хітрыкай прамовіў, але, бачачы, што яго не хочуць падтрымаць у такой гутарцы, сказаў быццам абыякава: — Хаця гэта не наша дзела, усе мы хочам добра жыць, купіць многа чаго і надта не патраціцца...

— Такі хлеб, дзядзька, не надзейны...— перапыніў яго Зубрэй.— Дык пакажыце тую паперку.

— Эйш, цягнёнік, халера! — заківаў галавою Дзеравяка.— Мала тых сто грамаў... Я і сам гэта ведаю. Я, брат, умею з людзьмі жыць, усё разумею...— усміхаючыся, ён адшпіліў гузік з памятага накішэнніка, дастаў і кінуў перад Зубрэем дзесяць рублёў.— Гэта паперка трэба? Гы-гы-гы!

— Я не гандляр чужым дабром,— Зубрэй, як ад агню, адсунуўся ад стала.— Не трэба мне вашых грошай. І нядобра вам, старому чалавеку, лезці ў лес, падманваць ды Пятровіча чарніць...

— Цягнёнік, халера! Гы-гы-гы! — Дзеравяка палажыў на стол яшчэ адну пакамечаную, парваную з боку паперку — пяцёрку.— Дармо, што малады, а дзела ведаеш... Начальства хваліць, але на матацыкле ездзіш, відаць, дома ў панчосе тое-сёе ляжыць... На, бяры,— ён узяў грошы, склаў іх, нюхнуў, жартоўна цмокнуў і працягнуў Зубрэю.

— Не хапуга я, дзядзька.

— Усе мы не хапугі, але ўсё стараемся грэбці пад сябе...— Дзеравяка ўстаў і даваў грошы.— Не бойся: ні адна жывая душа не будзе ведаць... Бяры, ды яшчэ, можа, дамовімся з табою на які пянёк ці на лапіну сенакосу.

— Вось які вы, дзядзька! Укралі самі, яшчэ хочаце...

— Хачу, брат.— Дзеравяка засмяяўся, пастараўся сам палажыць яму ў кішэню грошы.

Але Зубрэй не даўся, адсунуўся.

Дзеравяка разгублена зірнуў, як не паверыў, што не хочуць браць дармовых грошай, падсунуўся. Зубрэй падхапіўся з-за стала, забраў з вешалкі фуражку і памкнуўся з хаты. Гаспадар, як чулася, подбегам шыбануў за ім.

— Ты што? — нібы здзівіўся, стараючыся забегчы наперад.— Не жартуеш? Бяры... Правы памагу дастаць...

— Правы я і без вас дастану. І акт напішу...— сказаў Зубрэй не азіраючыся.— Што ж гэта будзе, калі ўсе вось так...

— Паслухай...— хапаў за руку Дзеравяка, але Зубрэй паддаў кроку і выйшаў з двара.

— Я ўсё сказаў...

— Можаш пісаць...— злосна, праз зубы працадзіў Дзеравяка. Прыпыніўся ля брамкі.— Але не ўшчунеш ты мяне сваёю папераю: ёсць каму заступіцца... А ў цябе, дурня такога цвердалобага, пажар можа здарыцца ці парубка якая вялікая — пойдзеш з лесу, толькі я слова некаму шапну ці паперу складу... Другога каго, з большай граматай, паставяць... Ці медалёк захацеў палучыць?

Зубрэй маўчаў: пра што было гаварыць? Ён і так шмат патраціў тут часу. Завёў матацыкл і паехаў. Дзеравяка яшчэ нешта крычаў, прыпалохваў, але хутка яго голас перастаў чуваць.

Зубрэй праскочыў вуліцаю вёску, павярнуў за ёю на пагонку, адчуваючы, як дыхнула ў твар свежасцю, і хутка апынуўся ў маладым, а пасля і ў старым, яшчэ цёплым ад гарачага дня лесе — сваім абходзе. У ім было ўжо цемнавата, толькі стужкаю свяцілася дарога-бруканка.

Зубрэй стомлена зірнуў на лес і востра адчуў, што той пабяднеў яшчэ на адно вялікае старое дрэва.

1971

## І СВАЕ, І ЧУЖЫЯ

Рэгіна ішла-ішла, а пасля міжволі зірнула ўверх: на белыя, што гурбы снегу, толькі па краях падсіненыя воблакі заплыло невялікае няяркае сонца і раптоўна ўзвіўся налётны дзьмухавей. Здаецца, прамчаўся, гонячы замець, па доле, ударыўся аб сцяну, падскочыў угору, засвістаў пад страхою, а пасля выскачыў на дах і змёў з яго сухі снег. Ён, сыплючыся з даху, лёгка падаў долу, церусіўся і выснежваў абкладзеную рудою пліткаю сцяну, высокую елку, рослага мужчыну ў чорнай пыжыкавай шапцы і ў чорным паліто. Ён стаяў паблізу дома і пазіраў на сваю руку — на гадзіннік.

Як убачыла, што мужчына ад неўспадзеўкі ўгнуўся, ледзь не ўцягнуў у плечы шыю, Рэгіна развесялілася і ўсміхнулася, хутчэй пакрочыла да яго па рыпкім снезе. Яшчэ нядаўна яна адчувала стомленасць ад доўгай працы, ад непрыемнай спрэчкі са сваім мармытлівым намеснікам, але цяпер адразу ўсё — і стома, і спрэчка — забылася, з'явілася лёгкасць, тая сіла, вера, з якімі не толькі хацелася жыць, працаваць, але і ахвотней верылася ў такое блізкае і такое няўлоўнае жаночае шчасце...

Як толькі аціхнуў узвей, Сярожа зняў вушанку, строс з яе белы пух, рукаўкамі змёў снежны пыл з бабровага рыжаватага каўняра, азірнуўся — і, як згледзеў яе, вочы ды вусны яго кранула ўсмешка. Усміхнуўся і, здаецца, вельмі пахарашэў, хоць і так быў прыгожы мужчына.

— Нарэшце я бачу вас... ён наблізіўся, хуценька цмокнуў у шчаку, ахаладзіў яе скронь настылай поўсцю абснежанай вушанкі.— Ну, добры дзень, радасць мая!

— Здароў, Сярожка!— ціха сказала яна, падала руку, з радасцю адчула, як ён моцна сціснуў яе ў сваей гарачай далоні.— Прабач, калі ласка, што запазнілася. У другі раз бяруся хоць на хвіліну, але прыходзіць раней...

— Што ж, і гэта добра,— усцешыўся ён, не выпусціў яе рукі, і яны пайшлі поплеч.— Хоць калі трэба і ўзбунтавацца...— ён нацягнуў яе за руку і прытуліў да сябе.

Рэгіна, прыхіляючыся, наўмысна дзюбнула яму ў шчаку раз-другі носам: я ж жанчына, маўляў, і мяне трэба разумець, а ўзбунтавацца не дазволю...

— На нас жа глядзяць людзі, Сярожа,— потым прашаптала яна.— Ды не ў нашы гады так ужо гарэзнічаць...

— Ну і няхай!— махнуў ён рукою.— Ніякі я яшчэ не стары, я закаханы... А закаханым усё можна... Хто скажа, што гэта не так? Хіба той, хто ніколі не кахаў...

— Ладна табе,— яна ўзяла яго пад руку, і яны — моўчкі, толькі ўсміхаючыся — паволі пайшлі па расчышчанай сцяжыне.

У прасторным, выкладзеным бела-рудою пліткаю, светлым ад белых сцен і дзённага святла фае Сяргей памог ёй скінуць футра, падаў яго — доўгае, цяжкое — старому гардэробшчыку, распрануўся сам і ўзяў пададзеныя ленаватым гордым старым два нумаркі; Рэгіна за гэтую пару падышла да вузкага, але высокага люстэрка, аблямаванага чырвона-карычневым дрэвам з рознымі ўзорамі, паглядзелася. Спачатку, крышку адышоўшыся, зірнула на ладныя, як прыліплыя да ног, замшавыя высокія боты, а тады падышла ўжо бліжэй, узняла рукі

і пачала папраўляць на галаве чорны парык, заадно і любавацца сваім прыгожанькім, як яна лічыла, тварыкам. І ў гэтую хвіліну ў люстэрка ўбачыла Сяргея. Убачыла не ўсяго, а толькі яго вочы, гарэзны позірк, ім ён, ловячы хвіліну, што яна падымала рукі і ўзнімала міжволі сукенку, акідаў яе з ног да галавы і, здаецца, лашчыў яе гэтым позіркам лепш рук ды ўсякіх слоў.

Яна наўмысна пастаяла так яшчэ крышку, каб ён паглядзеў на яе з захапленнем, а пасля «грозна» паківала яму ў люстэрка пальцам: хіба можна так, бессаромнік?! — і павярнулася да яго.

— Каюся...— пацвеліўся ён.— Больш не буду.

— Ну-ну, так я табе і паверыла! — адказала яна і ўбачыла, што ён сёння ў новым чорным касцюме, белым світэры, загнутым пад барадою ў прыгожую складку.

Яны падняліся па шырокай лесвіцы на другі паверх, дзе ў шырокай, як акінуць вокам, залі з высокімі круглымі калонамі, на баках якіх віселі гаршчочкі з кветкамі, было ўжо даволі шмат людзей. Падаліся ў «свой куток», дзе яны, ужо даўно дамовіўшыся са знаёмай афіцыянткай Жэнечкай, сядзяць раз ці два ў тыдзень — калі сустракаюцца.

Як праходзілі па цэнтры залі, дык і сустрэліся з невысокай маладзенькай Жэнечкай. Тая ў гэтую хвіліну несла паднос са стравамі, усміхнуліся ёй, прайшлі крыху і селі ў самым кутку, ля высокага фікуса, за невялічкі столік. На ім стаялі графінчыкі, чаркі — пасуда была для вока, каб трымаць столік для патрэбных людзей.

— Прывітанне!— неўзабаве падышла Жэнечка, забрала са стала графінчыкі, чаркі, занесла непадалёку на шафку, вярнулася адтуль з вазачкаю са складзенымі ў ёй салфеткамі, з дзвюма беленькімі сурвэткамі. Тут жа паслала іх перад імі на стале, паклала доўгае і вузкае, белае, з буйнымі сінімі літарамі — назвай рэстарана — меню.

— Выбірайце па сваім гусце, а я зараз падыду,— сказала яна і адышлася, усміхнулася, як гадаючы: хто ж яны на самай справе? Брат і сястра, муж і жонка, жаніх і нявеста ці патаемныя каханкі?

— Ты імяніннік, дык і выбірай...— усміхнулася Рэгіна.— А я пагляджу, які ў цябе густ...

— З'есці смачна люблю, але гаспадарыць на кухні не.

— Ведаеш, і я не лепшая...—прызналася Рэгіна.—

Вельмі ж нейк крыўдна, што яна, гэтая кухня, забірае ў нас, жанчын, кожны дзень гэтульк часу, цярпення... Вары, смаж, з'еў — мый пасуду і зноў пачынай тое самае: вары, смаж... Ды гадай: што ж сёння зварыць? Я сплавіла ўсе гэтыя клопаты на маму-пенсіянерку, даручыла ёй хадзіць у магазіны, стаяць у чэргах, а сама з вялікім за-

давальненнем за гэты час ці кніжку пачытаю, ці ў кіно схаджу. У наш век нейк і боязна многа часу сядзець у хаце, стаяць ля пліты ці мыць бялізну ў ваннай... Лепш ужо болей пасядзець у цырульні, схадзіць у кіно, у тэатр, з'ездзіць куды...

Сяргей не паспеў ёй нічога адказаць: падышла Жэнечка.

— Разумееш, Жэнечка, ён сёння юбіляр, дык і прынясі што-небудзь лепшае,— з жартам сказала ёй Рэгіна.

— Вшыстке бэндзе ў пажондку! — усміхнулася тая і адышлася.

— Ну, як табе на новай пасадзе? — Сяргей перамяніў гутарку.— Прыемна ці цяжка кіраваць?

— Яшчэ не разабралася...— паціспула яна плячыма, з любасцю пазірала яму ў вузкаватыя блакітныя вочы, у куточках якіх было ўжо крыху сталых маршчын. Іх ёй цяпер чамусьці вельмі хацелася пагладзіць пальцам, а то і пацалаваць — хоць яе на рабоце лічылі строгай жанчынай, але яна была не строгая, парою адчувала вельмі вялікія прылівы чуллівасці і пяшчоты.— Пакуль што няёмка, Сярожа, што начальнік над многімі сталымі людзьмі, маю большую за ўсіх плату. Няёмка, што равесніцы крышку зайздросцяць, а пажылыя недалюбліваюць: як гэта так, што не з іх каторую, а дваццацісямігадовую, не надта яшчэ ўмелую, як яны лічаць, бухгалтарку паставілі галоўбухам такога вялікага выдавецтва. Хоць людзі ёсць людзі: паставілі б на маё месца старэйшую — зайздросцілі б і ёй. Такія яны ўжо, гэтыя зайздроснікі... На мяне нават туды,— яна ўсміхнулася, паказала пальцам угору,— напісалі ананімку. Маўляў, разведзеная, а кіруе калектывам... Праўда, у мяне адтуль толькі далікатна спыталі, чаму я развялася...

— Прывыкнеш,— усміхнуўся ён.— Пройдзе год-другі, дык і думаць не зможаш, як гэта ты магла раней без такой працы... Як я цяпер не ведаю, як гэта мог раней не быць галоўным канструктарам нашага заводзіка...

— Праца мне падабаецца, толькі вось, можа, зашмат усякай пісаніны,— прамовіла Рэгіна.— Кліенты нашы — народ вучоны, са званнямі ды ўзнагародамі. Глядзіш на іх, вырачыўшы вочы, што ні чалавек, дык талент-выкапень! Адзін такі мілы барадаты дзядуля-ўдавец вельмі сімпатызуе мне: як толькі атрымае ганарар, дык цукеркі прыносіць, у рэстаран запрашае...

— Ты глядзі!— Сяргей кіўнуў на яе пальцам.— Не пагляджу, што ён творац, геній, так трасяну ў рэўнасці, што не толькі згубіць свой талент... Я і ў наш касмічны век па-старамоднаму раўнівы... Трымайся лепш мяне — звычайнага служачага са звычайным акладам...

— А я вось думала: а што, каб і пайсці замуж за гэтага дзядулю? «Волга», дача, кватэра-люкс, жонка акадэміка, бібліятэка і яшчэ спецыфічная кніжка з кругленькай сумай... Колькі там яшчэ ён працыльгікае?..

Сяргей як разгубіўся ці праглынуў язык, бо нічога не адказаў. Толькі мармытнуў нешта, варухнуў вуснамі ды сціснуў іх з крыўдаю.

— Не злуйся, раўнівец старамодны,— яна ўсміхнулася, пагладзіла яго па руцэ, што нервова застукала пальцамі па стале,— Я ж ніколі гэтага не зраблю... Адно, што саграшу ў думках...

Вярнулася Жэнечка. Прынесла маленечкі графінчык каньяку, пляшку мінеральнай вады, па дзве талерачкі са свежымі гуркамі і сухою кілбасою, бутэрброды з чорнай ікрой.

— Булён, эскалоп ды каву пасля,— сказала яна, ставячы ім стравы на стол,— Смачна вам есці і піць!

— Дзякуем,— амаль у адзін голас адказалі яны.

— Ну, мілы, за твае слаўных трыццаць годзікаў! — калі Жэнечка адышлася і Сяргей наліў у чаркі пітва, ціха сказала Рэгіна, пазіраючы то на рудую пахкую вільгаць у кілішку, то на пачырванелага ад хвалявання Сяргея.— Будзь і ў сорак, і ў пяцьдзесят гэтакі ж здаровы, шчаслівы, май вялікія ўдачы па рабоце і ніколі не забывай ды не пакідай аднаго знаёмага табе чалавехга...

— Дзякую!— усміхнуўся і ён.— Але давай толькі дамовімся, каб гэты знаёмы чалавек, з якім мы хутка будзем святкаваць гадавіну першай сустрэчы, таксама не забываў мяне, не меў больш ніколі такіх... ну, грозных думак у галаве...

— Ён абяцае табе гэта...— усміхнулася, дакранаючыся да яго кілішка, Рэгіна.

— Вось і добра,— узрадаваўся ён.— Мне болей нічога і не трэба.

Яна плюснула яму раз-другі вачыма, ціхенька пацмокала вуснамі — маўляў, моцна-моцна цалуе яго.

...Як пасядзелі яшчэ, пагаварылі ды патанцаваліся, выйшлі адсюль яны не позна, але і не рана для яшчэ кароткага лютаўскага дня — сама згусцілася, паніжэла над горадам шэрае, як туманістае, неба, нейк жаўцеючы ад агнёў. Ля тратуараў і надта ля дрэў прычарнеўся снег; вакол пакрысе пачаў аціхаць, здаецца, няўмоўчны гарадскі шум, і таму ўжо добра чулася, як і далекавата на шырокіх вуліцах праходзілі аўтобусы ды тралейбусы. Тралейбусы гучна ляскалі падпоркамі аб дрот, бліскалі на стыках агнём, кідаючы долу яркія іскры.

Падхапіўся, пацісную марозік, пачаў шэрхнуць снег, што крышку прыадтаў за сонечны дзень. Але ўсё роўна неяк адчувалася, трывожыла душу няяснае пачуццё, што свяціла сонца, падалі ў зацішку з

дахаў кроплі вады, што цяпер, нанач, загусцелася, правісла яшчэ маленькімі і тоненькімі ледзяшамі, што праталіўся снег ля нагрэтых камлёў дрэў, што мякка ўжо дымеліся стрэхі маленькіх дамоў, што стаялі між высокіх гмахаў, словам, трывожыла, што пара ішла да цяпла... Як гарачым, сухім летам прагнеш халоднай, снежнай ды мяцелістай зімы, гэтак такою вось зімою чакаеш вялікага святла, зелені ды сонечнага прыпёку...

— Спыняем першае, што трапіцца, таксі і едзем...— лагодна сказаў Сяргей, тулячы яе ды моцна абдымаючы за спіну, і, як толькі засталіся адны на вузкай цемнаватай вуліцы, пацалаваў яе ў куточак вуснаў.— Чуеш?

— Не цалуйся на марозе...— усміхнулася яна.— І давай, мілы, пройдземся. Такі слаўны вечар! Хочацца некуды ісці і ісці, як да блізкага свайго шчасця...

— Я вельмі хачу хутчэй быць дома...— ён шапнуў ёй у вуха перарывістым голасам, даткнуўся вуснамі да яе мочкі вуха, што яна аж уздрыгнула.

— Вельмі хочаш хутчэй паехаць?— запытала яна крышку з какецтвам, бо хацела, каб ён гаварыў і гаварыў ёй пяшчотныя словы, туліўся, ад чаго ў яе заўсёды аж перахоплівала дыханне, крышку кружылася галава і на душы станавілася легка.

— Вельмі! — шэптам адказаў ён, прыгарнуў да сябе, пацалаваў.

— Паехалі тады хутчэй, міленькі...— са згодаю прашаптала яна, адчуваючы, што ў яе чамусьці раптоўна аслаблі ногі, але на душы напраўду стала легка, шчаслівa, як яна была ў якім харошым сне...

## 2

З ціхай вуліцы — праз не зусім шчыльна зацягнутыя занавескі на акне — струменілася ў цёмны і ціхі пакой ліхтарнае святло, рассявалася, ад чаго тут выстойваўся жоўты паўзмрок.

Рэгіна, зусім ахмялелая, стомленая, але вельмі лёгкая, як зусім бязважкая, легла на Сяргееў смуглы плячук і пазірала яму ў твар, як не верыла ўсё роўна, ці тут яна, ці побач з мілым чалавекам, ці яны іменна зведваюць гэтакае шчасце, гадала, а ці паўторацца яшчэ калі такія цудоўныя хвіліны?

Сяргей, заклаўшы рукі пад галаву, ціха і спакойна ляжаў побач, накрыўшыся па грудзі цёплай коўдрай, ледзь-ледзь прыкметна пасміхаўся, а пасля прыхіліў яе за шыю да свайго пляча і пагладзіў далонню па спіне.

Яна тулілася шчакою да яго грудзей, слухала, як там, аціхаючы, тахкае сэрца, і ўспамінала, нават не ўспамінала, а, здаецца, усё яшчэ

чула, што гаварыў Сяргей ёй, што сама з пяшчотаю шаптала. Чамусьці цяпер засаромелася, што была такая і што Сяргей быў такі. Заплюшчыла вочы, усміхнулася: вось такія яны абое...

Але не хацелася ні пра што гаварыць, цягнула памаўчаць, паляжаць прытуліўшыся і нават ні пра што не марыць, а хутка заснуць. Каб і цяпер, і прачнуўшыся, адчуць сябе шчаслівай, адчуць, што зноў будзе наперадзе любімая работа, сям'я, зноў будуць такія вось жаданыя сустрэчы з Сяргеем...

Рэгіна паляжала крыху, моўчкі пацешылася сваім шчасцем, а пасля пачала соладка драмаць, паглыбляцца ў нейкае салодкае, лёгкае і жаданае мроіва-цяпло, як неспадзявана, аж уздрыгнула, пачула рэзкі званок у дзверы.

І Сяргей, які гэтаксама сонна ўжо дыхаў, падхапіўся, сеў, пачаў шукаць позіркам, дзе цяпер ляжыць поспехам скінутая кашуля.

— Я пагляджу...— сказала Рэгіна, села, лёгка паваліла яго локцем на падушку, пасля азірнулася, прыкрыла грудзі коўдраю, з сорамам усміхнулася: — Не глядзі, пакуль не адзенуся.— Палэпала вольнаю рукою па коўдры, па нагах, абмацала там сваю беленькую сарочку, нацягнула яе праз галаву і, абхінаючы яе на клубы, перакулілася цераз яго, хуценька босая пайшла з пакоя ў калідор.

Яна зрэдзь, надта ў астатнія месяцы, моўчкі ды з рэўнасцю пакутавала, што ў Сяргея, можа, ёсць яшчэ і другая жанчына. Да свайго былога мужа, за якога, здаецца, выйшла па каханні і з якім пражыла разам чатыры гады, ніколі не мела рэўнасці, хоць ён у апошнюю пару вяртаўся дамоў і за поўнач: яна душою адчувала, што ў яго няма жанчыны-каханкі, што ён і не імкнецца яе завесці, у яго толькі ёсць прагавітасць да гарэлкі, што губіла і яго, і сям'ю. А вось амаль непітушчага Сяргея раўнавала, не раз далікатна распытвала пра знаёмых яму жанчын, але ён, калі чуў яе гэтыя сумненні, у вернасці ёй не кляўся, толькі пасміхаўся і з усмешкаю ківаў галавою.

«Эх, жанчыны вы, жанчыны!» —гаварыў ён.

І гэта яе трывожыла: падумай, калі табе, жанчыне, мужчына гаворыць зашмат пяшчотных слоў, але неяк і насцярожвае, калі ён надта ж ашчадны на іх — ці не мае ён другой жанчыны?

І вось нечаканы званок. Пра тое, што ён будзе. Сяргей дагэтуль нічога не гаварыў. Нешта трывожна ёкнула ў душы: гэта не суседка ці Сяргеева былая жонка, а гэта яна, тая таемная, грозная красуня суперніца!

Рэгіна наўмысна ішла да дзвярэй з распушчанымі валасамі, босая, у сарочцы: няхай тая ведае, што тут лішняя, што тут яна, Рэгіна, свой чалавек, што яна так доўга шукала свайго шчасця, знайшла і так

легка яго не аддасць. Уключыла ў калідоры святло, хутка і нервова адчыніла дзверы.

У калідор напраўду зайшла дзяўчына. Маладая, прыгожая. Паштарка.

— Вам тэлеграма,— сказала яна мяккім, прыемным голасам, здаецца, са здзіўленнем акінула Рэгіну позіркам.

— Заходзьце,— ужо спакойна, нават з сорамам запрасіла Рэгіна, адступілася.

Адчуваючы, як палаюць шчокі, узяла з паштарчыных рук самапіску, блакнот, прыклала яго да сцяны і хацела хутка распісацца, але самапіска не пісала. Яна, чырванеючы, патрэсла яе і, нарэшце, распісалася. Узяла тэлеграму, зачыніла за паштаркаю дзверы і прыпынілася.

«Татка віншую днём нараджэння твой Косцік».

Рэгіна ведала, што гэты сямігадовы Косцік — Сяргееў сын. Ведала, што Сяргей вельмі любіць яго, сумуе па ім і дзеля гэтага нават мусіць бачыцца з былой жонкай. Ні раней, ні цяпер яна, Рэгіна, не крыўдавала за гэта: сама была маці — мела дачку, вельмі любіла яе,— дык спачувала Сяргею, ніколі не стаяла яму на дарозе, каб адвярнуць яго ад сына. І ведала, што ніколі і не стане.

Праўда, Рэгіна ўсё ж з рэўнасцю падумала пра былую Сяргееву жонку: яна ў апошнюю пару просіць даравацъ, хоча сысціся з ім, ужо згодна жыць на яго новую плату і, ведаючы, што ён любіць сына, стараецца гэтым як прывязаць яго да сябе. Вось і наўмысна такую чуллівую тэлеграму падаслала...

Рэгіна паклала тэлеграму ля тэлефона і, не выключаючы святла, вярнулася ў пакой.

— Хто прыходзіў? — папытаў Сяргей.

— Угадай...— сказала яна, падняла з падлогі свой парык, падабрала — колькі абмацала ў паўцемені — заколкі, паклала ўсё гэта на стол, перакулілася цераз Сяргея на канапу да сцяны, зноў зашылася пад цёплую коўдру, прытулілася.

— Суседзі?

— Не. Не ведаеш? Ах ты, хітрун гэтакі, падманшчык! — і з жартам застукала па яго грудзіне кулаком.— Твая яшчэ адна знаёмая прыходзіла. Згледзела мяне — і ходу... Так што зараз я дам прачуханкі, а заўтра яна дасць...

— Ну і як яна табе, мая другая знаёмая? — ён не даў больш стукаць па грудзіне, злавіў яе руку і сціснуў у далоні.

— Ну, нічога... Бадай, лепшая за мяне...

— Не так, радасць мая, ты гаварыла б, каб ведала, што ў мяне ёсць яшчэ і другая...— усміхнуўся ён,— Так мільгнула б адгэтуль ды ляснула б дзвярмі, што яны і з завесаў зляцелі б...

— Няўжо я такая... ну, такая ўжо злючка-калючка?

— А хіба я гавару так? — усміхнуўся ён.— Я хачу сказаць, што ты вельмі... ну, надта ж шчырая, строгая...

— Ніякая я не строгая,— ужо не жартам, а сур'ёзна адказала яна.— Я гэтулькі выпакутавала са сваім п'яніцам, гэтулькі пасля баранілася ад бабнікаў, што маю права на нейкае... А табе я ўсё аддаю: маладосць сваю, душу... Таму ніколі не дарую падману. Выйдзе так, што надакучу, дык не хітруй, а прызнайся — і я сама сыду з тваіх вачэй...— яна прамовіла так са шчырасцю і падумала: не дай бог, каб так выйшла. Сам ён, можа, добра не ведае, што значыць цяпер для яе, яшчэ нядаўна расчараванай ва ўсім жанчыны...

— Тады і я шчыра,— ён усміхнуўся, але гэтая ўсмешка выйшла нейкая самотная.— Гаворыш вось так, мне ўсё гэта вельмі добра чуць, але... Але не хочаш, каб мы былі разам, былі муж і жонка...

— А хіба, мілы, нам цяпер блага? — як здзівілася яна, зірнула яму ў вочы, пацалавала іх у куточкі.— Ці мы абманваем каго, прыносім некаму пакуты? Не, не абманваем. Мы вольныя людзі... Але не гулякі-адзіночкі, не эгаісты ды пустазелле нейкае... У нас жа ёсць дзеці: у цябе сын, у мяне дачка. Мы любім іх і зробім усё, каб яны былі шчаслівыя.

— Але тваёй дачцэ я не бацька, а ты майму сыну не маці... Жывём паасобку, сваімі клопатамі. Толькі вось сустракаемся...

— Я разумею цябе, мілы...— сказала цяпер Рэгіна, пагладзіла яго па дужым плячы.— I я дзеля нашага будучага, дзеля цябе магу радзіць сына ці дачку...

— Але ўсё роўна не станеш маёй жонкай, не будзем жыць пад адной страхой? — самотна ўсміхнуўся ён.

— Так лепш, мілы,— адказала яна.— Станем мы жыць пад адной страхой, як ты кажаш, дык хутка надакучым адно аднаму, пачнём бачыць адно ў адным кепскае, спачатку моўчкі пакутаваць ад гэтага, а пасля і папікаць... А так мы кожны раз будзем сустракацца, як у першы раз, развітвацца — як назаўсёды... Ці як надоўга... А нашы дзеці, наша работа, нашы мары пра сустрэчу, пра нешта светлае ў нашым жыцці дадуць нам паўнату, радасць... Нашай платы нам хапае, мне гатуе, мые мама, ты сходзі ў кафэ, бялізну здавай мыць...

— Усё гэта так,— уздыхнуў ён.— Але нечага няма ў гэтым... Пакутліва, што жывеш, як дзік-бадзяга...

— Мяне чакай, жыві гэтай сустрэчай...

— А хіба я цябе не чакаю? Яшчэ як...

Яны з хвіліну памаўчалі.

— Ты пакрыўдзіўся, мілы? — спытала пасля Рэгіна.

— Не,— адказаў ён.— Але ўсё ж хто прыходзіў?

— Прынеслі сынаву тэлеграму з віншаваннем. Ляжыць ля тэлефона.

Сяргей з хвіліну зноў памаўчаў, ляжаў, гладзіў яе па шыі.

— Ідзі зірні,— ціха сказала яна, разумеючы, што ў яго цяпер на душы.

Сяргей як з падзякаю пацалаваў яе ў шчаку, устаў, накінуў на сябе кашулю і пайшоў у калідор. А яна, застаўшыся тут, чула, як ён крочыў, узяў тэлеграму і заціх. Пашкадавала, што, можа, недзе чытае і ў яго падрыгваюць рукі, а пасля падумала, што не лягчэй і ёй: і яна вось мусіла дзеля любімага чалавека ўцячы ад любімай дачкі. Яна засумавала па сваёй светлавалосай дачушцы-красуні, падумала, што вось гэтак, знябыўшыся, сумуе дома без Сяргея, імкнецца да яго...

1977

# НАСТАЎНІКІ

*ТРЫПЦІХ*

## ДАЖДЖЫ НАД ВЁСКАЙ

*Светлай памяці настаўніка Камлюка М. К.*

Логвін выйшаў з хаты і падаўся ў вёску.

Кастрычніцкае неба, нізкае, шэрае, сыпалася дробнаю імжою; вакол стаяла ранішняя мяккая, свежая ціш, толькі далека, за поштаю, глуха зарыпеў, як просячы спакою, стары калодзежны журавель, дзынкнула аб вочап вядро, і чуваць было, як лілася ў яго вада.

Пасля начнога дажджу стрэхі і сцены вішнёўскіх хат былі мокрыя, цёмныя, толькі дзе-нідзе, пад самымі карнізамі, святлеліся шэрыя сухія палосы. На вуліцы, што вяла ў суседнюю вёску, Міланькі, у шматлікіх выбоінах блішчэлі невялікія лужыны.

Логвін спакойна зірнуў на знаёмыя вішнёўскія хаты, на блізкі высокі, з жалезнай, пафарбаванай у сіні колер агароджай помнік, на недабудаваную двухпавярховую кантору і ўбачыў: за ноч ля яе пабольшала горка белай цэглы, прывезлі дошкі, аконныя рамы і дзверы. Цяпер і гэта ўсё мокрае, а ў карытцах, дзе рабочыя размешваюць пясок і цэмент, сабралася поўна шэрай вады.

Насустрач яму гнаў статак кароў ахінуты новым брызентавым плашчом Кастусь, тутэйшы пажылы пастух, крычаў на ўсю вуліцу: «Выганяй!» — ляскаў доўгаю пугаю і трубіў у бярозавы ражок. Логвін павітаўся з пастухом, з жанчынамі, якія выпускалі з двароў жывёлу, сышоў з гразкай вуліцы і пайшоў далей агародамі. Але і тудою ісці было не лепей, бо араная мяккая зямля размокла, была слізкая і вязкая.

Логвін павярнуў на вуліцу. Як пралазіў праз вядомую дзірку ў плоце, сутыкнуўся з гаспадыняй двара. Насця, невысокая худая кабеціна, са здзіўленнем зірнула на яго, але змаўчала, адвярнулася: учора на бацькоўскім сходзе ў школе Логвін сароміў яе перад людзьмі, што яна не глядзіць за сваімі дзецьмі-вучнямі — яны слаба, на двойкі і тройкі, вучацца, часта ўцякаюць з урокаў і праседжваюць у «зялёнай школе», недагледжаныя. Насця спачатку сядзела і маўчала, нібы чапалі не яе. Пасля прыскочыла да стала, апраўдвалася, аж слязу пусціла, што ёй, удаве, цяжка, за работаю няма калі глядзець за малымі, яна не вінавата, што дзеці не горнуцца да кніжкі: няма каму іх прыструніць, памагчы ім. Гэта іншым кабетам, у каго ёсць гаспадары, хто не ходзіць на работу, а топчацца пры доме, хапае часу дзяцей глядзець. Калі ж тыя, «іншыя», накінуліся на яе, што яна напраўду мала зважае на вучобу дзяцей, дык Насця раззлавалася, закрычала з папрокам: «Калі школьнікі слаба вучацца, не слухаюцца, дык як тады вучаць настаўнікі, за што грошы палучаюць?»

Сёння вось, падумаў Логвін, можа, ён павінен быў злавацца на гэтую гнеўную, неперабарлівую ў словах Насцю, не прывітацца з ёю, а не яна адварочвацца ад яго. Але ён, пералезшы праз дзірку ў плоце на вуліцу, усміхнуўся:

— Дзень добры, цётка Насця!

— Дзень добры,— нібы прысаромлена буркнула тая і паспяшала ў свой двор, толькі, здаецца, у сенцах усё ж прыпынілася, раз-другі зірнула на яго.

Логвін паддаў кроку: перад ім быў яшчэ ладны кавалак дарогі, з добрую вярсту, калі не болей. Ішоў ля слізкіх платоў, бачыў, як з комінаў хат выплывае тоненькі рэдкі дымок, сцелецца, чапляецца за частакол, нюхаў дым і чуў: Вера Чалей смажыць маладое сала з цыбуляю, Анюта Мытнік пячэ дранікі, у печы Волькі Квітун кіпіць вада ў саганку з бульбаю, льецца вар на под. Ідучы раніцай вясковай вуліцай, можна добра ўведаць, хто збірае што на сняданне...

Нечакана даўся ў нос горкі, быццам хто абсмальваў гуску ці авечую галаву, пах; Логвін адразу зірнуў уверх: з коміна Сямёніхі выскачылі чырвоныя іскры, услед за імі, як з кулямёта ноччу,

шыбанула яркае, аж белае, полымя, а пасля паваліў густы чорны дым — відаць, угарэлася высахлая, даўно нячышчаная сажа.

Логвін забег і сказаў старой кабеце, што гарыць у коміне. Тая стаяла ля стала і крышыла буракі. Спачатку здзівілася, што ён зайшоў да яе, старой, адзінокай, тады хуценька пашлэпала да печы, качаргою раскідала ў ёй палаючыя дровы. Пасля выйшла ўслед за ім з хаты, папрасіла запыніцца на хвіліну ў сенцах, а сама падалася ў кладоўку.

— На во, настаўнік, яблык,— вярнуўшыся, выцерла аб фартух чырвоныя ад буракоў рукі і падала вялікую зялёную антонаўку.— Зубы маладыя, з'ясі.

Логвін падзякаваў і хутка пайшоў, думаючы, што калі і далей будзе так прыглядацца да ўсяго, заходзіць у хату, дык можа спазніцца на ўрок.

Выбліснула халоднае і зусім няяркае сонца, рассеяла шэрань. Адразу пасвятлела, пачысцела наваколле, папоўз лёгкі рэдзенькі туман у лагчыны і над лес. Логвін яшчэ прыспешыў крок, выйшаў з вёскі, абмінуў стары гнілы масток — і перад ім паказалася каляіністая, перамешаная коньмі і машынамі дарога, зарослая па ўзбочынах нізкімі дзікімі кустамі. Бывала, Логвіна даганяў тут ранішні аўтобус, спыняўся і падвозіў у Міланькі, але цяпер, у такую бездараж, ён больш не ходзіць. Мясціны тут нізкія, гліністыя, дык таму і бездарожныя.

Логвін, хоць тупае гэтаю дарогаю кожны дзень у школу і вяртаецца дамоў, прывык да яе, але сёння зірнуў вакол і трывожна адчуў, што адкрасоўвае, марнее прырода — пабяднела на лісце, асыпалася за ноч бярозка ля старога, высока ссечанага некім асінавага пня, пачырванеў, здаецца, аж гарыць, малады адзінокі па правы бок дарогі клёнік, толькі па-ранейшаму не траціцца пышны на зеляноту дуб, трымаецца алешына. Логвін прагна пазіраў на прыродную шматфарбнасць і адчуваў, што гэтымі днямі на дварэ будзе самая краса, бо хутка і пажаўцелае і пачырванелае лісце патухне, нібы жар у грубцы, пачарнее і зляціць долу. Тады трэба будзе доўга, аж да другой восені, чакаць, каб яшчэ раз убачыць гэтае хараство. Падумаў ён так, і да яго падкацілася, запоўніла добрая радасць, захапленне, што ён тут жыве, бачыць усё гэта, ходзіць дарогаю, якой, можа, больш нідзе такой няма...

Логвін успомніў, што ўчора прыслаў яму ліст Міша, даўні студэнцкі сябра. Той прыладзіўся пасля інстытута ў сталіцы, скардзіцца, што надакучыла жыць на прыватнай кватэры, сядзець у бібліятэцы ці ездзіць са студэнтамі ў вёску на працу, зайздросціць, што ён, Логвін, вось знайшоў «сваё месца ў жыцці», «паважаны ў вёсцы чалавек»,

ажаніўся, мае сям'ю, сам-насам з прыродаю, здаровы, «як агурок», шчаслівы. У горадзе, бачыш, такое не адчуеш, што ў вёсцы. Шчаслівы той, хто любіць вёску і жыве ў ёй. Былыя ж вяскоўцы ў горадзе не зусім шчаслівыя людзі, бо яны адарваліся ад зямлі, але не могуць прывыкнуць да асфальту.

«Кожнаму сваё...— падумаў Логвін.— Чаго ўздыхаць ды зайздросціць, выдумляць, што няможна жыць без вёскі? Можаш жыць без яе — жыві ў горадзе, не можаш — едзь во сюды, хадзі гэтаю дарогаю, як пяты ўжо год тупаю я, зарабляй свой кавалак хлеба, бяры замуж якую настаўніцу ці простую вясковую дзяўчыну, жыві, дбай, каб вёска болей духоўная, культурная стала... Адтуль, здалёку, няйлягчэй уздыхаць ці павучаць...»

Азірнуўся: ці бачыць хто, што ён, лічы, сам з сабою гаворыць? Паблізу нікога не было, толькі ля вішнёўскага мосціка паказаліся веласіпедысты. Гэта, канечне, асаўчане і ніўнянцы — вучні з самых далёкіх вёсак.

Прабег, хіснуў кусты вецер, зусім нечакана секануў халодны восеньскі дождж. Пацяжэў Логвінаў капялюш, пацямнелі, намоклі на каленях штаны, наліпла да ботаў зямля — не адарваць і не пацягнуць ног.

Кусты хутка засталіся ззаду — і перад Логвіным паказаўся зялёны не па восені выган. За ім чарнелася заараная поле з тоўстымі белымі карэннямі на паверхні — пачыналася суседняя вёска, Міланькі. Справа стаяла ферма, і ад яе тут асабліва было пахка, гразка, ледзь праехаць ці прайсці.

Ля школьнага плота, на скрыжаванні дарог, Логвін убачыў людзей з блізкіх вёсак. Тыя чакалі машыны. Ён прывітаўся з імі, крыху пазайздросціў, што яны могуць часта ездзіць у горад, а ён бывае там раз-два ў паўгода, кожны дзень ад раніцы да цямна не выходзіць з гэтай васьмігодкі.

— Сельская інтэлігенцыя! — хтосьці з маладзейшых пажартаваў яму ўслед.— У ботах!

Логвін не закрыўдаваў. Што ж, усміхнуліся з яго гумовых высокіх ботаў, з доўгага плашча і тоўстай, напакаванай дзіцячымі сшыткамі сумкі, дык няхай і ўсміхаюцца. Ён не азірнуўся нават, сышоў і выцер аб траву боты, вымыў у лужынцы. Увосень ці ўвесну па гэтых дарогах не пройдзеш без гумоўцаў.

На ганку яго сустрэла нізенькая, заўсёды зласнаватая тэхнічка, пабурчала, што нанеслі на калідор дзеці бруду, задалі ёй лішняй работы. Логвін прывітаўся з ёю, сказаў, што няма чаго наракаць, калі такая макрата на дварэ.

Па калідоры бегалі, шумелі дзеці, ганялі карабок, пісягавалі падлогу гумовымі і кірзавымі ботамі, што падсохлі ўжо, пабялелі. Як убачылі яго — пырхнулі, пахаваліся па класах. Стаяў вялікі гоман у пяцікласнікаў: відаць, хлопцы стралялі з гумак, накідвалі паперы ці крэмзалі крэйдаю дошку, а дзяжурныя вучаніцы спрачаліся з імі. Так было ў школе амаль кожны дзень, і Логвін ужо прывык да шуму.

У настаўніцкай дырэктар, стары спрацаваны чалавек, які «дацягваў» апошні год да пенсіі, сядзеў ужо за «сваім» сталом і гартаў «Геаграфію» ; ён даўно ўжо, гэта ведалі ўсе настаўнікі, не піша ніякіх планаў. Пагартае кнігу і ідзе на ўрок. Сселіся на канапе і крэслах у куток і шапталіся маладыя настаўніцы, нават не заўважылі, што зайшоў Логвін; завіхаўся правяраць сшыткі, толькі маўклівым кіўком галавы прывітаўся Пётр Сцяпанавіч (у школе самыя сталыя настаўнікі дырэктар і яго жонка, мовавед Ігнат Карлавіч, матэматык Міхаліна Казіміраўна, фізік Пётр Сцяпанавіч ды крыху ён, Логвін, а астатнія настаўнікі зусім маладыя, толькі год-два таму назад, а то і сёлета закончылі інстытуты. З маладых, лічы, усе — незамужнія дзяўчаты).

Логвін выбраў у цеснай маленькай настаўніцкай вольнае месца і павесіў свой мокры плашч, скінуў цяжкія боты і абуў чыстыя наваксаваныя туфлі, што заўсёды стаяць у школе. Ён пераабуўся, разгладзіў калашыны і адразу ж адчуў сябе памаладзелым.

Ішла перадача па радыё, але ніхто яе не слухаў, чакалі, калі прагучыць шэсць сігналаў — будзе дзевяць гадзін, празвініць званок, і трэба будзе ісці на ўрок, забыцца пра свае асабістыя клопаты, а быць толькі настаўнікам, думаць пра дзяцей, вучыць іх ці правяраць, што яны ведаюць. Да Логвіна, хоць нарэшце заўважылі, дзяўчаты не загаварылі, а ён, не крыўдзячыся, а нават усміхаючыся, прычасаўся, дастаў з макраватай сумкі свае планы, ведаючы, што сёння яму як завучу трэба ісці на першы ўрок у шосты клас. Там не яго асабісты ўрок, а ўрок Пятроўскай, і трэба пабыць на ім.

— Эла Іванаўна, прабачце,— сказаў ён, клічучы маладую настаўніцу,— пакажыце, калі ласка, свой план па беларускай літаратуры.

Эла Іванаўна, маладзенькая, прыгожая, стройненькая дзяўчына, спалохана ўскочыла з канапы, абцягнула на сабе вузенькую чорную спаднічку, якая ўсё роўна не закрывала поўненькія калені. Нядаўна яна, як крыху нехаця пачуў Логвін, расказвала дзяўчатам-сяброўкам (а іх, незамужніх настаўніц, у школе аж пяць) пра Валерыка. Той прыехаў пазаўчора з горада і ў той жа вечар выклікаў яе на двор, «кідаў каменьчыкі ў акно», а яна «наўмысна не спяшалася выходзіць, правярала яго». Эла Іванаўна, нагінаючыся над сваёй сумкай і

чырванеючы, доўга перабіраючы кнігі-падручнікі, шукала патрэбны сшытак, нарэшце, здаецца, абмацала яго, яшчэ гусцей пачырванела і вінавата зірнула на Логвіна. Ён адразу ж усё зразумеў — яна сёння не напісала планаў.

— Мікалай Аляксандравіч,— ціха прамовіла яна,— я забылася планы дома.

Сказала — і ёй самой стала сорамна, бо плюскала вачыма і не магла сустрэцца з яго позіркам, раз ад разу гладзіла пачырванелыя шчокі. Дасюль яна, як ні адна настаўніца, заўсёды пісала вялікія добрыя планы.

«Усё-такі дакідаўся той» «разумны, ветлівы» Валерык, доўга пасля пратрымаў на двары»,— падумаў Логвін, усміхнуўся і пашкадаваў маладую дзяўчыну. Яна прыехала з горада ў вёску, сумуе без хлопцаў, рада кожнаму новаму чалавеку.

«Яна, відаць, і не выспалася добра».

— Эла Іванаўна,— страгавата сказаў Логвін,— вучні-гультаі, калі не зробяць урокаў, даўно выдумалі сабе тры адгаворкі: не быў у школе і не ведаў тэму, што рабіць, балела галава і не зрабіў ці што-небудзь забыўся дома. Другіх вымыслаў амаль не бывае. Вы і самі гэта ўжо ведаеце...

— Я напісала...— прашаптала Эла Іванаўна, і яшчэ болей відаць было, што маніла: ужо не ведала, дзе дзець вочы. Поглядам яна прасіла не дакараць яе, не гаварыць болей — каб не пачуў строгі дырэктар. Той і на педсавеце можа за гэта папракаць і калі яшчэ раз так «зловіць», дык і вымову аб'явіць.

— Без плана нельга лічыць, што вы падрыхтаваліся да ўрока,— сказаў Логвін.

— Я падрыхтавалася...

І тут празвінеў званок. Настаўніцы-дзяўчаты першыя падняліся, моўчкі разабралі класныя журналы і разышліся. Цяжка падняўся, паклаў у нагрудную кішэню акуляры высокі паўнаваты дырэктар і гэтаксама падаўся на свой урок, на Элу Іванаўну нават не зірнуў: гэты год ён мала ўваходзіць да работы, цярпліва чакае вясны, зваліў усё на Логвіна і стараецца ўтрымаць, не адпусціць яго са школы, змусіць, каб іменна ён сачыў за маладымі настаўнікамі: першы год іх трэба вучыць, як і дзяцей.

Эла Іванаўна ўзяла класны журнал, стаяла і чакала: пусціць яе Логвін на ўрок ці пашле дахаты па планы. Логвін усё разумеў, спачуваў настаўніцы, але мусіў не быць мяккім: работа ёсць работа. Хоць увогуле яму, маладому завучу, было нялёгка: не ўдавалася быць заўсёды строгім з амаль сваімі равеснікамі ды яшчэ з маладымі неза-

мужнімі дзяўчатамі, і няможна было залішне быць мяккім з імі — тады яны сваімі ласкавымі позіркамі, living рознымі гутаркамі ды інтымнасцямі зусім бянтэжылі яго, нават часамі і любілі паджартаваць, ведаючы, што ў яго вельмі раўнівая маладая жонка. Яму школьная — настаўніцкая і завучаўская — работа давалася лёгка, а вось «спрацоўвацца» з дзяўчатамі было цяжэй...

Ён хацеў ужо сказаць сваё слова, як адчыніліся дзверы і Міхаліна Казіміраўна, пажылая хворая настаўніца, цяпер раззлаваная, белая, ледзь не ўкінула ў настаўніцкую пяцікласніка Быкоўскага — рослага, гарэзлівага падлетка. Ад выхадак таго часта ўжо нават плакалі настаўніцы, праз сілу ідучы ў пяты клас на ўрокі.

— Мікалай Аляксандравіч,— Міхаліна Казіміраўна аж не магла гаварыць ад злосці і хвалявання,— што хочаце рабіце з ім, але я не магу весці ўрок, калі ён у класе... Усе дзеці як дзеці, а ён... Вось і цяпер заходжу да іх, а ён ката з-пад парты выпусціў... Сарваў урок... Вы ведаеце, якія ў мяне нервы... Разбірайцеся! Вы — завуч. Я не магу...

Гаварыць, разбірацца цяпер з Быкоўскім, падумаў Логвін,— значыць, бясконца дапытвацца: «Чаму ты так зрабіў?» Логвін настаўнічаў не першы год, усякіх дзяцей пабачыў, ведаў гэтага Быкоўскага і цяпер разумеў: яму трэба ісці на ўрок з Элай Іванаўнай і не траціць часу на свавольніка, прыйдзецца пагаварыць з ім пазней ці нават схадзіць сёння да яго бацькоў.

— Міхаліна Казіміраўна, супакойцеся, калі ласка,— папрасіў Логвін,— і дазвольце Пецю пабыць на ўроку. Разбяромся з ім пазней, толькі скажыце мне, як ён цяпер будзе сябе паводзіць.

І настаўніца і вучань прамаўчалі, выйшлі з настаўніцкай.

— А мне можна ісці на ўрок? — Эла Іванаўна пакорліва пазірала на Логвіна, так жаласна смыкнула тонкімі вуснамі, захвалявалася, што ён сумеўся, успомніў, як летась вясною зайшоў праверыць работу пажылой настаўніцы суседняй пачатковай школы.

Тая ўбачыла яго, «начальніка», з акна класа, спалохана выскачыла на калідор, папраўляла невялікую тлустую плямінку на блузцы, пасля паказвала журнал, планы, залівалася чырванню і так жаласліва пазірала, стрымлівала свае дрыготкія рукі, калі Логвін збіраўся сказаць ёй пра заўважаныя непаладкі. Настаўніца тупала вакол яго, называла «Аляксандравіч ды Аляксандравіч», што Логвін сумеўся, засаромеўся і яму стала шкода гэтай старой жанчыны — ёй засталося працаваць год-два да пенсіі. Ён хутчэй пажадаў ёй «поспехаў», развітаўся і заспяшаўся са школы... Можа, ён памыляўся, але яму здавалася, што некаторыя настаўнікі маюць залішні страх перад усякім начальствам. Яму заўсёды было няёмка бачыць гэта.

— Хадзем, зірнём, як вы можаце працаваць без планаў,— усміхнуўся Логвін.— Можа, так у вас яшчэ лепш выйдзе.

— Дзякую, Мікалай Аляксандравіч,— усміхнулася і Эла Іванаўна, абрадавана зірнула на яго.— Больш так не будзе, вось паглядзіцё.

— Добра, добра,— усміхнуўся ён, адводзячы позірк ад яе чырвоненькіх свежых шчок, ад белай стройнай шыі і прыгожай прычоскі.

Дзеці без настаўніцы шумелі, вызіралі з класа на калідор; калі зайшлі Эла Іванаўна і Логвін, яны кінуліся да сваіх парт, суцішыліся. Эла Іванаўна запынілася ля стала і доўга, што не варта было рабіць, дапытвалася, хто не прыйшоў сёння ў школу, не вывучыў урок ці што не зразумеў, прасіла ўсіх лепей сесці.

Пасля выклікала вучня да дошкі. Невысокі, плячысты хлопчык, мусіць, не прачытаў дома ўсяго, гаварыў вяла і нецікава, увесь час блытаўся. Эла Іванаўна перажывала, што вучань так слаба адказвае на яе пытанне, хвалявалася. Астатнія дзеці сядзелі вялыя (быў панядзелак), пазяхалі, паглядалі ў вокны ці корпаліся ў сваіх сумках.

Логвін сядзеў на самай апошняй парце і не ведаў, як дачакацца канца ўрока. Маляваў у сваім сшытку чорцікаў, кружочкі і часта пазіраў на гадзіннік. Эла Іванаўна, заўважаючы гэта, аднаго за адным паднімала іншых вучняў, прасіла іх адказваць на яе пытанні, хочучы павесці ўрок цікавей. Гаварыла шмат сама, выгаворвалася, хутка зусім разгубілася, выдумляла, абы-чым займала дзяцей,— каб не маўчаць.

Логвін падумаў, што вось так і не шанцуе настаўніку — як ты ні старайся, а ўрок не ўдаецца. То тэма ўрока не зусім цікавая, то дзеці мала стараюцца. Калі адзін на ўроку, дык толькі сабе непрыемна, калі ж яшчэ нехта, завуч, дырэктар ці інспектар, сядзіць на ўроку, дык тады ўдвайне перажыванні. І сабе за няўдачу, і за адчуванне, што нехта будзе думаць, што ты вось такі настаўнік, у цябе вось так заўсёды... Логвін адчуваў, што цяпер на душы ў маладой, яшчэ не спрактыкаванай настаўніцы, паспачуваў ёй; рашыў, што пастараецца пасля, разбіраючы гэты ўрок, не пакрыўдзіць, бо так можна адбіць у яе ахвоту да работы...

Падумаў ён яшчэ, што дзіўная настаўніцкая праца. Нейкая схаваная яна — не раз і самому сабе.

Прыйдзеш з урока — адчуваеш, але добра не ведаеш, што ты зрабіў, што новага ўведалі дзеці. Нагаворышся, наслухаешся, аж галава забаліць. Але сёй-той са старонніх да школы людзей можа яшчэ пажартаваць ці пазайздросціць: хіба цяжка вам працаваць? У цяпле, з малымі дзецьмі, пры добрай плаце! Вось нам...

«У цябе колькі дзяцей?» — пытаўся Логвін пры такіх гутарках.

«Двое»,— звычайна адказваў яму субяседнік.

«А ў мяне дзвесце трыццаць,— гаварыў Логвін,— дык каму лягчэй: табе ці мне?»

Гулка празвінеў у цішыні званок.

Логвін падняўся і пайшоў у настаўніцкую. Там Міхаліна Казіміраўна, немаладая ўжо настаўніца, Маці дваіх дзяцей, цяпер ужо чырвоная, што бурак, расказвала настаўнікам, што Быкоўскі так і не даў ёй весці ўрок, усе сорак хвілін траціла пасля на яго свае нервы — супакойвала, прасіла, пагражала. Такіх вучняў, як думае яна, трэба калі не гнаць са школы, дык хоць атэстаты з двойкамі ім выдаваць, каб пасля ўсюды бачылі, што за чалавек перад імі. Нечага іх прыкрываць троечкамі...

— Мяне злуе, аж не ведаю, што рабіць,— скардзілася Міхаліна Казіміраўна, выціраючы хустачкаю спацелы лоб,— калі ён, гэты Пеця, ужо з пятага класа заяўляе мне ў вочы, што будуць вось так цацкацца з ім усе дзесяць гадоў, прагоняць са школы — пасля будуць прасіць, каб хадзіў, паставяць тройку. Ён ужо, жаўтароты, ведае, што тэхнікумаў ды інстытутаў яму не трэба, а грошай вялікіх, большых, чым у настаўніка, у яго будзе. Ён надакучаў мне: «А колькі вы, Міхаліна Казіміраўна, палучаеце? »

— А можа, не толькі адны грошы вялікія тут вінаватыя, Міхаліна Казіміраўна? — сказаў Логвін.— Можа, яшчэ нешта і іншае прагледжана?

— А што? Вы маладзейшы, у вас больш свежыя веды — адкажыце...— зласнавата сказала Міхаліна Казіміраўна.— А я жыву тут і працую ў гэтай школе пятнаццаць гадоў, ведаю ўсіх, бачу ўсё, але не разбяруся. Закончыць каторы школу — адразу ў горад. Сем-восем гадзін папрацуе, капейку добрую атрымае — і дурэе ў вольны час... Ці не дзіва: вясковыя дзеці абыякавыя да зямлі?!

— Дарагая мая,— усміхнуўся Пётр Сцяпанавіч, любіцель паразважаць і паспрачацца.— Па-першае, рукі трэба і гораду. І шмат маладых, дужых рук. А па-другое, чаму вясковец не павінен падавацца ў горад? Што — ён навечна прывязаны да вёскі, да зямлі, не мае права вучыцца, быць інжынерам, пісьменнікам, мастаком ці рабочым?

Міхаліна Казіміраўна не ўмела глыбока разважаць, ды ўмела спрачацца, дык разгубілася.

— Можа, як вы кажаце, і вясковаму трэба горад,— прамовіла з няўпэўненасцю,— але мяне хвалюе, што вясковыя дзеці адбіваюцца ад зямлі, ад сваіх звычак, нораваў, песень, што ўсё гарадское лічаць лепшым. Мяне хвалюе, што тое, гарадское, не заўсёды самастойнае і вартае. Шмат у ім ад моды, нанесенага, шмат чужога, бездухоўнага. А

мы, здаецца, па-добраму не вучым сваіх дзяцей ведаць, адчуваць духоўнае і бездухоўнае, мы болей дбаем пра хлеб, рубель, чым пра душу... Ці не таму ўжо спажывец і наш гэты Пеця? А нельга ж, паверце, нельга пускаць моладзь у жыццё толькі са спажывецкімі інтарэсамі! Такое пакаленне не будзе ведаць і не будзе шанаваць самае вялікае, святое!

Маладыя дзяўчаты маўчалі, моўчкі слухалі гэтую гутарку, хоць і яны маглі ўставіць слова-другое — успомніць, як яны і пры іх вучыліся, як вучацца цяпер дзеці, як сённяшнія дзеці добра ядуць і апранаюцца...

— Міхаліна Казіміраўна,— сказаў Логвін,— што за бацька ў Быкоўскага? Я дык яшчэ добра і не ведаю яго.

— Затое я яго добра ведаю,— расхваляваная настаўніца ўсё ніяк не магла супакоіцца,— не глядзіць ён, як яго дзеці вучацца.

— Можа, пагаварыць з ім добра трэба, можа, ён і не ведае, што вытварае тут яго сын.

Міхаліна Казіміраўна замаўчала, сціснула вусны.

— Пагаварыце, калі ласка.

— Талкавала я з ім не раз ужо, а толку ніякага... Трэба ісці толькі чатыры вярсты, час траціць,— сказала настаўніца.— За чужымі дзецьмі няма калі і пра сваіх падумаць. Дзень у школе, пасля ўвесь вечар сядзі над сшыткамі, планамі. Хадзі яшчэ па хатах і ўгаворвай бацькоў, каб іхнія дзеці вучыліся. Я зайздрошчу суседу свайму, эканамісту: у дзевяць збіраецца на працу, на машыне едзе, у шэсць зноў дома, прыязджае на машыне. Тэлевізар глядзіць, газеткі пачытвае ці спаць рана ляжа, а я яшчэ ў гэты час, правяраючы сшыткі ці пішучы планы, працую ўсё на сваю зарплату... Дарэчы, намнога меншую, як у яго... Кніжку магу толькі раз у тыдзень, у нядзелю, пачытаць...

— Такая ўжо наша работа, Міхаліна Казіміраўна,— сказаў Пётр Сцяпанавіч.— Мы — настаўнікі...

— Цяпер, як ніколі, цяжка рабіць у школе,— скардзілася Міхаліна Казіміраўна,— і вучні нялёгкія, і праграмы цяжкія. Здзіўляюся проста: усё роўна ідуць людзі вучыцца на педагогаў...

Настаўніца змоўкла, «выгаварылася», ведала, што рабіць і жыць жа трэба, падышла і пачала пазіраць у акно — за ім шастаў асенні спорны дождж, скакалі бурбалкі ў лужынах.

— Вымакне, згніе мая бульба,— пабедавала Міхаліна Казіміраўна,— уся яшчэ ў зямлі ляжыць. Няма часу выбраць яе. Што ўкапаю прыхапкамі, тое і ёсць.

Логвін падумаў, што гэта ўсё праўда. Ёсць у Міхаліны Казіміраўны сям'я, і яе трэба карміць — трэба трымаць гарод, гаспадарку, садзіць

бульбу. Ён, Логвін, гэтаксама трэці ўжо год садзіў крыху, сотак восем, бульбы, хоць гаспадаркі не меў. Даваў саўгас соткі, вось ён і браў іх. Мяхоў сем пакідаў сабе бульбы на зіму, а астатнюю прадаваў ці абменьваў на садавіну. Вось гэтаксама трэба яе выбіраць, падумаў ён, а часу для гэтага ўсё не знаходзіцца. Так закруціўся са школьнаю работаю, што ўжо другі тыдзень, як купіў, быўшы ў горадзе, тры новыя кнігі, а ўсё яшчэ не выбраў хвіліны пачытаць іх. Нават сорамна было каму пра гэта сказаць... І чым болей рабі, тым болей яе, гэтай работы, яшчэ знаходзіцца. Так зацягвае, што ледзь знаходзіш час на сон...

Зноў празвінеў званок. Кароткі адпачынак для настаўнікаў закончыўся, і яны зноў разабралі журналы і разышліся па класах. У Логвіна свайго ўрока не было, і ён, як рашыў ужо даўно, сабраўся ісці з Пятром Сцяпанавічам на геаграфію ў восьмы.

— Мікалай Аляксандравіч, калі будзеце разбіраць мой урок? — спытала Эла Іванаўна. У яе цяпер не было ўрока, і яна з хваляваннем чакала, калі ён скончыць гаварыць з Міхалінай Казіміраўнай і пагаворыць з ёю — калі яны сядуць удваіх і пачнуць разбіраць «па косточках» яе ўрок.

— А можа, давайде так,— сказаў Логвін,— не будзем разбіраць ваш сённяшні ўрок. На днях вы самі паклічце мяне на свой урок, на такі, дзе вы зможаце разгарнуцца, і тады мы ўжо абмяркуем гэтыя ўрокі. Згодны?

— Канечне,— усміхнулася Эла Іванаўна,— толькі вы... Ну, не гаварыце нікому ці на нарадзе якой пра мой сённяшні, пра маю сённяшнюю няўдачу... Так больш не будзе...— І яна так добра пазірала на яго, што ён не вытрымаў, усміхнуўся.

— Ладна,— сказаў ён,— хай будзе па-вашаму. На першы раз.

— Ну, гэтыя дзяўчаты! — усміхнуўся Пётр Сцяпанавіч, калі яны з Логвіным выйшлі на калідор.— І грэх і смех... Стараюцца, любяць работу, але... нейкія трошкі нешчаслівыя яны: іх, незамужніх, шмат, пяць ці шэсць тут, аж, далібог, не помню, а халасцяка ні аднаго... Думаеце, гэта добра? Не...

Пётр Сцяпанавіч немалады ўжо чалавек, у вайну быў у партызанах, а пасля пайшоў у армію, ваяваў і дайшоў да Берліна. Пажылаваты, але акуратны. Вось і сёння на ім пацёрты на лакцях, але добра адпрасаваны сінявата касцюм, сіняя кашуля і сінявата, з шэрымі пералівамі гальштук, наваксаваныя туфлі. Гэта ўсё нягледзячы на такое мокрае надвор'е, на тое, што ў яго ёсць вялікая сям'я, гаспадарка. За ўсім ён неяк паспявае дагледзець і чытае болей амаль за

ўсіх. Бадай, толькі болей за яго чытае кніг Ігнат Карлавіч — самы стары настаўнік школы. Сёння яго няма: ляжыць у бальніцы.

Васьмікласнікі сядзелі ціха, чакалі настаўніка. Не корпаліся ў сваіх сумках, бо ўсё іхняе прыладдзе ляжала на партах. Яны адразу засыпалі Пятра Сцяпанавіча пытаннямі, і ён выслухаў іх, коратка і добра адказаў, вучняў не перабіваў, але своечасова і далікатна іх папраўляў, тады пачаў пытацца сам.

Логвін хоць стараўся бываць штодня на двух чужых уроках, як таго хочуць ад завуча інспектары (хоць гэта не заўсёды выходзіць), але на ўрокі Пятра Сцяпанавіча ішоў заўсёды з прыемнасцю, бо не толькі сядзеў, стараўся знайсці «добрае і благое», але адчуваў, што і самому яму ёсць чаму павучыцца, бываючы на такіх добрых уроках.

— Уявіце сабе...— амаль шэптам сказаў Пётр Сцяпанавіч, і дзеці заціхлі, сачылі за кожным рухам настаўніка, лавілі кожнае яго слова. І Логвін заслухаўся, перастаў пісаць, перанёсся ў думках у тую далёкую, цёплую краіну. Ён убачыў, здаецца, калі гаварыў Пётр Сцяпанавіч, густы, пераплецены нізкімі дзікімі кустамі гушчарнік, высокую зялёную траву; куст затросся, расхінуўся — і паказаўся хітры, з прыжмуранымі вачыма і вусамі, што шморгаліся, грозны тыгр,— казулямалалетак перастала есці траву, сціснулася, застрыгла вушамі, скочыла, але было позна...

Логвін слухаў і зайздросціў Пятру Сцяпанавічу: як ён добра, маляўніча, без ніводнага лішняга слова расказвае, як умее зацікавіць. Гаворыць не толькі тое, што трэба па праграме, але і тое, што бачыў у кіно ці па тэлевізары, вычытаў з часопісаў і кніг. Такі ўрок, падумаў Логвін, ёсць за што пахваліць, не трэба хітраваць ці вышукваць далікатныя словы, каб сказаць калегу горкую праўду.

Логвін, як гавораць настаўнікі, якіх ён не раз і сам запрашаў, працуе «добра», але сваімі ўрокамі не заўсёды задаволены. Таму, калі сам даваў добры ўрок, трапляў на нечы выдатны, дык дзень гэты лічыў удалым, пражытым не дарэмна.

...На мокрым двары тапталася старая жанчына. Яна са здзіўленнем зірнула на Логвіна, адказала на яго прывітанне.

— Гаспадар дома? — спытаў ён.

— А дзе ж яму быць,— хмурачыся, забурчэла тая.— Налізаўся ўчора, сёння на работу не пайшоў, ляжыць, памірае. Хваробу такую ён часта сабе знаходзіць.

Логвін зайшоў у сенцы, з сянец — у хату. Адразу са двара здалося тут цёмна, і ён ледзь убачыў на ложку заспанага, маладога яшчэ, гадоў пад сорак, ускудлачанага мужчыну.

— А, настаўнік! Дзень добры! — Мужчына падняўся, звесіў на падлогу босыя ногі, зморшчыўся і пацёр далоняю твар.— Відаць, нешта наш бэйбус у школе выпаліў?

Логвін расказаў Быкоўскаму пра яго сына, расказаў пра сённяшні дзень.

— Не хоча вучыцца, лайдак,— паківаў галавою Быкоўскі-бацька,— зусім не цягнецца да кніжкі. Вось і цяпер прыбег са школы, перакусіў і панёсся недзе на вёску. Я нават і не зірнуў куды: галава баліць...— ён зноў зморшчыўся. — Я і лупцаваў, і прасіў, задобрываў, а цяпер дык і рукою махнуў. Адумаецца некалі.— Ён закурыў і сеў ля стала.— Сам я невялікай навукі, вельмі не памагу. Задачкі яшчэ некаторыя выходзяць, а грамаціка... Ды цяпер і задачкі такія сталі, што не рошыш... Самы меншы мой у першы клас да вас ходзіць, а памагчы яму не магу па матэматыцы... Іксы нейкія прыдумалі... Ды якая была ў мяне вучоба? Бацька наш не вярнуўся з Нямеччыны, загінуў недзе, маці адна засталася, ды нас жменя гароху — шасцёра... Старэйшы я, дванаццаць гадоў; перад вайною збіраўся ў першы клас пайсці. Пайшоў толькі ў сорак чацвёртым, на во колькі пазней. Праўда, чытаць крыху ўжо налаўчыўся, стаяў у нас адзін паранены партызан, дык паказаў літары. Пахадзіў я тры гады ў школу — без кніжак, босы, галодны, са шчапою замест паперы, але навуку грыз добра, бо нечага лепшага хацеў... Настаўнік прарочыў, што вялікім чалавекам буду. Ну, кажа, Быкоўскі, станеш ты інжынерам! Прынёс я дзённік за чатыры класы, маці паглядзела яго, парадавалася і кажа мне: добра, сын, малайчына, але з навукі тваёй сям'я хлеба не мае і калі яшчэ будзе мець, ідзі ў калгас, памажы падняць меншых на ногі, а то не вытрываю я... Паплакаў я, пароў ды і пайшоў з віламі, касою, плугам працаваць. Во цяпер на ферме раблю, цялят даглядаю. Учора во з дружбакамі прэмію...— ён усміхнуўся.— Браты і сестры мае, маладзейшыя, павывучваліся, інжынерамі ды ўрачамі сталі, а я вось так і застаўся...

— Свайму Пецю гэта раскажыце,— сказаў Логвін,— вас не пусцілі ў школу, а ён сам хоча кінуць яе.

— Расказваў,— махнуў рукою Быкоўскі,— ад кніжкі, як ад чорта, бяжыць. Кажу: калі не вучышся, дык будзеш, як і я, з віламі ў саўгас хадзіць ці мазутаю штодня пахнуць. Дык, ведаеце, што ён мне кажа? А я, гаворыць, не буду з віламі хадзіць. Я не хачу таптацца ў гразі, у зямлі корпацца, каровам ды свінням хвасты круціць — файна апрануся і паеду чыстымі, асфальтаванымі вуліцамі хадзіць, гадзінамі, а не ад святла да цямна рабіць, буду вялікія грошы палучаць. Ён і верыць не хоча, што зямля, на якой мы ўсе тут стаім, робім, нас

карміла і корміць, будзе карміць. Зямлі яму не трэба, не хочацца яму тут быць. Не ведаю, адкуль ён гэтаму навучыўся? Не разбяруся, што цяпер за дзеці? Якія людзі з іх вырастуць?! І чаму яны так не хочуць вучыцца? І надзеты, і накормлены, тэлевізары, шмызары!..

— Пра ўсіх дзяцей, якія хочуць ці не хочуць вучыцца, мы думаем у школе,— сказаў Логвін,— а я прыйшоў пагаварыць пра вашага сына, папрасіць, каб вы памаглі нам. А то ён прыходзіць у школу толькі таму, што вы яго адпраўляеце з хаты.

— Не ведаю, браток, што табе параіць,— пацісную плячыма Быкоўскі,— глядзіце, вучыце вы ўжо самі, стражэйшыя будзьце, усё ж вы настаўнікі, вучоныя людзі. А я падсыплю яму сёння на арэхі.

...Дарога зусім размокла, залілася лужынамі; па-ранейшаму густа сеялася з неба на мокрыя кусты, і іх боязна было крануць; вада хлюпала пад нагамі, пырскалася — і, вяртаючыся дадому, ісці Логвіну было нялёгка. А ўперадзе бачыўся яшчэ вялікі кавалак дарогі.

## ЧУЙНАЕ НЕБА

Выйшла так, што і сёння Логвін забавіўся на рабоце. Прыйшоў дахаты галодны, стомлены, усю доўгую дарогу ад Міланьскай школы да Вішнёўкі думаў пра цёплы пакой, дзе мог бы нарэшце схавацца ад зацяжнога дажджу, скінуць мокрыя боты, плашч, пад'есці, прылегчы і паляжаць у цішыні.

Як ён радаваўся дажджам вясною і летам, так недалюбліваў іх увосень: зацягнецца неба шэра-сіняватымі хмарамі і лье без перастанку. Усё тады мокрае: кусты, стрэхі і сцены хат, а па дарогах стаіць поўна вады. І сёння, як жартуюць, на дварэ было сем пагод: сеяла, веяла, круціла, муціла, раўло, ліло і знізу мяло. І ўсё гэта злілося ў дажджы і ветры.

Неба вісела нізкае, шэрае, халоднае, і ад гэтай стыласці чулася, што на днях пасыпле на мокрую, яшчэ не зусім ахаладнелую зямлю першы хлюпаткі вадзяністы снег і на нейкую хвіліну стане вакол надта стыла, бела-шаравата, аж забаляць ад гэтай нечаканай халоднай светлаты вочы.

Ужо ў Вішнёўцы дагнала Логвіна запырсканая машына «Хлеб», прасігналіла — з двароў, даўно ўжо чакаючы яе, высыпалі кабеты, дзеці з сумкамі і подбегам падаліся ў магазін: дзён колькі хлеба не прывоілі. Са свайго дагледжанага невялікага двара, закурваючы, выйшаў дзядзька Алесь — аднаногі, хваравіты яшчэ з вайны чалавек. Ён кожнага дня стаіць і курыць каля сваіх варотцаў, калі Логвін ідзе

са школы. Яны заўсёды павітаюцца, загавораць пра надвор'е, і Логвін не спыняючыся крочыць далей.

Ён прывык да гэтага пажылога мужчыны-калекі і калі, бывае, той чамусьці не выйдзе, не павітаецца, пачынаў хваляванца, незразумела непакоіцца, і пасля цэлы вечар яму нечага не хапала, ён не мог узяц-ца ні за якую работу. Назаўтра, павітаўшыся з гэтым чалавекам, Логвін зноў незразумела спакайнеў, дабрэў.

— Во лье,— кажа дзядзька Алесь сёння,— раззлавалі, мусіць, неба.

— Добры дзень,— адказаў Логвін.— Лье дык лье. Няйначай, раззлавалі.

Сказаў ён так і пашкадаваў унукаў старога: Толіка, Веру, Юру, Лёніка, якіх яму прыходзілася вучыць, гаравацць з імі. Забалела сэрца па чацвёртакласніку Толіку, бледным, хваравітым хлопчыку. Той на ўроку ўвесь час просіцца адказваць, плакаў, калі яны чыталі пра Тубі з далёкага вострава Цэйлон... Сёння Толік прыйшоў у школу без кні-жак, ручкі і сшыткаў, калі Логвін яго прысарамаціў, што так добрыя вучні не робяць, ён маўчаў, чырванеў, а пасля прызнаўся: «Учора тата быў п'яны, біўся з мамаю... І нам не даў зрабіць урокаў...» Ён расказ-ваў, саромеўся, плакаў, размазваючы слёзы па шчоках, і цяжка было яго супакоіць.

Цяпер Логвін падумаў, што не будзе расказваць старому пра яго гаротных унукаў ды гаварыць пра няўдалага зяця-п'яніцу. Стары не зменіць свайго зяця, а толькі расхвалюецца з-за ўнукаў. Лепш будзе самому зайсці да бацькі, пагаварыць з ім. Хоць гэтыя гутаркі Логвін ужо добра ведаў: цвярозым той стараецца не сустрэцца, а п'яны сам падыходзіць і распытвае, як яго дзеці вучацца. Скажы тады яму толькі, што яны кепска вучацца, дык ён адразу расшпіліць рэмень і падасца дахаты іх «выхоўваць»...

Логвін падумаў, што зойдзе да яго заўтра ранічкай, калі той пра-спіцца; не выйдзе гутарка, не пачне той па-добраму глядзець за дзецьмі — можа, трэба будзе напісаць заяву і перадаць на выканком. Хай людзі пасаромяць...

У акне сваёй спальні Логвін не бачыў знаёмых жончынага і сы-навага твараў. Тыя заўсёды чакаюць яго з работы (жонка працуе тут, у Вішнёўцы, у пачатковай школе і вяртаецца дамоў раней), сёння, відаць, ім надакучыла ўзірацца і чакаць яго, зазлавалі і занялся цяпер нечым другім.

Доўгі час яны жылі на прыватнай кватэры. Але летась дырэктар саўгаса пашкадаваў іх, што яны з дзіцём жывуць у людзей, церпяць вялікія нягоды, і даў ім невялікую кватэру ў саўгасным двухпавярхо-

вым драўляным доме. Выгод — газу, вады — тут не мелася, трэ было ваду насіць з калодзежа, грубку і пліту паліць дровамі, але і ён, і жонка былі вельмі рады, што знайшлі свой куток, што могуць дыхнуць вальней, быць гаспадарамі.

Як толькі Логвін адчыніў дзверы, у маленечкай пярэдняй яго абшчапіў за ногі трохгадовы сын — светлавалосы рухавы хлопчык, цяпер у рудаватых калготках і бела-зялёнай, у клетачку кашульцы.

Прытуліўся, узрадаваўся, аж падскочыў, ткнуўшыся галавою ў жывот, а тады выхапіў з рук напакаваную сшыткамі і кнігамі сумку і, нагінаючыся, шырока расстаўляючы ногі, павалок па падлозе. Падцягнуўшы на невялікую кухню, прыпыніўся і паспрабаваў адчыніць: прывык, што бацька яму заўсёды прыносіць, вяртаючыся з работы, нешта смачнае, які-небудзь «зайчыкаў хлеб».

— Сёння вось што табе прыслаў зайчык,— усміхнуўся Логвін, дасюль непрыкметна ўзяўшы са стала цукерку.

— Не слухай яго, сынок,— сказала жонка. Яна зайшла сюды з лепшай палавіны, што была і іх залай, спальняй.— Тата нас не любіць болей, не спяшаецца надта дадому.

Вольга, невысокая, танклявая, з крыўдаю пазірала на яго.

— Люблю, жонка, вельмі люблю,— усміхнуўся ён, падышоў і прытуліў яе да сябе.

— Любіш ты! — прамовіла ўсё яшчэ з нараканнем.— Можа, каго і любіш, толькі не нас. Ды і ёсць каго любіць...

— Давай есці, а то я галодны як воўк.

— А там цябе не накармілі? Сядзеў жа столькі...

— Быў шосты ўрок, пасля яшчэ застаўся і хадзіў на ўрокі другой змены.

— Можа, ты ў школе яшчэ і вартаўніком аформіўся б? — не адступалася жонка.— Сядзіш жа ад відна да цямна! Як няма ў цябе дома, сям'і! Як без цябе школы не будзе! Хай дырэктар болей сочыць за ўсім. Ён жа галава, а не ты. На добры толк ты мог бы паехаць у раёна і адмовіцца ад завучаўства, быць звычайным настаўнікам. Урокі скончыліся — і дадому... І з настаўнікамі лепей сябраваў бы, а то змоладу нажыў ужо сабе непрыяцеляў...

— Не бядуй, не згінем,— сказаў ён. Пайшоў у спальню і пераапрануўся, думаючы, што напраўду яшчэ пазалетась, калі ён быў, як кажуць, простым настаўнікам, яму было нашмат лягчэй, а цяпер вельмі прыбавілася работы, хоць зарплата надта не пабольшала. Ён цяпер мае завучаўскую стаўку і дванаццаць гадзін. Міланькі далёкія ад горада, дык сюды не надта ахвотна едуць настаўнікі, вось іх штогод і не хапае. Логвін першыя два гады запар меў па трыццаць гадзін у

тыдзень, працаваў штодзень ад званка да званка, ні аднаго ўрока не мог пасядзець у настаўніцкай і адпачыць.

— Стамляюся я.

— Будзем жывыя, абы здаровілася,— зноў сказаў ён, вярнуўшыся на кухню.

— Аптыміст! Рамантык! Самаадданы і самаахвярны! — жонка ўжо не злавалася, але гаварыла не зусім задаволена.— Але я табе скажу шчыра: стамляюся я. І ад работы, і ад сям'і, і ад цябе такога. Ды трывожыць, што ты пра сябе, пра нас не думаеш.

— Няўжо зусім бесталковы? — усміхнуўся ён.

— Ды і не вельмі талковы. Мала думаеш пра далейшы лёс. Трапіў у глуш, дарваўся да работы — і рады. А што мы тут бачым? Нічога. Капейка ёсць — нічога не купіш: ні свежанькага, ні прэсненькага. Дарогі кепскія, да горада далёка... Не разумею, Коля, чым табе мілыя гэтыя Міланькі, чаго мы тут сядзім? Усе разумныя людзі, якія хацелі па-людску жыць, выехалі адсюль, выбралі лепшыя школы, а мы — мы пяць гадоў сядзім тут. Радыя, што закапался ў рабоце...

Логвін прысеў, слухаў, не хочучы чуць непрыемнай гамонкі, і гартаў свежы літаратурны часопіс. Глядзеў, хто надрукаваўся, пра што напісаў. Ён меў цягу да новых часопісаў, выпісваў іх шмат.

— Я ж табе гавару,— жонка вырвала з яго рук часопіс.— Коля, любі не любі: апошні год раблю я ў гэтых Міланьках. Я не хачу тут губіць сябе ў дваццаць пяць гадоў. Не знойдзеш лепшай вёскі і школы — застанешся тут адзін...

— Супакойся,— папрасіў.— Не адны мы працуем у такой вёсцы і ў такой школе. Ды і горад усіх не ўмесціць.

— Не крыўляйся! — жонка не вельмі любіла, калі ён жартуе ці пакеплівае.— Можна лепшую вёску знайсці, бліжэй ад горада. Чалавек браў, запрашаў цябе ў Галінавічы, у дзесяцігодку, а ты... Ну, чаго ты ўпарцішся? Чаго ты ліпнеш тут?

— Некаму ж трэба вучыць дзяцей і ў Міланьках,— сказаў Логвін,— школа, нават і самая далёкая, не можа быць без настаўнікаў.

— Знайшлі во згоднага, упіхнулі, а ён і рады. Сухамлінскі!

— Не прападзём, Оля,— паклаў ёй руку на плячук.— Самае галоўнае, што работа ў нас добра выходзіць, ніхто не папракае, жывём, сына во гадуем, а там, глядзі, і на дачку асмелімся...

— Ну!..— хмыкнула толькі жонка, адцягнула ад пліты фіранку і начала ставіць на стол ежу — звараную капусту і смажаную бульбу. Са століка дастала хлеб і гуркі.

Увогуле, у іх з мэблі была толькі шафа, канапа-ложак, раскладушка і стол, тумбачка з тэлевізарам. На стале яны правяралі сшыткі,

пісалі планы, у тумбачцы ляжылі свае кнігі. Вучнёўскія сшыткі клалі аж на шафу, бо іх вельмі любіў «паглядзець» сын. Калі ён «праверыць», дык тады ўжо гэтых сшыткаў дзецям не панясеш... З сынам і яшчэ былі клопаты — не было дзе дзець яго днём: у Вішнёўцы не мелася дзіцячага сада. Вользе браць яго з сабою ў школу не выпадала, бо ён не даваў працаваць, трэ было толькі забаўляцца з ім. Аббегалі амаль усю вёску і ледзь знайшлі для яго няньку. Праўда, тая падрадзілася, але адмовілася прыходзіць да іх, змусіла, каб малога прыносілі да яе...

Логвін зірнуў у акно: за цёмнымі асеннімі хмарамі ружова заірдзелася сонца, а пасля выслізнула на сінюю прагаліну, паплыло, гайданулася, бы на хвалях, ярка высвеціла хмурнае неба, і стала відаць, што не сонца плыве, а ўцякаюць кудысьці, рассейваюцца, як зімою з комінаў дым, цёмныя, цяжкія хмары — і нечакана пабольшалі, разгарнуліся аблогі, вышэйшым, чуйным здалося неба. Недзе блізка на дварэ моцна залопаў крыллямі певень і радасна загарланіў, выклікаючы на цяпло курэй, якія, пэўна, зашыліся ад дажджу і цяпер драмалі ў зацішку ці церабіліся.

— Не будзем нудзіцца, жонка,— сказаў Логвін, садзячыся і беручы ў рукі лыжку,— не бяда, што без хітрыкаў жывём. Напрацаваліся вось у школе, далі дзецям усё, што маглі, сумленне чыстае, а зараз пад'ядзім, і я пайду на саўгасны двор. Вазьму каня і разганю пару сваіх баразён — выграбем да вечара.

— Абрадаваў і суцешыў!

— Кажу не, усё будзе добра, жонка,— прамовіў Логвін,— жывуць людзі тут, і мы жыць будзем. Некалі правядуць да горада добрую дарогу, пабудуюць тут сярэднюю школу, сад-яслі, дадуць нам харошую кватэру... Лес, грыбы ды ягады блізка, рэчка гэтаксама, дык нам пасля будуць зайздросціць... А калі яшчэ купім «Волгу»!..

— Чаму — «Волгу»? Чаму — не самалёт? — не вытрымала і ўсміхнулася жонка, гэтаксама прысела побач, пасадзіла на калені сына і пачала карміць яго. Палагаднела і, здаецца, магла ўжо дараваць яму ўсе свае крыўды, боль, пакуты, больш не маркоціцца, жыць сваімі клопатамі. А іх у яе, у настаўніцы і маці, было безліч...

Пад'еўшы, Логвін апрануў выцертую куртку, у якой яны насілі ваду і дровы, і выйшаў на двор.

Нізкія густыя хмары расплыліся, неба высветлілася, стала беласіняе, зазіхацела шчодрым не па восені святлом. Зірнуў ён на нізкае неба, пачуў цяпло — і торгнулася, зашчымела недзе жылка, што гэта мо апошняя цёплая ласка, хутка абернецца восень сіверам, будзе стыла і холадна кожнага дня, пабялее, заініцца, а пасля зусім заледзянее зямля — сцнецца, схопіцца цвёрдай скібінай вада, будзе шмат снегу.

Пачнецца доўгая белая зіма — замяце, закруціць, навіхурыць гурбы снегу ля платоў, дык прыйдзецца кожнага дня абсякаць ля калодзежа лёд, каб выцягнуць бадню вады, хадзіць у валёнках і цёплым паліто; гулка будуць звінець драты і спяваць стрэмчыны ў частаколе. І сядзець яму, Логвіну, да вясны ў Міланьках і Вішнёўцы, чакаць сакавіка, калі ўлягуцца, збягуць мяцеліцы, асядзе, растане снег, і тады можна ўжо будзе пайсці з дзецьмі ў лес спускаць бярозавік...

Логвін пастаяў, паслухаў ваколіцу і пайшоў папрасіць у конюха каня.

Таго ўдалося знайсці хутка. На гразкім саўгасным двары ён падцялежыў задок калёс і мазаў квачом восі.

— Дзень добры,— адказаў той на яго прывітанне. Пацвеліўся: — Глядзеў я сабе, глядзеў і ўгадаць ніяк не мог, што гэта, думаю, за мужчына ідзе?! Па-нашаму адзеліся — у куртцы старой, у ботах, дык як і вясковы мужчына.

— Дзядзька Апанас, мне трэба конь,— прамовіў Логвін.

— Тады ідзіце за гумно,— сказаў конюх,— там сам начальнік, а без яго я даць не магу.

Логвін абышоў цялятнік, старое гумно, падышоў да маленькай, як хатка бабы-ягі, кузні і ўбачыў начальніка — тутэйшага брыгадзіра. Той, маладжавы, але поўны, нават дзябёлы, сядзеў на парозе кузні. Быў у высокіх гумовых ботах, доўгім апырсканым плашчы і ў мокрым сагнутым капелюшы.

— Дзень добры, Васіль Васільевіч! — прывітаўся Логвін з ім, пасля з кавалём, які стаяў ля палаючага горна, пакручваў абцугамі ў агні жалезіну.

— Здароў! — сказаў брыгадзір і пачаў далей расказваць кавалю пра тое, як ён некалі служыў у войску.

Логвін прытуліўся да задымленай сцяны кузні, стаяў і слухаў, стараючыся не перабіць брыгадзіраву гутарку, пазіраў, як каваль пакручваў у агні жалеза, моршчыўся ад агню і выціраў брудным рукавом спацелы лоб, а пасля дастаў тое, што грэлася, і паклаў яго на кавадла. Гэта быў амаль ужо выплесканы нож.

Пакуль каваль пляскаў, заглушыў гутарку звонам, брыгадзір, чыста выгалены, загарэлы, азірнуўся, акінуў вокам Логвіна і дзёрзка, а можа, і напышліва спытаў:

— З лекцыяй прыйшоў ці баявы лісток прынёс?

Логвін сумеўся. Не чакаў такога тону, хоць і раней было, брыгадзір паводзіўся непачціва. Той, кажуць, з усімі гарэзны, дзёрзкі. Ці такі ў яго ўжо характар, ці паддае смеласці адчуванне, што іменна ён тут гаспадар, а ўсе астатнія, як цяпер Логвін, калі не падначаленыя, дык

бяспраўныя прасіцелі. Улада, бывае, вельмі п'яніць чалавека, і не кожны ўстоіць супроць гэтага ап'янення.

— Васіль Васільевіч, мне трэба конь,— збянтэжана прамовіў Логвін,— хачу разагнаць баразён з пяць.

— Не паложана,— сказаў брыгадзір і адвярнуўся, сказаў кавалю: — Дык слухай... Іду гэта я...

— Прабачце,— сказаў Логвін,— я заплаціў грошы ў кантору за каня...

— Ведаю, друг,— зноў азірнуўся, дзёрзка акінуў позіркам з ног да галавы брыгадзір.— Але цяпер трэба бульбу ў саўгасе выбіраць, няможна адрываць людзей ад калектыўнай работы. Прысядзібныя ўчасткі пасля...

— Васіль Васільевіч,— з прыкрасцю да самога сябе папрасіў Логвін,— у мяне толькі восем сотак, нейкіх дваццаць кароткіх баразён. Выкапаем паціху з Вольгаю Адамаўнай, ніводнага вясковага чалавека ад саўгаснай работы не адарвём.

— Усё роўна не дам...— буркнуў брыгадзір.— Нават і тады, калі выберам саўгасную бульбу. Тады мне трэба адразу сваім людзям коней даць... Тым, што саўгасную работу пыняць...

— А я чыю работу пыню? — з крыўдаю спытаў Логвін.— Няўжо не саўгасную?! Няўжо не дзяржаўную нават?!

Той змаўчаў, толькі зірнуў са здзіўленнем ды з ухмылкаю паківаў галавою.

Логвін не вытрымаў гэтай ухмылкі, развярнуўся і пайшоў ад кузні, адчуваючы, што вось-вось заплача ад сваёй бездапаможнасці.

«Не! — апомніўся.— Ні ў якім разе не трэба адчайвацца! Хто ж буду я, што пра мяне людзі скажуць, калі пачну траціць раўнавагу ад такіх жыцейскіх часовых непрыемнасцей?! Ды як буду вучыць дзяцей быць цярплівымі, стойкімі, мужнымі?! Іх, такія непрыемнасці, трэба пераадольваць!»

— Ну, даў? — спытаў конюх. Той ужо не толькі падмазаў восі, але і паставіў на месца колы, стаяў і выціраў анучкаю рукі.

— Няма, кажуць, коней,— зманіў Логвін.— Вы ж самі гэта ведаеце...

— Дык можна было свайго Ваську даць, гуляе ж цэлы дзень.

Васька — брыгадзіраў светлаваты, з чорнымі яблыкамі жарэбчык. Той, брыгадзір, не хоча ездзіць на матацыкле, што дае яму саўгас, ездзіць на кані, на брычцы.

— Я вам вось што скажу, чалавек,— сказаў конюх.— Надта не прасіце, майце свой гонар... Усё ж вы настаўнік... Я вось што вам параю. Вазьміце пляшку і схадзіце да лесніка, да Міколы, дык ён не

толькі разарэ, але яшчэ і мяшкі прывязе дадому. А з нашым вы не дамовіцеся. Добра яшчэ, што не накрычаў...

— За што? Што благое зрабіў? — здзівіўся Логвін.— А па-другое, я ж яму не падначалены...

— Ён не зважае...

— І чаго мне да лесніка ісці, калі я ў кантору грошы заплаціў, па-законнаму хачу ўсё зрабіць?

— Хітрэй трэба крыху жыць, настаўнік...— усміхнуўся конюх.— Не забывайце, што вы, настаўнікі, аднаму, толькі добраму, вучыце, а ў жыцці яно ўсяк бывае... Дык і жыць трэба ўсяляк...

— Не ўсяляк, дзядзька Апанас,— прамовіў Логвін.— Дрэнна, вельмі дрэнна бывае, калі мы ўсяляк жывём...

— Можа, яно і так,— усміхнуўся конюх,— а я вам параю: калі хочаце разараць і выбраць баразну якую, рабіце тое, што я сказаў. Другія і грошай не плацяць, і людзей ад работы адрываюць, і бульбу сваю ўжо даграбаюць. А ў вас жа не соткі, пару баразён...

«Пакуль схаджу ў магазін, пасяджу з леснікам,— падумаў Логвін,— дык не пара будзе і разорваць. Ды ці будзе яшчэ той ляснік дома?»

Ён падаўся дахаты.

— Дзе ж твой конь? — запыталася Вольга. Яна пазычыла ў суседзяў кашы, мяхі, цёпла апранула і вывела на двор сына. Таму, як адчуваў Логвін, вельмі не цярпелася паехаць «на но».

— Сёння няма свабодных коней,— і жонцы не сказаў усёй праўды Логвін,— абяцалі даць заўтра-паслязаўтра.

— На поплаве ж брыгадзіраў конь выгульваецца,— сказала Вольга,— праўда, раніцай ім разворвалі бульбу брыгадзіравай сястры.

— Дадуць і нам, толькі пазней.

Вольга прамаўчала. Здаецца, яна ўсё адчула, зразумела. Можа, у гэтую хвіліну моўчкі папікала, што ён такі нерашучы, не можа дабіцца свайго.

Логвін стаяў, злаваўся, крыўдзіўся, што ўсё ў яго жыцці выходзіць не так, як павінна быць, што яго, бадай, не паважаюць, як паважаюць іншых людзей. Але што рабіць? Вучыцца быць рашучым, смелым, нахабным? Патрабаваць сваё, ні на што не зважаючы? Свае інтарэсы ставіць вышэй за ўсё астатняе?

«Ну-ну! — пасарамаціў сам сябе.— Супакойся, браток, не давай волі д'яблу! Ён цябе зацягне ў багну!»

— Оля,— сказаў,— давай пройдземся, рыдлёўкаю ўкапаем крыху на вячэру свежай бульбы.

— Давай,— паслухмяна згадзілася тая.

Логвін моўчкі падзякаваў Вользе, што яна не адмовілася ісці з ім на поле.

Сын, у куртачцы, у шапачцы, церабіўся з жончыных рук, хацеў ісці сам і несці рыдлёўку. Логвін дагаджаў, трымаў за жалеза, а чаранок даў сыну. Неслі яны так рыдлёўку — сын ступаў нешырока, але шпарка, радаваўся, усміхаўся — і ён, Логвін, лагаднеў, суцішваўся.

Паблізу, на суседскіх агародах пад яблынямі з важкімі яблыкамі, корпаліся бабулі і дзеці, капалі рыдлёўкамі бульбу. У некаторых агародах былі разагнаны плугам барозны, і яны цяпер абсохлі на ветры і сонцы, бялеліся ад спорнай бульбы.

Нечакана пачууся далёкі самотны восеньскі кліч. Логвін зірнуў уверх, прыжмурыўся: вялікім роўным клінам веславалі на поўдзень цяжкаватыя, адабрэлыя за лета гусі, з турботнасцю пяючы развітальную песню. Логвін доўга праводзіў іх позіркам і цяпер, нібы ўпершыню, заўважыў: зжоўклі, звялі бярозы, шмат асыпалася з іх лісця. І ён зноў востра, як на вялікую перамену, адчуў, што хутка будзе холад, снег і мароз, і незразумела захваляваўся. Можа, у яго была вельмі чуллівая душа, што ён нават змены ў прыродзе адчуваў гэтак востра.

На поле яны зайшлі хутка, пазіраючы, як араў паблізу трактар, як следам за ім ляцелі, скакалі, садзіліся на зямлю, шукаючы чарвякоў, і зноў узляталі вароны і чайкі, як дзеці пасвілі каровы ці ішлі ў лес па зелянушкі і таўстухі.

...Логвін пачаў капаць, выварочваць кусты бульбы. Вольга брала бульбоўнік, трэсла і падбірала бульбу, кідала яе ў кош. Сын браўся памагаць маці, абсыпаўся пяском, выбруджваў рукавы куртачкі, але яны, бацькі, не адганялі яго — абы маўчаў, не замінаў працаваць.

Паблізу гэтаксама капала рыдлёўкаю і выбірала бульбу суседка Надзя, пажылаватая ўжо кабета. Не вытрывала, падышла да іх.

— Памажы вам божа,— прывіталася па-даўнейшаму яна.

Яны абое падзякавалі ёй.

— Як ваша бульба? — спытала Надзя. Агледзела выкапаны куст.— Чаго, дармо сабе. Стручная, гляджу, чысценькая. А ў нас сёлета не ўрадзіла. Ні на агародзе, ні на полі: лета было сухое, а мы ўгнаення падсыпалі. Згарэла, мусіць... Прыйдзецца худых парсюкоў калоць. Сёлета бульба будзе дарагая, а мяса таннае.

— Гэта нам, безгаспадарнікам, і добра,— усміхнулася Вольга,— бульбы нам сваёй хопіць, а таннае мяса купляць будзем.

— Самі капаеце...— сказала Надзя.— Бабы нашы ўсю восень гадалі: маладыя настаўнікі будуць самі капаць ці капальніц папросяць?

— Ну і што, калі мы настаўнікі? — усміхнулася Вольга.— Хіба не ў вёсцы жывём? Ці не ўмеем гаспадарскую работу пыніць, як тут кажуць? Сорам — баяцца работы.

— Нашым людзям нялёгка дагадзіць...— усміхнулася і суседка.— Будзеце самі капаць — назавуць вас ганарлівымі, скупымі альбо залішне авяскованымі, папросіце каго — пасмяюцца, што свае беленькія ручкі баіцёся ў зямлю ўваткнуць... Цяпер і каторыя вясковыя, калі павывучваюцца, не любяць вясковай работы...

— Мы нікому не стараемся дагоджваць,— сказала Вольга.— Мы, як і самі бачыце, не стараемся заводзіць вялікую гаспадарку, траціць на яе ўвесь вольны час, але лічым марнатраўствам цалкам цурацца гарода, сотак. Калі самі не будзем любіць зямлю, не ведаць сялянскую работу, дык як будзем вучыць любіць зямлю, работу вашых дзяцей?

— Яно так,— згадзілася суседка.— Я гляджу: вы маладзенькія, вучаныя, але ўмееце жыць у вёсцы. Як вы кажаце, вялікай гаспадаркі — каровы ды свіней — не заводзіце, хочаце чыстыя быць, час вольны мець, кніжкі чытаць ды школу болей глядзець, але і талковыя да ўсяго вясковага — шчаўе, ягады ды грыбы збіраеце, бульбу на садавіну абменьваеце... Яно і праўда, нашто вам тое парася купляць, а пасля яму яшчэ хлеб ці муку даставаць? Лепей за гэтыя грошы гатовага сала купіць. І сена карове не варта старацца, траціць на гэта ўсё лета, лепш малака ў саўгасе выпісаць...

— Ды вучымся быць і настаўнікамі, і звычайнымі вяскоўцамі,— сказала Вольга.— Можа, не ўсё так як трэба ў нас выходзіць, але стараемся быць тут не чужымі і не лішнімі і работу сваю і сябе ў меру глядзець.

— Так, так,— са згодаю паківала галавою суседка і пайшла на сваё поле.

Заляскалі паблізу на ўтоптанай пагонцы колы, забарабаніў на возе плуг. Логвін азірнуўся: па дарозе ехаў на белаватым, з чорнымі кропелькамі жарэбчыку конюх. Пад'ехаўшы сюды, прыпыніўся.

— Гэй, настаўнік! — гукнуў ён.— Садзіцеся, паедзем. Разгонім мне, а пасля вам.

— Не трэба,— махнуў рукою Логвін,— мы накапаем на вячэру і пойдзем дамоў. Мы і мяхоў з сабою не бралі.

— Я дам,— не адступаўся конюх,— хадзеце разгонім, дык дацямна яшчэ добра выграбеце. Ды і брыгадзір сказаў, каб разараў табе з разору...

Вольга разагнулася, здзьмухнула з твару пасмачкі русявых валасоў, зірнула дапытліва, і Логвін зразумеў: яна здагадалася, чаму ён не

прывёў нядаўна каня. Каб не расказваць ёй пра тое, не хваляваць, ён усадзіў у зямлю рыдлёўку і пайшоў да конюхавых калёс.

— Кажа мне: глядзі, які горды! — расказваў конюх, калі яны ўжо ехалі.— Бач, павярнуўся і пайшоў, не стаў прасіць!.. Згледзеў, што вы з лапатаю сюды пайшлі, галавою паківаў! Кажа: будзеш сабе разганяць, дык і яму разары. Не чужы ўсё ж, нашых дзяцей вучыць.

Логвін маўчаў.

— Любіць ён вось так... Вас, маладога, па бацьку называюць, дык і яго трэба...— гаварыў конюх.— Калі дык і хочацца паказаць, што ён тут гаспадар, самы важны чалавек...

Логвін прамаўчаў.

Конюхава поле было паблізу. Логвін, калі распрэглі каня ды прывязалі пастронкі за гужы, пачаў вадзіць каня за цуглі, а гаспадар выворваў. Калі яны разаралі баразён з дзесяць, гаспадар-конюх паваліў набок плуг і павёў каня на Логвінавы соткі.

Сваю бульбу Логвін папрасіў разагнаць сам. Конюх згадзіўся, даў яму плуг, правёў да сярэдзіны поля каня, прыпыніўся, вярнуўся і агледзеў баразну. Агледзеў і нічога не сказаў, павёў каня далей. Вярнуўшыся на сваё поле, ён штосьці доўга расказваў жонцы, і яны, прылажыўшы далоні да вачэй, нібы са здзіўленнем пазіралі на Логвіна і Вольгу...

Зямля была мокрая, цяжкая, не распадалася, таму трэ было яе трэсці, ледзь не вышчыкваць бульбу. Цешыла, што на баразне было шмат бульбы і клубні былі ядраныя, цвёрдыя, выстаяліся за восень.

Яны выбіралі, пакуль не паніжэла неба, закацілася сонца і заружовіла небакрай, згарнула святло, і пачаў паўзці з кустоў, згушчацца мяккі прыцемак, а за ім брацца начная асенняя здаровасць. Завязаўшы мяхі, яны пастаялі, чакаючы конюха. У гэты час нечакана холадна і ярка высвецілася на вечаровым небе ранняя зорка, і першы ўбачыў яе сын, радасна заскакаў: «Мама, ляма!» Гэтая сынавая выдумка насмяшыла Логвіна і Вольгу, яны моцна, ажно гукнулася рэха ў кустах, шчыра засмяяліся, азірнуліся (ці хто пазірае на іх), падаліся, прыпалі адно да аднаго,— і перастала, здаецца, балець спіна, толькі шчымнулі сухія вусны, што сасмяглі за дзень.

Калі конюхава сям'я сышлася, гэтаксама пачала трэсці і завязваць мяшкі, абіваць і зносіць кашы, Логвін падышоў да іх і памог узлажыць на калёсы мяшкі. Конь ірвануў воз, выцягнуўся, ажно затрашчалі гужы, і цяжка пацягнуў па полі, пакідаючы ад колаў глыбокія каляіны. Конюх выкіраваў яго на дарогу, і жарэбчык пайшоў лёгка, зафыркаў. Пасля яны паднеслі з поля да калёс чатыры Логвінавы поўныя мяхі, узлажылі, пасадзілі наверх дзятву і падаліся за канём у

вёску, слухаючы, як гулка ляскалі колы, рыпеў, перавальваўся з боку на бок воз, чуючы, як цягнула з балота горкім дымам — відаць, упалілі недзе пастухі ці рабочыя торф і не атушылі, калі адыходзілі дадому.

— Вось і выкапаеце за некалькі дзён,— сказала конюхава жонка,— бо спраўна капаеце.

— Заўтра, калі вам будзе час, прыходзьце гэтаксама на поле, разгонім яшчэ,— азваўся конюх,— заўтра мы сваю канчаем, дык прыхінёмся, за якую гадзіну і вашу выграбем.

— Мы ўжо самі справімся,— сказаў Логвін.

— Паможам,— запэўніла конюхава жонка,— дзятву ж нашу вучыце.

— Вучым і грошы за гэта палучаем,— сказала Вольга.

— Усе гавораць, што вы больш, чым за грошы, вучыце,— прамовіў конюх.— І дзеці вас хваляць... Паможам. Ды і бабы збіраюцца падбегчы якога вечара, памагчы. Агалашу ўсім назаўтра.

— Не трэба,— сказала зноў Вольга,— хай сабе ўжо капаюць.

— Выкапаем,— махнула рукою конюхава жонка.— Не бойцеся, калі сарвём з вас пачастунак — не пабяднееце, дос грошы на кніжку насіць...

Пад'ехаўшы да Логвінавай кватэры, згрузілі мяхі ў хлеўчык, туды ж паставілі рыдлёўку і кош. Логвін падзякаваў конюху, абтросся на дварэ ад пяску і пайшоў з сям'ёю ў хату.

Ён уключыў на кухні святло, памыў над вядром рукі, пераапрануўся і стомлена гупнуўся на канапу, слухаючы, як распранала сына жонка, пераапраналася сама, мылася. Не хацелася думаць, што трэба яшчэ праверыць сёння тры стосы сшыткаў, напісаць планы, пачытаць раздзел у падручніку фізікі (Логвін быў мовавед, але стараўся ведаць і іншыя навукі, бо хацеў пайсці на любы ўрок і ведаць, пра што ідзе гутарка). Хацелася б паглядзець тэлевізар ці пачытаць новы часопіс. Як хочацца пачытаць і новыя кнігі, купленыя ў мінулую паездку ў горад.

Вольга сёння нічога яму не сказала, нават не зайшла сюды, заляскала на кухні посудам. Ён паспачуваў ёй (яе гэтаксама чакалі яшчэ сшыткі, планы) і пайшоў памагчы — пачаў абіраць на вячэру бульбу.

...Падаліся яны адпачыць, паспаць некалькі гадзін позна, за поўнач, калі ўжо даўно спаў на раскладушцы іхні сын, калі паярчэлі на ўцемненым небе зоркі, калі вёска была ціхая і нерухомая, калі зрабілі ўсё, каб можна было заўтра ісці да дзяцей смела і падрыхтаваным, нешта талковае сказаць ім.

Прытуліліся адно да аднаго, адчуваючы, як зморвае стома ды прыемна падкрадаецца жаданы сон. Але адчувалі: паспяць мала, ды ўсё роўна будуць назаўтра поўныя сілы і бадзёрасці. Бо яны яшчэ маладыя, дужыя, непадуладныя стоме і непрыемнасцям.

— Коля, ты мяне хоць крышку любіш? — ціха на вуха шапнула Вольга, утульна кладучы галаву на яго руку.

— Канечне,— прашаптаў і ён.

Скажы, як любіш...

— Вельмі люблю.

— Тады добра, усё вельмі добра,— зашаптала.— І я цябе вельмі люблю, мой мілы чалавек... Ты не зважай, што я часамі на цябе бурчачу. Я ж жанчына. Я... не буду болей такая... Вось пабачыш...

— Будзь такая, як ёсць. Настаўніцаю. Жанчынаю.

— Гарэза ты мой! — прамовіла з пяшчотаю.— Хоць і ведаеш: бурчэла і буду бурчэць на цябе...

...Ноччу снілася Логвіну іхняя старэнькая васьмігадовая школа і добрае, чыстае, надзвычай сонечнае і чуйнае неба над галавою.

## ПЕНСІЯНЕР

Ігнат Карлавіч, калі ляжаў у бальніцы, вельмі востра адчуваў сёлетнюю зіму. Хваляваўся ад сухіх, рыпучых, марозных начэй з нечаканымі рэзкімі стрэламі, буйных імглівых зорак, што густа высыпалі і холадна свяціліся на небе; ён не мог чуць, аж заходзілася душа, як ціхенька і самотна звінелі на далёкую вясну шыбы, а ўдзень, калі ўгравала, капала са стрэх адчайная вада, а недзе ў сакавіку чуйна запахла сокам, першаю ліпкаю лістотаю, маладою крапівою ля плота — канечне, ні лістоты, ні крапівы яшчэ не было, але Ігнат Карлавіч усё гэта адчуваў, і ад гэтага адчування аж кружылася ў яго галаве. Кожны дзень ён прасіўся з палаты на двор — на свае вочы ўбачыць, калі заадліжае, пачарнее і праталіцца снег, перастане пахнуць растрэсенае за зіму сена, заявіцца вялікая вада. Пазней, пасля адлігі, здзіўляўся, як хутка адшумелі, высахлі ручайкі ды азёрцы вады, зямля, заявілася цяпло і ўсё вакол зазелянела, пайшло ў шпаркі малады рост.

Ён быў ужо немалады, дык і сам разумеў, адкуль у яго і гэтыя вострыя адчуванні, і гэтыя абнаўляльныя здзіўленні. Яны — ад таго, што сёлета вочы яго больш бачылі, сэрца і душа больш разумелі, успрымалі, хваляваліся. Адным словам, усё ў ім не толькі чаплялася за жыццё, за яго перамены і хараство, за яго невытлумачальную

таемнасць, але і паказвала, давала адчуваць тое, што было схавана дагэтуль.

А такія вострыя адчуванні і абнаўляльныя здзіўленні, кажуць, бываюць у пажылога чалавека перад самай смерцю.

Сямейнікі зарадаваліся, што ў маі, калі выблакітнелся неба, запышнелася зелянота і паярчэла сонца, яму стала лягчэй і яго выпісалі з бальніцы. Зарадаваўся і ён, але, заявіўшыся дома, з лёгкім сумам сачыў, як рупіліся на калгасным полі і сваіх агародах людзі, спраўлялі свае адвечныя вясновыя клопаты, як адцвіталі сады, як падраслі за зіму дзеці ў школе — карацей кажучы, як жыццё не запынялася, бегла і бегла наперад ці па аднаму яму вядомым крузе. І ў гэтым яго бегу была вечная маладосць. Добра ж нехта сказаў: чалавечая маладосць кароткая, адзін толькі міг, разбуральная і ў рэшце рэшт смяротная, а зямная, жыццёвая маладосць заўсёды свежая, абнаўляльная, несмяротная.

Цяпер, на старасці, Ігнат Карлавіч не баяўся смерці. Яе ён пачаў баяцца гадоў так пад сорак, калі пачаў разумець тое-сёе ў гэтым свеце, жыцці, калі нешта ўжо зрабіў і мог зрабіць яшчэ болей, калі падраслі, пачалі сталець і ісці ў сваё жыццё дзеці. Цяпер ён ведаў: чалавек смяротны, рана ці позна ён мусіць пакінуць гэты свет. Але ўжо ведаў: калі ты пражыў шчыра, сумленна, аддаў усе сілы на дабро і супроць зла, дык ты не застанешся нікому не вядомай пясчынкай, а будзеш мець несмяротнасць. У шчырасці, сумленнасці, дабрыні, у сваіх дзецях, унуках і праўнуках, урэшце, у той звычайнай і загадкавай вечнай зямной, жыццёвай маладосці. Дык вось такое адчуванне пажылога чалавека, відаць, і не выклікае пачуцця страху перад смерцю.

Ды ён усё ж не хацеў паміраць. Пабыў крыху дома, ачуняў на нагах пасля бальніцы і пайшоў на працу ў школу. Сам сабе падумаў: будзе здароўе, хоць год, хоць два, дык сёлета не пойдзе на пенсію, папрацуе яшчэ. Будзе па-ранейшаму рана ўставаць, хадзіць у школу, вучыць дзяцей з настаўнікамі-калегамі, вяртацца дахаты, правяраць вучнёўскія сшыткі і памагаць жонцы па гаспадарцы, чытаць да позняй вочы — жыць так, як і жыў дагэтуль шмат гадоў, не зважаючы ні на ацяжэласць, ні на стому, ні на сардэчныя болі. Якое іначай будзе яму жыццё без школы, без дзяцей і настаўнікаў?! Як ён выседзіць седзьма дома?! Хай іншыя думаюць, што можна падбіцца ў такія гады, нічога ўжо не змагчы зрабіць добрага, быць лежабокам і спажыўцом сваёй пенсіі, а ён так не думае! Ён і далей хоча быць малады, працавіты, баявы! Не адстане яшчэ ад маладога Логвіна! За тым — маладосць, свежасць, націск і прага да работы, а за ім — сталасць і,

хай можна будзе так сказаць, мудрасць у настаўніцкай працы, веданне дзіцячай душы.

Логвін быў прыезджы, заявіўся тут гадоў пяць таму. У Міланьках за апошнія гады паперабывала шмат маладых адукаваных і разумных настаўнікаў, шмат выехала адгэтуль. Хто застаўся ў памяці, хто знік з яе назусім. Логвін затрымаўся, прыжыўся і палюбіўся, стаў ужо свой. У ім Ігнат Карлавіч бачыў нешта тое-сеё сваё з далёкай маладосці, тое-сёе новае, што вельмі трэба сённяшняму настаўніку. Гэта ў час заўважылі, Логвін папрацаваў гады тры настаўнікам, і яго паставілі тут завучам.

Спачатку той вельмі саромеўся «кантраляваць» Ігната Карлавіча і іншых старэйшых калег (а той-сёй з іх зайздросціў маладому завучу ці з недаверам глядзеў на яго работу), бянтэжыўся, чырванеў. Але паступова станавіўся на ногі, асвойваўся, разумнеў (сам вывучыў усе школьныя падручнікі, іншыя кнігі-дадаткі) — і само сабою сталася, што ўсе паволі адчулі: ён, малады, шмат ведае, можа хораша паразважаць, сёе-тое падказаць, тактоўны, а калі трэба, дык рашучы і ўпарты. Гэта Ігната Карлавіча вельмі радавала, бо ён часта з засмучэннем бачыў, што няшмат цяпер сярод маладых настаўнікаў асоб, што не толькі шмат ведаюць, але і ўмеюць пастаяць за ісціну ды за сябе, на жаль, нямала разгубленых, незадаволеных, залішне паслухмяных, а то і яшчэ горш — абыякавых да дзяцей, да настаўніцкай працы. Ён паважаў кожнага чалавека — асобу, але моцную асобу сярод настаўнікаў паважаў удвайне.

А пачынаў Логвін працаваць, як кажуць, няроўна. І памыляўся, і адчайваўся. Часамі пападаўся, здаецца, на самай маленькай дробязі. Памятаецца, недзе на другім месяцы настаўніцкай працы ўбег сярод урока ў настаўніцкую разгублены, ледзь не са слязьмі на вачах. Папрасілі расказаць, што здарылася. З сорамам ды з адчаем расказаў. Вучаніца-васьмікласніца, вельмі бойкая, гарэзная, папрасіла запісаць на дошцы сказ і вытлумачыць знакі прыпынку ў ім. Ён, Логвін, запісаў і ў адным месцы паставіў двукроп'е, вучаніца сказала, што тут патрэбен працяжнік. Ён даказваў сваё, а вучаніца знайшла зусім іншы доказ — падала яму даўно ўжо разгорнутую кнігу. Логвін зірнуў, убачыў той сказ і разгубіўся: ён памыліўся. Вучаніца хіхікнула, а за ёю заўсміхаўся пераможна і ўвесь клас.

Логвін, пераможаны, асаромлены, выбег з класа.

Прыбег у настаўніцкую і заявіў, што сёння ж паедзе звальняцца, бо не можа тут болей працаваць.

— Ды не перажывайце вы так за дробязь,— пачаў супакойваць дырэктар, яго, Ігната Карлавіча, аднагодак.— Чаго толькі і з намі,

маладымі, не здаралася, якія мы ляпсусы рабілі! Дробязі, кажу, усё гэта. Год-два папрацуеце — і іх не будзе.

— Не, тэта не дробязі,— не пагадзіўся расчырванелы Логвін,— я зганьбіў настаўніцкі аўтарытэт! Я не маю права быць педагогам.

— Хадзем, зірнем той мудры сказ,— прамовіў Ігнат Карлавіч, узяў маладога настаўніка пад руку.— Быць не можа, каб вы памыліліся.

Увайшоўшы ў клас, Ігнат Карлавіч прачытаў запісаны на дошцы, а таксама па кніжцы той сказ і сказаў дзецям, што ў кнізе стаіць аўтарскі знак, а на самай справе, як і кажа Мікалай Аляксандравіч, тут трэба ставіць двукроп'е. Дзеці яму адразу паверылі.

Логвін стаў маўклівы, доўга саромеўся калег, пераЖываў ад новых памылак, але пазней, калі адчуваў сябе не бусляняткам, якое чакае бацькоўскага куса і баіцца не толькі ўзляцець, але нават зірнуць з вышыні ўніз, а буслом, які злятаў ужо ў цёплыя краі, забыўся пра тое здарэнне, а калі яму напаміналі, дык і сам пасміхаўся з яго. А цяпер, праз некалькі гадоў пасля таго здарэння, гэты малады чалавек, які «зганьбіў настаўніцкі аўтарытэт»,— сур'ёзны педагог, завуч. Ды і па-добраму хітры стаў: вычытае ці прыдумае што-небудзь цікавае, захоча, каб гэта спажылі на сваіх уроках настаўнікі, дык не пахваліцца, што сам вычытаў ці прыдумаў, а скажа, што вось гэта раяць сталыя настаўнікі. Раз-два так сказаў, а ўсе адразу ж зразумелі: па-першае, сціплы, не фанабэрысты, а па-другое, уніклівы, кемны, мае вялікую ахвоту, нават прагу да работы.

...Сёння, у вераснёўскую суботу, Ігнат Карлавіч хваляваўся як ніколі. Сёння ў яго быў незвычайны дзень. Які — цяжка адказаць адным словам. Ён і сам не мог разабрацца, што ў яго на душы, што з ім робіцца. Жыццё яго нібы запыніць з сённяшняга дня свой бег, нібы пойдзе па зусім новай каляіне.

Увесь светлы дзень ён таптаўся пры хаце ці ў хаце — памагаў жонцы ў гаспадарскай рабоце, пад вечар расставіў у лепшай палавіне сталы, разлажыў талеркі, відэльцы і нажы. Улучыўшы вольную хвілінку, прысеў на канапе. Адчуў, што стаміўся. Памлелі, сталі зусім цяжкія рукі і ногі, выступіў халодны пот, натужліва калоціцца сэрца. Аслабеў ён вось так пасля інфаркту, што быў у яго на самым пачатку чэрвеня.

Пачуў: ідзе сюды, у чысты пакой, жонка. Трэ было б падхапіцца, не паказаць, што нямоглы, але не здолеў знайсці ў сабе для гэтага сілы. Толькі пастараўся прыкінуцца, што яму добра, што ён прысеў выпадкова, маючы вольны час.

Жонка, невысокая, худзенькая, шпаркая, яшчэ не надта старая, зірнула на яго пільна — відаць, на пагусцелыя пасля хваробы марш-

чыны на лобе і каля вачэй, на зусім выцвілыя зрэнкі ды пажаўцелыя, нібы бяскроўныя шчокі і вусны. Яна, Кацярына, была простая вясковая, як кажуць, жанчына, трэці дзесятак гадоў працавала тэхнічкай у сельсавеце, але была разумная, спагадная, чулівая. Вельмі чуйная да людскога гора.

— Можа, трэба памагчы табе? — пачаў бадзёрыцца. Усміхнуўся праз сілу.— Давай буду насіць халодныя закускі на стол.

Яна не сказала: куды табе, лепш сядзі ды адпачывай. Не хацела ні напамінаць, што ён нездароўчы, ні крыўдзіць лішнім спачуваннем.

— Управімся яшчэ падаць на стол, Ігнатка,— прамовіла, не затрымалася, падышла да шафкі з пасудаю. Нібы да яе толькі і ішла.— Ды зараз нехта падыдзе, паможа. Ты пераапранайся ўжо, яшчэ раз пагаліся,— усміхнулася,— трэба ж, каб маладзён быў. Ты ж не абы-які пенсіянер, а малады...

— Добра, добра,— адказаў.— Як і раіш, пачну зараз шыкавацца. Пахвалюйся трохі, калі маладыя настаўніцы вачэй з мяне не будуць зводзіць.

— Такая мая ўжо доля,— нібы паскардзілася. З жартам.— Усё сваё жыццё раўнаваць цябе да настаўніц...

Калі яна, так нічога і не ўзяўшы з шафкі, выйшла, Ігнат Карлавіч паволі падняўся, прытупаў да шафкі. Па валідол. Калі паклаў белую таблетку пад язык, пачаў галіцца. Вадзіў электрычнаю брытваю па шчоках, пад падбародкам і адчуваў: слабеюць, ныюць ногі, рукі. Мусіў колькі разоў класці брытву на накрыты сурвэткаю стол і адпачываць ды заадно выціраць насоўкаю пот з лоба і з падбародка. Пасля, пагаліўшыся, апрануў свой святочны блакітны касцюм, падышоў да люстэрка і зірнуў на сябе: перад ім быў нібы незнаёмы дзядзька. Святочны, інтэлігентны, але поўны, з вялікімі залысінамі і з сівізной на скронях. А ў сваіх вачах зноў са скрухаю ўбачыў не толькі паблекласць, стомленасць, але і адчужанасць.

«Ну-ну! — падакараў сам сябе.— Малады пенсіянер! Ты — што?! Здаўся? Падбіўся? Не, браце. Трымайся! Не думай нават паказаць, што табе цяжка. Не трэба, каб шкадавалі і спачувалі. Трэба, каб ад цябе, браце Ігнаце, і ўсім бадзёрасць перадавалася! Інакш ты сам сабе здрадзіш... Што там нейкі інфаркт? Хіба ён можа зваліць з ног ці падарваць дух?!»

Падміргнуў свайму адлюстраванню, кіўнуў пальцам і адышоў ад люстэрка. Але не супакоіўся. Бруілася, як ручаёк пад вясновым снегам, трывога, хвалявала нейкае новае, можна сказаць, пенсіянерскае пачуццё. Што ён будзе рабіць на той пенсіі, як жыць? Будзе ж ужо нікому не патрэбны, лішні, бесклапотны, пачнецца дажывальскае

жыццё. Перастане марыць, летуценіць — і дні яго будуць падобныя адзін на адзін, сумныя і, відаць, доўгія-доўгія і бяздзейсныя. Ці, можа, зусім дарэмна ён адчайваецца, палохаецца сваёй блізкай будучыні? Можа, адпачне і знойдзе сабе новы цікавы занятак? Можна ж стаць пчаляром, рыбаловам ці паляўнічым. Можна ж, калі дазволяць урачы, папрасіцца яшчэ і ў школу. Узяць некалькі ўрокаў і не адрывацца ад таго, чым жыў не адзін дзесятак гадоў. Зноў будзе працаваць у школе і, маючы больш вольнага часу, урэшце, як кажуць, зоймецца і сваёю персонаю, хоць на старасці пачне лепшыць свой характар, лад жыцця.

І настаўнікі, і аднавяскоўцы казалі, што ён працавіты, шчыры, сумленны, вясёлы, кампанейскі, адным словам, «добры», а то нават і «залаты чалавек», але ён сам — надта ў апошнія гады — лічыў, што нехта іншы быў працавіты, шчыры, сумленны, вясёлы, кампанейскі, а ён быў і ёсць бесталковы, сумны, нудны. Вельмі шмат ён бачыў у сабе хібаў, заган, але з жалем адчуваў, што некалішняга не зменіш, не паправіш, а цяпер жыць іначай, як умее, не здолее. А саромеўся ён найбольш за тое, што шмат у яго жыцці было дробязнага, супярэчлівага, што не заўсёды мог заступіцца за сябе і за іншых у патрэбную хвіліну, часамі маладушнічаў, меў цягу да здзеку над слабым і безабаронным і да ліслівасці перад дужым і ўладным. І, можа, найбольшы грэх меў перад жонкаю і дзецьмі. Ён мала і бачыў іх з-за школьнай работы, быў кепскім мужам, бацькам: жонка састарэлася, а дзеці выраслі і пайшлі ў свет, лічы, без яго ўвагі і ласкі...

Здаецца, і сам ён, апрача работы, нічога не бачыў. Лічы, усё жыццё пражыў у сваёй роднай, невялікай і далекаватай ад горада вёсцы і свет вялікі найперш адчуваў іменна па ёй — па калектывізацыі, па вайне, па пасляваенным часе. На першы погляд у ёй нічога нібы не ўскалыхвалася, не зыначвалася, як нічога выключнага не адбывалася і ў яго жыцці, лесе, але ўсё ж, відаць, ён быў сведка — і не толькі сведка — цэлай эпохі. Маленства яго прайшло пры лучыне і газніцах, у лапцях, пры сявеньках, а старасць прыпала на век электрычнасці, электронікі, машын, тэлевізараў, тэлефонаў і, на жаль, на век магутнай атамнай зброі...

Праўда, часта хацелі перавесці яго адгэтуль у большую школу, паставіць завучам і дырэктарам, бралі ў горад, але ён не меў сіл вырвацца адсюль, працаваў, працаваў і, дзякуй богу, бачыў радасць там, дзе яе іншыя не маглі разгледзець і ўцякалі шукаць лепшых месц, хоць некаторыя прызнаваліся, што абетаваных месц не знайшлі, бо ўсюды былі нечым незадаволеныя, відаць, больш думаючы пра сябе і свае выгоды, чым пра работу. Адзін бог ведае, кім бы быў ён сёння,

як жыў бы, каб усё ж у свой час спакусіўся і некуды з'ехаў, пайшоў па іншай дарозе. Можа, і жыў бы іначай, «лепш», а можа, і таго не меў бы, што тут мае. Хто ведае?! Шляхі чалавечыя неспазнаныя!

Патупаў-патупаў па пакоі і зноў прысеў на канапе. І тут жа сюды зайшла жонка, акінула яго ранейшым, дапытлівым, позіркам.

— Ці не кепска табе? — запытала.

— Ды і не зусім добра,— адказаў.— Ці не зарана я пабег на гэтую пенсію?

— Хочаш яшчэ адзін інфаркт? Ці хочаш нават памерці ў школе, на ўроку? А можа, лічыш, што незаменны, без цябе не пойдзе работа, не будзе добрай вучобы?

Змаўчаў. Адчуў: жонка разумее, што ў яго на душы, але ўсё роўна разважае па-свойму. Шкадуе, беражэ яго.

— Я ж не каялася, пайшла во на пенсію...

— Дык ты ж цяжка працавала! І дома, і на рабоце.

— А ты — гуляў? — напала, змушаючы яго навучыцца ўжо думаць іначай, чым думаў і жыў дагэтуль. Не чуючы яго адказу, дадала, пафіласофствавала нават: — Не, не гуляў. Іншыя і на такой рабоце лындылілі, а ты не ўмеў. Але ж цяпер прыйшоў час і адпачыць. На ўсё свой час. На работу і на спачын. Так было, ёсць у іншых, так яно і ў нас. Што мы — адмысловыя нейкія ці не на зямлі жывём? Адменныя ад усіх людзей? Ці без старасці, без стомы? — Уздыхнула, адвяла вочы.— Хоць, можа, і не зусім так жылі... Людзі каторыя, можа, жылі і лепш, мудрэй, больш сябе глядзелі...

Ён зноў нічога не адказаў. Ды што скажаш?!

— Затое цяпер, на пенсіі, будзем глядзець толькі саміх сябе...— Усміхнуўся.— Нагонім тое, што страцілі некалі...

— Толькі што...— прамовіла ў адказ і больш нічога не паспела сказаць: у сенцах пачуўся стук, рыпнулі дзверы ў хату.

Яны абое пайшлі насустрач. У хату зайшла невысокая, светлавалосая, у яе, у маці, дачка, а за ёю ступіў высокі і худы зяць-шафёр, падстрыжаны па-даўнейшаму, пад польку, з белаю патыліцаю, у новым, але крыху вялікаватым касцюме.

— Самыя раннія,— усміхнулася Марылька, пацалавала маці, бацьку і адразу ж падалася на кухню. Памагаць гаспадыні, а заадно пачынаць сервіраваць стол. Яна, аграном, шмат дзе была на свеце, добра ведае ўсякія цяперашнія этыкеты і цырымоніі. Зяць падышоў да Ігната Карлавіча, парукаўся, гаварыць па сваёй прыроджанай маўклівасці не спяшаўся, дык гаспадар сам пачаў распытваць у яго пра саўгасную работу.

Калі паставілі ўсё, што мелі, на стол, калі прыбраліся гаспадыні, зноў пачуліся ў сенцах шум, шушуканне. Ігнат Карлавіч зразумеў: прыйшлі маладыя настаўнікі і саромеюцца заходзіць, выбіраюць, хто павінен ступіць за парог першы. Ігнат Карлавіч памкнуўся ўжо, каб падысці, адчыніць дзверы і запрасіць моладзь, але дзверы адчыніліся і зайшоў у святочным шыкоўным касцюме Логвін, за ім увайшлі яго жонка і па-святочнаму апранутыя настаўніцы.

Усе маладыя, стройныя, модніцы.

— О, якія ўсе пекныя! — заўсміхаўся Ігнат Карлавіч.— Няхай даруюць мне за мой правінцыялізм, але скажу шчыра: іменна ў нас, на Беларусі, самыя прыгожыя дзяўчаты і жанчыны!

Настаўніцы абступілі яго, заваражылі яго маладымі ўсмешкамі, пацалункамі, ледзь не завалілі яго букетамі кветак. Здаецца, сама па сабе знікла стома, нямогласць, пабегла па яго жылах маладая кроў.

Неўзабаве прыйшлі непазнавальныя ў сваёй святочнасці, бесклапотнасці і весялосці Пётр Сцяпанавіч з жонкаю, Міхаліна Казіміраўна з мужам, суседзі; нават хмурнаваты дырэктар, Андрэй Сцяпанавіч, сёння быў урачысты, гарэзны, нібы не зважаў, што налета і яму час ісці на пенсію. Каб заявіліся яшчэ і астатнія дзеці, дачка і сын, дык і зусім было б выдатна. Дачка далёка адгэтуль, на Далёкім Усходзе, напісала, што завітае пазней, зімою, у адпачынак, а сын, вайсковец, дакляраваў прыехаць сёння. Калі ўсё будзе добра па службе, дык і прыедзе.

— Сядайце, госцікі дарагія, за стол,— запрасіў Ігнат Карлавіч.— Уважце маладога пенсіянера,— і сам першы падаўся ў кут. Злева селі за ім настаўнікі, справа — радня і суседзі. Мужчыны пачалі адкаркоўваць пляшкі шампанскага.

З поўным фужэрам падняўся Андрэй Сцяпанавіч, поўны, па-хатняму блізкі, не строгі ў белай кашулі з закасанымі рукавамі.

— Таварышы! Сябры! — прамовіў ён, відаць, гадаючы, як гаварыць. Гучна, пафасна, як і заўсёды, ці неяк іначай, проста і цёпла.— Сёння ў нас і радасная, і сумная бяседа. Нам сумна, што нас пакідае сціплы, але выдатны працаўнік на ніве народнай асветы, нам радасна, што ён па-ранейшаму малады, бадзёры, паказвае ўсім нам прыклад...

Андрэй Сцяпанавіч гаварыў доўга, ледзь не расказваў яго біяграфію, хваліў. Пасля ўручыў і ад райана, і ад школы падарункі, пацалаваўся з ім, упершыню ў апошнія гады шчыра расчуліўшыся, бо звычайна ён быў чалавек строгі і стрыманы.

Калі бяседа была ў разгары, калі адзін за адным чуліся тосты, звінелі нажы і відэльцы, чуліся смех, гамана, увайшоў у хату маладжавы маёр.

— Сын Ігната Карлавіча, сын Ігната Карлавіча,— зашапталі маладыя настаўніцы, і яму, бацьку, было прыемна, што і сын прыехаў, і што ён выклікаў у дзяўчат шчырае захапленне.

Тут жа знайшлі яму месца сярод дзяўчат, пасадзілі.

— Я не ведаю, што тут гаварылі,— пасля, падняўшыся, прамовіў той.— Але скажу перад усімі шчыра: дзякуй, што ёсць вы, тата, дзякуй, што ёсць вы, мама! Калі ёсць такія бацькі, людзі, дык ёсць каго абараняць, і мы, вайскоўцы, будзем абараняць вас, Радзіму з годнасцю.

— Дзякуй, сынок,— Ігнат Карлавіч нахіліўся, і яны з сынам моцна пацалаваліся. Хоць ён не браў у рот і кроплі, піў толькі кампот, але расчуліўся да слёз.

Шчырэлася, спявала ад увагі і пяшчоты яго душа, калі спявалі народныя песні, калі ўздумалі і патанцаваць.

— Ану, Андрэйка, давай любімы намі ў маладосці вальсок,— сказаў ён і запрасіў на танец Логвінаву Вольгу, на здзіўленне сам сабе лёгка закружыўся. Усе здзівіліся, запляскалі, а ён, падахвочаны, загарэзнічаў, паказваючы сваё былое танцавальнае ўмельства. Ніхто не асмельваўся ўслед за ім вальсіраваць. Можа, і таму, што цяпер маладыя (настаўнікі таксама) не зусім ахвочыя да вальсаў, полек, падыспанаў, кракавякаў, «Лявоніхі», на жаль, найбольш выдыбаюць нейкія «бугі-вугі».

Патанцаваўшы крыху, ён змусіў танцаваць і ўсіх. Танга.

— Павесяліцеся, калегі,— упрошваў,— асвяжыцеся душою. Гэтае асвяжэнне вам вельмі прыдасца. І мне няхай музыка, ваш смех, ваша весялосць доўга помняцца.

Пасля, калі і маладзейшыя і сталейшыя натанцаваліся, аж паружавелі ды пачырванелі, і зноў паселі за сталы з падноўленымі закускамі, яго ўпрасілі сказаць слова.

— Гаварыць мне цяпер і цяжка, і лёгка...— прамовіў ён, адчуваючы, што цісне ў горле ад нейкага даўкага камяку і заадно лагодна на душы.— Шкода маладосці, дужасці, маю нейкі страх нават за сваё пенсіянерства. Мала ўсё ж прырода, жыццё адпускаюць чалавеку маладога веку. Але не нуджуся, не каюся. Як казаў Андрэй Сцяпанавіч, лічы, сорак сваіх гадоў я аддаў школе. І не шкадую. Наадварот. Хоць за школьную працу героем не стаў, не маю медалёў і ордэнаў, гучных званняў, але ўсё жыццё радаваўся, што настаўнік, што паказваў маладому пакаленню шлях да святла, хараства, сэнсу... Нашы вучні,

іх поспехі ў навуцы, у культуры, у народнай гаспадарцы — найлепшая нам, настаўнікам, уцеха і ўзнагарода... За настаўніцкую душу, сябры! За яе мудрую веліч!

...Вясёлыя госці пайшлі, панеслі з сабою смех, песні, гамонку, узрушэнне, але ў хаце па-ранейшаму захоўваўся ўзнёслы дух.

Жонка, дачка і сын пачалі прыбіраць са сталоў, а ён, Ігнат Карлавіч, сядзеў непадалёку на канапе, адпачываў.

— Неяк жа ты, тата, асмеліўся пайсці на пенсію? — здзівіўся сын.— Я дык спярша і не паверыў, што можаш пайсці са школы.

— Звольніўся б ён, каб не я ды не ўрачы,— сказала гаспадыня.— Мы табе, сынок, усяго не пісалі, не хацелі, каб ты хваляваўся. У бацькі ж быў інфаркт.

— Інфаркт? — аж спалохаўся сын, ледзь не выпусціў з рукі талерку. Немалады ўжо, за трыццаць, лётчык, а вось разгубіўся.

Ігнат Карлавіч адчуў: стаміўся ўжо сын. Пра гэта сведчаць і глыбокія залысіны, кругі пад вачыма. Дзіва тут ніякага няма: нялёгкая ў яго служба, забірае шмат маладосці, сілы, душы. Бяда іншая: на жаль, ён яшчэ і зараз нежанаты. Калі цяпер яшчэ гэта, можа, і не трывожыць вельмі, бо можна забыцца пра свае нягоды ў рабоце, дык хутка, як сын рана выйдзе на пенсію, усё раптоўна абзыўнецца.

— От, Сцёпа, не зважай,— прамовіў ён.— Бачыш жа: дужы яшчэ я. Магу нават з маладымі жанчынамі скакаць. Адпачну крыху дома ды пачну шукаць работы. Не возьмуць у школу, дык пайду ў саўгас. У сад ці да пчол.

— Ён такі...— сказала гаспадыня сыну.— Век у руху і ў руху. У клопатах. Бывала, некалі, калі малады быў, дзень светлы ў школе — урокі дае, гурткі ўсякія вядзе, з дзецьмі ў лес ходзіць... Увечар у клуб ідзе, лекцыі чытае, у калгасы агітуе ці памагае багатых раскулачваць. А я адна ды адна з дзецьмі. Дзяцей гляджу, гаспадарку гляджу і яшчэ ж на работу бегаю. Ухаджуся, лягу спаць — не сплю, яго чакаю. Час трывожны, каторыя людзі злыя — забіць могуць. Ці не ў трыццаць другім было. Не спіцца мне, сэрца шчыміць: ноч цёмная, а яго ўсё няма. Падхапілася ды бягом у Вішнёўку. І набегла на яго. Ляжаў збіты на дарозе... Адратавала — а ён зноў за сваё. Дык тады ўсіх нас звесці хацелі, калі ўночы хату падпалілі...

— Калі тое было...— усміхнуўся ён.— Успомніла пазалеташні снег.

— Пачалася вайна, людзі ратуюцца, запасаюцца, а ён сабраў пляцак, пацалаваў нас усіх і пайшоў у ваенкамат,— расказвала жонка.— Вярнуўся, кажа: адпусцілі. Не гаворыць, што для партызан пакінулі. А што ў партызанах было! Ні кропелькі не асцерагаўся! Куды ні трэба —

ён усюды першы... А пасля вайны... Школа, займы, мастацкая самадзейнасць, лекцыі, насценгазеты...

— Перабольшваеш ты ўсё, маці,— зноў усміхнуўся ён, можа, толькі цяпер разумеючы, што сапраўды ён шмат разоў быў у такой небяспецы, што мог не адзін раз загінуць. Ды страху за тое не было. Шкадаваў, перажываў толькі — вельмі ў апошнія гады,— што, як і кажа жонка, мала глядзеў сям'і. Дзяцей падняла на ногі, утрымала гаспадарку, лічы, адна Кацярына.— Хіба быў я такі апантаны?

— І быў, і цяпер такі...— адказала тая.

— А ці можна было жыць іначай, мама? — супакоіўшыся, запытаў сын.— А хіба не зайздросна, што так жылі? Хіба не радасць, не шчасце, што цяпер ніхто не папікне за былое?

— Які бацька, такі і сын...— «пакрыўдзілася» гаспадыня.— Хоць бы кроплю якой хітрасці мелі...

— Хіба мы без ніякай хітрасці, мама?

— Ды хітрасць ваша адмысловая... Не для сябе...

— Людзі хвалілі, а наша Кацярына Юр'еўна, бач, сын, дала дык дала нам! — пажартаваў Ігнат Карлавіч.— Усю нашу жыццёвую філасофію, пазіцыю перакрэсліла... Відаць, усё ж трэба жыць іначай. І я цяпер зыначуся. Стану эгаістам, хапугам, зайздроснікам. На свае вочы зірну, сваёю душою адчую: а як жа вось так жыць?

— Давай! Давай! — пацешылася жонка.— Хоць цяпер, на старасці пакажы, як умееш думаць і пра сябе...

...Пазней, калі леглі спаць, Ігнат Карлавіч доўга не мог заснуць. Чуў, што не можа адолець сон узбуджаных жонку, дачку і сына, не давала спакою трапяткое сэрца — відаць, не варта было сёння столькі спяваць, скакаць, узрушвацца, дык ляжаў, пазіраў у цёмную столь і думаў-думаў пра новы, заўтрашні, дзень. Заўтра ж ён будзе ўжо на пенсіі, вольны і бескляпотны. Дык што ён будзе рабіць на той волі, з той нечаканай бескляпотнасцю?

1971

## ЦЫГАНСКІЯ ПЕСНІ

Я ў маленстве вельмі баяўся цыганоў. Можа, таму, што тады хадзіла пра іх шмат самых неверагодных легенд.

Калі правінавачваўся ў нечым, дык маці альбо бабуля звычайна прыстрашвалі адным і тым жа: «Пачакай-пачакай, неслух! Прыйдзе вот цыганка — аддадзім. Як трапіш у цыганскія рукі, дык будзеш ведаць, як не слухаць маці альбо бабулю». І калі ўзімку ці летам да нас сапраўды заходзіла цыганка, я заўсёды хаваўся — на печы над

лахманамі альбо на ваг над ложкам. Праўда, госця, бадай, не зважала на нас, дзяцей, альбо нават і ласкава загаворвала, але я, цікуючы за ёю з якой шчыліны, надта не верыў — думаў, што заманьвае. І мяне са схованкі, і меншых маіх сястру ды брата, што туліліся да маці.

У нас, на хутары, яшчэ гаварылі, што цыганы не толькі забіраюць малых непаслухмяных дзяцей, але і ашукваюць старэйшых, выманьваюць ад іх дабро, а бывае, нават і крадуць. Да слова, казалі, што ў Антосі Кузёмка, старой кабеты, яны «выцыганілі» прыгожы, даўняй работы абрус толькі за тое, што «надакляравалі» яе адзінаму хваравітаму сыну шчаслівае вяртанне з гарадской бальніцы. У Ганны Навіцкай забралі пярсцёнак, і забралі так хітра, што яна нават апамятацца доўга не магла: помніць, што паказвала «маладой і надта ж нагляднай чарнавалосай госці» шлюбны пярсцёнак, помніць, што тая разглядала яго і ўсміхалася, а пасля аддала «ў самыя рукі», а вось зусім не помніць, як памяць адняло, чаму пярсцёнка ўсё ж у пудэлку не стала. Наш бліжэйшы хутарскі сусед, Пятро Мельнік, любіў баяць сваю гісторыю з цыганамі. Да іх, па яго словах, зайшла аднойчы ў зімовую сцюжу маладая цыганка з маленечкім дзіцем, папрасілася пагрэцца, а таксама папрасіла есці. Дзе ты адмовіш! Людзі ж! Маці з дзіцем! Гаспадыня пакарміла госцю і яе дачку, паслухала яе цікавыя расказы пра свет вялікі і пра ўсякія цыганскія прыгоды. Калі ж адагрэтая і сытая падарожніца збіралася пайсці далей сваім, вядомым толькі ёй шляхам, нечакана заявіўся ў хаце «усаты малады цыган, можа, і яе муж. Ён ветліва павітаўся з гаспадарамі, а пасля пачаў не толькі пагрозна крычаць на сваю маладзіцу, але і хлістаць яе пугаю — відаць, за тое, што яна тут надоўга затрымалася. Жанчына лямантавала, кідалася па хаце, урэшце шмыгнула пад вялікі ложак.

Калі гаспадары супакоілі ваяўнічага госця, пакармілі, яна вылезла са схованкі і бокам-бокам шмыг за дзверы, нават пра дзіця сваё забылася. Ветліва развітаўшыся, падзякаваўшы, неўзабаве падаўся з хаты і мужчына. Разам з дзіцем. Мельнікі доўга гадалі, чаму быў такі злы цыган, і толькі на трэція суткі агледзелі выпадкова, што з-пад ложка зніклі гаспадаровы новыя хромавыя боты. Спахапіліся, завохкалі, ды вярнуць боты было позна: ужо гасцей тых нечаканых за гэты час і след выстыў.

Канечне, расказваючы гэтыя і іншыя гісторыі, людзі шмат перабольшвалі, дапрыдумвалі нямала чаго самі. Не для зла, здзеку ці ганьбы, а больш для фантазіі, пацехі, утаймавання аднастайнага хутарскога побыту. Якімі ні былі цыганы ахвотнікамі на малых дзяцей, але ні адно, самае і непаслухмянае, хутарское дзіця не знікла, па-другое, той-сёй гаварыў, што Антося сама аддала абрус, а Ганна сама згубіла

свой пярсцёнак, а Пятро застаўся без святочнага абутку таму, што, вяртаючыся аднойчы з вяселля, заснуў на дарозе, дык боты з яго ног сцягнуў нехта свой, з вёскі. Праўда, быў на хутары адзін чалавек, жулікаваты дзяцюк Яська, які не любіў гаварыць пра цыган ні добрае, ні паганае, увогуле пра іх маўчаў, як ніколі не бачыў. Ён, казалі, аднойчы захацеў пазаляцацца да маладзенькай прыгожай варажбіткі, нават заманіў яе ў гумно, але тая здолела выскачыць, уцякла з хутара. На другі дзень прыйшоў туды паджылы, але яшчэ мядзведжай сілы, хмурны барадаты цыган-велікан і так загадкава сам-насам пагаварыў з Яськам, што той не толькі страціў ахвоту заляцца да варажбітак, але і зусім змяніўся, нібы нанова нарадзіўся. Як жартавалі, Яська з той часіны, калі пайшоў з хутара хмурны велікан, а ён застаўся жывы, пачаў верыць у бога, стаў мяккі ды ветлівы, хоць ты да вуха яго прыкладай.

Адным словам, я ў маленстве не ведаў доўга, дзе людзі кажуць праўду, а дзе і складаюць прыдумлянцы пра гэта вандроўнае, гордае, вясёла-журботнае племя, дык і пабойваўся як яго мужчын, так і кабет. І вось у апошняе мае вольнае лета (увосень я павінен быў пайсці ў школу) маё ўяўленне пра цыган змянілася, страх знік, прыйшло новае, раней не чуванае пачуццё.

Здаецца, ці не ў ліпені нечакана ў нас, на хутары, у адзін сонечны надвячорак заявілася мноства фурманак-кібітак. Спыніліся яны адразу за крычатоўскім лесам на неўрадлівым пустым дзірване за нейкіх паўвярсты ад нашай хаты. Сталі табарам, як сказала маці.

У першы вечар новыя суседзі паводзіліся ціха. Спуталі, павязалі коней на дзірване, нарыхтавалі ў лесе сухіх дроў, а ўвечар расклалі вогнішча. Сполахі ад яго паблісквалі далёка, па ўсім нашым хутары, Амшарку, лашчыліся і па шыбах нашага акна.

Увечар, пасля вячэры, бацька і я доўга стаялі на двары і пазіралі туды, дзе весела і высока палаў агонь, цікавячыся, што там адбываецца.

«Павінны спяваць і гуляць»,— сказаў бацька.

Але ля лесу было ціха, звычайна шумлівыя госці паводзіліся спакойна. Можа, стаміліся за доўгую дарогу. Канечне ж, качэўнічалі, зведалі ўжо нямала дарог: пабылі і пад сонцам ды пылам, і пад дажджом, і пад ветрам — натрэсліся, сасмяглі, стаміліся. Жыццё на колах не толькі рамантычнае, але ўсё ж і суровае.

Назаўтра раніцай я, як толькі прачнуўся, адразу ўспомніў пра табар і падаўся на двор. Але толькі абмінуў гумно, зірнуў на нізкае над лесам сонца, прыціхлае ў ранішняй смузе зялёнае поле, як запыніўся, нібы нехта штурхнуў мне ў грудзі: да брамкі падыходзіў высокі, у

хромавых ботах, у вайсковай форме, але без пагонаў, толькі з некалькімі медалямі ці ордэнамі на грудзіне, з вялікай завушніцай у вуху, чорнавалосы барадаты дзядзька. Я адскочыў, быццам апёкся аб крапіву, але ад збянтэжання не ведаў, што рабіць: даць драла, каб толькі пяткі бліснулі, ці не паддавацца страху? Хто ж ведае, што задумае гэты ранні госць? Можа, і схопіць мяне ды дасць лататы ад нашай хаты, памчыць у свой табар усім на пацеху!

— Здароў, малады гаспадар,— па-нашаму прамовіў чорны дзядзька і лагодна ўсміхнуўся. Вялікія чорныя вочы цёпла бліснулі. І, калі я мармытнуў у адказ на прывітанне не зусім, мусіць, для яго зразумелае, запытаў: — Бацька дома?

Я хітнуў галавою. Ён засунуў руку ў кішэню вайсковых штаноў і, сказаўшы падставіць далоні, усыпаў у іх жменю светла-рудых нянашынскіх арэхаў, а затым папрасіў:

— Будзь ласкаў, пакліч сюды бацьку.

Я яшчэ болей здзівіўся — і ад такой ветлівасці, і ад таго, што ён так хораша гаворыць па-нашаму. Я смялей зірнуў у цёплыя дзядзькавы вочы, на каня і калёсы, што стаялі непадалёку, і, забыўшыся падзякаваць за пачастунак, пайшоў клікаць бацьку.

З бацькам я таксама вярнуўся да брамкі. Ужо без насцярогі, з цікаўнасцю.

— Ці дазволіў бы гаспадар узяць вады са студні? — павітаўшыся з бацькам, ветліва запытаў цыган.— Коней паіць будзем у вашай рэчцы, а вось вада пітная, як самі разумееце, трэба якраз са студні.

— Калі ласка, бярыце,— адказаў бацька.

Калі цыган насіў вядром ваду і выліваў яе ў бочку на калёсах, вяртаўся да студні, я, ужо не баючыся, разглядаў яго — дужага, камлістага, ужо не маладога, з сівізной на скронях, з маршчынамі на лбе. Ён жа за кожным разам жартаваў са мною, а на развітанне запрасіў:

— Прыходзь да нас. З нашымі дзецьмі пагуляеш, мядзведзя ручнога пабачыш, — а калі ўбачыў, што на двор выйшла маці, пакланіўся ёй, таксама запрасіў: — Прыходзьце, гаспадыня, у наш табар. Можа, што купіце сабе. Хустку, матэрыял на сукенку ці блюзку, мужчынскае што альбо дыванчык які... Калі маеце, мы ў вас можам купіць малако, сыр, яйкі...

Маці падзякавала і падакляравала завітаць. Калі госць пакінуў двор, я пацвеліўся з маці:

— Вы казалі, што яны дзяцей забіраюць і звозяць з сабою. А вот не забіраюць.

— Добрых, паслухмяных, чыстых, канечне, не бяруць,— усміхнулася яна,— А вот нягодных, брудных падчышчаюць. Чысты, аку-

ратны гэтыя дні — дык не забралі. Не ўшануешся, зграшыш — забяруць.

Я ўвесь дзень стараўся быць чысты, слухаць маці, з ахвотаю гуляць з малодшымі сястрою і братам. Праўда, крыху засмуціўся, калі маці ўзяла дзесятак-другі яек, сыр, пакінула мяне з дзецьмі, адна пайшла да табара. Вярнулася адтуль не так ужо і хутка, прынесла сабе чорную, з вялікімі чырвонымі кветкамі хустку, бацьку і мне — па кашулі, сястры і брату — ляльку і маленькую самаходную машынку.

Увечар мы таксама, як і ўчора, выйшлі на двор і зноў пазіралі на полымя і ўжо слухалі глухаватую ад далечыні музыку, песні.

Цыганы сёння не маўчалі, весяліліся. Нават праз поле было чуваць, што яны сёння гарэзныя, дзёрзкія: музыка, песні часамі так усходжваліся, віхурыліся, што, здаецца, там хадзіла ходырам зямля.

— Можа, сходзім ды паслухаем? — прамовіў бацька.

— Няёмка,— адказала маці,— чужыя ж людзі...

— Помню, некалі недзе я чытаў,— сказаў бацька і, успамінаючы, загаварыў нечакана вершам:

Цыганы шумною толпой
По Бессарабии кочуют.
Они сегодня над рекой
В шатрах изодранных ночуют.
Как вольность, весел их ночлег
И мирный сон под небесами.
Между колесами телег,
Полузавешанных коврами,
Горит огонь; семья кругом
Готовит ужин; в чистом поле
Пасутся кони; за шатром
Ручной медведь лежит на воле.

Я слухаў і сённяшні вечар: цемнаватае, лічы, без зорак неба, блізкае ахаладнелае поле, цёмная сцяна лесу, полымя на дзірване, музыка, песнЬ, мы на хутары — усё здавалася казкаю. Мне вельмі хацелася трапіць туды, дзе было гэтак таямніча, але мы не пайшлі, толькі доўга яшчэ стаялі і слухалі. Пакуль не стала нам холадна ад начной стыласці.

Назаўтра барадаты цыган зноў прыехаў па ваду. Але ўжо не адзін, а з малою, нрыкладна майго ўзросту дзяўчынкаю. Я нямала бачыў ужо цыганскіх дзяцей, але кожны раз не пераставаў здзіўляцца, што яны такія смуглявыя, узімку ды ўлетку легка апранутыя. Во і цяпер, у раннюю стынь, дзяўчынка была толькі ў сукеначцы, босая. Малая, але мела ўжо, як і сталыя, на мочках вушэй завушніцы.

— Ну, чаму не прыйшоў учора да нас? — запытаў мяне госць і, усміхнуўшыся, зноў запрасіў: — Сёння ўвечар прыходзь. Аза,— кіўнуў на дзяўчынку,— наша маленькая красуня, артыстка, прыехала цябе запрасіць. Яна табе спяе і станцуе. І на картах, калі хочаш, пагадае. Вызначыць твой лес, скажа, кім ты будзеш, як складзецца тваё жыццё. Па вачах яе бачу: спадабаўся ты ёй. Адным словам, прыходзь. Сёння апошні дзень мы тут, заўтра ранічкай зноў паедзем у далёкую дарогу і, можа, ніколі больш сюды не вернемся...

Я яшчэ болей збянтэжыўся, а гэтая Аза толькі ўсміхнулася ды стрэльнула то па дзядзьку, то па мне вялікімі хітраватымі чорнымі вачыма і неяк не па-дзіцячаму ўжо, а ісакетліва ўсміхалася, што яе гэтая ўсмешка, позірк аж захвалявалі мяне.

Увечар бацька, маці і мы, дзеці, пайшлі да табара. Прыйшлі паглядзець, калі можна так сказаць, развітальны канцэрт.

На дзірване непадалёку лесу гарэла вясёлае вогнішча, языкі ад якога весела імкнуліся ў цемнаватую высь, вакол сядзела шмат старых, маладых цёмнавалосых, апранутых у яркія ўборы цыганоў і цыганак, іхніх дзяцеі, а таксама і ішмала иашых хутаранцаў, што я а ж здзівіўся: бывае, людзі пацвельваюцца з гасцей, складаюць пра іх усякія легенды, а вось самі прыйшлі сюды, каб палюбавацца на спрыт прыроджаных танцораў і спевакоў.

Калі мы падышлі, якраз дужы паджылы цыган, той, што прыходзіў да нас па ваду, вадзіў на прывязі мядзведзя. Мядзведзь, высокі, у кароткіх чырвоных штоніках, у сіняй камізэльцы і чырвоным капелюшы, танцаваў, куляўся цераз галаву, паказваў вясёлага і журботнага чалавека, а пасля зняў капялюш і пайшоў па крузе, збіраючы ад хутаранцаў плату.

Затым пад гітару спявалі дарослыя цыганы і цыганкі. Калі спявалі гарэзна, весела, падрыгваючы ылячыма і выгінаючыся, здаецца, з імі спяваў, весяліўся і не толькі ўвесь хутар, а і свет, калі ж спявалі журботна, з горыччу, нібы скардзячыся на свой пакутлівы лёс, душа нібы сціскалася, хацелася не толькі сумаваць, але і плакаць, Слухаючы гэтыя песні, я не разумеў ніводнага слова, але ўсё роўна сэрца маё перапаўнялася нейкімі дзіўнымі пачуццямі, што былі яшчэ і ад цёмнага неба, лесу, вогнішча, мне хацелася некуды паляцець птушкаю ці ветрам, пападарожнічаць, каб наталіць нейкую незразумелую смагу.

Калі праспявалі сталыя, у круг выбегла Аза. Босая, але, здаецца, у дзесяці рознакаляровых шырокіх знізу сукенках, з вялікімі завушніцамі. Пад музыку яна так хутка, спрытна танцавала, выгіналася,

выштукоўвала тоненькімі ручкамі, што здавалася, у яе няма касцей. Сапраўды, яна была ўжо і тады вялікая артыстка.

...Я люблю матчыны песні, песні ўсіх народаў свету, але заўсёды адчуваю незвычайнае ўзрушэнне, калі пачую цыганскі матыў. Чамусьці душа мая тады захвалюецца, мне захочацца ўволю, без ніякага стрымлівання павесяліцца альбо, наадварот, пасмуткаваць, апынуцца там, дзе кібіткі, цёмныя неба і лес, вогнішча, песні, дзе ты запалонены дзівоснымі летуценнямі, шчыры і ўзрушаны.

1984

## БЫЦЬ РАЗАМ

Русовіч толькі вярнуўся з работы і не паспеў яшчэ распрануцца, калі пачуў, што нехта звоніць у дзверы.

— Заходзьце, калі ласка! — запрасіў ён.— Не замкнёна.

Дзверы адчыніліся — і зайшла маладая паштарка.

— Вам тэлеграма,— сказала яна, падала сіненькі лісток.- Распішыцеся...— потым дастала з сумачкі невялічкі блакнот і ручку, паклала ўсё гэта на пральную машыну, што стаяла непадалёку пад люстэркам.

Ён спалохаўся, зірнуў на паштарчын вузкі і доўгі, з кірпатым носікам, з самкнёнымі і крышку патрэсканымі ад холаду вуснамі твар і хацеў па ім здагадацца: што ў гэтай тэлеграме? Але гэты малады, свежы і чырванаваты ад марозу твар быў спакойны, можа, толькі крышку незадаволены, што ён так марудзіць. Тады ён дрыготкаю рукою распісаўся, думаючы, што здарылася нешта нядобрае з сям'ёю. Аднойчы ўжо тэлеграма вось так нечакана апавясціла яго пра вялікае гора, і ён з тае пары вельмі баяўся раптоўных позваў...

Паштарка забрала ручку, блакнот і выйшла. Ён, хвалюючыся, адразу не пачаў чытаць, а прабег позіркам па густым радку наклееных слоў, пасля ўжо прачытаў спакойна. Палажыў тэлеграму на пральную машыну, распрануўся і, узяўшы тэлеграму, падаўся ў залю, сеў на канапе, пачаў зноў перачытваць кожнае слова і ўдумвацца ў яго.

«Прыязджай вельмі чакаю Яніна».

Ён усміхнуўся: жонка, відаць, засумавала без яго і вось кліча дадому. Жыве ў далёкай адсюль вёсцы, стамляецца на рабоце, мае шмат клопатаў дома. А вольным часам не ведае, дзе прыткнуцца, з кім пагаварыць.

«Канечне, ёй там нялёгка...— падумаў Русовіч.— Хто-хто, а я добра ведаю. Можа, толькі не трэба расказваць пра гэта ўсім людзям, бо не ўсе разумеюць, не ўсе паспачуваюць. Вось расказваў на тым тыдні, як жывецца жонцы, як ён маркоціцца без яе, дык усе, здаецца, спа-

чувалі, а намеснік дырэктара музея — нізкі, гладкі таўстун — пасміхаўся: «Эх вы, маладыя! Калі што ледзь цяжкаватае, дык і ў слёзы, у нараканне... Вось мы некалі...— і ён расказаў, як ён галадаў, але «выбіваўся» ў людзі.— Трэба во...— ён сашчаміў кулакі, патрос імі, пасуніўся, робячы на твары ваяўнічы выгляд.— Толькі ўперад!..»

Русовіч, успомніўшы гэта, падумаў, што маглі б тады заступіцца за яго супрацоўнікі, што мог бы і сам неяк лепей апраўдацца, бо добра было так гаварыць намесніку: той меў не толькі ўласную чатырохпакаёвую кватэру, але і ладную дачу, збіраў грошы на машыну.

Але пазаўчора і я падсыпаў яму крыху, што а ж здзівіліся мае калегі... Прыйшоў у аддзел намеснік — і ўсё пра машыну, пра бензін, пра гараж... А пасля давай хныкаць, што не хапае крыху грошай, а так узяў бы на днях легкавушку.

«Эх вы, ваяка!— не выцерпеў тады я, устаў, сціснуў кулакі, патрос імі, зрабіў ваяўнічы выгляд.— Жывяце на самай справе толькі марамі пра машыну, гараж, запчасткі, пра ўсякую дробязь... А трэба во як, толькі ўперад!..»

Намеснік анямеў, як праглынуў язык, заліўся чырванню, разгубіўся, пасля злосна буркнуў: «Ты малады яшчэ мяне вучыць, зялёны...» Выскачыў з аддзела і больш не «філасофствуе», а калі трэба нешта па рабоце, дык па тэлефоне выклікае да сябе і строга гаворыць толькі пра службовае.

«Але што гэта я думаю пра таго хітруна,— спахапіўся Русовіч.— Вось жа ў руках тэлеграма... Што рабіць?»

Ён пачуў, што прыйшла з працы гаспадыня, распрапулася, патапталася, зайшла сюды, у залю.

У каляровым халаце, у мяккіх тапачках, ружовашчокая, яна выглядала намнога маладзей сваіх трыццаці гадоў.

Хуценька зірнула на яго, на тэлеграму.

— З дому?— як з клопатам спытала, відаць, хочучы ўзяць тэлеграму і самой пачытаць.

— Ад жонкі,— адказаў ён.— Просіць прыехаць.

— Сёння?— здзівілася гаспадыня.— Позна ўжо. Вам жа трэба заехаць спярша ў раён, а тады адтуль у вёску. Сёння не заедзеце, будзеце толькі заўтра раніцаю. Але ноч уся будзе бяссонная...

— Паеду...— прамовіў Русовіч.

— Глядзіце самі...— гаспадыня паціснула плячыма, пастаяла з хвіліну і выйшла.

Яна заўсёды спачувае, што ён адзін тут, у горадзе, што жонка з дзіцем жыве ў далёкай вёсцы, але не хоча ўзяць да сябе на кватэру

яго з сям'ёю: цесна будзе, бядуе, ды дзіця замажа сцены, будзе шумець, не даваць спакою.

Русовіч тут жа ўстаў, пахадзіў па пакоі, настройваючыся на дарогу — на санлівы вечар у цягніку і на халодную, амаль бяссонную ноч у раённым скразняковым вакзале.

Вагон быў амаль пусты. Сядзелі толькі трое пажылых рабочых-чыгуначнікаў. Яны ехалі з працы дахаты, паблізу прымасціўся і Русовіч.

Ён абапёрся локцем на тугую сумку, у якую раней напакаваў усякіх харчоў, сядзеў ля акна, чытаў вячэрнюю газету. Пасля заплюшчыў вочы і хацеў заснуць. Але сон не ішоў: думаў пра сваю працу, пра сям'ю. Адплюшчваў вочы, калі на прыпынках дзверы адчыняліся і ўрываўся клуб белай халоднай пары, што паўзла долу, ледзяніла ногі, мігам абросвала жалезную абіўку вагона і затуманьвала вокны. Ведаў: жонка накрычыць, што не носіць цёплых шкарпэтак, напалохае, якімі хваробамі ён можа захварэць. Яна — фельчар, ведае пра гэта.

Русовіч працёр далонню запацелае акно і зірнуў у яго. На дварэ ўжо сшарэла — ссінеў снег, пачарнелі цені на ім, гусцеў змрок, што, здавалася, напаўзаў з прыціхлага цёмнага лесу. Неба не відаць было — зусім нізка, адразу за верхавінамі прыдарожных прысад, звісала густая шэрань. Няйначай павінен быў вось-вось пасыпацца снег.

Неўзабаве ў вагоне, як толькі цягнік зноў крануўся, бліснула, рассеялася і з'ярчэла святло, высветліла кожны куток, але праз акно зараз нічога не было відаць. Русовіч пазіраў і бачыў толькі свой круглаваты, з невялікім, загнутым носам твар — за апошнія месяцы, здаецца, стомлены, з сумнаватым водсветам у вачах. Неяк нечакана зморшчыўся яго лоб, паглыбіліся залысіны і пацямнелі ўпадзіны пад вачыма.

«Можа, дарэмна я ўздумаў перабірацца ў горад? — падумаў Русовіч.— Можа, трэба было застацца ў вёсцы, загадваць тутэйшым клубам. З раніцы, калі вяскоўцы былі б на рабоце, а дзеці вучыліся ў школе, сядзеў бы ў вялікай і ціхай, прапахлай старымі кнігамі бібліятэцы, чытаў бы ці што-небудзь маляваў для клуба, а то гуляў бы ў шахматы ды гаварыў пра вясковыя навіны з маладым старшынёй сельсавета. Пад вечар, зноў вярнуўшыся пасля полудня ў клуб, пускаў бы радыёлу і ставіў на яе пласцінкі, «шумеў» бы на ўсю вёску, вечарам выдаваў бы дзецям кнігі і гуляў з імі ў шашкі. Па суботах і нядзелях іграў бы на баяне — былі б танцы.

Яніна працавала б зусім паблізу, на медпункце, што праз вуліцу ад клуба. Калі яна не ездзіла б па вёсках, сядзела ў сваім пакойчыку і чакала хворых, замкнуў бы клуб і схадзіў бы да яе. Увесь час былі б разам. А то во: я тут, у горадзе, а яна вунь дзе...

Хоць не, можа, і добра, што пакінуў вёску: і ён, і Яніна ў Вішнёўцы былі прыезджымі. Дык мусілі апытаць прасторную хату і заняць у ёй адну палавіну. Жылі там, пакуль не ўзяла сабе прымака пажылаватая гаспадарова дачка. Тады прыйшлося шукаць новую кватэру. Вось і прыйшлі да адзінокай старой кабеты, у яе невялікі, з адным акном, пакой».

Русовіч уздыхнуў, успомніўшы гаспадыню і яе хату.

«Колькі я там чаго зрабіў! Паправіў грубку, памяняў у адпушчаным пакойчыку падлогу, паклеілі новыя шпалеры — і ўсё роўна не дагадзіў гаспадыні. Паглядзела яна на новую жоўценькую падлогу, патупала па ёй, на свежыя сцены — і аж заблішчалі ў яе вочы. А тады пачала загаворваць, каб перакрылі за свае грошы і хату.

«Аджываеце за гэта,— казала яна.— Бо ў дождж цячэ ў хаце, рудзеюць сцены, мокне і гніе столь. Ды і добра было б у сваім двары і студню мець...»

«Не ўжывёмся мы з ёю...— пабедавала тады Яніна.— Не будзем слухацца яе — будзе гудзець кожны дзень, як чмель. Падмалодзім яе хату — прагоніць... І веска добрая, і людзі талковыя, але, мусіць, не прыжывёмся мы тут. Сваей жа хаты няма за што яшчэ купіць, саўгас толькі праз пяць гадоў думае вялікі дом ставіць, дык прыйдзецца некуды пераязджаць. Ці ў другую вёску, ці ў горад нават... Едзь, можа, пакуль што ты адзін куды, уладкуйся на работу, апытай кватэру, а я з Анькаю пакуль што тут застануся, параблю яшчэ на медпункце ды буду чакаць, калі нас забярэш да сябе».

...Прыехалі ў райцэнтр позна. Калі выйшаў з вагона, Русовіч зноў убачыў знаёмы гарадок — вузенькі пры пероне скверык, збоку яго — жалезныя вароты, праз якія трэба ісці ў горад, пустыя скрынкі з-пад піва, што былі складзены ля сцяны буфета. За варотамі разлягалася шырокая белая плошча. Збоку на ёй стаяла паблізу таксі. Шафёр сядзеў у машыне і курыў.

— Падвязі, сябра, у Вішнёўку,— папрасіў вадзіцеля Русовіч.

— Не, не,— замахаў той рукою.— Езджу толькі па горадзе. Туды дарога благая.

Расхваляваны Русовіч хацеў ужо зайсці ў кулінарную лаўку і купіць шклянку соку, як убачыў: прыпынілася паблізу плошчы бурачковая легкавушка, і з яе вылез высокі, плячысты, у шапцы-вязанцы, у штанах-джынсах чарнабровы мужчына, ляпнуў дзверцамі, каб яны добра зачыніліся, і падаўся ў кулінарыю.

— Здароў, сябра! — дагнаўшы, наўмысна весела прывітаўся з ім Русовіч.

— Салют!— той спачатку азірнуўся, прыплюшчыў вялікія выпуклыя вочы, пакручваючы на пальцы ключы ад машыиы.— Не ведаю...

— Падкінь у Вішнёўку,— папрасіў Русовіч.— Дваццаць вёрст. Але во як трэба,— і ён правёў пальцам сабе па шыі.

Уласнік плюснуў вачыма, згарнуў ключы, укінуў іх у кішэню, але нічога не сказаў.

— Чырвонец даю... Ну, прашу.

— Трэба жонку з работы забраць,— нарэшце прамовіў ён.— Вунь тая, тоўсценькая.

— Накідаю траяк...— сказаў Русовіч, адчуваючы, што таго можна ўгаварыць.

— Стой тут,— буркнуў шафёр,— пайду параюся з ёю. Сам ведаеш, баба...

Уласнік доўга стаяў ля буфета, піў паціхеньку сок, смяяўся з поўненькаю прыгожаю жонкаю ў белым халаце, з залатымі пярсцёнкамі на пальцы, тая і слухала, і, здаецца, нешта злосна гаварыла, раз за разам кідала позіркі сюды, на двор.

— Ну, паехалі,—выйшаў нарэшце і сказаў сваё слова ўласнік.— Толькі ўсё наперад...

— Будзе,— згадзіўся радасны Русовіч.

— Яно так лепей... Дарога добрая? — павесялеўшы, запытаў той.

— Ды, лічы, асфальт! — падбадзёрыў Русовіч.

— Глядзі, каб машыну не пасадзіць.

— Не бойся,— заспакоіў яго Русовіч, прысаджваючыся побач і даючы грошы.

— Знаеш, машына!.. З неба не звалілася...— той, здавалася, не спяшаўся браць грошы, доўга праціраў анучкаю шкло, прымушаў патрымаць іх у выцягнутай руцэ, а пасля ўжо ўзяў, зірнуў і сунуў іх у кішэню курткі. Пасля паехаў памалу, за горадам аб'язджаў кожную грудку ды ямінку, усё цмокаў: — Вот табе і асфальт! Такая коўзь: можа закруціць, скінуць у канаву.

— Не скіне,— супакойваў яго Русовіч.

— Але добра во свайго каня мець!..— усміхнуўся той пасля, бачачы, што Русовіч маўчыць.

— Ды няблага,— у тон яму адказаў Русовіч.

— Збіраеш гэтаксама? — разгаварыўся уласнік.

— Збіраю...

— І дом свой маеш?

— Маю. Чатыры пакоі, хлеў, гумно і лазню...— чамусьці зайздзірыста, успамінаючы намесніка іхняга музея, сказаў Русовіч.— Сёлета падвал яшчэ вымурую, гараж, цагляную будку сабаку зляплю.

— Ого! — здзівіўся той, зірнуў з павагаю.— Куркуль ты! Не дзіва, што так во раскідваешся. Другі ноч сядзеў бы на вакзале, але за дваццаць вёрст не даў бы столькі. А ты...— гаварыў ён і зайздраснавата круціў галавою.— Малады яшчэ, а ўжо такі забяспечаны.

— Самае важнае ёсць...— усміхнуўся Русовіч.— Не трэба шукаць.

— Ды канечне,— згадзіўся ўласнік.— Дзіва што!

...Ля жончынай кватэры, ля зацягнутага фіранкаю акна Русовіч прыпыніўся, узрадаваўся, што ў пакойчыку яшчэ гарэла святло. Адчуваючы хваляванне, радасць, што ён блізка ля сваіх мілых жанчынак, ціха зайшоў у сенцы, а тады на кухню, чуючы знаёмы прыемны пах хаты — пах печы і свежа вымытай падлогі. Зірнуў на тапчан — гаспадыні не было, пайшла, відаць, да суседзяў глядзець тэлевізар.

Ён ціха адчыніў дзверы, зайшоў у жончын пакой і з замілаваннем убачыў, што дачка Анька, раскрытая, у кашульцы, цмокаючы вуснамі, спала ў калысцы, што стаяла непадалёку гарачага стаяка. Вакол яго на абвіслым шнуры сушыліся калготкі ды сукеначкі. Яму яшчэ бліжэй дыхнула знаёмым дамашнім пахам, водарам розных лякарстваў, без чаго яму было самотна ў горадзе...

Спала, падклаўшы пад падушку рукі, і Яніна. Ляжала на ложку ў халаце, босая. Відаць, доўга — пакуль не прыйшоў вячэрні аўтобус — чакала яго, замаркоцілася, прыхінулася на неразабранай пасцелі і заснула.

Русовіч нагнуўся, пацалаваў яе ў шчаку. Яна імгненна зморшчылася, а пасля падхапілася, абцягнула на круглаватыя калені халат, са сполахам залыпала соннымі вачыма. Тонкімі пальцамі працерла іх, нібы не ўзрадавалася, што ён прыехаў, села і не пазірала на яго. Ён заўважыў, што паваструэў яе прыгожы шыракаваты твар, патанчэла шыя, не аблягае, а вісіць на ёй халат. Здаецца, нядаўна яна была паўнейшая.

— На чым ты прыехаў?— спытала яна, папраўляючы валасы, і была ў гэтую хвіліну свойская, блізкая ды родная, адно, што ў ёй нязвыклае, гэта тое, што яна не ўсхліпнула: звычайна, як толькі ён пасля тыднёвай ростані вернецца дадому, дык яна заплача ад радасці.

— На легкавушцы. Уласнік адзін падкінуў.

— А я во чакала і заснула...— сказала яна, чамусьці не падышла і не прытулілася, а падалася да стала, дзе пад газетай былі талеркі з грыбамі, салам і яйкамі — тлушч застыў, пабялеў, хлеб прысох; мелася і яго любімая яда — тоненька накрышаная капуста, пасоленая і аблітая маянэзам.

— Дзякую, дарагая! — ён падышоў, прыхіліў яе і пацалаваў.

— Калі ўспомніў,— з крыўдаю папікнула яна, але прытулілася.— Забыўся ўжо пра нас, не спяшаешся дадому... Табе там, канечне, весялей. Ды, можа, якую і маладзейшую ды прыгажэйшую знайшоў?..

— Па-твойму, мне ў галаве толькі адны дзяўчаты...

— Бог цябе ведае...— жонка ўжо зусім адышла ад сну, прамовіла крышку з рэўнасцю, а пасля, як адумаўшыся, каб не пакрыўдзіць, пажартавала: — Ох, бацька, глядзі, падскочу калі неўспадзеўкі, праверу, як ты там паводзішся...

— Правер,— усміхнуўся ён, ведаючы, што яна ніколі не паедзе яго правяраць.

— Ці скора ўжо будзе якая кватэра?— сур'ёзна спытала яна, села на ложак, і ён сеў ля яе.

— Праз год, кажуць.

— І летась і сёлета было «праз год»...

— Што ж я зраблю?

— І гаспадыня не хоча ўзяць з дзіцём?

— Не.

— Анька змучвае мяне, Міша,— паскардзілася Яніна на дачку.— Неслух, любіць гуляць на дварэ. Выпускаючы, накажу ж дзесяць, можа, разоў: гуляй ля дому, нікуды не адыходзься. Дык не слухае. То з вясковымі дзецьмі куды збяжыць, то на сані да каго ўсчэпіцца і з'едзе куды — усе ж бяруць: «дакторчына дачка, без бацькі во...» Злуюся калі, а то і пацягну якім матузом, прыстрашу: прыедзе бацька, раскажу ўсё, дык дасць! Не баіцца, пацвельваецца, што «тата біць не будзе, а будзе гуляць». Так што не толькі гуляй, а і прыстраш гэты раз крыху: табе радасць, тыдзень не бачыўшы, пагуляць, а мне потым небалазе...

Ён усміхнуўся: як ты будзеш крычаць, калі дачка такая прыгожая, слаўная, пазірае і смяецца, а то і папросіцца на рукі, абаўе шыю і шчабеча: «Мой татка!»

— Але не магу я без яе... Як падумаю, што трэба аддаць яе бацькам, каб пераехаць да цябе і быць у горадзе, дык плачу... Лепш буду я з ёю тут чакаць цябе...

— І я чакаю суботы, каб паехаць да вас, пабыць з вамі...

— Ну, ладна, Міша,— супакоілася жонка.— Давай паставім сала ў печ, пагрэем. Ды і цішэй гавары, а то Аньку разбудзім,— прамовіла, абняла яго за шыю.— Не магу я так, паасобку, болей, дарагі... Не магу...

— Ну, мацуйся,— папрасіў ён,— не ўсё ж легка даецца. Ніхто нам не паможа, што самі зробім, тое і будзем мець.

— Табе добра так гаварыць...

— І мне нялёгка,— прамовіў ён,— але думаю, што даб'ёмся свайго і стане лягчэй. Абы мы з табой разумелі ўсё гэта і трымаліся.

— Можа, і твая праўда...- Яніна прылашчылася, пацалавала.- Мне з табою лёгка, з табою я спакойная і нічагусенькі не баюся. Калі адна тут, дык ўсяго надумаюся... А з табою я веру, што ўсё добра будзе...

Русовіч пацалаваў жонку, Яніна тулілася да яго і, мусіць, ужо радавалася, што ён прыехаў, і зноў, як раней, ціхенька заплакала ад пяшчоты.

— Паглядзі, што я табе прывёз,— сказаў ён, раскрыў сумку і падаў пакункі, якія купіў на днях.

Жонка, пакуль ён распранаўся, выцерла слёзы, разгарнула паперу з пакункаў, убачыла хустку, завязала яе і падышла да люстэрка, паглядзелася, азірнулася, каб і ён паглядзеў на яе. Цяпер яна здавалася прыгожаю як ніколі. Русовіч глядзеў і радаваўся.

— Дзякую,— Яніна цмокнула яго ў шчаку, разгледзела другія пакункі.— Ну, во і добра, што шаравары Аньцы ўзяў. Зусім падрала тыя, сёння латала іх. Смяецца гаспадыня: у горад прагнеце, а латанае носіце. Не разумее, што я кожную капеечку берагу... І ты, мусіць, заплаціў за кватэру, сталаваўся, патраціўся на падарункі, то будзеш на дарогу прасіць у мяне...

— Буду,— усміхнуўся, прытуліўся да яе.— Добра ведаеш, які я багацей...

...— Ну, скажы ты мне ласкавае слова якое,— прашаптала яна, калі яны павячэралі, прыбралі стол, памылі посуд, ляглі спаць.

— Што табе сказаць?— спытаў ён.— Ты мне «нешта» сваё скажы...

— Пасля... Спачатку ты скажы, ці любіш мяне.

— Я ж табе гэта ўжо даўно гаварыў,— усміхнуўся ён, пагладзіў яе па валасах, па шыі,— Яшчэ тады, калі думаў замуж узяць.

— А ты яшчэ раз скажы,— Яніна заплюшчыла вочы, пацалавала яго ў шчаку.

— Ну, так,— усміхнуўся ён, адчуваючы, што дома ўсё добра, што жонка паклікала яго толькі таму, што засумавала. Але ён не мог крыўдзіцца. Прыгарнуў жонку да сябе, пацалаваў.

— Родненькі, забяры ты мяне адгэтуль... Не магу я адна, хачу быць толькі з табою. Як падумаю, што магла б у любую мінуту падысці да цябе, прыхінуцца, сказаць ласкавае слова, дык так стане на душы... Мы ж маладыя, толькі цяпер нам жыць і радавацца...

— Ну, ты ж павінна разумець,— сказаў ён, адчуваючы нейкую перамену ў ёй, гадаючы, ад чаго яна магла быць.

— Розумам то я ўсё разбіраю,— згадзілася Яніна.— Але сэрцам...

— Ну, усё будзе добра,— супакойваў ён, гаворачы тыя словы, якія гаварыў ёй ужо часта, крышку крыўдзячыся, што яна сёння да яго нейкая абыякавая.

— Міленькі! Як добра, што ты ёсць. Што я рабіла б, каб не было цябе?— яна ўзнялася, прылегла на яго плячо і палажыла яму галаву на грудзі.

— Нехта другі быў бы,— пажартаваў ён.

— Што ты гаворыш! Я не хачу і думаць пра гэта,— гаварыла Яніна.— Каб не ты, я была б нешчаслівая. Ну, скажы, Міша, ці ёсць на свеце такія людзі, якія так любяць адно аднаго?

— Відаць, ёсць,— усміхнуўся ён, чакаючы, калі яна нагаворыцца і супакоіцца, дасць волю сваім пачуццям.

— Ох, ты, мае шчасце, гора і бяда. Усё ты маё... Адкуль ты ўзяўся такі? Аж страшна, калі падумаю, што мы ж маглі і не сустрэцца...

— Маглі... Гэта і ёсць тое, дзеля чаго ты выклікала мяне?

— Не,— прамовіла Яніна і адразу неяк пасумнела.

— А што?— зноў усміхнуўся ён: «Што ж яна хацела мне сказаць, акрамя ўсяго гэтага?»

— Ёсць адно такое...

— Ну, скажы,— спакойна папрасіў ён,— хоць я ўсё роўна вельмі рады, што ты выклікала мяне.

— Цяжарная я...— сказала яна і прыціхла.

Ён, пачуўшы гэта, зразумеў, чаму яна так сёння сустрэла яго, нават здзівіўся, як яна здолела дасюль маўчаць пра гэта.

— Жартуеш?— ён захваляваўся, адразу зразумеў, што ўсё гэта для іх значыць, але спытаў яшчэ раз з надзеяю, што, можа, гэта жарт.

— Хто-хто, а я ж ведаю, не магу памыліцца...— сумна прамовіла яна.— Ну, што ты скажаш?

— Не ведаю,— прызнаўся Русовіч, здагадваючыся, што было гэтыя дні на душы ў жонкі.— Надта ж неспадзявана гэта...

— А для мяне...— сказала яна.— Каторую ноч ужо не сплю...

— Мо няхай...— прамовіў ён першае, што прыйшло ў галаву.

— Што ж тады будзе? Як я тут адна?..— сказала яна.— І табе назад вяртацца няма як.

— Што ж тады рабіць? — спытаў ён.— Нешта адно трэба...

— Вось і я не ведаю,— прашаптала Яніна, ткнулася да яго пляча і ўсхліпнула.— Трэба было б, па-добраму, радавацца гэтаму, пра што людзі іншыя век марацць, а для нас з табою цяпер гэта... Баюся я...

— Ну, супакойся,— сказаў ён.— Не ў нас адных такое бывае. Жывуць жа людзі, і мы выжывем. Давай добра падумаем, што рабіць?

— Годны мой! — яна пацалавала яго.— Вось ты так гаворыш, і я спакайнею... Не ведаю, што я рабіла б, каб ты не прыехаў! Адна я... Не вытрымала б!..

— Усё будзе добра...— сказаў ён, адчуваючы новы вялікі клопат і добра не ведаючы, як з ім быць.

...Заснулі яны за апоўнач, калі ўжо даўно вярнулася гаспадыня, палезла па ляжанку печы і суцішылася, калі яны нашапталіся, як жыць далей, заснулі, думаючы, што закончыўся такі клапатлівы ўчарашні дзень, апошні дзень сцюдзёнай зімы, і пачаў брацца новы, сакавіцкі, што павінен быў выдасца болей відным, цёплым і доўгім. Над вясну заўсёды пасля маразоў, мяцеліц і настылага ветру цяплее, вышэе неба, большае сонца і прастарнеюць аблогі.

1974

## Новы свет

### *СПЕЧАНЫЯ ЯБЛЫКІ НА ГАЛІНКАХ*

За чатыры гады вайны
Нябёсы ўдосыць нагрэліся...
*Рыгор Барадулін*

...І гэтая раніца была надта золкая: сцюдзёніла густая, кроплістая, сівая ад холаду раса. Ад яе аб'інелі за ноч сцены ды платы і нібы лёдам пякло ў босыя ногі. Было яшчэ холадна і ад настылага, высокага, аж да неба, густа-белага сырога туману, што напоўз на хутар, у Амшарок, з рэчкі і з Раўка — блізкай вялікай лагчыны.

Казік стаяў за хлявом і — яшчэ амаль сонны — пазяхаў і пазіраў удалечыню, але ні поля, ні Раўка, ні блізкіх, за вярсту, Янковіч, у якіх некалі, да польскай камасацыі[1] жылі яго дзед і бацька, не было з-за туману відаць. Бачыліся толькі зусім побач, за крокаў дваццаць, на выгане іхнія рыжаватай масці даўганогі конь і бела-жоўтая карова, навязаная вяроўкамі за ўбітыя ў зямлю калочкі: цяпер, вайною, усе гаспадары тут, на хутары, пасуць быдла ля дому. Шэрсць у каровы і каня была гэтаксама аб'інелая, а вяроўкі, што цягнуліся па зямлі, дык зусім змакрэлі, абабілі расу вакол калкоў.

Казік павярнуўся і зірнуў на хутар, дзе павінны былі відаць уроскідку тры нізкія, накрытыя саломаю суседскія хаты, але і іх цяпер схаваў белы, перамяшаны з дымам туман. Ля самога Казіка, здаецца,

---

[1] Камасацыя — хутарызацыя

не было ніякага туману, а імжэла нешта сырое і дробненькае — ні то дожджык, ні то імглістая морась,— сеялася, халадзілася і ліпла да твару, як мокрае павуцінне.

Як пастаяў некалькі хвілін, Казік зусім адышоў ад сну і чамусьці не захацеў вяртацца ў цёплую, душнаватую пасля ночы хату, стаяў, пазіраў на туман і гадаў: адкуль ён бярэцца? Чаму такі густы і белы, куды пасля, калі прыгрэе сонца, дзенецца? Бо ўжо добра ведаў, што пасля такіх туманоў бывае вельмі цёпла, суха, сініцца і здаецца бяздонным, надта ж высозным неба...

Каб не гэты туман, не такая яшчэ рань, дык Казік цяпер пабег бы да свайго сябрука, Паланевічавага Стасіка. Яны ўчора ўдвух употай хадзілі ў блізкі Шабунеў лес, да Ям, дзе на тым тыдні ішоў вялікі бой — дзе, як гаварылі сталыя, партызаны зрабілі засаду на немцаў і паліцыянтаў, якія ехалі з Івянца ў Налібацкі гарнізон.

Ля Ям, як было добра чуваць, стралялі ад полудня да вечара, запалілі лес, і ён, высока ўскідваючы агонь і задымліваючы неба, гарэў некалькі дзён, пакуль полымя не зжэрла Кавалёў бор і не выскачыла на сенажаць, прабегла па казянюсе — сівых барoдках,— ды па маладой атаве, прычарніла яе і не атухла. Зачапілася толькі на сухім балоце, на торфе, задымелася, пайшло пад зямлю. Адтуль усе гэтыя дні, а надта раніцамі і вечарамі цягнуўся бела-сіні дым, пахнуў едкім, гарэлым смуродам. Гаварылі, што там, на балоце, праваліўся пазаўчора ў выгаралую яміну конь — бег і шуснуў у прысак. Але агню ніхто чамусьці не тушыў. Перад вайною калі аднойчы сухі торф упалілі крычатоўскія пастухі, дык збівалі і залівалі агонь усім мястэчкам.

Вечарамі і ўночы, калі гарэў Шабунеў лес, страшна было не толькі выйсці на светлы ад недалёкага агню двор, але і спаць у хаце, у якой на сценах блішчалі, трымцелі чырвоныя водсветы, было жоўта-чырвона; каб не бачыць гэтага святла, гэтых колераў, бацька завешваў акно ад лесу дзяругаю, якая ружова свяцілася і ўсё роўна прапускала ў хату бурае святло, і маці, не могучы заснуць, бедавала, што гэта каторы ўжо год робіцца на свеце, што далей будзе, калі нарэшце настане спакой...

Казік і Стась учора змовіліся і хадзілі туды, да Ям, шукаць патроны, без якіх у іх не абыходзілася ні адна гульня. Сам Казік, можа, не падаўся б, пабаяўся, каб не ўспароцца на міну, паасцерагаўся б і бацькі, бо той крычаў за яго «гульні са смерцю», але яго падгаварыў і звёў старэйшы на гады чатыры сябрук: ён меў нямецкі пісталет і хацеў знайсці да яго патронаў.

У свежых акопчыках і паблізу ў шыгаллі яны набралі з шапку жоўценькіх, з вострымі і тупымі дзюбкамі патронаў; задымленых гільз,

што пахлі гарэлым порахам і былі чорныя ў сярэдзіне, не бралі: яны, Казік і Стасік, былі ўжо завялікія для такіх «цацак». Казік выпараў яшчэ з ігліц гранату з драўлянаю ручкаю, але Стась забраў яе сабе, сказаў, што ён ужо ведае, як разбіраць і складваць гранаты, кідаць іх, каб узрываліся, але з гэтай гранатай яны сходзяць заўтра на рэчку, на Сядзіўную,— раскладуць на беразе агонь, усунуць яе — во бабахне і рыбы наглушыць.

І гранату, і патроны дадому яны не прынеслі, а закапалі іх у сухім пяску на ўзлеску.

— Казя!— пачуў ён з-за хаты матчын мяккі, амаль пявучы голас.— Дзе ты там дзеўся? Хадзі сюды!

Ён перастаў думаць пра туман, пра Стасіка і гранату, падаўся ля глухой сцяны хлява ў двор.

Невысокая, тонкая, дробная на твары, маладая яшчэ, гадоў трыццаці двух, яна на днях сама так гаварыла, але ўжо вельмі сівавалосая маці стаяла ля расчыненых сянец, мяшала секачом у ражцы едзіва свінням — у ражцы было поўна, і з яе лілася долу белая ад бульбы вада.

— Дзе ты прапаў? — зірнула на яго, высакаватага, але тонкага і худога, здаецца, са злосцю спытала маці.— Стаяў, мусіць, разявіўшы рот, і глядзеў на поле... А тут хоць разарвіся: у гаршках кіпіць, Вэрця хлімкае...

Казік прамаўчаў.

— Даб'ешся нешта ад цябе!— з крыўдаю сказала маці, выцерла рукавом упацелы лоб.— Такі ўжо маўчун, у каго толькі ўдаўся?! Трэба дзесяць разоў папытацца, каб слова выцадзіў... Ідзі, папільнуй свіней...— прамовіла яна і, не пазіраючы на яго, адставіла ўбок накарэлы і мокры знізу сякач і панесла, нагінаючыся налева, ражку ў блізкую, за плотам, загарадку, дзе нылі падсвінкі, бачачы едзіва.

Казік ішоў за маці, а пасля пералез за ёю ў загарадку, добра ведаў, што гэта такое — папільнаваць свіней. Гэта трэба пастаяць з дубчыкам ля карыта і паглядзець, каб большы падсвінак не адпіхаў меншага. Хоць доўгае карыта і падзелена пасярэдзіне палачкаю, але большы парсюк грызе меншага, адпіхае, стане з нагамі ў карыта і глытае адзін. Сам адсунецца, калі вылавіць усю гушчу, пакіне на дне адзін шчолачак, крыху ляніва пацэдзіць яго праз зубы і адыдзе.

Як маці, злуючыся на свіней, якія наступалі ёй на ногі, выліла ў карыта з ражкі едзіва, вярнулася ў хату, з яе адразу выйшаў бацька — высокі, на галаву вышэй за маці, плячысты, русявы, у лапцях, палатняных штанах і зрэбнай кашулі з белым кужэльным каўнерыкам.

Бацька, здаецца, гэтаксама пастарэў за гэтую зіму: сагнуўся ад працы і ўсякіх хвароб, ад страху, адпусціў рыжаватыя густыя вусы і бараду, стаў вельмі сур'ёзны, хмурны, больш маўчыць, чым гаворыць. Ходзіць, сядзіць і ўсё думае ды думае, пра нешта часта шэпчацца з маці. Употайкі ад яго, Казіка, яшчэ вясною закопваў у полі, сярод маладой бульбы, кадушку з жытам, а гэтымі днямі амаль не бывае дома, а недзе ходзіць. Праўда, гэтую ноч спаў дома.

Калі Казік запытаецца часамі, дзе ён, бацька, быў, дык і той, і маці засыкаюць, пачнуць вучыць, што трэба гаварыць, калі зойдуць «чужыя дзядзькі» і запытаюць, дзе «гаспадар». Казіку тады трэба адказваць, што «няма таты дома, пайшоў у Івянец і не вярнуўся яшчэ...».

Бацька, здаецца, гэтаксама з дзівам пазіраў на густы туман. Ён нёс з сянец дошчачку з прысохлай зверху каламаззю і невялікую трэску. Падаўся да калёс, што стаялі ля дзвярэй гумна.

Казік ведаў, што бацька будзе зараз ладзіць воз, бо збіраецца вечарам з суседзямі ехаць у млын. Казіку вельмі хацелася гэтаксама паехаць з ім — ад'ехацца хоць ад свайго двара, паглядзець дарогу, лес, паслухаць, пра што будуць гаварыць мужчыны, паглядзець млын, раку, камень, што трэ зерне, меле муку, захацелася з'есці хлеба. Хлеба ўжо не пяклі даўно, з пачатку лета — не было мукі: тая, закапаная, дзежачка ўсё роўна прапала... З астатняй гаркаватай і пратухлай мукі, якую маці выкалаціла з вялікай кадушкі, што стаяла ў кладоўцы, варылі яшчэ ў чэрвені зацірку, якую трэ было есці праз сілу...

Казік падумаў, што пастаіць яшчэ крыху ля свіней, папільнуе іх і падыдзе тады да бацькі ды папросіць узяць з сабою, бо вельмі ж хочацца паглядзець «свету». Ён, не хочучы быць тут, у загарадцы, з абыякавасцю зірнуў на сцены хаты. Яна са старога дрэва, з падгнілымі падрубамі, з глыбока паточанымі бярвеннямі. Пад адною саламянаю страхою — хата, праз сцяну хлеў, гумно, дрывотня. Самая новая, жоўтая, з рудымі сучкамі дрывотня — яе бацька збіў сёлета з аполкаў і расшчапаных камлюкоў. Летась, як і сёлета яшчэ, даўно ўжо складзеныя дровы ляжалі, летавалі ля сцяны пад страхою — па той і па гэты бакі хаты.

З коміна выплываў лёгкі бела-сіні дым, пахнуў сажаю і сасною, не слупіўся ўгору, а слаўся па страсе, ападаў долу, рассцілаўся па двары, ад яго, ад дыму, завільгатнеліся сцены, плот, і з іх абвісалі і падалі на зямлю кроплі вады.

Большы парсюк, як бачыў ля сябе Казіка з дубчыкам, глытаў з карыта гушчу, аж трэсліся ў яго вушы, і не адганяў меншага. І Казіку зусім надакучыла пазіраць на свіней, на брудную іх шэрсць ды па-

рэпаныя вялікія вушы, на стаптаную загарадку і саламяную страху хаты. Ен паглядзеў уверх, бачыў, што ўзнімаецца за Шабуневым лесам халоднае і зусім не яркае сонца, жаўцее праз туман, што там увачавідкі радзее, спаўзае, гусцее ў лагчынах і ля лесу — вісіць, як белае воблака. Пакрысе становіцца відаць сонечнае неба над туманам, і ў ім праз шэрань усё гусцей паказваецца далікатная, празрыстая сінь, і гэтая цяпер лёгкая блакітнасць паказвала на добрае надвор'е, якое мусова павінна было быць: Казікаў бацька збіраўся ехаць вечарам у млын змалоць мукі, каб спячы хлеб. Такі дзень мусіць быць сонечны і цёплы.

Бацька дастаў загваздку, зняў шайбу, адцягнуў кола, трэскаю набраў з дошчачкі каламазі і тыцнуў яе на тонкую бліскучую вось, добра, з усіх бакоў, абцёр трэску, тады зноў падняў перадок калёс, запхнуў кола на месца, пакруціў яго за спіцы, засунуў шайбу, загваздку, падвязаў яе дротам.

Большы падсвінак задаволіўся, цохнуў яшчэ раз вады і адышоў ад карыта. Цяпер не трэ было пільнаваць, і Казік пералез цераз жэрдкі, падаўся да калёс.

— Ідзі ў хату, нагуляй з Вэрцяю,— сказаў бацька, адцягнуў другое пярэдняе кола,— няхай маці ўходжваецца, ды будзем з ёго веяць жыта.

Казіку і цяпер не хацелася вяртацца ў хату, гуляць з маленькаю сястрычкаю: яна яшчэ не ходзіць, а ляжыць у калысцы. Якая з ёю гульня?

Казік пазіраў на шырокую бацькаву спіну, загарэлую рудую шыю і падумаў, што нікога на свеце няма дужэйшага за бацьку. Ён раней адзін і тоўстыя бярвенні на калёсы клаў, і нагружаны задок воза паднімаў, і яго на назе, як пушынку, падкідаў. Бацька ўсіх мужчын на хутары дужаў: часта на якіх хрэсьбінах ці вяселлях барукаўся з імі — схопіцца накрыжкі і паваліць.

— Вось і дачакаліся, што ў млын паедзем,— неяк шчасліва ўсміхнуўся бацька, мажучы з'езджаную вось.— Хочаш хлеба?

Казік кіўнуў галавою, успомніў, што даўно ўжо не трымаў у роце і сухой скарынкі, забыўся пра яе смак.

— Будзеш на днях есці свежы хлеб,— кажа бацька.-— Колькі захочаш, столькі і з'ясі...

Казік прыпомніў, як маці ў пачатку лета — у апошні раз — пякла хлеб. Размяшала загадзя муку з вадою ў дзежцы, паставіла яе на печ. Раніцаю рукамі мясіла цеста, клала на лапату, што была пасыпана мукой, апускала рукі ў вядро з вадою, пасля гладзіла цеста, аж яно блішчала, тыцкала наверсе яго пальцам, робячы крыжык, паабапал

яшчэ торкала дзірачкі, сунула лапату ў гарачую печ, і турзаючы лапату да сябе, ссоўвала з яе цеста на падмецены пальтовым веткам под. І так яна паклала паблізу прычарнелага жару пяць булак. Апошні раз, як сабралася засунуць на под маленькую для яго, Казіка, булачку, прымусіла стаць ля прыпека і колькі раз дакранулася да яго галавы лапатаю і нешта шаптала. Так яна лячыла, каб ён болей у пасцелі «не лавіў рыбы». А пачаў «лавіць рыбу» ён таму, што спалохаўся паліцыянтаў. Тады, зайшоўшы днём у іх хату, адзін з іх, невысокі, тоўсты, як калодка, нібы жартам пхнуў яму, сцішанаму, руляй вінтоўкі ў жывот, пасміхнуўся: «Чаго баішся нас, малы заходнебеларусец?.. Скажы лепш, ці прыходзяць да вас парцізаны?..»

Хлеб хутка пачынаў пячыся, пах на ўсю хату соладдзю, што цяпер ад успаміну пра той хлебны пах у Казіка аж закружылася галава, а ў роце нагнала сліны...

— Ну, ідзіце снедаць!— адчыніла дзверы ў сенцах і паклікала маці.

Казік хуценька павярнуўся і падаўся ў хату: на сняданак яго не трэ было шмат клікаць. Убачыў, што на полі ўжо, пакуль ён пастаяў ля бацькі, амаль не стала туману, там цяпер рэдзенькая імжа, блішчыць раса, дзе-нідзе зіхаціць сіненькімі зорачкамі. Белае воблака густа ахутвае толькі лес і паўзе на Равок — там яшчэ надта бела, як зімою ў мяцеліцу.

Цяпер амаль добра відаць блізкія, праз вузкае поле-палосю, нізкія, абсаджаныя садамі і бэзам суседскія хаты, іх гароды і сады. Дым з комінаў уяга не сцелецца па зямлі, а падымаецца ўгору. Толькі комін Грыгарцэвічавай хаты не дыміць: яны штодня рана ўстаюць, выпальваюць у печы хутчэй за ўсіх.

Раніца на хутары. Такая раніца, як была і шмат дзён дасюль за жнівень. І астатняе ўсё такое ж: поле, неба, хаты, конь і карова, якія пасуцца на лужку, свінні ў загарадцы, бацька, маці, іх тупатня ля хаты. І ён, Казік, здаецца, гэтакі, які быў пазаўчора, надоечы і сёння. Толькі вось цяпер дзве новыя думкі ў яго галаве — пра гранату, якую яны са Стасікам пакладуць хутка ў агонь, і пра млын, куды вечарам паедзе бацька і, можа, возьме з сабою...

Зайшоўшы ў невялікую, у адзін пакой, хату, Казік убачыў на стале бульбу, міскі з буракамі, лыжкі. Ён сеў у кутку на лаве і пачаў абіраць гарачую бульбіну.

У калысцы-ночвах, што была падвешана вяроўкамі да столі, ляжала распавітая Вэрця. Яна радасна мармытала, паднімала ўверх маленькія ногі з малюсенечкімі пальчыкамі, гуляла. Матузок ад яе шапачкі пад барадою быў бурачковы, чырванаватай была і грудзіна: відаць, маці нядаўна карміла яе бульбай і буракамі.

Зайшоў у хату бацька; твар і рукі яго былі мокрыя: канечне, мыўся ля студні халоднаю вадою. Выцерся ручніком, падышоў да люстэрка, узяў з-за яго палавінку матчынага грэбеня і прычасаўся, разгладзіў бараду. Валасы ля скроней былі мокрыя, прылізваліся.

— Паядзім гэтыя дні яшчэ без хлеба,— сказаў ён, сеў за стол і дастаў з кішэні штаноў складанчык.— А тады ўжо ўволю паласуемся...

— Ды перачакалі ўжо, дзякуй богу, пост на хлеб,— спакойна, нават шчаслiва прамовіла маці.— Жыта ўрадзіла, картофля расце, карова і свінні ест, дык ужо не прападзём з голаду. Можам нават, калі збяром ды прыхаваем, колькі клінкоў сыру ці які кавалак масла выменяць у гарадскіх бежанцаў на якую адзежу. Ходзяць жа і мяняюць людзі... Вунь і пазаўчора, гаварылі, былі ў мястэчку.

Казік ababраў бульбіну, узяў лыжку буракоў і зморшчыўся: такія яны былі гарачыя. Бацька яшчэ не сёрбаў, абіраў і складаў ля сябе бульбу.

— Ох і цяжкая гэта праца — сярпом жаць! — сказала маці.— Але колькі я рук папарвала, жнучы ў хатоўскага пана, зарабляючы той горкі злот!.. І сёння, здаецца, яшчэ і рукі баляць, і спіна баліць. Але люблю жаць. І сёлета сабе жала, гэтак радавалася, што дзеці хлеб скора есці будуць...

Цяпер і маці памылася, выцерлася, села за стол і ўзяла ў рукі цёплую бульбіну. На прыгожым твары яе, здаецца, прапала горнасць, свяцілася вялікая радасць. Даўно ўжо Казік не бачыў яе такой пашчаслівелай.

— Без солі во як трава...— прамовіла яна, каштуючы буракі,— і смятанай лэпска, добра такі, забяліла, але ўсё роўна нясмачпыя.

— У каго карову забралі, дык той зусім няшчымнае есць,— адказаў бацька.— Так што яшчэ дзякуй богу... А солі, можа, на днях барадаты падашле. Картофлі ж, жыта далі... Падраджаўся ж учора падаслаць...

— Страшна, што гэты барадаты ходзіць,— сказала маці.— Хай толькі хто шапне немцам...— зірнула на Казіка, і, як убачыла, што ён «нашатэрыўся», сказала: — Гаворым вот пры дзіцяці пра такое...

— Ён жа ведае, што цяпер нікому нічога не трэба гаварыць, пра што гаворыцца ў хаце,— прамовіў бацька.— Не малы ж ужо. Знае, што цяпер і за язык людзі гінуць... Цяпер лепш за ўсё маўчаць і нікуды не паказвацца... Неразбярыха такая... Перадняваў, пераначаваў — дык дзякуй богу...

Пакуль бацькі, як часта і дагэтуль, гаварылі пра свае клопаты, пра непакой, што пануе па свеце, збіраліся есці, Казік ужо здаволіўся, насёрбаўся прэсных буракоў і адсунуўся ад стала. Хацеў папрасіць,

каб маці дала кубак салодкага малака, як нечакана ўчуў, што далека на дварэ, недзе ў Грыгарцэвічавым полі, ціха, як авадзень ля шыбы, задугаў матацыкл.

Прыслухаўся і бацька, аж перастаў есці, бо добра ведаў, хто цяпер можа ездзіць на машынах і матацыклах... З бульбінай у руцэ ўстаў са столака — невялікага ўслончыка,— ды так нечакана, што другі край, дзе сядзела маці, апусціўся. Маці ледзь не звалілася долу, разліла на стале і на калені лыжку буракоў — але не зазлавала, з запытаннем зірнула на бацьку, які прачыніў у сенцах дзверы і пазіраў на поле.

— Немцы...— ціха і, здаецца, са сполахам прамовіў ён.— Сюды едуць.

— Чаго іх чорт з раніцы нясе?— з трывогаю спытала маці.— Можа, падказаў ужо хто?.. Не дай божа... Сынок,— яна зірнула на Казіка,— ты ж нічога не гавары... Маўчы. А калі ўжо прыстануць, дык кажы, што нічога не бачыў, нічога не ведаеш...

Матацыкл затохкаў зусім блізка. Здаецца, поўз ужо дарогаю ад Навіцкіх.

— Шыдлоўскі з імі,— сказаў бацька, пакрочыў на двор.

— Ну вот...— зморшчылася маці.— Гэты паліцыянт не з добрымі дзяламі ездзіць... Ці з допытамі, ці з...— маці стрымалася і не дагаварыла, каб, відаць, не пачуў усяго Казік.

Казік не вылез з-за стала, не падаўся за бацькам, адчуваў, што зноў могуць штырхаць дуляю вінтоўкі ў жывот, дапытвацца пра партызан, натапырыўся і сядзеў каля акна, чакаў, што скажа маці. А яна спалохалася, што і есці перастала, устала і падалася ў сенцы — цікаваць на двор. Прытулілася да вушака — і відаць было, як задрыжалі яе рукі. Яна заўсёды вось так нервуецца, не можа стрымаць у руках дрыготку, калі раптам заявяцца ўзброеныя людзі.

Казік вылез з-за стала, падышоў да маці, зірнуў і ўбачыў, як да плота, што быў ад поля, ткнуўся матацыкл, аж падаліся наперад два мужчыны, якія сядзелі на сёдлах — немец-матацыкліст (без шапкі, у расшпіленым на верхнія гузікі мундзіры) і ззаду за ім вусаты «халерны» паліцыянт, які быў у чорным шынялі з шэрымі нарукаўкамі, з насунутай на вочы чорнай шапкай. Яшчэ адзін немец — у шынялі, у выпаленай сонцам пілотцы — сядзеў у калясцы. Як прыпыніліся, гэты немец адхінуў з грудзей брызент і няўклюдна, цяжка, аж завагаўся матацыкл, выпаўз з каляскі, атрэпаўся ад расы, зняў з галавы пілотку і сіняю хустачкаю, дастаўшы яе з кішэні штаноў, выцер лоб. Гэты ваяка быў зусім стары: ішоў згорбіўшыся, меў маршчыністы твар і вялікую лысіну.

Злез з сядла і паліцыянт, паправіў на плячы карабін, падсунуў яго пояс бліжэй да шыі — каб не спаўзаў. Плячо шыняля, дзе дагэтуль цёрся пояс, блішчала: вышмальцавалася.

Паліцыянт і стары немец падаліся сюды, у двор, на міг схаваліся за дрывотняю — ішлі да брамкі. Матацыкліст, сярэдняга росту пажылы мужчына, застаўся ля матацыкла, прысеў, закасаў вышэй рукавы і пачаў корпацца ў маторы.

— Гаспадар? — падышоўшы да бацькі, які стаяў на двары, не вітаючыся, сурова запытаў стары немец, пад вузкімі вачыма якога і ля доўгага, крыху дзюбаватага носа былі вялікія чорныя ўпадзіны.

— Гаспадар,— чамусьці не сваім гучным голасам, а амаль шэптам хутка адказаў бацька, ведаючы, што стомленыя, суровыя людзі вельмі злосныя.

Лысы немец прайшоў побач, падаўся ў хату. Там ці то са стомленасцю, ці то з абыякавасцю зморшчыўся, агледзеў невялікі пакой, калыску і босага Казіка, які ўслед за бацькамі зайшоў у хату. Пасля скінуў шынель, згарнуў яго, паклаў на калені і сеў на лаве. Падняў са свайго боку сурвэту і закрыў ёю сняданак. У адным месцы сурвэта абвісла і пачала мокнуць, чырванець ад буракоў. Лысы здзьмухнуў перад сабою на голым стале крошкі, дастаў з нагруднай кішэні зложаны папалавіне, абшмальцаваны з сінімі вокладкамі тоўсты сшытак і аловак. Аловак быў без дзюбкі.

«Будзе нешта пытацца,— падумаў Казік.— Але я нічога не скажу, хоць чуў, як прыходзіў той ноччу барадаты партызан, бачыў, цікуючы з-пад коўдры, як маці завешвала акно, паліла газоўку і давала начному госцю есці... Цяпер няможна нічога нікому гаварыць... Цяпер трэба маўчаць, а то за язык...»

— Зваць як? — перапыніў Казікавы думкі стары немец, зірнуў на бацьку, нахмурыўшы бровы.— Цяляты язык аджавалі, ці што? Ну, як назвіско ваша, фамілія?

— Хлябовіч,— зноў шэптам адказаў бацька.— Браніслаў Хлябовіч, бацька Янам быў.

— Вось што, Хлябовіч...— ні на кога не пазіраючы, прамовіў уладна немец, распраміў, прыгладзіў далонню сшытак, а пасля пачаў вастрыць ножыкам аловак; глядзеў толькі на свае вялікія рукі, на хвіліну пасля змоўк, калі хацеў яшчэ нешта сказаць, то паламалася дзюбка, і ён так не прамовіў нічога, зноў пачаў вастрыць.

Казік са страхам пазіраў на старога немца, чакаў, што ж ён запытае. Што той гаварыў па-польску і па-тутэйшаму, не здзіўляўся: амаль усе немцы, што заходзілі сюды, гаварылі па-свойму, але былі не

раз і такія, што гаварылі і паруску, і па-польску і ўстаўлялі тутэйшыя словы. Хваліліся, што да вайны жылі разам з палякамі ці паблізу іх.

Стары немец здзьмухнуў са стала смецце, падняў галаву — усе са сполахам на яго глядзелі ды чакалі, што ж ён скажа, здзіўляліся, чаго ён марудзіць, не дапытвае. А можа, ён не марудзіў, можа, гэта толькі здавалася... Ён строга зірнуў на паліцыянта, што стаяў у парозе, прытуліўшыся да вушака,— і той не вытрымаў позірку, апусціў галаву. Раней, калі заязджаў, быў смелы: і кепікі ўсякія строіў, і на паліцу, дзе стаялі пустыя пляшкі, заглядваў, і хваліўся, як яго начальства паважае...

— Дык вот што, Хлябовіч,— пастукваючы пальцам па стале, надзьмуў тоўстыя губы, з халодным бляскам у вачах зірнуў на бацьку стары немец.— Маем загад з Івянца сёння ачысціць гэтую зону пад нумарам... Значыць, людзей трэба вывезці, а хутары і мястэчка спаліць...

Бацька, слухаючы, здаецца, пабялеў з твару, маўчаў — ад нечаканасці і страху не мог вымавіць і слова.

— За што гэта?— нарэшце прашаптаў ён, сціскаючы ў руцэ бульбіну.

— Партызан корміце і адзяецё...— сказаў немец.— Ворагаў нашых, ворагаў новага парадку... Вось і маем загад зрабіць мёртвую зону...

— Не кормім мы нікога...— пачала апраўдвацца маці.— Самі во без хлеба, без сала ды без солі жывём. Што тут дасі, калі сам усяму жадзён. Ды і не ведаем мы ніякіх партызан...

— Дзесяць мінут вам на зборы...— больш не стаў яе слухаць стары немец, падняўся.— На каня — і ў Янковічы... А ты хадзі сюды...— прамовіў ён і хацеў узяць маці за плячо, але яна адскочылася.— Тады хадзі ты, гаспадар...— павярнуўся, падышоў да бацькі, узяў яго за кашулю і павёў на двор.— Зобач, паглядзі!

Зірнуў і Казік, куды паказваў немец, і ўбачыў неспадзяванае і не паверыў спачатку сваім вачам: гарэлі суседскія хаты. Высока ўверх над імі ўскідваліся чырвона-жоўтыя языкі, шугалі, аж чуўся шум ад іх. Даносіўся і пах гарэлай саломы.

— А што ж гэта?— загаласіла маці.— Што ж гэта робяць з людзьмі?

— Збірайцеся,— нарэшце азваўся і паліцыянт,— Сёння і мястэчка, і хутары — усё будзе спалена. Аж да Ружэвіч. Вас вот яшчэ так, а мястэчка з раніцы абкружылі з усіх бакоў, пачалі збіраць усіх на аселіцы... Хто пробаваў уцячы — на месцы... Такая воля вялікага начальства. З Мінска, а можа, пават і з Берліна.

— Воля, воля...— перадражніла яго, плачучы, маці,— Каб яго, тое тваё начальства, дзень і ноч гарачка паліла...

Аж дзіва было: паліцыянт — грозны, злосны, прыдзірлівы — нічога не адказаў, адвёў позірк, як пабіты сабака, павярнуўся і пасунуўся на двор.

— Ну, хопіць гавэндаў,— зазлаваў стары немец і ўжо ў сенцах, каб чутно было, мусіць, на двары, прыкрыкнуў: — Лос, лос шнэль!..[2]

— Толькі і ведаеце: шнэль адно...— перадражніла і старога немца маці.— Калі ўжо якая халера вас сашнэліць адгэтуль... О божачка, чым мы цябе так угнявілі, што ты на нас такую няміласць наслаў?..

Стары немец раптоўна павярнуўся, аж зачырванеўся, сціснуў губы.

— Калі праз пяць мінут не будзеце на дварэ, дык...— прысыкнуў ён.— Дык па законе ваеннага часу...

— Збірайся, Юзя...— ціха папрасіў маці бацька.— Паб'юць...

— А няхай і б'е, паліць!..— закрычала маці.— Колькі ж ужо можна мучыцца гэтак, у такім страху жыць. Як толькі яшчэ душа не перагарэла?..

— Дзеці ж, дзецям яшчэ жыць трэба...— сказаў бацька, падаючыся на двор — відаць, запрагаць каня.

— Мае вы дзетачкі! — загаласіла маці.— Во жыцейка вы бачыце... Навек упалохаюць вас...

Маці, неяк раптоўна згорбіўшыся, замітусілася па хаце, мусіць, нічога не бачыла перад сабою ад слёз. Узяла з калыскі Вэрцю і зноў паклала яе ў калыску. Кінулася да шафы, але нічога не дастала. Садрала з ложка дзяругу, разаслала на падлозе і пачала кідаць на яе падушкі, дзяругі, яшчэ раз адчыніла шафу і выхоплівала з яе сукенкі, ручнікі, прасціradлы. Кідала долу і галасіла.

— Адзявайся і абувайся, сынок,— сказала яна праз хвіліну, усё плачучы.— Ты вялікі ўжо, сам... Адзін бог ведае, куды нас пагоняць і што з намі зробяць...

У Казіка ў роце стала суха і горача; ён, здаецца, не разумеў ніякага страху, але на самай справе адчуваў яго кожнаю жылкаю, адчуваў, што вось-вось будзе тая самая страшная бяда, якой яны кожны дзень баяліся... Ён знайшоў пад лаўкаю новыя лапцікі, за лета ні разу не абуваныя, палез на печ і выбраў мяккія анучкі.

Вярнуўся ў хату бацька, пачаў памагаць маці ўціскаць і завязваць клунак.

---

[2] Давай, давай хутчэй!.. (ням.)

— Выходзь, Бронісь...— зазірнуў з сянец і нецярпліва падагнаў бацьку паліцыянт,— Давай скарэй на двор... Старшы наш едзе. З ім не пагаворыш: люты звер... З-за вас і мне ўляціць...

Бацька, нічога не адказаўшы, хутка апусціў у мех міскі, лыжкі, патэльні і гаршкі, выплюхнуўшы з іх у сенцы ваду і палуднёвую ежу, адчыніў паліцу і забраў з яе сподачкі, відэльцы ды збаны. Завязаў мех і панёс яго перад сабою на двор. Тады вярнуўся і пачаў збіраць харч — звараную бульбу, малако, яйкі. Маці дастала з калыскі Вэрцю, захутала яе ў свежыя полкі, моцна спавіла.

Пачулася, як пад'ехаў яшчэ адзін матацыкл, прыпыніўся і сярдзіта, як чмель, зататахкаў.

— На, Хойзер, вас іст дэн лос?[3] — злосна па-нямёцку закрычаў прыездяш мужчына.

— Гэр лёйтнант, іх мэльдэ...[4] — пачуўся тут жа збянтэжаны голас старога немца.

— Маўль хальтэн... Лос, лос! Абэр шнэль, фэрлюхтэр![5]

Крыклівая гамонка заціхла, пачулася на двары тупатня, нібы бег статак кароў, і праз нейкі міг убеглі ў хату спалоханыя, але вельмі рашучыя ад гэтага сполаху стары немец і паліцыянт.

— Шнэль, шыэль! Алле хінаўс![6]

— Выходзьце,— сказаў услед за немцам паліцыянт.— Афіцэр загадаў — і салдаты пайшлі за хлеў падпальваць хату... З усіх бакоў, так сказаць...

— Успомняць табе, Шыдлоўскі, яшчэ гэта нашы людзі,— злосна сказала яму маці,— быць не можа, каб век тут ваш Гітлер панаваў, мучыў народ... Адальюцца вам нашы слёзы...

Той, хмурачыся, прамаўчаў, пасля буркнуў:

— Маю хату гэтаксама паляць, бо тут будзе голая зона... Каб нічым не маглі парцізаны пажывіцца... Блакада...

— Не паглядзелі, што і пяты ім лізаў...— злосна сказала маці, узяла на рукі Вэрцю і паклікала Казіка ісці на двор.— І чаму на свеце ест такія дурні: чужынцы прыйдунь, здзекуюцца, а свае ім яшчэ і памагаюць?..

На двары ля ганка Казік убачыў калёсы, на якіх ляжаў мех з пасудаю, кош з пустымі мяхамі, сякера і піла. Бацька вёў з-за хлява

---

[3] — Ну, Хойзер, што тут у цябе? (ням.)
[4] — Пан лейтэнант, дазвольце далажыць... (ням.)
[5] — Заткніся... Давай, давай! Хутчэй, чорт вазьмі! (ням.)
[6] — Хутка, хутка! Выходзьце ўсе! (ням.)

мокрага ад расы каня і нёс у руцэ хамут ды дугу, на якой жалобна пазваньвала кольца.

— Шнэль! — крычаў на салдат і на бацьку высозны, тонкі, што цэп, светлавалосы афіцэр.— Альзо, ецт іммэр форвэртс! У Янковітшы!..[7]

— Ды толпе гэшыхтэ, ды фон гойтэ, ляст айнэн цум ідыётэн вэрдэн...[8] — як агрызнуўся, крыўдзячыся за гэтыя крыкі, стары немец, пакутліва зморшчыўся.

— На, на, Хойзер! Хальт ды фрэссе, зонст кналле іх дых ві айнэн фэррэтэр аб! — грозна, у злосці сказаў яму прыезджы афіцэр, а пасля ўжо — як угаворваючы ці падбадзёрваючы: — Унд іх бін ззр кранк. Унд кан ніхт... Абэр вір зінд дойчэ зольдатэн... Фэрштэст ду?..— і, павярнуўшыся да бацькі, загукаў: — Шнэль![9]

Стары немец нічога не адказаў, пайшоў у гумно і хутка разам з маладымі салдатамі пачаў выносіць адтуль мяшкі з жытам.

Бацька дрыжачымі рукамі запрог каня, пайшоў у хату і вынес дзяругу з адзеннем, з цяжкасцю, зморшчыўшыся ад болю ў жываце, падняў яе і паклаў на воз. Клунак заняў шмат месца, здавалася, што не будзе дзе і сесці.

— Вэг! — закрычаў афіцэр, падбег і тыцнуў бацьку кулаком у грудзі.— У Янковітшы...[10]

Бацька пачаў разварочвацца, выязджаць з двара.

У гэтую хвіліну сюды, да ганка, падышоў матацыкліст з вядром, плюхнуў з яго нешта вільготнае на сцяну, запаліў запалку і кінуў туды — тут жа ўспыхнула полымя, пашугала да страхі, што пачала ўгарацца спадыспаду, трашчала, як нешта ў ёй лопалася, задымелася і ўсхапілася чырвонымі языкамі. Ужо неўзабаве паваліў дым з самага верху — і страха ўся ўспыхнула, загула, апаліла жарам.

Матацыкліст у гэты час нешта закрычаў па-свойму, кінуў вобземлю вядро, пабег да матацыкла і вярнуўся адтуль з фотаапаратам, замахаў усім немцам рукой, паказваючы ісці да хаты. Тыя ахвотна падышлі, сталі побач, адзін ля аднаго, спіною да агню, усміхаліся (стаяў ля афіцэра і стары немец, толькі не ўсміхаўся) — матацыкліст укленчыў на адно калена, закінуў за галаву тонкі паясок, прымяркоўваў фотаапарат на ахопленую полымем хату і пстрыкаў, пасля

---

[7] — Хутка! Вось цяпер толькі нацерад! У Янковічы!.. (ням.)

[8] — Пасля ўсяго, што сёння нарабілася, і звар'яцець можна... (ням.)

[9] — Ну, ну, Хойзер! Сціхні, а то застрэлю, як здрадніка! І я хворы. І стаміўся... Але мы нямецкія салдаты... Разумееш? Хутка! ( ням.)

[10] — Прэч! У Янковічы... (ням.)

падняўся, шчасліва ўсміхнуўся і падняў уверх вялікі палец: — Фэрціг! Унд шэн![11]

Як выехалі за хлеў, Казік зірнуў на суседскія хаты: яны былі ўжо без стрэх, з чорнымі кроквамі і латамі, што густа дымеліся, а мясцінамі, дзе былі на іх сучкі, гарэлі чырвона-жоўтымі агеньчыкамі. Чорныя, як галавешкі, стаялі і сцены, сіне дымелі. Дрыжала вакол іх нагрэтае паветра. Казік пазіраў і бачыў, як абрынуліся кроквы дома Навіцкіх, паехалі долу, задымелі і пырснулі іскрамі.

За лесам у чыстае блакітнае неба поўз чорны дым — гарэў увесь хутар. А можа, дымеліся яшчэ і Пруды ды Крычаты.

— Хатачка мая! — зноў не вытрывала, дала волю слязам маці.— Кароўка мая, жытачка наша!.. Дзе-е-э-тачкі мае!..

Заплакаў за маці і Казік, адчуў: згарыць вось-вось іхняя такая ўтульная хата, а іх некуды звязуць. Стаяць вунь на дарозе ў мястэчка нагружаныя клункамі падводы суседзяў. Сталыя мужчыны самотна пазіралі на іх і на іхнюю палаючую хату, стаялі ля вазоў, а кабеты і дзеці сядзелі на клунках. Сядзеў на звязанай вузлом дзяружцы і светлавалосы Паланевічаў Стасік, але ён быў цяпер маўклівы, заплаканы і на Казіка, здаецца, нават не зірнуў.

Ля калёс на траве, гаворачы і моцна смеючыся, сядзела трое маладых немцаў-салдат, трымаючы між ног аўтаматы, і ля іх — моўчкі двое паліцыянтаў. Ва ўсіх былі да каленяў аброшаны боты і спацелыя, з цёмнымі рагамі твары...

Цяпер, як выехалі на дарогу, было відаць, што гарэлі і Янковічы: вісеў над імі дым аж да неба. Спачатку паднімаўся слупкамі ад кожнай хаты, а тады — вышэй — зліваўся ў вялікую чорную хмару, што распаўзалася па ўсім небе, захіляла сонца.

Бацька пад'ехаў да Грыгарцэвічавага воза — немцы і паліцыянты паўсхопліваліся, закрычалі пярэднім ехаць. Невялікі абоз крануўся. Немцы паўскоквалі на першыя вазы, распіхваючы дзяцей, пазвешвалі ногі, трымаючы ў руках аўтаматы. Калі памкнуўся ўсесціся на пярэдні воз паліцыянт Шыдлоўскі, то два немцы, смеючыся, сапхнулі яго з калёс, штурхнулі ў паясніцу нагамі. Шыдлоўскі паляцеў долу, на абочыну, упаў на калені, хуценька падхапіўся і ўсміхнуўся. Але смяяўся не хочучы, з сорамам. Болей ні на які воз не палез, пачакаў старога немца, які гэтаксама падышоў да дарогі, і пасунуўся побач за ім ззаду калёс, на якіх сядзеў Казік.

---

[11] — Гатова! І цудоўна! (ням.)

Нечаканаляснуў кароткі стрэл — і запішчаў парсюк, як стрэлілі яшчэ раз, завішчаў і меншы падсвінак тонкім голасам. Што там на двары болей рабілася, не было відаць з-за хаты.

Тут, з гэтага боку, бачылася, як ухапілася агнём страха не толькі на хаце, але ўжо і на гумне ды на дрывотні, пацягнулася ўвысь доўгімі агнянымі языкамі, бачылася, як адыходзіць далей ад хаты афіцэр, адкочваюць ад платоў матацыклы салдаты. Як адапхнулі іх, падскочылі да каровы, якая ўцякала, скачучы пярэднімі снутанымі нагамі. Але салдаты, абапёршыся на яе поўныя бакі, хутка злавілі яе за рогі.

— Божа мой, божа!— галасіла маці.— Дзе ж твае, божачка, вочы, дзе тваё добра сэрца? Што ж ты дапускаеш ужо каторы год на свеце? Азвярэлі людзі і ўдзень і ўночы страляюць, б'юць, палохаюць... Колькі ж можна ўжо жыць у страху, што заб'юць, абяруць да ніткі? Дакуль будзе гэтая вайна, калі будзе ёй які канец?

Бацька, угнуўшы галаву, ішоў збоку, трымаў у руцэ лейцы і маўчаў. Прыплюшчыў толькі вочы і часта азіраўся на хату, на якой бачыліся ўжо чорныя латы, высокі чырвоны комін. Твар бацькаў як скамянеў, здаецца, ні крывінкі на ім, ні дабраты, адна зацятасць, крыўда і злосць.

— Мёд пакідала дзецям на лякарства — не ўзялі...— прамовіла маці.— Кажух вісеў пры запечку, дзяруг колькі пакінулі...

— Я пра сярпы, касу ды вяроўкі забыўся...— нарэшце загаварыў бацька.

— А картофлю, што была ў кладоўцы, узяў?

— Забыўся...

— І ў мяне ўсё з галавы выскачыла,— сказала маці,— толькі цяпер прыпамінаю, дзе што засталося. Ды дзе яно засталося! Усё ж згарыць, агоранае гадамі, мазалём ды потам набытае...

Калі пачалі спускацца з горкі ў лагчыну, што цягнулася сюды ад Раўка, Казік прыўзняўся, яшчэ раз зірнуў на ахопленую полымем хату, пазіраў, пакуль было відаць. Пасля вышэй узвіўся дым, паярчэў агонь — мусіць, угарэлася сена. У Казіка моцна стукала сэрца, і ад гэтага аж калола ў скроні.

Як праехалі лагчыну, падняліся зноў на ўзгорак: у вялікай-вялікай, як акінуць позіркам, спадзіне паказаліся зусім блізкія, што на далоні, Янковічы, праз якія ляжала дарога з Івянца ў Налібакі, у Стоўбцы. Праўда, цяпер гэта было не зялёнае, з мноствам хат мястэчка, а суцэльнае задымленае папялішча. Стаялі чорныя печы, дымеліся ніжнія, яшчэ не згарэлыя вянкі сцен.

Абсмаленыя, амаль без лісця, стаялі ліпы ля вуліцы і сады, чорная, рудая вакол хат ды хлявоў была зямля, зрудзеў — нібы змарожаная

старая папараць — бульбянік. Вочы выядаў дым і смурод: дым віўся адусюль — ад падвалін, параскіданых дошак, галавешак, наваленых платоў, абгарэлых дрэў. На голых яблынях, што раслі блізка ля хат, рудзелі спечаныя ад полымя яблыкі. На іх выступіў і застыў белы сок. Каторыя — самыя блізкія — яблыкі зусім згарэлі, чарнеліся маленькімі агаркамі.

— Канец свету,— шаптала маці, ківаючы галавою,— гэта ўжо канец свету... Як і ў святым пісанні сказана...

Бацька маўчаў, мусіць, браў бяду ды гора на сэрца. Моўчкі пакіраваў каня за пярэднімі падводамі па бруку, па якім колы калёс дрыготка застукалі, аж затрэсліся ў Казіка шчокі. Пасля колы прашарахцелі па пяску і спусціліся на аселіцу, што зелянела ўздоўж местачковых агародаў, шмат гадоў дагэтуль была для янкоўцаў сенакосам.

Цяпер на аселіцы было многа, відаць, з усяго мястэчка і з усіх блізкіх хутароў, запрэжаных калёс, на якіх ляжалі клункі. Ля вазоў стаялі і сядзелі хмурныя, заплаканыя местачкоўцы ды хутаране — мужчыны, кабеты, дзеці. Вакол вялікай аселіцы адзін ад аднаго на крокаў трыццаць стаялі немцы і паліцыянты. Ля ног немцаў ляжалі, паклаўшы галовы на пярэднія ногі, сабакі з маленькімі вушамістаякамі і з высалапленымі языкамі.

Жываты і пазухі ў салдат былі параспіраныя — відаць, напакавалі за мундзіры яблыкаў ды гуркоў; каторыя трымалі ў руках вялікія шапкі сланечнікаў, разломлівалі іх, выкідалі пустую жоўтую сярэдзіну, абіралі з поўных чорных краёў зярняты, грызлі гуркі — горкія кусалі раз-другі і кідалі пад ногі.

Бацька прыпыніў каня, як толькі стаў пярэдні воз. З калёсаў пасаскоквалі немцы, пайшлі да сваіх вартавых, весела загергеталі, і тыя адразу пачалі частаваць іх гароднінай ды садавінай. Яны выціралі яблыкі ды гуркі аб полы і грудзіны мундзіраў і, смеючыся, грызлі, весела і пераможна пазіралі на сагнаных сюды, перапалоханых, пачарнелых ад гора людзей.

Да першага вартавога, які быў бліжэй ад вуліцы, падышлі лысы немец і паліцыянт Шыдлоўскі. Іх частавалі сланечнікам, але яны адмовіліся, селі на зямлю і апусцілі ўніз галовы.

— Павязуць нас у Нямеччыну,— сказаў ціха бацька, які крыху разумеў па-нямецку.— Салдаты гавораць між сабой, што пагоняць нас на конях у Стоўбцы, а там пасадзяць на цягнік... Калі так, дык не дай бог... Як толькі выпадзе шанец — трэба ўцякаць. Няхай прападзе яна там, іхняя Нямеччына, на што яна нам...

— Каб іх дзень і ноч ганяла!— азвалася маці, кашляючы ад дыму.— Ці мы сваей зямлі і хаты не мелі? Ох, божа літасцівы, нікому

нічога не ўкажаш... Што хочуць, тое і робяць з людзьмі... І Гітлер іхні горшы за ўсіх чарцей, за Люцыпара...

— Налаташылі...— сказаў бацька і кіўнуў галавою на сценку — дарогу пры янковіцкіх гародах, па якой з хутара ехалі фурманкі, заваленыя поўнымі мяхамі, адзеннем, пабітымі свіннямі. Да кожнай фурманкі была прывязана на повад карова. Кіравалі коньмі чужыя людзі. На кожным возе сядзеў яшчэ немец ці паліцыянт.

Абоз падаўся на другі бок мястэчка — ці не ў Івянец. Уперадзе і ўслед за ім ехалі матацыклы.

Некаторыя матацыклы павярнулі сюды, на аселіцу. На адным з іх Казік пазнаў матацыкліста, які ліў на іх хату з вядра бензін, пазнаў высознага крыклівага афіцэра. Афіцэр злез з матацыкла і шпарка падаўся па аселіцы, падышоў да другога высокага афіцэра, абкружанага салдатамі, ускінуў уверх руку і нешта доўга гаварыў. Высокі тоўсты афіцэр слухаў, пасля паціснуў прыезджаму руку, весела паляпаў па плячы.

Да гэтых афіцэраў пачалі сыходзіцца з усёй аселіцы салдаты. Вартавыя цяпер пасталі адзін ад аднаго на крокаў сто, тузалі за павадкі сабак з рудымі бакамі і чорнымі спінамі. Сабакі нехаця ўставалі, злосна гыркалі. Ад гэтай гыркатні цішэў людскі гоман, па спіне, як чуў Казік па сабе, прабягалі халодныя мурашкі.

Салдаты і паліцыянты густа абляпілі афіцэраў, слухалі, са згодаю ківалі галовамі. Толькі, здаецца, лысы немец не лез наперад, а стаяў ззаду ўсіх абыякавы і стомлены.

Праз хвілін пяць усе пачалі разыходзіцца. Ля тоўстага афіцэра засталіся толькі прыезджы афіцэр і паліцыянт Шыдлоўскі.

— Увага, людзі!— звонкім голасам закрычаў Шыдлоўскі, выцягваючы шыю.— Пан маёр мае загад адправіць вас усіх у Стоўбцы.— Пасля ён на хвіліну замоўк, павярнуўся да «пана маёра» і слухаў, што той яму гаворыць,— Пан маёр дае загад ехаць адзін за адным. Не адставаць і не перагаворвацца! Хто ўздумае ўцячы — расстрэл на месцы... Тут вы прыносіце толькі шкоду, а ў вялікай Нямеччыне будзеце прыносіць карысць сваёю працаю... З богам! Паехалі! — і ўжо не Шыдлоўскі, а «пан маёр» выйшаў наперад, падняў руку і махнуў пярэднім фурманам.

— Вось і ўцячы, не паедзь у іхнюю Нямеччыну...— прашаптала маці, калышучы на руках Вэрцю,— Паб'юць, як мух...

— Дарога доўгая, пад сорак вёрст...— адказаў бацька.— Як удасца, дык і будзем уцякаць... Калі яны тут душу вымаюць, дык у іхняй Нямеччыне пагатоў не будзе дабра...

Пярэднія падводы, што, мусіць, ужо доўга стаялі на аселіцы, рушылі ў бок Дзераўной — першага мястэчка за Янковічамі па стаўбцоўскай дарозе. Казік яшчэ доўга сядзеў на возе і чакаў, калі крануцца яны. Каторыя немцы паўскоквалі на калёсы, вартавыя з сабакамі пайшлі збоку. Матацыклісты паселі на матацыклы і памчалі да Дзераўной пустою вуліцаю. З яе ўзнімаўся гарачы пыл і попел.

Недзе далека, як баючыся заставацца ў спаленым мястэчку, закудахтала курыца, са страхам завыў сабака...

Казік бачыў: фурманкі выцягнуліся ў доўгі шнур. Яны падаваліся спярша па аселіцы, па стаптанай траве, пасля выехалі на пясчаную дарогу, з яе — на брук. Мястэчкам, пасярод дымных гарачых папялішчаў, падаліся да рэчкі. За капліцаю пасярод абгарэлых ліп сіратліва стаяў нядаўна новы, жоўты, а цяпер абсмалены высокі крыж, праязджаючы ля яго, тутэйшыя мужчыны знімалі шапкі, а кабеты жагналіся.

Ззаду Казіка ехала яшчэ шмат калёс, збоку іх сунуліся немцы, паліцыянты, але яны не знялі насупраць крыжа шапак, толькі абыякава паглядзелі на яго.

«З богам!» —чамусьці ўспомпілася Казіку, успомнілася тое, што гаварыў «пан маёр» і тлумачыў Шыдлоўскі...

Скончылася мястэчка, паказалася гара, з якой раней людзі бралі гліну, але цяпер там, у яміне з вадою, было нацярушана шмат вугалля, пахла дымам. Дымам пахла і ў лесе, што пачаўся адразу за рэчкаю, ля якой на беразе ляжала гарэлая салома. Дым у лесе стаяў што пара пасля дажджу, калі нечакана прыпячэ сонца.

— Вожачка! — забедавала зноў маці,— І што будзе з намі? Голыя, галодныя ў чужы свет едзем, дзе нас ніхто не чакае і не прытуліць...

— Усё мястэчка едзе,— сказаў бацька.— Можа, як ацалеем усе разам...

Цяпер і ён прымасціўся ўперадзе на драбіне. Як устаў раніцай у зрэбнай кашулі, так і ехаў у ёй. Па лесе густа кацілася рэха ад калёс, плыло збоку, як там, непадалёку, ехаў яшчэ адзін абоз.

Калі былі на паўдарозе да Дзераўной, нечакана ўперадзе пачуліся стрэлы — задудукаў аўтамат. Як яшчэ крыху пад'ехалі бліжэй, дык убачылі на абочыне, на дарозе ў Балявічы, што былі справа, калёсы. Ля іх, скурчыўшыся на зямлі, нерухома ляжаў гаспадар, мястачковы жартаўнік, шавец Янка Навіцкі, а на калёсах, паваліўшыся адно на адно, раскінуўшы рукі, ляжалі Янкава жонка і дзеці. Кабета як накрывала сабою дзяцей, белая блузка на яе спіне была чырвонаячырвоная...

— О божа! — усклікнула маці і закрыла твар — апусціла галаву і прытулілася да Вэрці,— Бедныя Навіцкія, бедныя дзеткі!..

...Калі мінулі ўжо Дзераўную, яшчэ некалькі мястэчак за ёю, уехалі ў стараваты лес. За гарою, перад паваротваю, маленькі чарнаваты конік, які ішоў ззаду і ўсю дарогу намагаўся не адстаць, прыпыніўся. За ім стаў і абоз. З калёс саскочыў пажылы гаспадар, сагнуўся. Следам за ім злез з воза і невысокі немец, трымаючы ў руцэ аўтамат, гэтаксама прысеў і пачаў пазіраць на задняе крывое кола.

Казікаў бацька, які ўвесь час азіраўся і ўбачыў гэта, турзануў, каб конь пабег, і за паваротваю, калі не было відаць задніх калёс, звярнуў налева і пачаў хлістаць лейцамі каня па нагах.

— Броніс, што ты робіш? — аж жахнулася маці.— Заб'юць жа! Паб'юць, як і Навіцкіх...

Конь спачатку рвануўся, відаць, спалохаўся, а пасля шпарка пабег па лесе. А бацька, не слухаючы маці, паганяў і паганяў яго — калёсы трэсла, падкідала на пнях. Колькі разоў задняя вось ледзь не чаплялася за камлі хвоек, але саслізгвала, толькі да белай смалы здзірала з іх кару. Мільгалі ў вачах хвойкі, ядлоўцавыя кусты, чарнічнік. А бацька сцёбаў і сцёбаў каня лейцамі.

Нарэшце, калі лес памаладзеў і пагусцеў, задняя вось зачапілася ўсё-такі за камель невысокай таўставатай хвойкі — конь раптоўна стаў, аж трэснула дуга, ірвануўся, але не змог скрануць калёсы. Цяжка, раздзімаючы і ўцягваючы жывот, дыхаў, спалохана азіраўся.

— О божа! — уздыхнуўшы, прашаптала збялелая маці, азірнулася і хапілася рукою за левую грудзіну.— Думала, што зачэпімся ля дарогі, станем, убачыць гэта каторы — і бабахне ў спіны... Цяпер жа наш чалавек як муха... І ніхто вінаватага шукаць не будзе... Як во і за Навіцкага...

— Ціха,— сказаў бацька, саскочыў мякка на зямлю і прыслухаўся: па лесе кацілася грукатлівае рэха, чулася, як гудуць матацыклы.

— Але ж ты і адчайны...

— Лепш тут галадаць, спаць пад акрытым небам, чым у чужыну ехаць,— адказаў бацька.— Пастаім ці паедзем?

— Давай ад'едземся яшчэ ад дарогі,— сказала маці.— Не дай бог агледзяцца, пойдуць па следзе...

— Слядоў не будзе: на гары і збоку дарогі трава была...— супакоіў яе бацька.— Паедзем... Можа, ружэвіцкі дзядзька твой прыме нас? Ружэвічы ж, гаварыў Шыдлоўскі, не будуць паліць.

— Надта ж ён скупы ды звяга вялікая, гэты дзядзька...— адказала маці.— Задушыць нас работаю...

— Што ж зробіш. Мы ўжо не гаспадарэ, а пагарэлыя бежанцы... Трэба думаць, як выжыць, дзяцей выратаваць...— з сумам прамовіў бацька, падышоў да хвоі, упёрся і адцягнуў ад яе задок калёс.— Але, дасць бог, можа, як выжывем. Ды і барадаты парцізан гаварыў, што ў бядзе нас не пакіне, аддзякуе...

Бацька, як адвалок ад хвоі калёсы, нагнуўся, выцер аб высокі верас рукі, цмокнуў на каня і пакіраваў яго далей ад дарогі, туды, куды пазіралі вочы і цягнуўся сіні горкі дым...

## ***САЛАДУХА***

> Стаў новым свет, а губы пахлі дымам,
> Бо мы з снарадных конавак пілі...
>
> *Сцяпан Гаўрусёў*

— Мамуся, ідуць...— сказаў Казік. Ён сядзеў на коленцах на лаве і цяпер азірнуўся на цемнаватую хату, на невысокую цагляную, пабеленую мелам пліту, ля якой з відэльцам у руцэ стаяла ў валёнках, у доўгай цёмнай спадніцы і цёплай хустцы пастарэлая за апошні год маці.

У гаршку, што стаяў на пліце, булькала вада, лілася з яго на гарачы кружок, сіпела і мігам высыхала, узнімалася ўверх гаркаватай парай.

— Не сядзі ты ля акна...— з незадавальненнем, мусіць, баючыся, каб ён не прастудзіўся, адказала маці, парнула відэльцам бульбіну — паглядзела, ці зварылася, ці яшчэ ёй трэба крыху пастаяць на агні, а пасля як папікнула: — Дзіва ўбачыў...

Маці памацала колькі бульбін і ўсё ж падышла да замёрзлага акна, прыхінулася і пачала пазіраць праз маленькую, прадзьмуханую і вылізаную Казікам дзірачку на снежнае ранішняе, не зусім цёмнае, але яшчэ і не надта светлае поле, на дваіх мужчын, якія выйшлі з пустых, без ніводнай хаты, без ніводнага чалавека, замеценых снегам Янковіч на пагонку і плятуцца сюды, на хутар.

На дварэ стаяў моцны мароз. Яшчэ ўчора ўвечары, як толькі спусцілася над прудскім лесам сонца, зачырванелася і стала што памідор, паціснуў холад. Ад яго хутка пашарэлі шыбы і пачалі абрастаць белай намараззю, выбеліліся снежным пухам сцены, заскарынілася адталая за сонечны дзень вада ля цёплых прызбаў, пашэрхлі, пазвоньвалі абледзянелыя вішнёвыя галінкі, гэтаксама адталыя ўдзень пры цяпле. Звечара ўжо ляскала ў вуглах ды ў плоце, а пад раніцу дык і моцна трэскала, як нехта ўсё роўна біў там пранікам.

Чуў гэта Казік, бо кепска ўночы спаў, часта прахопліваўся і енчыў ад болю: яшчэ ўчора — шараю гадзінаю — нарабіў сабе бяды. На двор ён удзень не выходзіў (не меў цёплай вопраткі і абутку), а сядзеў на цёплай печы ці на ложку, гуляў з сястрою Вэрцяю. Калі пад вечар маці выйшла на двор, напаіла карову, укінула ёй сена і вярнулася ў хату з поўным вядром чыстай-чыстай вады, што, здаецца, надта ж чуйна пахла холадам, марозам, зімою, дык Казік адразу саскочыў з печы, падбег да вядра і чамусьці не рукамі, а губамі захацеў злавіць драбок празрыстага лёду, што плаваў на вадзе. Лавіў яго і не заўважыў, як даткнуўся языком да вочапкі. Язык прыліп да халоднага жалеза, як прыліпае цукерка да сукна. Казік пачуў бяду, адскочыўся — і зайшоўся ад болю: здаецца, па языку працягнулі гарачаю лыжкаю. Ён заенчыў, мусіць, дзікім голасам.

Маці, калі ўбачыла гэта, і смяялася, і папікала, што лез да вядра: «Ужо, лічы, кавалер, а розуму ніякага няма...» — а пасля прытуліла, шкадавала, прасіла адкрыць рот. Глядзела на абадраны, з крывёю язык і бедавала, што ён, гэты язык, не дасць цяпер у рот ні халоднага чаго, ні гарачага ўзяць...

...Новую хату, дзе цяпер былі Казік і маці, тут, на хутары, бацька пачаў ставіць, як толькі вярнуўся з бежанцаў — калі адступілі немцы і прыйшлі сюды савецкія салдаты.

Бацьку ў войска не ўзялі: ён хварэў перад гэтым на жаўтуху. Спачатку бацька, яшчэ добра не паправіўшыся, тут, ля былога селішча, зладзіў зямлянку. У ёй яны жылі аж да першых маразоў, пакуль не перабраліся ў падладжаную новую хату.

Янковічы, хутары пуставалі. Нядаўнія суседзі ўсё яшчэ былі ў Нямеччыне, і ніхто пра іх нічога не ведаў — жывыя яны ці даўно ўжо на тым свеце. Тутэйшыя іх селішчы застылі, утапталіся, абмыліся дажджамі і снегам, зараслі палыном і сухадзяроўкаю — і ўсё навокал увогуле здзічэла, як тут і не жылі людзі.

Бацька і маці, як толькі зрабілі зямлянку, наслалі ў ёй замест пасцелі моху, пачалі цягаць з лесу бярвенне. Рэзалі там пілою стройныя сосны, валілі іх, разразалі, клалі на калёсы, без драбінак ды ляжанкі і цягнулі да свайго селішча. Каня не было: яго забралі ў абоз.

Да першых восеньскіх зацяжных дажджоў бацька зляпіў невялікі, на адну палавіну і з адным акном, зруб, накрыў яго трысцём, нашчапаў сасны, паслаў з гэтых плашак столь, на яе наслаў моху і нацягаў пяску, а пасля ўзяўся сам складваць печ. На яе выбраў цэглы з папялішча і зрабіў новай, накапаўшы гліны на Каменнай гары.

Аднойчы, калі майстраваў ложак-тапчан, да іх зайшоў барадаты партызан. Ён цяпер стаў старшынёй тутэйшага сельсавета. Павітаўся з бацькам і з ім, Казікам, за рукі.

— Ну, вось ужо ў Янковічах і ёсць людзі,— усміхнуўся ён.— Віншую! Значыць, будзе жыць веска... Можа, хутка вернуцца і астатнія янкоўцы, людзі з другіх вёсак — і будзем пачынаць пакрысе ладзіць новае, сацыялістычнае, жыццё... Пачнём з таго,— ён падміргнуў Казіку,— што зладзім школу... А пасля пачнём калгасы ладзіць, заворваць межы...

— Можа, ці вернецца ўжо хто адтуль?! — пабедавала маці.

— Вернуцца,— адказаў старшыня сельсавета.— Нашы ўжо вось-вось возьмуць Берлін... Але і ты, таварыш Хлябовіч, папрацаваў! — здзівіўся госць, пазіраючы на новую хату.— Так можна змоладу падарваць здароўе... Столькі працы... І што ж вы тут ясце, людзі?

— Булён посны, зацірку,— адказала маці,— сушым трысцёвае карэнне, таўчом яго і варым каву, варым жалуды, робім павідла з лопухавага карэння... А вопратку мыю сабачым мылам...

— Так...— пацмокаў барадач.— Выцерпелі не такое, дык неяк выцерпіце і гэта... Усё хутка перайначыцца... Ну, а што вы кармілі мяне і маіх сяброў тут, на гэтым хутары, што правілі нам хамуты, шылі боты там, у Ружэвічах, я вам дам даведку, што вы памагалі партызанам, дам карову...

Назаўтра бацька з раніцы пайшоў у сельсавет і прывёў чорна-белую былую партызанскую карову. Маці гладзіла галаву каровы, а ж плакала ад шчасця, гаварыла, што цяпер, маючы карову, яны ўжо напраўду зноў выжывуць.

Бацька адразу ж узяўся касіць старую, нікім за гэтае лета не чапаную, здзічэлую траву. Хлява, канечне, хутка не мог зрабіць, адклаў гэтую работу на вясну. Дык прыставіў да шчыта хаты высокіх жэрдак, абклаў іх мохам, зноў, каб не сарваў моху вецер, наставіў наверх моху жэрдак і ў вузкім, але высокім катушку знайшлося месца карове, якую нанач прывязвалі за рогі пастронкам да ўбітага ў сцяну вялікага цвіка.

...Бацька ў вераснёўскі сонечны дзень паблізу хаты, на поплаве, касіў, а Казік з маці грэблі скошаную яшчэ пазаўчора траву і насілі яе да азяроду.

Працавалі моўчкі; бацька махаў і махаў касою; маці і Казік, вяртаючыся ад азяроду да поплаву, яшчэ ўсё чуючы салодкі пах сена, ішлі з апушчанымі галовамі, пазіралі долу: калолася ў босыя ногі.

— Зірні, сын, у цябе вочы маладыя...— неспадзявана сказала маці, штурхнула Казіка ў бок локцем і кіўнула на здзічэлае, зарослае па-

рыжэлаю свірэпаю, асотам, асветленае цяпер жаўтаватым святлом невысокага сонца поле.— Ці не чалавек вунь ідзе...

Казік зірнуў у поле, але не ўбачыў на ім чалавека.

Тады зірнуў далей, туды, дзе неба сыходзілася з зямлёй,— і, здаецца, напраўду ўбачыў жывую душу.

— Нехта ідзе...— узрадаваўся ён: за ўсё лета ён бачыў тут толькі аднаго чалавека — старшыню сельсавета,— той прыйшоў да іх з другога боку, з Хатавы. А гэты чалавек ішоў з Налібак.

— Броніс, Броніс!— паклікала маці бацьку і паказала таму рукою.— Нехта ідзе... Няўжо хто з мястэчка вярнуўся ці з Налібак?

Бацька перастаў касіць, разагнуўся, прыклаў руку да лба і гэтаксама пачаў глядзець на чалавека, што ўсё прыбліжаўся.

— Мужчына...— пазнала маці, а пасля, калі чалавек падышоў бліжэй, спытала: — Зірні, Казя, ці не ў нямецкім ён мундзіры? Вой, дальбуг, той стары немец, які нас паліў... Утаіўся во, мусіць...

Калі чалавек падышоў зусім блізка, як можна было ўбачыць твар, дык і Казік пазнаў ужо: так, гэта той стары лысы немец. Ён быў у зношаным, без пагон мундзіры, у старой-старой пілотцы. У чаравіках. На схуднелым твары з запалымі, як выцвілымі вачыма, здаецца, стала яшчэ больш маршчын, якіх надта шмат — як слаямі — было на лбе.

— Дзень добры вам,— падышоўшы, пільна зірнуў на іх, маўклівых, строгіх, ціха прамовіў ён.— Дзень добры.

Ні бацька з маці, ні Казік яму не адказалі, пазіралі на яго, як на нейкае дзіва: як ён уцалеў тут да гэтай пары?

— Ведаю, што ненавісны і пану, і пані...— слабым голасам, як каючыся, загаварыў прышэлец, пазіраў то на бацьку, то на маці і нават на яго, на Казіка.— Паліў вас і мястэчка... Але я не хацеў... Быў загад... Каб не паліў — пакаралі б... І радню там, у Нямеччыне, пакаралі б...

Зноў на яго словы было маўчанне.

— Я быў салдат, меў дысцыпліну... Салдат мусіць...

— Што мне цяпер тваё апраўданне!— злосна перапыніў яго бацька.— Няма во мястэчка, няма людзей... Зямля пустуе... Я не бачыў, не чуў, хто там вам загадваў... Але бачыў, як вы тут білі нашых людзей, палілі нашыя хаты... Бачыў, што ад усіх вас, праклятых чужынцаў, не было нам дабра... Была б вот цяпер ваша сіла тут, дык зноў здзекаваўся б з нас... Але чаго ты цягаешся? Уцёк? Не, не ўцячэш. Хоць няма і калі, але ўсё кіну, завяду зараз у сельсавет...

— Я, пан, у палоне, у Кляцішках,— як апраўдваўся стары.— Маю дакументы...— і ён дрыготкаю рукою расшпіліў верхнюю кішэньку мундзіра, дастаў складзены белы зверху ліст паперы, падаў бацьку.—

Маю дазвол хадзіць, маю заданне... Куды ж я ўцяку? Нікуды не ўцяку. Ды і каб уцёк, то маім жа горш было б... А на тое, што цяпер ёсць, што было б, каб мы, немцы, мелі тут яшчэ ўладу, дык скажу: вайна, пане... Чыя сіла, улада, таго і права...

Бацька не ўзяў у рукі паперы.

— Ну, дык і ідзі, куды ідзеш... Сыдзі з воч... Калі б не яны...— ён кіўнуў на маці і на Казіка.— Я з табой цяпер не так пагаварыў бы... А пра сілу ды ўладу не вучы: вучаныя... Ведаем, якія вы, заваёўнікі, дабрадзеі...

— То ўсё Гітлер... Ён хацеў захапіць Расію, а не я. Мне і дома зямлі даволі. І я хачу не ваяваць, а працаваць...

Стары немец пастаяў яшчэ крыху і пайшоў. Але не на зусім. Як толькі яго адпускалі, ён прыходзіў зноў, каяўся, прасіўся, каб яму бацька дазволіў папрацаваць. І бацька, як здаўшыся, дазволіў таму рэзаць дошкі, рабіць дзверы ды вокны, ляпіць пліту. Стары немец быў майстра адмысловы, рабіў усё паволі, але трывала.

Як пачалі капаць у хаце — за плітою — яму, дзе меліся хаваць бульбу, гародніну, што даў ім за працу ружэвіцкі дзядзька, разам са старым немцам пачаў прыходзіць і малады немец. Малады немец не ўмеў гаварыць ні па-польску, ні па-тутэйшаму, дык ні яго, ні ён нікога не разумеў. Увесь час ён маўчаў і ніколі не ўсміхаўся.

...Два немцы — стары і зусім малады — прайшлі вялікае заснежанае поле і наблізіліся да замёрзлай і закіданай зледзянелым снегам сажалкі, што была непадалёку хаты. Некалі збіраліся тут дзеці з усіх хутароў — Амшарка, Ляжджа, Падзеры,— расчышчалі лапатамі снег, прыносілі кола і моцную бярозавую жэрдку, ладзілі «казу» і каталіся. Крыку, смеху тады было на ўсё наваколле...

Гэтаю зімою на сажалцы стаялі асака, ваўчкі, мятліца, якія хісталіся ад ветру і асыпаліся перамерзлаю трухою.

Стары немец, Хойзер, быў і сёння, у нядзелю, апрануты ў знаёмы стары латаны шынель, падпяразаны вяровачкаю, у старой вушанцы, завязанай пад барадою, у чаравіках, абкручаных анучамі, малады немец — ні імя, ні прозвішча яго Казік не мог ніяк запомніць — плёўся крыху ззаду гэтаксама ў шынялі без пагон; рукавіц у яго не было, дык ён падцягваў рукі ў рукавы, скрыжаваў іх на грудзях. Быў ён у змерзлых, абшмальцаваных ботах і салдацкай нямецкай шапцы з апушчанымі на вушы адкладкамі. Шыя яго была голая, чырванелася. Ішоў ён, звесіўшы галаву.

Рыпнулі намёрзлыя, з белымі галоўкамі цвікоў дзверы, напусцілі халоднай пары — зайшоў у хату бацька, ужо з месяц такі ж, як і раней, худы, скура ды косці на ім, але, здаецца, памаладзелы: згаліў ву-

сы і бараду. Цяпер ён быў чырвоны, шчокі яго ад марозу яшчэ больш сцягнула, і ён выглядаў зусім худым. Ён скінуў нацёрты чырвонаю цэглаго кажушок (адзін на дваіх з маці), на чорнай абламоўцы якога набілася дробнага сена і мякіны, паклаў на край пліты рукавіцы.

— Ідуць,— сказаў бацька, зірнуў на маці, якая збіралася ўжо высыпаць на стол бульбу.

— А мы во...— прамовіла яна,— запазніліся, не паснедалі яшчэ...

Бацька прамаўчаў, зірнуў толькі на гаршчок з бульбаю, што стаяў на краі пліты, пракаўтнуў сліну, і Казік убачыў, што і ён вельмі хоча есці, бо кожнага дня з'есць, што дасць маці, і не раз кажа, што ён яшчэ столькі з'еў бы. Казік ужо сёння, як толькі маці адцадзіла ваду з гаршка, ухапіў пару гарачых бульбін і, перакідваючы іх з рукі ў руку, астуджваючы, з'еў, распаліў голад да таго, што аж забалеў жывот. Хочучы есці, ён як пра сон, што сніцца, але ніколі не спраўджваецца, успомніў пра даваенпыя нядзелі, у якія маці пякла смачныя бліны, смажыла катлеты, варыла мачанне і ячменную каву, а да яе пякла салодкія сухарыкі, намазаныя зверху жаўтком і пасыпаныя цукрам...

Стары немец ужо на двары, калі ўбачыў Казіка, шырока заўсміхаўся бяззубым ротам, прывітаў рукою. Малады немец зірнуў на акно і на Казіка з нейкаю зайздрасцю і тут жа зноў са стомаю звесіў галаву.

Гучна прарыпеў ля хаты ад крокаў снег, і госці пастукалі ў дзверы: яны, дзверы, адразу выходзілі на двор, бо не было яшчэ ні сянец, ні плота вакол хаты.

— Можна,— сказала маці.

Дзверы адчыніліся — і спачатку напаўзла панізе белая пара, за ёю ўвайшоў дзяцюк, тады ўжо ўсунуўся стары. Ен і прывітаўся, пачаў адразу адвязваць зледзянелыя матузы вушанкі.

— Ну і зіма! — закрактаў ён, пацёр далонню шчокі.— Такі мароз перад узыходам сонца... Агонь!

Маці і бацька слухалі і маўчалі.

— Не першы тут год, і не першая тут такая зіма...— гаварыў стары ўсё адзін.— Як вы толькі і жывяце... Мне холадна. Можа, і таму, што стары... А пра яго,— ён паказаў рукою на маладога немца,— няма што і гаварыць. Мерзне і мерзне... У бараку, у лесе з пілою... Сюды ледзь даплёўся, садзіўся колькі разоў на снег і гаварыў, што не ўстане... О, сын мой, ды ў цябе шчокі і нос белыя...— затрывожыўся стары, хуценька падаўся на двор, прынёс жменю снегу і, скінуўшы з галавы ў таго шапку, пачаў церці ім шчаку.

Рыжы падлетак — рыжы на твары ад рабаціння, на галаве ад валасоў — моршчыўся, шморгаў носам, спрабаваў адшпіліць гузікі шы-

няля, але ніяк не мог зрабіць гэта адубелымі нальцамі. Бела-пасінелая дасюль шчака чырванела, амаль на вачах налівалася ружовасцю. Ён моршчыўся (снег раставаў на шчацэ і цёк па шыі на грудзі), а пасля нечакана загаласіў на ўсю хату: мусіць, запалымнеў твар.

— І ў салдаты во ўзялі...— цёр падлетку шчокі, а тады і пальцы рук і гаварыў стары.— Дзіця ўзялі... Ён жа яшчэ зусім малады, шаснаццаці няма... Ці во я — салдат... Шэсцьдзесят на той год будзе. Але не паглядзелі на гэта, прыгналі: ваюй, стары, ваюй, малады... Ваюй за Гітлера. А Гітлер — ды якая трасца цяпер яму?! А мы...

Падлетак пачаў угравацца, расчырванеўся, але яму, як відаць, усё яшчэ балела ад гэтай цеплыні. Ён перастаў плакаць і з сорамам выціраў рукавом слёзы, забруджваючы шчокі.

— Рускі афіцэр гаварыў сёння, што рускія ўзялі Кольберг, Кезлін,— гаварыў стары.— Дык, можа, да вясны будзе канец такой доўгай і цяжкой вайне?.. Вашы людзі вернуцца, і мы паедзем дадому, паедзем, апусціўшы галовы... А! — ён махнуў рукою.— Якая яшчэ трэба слава! З мячом прыйшлі, ад мяча і галовы пагублялі... Скарэй бы да жонкі, да дзяцей!..

— Нашы людзі альбо вернуцца, альбо не,— азваўся бацька,— ніхто ж не ведае, чаго іх звезлі, што з імі...

— Так, пан, так,— заківаў у згодзе стары,— Гітлер наш вельмі нядобры, ён і ў нас сваіх праціўнікаў бязлітасна караў. Ад яго можна ўсяго чакаць... І вайну з Расіяй ён толькі... А потым тут,— ён паківаў галавою,— так з людзей здзекаваліся.

— Божа мой, як нам абрыдзелі гэтыя войны...— уздыхнула маці. Яна сядзела ля стала, збіралася есці.— Гэта ж не месяц і не год нават, а запар гэтулькі гадоў ішла такая калатнеча... Гэта ж у каждую мінутку страх быў... Цяжка во цяпер, немаведама як дажыць да вясны, але няма страху, што прыйдзе нехта і ці абярэ, ці спаліць...

Малады немец падсунуўся да напаленай пліты і грэўся. Раз за разам шморгаў носам і кашляў. Бухаў неяк надта суха і цяжка — аж чырванеў на твары.

— Для нас трагедыя, і для вас трагедыя... Для ўсіх народаў гора...— заківаў галавою стары, патаптаўся, гэтаксама падышоў да пліты і апусціў над ёю чорныя ад хваёвай смалы рукі.— І для іх, дзяцей,— кіўнуў на Казіка і на падлетка,— трагедыя, гора... Дзецям вучыцца трэба, а яны... Ды што яны за вайну бачылі? Жах адзін... Не тую, што трэба, навуку бачылі...

Маці моўчкі, слухаючы гамонку, палезла на печ, нагнула дзежачку, наліла ў міску саладухі, вярнулася і паставіла яе на стол. Саладуха

наздрылася, кісла запахла. Немец-падлетак зірнуў на стол, праглынуў сліну.

— Можна, пані, я залезу на печ і пагрэюся? — спытаў стары, як заўважыў гэты галодны позірк маладога.

— Лезце,— адказала маці.

Стары разуўся, павесіў на сагнутую трубу ад пліты анучы, усунуў у чаравікі па паленцу і паставіў іх па пліце, прыхіліўшы чаравікі да трубы. Анучы адразу ж запарыліся, запахлі потам. Стары пабраўся на печ, адсунуў лахманы, карчажку, сеў на голай ляжанцы. Але доўга не ўседзеў, пачаў падкладаць пад сябе смалякі. За старым ля сцяны ўсё яшчэ спала Вэрця.

Маці ўкінула ў саладуху драбочак сахарыну, размяшала, стараючыся лыжкаю расцерці яго. Бацька гэтаксама моўчкі дастаў з кішэні фрэнча ножык і пачаў ім абіраць бульбу — здзіраць тоненькую лушпінку. Пальцам узяўся чысціць сабе бульбу і Казік.

Падлетак пазіраў усё на стол. Казік разумеў, чаго той так з прагаю пазірае. Ад гэтага свайго адчування Казіку рабілася чамусьці вельмі сорамна, і ён апускаў галаву, адводзіў позірк...

— Не магу, калі так пазірае...— кажа шэптам бацьку маці. Яна наўмысна перасела, прымасцілася спіною да рыжага падлетка.— Дзіця ж...

— Адлі крыху яму...— гэтаксама шапнуў бацька.

Стары, відаць, не пачуў, пра што шапталіся маці і бацька, але неяк зразумеў, што яны перамаўляліся пра іх: паклікаў маладога грэцца разам на печы. Той з неахвотаю падаўся, сцягнуў з ног боты.

Маці паднялася з-за стала, узяла з паліцы гліняную місачку, адліла ў яе з вялікай місы саладухі, узяла пару бульбін і пайшла да печы. Стары пазіраў на гэта са спакоем, нават неяк з журботаю, а вочы маладога, здаецца, успыхнулі, заўсміхаліся. Ён не мог стрымацца і раз за разам каўтаў сліну. Вочы яго пазіралі толькі на гэтую няпоўную міску, дзе была рэдкая і кіслая саладуха.

— Не трэба, пані,— падняў галаву, сам каўтнуў сліну стары немец,— вам самім няма чаго, не тое што нам яшчэ... Нас жа кормяць у лагеры, мы ўжо цёплай вады з травою напіліся б ды пагрэліся б. І на тым дзякуй вам вялікае...

— Пасёрбайце,— сказала маці.

— І ў вас, пані, і ў людзей вашых добрае сэрца...— прамовіў стары, беручы ў рукі міску і бульбіны.— Ён, малы, яшчэ не бачыў гэтага, як не бачаць і каторыя старэйшыя, кажуць, што цяпер нам помсціць будуць...

— Вы гаворыце пра нашу помсту ды злосць...— азваўся бацька.— Каб вы прыйшлі не з вінтоўкамі, не біць ды паліць нас, а прыйшлі ў госці, па-добраму, дык мы б вас і пакармілі і напаілі б... І песні разам паспявалі б. А так — якая нам радасць ад вас? Гора ды бяда толькі...

— Так, пан, так,— са згодаю заківаў галавою стары, перавярнуў на трубе анучы, якія пачалі падгараць.

У хаце запахла гарэлаю адзежынаю. Даўка было і ад жалезнай трубы, што пахла не па-цаглянаму мякка і ўтульна, як пліта, а дыхала па-свойму — суха і дзярката. Трубу гэтую маці штотыдня бяліла мелам, але бель адразу, як толькі труба награвалася, рудзела, а праз дзень-другі і адвальвалася.

— Можна, пані, я вазьму самавар? — стары аддаў міску і бульбіны падлетку, а сам злез з печы.

— Бярыце,— адказала маці.

— Дзякую,—прамовіў ён і босы пайшоў па халоднай гліне да парога, наліў з вядра ў «самавар» — невялікі пусты снарадны патрон — вады і паставіў яго, адкінуўшы ўбок верхні маленькі кружочак, на пліту, зноў палез на печ.

У гэтым «самавары» грэла сабе гарбату і маці. Гарбата гэтая, праўда, вельмі доўга пахла жалезам і порахам, але цяпер «самавар» добра абварыўся і больш пе гаркавіў вады.

Калі вада закіпела, стары ўзяў з кішэні свайго шыняля загорнуты ў сінюю анучку скрутачак, разгарнуў яго. У ім была нейкая сухая рыжая трава. Ён адарваў ад пучка некалькі лапак, разламаў іх і апусціў у вар. Тады дастаў з кішэні пінжака-мундзіра маленькую шкляную бутэльку, заткнутую гумовым коркам, адкаркаваў яе і высыпаў на далопь белых «пігулак» — сахарыну.

Стары трымаў сахарын на далоні і чакаў, пакуль высербае саладуху малады і калі настоіцца навар. Малады немец трымаў у руках міску, бульбіны, еў і стараўся не выпусціць з лыжкі ніводнай кропелькі. Калі нёс лыжку да рота, дык пад яе падстаўляў далонь і кропельку, што падала на яе, адразу ж злізваў.

Казік ужо здаволіўся, стаміўся сёрбаць, хоць і адчуваў, што не вельмі прагнаў голад. Поўны жывот, бурчыць у ім, але есці ўсё роўна хочацца.

Пачакаўшы, калі вада ў «самавары» пачала бурачковіцца, стары адліў з яго настою ў кубак, укінуў сахарыну, размяшаў лыжачкаю. Заплюшчваў вочы, бо кубак пёк рукі, а вада — рот, але піў маленькімі глыткамі, гучна, на ўсю хату, сёрбаючы.

— Сахарын блага на вочы,— гаварыў ён,— але гарачае надта добра для здароўя. І трава гэтая, маліннік, добра. У вас надта многа

ўсякіх ягад ды траў, грыбоў. У вас усяго многа, вы надта багатыя на ўсё — на лес, на ваду, на сена, на поле... Толькі мір вам трэба, рукі ды машыны... Некалі вы будзеце добра жыць...

Малады немец, апаражніўшы амаль усю міску, толькі тады прыпыніўся сёрбаць, падсунуў яе старому, падаў яму паўбульбіны.

— Еш сам, хлопец,— махнуў той рукою,— табе трэба расці, дык і есці трэба болей. А я стары... Дзякуй во добрым людзям...— далей ён, павярнуўшыся да маладога, пачаў гаварыць нешта па-свойму — малады пазіраў на яго, услухоўваўся.

Казіку і бацьку маці наліла гарбаты, настоенай з сушаных чарніц: яна заўсёды, калі ядуць саладуху, робіць навар з чорных ягад — каб не балеў жывот. Казік і бацька пачалі сёрбаць гарачую чарнаватую, зусім не салодкую ваду, а маці паставіла на падаконнік астуджвацца свой кубак і ўзялася выціраць стол.

Падлетак слухаў ды слухаў старога, а пасля хутка злез з печы, з сорамам падышоў да маці, злавіў яе правую мокрую руку і прыпаў да яе вуснамі.

— Данкэ шэн, гнэдыгэ фраў...— прашаптаў ён, пазіраў на маці з вялікаю падзякаю, як яна ўсё роўна выратавала яго ад смерці.— Данкэ шэн!..[12]

— Не трэба так...— засаромелася, аж успыхнула чырванню маці і выхапіла руку, схавала яе за спіну.— Не трэба...

Падлетак збянтэжыўся, вярнуўся на печ, да старога, які адліў з «самавара» яшчэ вады, падсаладзіў, пачаў піць. Стары яшчэ нешта доўга па-свойму гаварыў маладому, той з увагаго слухаў і пазіраў на Казіка і на яго бацьку. І сёння, здаецца, нічога не было ў гэтым позірку спалоханага і дзікаватага, а ён, гэты позірк, выдаваў звычайным дзіцячым позіркам.

...На дварэ, падняўшыся над лесам, бліснула вялікае чырванаватае сонца, ружова і калюча засвяціла ў аброслыя намаразззю вокны, і ад яго святла відаць было, як плыве па хаце дробненькі залацісты пыл, кратаецца цёплае паветра ля пліты. Гэтае позняе сакавіцкае сонца было яшчэ халоднае, бо рана было яму яшчэ быць цёплым за доўгую сцюдзёную зіму, не грэла праз цёмныя шыбы, праз стылае, астуджанае паветра, але раз паказалася, адчулася, дык пара ішла да цяпла...

*1974-1977*

---

[12] Шчыра дзякую, ласкавая пані... Вялікае дзякуй! (ням.)

## АДА

У пачатку снежня стаіліся, зацiхлi дажджы, неба пасвятлела, выяснiлася i калюча запальвала далёкiя маленькiя зоркi. Падзьмулi халодныя сухiя вятры, пацiснулi марозiкам: вада (а яе шмат налiлося за восень) пакрывалася на ноч тонкiм лёдзiкам; начны вецер шумеў не гарэзлiва, як гуляў летам у цёплым лiсцi, а нудна i злосна хiстаў голае голле, прычэплiваўся да адзiнокага ўцалелага лiста, iрваў яго, i той вечарамi адчайна хлiпаў, спяваў развiтальную песню...

Ада душою адчула, што настала часiна, калi ўжо не будзе нi цяпла, нi дажджоў, але не пойдзе яшчэ i снег, яго нагонiць, насыпле, калi аднаго дня знiжэе i пашарэе неба. Але да гэтай белай радасцi было не хутка: зiма апошнiя гады ўсталёўваецца позна, i Ада затрывожылася ад асенняй нудоты, суму; вечарамi яна падоўгу пазiрала ў запацелае, ужо даўно закiтаванае акно, на чырвоныя ягады за дубэльтамi i бачыла ў глыбiнi толькi сябе, адзiнокую, здаецца, непрыгожую, не па гадах папаўнелую. I страшна было выйсцi на двор, на пякучы холад, ды i не хацелася выходзiць: нiхто яе там не чакаў. I не таму, што яна была ў гэтай вёсцы новы чалавек, нядаўна прыехала рабiць у школу настаўнiцаю, не. Вунь ад Элы i Танi, што, як i яна, толькi пачалi вучыць дзяцей, лiчы, не выбiраюцца хлопцы, ледзь толькi паспеюць прыехаць з горада цi прыйсцi з работы, як бягуць да iх... I Ада, як i ўся вёска, ведала, чаму шчаслiвейшыя тыя дзяўчаты: маладзейшыя, прыгожыя...

Не хацелася iсцi ў клуб, дзе штовечара круцяць знаёмыя пласцiнкi, танцуюць, гуляюць у дамiно цi хлопцы млеюць за хакеем па тэлевiзары, нiколi не дадуць паглядзець кiно. Яна заракалася хадзiць у гэты клуб, на вечары, вяселлi, дзе скачуць, пяюць, шмат жартуюць; яе хлопцы не запрашалi на танцы, не праводзiлi дахаты, на яе толькi ахвотна зыркалi ды абгаворвалi вясковыя языкатыя кабеты. Нават маладыя мужчыны (з iмi дзяўчаты не вельмi хочуць знацца) не падыходзiлi да яе, i яна, адзiнокая, сядзела ў якiм кутку i адчувала сябе лiшняй тут.

Ада бачыла i раней, што яе не чапалi, не пiсалi запiсак аднакласнiкi ў школе, не падалi за ёю ў iнстытуце хлопцы, гаварылi толькi пра кнiгi, экзамены, прасiлi даць перапiсаць канспект. Раней яна не баялася гэтага, але цяпер, калi ёй падбiралася пад трыццаць, яна востра адчула, што яна нямала нечага страцiла i шмат чаго не знайшла ў жыццi. Ёй прыпамiналася, каго яна кахала i каму нiколi не сказала пра гэта, хоць цяпер адчувала, каб прызналася, была смялейшая, можа, была б шчаслiвейшая...

Ада позна сядзела вечарамі, правярала сшыткі, пісала вялікія планы, хадзіла на ферму чытаць лекцыі, складала сваім сяброўкам доўгія лісты, чытала ўсе газеты, аднойчы нават сама напісала ў газету пра тое, як трэба цяпер кахаць. Але не надрукавалі, толькі падзякавалі з рэдакцыі за ліст, папрасілі напісаць пра тутэйшы калгас, пра калгаснікаў, пра моладзь і іхнюю працу, але Ада не пісала ды баялася: прыедзе яшчэ журналіст, зірне на яе ды скажа: мілая, табе, такой маладусе ды красуні, толькі і застаецца пісаць пра шчырасць, дабрыню, сціпласць... Яна часцей стала ўзірацца ў люстэрка і пужацца за маршчынкі ля вачэй, за твар, што не быў ужо такі белы, пяшчотны, як у юнацтве, а пацямнеў і пачаў старэць. Яна востра адчула, што адыходзіць маладосць і спяшаецца, падступаецца сталасць. І гэтага ўжо няможна схаваць, як няможна ўтрымаць цяпло, калі гоняць вятры холад, сівер, прыганяюць, укрываюць снегам, і стаіць тады суцэльная халадэча.

Калі аднойчы яна заўважыла ля скроні сівы волас, дык зусім растрывожылася, задумалася, што будзе з ёю далей, а ўночы ціха плакала, хоць і плакаць не вельмі хацелася, было толькі страшнавата.

...Растрывожыў яе сусед Пеця, высокі, прыгожы, які гэтай восенню вярнуўся з войска. Прыйшоў ён, як помніцца, у чацвер, быў такі сур'ёзны, як і яна, сарамлівы, негаваркі і спадабаўся ёй. Ён называў яе Адай Іванаўнай, хоць яна і прасіла быць прасцейшым, клікаць Адай,спрабавала жартаваць з ім.

Прыйшоў Пеця і ў пятніцу: яна нават не паспела пераапрануцца, паправіць прычоску. Цэлы вечар ён расказваў пра войска, калі змаўкаў, тады Ада паказвала яму свой студэнцкі альбом, сшыткі дзяцей, расказвала, як яны не хочуць вучыць алгебру і геаметрыю, пасля яны хадзілі ў кіно, хоць яна і абяцала сабе не хадзіць болей у клуб.

Назаўтра раніцай, калі Ада яшчэ спала, прыбегла Пецева маці і пачала шаптацца з гаспадыняй.

— Учора позна наш вярнуўся,— расказвала суседка,— спытала сёння, дзе быў, сказаў, што ў кіно з вашай настаўніцай хадзіў.

— І наша позна вярнулася,— сказала гаспадыня.— Была такая вясёлая, аж я парадавалася, падумала: маё ты дзіця, хай бы пашчасліліла табе. І добрая і разумная, але вось не надарыцца добры чалавек... Можа, з тваім як згаворацца...

«Як яны, вясковыя кабеты, усё бачаць»,— здзівілася Ада.

— А колькі яна палучае?

— Ды лэпска,— сказала гаспадыня,— цяпер дабавілі яшч, дык на кніжку паўзарплаты носіць.

— Хай бы жылі,— згадзілася госця,— кароўку, свінню, курэй дадзім. Ён можа шафёрам рабіць, у дом саўгасны могуць пайсці, калі з намі жыць не захочуць. Цяпер дзеці з бацькамі не заўсёды ўжываюцца.

— Чаму ж не, жыць можна,— сказала гаспадыня.— Цяпер становіцца на ногі лягчэй, як некалі.

— Дзеўка яна сталая,— гаварыла госця,— з дыпломам, пры добрых, як ты кажаш, грошах. Толькі вось крыху паўнаватая для нашага Пеці і старэйшая.

— Гэта не бяда,— сказала гаспадыня,— затое жыць умее: сталая, сур'ёзная, працавітая.

— Яно так. Я таксама старэйшая за свайго Міколу, паўнейшая,— госця стала гаварыць цішэй,— ты ж, Алена, пагавары з ёю як-небудзь пра гэта, распытай, ці пойдзе за нашага хлопца.

— Добра. Пагаманю.

Ада заплюшчыла вочы і накрыла галаву коўдрай, ёй стала сорамна, што вось так гаворац пра яе, робяць па-даўнейшаму, што да яе па-вясковаму прыйдуць у сваты, а ёй неяк няёмка і сорамна напісаць бацькам, што ў Пеці толькі восем класаў.

Яна не ўзрадавалася, не пашчаслівела, бо думала, што гэта ўсё не так, як у іншых дзяўчат. Пасля падумала: ці варта ў яе гады спадзявацца на ўзвышанае пачуццё, жыць выдумкаю? У жыцці яно, мусіць, усё прасцей і цвярозей. Яна часамі не бачыць гэта — таму і не ўладкаваная яшчэ.

...У школе, відаць, пра ўсё ведалі: на яе, усміхаючыся, пазіралі настаўнікі, калі выходзіла на калідор, відаць, гаварылі пра яе. Пачала загаворваць з ёю і гаспадыня, хваліць Пецю.

Пеця ў суботу не прыйшоў. Ада палічыла, што ён стрымліваецца, думае, калі ўжо прыйдзе, то і папросіць яе выйсці за яго замуж. Калі ж яго не было і ў нядзелю, яна захвалявалася, засмуцілася, што не пакахае яе Пеця, пабяжыць маладзейшых шукаць.

Гаспадыня, мусіць, угадала, што Ада пакутуе, заспакоіла, што сусед паехаў у горад купляць сабе касцюм.

Назаўтра Ада, калі ішла са школы, убачыла Пецю ў новым касцюме. Сусед стаяў з сябрукамі ля магазіна і курыў. Яна прывіталася і, не азіраючыся, падалася дамоў.

— Твая? — пачула яна.

— Ай,— сказаў Пеця,— яна такая ж цікавая, як і яе алгебра.

Хлопцы пырснулі смехам, яшчэ штосьці сказалі, але яна не пачула, прыспешыла крок. У галаве яе стукала, звінела.

«Пустадомкі вы! Вам яшчэ далёка да мяне з маёй матэматыкай»,— суцешыла сябе, пайшла спакойней, але не вытрымала і заплакала.

...Зіма па-ранейшаму стаяла бясснежная. Увесь снежань плыло нізкае шэрае неба, па-асенняму цабанілі дажджы. Лінула было ў адзін дзень шэрай вадзяной хлюпанкай, паляжала яна колькі хвілін на цёплых стрэхах і знікла.

У самым канцы снежня высокае і светлае стала неба, густа высыпалася ноччу зоркамі — цяпло згарнулася, узяўся іней і ўбяліў зямлю. Вада высушылася, выдзьмулася, схапілася лядком. Зямля стала цвёрдая і звонкая, гулі на моцныя маразы драты, але зімы, снежнай, з гарэзнымі, шалёнымі мяцеліцамі, не было.

Адзе зноў было адзінока, сумна і холадна на душы, яна нават здзіўлялася, чаму так нервуецца, злуецца часта на дзяцей. Яна чакала снегу, надумалася: настане снежная пара — штосьці новае, блізкае і радаснае народзіцца ў яе душы, і сама яна стане весялейшая, убачыць тое, чаго дасюль не магла разгледзець. Тады больш ахвотней і радасней здасца работа, лягчэй будзе пераносіць кпіны фізіка і літаратара, маладых жанатых настаўнікаў: яны ўвесь час пацвельваліся з яе, жартавалі, што ёй трэба выходзіць замуж — усю яе нудоту як рукой здыме. «Можна быць нешчаслівай з мужам, але нельга быць шчаслівай без мужа»,— гаварылі яны.

«Вой, вельмі!» — адмахвалася Ада, але адчувала, што ёй тут больш не варта заставацца, варта паехаць адсюль і папрасіцца ў другую школу.

Так думала яна, пакуль зноў не прыйшоў Пецяя. Аднойчы ён дагнаў яе па дарозе ў школу і сказаў, што будзе вечарам, ля шасці гадзін, чакаць яе за школьным садам.

«Я ж такая цікавая, як мая алгебра...» — хацела папракнуць яна, але не паспела: Пецяя абмінуў яе і хутка-хутка пайшоў, не аглядаючыся.

«Што гэта з ім? — здзівілася яна.— Можа, ён тады толькі пажартаваў? Можа, ён калі не кахае, дык хоць захапіўся мною?»

Дома Ада падышла да люстэрка. Зірнула ў яго — і прыпынілася: якая яна поўная, мажная, як замужняя кабета.

«Трэба меней есці,— падумала,— я павінна пахудзець і пастрайнець».

Яна, галодная, вярнулася ў свой пакойчык, падумала пра Пецю. Пасля прылегла, але заснуць не магла, пазірала ў акно, на аб'інелы двор. Снегу там яшчэ не было, але платы, вецце так намерзлі, што былі белыя, як студзенем у вялікі мароз.

Звечарэла. Хоць і да шасці было яшчэ далёка, але неба ўжо выцемнілася, стала густа-шэрае, і ў ім не бачылася ні сонца, ні светлай палоскі ад яго. У гэты час Ада звычайна садзілася правяраць сшыткі, але сёння за іх не ўзялася.

Сёння, мусіць, Пеця, нечакана надумала яна, захоча пацалаваць яе, але трэба яму не дазволіць, сказаць: «Няхораша вы тады сказалі» ці «Пацяшаць сяброў абразамі другіх несумленна». Яна паднялася, доўга вычэсвалася і круцілася ля люстэрка.

«Не трэба так гаварыць,— перадумала яна.— Лепш памаўчаць. Але, божа мой, якая я непрыгожая! Лепш у мяне розуму напалавіну менш было б, а красы ўдвая болей... Можа, добра, што хоць Пеця звярнуў на мяне ўвагу...»

Яна яшчэ падумала, ці можна дазволіць Пецю пацалаваць яе, пра што яны будуць гаварыць. Што ён невывучаны — не бяда, яна паможа яму паступіць у які тэхнікум.

Ада апранула лепшую сукенку, новае паліто і, хвалюючыся, выйшла з хаты, пайшла хутка, каб ніхто не мог убачыць яе.

Супакоілася толькі за вёскай, суцішыла крок. Яе дагнаў на веласіпедзе школьнік, пазваніў, але, пазнаўшы, аб'ехаў, хітра ўсміхнуўся, як усё ведаў, і панёсся віхрам наперад па дарозе.

Сцямнела; Ада ўзіралася і старалася разгледзець сярод слупоў, ствалоў дрэў чалавека. Мусіць, і не ўбачыла б, каб не іскры ад цыгарэты. Калі яна падышла на агеньчык, чалавек кінуў недакурак на зямлю — ускінуліся іскры.

Гэта быў Пеця; цяпер ён нервова таптаўся, прыкурваў новую цыгарэту.

«Ён таксама, мусіць, такі смяльчак, як і я».

Ада падышла і нічога не сказала, падумала: няхай загаворыць ён; зняла з рук рукавіцы, паправіла хустку на галаве.

— Ада Іванаўна,— сапраўды першы загаварыў Пеця,— у вёсцы ўсе гавораць, і маці мая хоча... Але лепш вы пачытайце...— і ён хутка дастаў з кішэні паперку і падаў ёй.

Ада захвалявалася, ведала, што гэта прызнанне ў каханні, хацела сказаць, што цёмна, але Пеця дастаў з кішэні ліхтарык і пасвяціў ёй. Яна пачала чытаць і бачыла, як ён непісьменна піша; ірвануў халодны вецер, працяў яе, ажно ў яе пакацілася сляза. А можа, яна і заплакала, бо не дачытала гэтага ліста — нечакана зашумела ў галаве, забалелі скроні: у Пеці, выходзіць, была дзяўчына, і ён сябраваў з ёю колькі гадоў, пісаў з войска, і гэтая Таня ўвесь час пісала яму.

— Што вы, Пеця,— Ада ніяк не магла знайсці патрэбных слоў,— ні ваша Таня, ні вы не павінны адчуваць перада мною ніякай сарам-

лівасці і маральнага абавязку,— пасля яна адчула, што не тое гаворыць.— Гэта вам трэба перад Таняй апраўдвацца, а не перада мною...

Пеця стаяў і маўчаў.

— Ідзіце цяпер да яе і супакойце,— сказала Ада, захінулася хусткаю ад ветру, што калюча біў у твар, слязіў вочы, але яна старалася не заплакаць. Пасля адчула, што слёз не было, вырываўся толькі боль, яна адкінула на спіну галаву, чула, як апякае шыю холад. Адплюшчыўшы вочы, заўважыла: на небе высвецілася маленькая ранняя зорка і адзінока замігцела ў далёкім небе.

«Ёй там, у небе, гэтак жа, мусіць, холадна, як і мне цяпер тут, на зямлі?»

Пахадзіла за вёскаю, паслухала, як шуміць вецер, парыпвае частакол, рыпяць недзе далека вароты. Паглядзела, як знаёмая кабета скубла са стога сена, скубла і прыпынялася, дзьмула сабе на адубянелыя рукі. Дома Ада не правярала сшыткаў, не пісала планаў: рашыла быць такой, як ёсць. Пасля напісала на імя дырэктара заяву, прасілася адпусціць яе са школы. Яна не ведала, куды паедзе, дзе будзе рабіць, але рашыла выехаць з гэтай вёскі.

Назаўтра дырэктар чытаў яе заяву і здзіўляўся:

— Чаму, Ада Іванаўна? Хто вас пакрыўдзіў?

— Ніхто мяне не крыўдзіў,— адказала яна.

— Паслухайце,— сказаў дырэктар,— дзе вы ў нашым раёне знойдзеце лепшую школу? Да горада блізенька, умовы працаваць выдатныя, гадзін, зарплаты павінна ж хапаць. Што вам у нас не спадабалася?

«Усё гэта добра,— падумала яна,— але ж я не толькі настаўнік, але і чалавек, дзяўчына... А гэтага ў заяве не напішаш».

— Падумайце яшчэ, Ада Іванаўна,— гаварыў дырэктар,— мы вас можам адпусціць, але не зможам затым назад узяць. Хоць хто будзе вучыць дзяцей, пакуль каго на ваша месца знойдуць?

Ада маўчала.

— Мы да вас прывыклі, Ада Іванаўна,— падышоў да яе дырэктар, усміхнуўся,— і дзеці, бацькі іх вас любяць і паважаюць. Вы тут патрэбны чалавек. Неўзабаве калгас у новым доме дасць вам кватэру, купіце сабе «Масквіч»... Праз год пяць мы вас заслужанай настаўніцай зробім... Чаго вам яшчэ лепшага шукаць, хацець?!

Ада не ўтрымалася і ўсміхнулася: так заспакойваюць маленькіх дзяцей, расказваючы ім «добрыя» казкі. Нечакана яна (аж дырэктар здзівіўся) падалася да акна, за ім было шэра, нават цемнавата: навісла густое неба. Яно цямнела, а пасля пачало выбельвацца. Ада аж

скаланулася: на дварэ ціха і павольна сыпаўся сухі лёгкі сняжок, якога яна столькі чакала.

Прыціх вецер, пакінуў у спакоі адзінокі лісток, які дасюль хістаў, ірваў з клёна, але так і не сарваў і не зразумеў упартасці ці жывучасці лістка. Вецер збег, каб вярнуцца ўжо са злымі мяцеліцамі.

Зямля ўвачавідкі рабілася белая: яна стала ўжо халодная, выдзьмутая вятрамі, змацаваная лёдам і не магла распусціць снег і нарабіць хлёпанкі — ужо доўга, да вясны, будзе на зямлі снежна, чыста і бела.

1971, 1973

## ПОМНІК НА ЎЗГОРКУ

Лявончык, задумаўшыся, сек каля дрывотні галлё. На хвілінку запыніўся, каб адпачыць, зірнуў на блізкую сценку: тудою шпарка, угнуўшы галаву, ехаў на веласіпедзе Рыгор Бурак. Да рамы было прывязана кассе, да багажніка прымайстравана загорнутая ў анучку каса.

«Паехаў выбіваць нагледжаную лапінку травы»,— падумаў Лявончык. Пазайздросціў, што Бурак старэйшы, але гэткі яшчэ рухавы, дужы. Лічы, два тыдні былі на сенакосе, на Шубіне, касілі, пераварочвалі, грэблі, стагавалі сена, млелі ад спякоты, смагі ды ад аваднёў і камароў, толькі сёння вярнуліся дадому — а ён, бачыш, зноў за касу. Праўда, і ён, Лявончык, не песціўся на ложку, але ўсё роўна аж паківаў галавою: ну, Бурак! Жылісты яшчэ, стары корч! Спраўнейшы нават за некаторых маладых.

Падумаў гэтак і захваляваўся. А што, калі Бурак падаўся ў яго норцік? Кожны гаспадар з вёскі мае ў лесе, у кустах ці каля рэчкі невялікі лапік, які па няпісанаму закону лічыцца толькі яго. Лявончык спрадвеку выкошваў Ярылаў норт. Але сёння гэты Бурак можа ўплішчыцца туды. Ён, бадай, болей за ўсіх з вёскі не любіць Лявончыка, зычыць яму толькі бяды і ліха. Можа, яшчэ і больш за Салавейчыкаву Ганну, хоць тая ўвогуле ні з ім, ні з жонкаю не гаворыць. Няпрыязь іхняя даўняя, яшчэ з маладых гадоў. З вайны.

«Пабягу і я,— сцепануўся і ажывіўся Лявончык,— закашу свой норт. Тады ўжо ні Бурак, ні іншы хто не ўлезе».

Ён усадзіў у калоду сякеру і падаўся ў дрывотню па касу і брусок.

Калі хуценька трусіў да дарогі, запыніла жонка. Яна збірала з бульбоўніку, што ўжо лашчыў вочы белымі, чырвона-фіялетавымі і сінімі кветкамі, каларадскіх жукоў. Падняла галаву, зірнула на яго са здзіўленнем.

— Ты куды? Паляжаў бы...

Ён зірнуў на яе, невысокую, худую, быццам невылечна хворую, з выцвілымі вачыма, і нічога не сказаў. Бо і цяпер убачыў у яе позірку не толькі спачуванне, але і затоены боль, нават пакуту — за яго некалішнюю памылку, Гэтая памылка каменем ляжыць на яго і яе сэрцы.

— Прыйдзе час — наляжуся...— буркнуў, калі мінаў яе.

Жонка нічога больш не прамовіла, здаецца, з жалем пазірала, як ён ідзе — цяжка, прыгорбіўшыся, без ранейшай жвавасці, хоць і вымагаецца з усіх сіл здавацца бадзёрым. Сёння яго крануў гэты спачувальны жончын позірк, бо дабрыня, пяшчота заўсёды дарагія, але ён не ведаў, як аддзячыць. Не ўмеў, нават асцерагаўся гаварыць жонцы цёплыя словы. Больш бурчаў, злаваўся, чым быў ласкавы. І дзяцей не вельмі атуляў увагаю, любоўю.

Адчуваў: зараз, пад старасць, за ўсё гэта трэба дорага плаціць. Хочацца і мець ласку, і самому быць ласкавым. Не выходзіць такое, простае, чалавечае, і ў гэткія гады — значыць, неяк не так, як трэба, ты, чалавек, жывеш, не тое робіш.

Узбоч бульбянога поля, на поплаўчыку, бегаў, ловячы белага матыля, унук Пецька. За летні месяц, што пабыў у іх, паправіўся. Знікла з твару нездаровая белізна, заявілася ружовасць, падужэў і набраў моцы, як маладое дрэўца на добрай зямлі.

— Дзед, ты куды? — падбег. Патрусіў побач. Сёмы годзік хлопцу, але высакаваты — яму ўжо вунь па грудзіну. Чорныя што смоль валасы, вочы. Увесь у бацьку.

— Далёка,— усміхнуўся. Перад унукам, якога пакінуў бацька, не мог быць строгі.

— І я хачу з табою,— папрасіўся Пецька.

— Босы? Без маечкі? — запытаў з мяккім дакорам.— Там цябе авадні скусаюць, змяя цне. Прыедзе ў суботу маці, захоча ўбачыць свайго аднаго-адненькага сыночка — а Пецька хворы... Дык яна ж тады дзеда і бабу з хаты выгане... Ідзі лепш у сад, парэчак спелых пашукай ці трускавак.

Пажартаваў, прытуліў унука — той прыхінуўся, з мальбою пазіраў у вочы. Не памятаючы бацькі, не ведаючы мужчынскай ласкі, цягнецца да дзеда. За ім — як нітка за іголкаю.

Пазіраючы ў вялікія і глыбокія ўнукавы вочы, Лявончык зноў сумеўся. А раптам і ў іх хутка заявіцца папрок? Родныя дзеці гэтаксама некалі цягнуліся да яго, надта сыны, але пасля, калі пасталелі, пайшлі ў людзі і пабачылі свет, не толькі зчужэлі, папікалі за мінулае, а і адвярнуліся...

— Застанься дома, унучак,— папрасіў.— Я хутка вярнуся. Заўтра ўжо вазьму з сабою. Паедзем на коніку ў лес па галлё.

Пецька паслухаў, адстаў. А Лявончык зірнуў туды-сюды, ці не ідзе хто па дарозе, і прыспешыў крок. Не хацеў ні з кім сустракацца. У апошнія гады ён наогул любіў хадзіць і працаваць адзін, чужаніўся людзей, гулянак, стараўся не пазіраць нікому ў вочы. І людзі абыходзілі яго і жонку, не запрашалі на вяселлі ці хрэсьбіны, не прыходзілі ў пазыкі. Гэтая пагарда, абыякавасць, канечне, не былі без дай прычыны, але зусім забівалі яго дух.

На пыльнай сцежцы ляжалі шматкі перапаленага на сонцы, згубленага з вазоў сена. Самыя буйныя Лявончык падабраў і панёс з сабою.

З высокага, забеленага воблакамі неба скочвалася сонца. Гарачыня спала, але ў паветры ўсё роўна адчувалася спякота. Відаць, на днях зноў, як і перад паездкай на Шубін, павінна адшугаць навальніца.

Адчуваючы напружанне, Лявончык закрочыў хутчэй. Міжволі, як і заўсёды, захацелася прайсці, мінуць выган за вёскай. Але зноў жа міжволі, як і раней, зірнуў направа, на ўзгорак, дзе стаяў помнік.

Высокі шэры абеліск, з чырвонаю зоркаю наверсе, з выбітымі прозвішчамі загінулых вяскоўцаў, узвышаўся ў невялікім зялёным скверыку, які некалькі гадоў таму пасадзілі школьнікі. Некалі тут, у яміне, навек палеглі партызанскія сем'і...

...Тады гэтаксама быў чэрвень. Тры немцы, два паліцэйскія і Лявончык гналі да Глінішча Адама Салавейчыка, яго жонку, унукаў і сям'ю Рыгора Бурака.

У Глінішчах былі глыбокія ямы, тут звычайна кожны год капалі гліну і мел.

Людзей вялі расстрэльваць.

Кабеты галасілі, прасілі ў канваіраў літасці. Малілі заступіцца за іх і яго, хоць ён нічым не мог ім памагчы.

Людзей паставілі ў рад каля свежай глыбокай яміны. Начальнік-немец, высокі рабацiнiсты афіцэр, зачытаў загад. Чытаючы, афіцэр то падымаў за бліскучы брыль фуражку на галаве, то апускаў і пасля трымаўся за жоўтую дзягу альбо, прыпаднімаючыся на дыбачках, ляпаў па жоўтай кабуры. Ён, як казалі, не толькі камандаваў расстрэламі партызанскіх сем'яў, але і сам меў ахвоту страляць у патыліцу. Калі заяўляўся ў якой-небудзь вёсцы, разам з ім туды прыходзіла і смерць.

Калі перакладчык, рыжы вайсковец, перателумачыў загад, людзей змусілі павярнуцца тварам да ямы. Лявончык, стоячы каля паліцэйскіх, чакаў, што неяк усё абыдзецца ціха, не будуць расстрэльваць яго аднавяскоўцаў — толькі напалохаюць. Але бачачы, як рабацiнiсты расшпільвае жоўтую кабуру і дастае зброю, адчуў: не, не абыдзецца,

загубяць людзей. Ад гэтага адчування аж задрыжалі яго калені ды закалаціліся рукі: як гэта страляць у сваіх людзей?

Пачулася каманда — усе паднялі карабіны. Ён — таксама. Першы стрэліў рабацiнiсты — тут жа кулём паляцеў у яму Адам Салавейчык. Лічы, у гэтую ж самую хвіліну афіцэр зноў нешта крыкнуў — пальнулі з карабінаў астатнія немцы і паліцэйскія.

Дзеці пападалі — хто ў яміну, хто тут, на абрыўку. Адамава нявестка, Ганна, хіснулася, але ўстояла і, нечакана павярнуўшыся, закрычала:

— Звяры! Душагубы! Дзетачак — за што?..

Хтосьці яшчэ стрэліў — і Ганна кульнулася ў яміну.

— А ты чаго не страляеш? — раўнуў над самым вухам Лявончыка старэйшы паліцэйскі, Стась Найдзён з Пільніцы — адпеты п'яніца і рабаўнік.— Шкадуеш бальшвіцкае семя?

Ля яміны ніхто ўжо не стаяў, але Лявончык не то ад страху, не то ад адчаю схамянуўся і, не цэлячыся, пальнуў з карабіна ў паветра...

З аднавяскоўцаў, якіх пабілі і закапалі ў той дзень, усё ж выжыў адзін чалавек. Увечар, акрыяўшы, выпаўзла з-пад пяску Ганна. І яна, і іншыя сведкі пазней, пасля вайны, прызналі на судзе, што Лявончык не страляў у людзей. Суд узяў гэта пад увагу, змякчыў кару, але зусім не апраўдаў. За тое, што быў у «самаахове», хаўрусаваўся з акупантамі і здраднікамі, даў сем гадоў турмы. І ўсё ж тое пакаранне было не самае страшнае, страшнейшае, як аказалася, было іншае — Ганніна, Рыгорава, усёй вёскі, а таксама сваё асабістае... Колькі ён папакляў ужо, што паслухаў паганага чалавека, уцягнуўся ў тую «самаахову», павёў разам з забойцамі ў той страшны дзень людзей да Глінішча. Апрача яго ў «самаахове» было яшчэ некалькі мужчын з вёскі, але яны здолелі схавацца тады, калі наляцелі карнікі. Ім людзі не помсцілі, а яго «ўслужлівага», зненавідзелі. І, што ні кажы, за вяскоўцамі праўда, а не за ім...

На тым месцы, дзе некалі загінулі вяскоўцы, паставілі помнік. Лявончык тады быў ужо дома, працаваў конюхам. Усе на яго пазіралі спадылба, некаторыя нават не віталіся. З-за гэтага яго сыны і дочкі, як толькі пасталелі, пакінулі вёску, родную хату і мала тут паказваюцца. Апроч меншай, якая засталася без мужа і кожнае лета прывозіць ім Пецьку.

Помнік гэты — вечны яму дакор. Куды ні ехаў, адкуль ні вяртаўся дадому, найперш бачыў яго. Толькі абмацвае вяршочак з зорачкаю вока, дык адразу ўсё ажывае ў памяці...

Лявончык разуўся, перайшоў рэчку, падаўся да старой сажалкі. Паблізу быў намошчаны з галля пераход, і па ім, падсохлым, зляжалым, увайшоў у аслонены альхою і густой асакой норт.

Трава стаяла цэлая. Ніхто яе не чапаў. Лявончык абуў сандалі, памянташыў касу, з радасным заміраннем сэрца зірнуў на высокую і густую мятліцу, па-гаспадарску прыкінуў, што павінен згрэбці тут не менш добрага калесніка.

Шахкала каса, спрытна рэзалася і збівалася ў пракос трава. Ён касіў і ўсё больш уваходзіў у асалоду касцовай, гаспадарскай працы, бо любіў работу і ў рабоце заўсёды знаходзіў суцяшэнне.

Нечакана каса, што рэдка здаралася ў яго, урэзалася ў вырыты кратом грудок. Ён асцярожна выцягнуў касу, узяў пучок сырой травы і выцер лязо. Толькі думаў узяцца за мянташку, як пачуў чалавечы голас.

Ад нечаканасці аж сцепануўся. Хто і чаго ідзе? Прысеў, прыслухаўся: нехта набліжаўся якраз сюды, да Ярылавага норта. І не адзін. Здаецца, ішло двое. Мужчына і кабета. Але як ні ўзіраўся скрозь густыя кусты, што асланялі і норт і рэчку, нікога не ўбачыў.

— Во тут ён косіць...— добра пачуў жаночы голас. Голас Ганны Салавейчык.

Мужчына прамаўчаў, а Ганна ўсё гаманіла:

— Яшчэ ніхто сабе не косіць, а ён прыпёрся ўжо, без дазволу пляжыць. Нядрэмны ўрвіцель. Усюды паперадзе ўсіх лезе...

— Ды якая там трава! — пачуўся мужчынскі голас. Брыгадзіраў. Яго, навучэнца сельгасінстытута, часова паставілі ў іхняй вёсцы за брыгадзіра.— Я нядаўна быў з аграномам у тым норце, калі выбіралі для вёскі дзялкі, дык сам усё бачыў. Капы дзве-тры будзе таго сена, не больш.

— За ім нічога не ўлежыць, не ўстоіць,— нападала Ганна.— Усюды дападзе, усё падбярэ.

— Можа, і дарэмна вы ўжо так, цётка Ганна,— прамовіў брыгадзір.— На пенсіі ўжо, але на калгасную работу ходзіць. Куды ні папрасі пайсці — пойдзе. І зробіць усё добра, спраўна.

— Замольвае свае грахі...— сказала Ганна. Здаецца, спынілася. Каля рэчкі.— А душа ў яго чорная, паганая. Кроў людская на ім...

— Пра тое я не ведаю, цётка. Ад людзей чуў, што ён не ў паліцыі, а толькі ў «самаахове» быў і крыві нічыёй не праліў...

— А чаго пёрся ў тую «самаахову»? Іншыя не пайшлі, а ён пайшоў. Бо хацеў паддобрыцца, выгоду мець...

— Я тут у вас новы чалавек, але бачу: як пад зямлёю ходзіць.

— Так яму і трэба, сабаку,— злосна сказала Ганна.— Я сваімі рукамі задушыла б, каб вясёлы быў...— Усхліпнула.— Дзяцей жа маіх першанькіх няма... Вам ён добры работнік, а для мяне...

Замаўчала. Відаць, плакала.

— Кажуць, у «самаахову» тую трапіў па маладой дурноце...

— Раз быў з імі, дык і вінаваты,— перапыніла Ганна.— Былі б жывыя мае дзеці, дык, можа, быў бы і невінаваты... Але ж, кажу, дзяцей маіх няма. Як няма і яшчэ каторых людзей з вёскі.

— Ох, вайна гэтая! — уздыхнуў брыгадзір.— Чаго яна толькі не нарабіла... Колькі яшчэ і цяпер ран ды пакут ад яе!

Галасы аддаліліся.

Лявончык падняўся, адчуў: дрыжаць і ногі і рукі, балюча заныла сэрца, нібы шпількаю кальнула пад лапаткаю.

Больш не касіў. І ахвоты не было, і раптоўна аслабеў. Зноў разуўся, перайшоў раку і пакіраваўся дадому.

Мінуўшы сенажаць, а за ёю лес, вымкнуўся на поле, і першае, што ўбачыў, быў высокі, з чырвонай зоркай і з жалезнаю агароджаю помнік...

1970

## МІХАІЛ АПАНАСАВІЧ І КАЦЯ

Конюх Мікола — у старой, выбеленай ад вотруб'я фуфайцы, у падвязанай на патыліцы шапцы-вушанцы, якая ўнізе выпацела, выцерлася аб шыю і была без падкладкі, у гумовых ботах, чырванашчокі — вывеў з цёплай канюшні высокага, белага, з чорнымі плямамі на баках каня, надвёў яго да калёс і паставіў між аглабель.

— Дзякую,— сказаў Міхаіл Апанасавіч, бачачы, што конюх не толькі апускае долу лейцы, але і бярэцца за хамут, які ляжаў ужо на добра падмазаных калёсах.— Я сам запрагу.

— Ды ладна, мы — людзі не ганаровыя, паможам... А то, можа, ўжо і забыўся, як ушчэмліваюць каня ў аглоблі...— пажартаваў вельмі вясёлы сёння Мікола, мігам беручы хамут і нацягваючы яго на задраную ўверх конскую галаву, а пасля пераварочваючы гужамі ўніз.— Станеш гаспадаром у Каці, то на чарку калі заклічаш...

«Хоць крыху і старэйшы я па гадах, але настаўнік пачатковых класаў, а іх не так цэняць, як настаўнікаў старэйшых класаў. Словам, не надта салідны...— падумаў Міхаіл Ананасавіч.— Вось ён так смела і гаворыць са мною, пакеплівае...»

— Чаго маўчыш, як вады ў рот набраў?— як здзівіўся Мікола, папраўляючы пад хамутом конскую грыву, зірнуў, шырока раскрываючы белазубы рот, вышэй і ніжэй якога сінелася густая невялікая шчэць.— Мусіць жа, ужо добра прыгрэўся ля яе? Га? Недарэмна, я табе скажу, зусім недарэмна,— пры гэтым ён хітра прыжмурыў левае вока,— яна ўхапіла цябе ў кватаранты. Нябось хлопца якога маладога ці дзяўчыну не ўзяла, а цябе во, сталага, пад свае гады, так сказаць, прыняла...

— Трэба ж і мне, прыезджаму, недзе жыць...— заступіўся і за сваю маладую, працавітую, што пчала, гаспадыню, і за сябе сарамлівы Міхаіл Апанасавіч,— Так што не трэба абы-што гаварыць на спагадлівую жанчыну...— Прамовіў, накруціў, падкарочваючы, гуж, падняў аглоблю і ўсунуў у гужавую пятлю дугу, другі канец цераз конскую шыю падаў Міколу, які гэтаксама ўжо накруціў гуж, зачапіў ім за дугу, ад чаго клешчы хамута шырока раз'ехаліся.

— Трэба то трэба, гэта ясна...— загуў Мікола, каленам ціснучы ўжо на правы клешч.— Але ж яна — ты толькі не абіжайся,— я табе скажу, ніколі кватарантаў не брала. А гэта ні з таго ні з сяго падахвоцілася... Цяпер, брат, уся вёска гаворыць... І не толькі нашы Міланькі... Не злуй, калі табе гэта не надта будзе наравіцца, але я табе скажу: я добра ведаю, чаго яна хоча... Яшчэ як ведаю, я табе скажу...— ён заматаў ужо на клешчы пасак, завузліў яго, ад чаго дуга зусім сціснулася ды выгнулася.— Часта прыходзіла дагэтуль да мяне то каня папрасіць, то баразну якую разараць... Пашчыплеш у кладоўцы за бакі — дык рагоча, я табе скажу... Вот што я табе скажу, а ты сам кумекай,— бо ў цябе не мая дурная, а разумная галава,— што гэта значыць...

Міхаіл Апанасавіч, ціха тоячы сорам і нават злосць на залішне гаманкога конюха, прамаўчаў, адвязаў ад падсядзёлка кавалак старой сашмараванай ляйчыны — церассядзельнік,— прывязаў да аглоблі, другі канец кінуў цераз конскую спіну на той бок. Там яго перахапіў Мікола, падняў каня.

— Ты не злуйся, калі я замнога лепячу языком...— той паправіў падсядзёлак, а пасля пасак пад конскім жыватом.— Прыставай да яе ў прымы, я табе параю, калі бярэ. Не глядзі надта, што простая баба, а не настаўніца...— сказаў гэта ўжо не з насмешкай, а шчыра.— І маладая яшчэ, імчаць будзе, што воз з гары... І спраўная... За бабу і за мужчыну робіць...— і, бачачы, што яму не адказваюць, запытаў: — Куды паедзеш?

— У лес,— адказаў Міхаіл Апанасавіч.

— Тады не бяры драбін,— сказаў той і сам зняў іх з калёс, паставіў ля пафарбаванай вапнаю драўлянай сцяны канюшні.— Каня не кілзай, а то цуглі вострыя, губы парэжа...— прамовіў, сеў на цагляную прызбу, дастаў з кішэні замусоленую пачку, узяў адну цыгарэціну, пастукаў па далоні, прыпаліў, зацягнуўся і пусціў дым долу, на свае тоўстыя літыя гумовікі.

Міхаіл Апанасавіч, спяшаючыся і саромеючыся Міколавых дапытлівых і смелых позіркаў, хутка падлажыў пад дугу новыя цвёрдыя лейцы, выцягнуў іх, сеў на старой, учарнелай ляжанцы — дзвюх збітых на канцы перакладзінкамі дошках,— на якой сёлета за лета і за гэтую раннюю восень многа чаго паперавозілі, бо відаць была на ёй сухая кара, сена і мох, спусціў ногі і турзануў лейцамі каня.

Прысохлыя калёсы крануліся, для чаго каню прыйшлося крыху напяцца, аж рыпнула тугая дуга.

Міхаіл Апанасавіч ездзіў ужо ў лес не раз. Яшчэ на пачатку верасня прывёз Каці — гаспадыні — сухастою, бярозавага галля, што валялася на працярэбленай нядаўна лініі, пасля прытарабаніў два вазы смаловых карчоў. Цяпер вось ехаў па хваёвыя жэрдкі, якія насек на тым тыдні, каб паставіць яшчэ цяпер, восенню, новы плот.

Каб ён памагаў па гаспадарцы, Каця не прасіла. Але ён бачыў, што пры хаце шмат непаладкаў, і сам стараўся тое-сёе падладзіць. Ды і не мог сядзець без работы.

Школьнай працы было не шмат. Напісаць планы, праверыць дзеткам-другакласнікам сшыткі — і, бадай, усё. А так у вольную хвіліну чытаў ці сядзеў у хаце ля акна і пазіраў на кастрычніцкі двор — на пажаўцелыя бярозы, апалае лісце з якіх ужо зачарнелася пры плоце, пазіраў на дождж, што ці ліў цурком, ці раптоўна заціхаў, або пазіраў і не мог разабрацца, што ж на дварэ, бо часта з раніцы было хмурна, сыра — вісеў мокры цяжкі туман і імжэла дробненькая халодная морась. Гэта быў не дождж, на зямлю не лілося вады, а нешта мокрае нябачна і надта ж рэдзенька сеялася з неба ці — калі гаварыць праўдзівей — штосьці імжыстае павісла між небам і зямлёю, ліпла да твару, як ліпне мокрае павуцінне, калі нагінаешся і шыешся пад нізкімі густымі лапамі маладога сасняку.

Пазней, пад полудзень, нечакана між хмар выблісквала сонца — ужо высока ад зямлі,— разганяла туман, хмары, і пачынала бачыцца блакітнае неба. Падсушвалася паветра, падсушваліся барозны разагнанай з раніцы бульбы — і на зямлю лілося жаўтаватае і самотнае святло. Цяпла, аднак, вялікага ўжо не чулася, бо і сонца было няяркае, нібы астуджанае, і паветра прыкметна настоялася ўжо асеннімі скразнякамі, і зямля астыла, страціла цяпло ад першых замаразкаў.

Калі людзі сама распачыналі працу ў саўгасе ці дома — выбіралі бульбу ды сушылі атаву,— сіваватыя, шчодрыя на ваду хмары зноў згушчаліся, захутвалі сонца, моцна і ўліўпа абрынваліся на зямлю халодным дажджом. Ён быў яшчэ не зусім восеньскі, бо не ліў падоўгу, а нечакана прыпускаў і гэтак жа нечакана аціхаў. Тады было, як кажуць, сем пагод і няможна было ўгадаць, што выдасца на двара праз гадзіну.

Вось так часта — амаль праз кожную хвіліну — нечакана мяняўся тады на дні і настрой Міхаіла Апанасавіча. І не таму, што ён да полудня сядзеў дома, быў зусім адзін (гаспадыня хадзіла ў саўгас на працу, а яе дочкі — у школу), пасля ішоў вучыць сваіх другакласнікаў, якія прыходзілі на другую змену. Не. Відаць, трывожна, а калі і сумна яму было ад іншага — што ён тут, у Міланьках, быў чалавек новы, прыезджы і ўсе тутэйшыя людзі, як і калегі-настаўнікі, былі незнаёмыя. Хоць адчуваў, што дырэктар пра яго ад загадчыка райана ведае многае і тое-сёе расказаў пра гэта астатнім настаўнікам і яны гэтаксама адчуваюць, які ён чалавек, як склаўся ў яго лёс...

Такую-сякую цікавасць да сябе ён адчуваў, хоць і думаў, што ён, гэты інтэрас, мог быць і ад таго, што ён новы чалавек тут. А да новых людзей заўсёды пільна прыглядаюцца.

Неяк паволі ён сам адчужваў сябе ад калектыву. І не таму, што сёлета адзін быў тут новы, а болей таму, што меў скрытнаваты і сарамлівы характар, які не дазваляў яму хутка пазнаёміцца ды пасябраваць з чужымі, малазнаёмымі людзьмі. Каб яшчэ хто іншы сам пайшоў яму насустрач, сам пастараўся б падружыцца, то і ён тады змог бы адказаць такім жа пачуццём. Хоць тут надта і не было яму з кім пасябраваць.

Алесь Трахімавіч і Іван Сямёнавіч былі намнога старэйшыя за яго, мелі свае клопаты, ды Зубок часта хварэе (вось і ўчора завезлі яго ў бальніцу лячыць жаўтуху), то з ім, хворым, і невядома, як паводзіць сябе, а Рагатка — дырэктар, неяк гэтаксама няёмка шукаць дружбы з ім, начальнікам. Ды яшчэ з надта ж строгім ды дзіўнаватым: то ён суровы, так хмурна пазірае і папракае, што мароз па скуры ідзе, то раптам так неспадзявана з некага пажартуе ці выбухне магутным рогатам, што і не ведаеш, што сказаць, усміхацца ці не... Відаць, са старэйшых самы кампанейскі — Вяртун. Здаецца, ён добры, спагадлівы, сяброўскі чалавек. Праўда, калі ён вып'е — нечакана мяняецца... Але ў школе спакойны, гутарлівы і жартаўлівы, як кажуць, душа калектыву: без яго намнога сумней было б працаваць... Хоць і з ім сяброўства не ладзіцца: ён сямейны, як адвучыць, дык і спяшаецца дахаты.

Астатнія — маладыя, намнога маладзейшыя за яго. З імі наўрад ці можа быць якое сяброўства: у іх зусім іншыя, чым у яго, клопаты. Настаўніцкія то адны — вучыць дзяцей, памагаць адзін аднаму ў гэтым. Хоць і не зусім адны: яны вучаць амаль усе старэйшыя класы, а ён — маленькіх дзетак, як і Мая Сцяпанаўна. Гэта даволі розная праца, не лягчэйшая, але іншая. Што ж датычыцца пазашкольнага, свайго, то ён ім, маладым, не пара. Там у іх усё рознае... Таму ён, мала спатыкаючыся з маладымі, знаў толькі мужчын, Васільца, Сліжа і маладога Рагатку, ды Маю Сцяпанаўну, з якой разам працаваў у другую змену, а астатніх, надта дзяўчат, нават яшчэ не ведаў, як іх называць па імені і па бацьку.

Ён, відаць, найбольш мог бы пасябраваць з Паўлам Мікалаевічам, з якім кватараваў амаль па суседстве. Мог бы, каб разам хадзілі ў школу, вярталіся з яе, мелі вольны вечар. А то выходзіла так: ён — дома, а Васілец — у школе. І наадварот. А вечарам, позна зусім, ён хадзіў раз да яго, але гаспадыня сказала, што яе кватарант, Павел Мікалаевіч, вечарамі дома не бывае... А пасля і сам пачуў, што той ходзіць да настаўніцы нямецкай мовы... Вось ён так і заставаўся адзін, усё яшчэ ніяк не мог з кім сысціся, адчуваў, што ён, бадай, адзін з прыезджых яшчэ не прыжыўся тут, не прывык да школы і да вёскі...

Як добра яшчэ не прывык і да свайго кватаранцкага жыцця, не так, можа, не прывык, як усё яшчэ не мог звыкнуцца з ім: некалі быў ён жанаты, меў свой добры дом, сям'ю, гаспадарку. І яму, калі меў усё гэта, а пасля прыйшлося пакінуць, то нялёгка было пачынаць усё спачатку — стаяць з чамаданчыкам у руцэ і гадаць, дзе ж знайсці сабе прытулак. Маладыя настаўнікі тут, у Міланьках, і там, дзе раней ён працаваў, здаецца, ахвотна і бесклапотна жылі на прыватных кватэрах, сталаваліся, легка прывыклі да кватаранцкага жыцця, а вось ён, маючы некалі ўсё гэта сваё, ніяк не мог змірыцца са сваім кватаранцтвам...

Праўда, Каця, цяперашняя яго новая гаспадыня, добра глядзела, напраўду ці крышку хітруючы, адгаворвала яго ад гэтай і іншай гаспадарскай працы, але была ўсё ж вельмі рада, што ён памагае. Пасміхалася, смачней карміла, часта мяняла пасцель, мыла яму бялізну, пазірала на яго заўсёды добра, з павагаю. А яму было не толькі добра на душы, што памагае адзінокай гаротнай кабеце, але чамусьці не раз і сорамна. Ён пачаў бянтэжыцца, калі заставаўся з ёю адзін на адзін, пазіраў ёй у вочы, бачыў, што яна дзеля яго стараецца яшчэ ў большай чысціні трымаць хату, сама харашыцца...

Дзеля яго... Гэтае адчуванне вельмі ўразіла, і ён стараўся не асаромецца перад Кацяй — амаль і не браў за гэтую пару чаркі, сам паве-

рыў, што ніякі ён не п'яніца, як пра яго не раз гаварылі. Ён адчуў, што можа і зусім не піць... З кожным днём ён усё болей хваляваўся ад жыцця пад адною страхою з маладою кабетаю, адчуваючы, што ён усё ж мужчына і ў яго — як гэта доўга здавалася — не зусім перагарэлі чалавечыя пачуцці ды жаданні...

Міхаіл Апанасавіч бачыў, што падабаецца Каці; быў рады, толькі крышку з сорамам заўважаў, што падабаецца не так, як маглі б быць даспадобы вясковыя мужчыны, а прыемна ёй, што ён настаўнік, «чысты чалавек», што жыве ў яе і памагае, зусім не ганарыцца, не баіцца вясковай працы, мае някепскую плату. Не раз ён, думаючы пра ўсё гэта, гадаў: можа, дарэмна чакаць у яго ўжо немаладыя гады не жаночага добра абдуманага разліку, а сляпога юнацкага кахання, бо гэта ўжо было і, можа, ніколі не паўторыцца, але ўсё ж хацелася, каб ён быў пакаханы як чалавек, каб былі адчуты і яго пачуцці... Але — як ні жадаў патаемна нечага святога і далікатнага да сябе — сам жа часамі здзіўляўся, што ён да Каці адчувае гэтаксама нешта падобнае, што, можа, адчувала і яна — «а разам жа жыць можна...». Можа, вось, ведаючы такія свае думкі, бывала, сароме́ўся Каці, да якой пра свае пачуцці, думкі не загаворваў і якая гэтаксама не заводзіла пра гэта гутаркі, хоць часта-часта ў размовах была блізка да гэтага. Таму даўнавата ўжо адчувалася, што ў іх «нешта ёсць...».

...Міхаіл Апанасавіч патурзаў лейцамі каня, цмокнуў, каб той падбег — каб заехаць дамоў, узяць сякеру і ланцуг, з'ездзіць у лес, забраць жэрдкі, прывезці, адвесці на канюшню каня і паспець на першы ўрок другой змены.

Паехаў не вёскаю, а крыху далей ад людскіх вачэй — сценкаю.

...Малады зялёны сасняк яшчэ пахнуў, здаецца, цёплаю смалою, летнім пылам, хоць зямля была ўжо нямала мочаная асеннімі дажджамі і па ўсім была відаць восень: стала рыжай мёртвай трава, ляжала жоўтае і прычарнелае лісце, чырванеліся пад шыгаллём высокія мухаморы.

У старым лесе, які цяпер стаў нейкі спакойны, глухі, пажоўклы і пачарнелы, цемнаваты без сонца, рэха не кацілася — як летам — збоку, а прападала ўжо тут, на дарозе,— толькі чулася, як тупка бег конь, як ляскаталі, падтрасаючыся на ababітых і засмаленых каранях колы, як амаль нячутна чапляўся за ногі пабялелы верас, за якім — між высокіх сосен — бачыліся дзе-нідзе старыя пні, густа абсыпаныя дзікімі жоўтымі грыбамі ці ляснoй белай плесенню. І ад таго, што яна, плесень, ужо не сохла, а была вільготная, то зноў і зноў адчувалася: на двары ўжо халодная восень — пара, калі найчасцей і наймацней прыходзіць да яго смутак...

Не надта маладым, высокім хвойнікам пад'ехаўшы да складзеных адна на адну жэрдак, ён прыпыніў каня. Адняў і падкінуў яму пад ногі сена, якое ўзяў у Кацiным гумне, і ўсю дарогу — каб яно не зляцела — сядзеў на ім. Скінуў з калёс ляжанку, дастаў ззаду воза шворан, адцягнуў заднія колы.

Паклаў на перадок камлямі дзве жэрдкі, прымяркоўваючыся, каб яны былі не надта блізка ад конскіх ног. За задок калёс зачапіў ланцуг, прапусціў яго праз кольцы, падняў дышаль, усадзіў у яго шворан і, пацягнуўшы, зачапіў за яго ланцуг, абкруціў ім дышаль і дзве жэрдкі. Тады пачаў накладаць на расцягнутыя калёсы хвойкі, адчуваючы, як бярэцца, ліпне да рук мяккая смала, што выступіла буйнымі кроплямі на ссечаных і ацярэбленых мясцінах.

Як ускінуў усе жэрдкі — а яны, пакладзеныя адна на адну, дасталі каля паловы ручак,— падумаў, што трэба яшчэ ссячы хоць некалькі сосен. Узяў сякеру і адышоўся ад воза, задраў галаву і пачаў выглядаць высокія і гонкія хвойкі, жмурачыся ад нізкага светла-шэрага, як апусцелага неба. Ішоў і неяк раптоўна ўспомніў, што на днях будзе дзень нараджэння старэйшай дачкі... Прыпыніўся, заплюшчыў вочы і як убачыў яе такой, з якой развітваўся,— маленькай, поўненькай, светлавалосай, вясёлай-вясёлай... Пасля ўявіў яе такой, якой бачыў гэтым летам,— тонкай, высокай і прыгожай, як маці... Сустрэўшыся ў горадзе, яна першая падышла і павіталася: «Добры дзень, тата!..» Пагаварылі яны нейкую хвілінку, пакуль не выйшла з магазіна маці, якая прыязджала купляць ёй да новага навучальнага года абновы... Гэтая кароценькая сустрэча ўсё ніяк пе забываецца, вярэдзіць і вярэдзіць душу...

Ён кожны год да даччыных імянін пасылаў ім падарункі, бо дасюль перагарэла сэрца па былой жонцы, а па любімай дачушцы ныла яшчэ моцна і цяпер: дзіця ёсць заўсёды дзіця, бо няма ні былых, ні цяперашніх дзяцей, яны заўсёды твае дзеці...

...Каця, невялікая ростам, не зусім тонкая, але і не поўная, вельмі загарэлая на твары, дужая і здаровая кабета, вярнулася з саўгаснага поля позна, калі ён, Міхаіл Апанасавіч, прыехаў з лесу, адвучыў другую змену і прыйшоў дахаты.

— Вы, мусіць, вельмі прагаладаліся ўжо? — сустрэўшыся ў двары, усміхнулася яна, усміхнулася, хоць была і стомленая.

— Ды не,— адказаў ён, адчуваючы, што напраўду хоча есці, але не стаў прыспешваць, каб яна тут жа гатавала вячэру: ведаў, што ёй яшчэ шмат клопатаў ды працы па гаспадарцы.

Ён з хвіліну пазіраў на яе кругленькі твар з невялікім роўным носам, з чырвонымі ад ветру і дажджу шчокамі, бачыў маладое здароўе

на ім, заўважаў гарэзныя агеньчыкі ў яе кругленькіх вочках, адчуваючы сарамлівае хваляванне. А як яна яшчэ ўсміхнулася, зірнула пільна і з нейкім маладым выклікам, зусім разгубіўся, заміргаў, збянтэжыўся, чуючы, як у горле перахоплівае дыханне.

— Зараз, людзі мае, усё зладзім...— спахапіўшыся, што шмат стаіць, Каця неяк ненатуральна моцна і бадзёра загаварыла да дачок, загадала тым абіраць бульбу, а сама скінула фуфайку, атрэпала яе аб плот ад пяску, застаючыся ў даўгаватай сукенцы, пачала ўходжвацца.

Работа, як кажуць, гарэла ў яе руках. Яна хутка і амаль у адну хвіліну рыхтавала едзіва свінням і курам, насіла гэта ў загарадкі і праз міг ужо вярталася адтуль з трэскамі, бегла да нечага іншага. Зрэдку кідала на яго хуткія позіркі і, пылаючы суха на шчоках, усміхалася.

Міхаіл Апанасавіч, бачачы гэта і трывожачыся, прысеў на лаўцы, што была ля сцяны, пад кухонным акном. Пасядзеў з хвіліну, і як убачыў, што вярнулася з пашы карова, падняўся, адчыніў ёй весніцы. Каця вынесла з дрывотні і кінула ў куток двара ахапак звялай канюшыннай атавы — і карова ахвотна падышла да яе, узялася есці, раз за разам матляючы галавою, ад чаго закідвала на спіну траву. А Каця ўжо праз міг была ў хаце, загадвала дочкам падпальваць у печы і ставіць варыць бульбу.

Ухадзіўшыся, Каця вынесла з хаты гаршчок з цёплаю вадою, вымыла ёю каровіна вымя, абцерла яго сухім ручніком, села на столачку і пачала даіць. Пачуўшы пах сырадою, прыбег аднекуль з-за хлява рыжаваты кот, падняў кароткі хвост, замяўкаў, тручыся ля гаспадыніных ног.

— Естачкі захацеў?— жартам падражніла яго Каця.— Ах ты, стары гультай! А хто ж мышэй будзе лавіць? Бегаюць вунь па кладоўцы, гарцуюць, як коні...

Міхаіл Апанасавіч, зноў седзячы на лаўцы, усміхнуўся, бачачы, што гаспадыня вельмі паважае ката і сабаку, хоць не раз і кажа, што «замест гэтых гультаёў можна было б выкарміць добрага падсвінка», але зводзіць ката і сабаку не збіраецца.

— Ну, як там, Апанасавіч, мае вучаніцы? — запытала Каця ў яго, бачачы, што ён сядзіць паблізу і саромеецца, запытала, хоць і добра ведала, што ён не вучыць яе дачок.— Усё гаварэцця, каб я ведала.

— Дзеці як дзеці,— адказаў ён.— Ніхто на іх не наракае. Старанныя, працавітыя.

— Працуюць, бо жыццё прывучыла...— уздыхнула Каця.— Большая то кожны год добра вучыцца, а вот меншая кепска... Ды і здароўе яе кепскае... Усё галава баліць...

— Двоек жа і меншая не мае... Падрасце, то і здароўе паправіцца...— сказаў ён, ведаючы, што Каця вельмі любіць, калі хто хваліць яе — і напраўду працавітых, сумленных, прыгожанькіх — дзяўчатак.— А цяпер, можа, яе рост такі...

— Можа, і так,— згадзілася Каця.— Я і сама некалі такая ўжо танюсенечкая была, зусім не такая, як цяпер...

Дочкі ж, слухаючы гэтую размову і сарамліва ўсміхаючыся, усё яшчэ бянтэжачыся яго, і новага ў доме чалавека, і настаўніка, запалілі ў печы (чуваць было, як пачаў слацца па двары смалісты дым), пасля намылі свінням бульбы, насыпалі яе ў гаршкі, каб маці адразу заўтра ранічкай магла паставіць іх у гарачую печ. Як толькі тут, на двары, памылі рукі, адразу шмыганулі ў хату.

— Брыдка во за троечкі...— усміхнулася Каця, якая паднялася ўжо, ішла да сянец з ледзь не поўным вядром малака, якое наверсе ўспенілася, пахла па ўвесь двор.

— Дзеці ёсць дзеці,— заступіўся ён.— Але няма чаго, далібог, маракаваць вам: добрыя ў вас дочкі...

— Такія ўжо добрыя!..— гучна, каб чулі тыя, сказала Каця.— У людзей і лепшыя ёсць.

Яна паставіла паблізу ганка столачак, на яго — вядро з малаком, а сама падалася ў хату, заляскала там вілкамі пры печы, пасля вярнулася з бляшанкай і цадзілкай. Паклала жаўтаватую цадзілку на высокую тонкую бляшанку, абціснула яе, падняла вядро, перагнула крыху і пачала ліць з яго малако, якое адразу ж гучна заструменіла па дне.

— Пакіну, гультай, і табе,— міралюбна сказала кату, які зацёрся аб яе гумовікі.

Усё малако з вядра не ўлезла ў бляшанку. Каця дапільнавала, калі яно перастала цадзіцца, узняла цадзілку і астатняе працадзіла ў двухлітровы слоік. Крыху з дна вядра наліла кату ў кансервавую баначку, што з загнутым пачарнелым вечкам стаяла ля сянец.

Бляшанку Каця апусціла ў студню, а слоік занесла ў хату.

Калі вярталася адтуль, несла ў руцэ кубак, Міхаіл Апанасавіч ведаў, што гэты сырадой яму. Ён выпіў і падзякаваў.

— Піце на здароўе,— спакойна, як надта нічога такога добрага і не зрабіла, адказала яна.— Самі бачыце, малака хапае. Ды і другога чаго, хоць і без гаспадара жыву, ёсць. Не многа, але ёсць. Карова добрая, не прагаварыцца толькі, два парсючкі гэтаксама ладныя. Сена пачці сабрала за лета, дроў тожа хваціць на зіму. Толькі вот па мужчынскай часці вялікія непаладкі — плот пагніў ды паваліўся, веранда ды страха во абы-якія, што, здаецца, і не глядзеў бы, падпа-

ветка разваліласяꟷ Ды, на добры толк, і хату ўжо варта было б ашаляваць, бо надта ж халодная.

— Страху то позна ўжо раскрываць, бо восень на дварэ,— сказаў ён, бачачы, як яна, абцягваючы на поўныя калені сукенку, прысела на ганку.— А плот можна яшчэ і цяпер перасыпаць.

— Хіба мая гэта работа, Апанасавіч? — клапатліва, моршчачыся, прамовіла яна.— Ці надта час на гэта маю?

— Пагаварыце з лесніком, хай яшчэ дазволіць высекчы сасняку ды дасць на шулы чаго таўсцейшага, то я за восень пакрысе і перасыплю ўвесь частакол,— сказаў ён,— усё роўна мне да полудня няма чаго рабіць. То памагу.

— Вы ўжо і так... Гэта мы, простыя людзі, прывыклі да ўсялякай работы...

— І я яе не беларучка. Увесь час жыву ў вёсцы, раблю вясковую работу,— сказаў ён.— Калі быў жанаты, то і гаспадарку сваю меў, усё сам рабіў. І настаўнічаў, і дома спраўляўся. Як цяпер Вяртун ці Рагатка...

— Я ж здалёку замуж сюды прыйшла, то і цяжка, бо адна жыву, без радні... І ён жа, чалавек мой, быў прыезджы...— прамовіла яна.— Што зраблю сама, тое і маю...

— Нешта будзе,— заспакоіў ён.— Дзяцей на ногі амаль паднялі ўжо, гаспадарку не толькі не запусцілі, але і добра трымаеце.

— Ды не прападзём жа, абы здароўе бог даў...— згадзілася яна.— А я, дзякуй богу, яшчэ добра чуюся... Шчасця вот толькі малавата... Ляпей сем разоў згарэць, як адзін раз аўдавець... Ды ў маладым веку...— усхліпнула, шморгнула носам, але ўтрымалася, не заплакала, хутка выцерла падалом вочы, зірнула на яго і, чамусьці як саромеючыся ці позіркам просячы, каб ён цяпер нічога не гаварыў, усміхнулася. Пры гэтым не варухнула нават вуснамі, не міргнула вокам, усміхнулася толькі позіркам, выказваючы да яго вялікі давер.

— Але чаго мы, людзі, тут сядзім: холадна і цямнее ўжо, хадзем у хату.

Устала, падалася першая. У хаце прыпынілася ля печы, выцягнула вілкамі гаршчок з бульбаю, паторкала відэльцам, правяраючы, ці зварылася.

Ён гэтаксама падняўся, убачыўшы, як ад шыбін адарваліся дзеці — відаць, дзяўчынкі сачылі за ім і за маці. Але Каця нічога на іх не сказала, абхапіла гаршчок анучаю, зняла яго з прыпека і адцадзіла ваду ў вядро, а пасля высыпала бульбу па стол, на разасланы ручнік. Тады відэльцам, адпіхаючы лісце хрэну ды вішанніку, дастала з вядра салёныя гуркі, паклала іх, зялёныя, крамяныя, у талерку. Пасля ўзяла

з паліцы загорнуты ў паперу, на якой самапіскай была напісапа цана, кавалак купленай у магазіне каўбасы, парэзала яе, наліла ў кубкі кіслага малака.

Затым схадзіла ў другую палавіну і прынесла адтуль пляшку, заткнутую гумовым чорным коркам.

— Не трэба,— прамовіў ён, саромеючыся і Каці, і яе дочак-вучаніц.

— На апетыт трохі...— усміхнулася Каця, наліла яму з палавіну шклянкі, а сабе зусім крыху.— Ну, будзьце здаровыя,— сказала, але пастаралася не зірнуць, не глядзела: бярэ ён чарку ці не — выпіла, прыкрыла рот рукою.— Фу, як яе толькі п'юць!

Ён паволі выпіў, моўчкі пачаў закусваць.

— А можа, і гэта дап'яце?— спытала пасля.— Крапля тут засталася, што вам значыць, мужчыну...

— Ды хопіць,— усміхнуўся ён.— Не раз і крапля лішняй бывае, зводзіць... Што тады і стрымацца не можаш... Вялікая яна губіцелька, гэтая гарэлка...

— Гэтая халера толькі дурных ды прагных губіць, разумнага чалавека не звядзе...— сказала яна, зноў на яго не пазіраючы, але шмат што і намякаючы,— Ну, дык бярыце за здароўе ды за гэты розум...

Выпіўшы, ён зноў пачаў есці, адчуваючы, што ў яго разгарнуўся апетыт, а яна яшчэ дастала гуркоў, парэзала каўбасы. Сама не ела больш, сядзела паблізу, як радуючыся, што сядзіць разам з мужчынам і той смачна есць тое, што яна прыгатавала, і не толькі смачна ўплятае, але і, канечне, у душы дзякуе ёй.

— Спадабалася вам у нас, Апанасавіч? — запытала пасля з хваляваннем у голасе.

— Ды няблага...— адказаў ён, зірнуў на яе, яшчэ зусім маладую, ружовашчокую, прыгожую, і адчуў такое збянтэжанне, якое даўно ўжо не адчуваў: прыйшоў вялікі смутак па жанчыне — па жонцы, сяброўцы, маці яго дзяцей,— па ўсім тым, без чаго, відаць, не можа жыць усякі разумны ды здаровы чалавек.— Ды чаму можа быць блага? Дырэктар як дырэктар, як і ў кожнай школе, калегі на рабоце разумныя, далікатныя, працавітыя... Толькі вот, можа, аднагодкаў маіх мала, бо ўсе маладыя амаль, са сваімі клопатамі, і я ім мала падыходжу, бо ў мяне іншыя клопаты... А ў вас мне — здаецца, лепш нідзе і быць не можа...

— Ці добра вам тут выходзіць?— як ужо між іншым запытала Каця, прыбіраючы стол.

— Ды рублёў сто трыццаць...

— Добра,— сказала яна.

Ён нічога не адказаў, закурыў, глядзеў, як увішна ўсё робіць гаспадыня, і адчуваў трывожнае хваляванне ад блізкасці жанчыны...

1975

## ЗНАЙСЦІ-СТРАЦІЦЬ

### 1

Доўгае, але вузкае люстэрачка густа запацела — і Навіцкаму, каб паглядзецца, прыйшлося выцерці яго мяккімі ручніковымі матузкамі. Цярнуў улева-ўправа, адлюстрыў шкло, пасля адпіхнуў на падстаўцы ў бакі павільгатнелыя шампуневыя бутэлечкі, слоік з зубнымі шчоткамі — і зірнуў на сябе.

Спачатку здалося, што адтуль, з люстэрка, глядзіць зусім яшчэ маладун з апалымі на шчокі мокрымі валасамі. Але як падняў, залізаў іх расчоскаю на патыліцу, адкрыў твар з буйным носам, пасля адкрыў высокі лоб, дык адразу пастражэў і стаў падобны на самога сябе, на саракадвухгадовага мужчыну. Так раптоўна пастарылі яго сур'ёзнасць, задумлівасць ды, відаць, і маршчыны. Іх было вельмі шмат на лобе, ля вачэй, а гэтаксама нямала іх, дробненькіх, гусцілася і пад вачыма, дзе яны цямнеліся глыбокімі плямкамі.

Калі папхнуў дзверы на калідор-прыхожую і ў цёплую, запараную ванную ўварваўся свежы струмень, пакрысе пачаў астываць ад цёплага душа, суха палымнець і чырванецца на жаўлаках. Не выціраўся, а толькі прыкладаў ручнік да цела. Бачыў: яно белае-белае, не крамянае ды дужае, як было яшчэ гадоў пяць назад, а залішне нейкае мяккае і вялае, як ва ўсіх людзей яго веку, што больш сядзяць, чым ходзяць, лянуюцца раніцай памахаць рукамі ды раз-другі нагнуццаразагнуцца.

Як зусім абсох, тут жа надзеў адпрасаваныя жонкаю штаны, белую кашулю, гальштук — што ўсё вісела дасюль тут на дроце,— і вось цяпер, прыбраўшыся, ён неяк памаладзеў, схаваў сваю заранаватую паўнату, стаў, здаецца, зноў «ніц собе», як жартуюць яго жанчыны-падначаленыя. Яны кажуць, што ён не маладзёнак ужо, але яшчэ надта не пастарэў.

Прыбіраўся і чуў, што жонка — на кухні. Ляскала там то вечкамі каструль, то рэзала ды шаткавала, стукала нажом па кружку, часта пускала ў ракавіну ваду — і тады тут, у ваннай, гулі трубы, а калі рабіла моцны струмень гарачай вады, дык верхняя трубка трэслася, падкідала падстаўку і на ёй з'язджалі ўбок бутэлечкі. Ён узлаваўся на

жонку, не вытрываў, выцягнуў руку і пастукаў пальцам у запацелае акенца — і Валя адразу паменшыла струмень.

Навіцкі крыху супакоіўся, падумаў, што не трэба затрымлівацца, а варта хуценька выйсці з ваннай, апрануць пінжак, плашч і, каб не бачыла жонка, падацца з кватэры. Не хочацца не толькі гаварыць з ёю, але і гэтак жа не хочацца нават сустракацца з яе самотным позіркам. Глядзець у вочы — не тое што не хочацца, а неяк сорамна. Сорамна ад таго, што яна — вельмі спагадлівая, чулая, добрая характарам жанчына — даўно ўжо, можа, ведае, чаго ён у кожную пятніцу прыходзіць з працы раней дадому, мыецца, прыбіраецца і куды з'язджае на цэлы вечар, яшчэ даўней, можа, адчула, што яна яму надакучыла. Ведае, але маўчыць. Маўчыць, каб не зналі пра гэта дарослыя дзеці, каб быў лад у сям'і...

Як патушыў святло, Навіцкі стараўся ціха выходзіць з ваннай, але маснічыны пад нагамі ўсё роўна зарыпелі. Можа, і ад таго, што ішоў крадучыся, на пальчыках, і больш ціснуў на падлогу. Толькі калі ступіў на тоўсты, жоўты, з рудымі палоскамі дыван, стаў усёй падэшвай, маснічыны не азваліся. Падумаў, што на добры толк трэба было б падціснуць падлогу, замяніць у вокнах паколатыя шыбіны, яшчэ паправіць тое-сёе, але неяк няма часу і ахвоты, усё адкладвае і адкладвае гэта на пазней.

Навіцкі падышоў у залі да ненакрытага стала, да вазы з чырвонымі кветкамі, узяў свой пінжак, што вісеў на спінцы крэсла, ускінуў на плечы, зашпіліў, зусім так схаваў свой паўнаваты жывот і цяпер ужо напраўду стаў «ніц собе». І толькі ціха падаўся з залі ў калідор, як адчыніліся дзверы, напусцілі салодка-прэснай пары і тады ўжо выйшла ў калідорчык жонка — невысокая, паўнаватая, у доўгім цёмна-квятастым халаце, што вельмі старыў яе, маўклівая, некалі сімпатычная, а за апошнія гады вельмі пастарэлая жанчына.

Жонка акінула яго позіркам з ног да галавы, але нічога не сказала ні пра яго адзенне, ні пра абутак. Толькі, можа, падумала, што ён вось маладзей, дужэй выглядае, не мае такога хворага сэрца, як яна, зірнула на яго з журбою. І ён адчуў душою яе гэтую скаргу на сваю раннюю старасць, хваробу, адчуў, што яна хоча расказаць яму пра нейкія хатнія клопаты, але не расказвае, бо ведае, што яму будзе непрыемна. Ён, разумеючы яе, вінавата лыпаў вачыма, не ведаў, куды пазіраць. Адышоўся, надзеў кароткі жаўтаваты плашч, белую брылёўку.

Валя зірнула на яго мокрыя валасы, хацела, мусіць, сказаць, што нельга так выходзіць на халодны восеньскі двор, але не сказала, загаварыла, відаць, пра самае важнае:

— Можа б, ты сёння, Тамаш, дома застаўся б? Ад навукі я цябе ніколі не адрываю, а вось... Няўжо ўсе не прапускаюць ніводнага паседжання камісіі? Гэтая грамадская работа... трэба яе, канечне, рабіць, рабі на здароўе, але, можа, сёння застанься дома, не пайдзі з раз...

— Ну, што трэба? — буркнуў Навіцкі.

— Не думай, калі ласка, што гэта мае капрызы ці, можа, нават і нейкая рэўнасць...— ціха, як апраўдваючыся, прамовіла яна, разгубілася, зацерабіла ў руках крысо кароценькага фартушка.— Даўно па доме абыходжуся і без тваёй помачы... Як і без увагі... Я ўжо і не спадзяюся на гэта, бо век адна хаджу па магазінах, вару есці, абмываю ўсіх, прыбіраю ў хаце, і ўсе, і я сама прывыкла, што гэта толькі мая работа... А цяпер ужо і без пары старая стала... Але ж у нас дзеці... З імі я ўжо адна не магу зладзіць. А з імі нешта няладнае робіцца. Душа мая чуе, што Тоня пакіне інстытут, а Вова абы-як скончыць школу. Ты ж бацька, пагавары з імі...— дагаварыла і ўсхліпнула.

— Пагавару...— каб усё ж сёння не застацца дома, прамовіў ён, зморшчыўся.— Заўтра і пагавару. Усе разам пагаворым.

Навіцкі патаптаўся ў калідоры, адчуваў, што напраўду варта было б застацца дома і пагаварыць з дзецьмі, хацеў запытацца, а дзе яны цяпер, але стрымаўся: ведаў, што жонка будзе доўга скардзіцца на іх і яму доўга прыйдзецца стаяць і слухаць.

Каб Валя яшчэ што сказала і зноў папрасіла ўсё ж нікуды не ісці, дык, можа, з невялікай неахвотаю і застаўся б, а раз яна прамаўчала, можа, бачыла, як ён ірвецца сысці, дык ён перасіліў нерашучасць, падаўся да дзвярэй. Падаўся і стараўся як можна хутчэй пакінуць пакой: раней, калі адыходзіў, кожны раз цалаваў жонку, гаварыў, што пастараецца хутка вярнуцца. Сёння не пацалаваў, бо не мог.

Калі збягаў з пятага паверха ўніз, падумаў, што, калі быў малады, гадаў-разважаў: пройдзе вось пяць — дзесяць гадоў, большага даб'ецца ў навуцы, падгадуе дзяцей — і можна будзе пажыць без клопатаў. Ажно прайшлі гэтыя дзесяць гадоў, а клопатаў не меншае, а яшчэ і большае. То дзеці, то жонка, то работа... Вось колькі чаго было за сённяшні дзень!..

Яшчэ з раніцы паклікаў яго да сябе дырэктар інстытута. Не загаварыў спачатку, як заўсёды, пра надвор'е, футбол, пра навіны ў навуцы, а адразу — далікатна, але строга — пачаў распытваць, што цяпер робіць яго лабараторыя крышталаоптыкі, пасля папрасіў прабачыць і сказаў, што ён, Навіцкі, сам вельмі добры вучоны, але слаба кіруе сваімі супрацоўнікамі, якія мала займаюцца навукай, а толькі

прыходзяць на працу, у рабочы час ходзяць у кіно, становяцца ў чэргі па памідоры ці модныя боты...

«Прыміце, Тамаш Францавіч, меры...»

Цяпер Навіцкі, як спусціўся і выйшаў на двор, падумаў, што зашмат сабралася назаўтра клопатаў. І па рабоце, і дома...

2

Ён паехаў не на сваіх «Жыгулях», а на гарадскім аўтобусе. Дабраўся да патрэбнага прыпынку, сышоў, павярнуў направа і ўздоўж пяціпавярховага дома пайшоў па ціхай вуліцы, хутка трапіў у гэты, добра знаёмы ўжо за астатнія тры гады, вузкі двор, абгароджаны ад завода бетоннай сцяною і ўсаджаны вішнямі, яблынямі, грушамі-дзічкамі, вербалозам, рабінамі — яшчэ раз убачыў: ужо звосенілася. Хоць пасады былі яшчэ зялёныя на першы позірк, але ўжо шмат ад першых вераснёўскіх начных халадоў і дзённых сонечных прыпёкаў парудзела на іх лісця, надта ў верхавінах, а тое лісце, што чамусьці зажаўцелася раней, яшчэ ў жніўні, апала долу — і шмат ужо яго, пачарнелага ад зямлі, ляжала на дарожцы ды пад дрэвамі. І яшчэ болей, змеценага ветрам,— у кустах бэзу, што рос, пры самым доме. Чырвона стракацелі сярод зелені рабіны, ягадак з якіх, відаць натрэсеных дзецьмі, гэтаксама шмат ляжала на зямлі. На шнуры, што быў нацягнуты на камлі дрэў, вісела мокрая бялізна, і на ўвесь двор пахла мылам і сырасцю.

Навіцкі парадаваўся, што нікога няма ля пад'езднай лаўкі, хутка шмыгнуў у пяціпавярховы дом, пераступаючы аж па дзве прыступкі, подбегам падаўся на трэці паверх.

На пляцоўцы націснуў на кнопку ля дзвярэй пад нумарам «30», апусціў галаву, пазіраў на круглы шэры, з чырвоным асяроднічкам ходнічак, стараючыся аддыхацца перад тым, як яму адчыняць дзверы. Пачуўшы, што нехта спускаецца зверху, яшчэ раз пазваніў, павярнуўся спіною да пляцоўкі.

— Зараз, зараз...— пачуўся за дзвярыма прыемны знаёмы голас, і амаль тут жа шчоўкнуў замок.

Навіцкі сам лёгенька піхнуў дзверы. Яны зарыпелі (і ён у каторы раз падумаў, што пара ўжо змазаць іх). Зайшоў у невялікі калідор, убачыў паблізу высакаватую ды танкаватую прыгожанькую Элу — яна была сёння ў доўгай жоўтай у клеткі спадніцы, белай цеснаватай блузцы з кароткімі рукавамі. Ён усміхнуўся, з радасцю глядзеў на прыгожы, з маленькім прамым носікам твар, з чорнымі-чорнымі брывамі і валасамі, што яна маладая, свежая, вабная ў свае трыццаць

гадоў. Папхнуў плячыма дзверы, прымусіў іх самім зашчапіцца, ступіў крок наперад.

— Ну, добры вечар табе!

— Здарова, Том!— усміхнулася тая, падняла лёгкія даўгаватыя прыгожыя рукі, моцна абшчапіла імі за шыю, гэтак жа моцна прыціснулася шчакою да яго шчакі.

Навіцкі прыгарнуў яе да сябе, адчуў, як хвалюе яго гэта маладзічка — і яму становіцца добра, прыемна на душы, хочацца жаночай пяшчоты. Заплюшчыў вочы, правёў вуснамі па яе далікатненькай мяккай шчацэ, крышку пахкай ад духоў і пудры, знайшоў яе мяккія паўраскрытыя вусны і прыпаў. Ад пацалунка ў яго, як у маладзёнка, закружылася галава.

— Засумаваў без мяне, Томе?— Эла першая адхілілася ад яго, прыклалася да яго шчакі вухам — амаль адразу ж ён пачуў прыемны халадок ад яе залатой завушніцы.

— Засумаваў, малютка...— з пяшчотаю пагладзіў яе па спіне, можа, крышку і з дураслівасцю, але са шчырасцю прашаптаў ён, зноў пашукаў яе вуснаў.

— Не трэба... Пасля...— гэтаксама шэптам, ні то сур'ёзна, ні то з жартам, сказала яна, разняла яго рукі.— Распранайся, праходзь. Будзь, як і ў кожную пятніцу, гаспадаром маёй сціплай двухпакаёвачкі.

Навіцкі зняў брылёўку, плашч, разуўся і падаўся за ёю ў невялікую залю, дзе справа, пры глухой сцяне, пафарбаванай у жоўты колер, стаяла зялёная, з рудаватымі падлакотнічкамі канапа, пасярод — ненакрыты стол, ля акна ў кутку — тэлевізар на журнальным століку і злева, ля кухоннай сцяны, стаяла невялікая шафка па посуд і кнігі. Гэтую зальку, спальню пакінуў гаспадыні былы яе муж. Пра яго, праўда, яна ніколі не расказвала, і ён, Навіцкі, ніколі не распытваўся.

Ён сеў на канапе, Эла — ля яго.

— Што з табою, Том?— спытала яна, узіраючыся ў яго твар, узяла яго правую руку ў свае маленькія белаватыя ручкі. На іх было аж чатыры пярсцёнкі. Глядзела як па-мацярынску, з клопатам, хоць гэта ёй не зусім удалося, бо была вялікая розніца ў іх гадах, і як яна ні старалася быць надта сталай, усё роўна, гэтулькі не пражыўшы, не магла столькі ведаць, адчуваць, так думаць, як адчуваў, думаў ужо ён. Таму яе гэтая наўмысная сталасць была крышку смешнаватай.

— Абы-што...— адказаў Навіцкі, бо не хацеў усяго расказваць.— Непрыемнасці, словам. На рабоце, дома...

— ЧП якое ў нашай лабараторыі? — усё не выпускаючы яго рукі, спытала Эла.— Бо сёння, сам ведаеш, не была там.

«І з-за гэтага перапала...» — хацеў пажартаваць, але стрымаўся, бо ўжо добра ведаў, што лепш памаўчаць, чым лішне сказаць, толькі прамовіў: — Не, пяма ніякага ЧП, дзякуй богу. Але трэба наводзіць, як сказаў шэф, дысцыпліну...

— Думаю, што ты згодзішся, каб я і надалей засталася гэтакай недысцыплінаванай?

Ён нічога не адказаў, толькі з жартам паківаў пальцам.

— А дома — што?— зноў сур'ёзна спытала яна, трымаючы яго за палец, на якім быў шлюбны пацямнелы ўжо за многія гады пярсцёнак.— Жонка здагадваецца? Пілуе?

— Ай!— ён зморшчыўся, махнуў рукою.— Сямейныя нелады... А ў мае гады, прызнацца, нялёгка пераносіць адмоўныя эмоцыі...

— Ты ніколі мне нічога не расказваеш пра сваё, Том...— як пакрыўдзілася Эла, надзьмула прыгожыя вусны, зірнула з дакорам.— Усё тоішся... Ці не верыш мне, ці лічыш лішнім расказваць. Маўляў, нашто мне ўсё ведаць?

— Не крыўдзься, малютка,— папрасіў ён.— Напраўду не заўсёды хочацца табе расказваць пра непрыемнасці...

Яна прыхілілася, памаўчала крыху.

— Але табе заўсёды калі цяжка на рабоце ці дома, то добра ў мяне. Так, Том?— спытала шэптам.— Іменна ў мяне ты сярод жыцейскай прозы знаходзіш паэзію. Так? Бо я вельмі люблю цябе, свайго маленькага Томіка, заўсёды чакаю і ніколі не злуюся, не папікаю... Так, Том?

— Так, малютка, так,— шаппуў ён, пакратаў вуснамі яе мяккія пахкія валасы, і яна скокнула яму на калені, прытулілася. Яны моцна пацалаваліся.

— Яшчэ што скажы, мілы,— шапнула яна, з жартам кратаючы вуснамі яго вузкаватую бараду.

— Што табе сказаць, малютка?— усміхнуўся Навіцкі, бо ведаў, пра што яна думае.

— Ці любіш ты яшчэ мяне, мілы?

— Ты ж ведаеш...— прамовіў ён.— І даўно ўжо.

Яна ўсміхнулася і саскочыла на падлогу, узяла яго за руку.

— Хадзем, я пачастую цябе за такія добрыя словы.

Яны зайшлі ў невялікую кухню, дзе стаялі халадзільнік, белая шафка, светла-зялёны стол, няроўна накрыты белым ватманскім лістом.

Эла ўзняла ліст — і паказаліся стравы: сухая кілбаса, сыр, нарэзаныя і аблітыя смятанаю намідоры, чорная ікра, масла, чорны і белы хлеб, на беленькіх, з чырвонымі абадкамі талерачках стаялі чарачкі. Ля іх ляжалі відэльцы і нажы.

— О! — здзівіўся ён, цмокнуў яе ў шчаку.— Ты цуд, малютка!

— Ведаю, мілы, якія ты любіш прысмакі,— усміхнулася яна, села насупраць яго,— Каб дагаджаць табе, дык паўмысна завяла знаёмствы ў магазінах.

— Ты малайчына! — ён працягнуў руку і пагладзіў яе па плечуку.

— Еш, будзь дужы...— пасля, калі крыху выпілі і закусілі, шапнула Эла, паднялася, пацалавала яго ў шчаку і падалася з кухні.

Схадзіла ў ванную, уключыла там святло, пусціла з кранаў ваду — ён, пазіраючы ўверх, на невялікае акенца, з хваляваннем бачыў, як зажаўцелася за шклом. Пасля Эла выйшла з ваннай.

Навіцкі выпіў чорнай кавы, выцер сурвэткаю губы, тут жа, у кухні, спаласнуў пад кранам пальцы, выцер іх беленькім ручнікам. Пасля дастаў з унутранай кішэні пінжака прыхаваную дзесятку, адчыніў пазногцем шыбіну ў шафцы і, як заўсёды, паклаў яе туды — на верхнюю маленькую талерачку.

І на кухні, і ў залі было ўжо даволі цемнавата; як ішоў, ён бачыў, што ў спальні на акно апушчана цёмная штора і там зусім морачна, ледзь відаць справа белая падушка, краёк беленькай коўдры, пад якой, як і заўсёды ў такую хвіліну, з галавою схавалася Эла.

Так і было: Эла ляжала ўжо накрыўшыся, толькі плямінкаю цямнеўся на падушцы хвосцік яе валасоў. Навіцкі прыпыніўся, зачыніў дзверы — і ўжо ў цемені пачаў хуценька раздзявацца, кладучы адзенне на загадзя пастаўленае сюды Элаю крэсла.

...Прачнуўся ён раптоўна, як і заснуў. Спачатку не мог разабрацца, што цяпер: ці ноч, ці ранне. Але пасля, калі ўбачыў, што ляжыць не дома, у сваім пакоі-кабінеце, дык адразу ўведаў, што цяпер пазнаваты вечар, уведаў, дзе ён, адчуў з трывогаю, што затрымаўся, што павінен ужо гэтай хвілінай быць дома.

Эла — ужо ў доўгім расшпіленым халаце — стаяла паблізу, ля шафы, адна яе нага была на падлозе, другая — на крэсле. Яна пазіралася ў люстэрка, што было на дзверцах шафы, і расчэсвала доўгія валасы. Праз расчыненыя дзверы з залі падала сюды жаўтаватае святло, асвятляла Эліну спіну, шафу, а тут, дзе ляжаў ён, быў паўзмрок.

Пакуль ён спаў, Эла прыбрала на кухні, памылася і нават высушыла валасы. Як здагадалася, што ён ужо не спіць, хуценька захінула грудзі і жывот халатам.

Не раз засынаў ён і раней (толькі разам з Элаю), і тады, калі прачыналіся, яна лашчылася, старалася не адпускаць дадому, баялася, можа, застацца адна. Але сёння яна расхвалявалася, злавалася на яго, колькі разоў таўхала ў плячо, каб ён не спаў, а пасля здалася, заціхла, ляжала з заплюшчанымі вачыма...

Навіцкаму было сорамна цяпер загаварыць, бо адчуваў, што ўсякае яго слова можа ёй не спадабацца, і гэтаксама нельга было і хітраваць — прыкідвацца, што ён яшчэ спіць. Было мулка ляжаць вось так ціха на спіне, баяцца нават паварушыцца, і ён не вытрымаў, крыху павярнуўся на левы бок, да ружаватай у паўзмроку сцяны. Падумаў, што па-добраму дык і не ведае, якога колеру тут, у спальні, сцены, бо заходзіць сюды заўсёды ў цемнаце.

— Табе пара ўжо... Падымайся,— прамовіла Эла, і яго, хоць і не адчуў у яе спакойным голасе злосці, усё ж апанавала крыўда, што яна не назвала па імені, не падышла ды не прытулілася.— Хутка дзесяць гадзін вечара — цябе чакаюць ужо дома...

Яна не падыходзіла, моршчылася, пазірала ў цьмянае люстэрка і расчэсвалася, і ён не падклікаў, бо не мог цяпер дурасліваціца, ведаў, што яна пакрыўдзілася, а то, можа, болей ужо і не кахае яго. Можа, расчаравалася ў ім.

— Бяжы, мілы...— як адумалася, што ёй не трэба крыўдзіцца, ужо ласкавей сказала яна, хоць зноў не падышла, падалася ў залю, каб ён змог падняцца і адзецца, і — ужо ні то сур'ёзна, як разумеючы яго, ні то з крыўдаю на свой лёс — загаварыла адтуль: — Ідзі, Том, бо ты ўсё ж сем'янін... А я... Я адзінокая. Ніхто не спытае, чаму і дзе я позна затрымалася ці чаму дома заседзелася...

Навіцкі з сорамам падхапіўся, адзеўся. Адчуў, што валасы высахлі, збіліся ад лежатні на адзін бок. Расчасаўся і выйшаў: Эла чакала яго ўжо ў калідоры, стаяла ля вешалак, прыпёршыся спіною да сцяны ды склаўшы на грудзях рукі.

Ён падышоў, яшчэ больш засаромеўся, стараўся вытрымаць Элін спакойны, але незразумелы позірк, абуўся, адчуваючы, што спяшаецца і ад гэтага становіцца горача ў твар, паўз яе ўзяў свой плашч, брылёўку. Апрануўшыся, хацеў прытуліць Элу і не змог. Як не мог і нешта сказаць.

— Ну... Ты...— як бачыў, што і яна чамусьці маўчыць, ён паспрабаваў неяк па-людску развітацца.— Я... Я табе...

— Прыходзь, мілы...— яна, відаць, зразумела, што ён хацеў сказаць, абняла яго за плячо, усміхнулася.— Буду чакаць... Калі абараню дысертацыю, дык тады, можа, не пушчу, маладога якога знайду...— і, як паказваючы, што жартуе, паляпала яго, разгубленага, зусім асаромленага, па плячах.— Ну, будзь! Да той пятніцы, мілы! — цмокнула ў шчаку, адхінулася, сама адчыніла дзверы і легка падштурхнула яго на калідор, адразу ж, як ён выйшаў, і зашчапілася...

## 3

Калі вярнуўся дадому, Навіцкі яшчэ ў калідоры адчуў, што дома і дачка і сын: на вешалцы віселі іхнія белыя плашчы. Але чамусьці ні галасоў іх, ні музыкі, ні спеваў ды гамонкі з тэлевізара ці з магнітафона, без чаго, здаецца, жыць не маглі дагэтуль дзеці, не чулася. У чатырохпакаёвай кватэры стаяла нязвыклая вячэрняя цішыня.

Ён распрануўся, разуўся і ўжо ў мяккіх тапачках зайшоў у ванную, паглядзеўся ў люстэрка — і не спадабаўся сабе. Памыў пунсовы твар, прымачыў злеглыя валасы і расчасаўся. Тады ўжо, думаючы, што трэба здацца вельмі стомленым, зайшоў у вялікую, агульную для ўсіх, залю, дзе яны звычайна глядзелі тэлевізар, сядзелі з гасцямі, і здзівіўся: тут, а не ў сваіх пакоях, далека адно ад аднаго, нахмурыўшыся, сядзелі дачка і сын: Тоня — танклявая, дробная на твары, сімпатычная, як і яе маці ў маладыя гады, з вузкімі плячыма дзяўчына — падкурчыўшыся, паўляжала на канапе і падпілоўвала нефарбаваныя пазногці, Вова — не па гадах высокі, з шырокімі плячыма, увесь у яго, у бацьку, з чарнаватымі ўжо вусамі пад буйным носам, з доўгімі, амаль па плечы, чорнымі валасамі — сядзеў на крэсле ля шырокага акна, уткнуўшыся ў газету.

«Відаць, усе пасапрачаліся...— падумаў Навіцкі, зайшоў у залю і адчуў перад дзецьмі вялікую няёмкасць, бо яны, надта ж дачка, пільна акінулі яго з ног да галавы позіркамі.— Валя разнервавалася, сышла ў спальню, а яны тут... Панадзімаліся во, як сычы...»

— Ну, што тут у вас?— запытаў ён, хоць перад гэтым думаў прывітацца: ўсё ж не бачыўся з імі сёння, сеў пасярод пакоя — ля стала.

Дзеці прамаўчалі, як і не пачулі яго запытання. Гэта крышку пакрыўдзіла: настрой настроем, а яго ж, бацьку, павінны паважаць. Ён апусціў галаву, зірнуў сабе на грудзіну — і адчуў, як хлынула цяплынь да твару: верхнія гузікі кашулі былі зашпілены няроўна: адна палавіна кашулі была вышэй, а другая — ніжэй. Падняў руку і, не здымаючы гальштука, перашпіліў гузікі.

— Маці дзе?— пасля падняў галаву і запытаў, стараючыся вытрымаць позіркі дзяцей.

— «Хуткая» забрала...— буркнула дачка.— Нешта з сэрцам.

— Што?— з разгубленасцю і вінавата шапнуў ён, адчуў, што задрыжалі рукі, і, каб не паказаць гэтага, хутка апусціў іх пад стол — сабе па калені.

— Проста... Расхвалявалася во з-за яго, нашага дзесяцікласніка... — Тоня перастала падпілоўваць пазногці, неяк вельмі ж стала зірнула на яго, на бацьку, і нават змусіла яго апусціць галаву.— Паперка

прыйшла пад вечар з міліцыі, каб на тым тыдні прыбыў туды з бацькамі... «За недастойныя паводзіны ў грамадскіх месцах...»

— Пачакай,— разгубліваючыся ад такіх навін, Навіцкі спыніў дачку.— Скажы спачатку пра маці... Няўжо інфаркт? Ці яшчэ што?

— Можа, і не інфаркт,— адказала яна,— але ў яе раптоўна забалела сэрца. Урачы сказалі, што ёй трэба паляжаць у бальніцы, ёй трэба спакой.

Ён, крышку супакоіўшыся, моўчкі, але з крыўдаю зірнуў на сына: «Вось да чаго ты, сын, давёў матку! Вось ты які! Я ў твае гады стараўся вучыцца, працаваць, цяпер такою цяжкою працаю зарабляю для вас усіх грошы, даю, колькі і на што каму трэба, маці корміць, абмывае, а ты... «Недастойныя паводзіны...» Ды гэта ўжо адзін крок да...»

— А тады з-за цябе...— сын не пакаяўся, а, здаецца, са злосцю агрызнуўся на сястру.— Напалохала, што пераводзіцца на завочнае і выходзіць замуж... Вось мама і адгаворвала яе, плакала... А пасля схаваліся ад мяне на кухні, яшчэ пра нешта гаварылі. А потым мама ўскрыкнула і павалілася..,

Навіцкі слухаў дзяцей ды пазіраў на іх, сёння ўпершыню падумаў, што яны маленькія былі такія дружныя, любілі адно аднаго, а цяпер нібы розныя людзі. І яшчэ скеміў, чаго магла ўскрыкнуць чуллівая жонка: Тоня, можа, прызналася ёй, што яна ўжо... Не толькі маці, жанчыне, але і яму, мужчыне, цяжка паверыць, вытрываць, што іхняе дзіця, зялёнае дзяўчо, хоча выходзіць замуж.

— Што ж вы так, дзеці?— спытаў ён з дакорам, зірнуў спачатку на дачку, і тая мігам апусціла ад яго позірку галаву, а пасля глянуў на сына, ён не ведаў, што з імі, такімі вялікімі ўжо, рабіць, што ім гаварыць.— Ты ж, сын, вучань, брыдка табе хуліганіць. Пасядзі лепш лішнюю гадзіну з кнігаго, рыхтуйся ўжо да экзаменаў. І боксам сваім больш займайся...

— Не смяшы, ён даўно ўжо кінуў займацца ім, як раней пакінуў лыжы, футбол...— асекла яго дачка.— А прыахвоціўся да цыгарэт, да чарачкі, прывык хадзіць па парках і заводзіць бойкі...

— Гэта, гэта ж...— у Навіцкага ад гневу аж сціснула дыханне, прапалі самыя патрэбныя словы.— Ты ведаеш, куды можа прывесці гэтая твая дарога?

— Яму сумна, бачыце, хочацца прыгод...— ухмыльнулася Тоня, якая, як ён помніць, яшчэ змалку мела такую нядобрую звычку — пакепліваць з другіх.

— А табе — вельмі хочацца замуж? — папікаў сын.

— Хочацца,— спакойпа адказала тая.— Хоць табе яшчэ гэтага пе зразумець.

— Ты гэта сур'ёзна? — Навіцкі павярнуўся да дачкі.— За маімі і за мамінымі плячыма табе ўжо кепска?

— Па-першае, я не маленькая ўжо, а маю дваццаць гадоў, якраз гэтулькі, у колькі і мама выходзіла за цябе...— смела, з гонарам сказала дачка, строга зірнула на яго.— Так што магу ўжо тое-сёе і сама... Па-другое, я люблю яго, і ён мяне любіць. А гэта, як ведаеш, нешта значыць...

— І даўно ў вас гэтая любоў? — з іроніяй спытаў Навіцкі.

— Ды другі год ужо...

— І хто ж ён, твой Рамэо? — ужо спакайней спытаў Навіцкі.

— Студэнт... Нашага іпстытута...

— І дзе, на што вы, абое студэнты, думаеце жыць? — запытаў ёп.— Ці ўжо добра абдумалі, на чый усесціся карак?

— Не пакеплівай, калі ласка...— незалюбіла дачка, успыхнула злосным чырванцом на маладых, свежых шчоках.— У нас гэта ўсё сур'ёзна. Пажывём першую пару тут, у маім пакойчыку. Калі будзеце прыдзірацца — сыдзем, знойдзем прыватную кватэру. Пойдзем працаваць, дык будуць і грошы. Ды і вы, і яго бацькі, якія жывуць у вёсцы і жывуць добра, не чужыя нам, паможаце. Так што мы ўжо пра ўсё напраўду дамовіліся, застанецца толькі адно — каб вы згадзіліся. А не будзе вашай згоды, дык мы і без яе... А цяпер я хачу пагаварыць з табой адным...— прамовіла і, не чакаючы, што ён скажа, падалася з залі ў калідор, і, як чуваць было, пайшла ў самы крайні пакой — у яго рабочы кабінет.

Навіцкі адчуў, што ні крыкам, ні просьбамі даччынай задумы ўжо не зменіш, дык спачатку як разгубіўся, не ведаў, што рабіць, а пасля паслухаўся, пайшоў за дачкою. Як толькі ўвайшоў у кабінет, яна, чакаючы яго пры дзвярах, зашчапілася.

— Садзіся, тата...— строга сказала яна, і ён зноў паслухаўся, апусціўся на невялікую абабітую дэрмацінам канапку, якая стаяла насупраць засланага дарагім пакрывалам ложка.— Цяпер пагаворым пра маму і цябе... Я сталая ўжо, дык магу... Чуў, што з ёю? Чуў. Усе мы — і я, і Вова, і ты — пакрысе давялі яе да гэтага... І сёння гэтаксама... Я, Вова, ты... Толькі што ты справядліва папікаў нас, цяпер дазволь папікнуць і цябе...

Ён спачатку здзівіўся, а пасля з гневам зірнуў на дачку: як яна можа гаварыць гэта, хто ёй даў такі дазвол? Бацькі могуць папракаць дзяцей, а не дзеці бацькоў...

— Паслухай, тата, не гарачыся...— сказала Тоня, склала тонкія рукі на грудзях і зрабілася нейкай доўгай ды тонкай у чорных штанах і чорным світэры.— Пагаворым сур'ёзна. Сёння мама разгневалася не толькі з-за нас, дзяцей, а яшчэ і... Разумееш, адна адной мы пажаночаму даказвалі, і мама папракала, што я мала думаю пра цябе, расхвалюю. А табе трэба займацца навукай.

— Я ж не раз гаварыў вам, што і ваша маці была здольная студэнтка, займалася ў навуковых гуртках, магла б гэтаксама быць вучоным і някепскім вучоным, але і я, і яна не маглі самааддана прысвяціць сябе навуцы, бо некаму трэба было гадаваць вас... Вось яна і ўзяла на сябе гэты клопат, памагла мне... І вам гэтаксама... Ну, а я стараўся з усіх сіл і, можа, тое-сёе і зрабіў. Так што віна мая — яшчэ трэба падумаць, ці віна...

— Я не пра гэта...— ціха прамовіла дачка.— Але я скажу праўду. Мне а ж забалела сэрца, што мама лічыць цябе за самага справядлівага, толькі і думае пра цябе, слепа табе верыць, а мае пачуцці ды пачуцці майго жаніха не ставіць і ў грош. Дык я ў злосці не стрымалася і сказала ўсё...

— Што такое? — не зразумеў ён.— Кажы ясна.

— Я сказала, які ты на справе, як дзякуеш,— голас яе задрыжаў.— Сказала, што ты абманваеш, маеш жанчыну...

Навіцкі і зазлаваўся, і разгубіўся:

— Што ты пляцеш, зялёнае дзяўчо?

— Ладна, тата, перада мною не трэба...— Тоня прыплюшчыла вочы,ківала перад сабою праваю рукою,— Я ўсё ведаю. І Элачку тваю прыгожанькую знаю...

Навіцкі не дапытваўся, адкуль яна гэта ўведала. А дазнацца яна магла «па сакрэце» ад некаторых знаёмых супрацоўніц, якія, можа, пра ўсё ўжо і здагадваліся; ён прамаўчаў, адвярнуўся, апусціў галаву і абхапіў твар рукамі: вось гэтая звестка і падкасіла ўражлівую жонку.

Адчуў, як хіснулася, нібы ў землятрус, пад ім зямля і, здаецца, паплыла-паплыла.

— Ідзі адгэтуль...— без злосці і без крыўды шапнуў ён, адчуў, што яму стала горача-горача ў твар, нешта цёплае цяжкае хлынула ў скроні і ў патыліцу, ад чаго раптоўна пацямнела ў вачах.

— Гэта, ведаеш... Сам ведаеш, што гэта...— дачка не пайшла, а засталася і не змаўкала, гаварыла: — Але я вельмі каюся, што не стрымалася. Як толькі мама ачуняе, я папрашу ў яе прабачэння, пастараюся даказаць, што я згарача зманіла. А ты... Сам думай, што рабіць...

Навіцкі чамусьці неяк раптоўна аглух, хіснуўся і ўпаў тварам на халодны падлакотнік канапы, ударыўся пераноссем — але болю не было, зрабілася неяк мляўка, легка, і гэтая слабасць нібы зацягвала ў глыбокую ваду.

— Та-та! — як з-пад зямлі ці з-за тоўстай сцяны пачуў ціхі даччын голас, пасля зусім перастаў яе чуць, як заснуў.

Пасля нешта халоднае закапала на твар — і ён, здаецца, прачнуўся, адчуў, што яму не легка, а вельмі цяжка: вельмі моцна таххае сэрца, коле, і водгаласкі гэтага болю аддаюцца аж у скронях. Але ён з радасцю адчуў, што сэрца яшчэ вытрымала моцнае ўзрушэнне.

Тоня, якая палівала з кубка на далонь ваду і пырскала ёю ў твар, падала кубак, і ён узяў яго дрыготкай рукой, звонка стукаючы ім аб зубы, адпіў крыху, адчуў, як адразу яму лягчэе.

— Дзякую,— прашаптаў ён, выцер рукавом мокрую бараду, убачыў, што прыбег сюды і сын, стаіць і са сполахам лыпае на яго вялікаватымі вачыма.— Ідзіце. Я хачу пабыць адзін. Скажы толькі, калі ласка,— ён зірнуў на дачку,— у якую бальніцу забралі маці...

Тоня сказала, кіўнула брату ды яшчэ раз зірнула на яго і выйшла з пакоя.

Навіцкі, як застаўся адзін, адчуў, як мацней закалацілася рука, якая трымала кубак. Ён яшчэ крыху выпіў вады, абліў ёю бараду і грудзіну, падняўся, паставіў кубак на стол. Хіснуўся, абапёрся рукамі аб сцяну. Асцярожна падаўся ў дзверы, а пасля па калідоры ў прыхожую — да плашча.

Ішоў, пераадольваў дрыготку ў каленях і адчуваў, што за сёння не толькі сіламі, здароўем, але і душою пастарэў самае малое на пятнаццаць гадоў, хоць — добра разумеў — гэтыя бясчасныя гады прыйшлі не толькі за сённяшні дзень...

1976

## СЯМЁН

Новы дзень пачаўся так, як і ўчора ці пазаўчора.

Сямён прачнуўся з першым сонечным прасветкам і вераб'іным чырыканнем. Паволі споўз з цёплай ляжанкі, вобмацкам знайшоў пад лаўкай старыя валёнкі. Абуўся і яшчэ крыху пасядзеў — адыходзіў ад сну і болю ў галаве. З гэтым, цяжкім, са звонам у вуху ды з рэззю ў вачах болем, ён кожную раніцу падымаўся і кожны вечар клаўся спаць. Знікаў альбо забываўся боль удзень — у рабоце, у клопатах. Яго, гэты боль, як сказалі ўрачы, ужо не вылечыш: ён застарэлы, яшчэ ад некалішняй, франтавой, кантузіі.

Боль не паслабеў — наадварот, узмацняўся. Але Сямён болей не прыслухоўваўся да яго, падняўся і патупаў з хаты. На ганку запыніўся, акінуў позіркам наваколле. Здаецца, усё на двары такое, якое было і ўсе гэтыя дні: стары плот, грады, тоўстая разлапістая яблыня і гонкая маладая груша за ім, пахілены, накрыты яшчэ саломаю хлеў. Аж не, ёсць і такія-сякія змены: выдавочна парудзелі ўжо грады, пабольшала на дрэвах жоўтага лісця, а неба ўжо не лёгкае, не вясёлае, як улетку, а цяжкаватае ад павільгатнелых ды пацямнелых воблакаў, няяркага сонца, патужэлага паветра — увысі і тут, на зямлі, пачала ўбірацца ў сілу ранняя восень.

Пасля Сямён падаіў сваю Лысую — лічы, спрэс белую карову; даёнку з малаком паставіў у сенцах, а карову выгнаў з двара, пачаў прыпасваць каля бульбянога поля, на лапінцы зялёнага маладога дзяцельніку. Стаяў і слухаў, што робіцца ў вёсцы.

Вёска ўжо прачнулася: паблізу і воддаль спявалі апошнія пабуджальныя воклічы старыя пеўні, абзываліся асіплыя за ноч сабакі, рыпелі дзверы, вароты, гудзелі матацыклы і машыны, а ў далёкім канцы ў некага звінела цыркулярка. Вось тут, у Засценку, пачуўся ражок. Значыць, Андрэй, стары яго сябрук, пайшоў займаць каровы.

Неўзабаве той быў ужо тут, каля Сямёнавай хаты, са статкам. Сямён сілком адагнаў Лысую ад дзяцельніку, далучыў да гурту.

— Здароў,— падышоўшы, павітаўся аднавокі Андрэй.— Ну што: восеніцца пакрыху?

— Ды час ужо,— адказаў Сямён.— Хутка будзеш на ўвесь дзень каровы ганяць.

— Прыйдзецца. Як і прыйдзецца пастарэць яшчэ на адну восень...

Андрэй — у кірзавых ботах, у выцвілым, шэрым плашчы — пляскваючы даўжэзнай пугай, пакрочыў услед за каровамі, а Сямён — у свой двор. Працадзіў малако, выпаласкаў марлю і павесіў яе на частаколіну, пасля падпаліў у печы. Паставіў цяжкія чыгуны з вадой і бульбаю, закурыў, сеў на лаве і пазіраў, як угараюцца дровы, цягнецца ў комін сівы дым.

«Ці не збыць карову, свінні? — падумаў.— Нашто мне, адзінокаму, гаспадарка? Як ні зірні, дык адны клопаты толькі з ёю. Трэба сена, подсціл карове, трэба чым карміць і свіней. Расстараешся — тады думай, дзе дзець малако, сала...»

Але і сёння не хапіла рашучасці апаражніць хлеў.

«Як жа жыць у вёсцы без гаспадарскіх хлопатаў? Не, пакуль буду магчы хадзіць, датуль буду як і кожны вясковы чалавек. Іначай ссохну без ніякага занятку».

Паснедаўшы, Сямён падаўся ў гарод. Выбіраць цыбулю.

Здзівіўся: лічы, не відадь той цыбулі. Нядаўна яшчэ зялёны, буйны, як малады лес, цыбульнік ссох, а на градзе за некалькі апошніх дзён разлапушылася дзікая трава, амерыканка, як яе тут называюць, схавала цыбулю. Прыйшлося спачатку выпалаць пустазелле, а пасля ўжо, бачачы рудыя хвосцікі, пачаць выбіраць галоўкі. Побач — градкі морквы, укропу, маку, буракоў і гуркоў; некалькі гурочнікаў запаўзлі аж сюды, на цыбулю, і на гэтых адростках выраслі ў сырасці буйныя, зялёныя, спаднізу белаватыя гуркі.

«Трэба зноў аддаць іх каму,— падумаў.— Сабе насаліў ужо бочачку, хопіць. Андрэю ды суседцы даў; цяпер, можа, Адаму сказаць, каб прыходзілі і бралі сабе на пасол: чуў, што ў іх сёлета гуркі не ўрадзілі».

— Дзень добры, дзядзька,— перапыніў яго думкі малады жаночы голас.

Разагнуўся, азірнуўся.

— А-а, гэта ты, Волька! Дзень добры,— усміхнуўся.— Я нават і не пачуў, як ты падышла. Відаць, глушэю на старасці.

Волька — старэйшая Андрэева дачка. Малодшыя дзеці, сын і дочкі, у горадзе, а Волька жыве з бацькамі. Яна — даярка, а яе муж, Пятро,— трактарыст.

— Добрая ў вас цыбуля,— пазайздросціла, пазіраючы на поўны ўжо кошык.— Лепшая, чым у якіх гаспадынь.

— Вырасла такая,— усміхнуўся.— У вас, пэўне, яшчэ і лепшая.

— Горшая, дзядзька,— прамовіла і абаперлася грудзьмі на плот.— Можа, і таму, што мы, кабеты, столькі не глядзелі грады, як вы, мужчына. Праўда, сорам мне, кабеце, пра гэта гаварыць, але праўда ёсць праўда. Вы — адмысловы гаспадар і адмысловая гаспадыня.

— Які там адмысловы...— прамовіў. І замаўчаў.

Ды што ён мог сказаць болей? Жыла б гаспадыня ці сястра, былі б дочкі ці пляменніцы — займаліся б жаночаю работаю, а яму хапіла б сваіх, мужчынскіх, клопатаў. Але ні жонкі, ні сястры, дачок ці пляменніц няма, дык прыходзіцца ўсюды гаспадарыць самому. Нашто ж, каб пуставала, дзічэла зямля, зводзілася гаспадарка?! Ды як сядзець седзьма склаўшы рукі?!

— Будзе мала сваёй цыбулі, дык возьмеце ў мяне,— пасля дадаў.

— Мама і тата зайздросцяць вам,— сказала Вольга.— Хоць адны, але жывяце ў спакоі, без калатні...— Пасля, адчуўшы, што гаворыць не тое, варушыць у яго сэрцы даўні, усё яшчэ незарубцаваны боль, уздыхнула, паскардзілася: — А мой... Самі ведаеце, які ён... Вось і ўчора напіўся, прыпоўз дадому, сказалі мы з мамаю няласкавае слова — разбушаваўся, усё ў хаце перавярнуў, да нас біцца лез. Сёння мама

і тата сказалі: будзеш, прымак, далей гэтакая свіння — выганім з хаты. Ідзі куды хочаш, хоць у лес, хоць у чыстае поле.

— Залішне ўлягае твой чалавек да гарэлкі,— паківаў галавою Сямён.— Я яму колькі разоў ужо казаў: Пятро, не пі гэтулькі, гарэлка нікога да дабра не даводзіла і не давядзе.

— Каб жа яны слухаліся, дзядзька. Проста аж млеюць за гэтаю гаркотаю, вар'яцеюць. З-за яе, можна сказаць, свету не бачаць.

— Жылі бядней — шанавалі капейку, здароўе. Цяпер мала шануюць. І капейкі, і здароўя. І не бачаць: гэта ж на згубу самім сабе. Мне не раз страшна робіцца, што і каторыя кабеты пачулі смак у гарэлцы... Улягуць яны — разап'ецца вёска...

— Мяняецца вёска...— згадзілася Волька.— Багацеюць людзі, але распускаюцца... Я дык думаю папрасіць міліцыю, каб майго лячыцца паслалі. Будзе і далей гэтак піць — прападзе ж. Чацвёра дзяцей без бацькі застануцца... А вы, відаць, зараз грады выбераце, картофлю выбіраць пачнеце?

— Можа, і пачну, можа, і пачакаю. Мне ж, пенсіянеру, часу хапае.

— Чулі: да Верчынай Іркі Васька ўчора ў сваты прыходзіў? — загаварыла пра вясковыя навіны Волька, нібы жанчына з жанчынаю.

— Не, не чуў.

— Адвярнулася. Лічы, за стол нават не села. За трактарыста не хоча ісці: бялізны яго баіцца. Яна ж, бачыце, у бібліятэцы робіць. Прафесарка! Жаніхоў, як прынцэса, выбірае, не зважае, што трыццаты год ужо ідзе, хутка спадзе краса...

— Іхняя і матка ганарлівая была, некалі нашаму Адаму адмовіла. З багатай сям'і была, а мы з беднай.

— Суседка наша зноў грубая,— сказала яшчэ адну навіну Волька.

— Дай божа,— прамовіў.— У яе ж толькі двое. Можна і яшчэ адно, два, а то і болей дзяцей мець. Цяпер усяго ж усім хапае. Калі малыя дзеці, дык іх, здаецца, поўна, шмат клопатаў з імі, вырастуць — разыдуцца, нікога не ўгледзіш, адзін застанешся. Цяпер мала ў вёсцы дзяцей, лічы, усё людзі сярэдняга і пажылога веку. А калі мала дзяцей, маладых — старэе веска.

— Можа, і праўду вы, дзядзька, кажаце. І хапае ўсім усяго, і веска без дзяцей ды маладых старэе. Але ж маладыя цяпер не хочуць многа дзяцей. Адно, два завядуць — і ўсё. Баяцца лішніх клопатаў.

— І дарэмна. Без клопатаў псуецца чалавек.

— Можа, каб меліся яслі, садзік, дык яшчэ смялейшыя былі б. А то, у каго няма бабы ці дзеда, не маюць з кім дзяцей пакінуць, калі абое на рабоце. Учора да нас новыя настаўнікі прыходзілі, прасілі ма-

му паглядзець іхняе дзіця колькі гадзін, пакуль самі з работы прыйдуць.

— Пойдзе маці?

— Дзіця ж іхняе зусім яшчэ малое, месяцаў шэсць ці сем толькі. Вучыліся разам, пажаніліся... А ў мамы, самі ведаеце, якія рукі. Дзе ж яна вынасіць на іх малое? Ды і сваіх бэйбусаў чацвёра.

— Можа, нехта ўсё ж падрадзіцца паглядзець?

— Не ведаю,— паціснула плячыма Волька.— Наўрад хто захоча цяпер глядзець чужыя дзеці. Хто сваіх унукаў гадуе, хто, пагадаваўшы ўжо, не хоча лішняй марокі. Пенсію атрымалі — можна і ўздыхнуць лягчэй...

— Трэба ўсё ж маладым памагчы,— сказаў Сямён.— Яны прыехалі вучыць нашых дзяцей, выводзіць у людзі — а мы адварочваемся ад іх. Хіба не гэта добра? Хіба гонар — не ўважыць настаўніка?

— Канечне ж, трэба памагчы,— згадзілася Волька.— Можа, хто і падсобіць.

— Грэх вялікі, калі не хочаш памагчы чалавеку ў бядзе,— прамовіў.— Дабра тады на свеце меншае. Зашмат, як пустазелля, сеецца зла. А зло губіць усё людское ў чалавеку.

Вольцы стала няёмка. Яна падтакнула яму і пастаралася сысці з двара. Ён жа са шкадаваннем доўга пазіраў ёй услед — невысокай, тоненькай, гаротнай, але, здаецца, не зусім чулай да чужой бяды. На словах спачувае, але далей свайго спачуваыня ступіць не хоча. Не такая ўжо хворая яе маці, магла б і паглядзець гадзіну-другую тое настаўніцкае дзіця.

Не ведаў прыезджых маладых настаўнікаў, не бачыў іх сына ці дачку, але трывожыўся ўвесь дзень: як яны будуць жыць? Што ім рабіць? Ісці на працу і браць з сабою шасцімесячнае ці сямімесячнае дзіця? Якая ж у іх тады будзе работа і якое маленства будзе ў дзіцяці? Трывожыўся яшчэ і таму, што, як можна смела сказаць, паглушэлі вясковыя людзі да чужых непрыемнасцей і нягод, не кідаюцца, як некалі кідаліся, памагчы небараку, таму, каму часова цяжкавата. Ці ён нешта перабольшвае, перажывае за настаўнікаў іменна таму, што некалі і яго жонка, Маруся, Марыя Палікарпаўна, была настаўніцаю, гэтаксама мела нямала клопатаў з чужымі і са сваімі дзецьмі? Можа, іншыя людзі абыякавыя да чужой бяды, каб навучыць людзей умець найперш самім клапаціцца пра сябе, пераадольваць усякія — малыя ды вялікія — цяжкасці?

Па тэлевізары паказвалі кіно. Пра калгас, пра вясковы люд, пра клопат аб кожным чалавеку. Сямён, начапіўшы аісуляры, сядзеў на канапцы, глядзеў гэтае кіно, не толькі здзіўляўся, але аж ківаў гала-

вою: як спрытна і хораша ўсе гавораць! Вось каб так усё і было! Ды тут, у Міланьках!

Пачуў: у хату зайшоў чалавек. Знаёма затупаў сюды, у лепшы пакой. Андрэіха — Андрэева жонка, Вольчына маці. Невысокая, поўная, як капа.

Здзівіўся: чаго яна зайшла? Пад вечар, калі ледзь не сустрэліся каля яго хаты, яна надзіва жвава шуснула ад яго, нібы не заўважыўшы. А цяпер вось, увечар, сама зайшла.

— Сямён, ці е ў цябе перац? — сказала тая адразу, нават не павіталася.— Хочам закатаць гуркі, памідоры, а перцу няма. Перавёў зяцёк, любіць дужа вострае.

— Ды е. Сядзь, пашукаю. Паглядзі кіно. Пра вёску. Дужа хораша гавораць,— адказаў Сямён і падаўся на кухню.

— Няма калі кіны глядзець. Кажу ж, работы багата,— прамовіла Андрэіха і затупала за ім. Калі падаў пакецік чорнага перцу, дык адразу, хаваючы позірк, хацела вымкнуцца з хаты.

— Пачакай, дзеўка,— ён затрымаў неспадзяваную госцю.— Е да цябе пару слоў. Скажы: ты зусім не захацела паглядзець настаўнікам дзіця?

— Нашто мне чужыя дзеці? — адказала, запыніўшыся каля парога.— Сваіх унукаў няма? Не, е. Грошай мала? Не, хапае.

Ён уключыў тут, на кухні, святло. Андрэіха не толькі прыплюшчыла ад яркасці вочы, але і сумелася. Сэрцам адчуў: на душы яе разгубленасць, неспакой.

— Яно так,— прамовіў.— Але як. будуць жыць маладыя настаўнікі, калі ўсе так, як ты, будуць думаць?

— Ну, і адзін увесь свет не абагрэеш.

— Адзін, канечне, свет вялікі не абагрэеш. Але чалавеку якому можна ж памагчы.

— Узяў бы і памог, калі такі добры,— адказала. І, лічы, са злосцю.— Дзяцей жа любіш. Свістулькі ім робіш, гародніну і садавіну сваю аддаеш, цукеркі купляеш.

— Быў бы кабетаю, дык і памог бы. А любіць і сваіх, і чужых дзяцей, дзеўка,— не вялікая загана... Ды калі яшчэ...— недагаварыў, бо здушыў нейкі горкі камяк.— Ды што гаварыць?! Змяніліся мы. Лепей, багацей жыць пачалі, дык меней думаем пра другіх. Не зважаем, як хто жыве, клапоцімся, каб толькі нам добра было... А хіба ж так трэба жыць? Хіба так мы некалі жылі? Да вайны і пасля вайны апошнім дзяліліся, спачувалі, памагалі адно аднаму. І, можа, толькі таму і выжылі, на ногі сталі, пабагацелі...

— Ніяк не разбяруся, што ты, Сямён, за чалавек,— з нездавальненнем паківала галавою Андрэіха.— Ды цяпер мала хто, як ты хочаш, жыве. Што было, тое прайшло. Цяпер іншы час, іншыя людзі...

— Не, дзеўка. І часы, і людзі мяняюцца, але нешта не павінна мяняцца, а мусіць заставацца. Без яго цяжка жыць. Калі цяпер гэтага не бачаць, дык хутка ўбачаць... Мы ж, старыя людзі, ведаем гэта добра. І нам трэба добры запавет, наказ пакідаць. А хіба мы не павінны наказаць: мей сэрца, мей душу — будзеш чалавек ва ўсе часы?!

— Дзівак-чалавек...— паківала галавою Андрэіха.— Памрэш, і дабрыню тваю ўсе забудуць.

— Такой бяды, дзеўка, што забудуць іменна мяне. Абы сама дабрыня не звялася, а жыла, грэла людскія сэрцы.

— Гэта яна, Маруся твая, яшчэ і цяпер кіруе табою...

— Не чапай яе...— папрасіў.— Яна...— зноў замоўк ад даўкага камяку ў горле.

— Хіба я кепска пра яе гавару? Я ж кажу, што яна, як ніхто з нашых настаўнікаў, для людзей жыла. Сябравала ж з ёю, ведаю. Усе так, відаць, жыць не могуць. Нейкія асаблівыя вы...

— Якія там асаблівыя. Людзі як людзі.

— Гэта ж сёлета дваццаць восьмы год, як яе, беднай, і дзяцей, Іны і Тоніка, няма...— адышла, расчулілася і Андрэіха.— Я дык і не веру, што яна, як і я, старая была б. Яна засталася ў маёй памяці маладая, вясёлая, са светлымі валасамі. Як і цяпер чую яе голас... Каб іх, ірадаў, і на тым свеце паліла, як яны спалілі яе з дзетачкамі... Сястры тваёй трэці год ужо няма. Зусім ты адзін застаўся на свеце. Як колас на полі.

— Што ж зробіш,— прамовіў.— Хоць і не такі ўжо я адзінокі. Пляменнікі ж е. Бяруць мяне ў горад, да сябе. Едзь толькі.

— Ну, я пайду,— ціха прамовіла Андрэіха.— Дзякую табе за перац.

І, развітаўшыся, пайшла.

Назаўтра Сямён пачуў ад суседкі, што Андрэіха падрадзілася паняньчыць настаўніцкае дзіцця.

1970

## ЛІСТ ДА ОЛІ

У нашай старой, нядаўна перацягнутай з хутара хаце, днямі вымытай, паклеенай шпалерамі, была вялікая радасць: жаніўся мой старэйшы брат Казік. Праўда, з намі ён цяпер не жыў, давучваўся, прыйшоўшы з войска, але тата папрасіў яго справіць вяселле дома, а

не ў горадзе, згуляць па старых законах, па-людску. Бацька сказаў, што ў касцёл шлюб браць ні яго, ні яе не гоніць і не будзе злавацца, калі не паедуць: цяпер усе маладыя без шлюбу жывуць.

Я болей радаваўся б, каб жаніўся наш сусед, Янак. Да яго я прывык болей, як да Казіка. І не таму, што Казік, закончыўшы васьмігодку, рэдка бываў дома, блытаўся недзе па свеце і я да яго не прывык. Не. Казікам чамусьці найболей ганарыліся ў сям'і, хвалілі яго, хацелі вывучыць на «вялікага чалавека». І ён пыжыўся, задзіраў высока нос, рос трутнем, звальваючы ўсю дамашнюю работу на нас, меншых, а то і ўпотай крыўдзіў нас. Яго перасталі хваліць, калі ён не пайшоў у дзевяты клас, а паехаў у горад вучыцца на шафёра, пазлаваліся, калі бацьку выклікалі ў вучылішча — Казік адпусціў доўгія валасы, стаў курыць, піць, запусціў вучобу. Былі рады, калі яго забралі служыць: думалі, што ў арміі ён паразумнее. Але не вельмі ён паразумнеў. Ад яго і цяпер рэдка калі пачуеш добрае слова, Янака ён абзывае «рабацягам», мяне — «старым» ці «шпінгалетам», а то і яшчэ горш — «салагаю». Калі бывае ласкавы, дык ведай: трэба хуценька збегаць у краму па віно ці цыгарэты.

Тады зранку пачалі збірацца госці. Добрая палавіна прыехала з горада. Павыходзіўшы з аўтобуса, сябры Казіка цмокалі: «Славное местечко. Еще бы жинку с хорошей тещей, домик, деньжат!..» І смяяліся. Ціснулі да болю маю руку: «Здароў, здароў, стары!», траслі бацькаву: «Привет, хозяин!» Шмат гасцей прыкаціла на матацыклах і на вазах, напакаваных сенам, з блізкіх мястэчак.

Гарадскія госці, у дарагіх чорных касцюмах, у модных туфлях і пры гальштуках, не саромеліся прызнацца, што прыехалі нашча, і адразу паселі за стол, пілі, елі, без супынку хвалілі катлеты, галубцы, піва.

Іншыя — нашы, янкавіцкія і з Налібак, у зашпіленых на ўсе гузікі кашулях, без гальштукаў, падстрыжаныя пад польку, таксама на вяселлі шмат пілі, чарка за чаркаю, мала закусвалі, толькі выціралі губы рукою. Яны быццам адчувалі сябе лішнімі на гэтым вяселлі, найболей пазіралі на сваіх жонак з пазатыканымі ў рукавы хустачкамі. Негаваркія яшчэ жанчыны каштавалі катлеты, булкі, сухарыкі,ківалі сваім мужчынам на яду, шапталі на вуха: «Закусвай, закусвай, каб не давялося валачы цябе дадому!»

Я стаяў са сваімі аднагодкамі за стаяком і цікаваў за вясельнікамі. Мяне таксама пасадзілі б за стол, можа, ля маладых, але было мала месца. Бацька сказаў, што я не такі вялікі госць, а Казік загадаў мне пільнаваць, каб «падшыванцы», гэта значыць мае сябры, не палазілі па кішэнях скінутага гасцямі адзення. Мне было брыдка перад сваімі

хлопцамі, і я сказаў, што не буду пільнаваць. Казік зазлаваў, а потым махнуў рукою, толькі прыстрашыў, што адлупцуе.

Я не зводзіў вачэй з будучай братавай — Олі. Яна моўчкі, апусціўшы вочы, сядзела на покуці ля Казіка, які раз-пораз чокаўся чаркай з усімі праз стол, піў, лічы, не закусваючы. Ён, здаецца, не зважаў на Олю — тая не піла і не ела, а нечага плакала, выціраючы вочы і нос белай хустачкаю.

Олю я ўжо крыху ведаў, яна рабіла на прудскім медпункце, і мяне туды вазілі летась, калі я парэзаў палец. Бачыў яшчэ, як раз у нядзелю катаў яе на «Яве» Казік. Ён амаль кожную нядзелю катаў новых дзяўчат, маладых і ў гадах, а пасля на вечар кудысьці прападаў. Варочаўся толькі раніцай, сонны, з прыпухлымі вачыма. Хапаў сваю сумку і, папрасіўшы ў бацькі грошай, бег на аўтобус.

Я прывык да гэтага, думаў, што ўсе дзяўчаты закаханы ў майго старэйшага брата.

Я ўяўляў, што, падцягнуўшыся ў росце, таксама буду вазіць дзяўчат, можа, на «Яве» ці на «Іжы», а то і на легкавой: Казік заробіць на машыну грошай і купіць мне. Аднойчы суседскую ганарлівую Стасю я правёз на веласіпедзе з горкі, але ў шасцярню ўкруцілася калашына, і мы паваліліся. Стася абабіла нагу, заплакала, сыпанула на мяне пяском і ўцякла. Я быў кінуўся наўздагон, але не дагнаў.

Я ўбачыў, што мяне шукае вачыма Янак. Калі я падышоў да яго, ён паказаў мне пальцам на Олю. Яна рабіла знакі: маўляў, ёсць месца. Пасля неяк дзіўна зірнула на Янака, а ён на яе, і абое ў адну хвіліну апусцілі вочы.

Я выйшаў на двор і праз адчыненае акно ўлез у хату, Оля крышачку пасунулася да Казіка, вяла ўсміхаючыся, пасадзіла мяне ля сябе.

— Чаму ты схаваўся і не хочаш паказацца? — шапнула яна мне на вуха.— Мне гэтак сумна... Давай з табой вып'ем крышачку. Добра?

— Ды ён — здаровы малец! — мусіць, першы раз навёў на Олю п'яныя, бліскучыя вочы Казік.— Блатняга! Ён і шклянку кульне. І не зморшчыцца.

— От, не абгаворвай мне хлопца! — не паднімаючы на яго вачэй, мусіць, наўмысна зласнавата сказала яму Оля і пагладзіла мяне па галаве, а пасля палажыла на плячо сваю лёгкую, шорсткую ад шоўку руку. Я, мусіць, зачырванеўся, бо ўсе вясельныя зірнулі на мяне, падміргнулі, а адзін з вусікамі пажартаваў: «Бач ты яго, дзе прымасціўся! Ты, Казік, глядзі...»

— Музыканцікі! — усміхнуўшыся, Казік ляснуў далонямі.— Не паснулі яшчэ?

— Січас, січас,— выціраючы губы хустачкаю, падняў з каленяў скрыпку дзядзька Валюсь.

Маладыя хлопцы і дзяўчаты, не слухаючыся ўгавораў старэйшых, пачалі вылазіць. Хлопцы далікатна прапускалі дзяўчат, падтрымліваючы іх за локці. Палез да дзвярэй і Казік, махнуў рукою Олі: «Пайшлі, чаго расселася!»

Старэйшыя мужчыны засталіся за сталамі, уволю цяпер курылі, наперабой гаварылі пра вайну, палітыку, дымілі на ўсю хату.

Танцавалі на вымеценым двары — нешта знаёмае, павольна, як кожную нядзелю ў клубе пасля кіно. Але калі да музыкантаў падышоў Казік, дык яны разанулі штосьці хуткае і такое вясёлае.

— Глядзі, чарлістон!

— Гэта ліпсі, ліпсі, цётка.

— А, каб вы пагарэлі са сваімі танцамі!

— І маладая дае! Вось папалася Янукевічу танцорка! — кабеты паказвалі пальцамі, смяяліся.

— Мо і ты, Манька, пусцілася б! — таўханула ў бок сваю суседку Пётрыкава Зося.— Далібог, сумееш так круціць. Ці баішся рассыпацца? Не ведаю, як яны зжывуцца! Ты чула, Манька?..— Зося нагнулася да яе і зашаптала, што сусед наш, Янак, да Олі хадзіў.

— А Казік сілаю яе... Дык і бярэ цяпер. Мо судом прыстрашыла: цяпер сама знаеш, з гэтым дзелам надта... А Янак... Любіць яе. Моцна любіць: мая Яня мне гаварыла. Ой, і будзе ў Янукевічаў вайна! Хіба стары як супакоіць... Але хіба ўпільнуе ён? Казік то ў горад паедзе, а яна з Янакам... Цяпер не разбярэш, што на свеце робіцца...

— Э, не тое! — выбег раптам на круг і махнуў рукою сват Міхал, палажыў баяністу руку на баян.— Не тыя танцы! Калі вы, маладыя, хочаце такіх, то, проша прабачыць, пачакайце. Паспееце — нагуляецеся. Эй, Валюсь! Браток, сыпні полечку! Ды нашу, беларускую! Нашу, браток...

Дзядзька Міхал падхапіў Олю (Казік нават не паспеў нічога сказаць), выскачыў на сярэдзіну:

Эх, дзевачка,
Чаму ты тоненькая?
Пагуляй са мной,
Будзеш ры-рай-рай-рай...
Эх, ха-ха-ха!

— Ну і таўсцюк! Што падмецены скача! — засмяялася Зося.— Так, здаецца, ледзь жывот свой валачэ, а на танцы — спец, каб ты праваліўся.

Зося не паспела дагаварыць: яе падхапіў і закруціў другі сват, дзядзька Антон.

— Танцы знайшлі! Цьфу! — плюнуў Казік.— Цэлы вечар цяпер сваімі полькамі ды падыспанамі зоймуць. І гэты скача, рад вельмі! — гэта сказаў ён, мусіць, пра Янака.

Я ўвесь вечар не зводзіў з Олі вачэй. Тое, што яна будзе жыць з сённяшняй ночы з намі, радавала мяне і крыху палохала.

...Казіка ў горад праводзіў з Оляю і я. Калі паказаўся чырвоны з белымі фіранкамі на вокнах аўтобус, Казік сунуў мне ў кішэню тры рублі.

— Цукеркі купляй,— прашаптаў.— А то ты на мяне гэтакі злосны... Калі Янак сыдзецца з Оляй, то ты не адыходзь, будзь з імі. Добра?

Я радасна кіўнуў галавою.

Казік ускочыў у перапоўнены аўтобус, махнуў мне рукою, потым прыклаў руку да вуснаў — для Олі.

Мы павярнуліся і пайшлі. Оля была нейкая сумная, не смяялася і не хацела жартаваць са мной.

Вяселле адшумела, адзвінела, аб ім ужо і не ўспаміналі. Спярша мне здавалася, што ў нашай хаце нічога не перамянілася: бацька па-ранейшаму паднімаўся на світанку — даіў сам карову, працэджваў малако, карміў свіней. Рана раскатурхваў і мяне выганяць на пашу карову.

Калі я вяртаўся дахаты, хадзіў па сваім двարэ і Янак. Ён з'язджаў на цэлы дзень — карчаваў недзе за Налібакамі алешнік і зарабляў няблага. Я пасля Янакавай палучкі набіваў кішэні цукеркамі і пернікамі.

З Оляю Янак бачыўся рэдка. Павітаецца і стараецца адысці. Оля вечарамі штосьці чытала ці пісала Казіку лісты — з хаты не выходзіла.

На другі тыдзень пасля вяселля я прачнуўся раней, чым звычайна. Брынчалі вёдры, лілася вада: упаў з лавы кубак. Канечне, там гаспадарыла Оля. Я чуў, як яна ўчора расказвала бацьку, што сама таксама з вёскі, скончыла медвучылішча, хацела падавацца вучыцца далей, але не ўдалося.

— Тата, тата?.. Гэта ты пабудзіў Олю? — шэптам спытаў я ў бацькі — ён ляжаў побач.

— Уга! Сама,— таксама ціха прашаптаў ён.— Кажа: «Спіце, тата. Хіба ваша гэта работа з каровамі і свіннямі пэцкацца? І карову сама падганю, хай падрэмле яшчэ Пецька». Далібог, так і сказала. Кажа, што падніме нас, калі снеданне згатуецца.

Бацька мігам схаваў галаву, стаіўся і я: сюды ішла Оля. Я чуў — сцягнула з маёй галавы коўдру, дыхнула цяплом, мусіць, ад печы, і сціснула мой нос. Я не ўтрымаўся, каб не ўсміхнуцца.

— Спіш, швагрусёк? — прашаптала яна і прыгарнула мяне да сябе, прыткнуўшы сваю шчаку да маёй.— Ну, паспі яшчэ трошачкі,— накрыла мяне і адышла.

Мне стала лёгка-лёгка і радасна, здаецца, намнога вальней забілася сэрца.

Калі мы паснедалі, Оля паехала на бацькавым веласіпедзе ў медпункт. Панеслася што віхор.

— От галаву яшчэ дзе скруціць! — усміхнуўся сабе пад нос бацька.— Хоць бы цішэй крыху...

«Во! — падумалася мне.— Каб я так насіўся на тваім веласіпедзе, то скора забраў бы і накруціў бы вушы. І на Казіка насварыўся б. А на Олю — не...»

Заўважыў я, што раней звычайнага пачаў прыязджаць з работы Янак. Ён несся на «Яве» што чорт, аж крычалі і ляцелі ў свае двары куры, а бабулькі спалохана падбіралі са сцежак малых дзяцей.

— Слухай, Оля ўжо вярнулася? — спытаў ён аднаго дня, нечага чырванеючы.

—- Не,— шчыра прызнаўся я.— А які ў цябе да Олі інтарэс?

— Дваякі! — ён даў мне ў лоб пстрычку і засмяяўся.— Менш старайся ў свае гады ведаць! Слухай,— Янак пацішэў,— хадзі сюды. Ну, не бойся. Гэта во — табе. А гэты кулёк аддасі Олі. Скажаш, што ты купіў за свае грошы,— ён прыплюшчыў вока.— Я чуў, што бразгаюць капейкі ў цябе. Ці не Казік раздабрухаўся?

— Не,— зманіў я і адчуў, што запалалі шчокі.— Тата даў. А чаму ты сам ёй не хочаш даць? Чаго ты яе баішся? Вось я...

— Ну, аддасі?

Не паспеў я пакаштаваць і першай цукеркі, як на веласіпедзе ўляцела ў двор Оля. Саскочыла з яго, падбегла да мяне. Бегла босая і таму на пятках — калоўся пясок. Яна падхапіла мяне пад пахі і памчала ў хату. Я не бараніўся і адчуваў сябе неяк няёмка, саромеўся. Відаць, ад таго, што я гэтак мала пазнаў цяпла і ласкі матчыных рук: яна памерла, калі мне не было і года.

— Ведаеш што, Пецька? — Оля прыціснула мяне да грудзей.— Зараз пабяжым купацца. Спацела я! Запылела! Ой! — яна апусціла мяне на падлогу.— І ногі ж у цябе! Хоць рэпу сей. Каб бачыла раней, то не захацела б сябраваць з табой.

— Я памыюся сёння,— мне стала сорамна перад Оляю.— На,— не паднімаючы вачэй, падаў ёй кулёк з цукеркамі.

— Цукеркі? — яна засмяялася, разарваўшы кулёк, усыпала мне за пазуху цэлую жменю.— А табе хто даў?

— Янак.

— Янак?

— Ну,— я раптам адчуў, што прагаварыўся.— Гэта я пасмяяўся. Я сам купіў.

— Ты? А дзе ж ты гэтулькі грошай узяў?

— Казік даў.

— Ой, Пецька, любанькі, не мані,— яна паківала галавою.— Няможна. Ну, скажы праўду. Янак купіў, га?

— Ага,— матнуў я галавою, ведаючы, што давядзецца ўжо з тыдзень не падысці да Янакавай «Явы».

Оля шпарка падбегла да акна, расчыніла яго, перагнулася:

— Янак?

— У-У,— пачуўся яго голас.

— Дзякуй за падарунак! Не забыўся: сёння ў мяне дзень нараджэння!

— За які падарунак? — Янакаў голас пачуўся бліжэй.— Нічога не разумею.

— Ой, не ведаеш! — Оля паківала галавою.— От хлусы сабраліся! І малы, і вялікі.

Не дачакаўшыся Янакавага адказу, Оля падбегла да мяне, падняла мой падбародак і цмокнула ў шчаку.

Калі мы з ёю выходзілі з хаты, я ўбачыў, што Янак сядзеў у сваім двары і корпаўся ў матацыкле.

«І што ён там робіць? Нядаўна хваліўся, што «Ява» спраўная».

— Пайшлі на рэчку, хлус! — пазвала яго Оля.

— Я памыўся ўжо,— сказаў Янак, не паварочваючыся.

— Памыўся! Калі ты паспеў! — засмяялася Оля.

Яна зайшла ў суседскі двор, да Янака, павадзіла яго на спіну.

— Пайшлі!

— Я ж быў...— расплыўся нарэшце ва ўсмешцы і Янак.

— Ах ты манюка! — Оля нагнулася, валасы апалі на Янакаву галаву. Я ўбачыў, што яна пацалавала суседа.

«І Янаку цяпер добра».

Оля ўскочыла, схапіла маю руку, і мы пабеглі. Я азірнуўся. Янак стаяў і глядзеў нам услед.

Рэчка ў нас неглыбокая. Некалі не было відаць і дна, гаварыў мой бацька, але як пракапалі, каб асушыць балота, вада спала, звялася і рыба.

— Пецік, ты купайся за тым кустом, а я тут буду. Усё ж ты хлопец,— пажартавала Оля.

Праз лісце алешніку я зірнуў і ўбачыў, як яна сцягвала цераз галаву світэр. Апускаючы на ногі спадніцу, яна цікнула на мяне.

— Швагра! Не глядзі!

«Што маленькая... Саромеецца».

Я хуценька распрануўся, скокнуў у ваду, на хвіліну ад задавальнення заплюшчыў вочы, пасля пачаў плюскацца. Гонячы перад сабою вялікія, адзін за адным кругі, падплыла і Оля, моцна б'ючы па вадзе.

«І плаваць добра не ўмее. Я лепей...»

Оля апырскала мой твар вадой, пачала біць па вадзе далонню. І пакуль я засланяў рукамі твар ад пырскаў, яна прыцягнула мяне да сябе. Я пачаў адхінацца, але Оля трымала моцна. Тады я ўшчыпнуў яе за жывот, яна войкнула і села ў ваду. А я выскачыў на бераг.

— Няможна так,— паскардзілася яна.— Пецік, не ўцякай... Я жартам...

Пасля яна вылезла з вады, прыкрыла грудзі рукамі. Прысела. Папрасіла, каб я расчэсваў ёй валасы. Доўгія, на ўсю спіну, мяккія-мяккія, прыгожыя. Калі я працягваў зверху грэбенем, Оля зажмурвалася. На яе спіну зляталі з грэбня кроплі вады, ад іх Оля аж выгінала спіну.

— Пецька, ты любіш мяне?

— Не ведаю,— засаромеўся я.

— Як гэта ты не ведаеш? Не любіш, значыць,— яна, мусіць, пакрыўдзілася.— А скажы, Янак любіць мяне?

Я паціснуў плячыма.

— А ты Янака любіш? — зірнула на мяне неяк з не цярплівасцю.

— Люблю,— адразу адказаў я.

— А Казіка? Любіш ты Казіка?

— Не ведаю,— паціснуў я плячыма.

— І я не ведаю, ці люблю Казіка,— Оля сказала і змоўкла, пасля прытуліла мяне да сябе, пачала гладзіць па мокрай галаве.— І я Янака больш люблю, мне за яго трэба было замуж ісці, але,— яна ўздыхнула,— ты гэтага яшчэ не зразумееш! А цябе я, дурненькі, вельмі люблю. Больш, як Казіка, як Янака, як тату. Сіротка мая... Ты добры, Пецька, толькі нешта хаваеш ад мяне, недагаворваеш. Чаго ты ўчора за мною ішоў, калі я да Ані вечарам выходзіла?

Я апусціў галаву і маўчаў, мне стала сорамна, што Оля здагадалася, што я за ёй трохі падпільноўваю.

— Сама цяжка, калі бачыш, што нехта табе не верыць. Значыць, не любіць цябе, зневажае... Цяжка, аж плакаць хочацца...

— Я, я... люблю цябе...

— Я не пра цябе, Пецька. Я пра яго, пра свайго...— Яна стала бокам да мяне, пачала адзявацца.— Ужо і ў школу хутка табе. Заўтра мы, можа, паедзем у раён. Касцюмчык, туфелькі новыя табе пастараемся...

Ідучы дамоў, мы згледзелі Казіка. Оля кінула мяне і пабегла да яго, высокага, з пышнымі бакенбардамі. Кінулася на грудзіну, абхапіла шыю рукамі.

— Пачакай,— адштурхнуў яе Казік,— дай штаны ачысціць, а то — як вахлак хаджу.

Оля адскочыла ад яго, адвярнулася і закрыла твар рукамі.

— Ладна, кінь крыўды. Будзь прасцей,— абняў яе Казік, зірнуў на мяне.— А ты тут чаго? Кыш адсюль...

Я адбегся і азірнуўся. Казік і Оля цалаваліся.

«І Казіку цяпер добра. Бач, як доўга цалуюцца, хочуць, каб пабалей хораша было».

...Вечарам, сустрэўшы на вуліцы хмурага Янака, я пацягнуў яго за руку ў наш двор. Ён здзіўлена пазіраў на мяие. Я паказаў яму на высокую яблыню: пад ёю на разасланай дзяружцы ляжала Оля, а збоку сядзеў ля яе Казік.

— Мазалі на тваіх руках...— гаварыў Казік.— Вёдры цягаеш? Не цягай.

— Шкода твайго бацькі,— прашаптала Оля,— мужчына, а...

— Шкода, шкода... Падумаеш, мне вялікі гонар, што мая жонка свіныя вёдры носіць... Паедзем са мной. А то здзічэеш тут, сярод свіней. Сорам будзе людзям паказаць.

— Глядзі, глядзі! — тузануў я Янака за рукаў.

— От! Другі раз вушы абарву, калі будзеш лезці не ў сваё,— адпіхнуў мяне злосна Янак і пайшоў.

— Ну, як? — злавіў мяне пасля вячэры аднаго на двары Казік.— Яны, гэтага... не цмокаліся?

— Не,— утаіў я.

— Ты, пацан, праўду гавары!

— Далібог, не бачыў,— сказаў я.

— Ціх! — сыкнуў на мяне Казік.— Яна, можа, стаіць дзе і падслухоўвае. Ты мо і не думаў глядзець за імі?

— Дальбог, глядзеў...

— Ну, ладна. Малайчына! — пагладзіў Казік па маёй галаве.— А касцюмчык табе Оля купіць. Ведай маю дабрату! Ты, брат, пільнуй. Ты мала каму вер на гэтым свеце. Пацан, салага ты яшчэ, некалі ўбачыш...

Я так і не зразумеў тады, што ён мне хацеў сказаць, але толькі не паслухаўся яго, па-колішняму верыў тату, Янаку, Олі, а яму... Сапраўды, чамусьці Казіку мне не хацелася верыць.

Нядзелі я ніяк не мог прычакаць. У гэты дзень медпункт не працаваў, і Оля мелася быць дома. Яна падакляравала мне касцюм, а яшчэ сказала, што пачастуе марожаным, якога я дагэтуль і ў вочы ніколі не бачыў.

Устаў я раненька, раней за ўсіх. Дапамог Олі падмесці двор, знёс кошыкамі ў поле смецце, а пасля прынёс сырога, жоўтага пяску і густа высыпаў сцежку.

Пазней мужчыны, што прыходзілі падстрыгацца да майго бацькі, страшылі мяне, што я адаб'юся ў горадзе ад Олі, буду бегаць і плакаць адзін. Але я не баяўся: ведаў, што яны жартуюць.

Калі мы з Оляй выскачылі з хаты, то ледзь не збілі на ганку з ног нашага брыгадзіра.

— Куды вы, Янукевічы? — запытаў ён.

Я паспяшыў пахваліцца.

— Канечне, яно трэба,— брыгадзір пачухаў патыліцу.— А можа, вы, Вольга Васільеўна, выратавалі б мяне сёння. Ведаеце, жыта за рэчкаю асыпаецца. А як дождж? З'есць тады мяне старшыня! Нядзельнік во зрабіць надумалі, падабраць за жняяркаю валкі.

— Як, Пецька? — тузанула мяне за нос Оля.

— Ай,— пацягнуў я яе за руку.— Паехалі... Тата сходзіць.

— Не, мусіць, трэба памагчы,— затрымала мяне Оля.— Дзядзьку Мікіту могуць з брыгадзірства скінуць.

— Ну, не скінуць,— усміхнуўся брыгадзір,— але будзе грызні...

У Стоўбцы мы не паехалі. Выбралі лягчэйшыя граблі, падышоў Янак з драўлянымі вілкамі, і мы пайшлі вуліцаю за рэчку. Янак і Оля ішлі побач, а я трумсаў другім бокам вуліцы, перабіраў грабільнам штыкеціны платоў.

Недалёка ля моста, ужо за вёскаю, Оля войкнула і прысела. Я быў злосны і не падбег да яе — злаваўся. Даклядавала-даклярававала і — на табе! А Янак нагнуўся і пачаў шукаць у назе стрэмку, але нагі Олінай у рукі не браў. Яна засмяялася, пабегла. Дагнаўшы мяне, падхапіла на рукі.

Я ж цябе падманула,
Я ж цябе падвяла,
Я ж цябе, маладога,
З розуму звяла...

Я нехаця зграбаў жыта, не зважаў на Оліны жарты, адварочваўся, калі яна хацела зазірнуць мне ў твар.

— Злуе! — ківала яна на мяне галавою Янаку.— Ну, Пецік, у гэтую нядзелю. Далібог, ужо ў гэтую...

Мы не пайшлі да ўсіх за рэчку, бо Олі захацелася грэбці ля лесу, нашаю групкаю.

— Мы — ударнікі,— смяялася яна.— Перадавікі. Змагаемся за... Янак, не адставай, бяры прыклад з Пеці. Ён лепш за нас усіх працуе.

Я не хацеў з ёю размаўляць ці жартаваць. Калі я сабраўся кінуць граблі і марсянуць дамоў, пацямнела, прапала сонца, адразу пасвяжэла, застыў на спіне і на твары пот. Над вёскаю чарнела вялікая, на палавіну неба, хмара. Хутка аднекуль наляцеў вецер, закруціў, панёс хапкі жыта, чапляў за кусты. Гэтак жа хутка пырснулі халодныя кроплі. Потым зашумела, завесіла вёску: лінуў спорны-спорны, цёплы дождж.

Янак і Оля схаваліся ад дажджу ў раскіданай ветрам нечай капе сена, а я залез у другую, што была збоку іхняй.

Стрэліла, аж трасянуліся ля вушэй жылкі.

— Ідзі сюды, хопіць дзьмуць губы, гэй! — гукнула Оля.— Адзін баяцца будзеш.

— Не будзе,— заспакоіў яе Янак.

— Злосны і помслівы ты, мусіць, Пецька, як і твой брат...

Я маўчаў. Маўчалі і яны. Усё, мусіць, паглядалі на поле, на тое, як да дзяўчат перабягалі хлопцы, як вісеў над іржышчам дождж. Пасля я бачыў, што Оля высоўвала з капы руку, збірала на яе ваду і пырскала ёю на Янака — кідала яму на грудзіну, відаць, на гарачы, яшчэ не астылы твар.

— Чаго ты такі, Янак? — пачуў я, хоць Оля і ціха гаварыла.— Ты ж не такі ўжо быў ціхоня. Не раз бараніцца трэба было...

— Не быў,— Янак высунуў босую нагу на дождж.

— Ты яшчэ любіш мяне?

— Чаму ты так думаеш?

— Ты ж... Не мог ты ўжо ўсё забыць...— ціха гаварыла Оля.

— Я хацеў таго, чаго хлопцы хочуць...

— Няпраўда. Не мані. Ты не такі. Гэта Казік тады з першага вечара не паважаў мяне, нахабнічаў... Ты дарэмна тады ўцёк, пакінуўшы Казіка са мною... Нашто ты яго прыводзіў? Чаму злаваўся, раўнаваў? Дзяўчатам падабаюцца вясёлыя хлопцы, вось я і... Далібог, у той вечар была я з Казікам строгая... Можа, ён, вярнуўшыся, табе абы-чаго нагаварыў... Яначак, скажы, ты любіш мяне?

Янак маўчаў.

— Маўчыш. Ну, і не кажы. І не трэба... Сваркі баішся. А я ўбачыла, што Казік мяне не любіць, што яму трэба было даказаць, што за ім любая...

— А чаго ж ты ішла тады за яго? — ледзь не закрычаў Янак.

— Табе назло. Як пакінуў тады мяне, падумаў брыдкое, не паверыў мне, то я і вырашыла адпомсціць...

— Адпомсціць, адпомсціць! — Янак гаварыў злосна.— Помста! Скажы: баялася, што буду бензінам пахці і ты за мною горада не ўбачыш, прападзеш ля свіней... Здзічэеш!

— Змоўкні!

— Праўда вочы коле... Янак цябе толькі можа на трактары пакатаць... На трактары? Сорам! Вось сусед — гараджанін...

Янак гаварыў, крычаў, а Оля маўчала і, мусіць, плакала, а пасля змоўк і ён.

— Янак, я вазьму развод? Усё роўна прыйдзецца...

— Як хочаш,— Янак апусціў вочы і пачаў капаць пяткаю зямлю,— раз ужо людзей насмяшылі...

— Ты ж любіш мяне, счарнеў вунь...

— Ну і што?

— Як — што! — Оля нахілілаея, упала яму на грудзіну.— Навошта мы губім сябе?

Янак падняў яе галаву, зірнуў у вочы, а пасля пачаў цалаваць. Оля не баранілася.

«Думаюць, што я не бачу. Скажу тату...»

— Янак,— яна адхінулася ад яго,— як сёння прыедзе Казік, то адразу сама і скажу... Не будзе ў нас з ім жыцця... Мы з'едзем куды — хоць у Сібір, хоць у Казахстан,— а пасля, калі ўсе забудуць, можам і вярнуцца. Чаго маўчыш? Скажы што...

— Думаеш, мне легка? — ціха сказаў Янак.— Як падумаю, што ты ўжо...

— Ну, якая? — не дачакаўшыся, нецярпліва запытала Оля.

— Якая! Чужая...

— Чужая...— перакрывіла Оля.— Вось як... Ды ты ні кропелькі мяне не кахаў. Кахаў бы — усё зразумеў...

Оля яшчэ шмат папікала, а пасля нечакана падхапілася і пабегла ў густы дождж.

— Янак,— перабегшы да свайго суседа, усклікнуў я,— пакатаеш мяне сёння? Вунь як будуць ляцець з-пад колаў пырскі!

— Адчапіся ты! — буркнуў той.— Не да цябе...

Казік прыехаў дамоў пад вечар, прывёз мне ўсялякіх ласункаў. Сам не разумею, як усё здарылася, але ён змусіў мяне расказаць пра сённяшні дзень. Слухаў, кусаў вусны.

— А ты хоць, асёл, з імі ў адной капе сядзеў ці воддаль дзе? — закрычаў на мяне.

— Воддаль.

— Эх ты, дубіна!

— Чаго ты так на Пецьку крычыш? — аднекуль нахапілася Оля.

— Ну, хадзі, хадзі сюды, галубка...— паківаў пальцам Казік.— Раскажы, падзяліся шчыра, як сумна адной без мужа, як... Усё-ўсё раскажы.

Оля стрэльнула позіркам на мяне — я не міргнуў і вокам: ведай, як хлусіць.

— Ну, расказвай, мадам...

— Казік, нам з табой...

— Што — нам?..— закрычаў Казік і хапіў яе за плячо.— Сволач ты! Абы толькі пакінуў адну, то... Варту ставіць да цябе?

— Казік, ты не любіш мяне, ты мяне ўзяў, каб толькі...

— Гэта як я захачу! — перабіў яе Казік.— Калі ўзяў, то ты — мая.

— Мы павінны ўзяць развод! І чым хутчэй, тым лепш.

— Я табе дам развод! Я табе...— Казік замахнуўся і ўдарыў Олю па шчацэ.— Ну, я не люблю цябе і не любіў, я памыліўся, паспяшаўся, мне не такая баба, як ты, патрэбна...

Ён замахнуўся яшчэ раз, але я не стрываў, падбег і павіс на яго руцэ.

— Не бі Олю! Яна харошая! Оля добрая! Скажу тату!..

— Усе вы добрыя,— адкінуў мяне брат.— Усе вы абманваеце мяне: робіце адно, а гаворыце другое.

Оля вырвалася, уцякла да суседзяў. Пакінуўшы брата, услед за ёю пабег і я.

Сёння зноў прыязджае дамоў Казік. Я не ведаю: ажаніўся ён з «дачкой якога-небудзь туза» ці не. Але я рашыў, што не пакажу яму, нізашто не пакажу ліст, што прыслалі Янак і Оля з цаліны. Я не скажу яму, што атрымаў учора першую пяцёрку, што настаўніца мяне пахваліла, не прагаваруся Казіку і пра тое, што калі навучуся пісаць, дык абавязкова напішу Олі ліст. Раскажу, як яе я любіў, папрашу ў яе прабачэння за тую віну перад ёю. Я ёй усё-ўсё апішу, пажадаю шчасця...

1967

## АСЕННЯЕ ЛЕТА

Мы многа пішам пра вайну і боль,
А пра каханне — час ад часу толькі...
*Анатоль Сербантовіч*

Бывае такая ня'доўгая, але вельмі прыкметная пара на дварэ — асенняе лета. Стаіць яно на пачатку верасня, калі яшчэ не паслабела святло, не паспела астудзіцца паветра і трымае летняе цяпло зямля. Тады некалькі дзён гэтак жа горача, як і ў чэрвені ці ў ліпені, бо няма яшчэ халодных скразнякоў і нудных дажджоў-абложнікаў. Морась — цёплы пырскуль ці ўліўны грыбасей — часта нарываецца, але яна хутка праходзіць, мякка парыць, прымушае красаваць у лесе зямлю.

Цёпла, утульна ў асенняе лета, але ўжо вока журботна заўважае жоўта-рудаватае лісце, чырвані ў якім большае з кожным днём, бачыць апусцелыя сухабелыя палі, пацукравелыя яблыкі ў садах і самотную пажаўцеласць на дварэ, якая надта відаць, наганяе незразумелы сум, калі сонца прыхаваецца за хмару і свеціць адтуль, свеціць, здаецца, ярка, але неяк па-жоўтаму самотна. Журбота і смутак прыходзяць, мусіць, ад трывогі за цяпло, зеляніну і кветкі, ад трывогі перад блізкімі халадамі і нізкімі сібернымі дажджамі.

Гэту пару — асенняе лета — Вольга Пятроўна вельмі адчула сёлета, адчула на саракавым годзе свайго жыцця. Дасюль, здаецца, і не заўважала надта, што там на дварэ — канчаецца лета ці ідзе восень, пацяплела ці крыху пахаладала. Важней за ўсё была праца, сям'я — муж ды дзеці — і свая маладосць. А вось сёлета, бадай, упершыню, прыйшла трывога, што ўсё на свеце мяняецца, прыходзіць і адыходзіць, але толькі не маладосць. Нечакана яна прыйдзе, закрасуе, успеніць кроў, ад якой закружыцца галава, затуманіцца розум — тады, можа, і прыйдуць цудоўныя хвіліны кахання ды шчасця, — але нечакана — што і не заўважыш — пасля атухне, хвалюе, як даўні ўспамін, ад якога часамі і зноў палягчэе, абудзяцца радасць, нейкія няспраўджаныя жаданні ды мары пра недасяжна прыгожае і няспрабаванае, а пазней усё нечакана і гэта адыдзе, знікне — і добра чуецца, што табе ўжо сорак, што няма маладой ношкі на плячах, якая зусім не чулася дагэтуль, бо была вельмі лёгкая, нячуйная, як крыллі, можа, затое другая — пажылая — пачала адчувацца адразу...

Вольга Пятроўна ляжала на канапе і адпачывала. Толькі што яна вярнулася дахаты са школы, праўдзівей сказаць, прыйшла не са школы, а з поля, бо дзеці ўжо другі дзень не вучыліся, а капалі ў саўгасе бульбу. Вярнулася, памылася, пад'ела і прылегла адпачыць,

адчуваючы, што доўга не прыйдзецца паляжаць, бо трэба ісці і выбіраць сваю бульбу. Здзіўлялася, што цяпер так хутка пачала стамляцца, чаго раней з ёю не было.

Цішыня стаяла ў іх вялікай хаце. Надта ціха зрабілася нядаўна, калі паехала вучыцца ў горад дачка — закончыла дзесяцігодку і паступіла ў інстытут. Сын ужо з год служыў у войску. Дома была толькі яна, Вольга Пятроўна, ды муж-настаўнік.

Яна падумала, што незаўважна надта, хутка выраслі і разышліся дзеці, што іх ужо не збярэш, не ўтрымаеш тут, дома, а сама яна, маці, не такая старая, магла б яшчэ радзіць дачку ці сына, мець, словам, дзіця, з якім было б і цяпер і некалі весялей. Магла б, каб не было сорамна не так перад людзьмі, як перад сваімі дарослымі дзецьмі, якія ўжо, як яна адчувала сваім матчыным і жаночым сэрцам, маюць маладыя трывогі, жаданні, перажываюць пару першага кахання і яе, пажылой маткі, калі яна родзіць, не зразумеюць, пачнуць калі не папракаць, то саромецца. Ды і муж, саракасямігадовы мужчына, як яна адчувае, не хоча гэтага, думае, мусіць, што яны ўжо старыя...

Вольга Пятроўна выцягнула даўгаватыя ногі, выпрамілася, убачыўшы, што яна яшчэ надта не пастарэла, не страціла стройнасці — невысокія во, але не апалыя, тугаватыя грудзі, зусім не поўны жывот, ладныя загарэлыя ногі, на якіх толькі дзе-нідзе сінеліся падпухлыя жылкі. Не пастарэў і твар — высокі, мала маршчыністы лоб, жывы агеньчык у вачах, чырванаватыя шчокі. Толькі ў куточку вачэй ды вуснаў збегліся густаватыя зморшчакі, але яны яшчэ надта не старацъ яе, бо відаць на яе твары былая краса. Так, яна некалі была вялікая красуня, мела многа хлопцаў, выбірала, мяняла іх, а вось выйшла замуж чамусьці за невысокага, не вельмі сімпатычнага Анатоля, які, як пасля агледзелася, і старэйшы быў за яе, і не такі разумны, як здавалася, але быў, праўда, добры настаўнік і гэтакі ж добры муж. Ціхманы і паслухмяны. Што яна хацела, думала, ён тое век і рабіў, слухаўся яе. Здаецца, толькі вельмі раўнаваў, мучыўся, як яна ў школе пасміхалася з калегамі-настаўнікамі ці вытанцоўвала ў клубе з прыезджымі шаферамі, але мучыўся моўчкі. Можа, нават і таму, што яна жартавала з чужымі мужчынамі, любіла закружыць ім крышку галаву, прымусіць іх і ўкахацца ў яе, паспрабаваць заляцацца, але ніколі большага чаго яна не дазваляла.

Анатоль, які гэтаксама быў з ёю сёння на полі, вярнуўшыся дахаты, пераапрануўшыся і перакусіўшы, не прылёг, а хадзіў недзе па двары. Ці не падбіраў у садзе ападкі — сёлета чамусьці яблыкі вельмі чарвівелі і абвальваліся. Іх не паспявалі есці — і крышаноў з іх насушылі, варэння наварылі, а цяпер дык не ведалі, дзе іх дзяваць.

Пачуліся крокі ў сенцах — ішоў у хату Анатоль. Ён прыпыніўся на кухні, паставіў, мусіць, ля парога кош з ападкамі і ішоў сюды, у лепшую палавіну, дзе стаяла канапа, шафа з кнігамі, тэлевізар і стол.

— Мала што сыплюцца яблыкі, дык яшчэ адна напасць на іх... — сказаў ён, трымаючы ў руцэ вялікі жоўта-зялёны яблык з глыбокімі норкамі, у якіх была відаць чарнаватая труха.

Вольга Пятроўна, лежачы, зірнула не на яблык, а на мужа — невысокага, лысаватага і з густымі маршчынамі на вузкім, здаецца, зусім нясвежым, нават старым, твары, убачыла, што ён стаміўся. Яна пашкадавала яго, паклікала да сябе.

Ён паасцерагаўся, што ідзе па ходніку ў туфлях, можа натрэсці пяску, але бачачы, што яна кліча, зморшчыўся, падышоў і прысеў, стараючыся на яе не пазіраць.

— Сарокі клююць здаровыя жоўтыя антоны, — яшчэ раз заклапочана сказаў ён. — Гэта ж ніколі такога не было, каб птушкі яблыкі на дрэвах дзяўблі...

— Прыляж, — ціха прамовіла яна, пасунулася да сцяны, даючы яму болей месца ля сябе.

— Можа, пойдзем ужо на агарод, — сказаў ён, — буду падкопваць, а ты будзеш выбіраць.

— Выберам тую бульбу, нідзе яна не дзенецца, — адказала яна, — яшчэ вунь толькі пачатак верасня на дварэ. Чаму ты еў часнок?

— Вецер прахапіў, — прамовіў ён, — дык вось заклаў у нос, каб прагнаць прастуду. І з'еў пару драбкоў.

— Які ты нехарошы! Толькі сябе аднаго глядзіш... — яна прыгарнулася да яго. — Але прылашчы...

Ён як засаромеўся, што яна так гаворыць, паводзіць сябе як зусім маладая, азірнуўся, бы хто быў у хаце, а тады злёгку, каб паслухацца, не зусім ахвотна правёў далонню па яе русявых валасах.

—Як яна там, наша Ірынка? — нечакана спытала яна.

— Будзе вучыцца, як і мы некалі вучыліся, як і цяпер вучацца яе аднагодкі.

Пакуль ён гэта гаварыў, яна паспела ўжо ціха заплакаць — зажурбоціцца па дачцэ. Бязгучна плакала і адчувала, што муж гэта чуе, але не спяшаецца супакоіць, пацалаваць яе, як некалі, у маладыя гады, адразу ж супакойваў і цалаваў, а ляжыць побач моўчкі, добра ведаючы, што яна крыху пахліпае, выплача свае хуткія жаночыя слёзы і сама супакоіцца. Ёй стала балюча, што ён такі — спакойны і па-мужчынску чарстваваты.

— Не можа ж яна век быць з намі, — сказаў яшчэ ён, прамовіў зноў надта цвяроза і сухавата. — Пайшлі, бо нам з табой удваіх шмат работы.

І яна, слухаючы яго, паплакала, напраўду супакоілася, што дачцэ трэба было выязджаць адсюль, бо трэба вучыцца, думаць пра будучае, а ім во трэба застацца ўдваіх, працаваць і думаць пра іх, пра сваіх дарослых дзяцей. Яна, адчуваючы, што раптоўны жаль не зусім прайшоў, пацалавала мужа ў аброслую за дзень, калючую шчаку. Ён жа нават не варухнууся, здаецца, ніўто не захвалявала яго — што яна блізка, што ў яе крышку расшпілена блузка і з-пад яе відаць лагчынка ад яе тугіх грудзей, што вышэй каленяў агаліліся яе белаватыя роўненькія ногі.

— Дык пойдзем? — спытаў ён.

— Пойдзем, — уздыхнула яна, яшчэ толькі нядаўна хацела прашаптаць мужу: «А можа, нам і праўда асмеліцца?..» — нават прыдумала ўжо, як апраўдацца, але як толькі пачула сухаватае і настойлівае: «Дык пойдзем?» — стрымалася і не пачала гаварыць мужу пра свае патаемныя думкі, бо яшчэ збаялася, ці добра не толькі дзеці, але і ён, Анатоль, яе зразумее...

Муж падняўся і сказаў, што пойдзе падкопваць на аторку — лапінцы пры хляве — бульбу, а яна няхай зараз падыдзе з кашамі. Сказаў і, не азіраючыся, выйшаў.

Вольга Пятроўна паднялася, паправіла засцілку на канапе. Па целе прабегла нейкая прыемная стома, здаецца, прыліло цяпло да шчок. Яна падышла да люстэрка, паглядзелася і ўбачыла, што напраўду на шчоках гарыць чырванец, і адчула, што гэта не звычайны чырванец, а палымяны, малады.

Яна аж збянтэжылася ад яго.

Можа, муж убачыў яго і крышку раней, заўважыў і сышоў.

Яна ж, пазіраючы на сябе, думала, што зусім яшчэ не старая, даволі маладая на твары і постаццю. І тут жа ўспомніла, што ёй пра гэта — што яна маладая і прыгожая — гаварыў нядаўна адзін мужчына. Ды не пажылы чалавек, а малады хлопец, новы настаўнік.

Ён, гэты новы настаўнік, прыехаў у іх школу ў сярэдзіне жніўня. Быў здалёку, але тутэйшыя настаўніцы ўжо аднекуль ведалі, што яму трыццаць гадоў, што ён быў жанаты, развёўся, будзе плаціць аліменты за дзіця.

Гэты Станіслаў Браніслававіч здаўся спачатку зусім не настаўнікам. Здаўся па сваім адзенні. Усе мужчыны-педагогі хадзілі на працу ў строгіх — аднаго колеру штанах і пінжаку — касцюмах, у белых кашулях і пры гальштуках, а ён, новенькі, прыйшоў першага верасня

ў школу ў шэрых джынсах, на якіх былі жоўтыя замкі, прышыты скураныя жоўтыя латкі з малюнкамі, шырокі з вялікаю бронзаваю панругаю пояс, быў у рыжай скураной куртцы, у расшпіленай на верхні гузік кашулі.

З усімі ён, ні кропелькі не саромеючыся, хутка пазнаёміўся, загаворваў, гэтак жа хутка пазнаёміўся і з ёю, усміхнуўся, што яна вельмі прыгожая, гаварыў і пільна, нясціпла пазіраў у вочы і пазней стараўся і ў настаўніцкай на перапынках жартаваць толькі з ёю, зусім не гледзячы, што бянтэжыцца яна і бялее на твары яе муж ад гэтага. Да яе прыйшоў страх ад яго вось гэтай смеласці ды хітрасці застацца з ёю адзін на адзін і гаварыць ёй пяшчотным голасам толькі прыемнае.

А на днях, атрымаўшы першую плату, яны, настаўнікі, наладзілі невялікую гулянку. Патанцавалі. Анатоль не танцаваў, сядзеў у кутку з мужчынамі, то яна вальсіравала з жанчынамі і з ім, Станіславам Браніслававічам. Танцор ён быў вельмі спраўны, умеў лёгка круціцца, вадзіць яе вакол сябе, прыбліжаючы часамі так блізка, што яна ажно хвалявалася ад гэтага.

Станцаваўшы польку, яна выбегла на двор астудзіцца. Следам за ёю выбег і ён, наблізіўся і шапнуў: «Якая вы мілая! Я ўкаханы ў вас. Чуеце?..»

— Што вы гаворыце? — усміхнулася яна, махаючы перад тварам хустачкаю. — Я ваша маці.

— Я люблю вас, чуеце? — шаптаў ён і прыбліжаўся да яе. — Ні адна дзяўчына вам тут не раўня... Прыйдзіце заўтра ў восем да Каменнай гары... Я буду вас там штодзень чакаць.

— Гаворыце вы!.. — прамовіла яна, усміхаючыся. — Не хапала мне толькі ў сорак гадоў на спатканні бегаць... Апомніцеся, што вы гаворыце, малады хлопец?

Але бачачы, што ён набліжаецца і ці не думае прыхіліць яе да сябе, крутнулася ля яго і хутка падалася ў хату, села ля мужа і болей не танцавала, а пасля ўгаварыла яго ісці дахаты. Нічога яму пра нядаўняе не сказала, а ўжо лежачы ў пасцелі і ўспомніўшы гэта, усміхнулася сама сабе, гадаючы, што было б, каб яна ў свае гады пачала яшчэ хадзіць на спатканні. Думала так і аж ківала галавою...

«А я яшчэ і не старая, — зноў падумала яна цяпер, стоячы ля люстэрка, — і кахаць яшчэ ўмею, магу...»

А Станіслаў Браніслававіч сёння, як яна ішла з поля дахаты, як наўмысна чакаў яе ля магазіна, прывітаўся і выхітраваў, размаўляючы з Анатолем, шапнуць ёй, што ён учора чакаў яе ля Каменнай гары і сёння будзе чакаць, і так зірнуў, што ў яе перахапіла дыханне.

...Ля васьмі гадзін вечара, калі ўжо прыцямнелася, яны пазносілі і высыпалі ў склеп выбраную бульбу, вярнуліся ў хату і хуценька ўхадзіліся па гаспадарцы. Яна сказала мужу абіраць і варыць бульбу, а сама падаіла карову, пасля сасмажыла яешню.

Калі ўдваіх моўчкі і нехаця павячэралі, прыбралі са стала, яна сказала мужу, што ў клубе будуць паказваць сёння цікавае кіно, можна схадзіць і паглядзець.

—Ай! — стомлена ўсміхнуўся Анатоль. — Давай лепш тэлевізар паглядзім ці спаць ляжам, — і, калі гаварыў, шырока пазяхаў і меў такі лянівы выраз твару, што добра відаць было: ніякімі сіламі яго з хаты цяпер не вывалачаш.

— Ну, што ты такі? — Калі ён уключыў тэлевізар, сеў на канапе, яна падышла, апусцілася яму на калені, абняла за шыю.

— Фіранка не зацягнута — людзі ўбачаць.

— Ну і што? — спытала яна. — Хай бачаць. А ты вось вазьмі і панасі мяне на руках...

— Яшчэ што выдумай! — сказаў ён і ссадзіў яе з каленяў побач на канапу. — Хочацца табе яшчэ дзяцініцца!..

—Дзяцініцца, дзяцініцца! — перадражніла яна зласнавата, і ён, здаецца, зразумеў яе, адчуў нават тое, што яна хацела сказаць, але не сказала.

Адчуў, але зусім не змяніўся. Сядзеў і ўзіраўся ў тэлевізар, у якім пачалі паказваць футбол.

«А можа, той на ніякія спатканні не прыходзіць? — нечакана падумала яна пра Станіслава Браніслававіча. — Можа, ён толькі насміхаецца з мяне?» — падумала яна так, і стала крыўдна, што малады хлопец надумаўся пацяшацца з яе.

Як падумала так, адчула горыч, чамусьці ёй захацелася напраўду схадзіць да Каменнай гары і неяк асцярожна, незаўважна паглядзець: прыйшоў той туды ці і не думаў ісці.

— Нешта галава баліць, так хочацца пабыць на дварэ, — сказала яна, ведаючы, што Анатоль нізашто зараз не выйдзе з хаты.

— Ну, пахадзі па свежым ветры, — сказаў незадаволена ён.

—Пайду, — прамовіла з крыўдаю яна, — пайду і не вярнуся да цябе такога...

—А дзе ж ты дзенешся? — усміхнуўся ён.

—Пайду шукаць кавалераў...

—Ідзі, ідзі... — пакепліваў Анатоль. — Толькі ты ім і трэба...

—Што я — такая ўжо старая ці зусім збрыдчэла? — пакрыўджана спытала яна.

— А што — маладзенькая? — усміхнуўся муж і аж падскочыў да тэлевізара: на стадыёне футбалісты ў белай форме забілі гол у вароты футбалістаў у чорным.

Вольга Пятроўна нічога болей не сказала мужу, падалася з хаты.

На дварэ цяпер, пазнаватым вечарам, добра чулася ўжо, што стаіць восень. Было свежа, астыла дзённае цяпло, ад рэчкі папоўз холад, ды і раса пачынала гусцець надта холадна.

Вольга Пятроўна, скалануўшыся плячыма ад дрыжыкаў, выйшла на агарод і разораю падалася на сценку, а з яе — полем да Каменнай гары. Ішла і не хацела ісці, думала, на што ўсё гэта яна робіць, чаго ідзе, чаго хоча, што трэба вярнуцца назад, але і вельмі хацелася пайсці і паглядзець, ці прыйшоў той, ці сур'ёзна ён нешта задумаў...

Вольга Пятроўна многа абгінала, ішла да рэчкі, каб падысці туды не з поля і быць заўважанай, а непрыкметна прыблізіцца з другога боку, з кустоў.

Як пачала прыбліжацца да высокай гары, якую цяпер пачалі раскопваць на жвір, пайшла цішэй, затупала мякка, узіраючыся наперад і ўслухоўваючыся. Часта прыпынялася і падоўгу стаяла, уважліва слухала і стрымлівала дыханне. Але нічога ўбачыць і пачуць не магла, хоць ужо зусім блізка была ля гары.

Можа, вось так уся як ёсць і выскачыла б з кустоў на дарогу, каб не пачула цыгарэтны дым. Тады раптоўна прыпынілася, прыклала руку да сэрца: так яно нечакана затрапяталася. Затрапяталася, як толькі ў роскапні ўбачыла ў джынсах і скураной куртцы, маладога, з цыгарэтаю ў зубах, Станіслава Браніслававіча, які сядзеў на вялікім камені і курыў, пазіраючы амаль на яе.

«Што ён сабе думае, гэты чалавек, за каго мяне лічыць? — падумала яна і разам з тым неяк узрадавалася, што ён не насміхаўся, а напраўду прыйшоў сюды, лічыць яе яшчэ за зусім маладую. — Але што гэта я?..»

Яна, спалохаўшыся сама сябе, адступіла крок назад і зачапіла галавою галінку сасняку, і тая загайдалася. Заміраючы, яна пазірала на галінку, прасіла Бога, каб хлопец не заўважыў гэтага. Пастаяўшы яшчэ крышачку, яна ціхенька адышлася і хутка падалася адсюль, адчуваючы, што нешта зрушылася ў яе душы, як абуджаецца, здаецца, забытае маладое хваляванне, як штосьці нядобрае цягне яе вярнуцца назад, а не ўцякаць адсюль, бо яна, можа, уцякае ад сваёй маладосці, ад свайго цяперашняга шчасця і пасля будзе папракаць сябе за гэта...

...Калі падыходзіла да свайго дома, што амаль ужо зліўся ў цемені з садам, з паветрам і небам, убачыла ў акне лепшай палавіны сіняе

святло ад тэлевізара. Падышоўшы бліжэй, да самых шыбін, зірнула і з самотаю, з нейкім пачуццём вялікай страты згледзела: муж, прылёгшы на правы бок, падкурчыўшыся, ужо спаў нераспрануты на канапе.

1974

## ГУБАТЫ

### 1

....Яно, ласяня, нечакана, прачнуўшыся, пачула, што нехта сюды ідзе. Хоць яшчэ мала пражыло на свеце, але ўжо адчула, што гэта тупае не той малы рыжаваты, але шпаркі і спрытны, дужы ў нагах, з учэпістымі зубамі звер, які нядаўна, зваліўшы з ног, цяў яго за кумпяк, што цяпер абліваўся нечым цеплым і соладка пахкім ды балюча ныў. Той звер падпоўз зусім нячутна, насупраць ветру, а пасля, як яно крыху адстала ад маці, неспадзявана выскачыў з-за кустоў, збіў з ног; тым болей гэта ішла не лёгкая даўгахвостая знаёмая ліса, якая часта блізка падыходзіла і доўга пазірала на іх, дужую маці і яго — свавольніка, і не баязлівы заяц-сусед, не буравата-шэры, з белаю мызаю барсук-валацуга, якіх маці ніколі не баялася і не адганяла, якія любілі пастаяць ля іх і самі пасля адыходзіліся. Валокся нехта цяжка, ломячы галінкі і парыпваючы, тупаючы; а пасля, калі гэтыя шаргавітыя крокі пачуліся зусім блізка, хтосьці, рассякаючы паветра, лёгка шуснуў сюды, да ягонай схованкі — пад густы лазовы куст,— і ласяня, адплюшчыўшы вочы, са страхам убачыла праз напаратныя камлі амаль такога ж невысокага, толькі другога колеру — не рыжаватага, а чорна-белага — звера, які нядаўна разарваў яго сцягно.

Але стомленае, аслабелае ласяня не магло ўжо болей уцякаць, яно толькі торгнулася, крышку праехаўшы ўперад на складзеных пярэдніх нагах і жываце, і зноў заплюшчыла вочы, чакаючы ўдару, за якім ягонае цела зноў ірвануць вострыя клыкі, ды адчуваючы, як зайшлося ад страху сэрца, шурхне, збягаецца і халаднее скура; звер, які чамусьці амаль не пахнуў лесам, дзікім сіверам, ператраўленым пахам дзічыны, а меў нейкія чужыя, як палявыя, пахі, не накідаўся, а таптаўся паблізу, нават не датыкаўся, а залівіста, аж закладала ў вушах, брахаў. Нейк дзіўна сёння абзываўся і той страшны звер — закінуўшы ўверх невялікую галаву, працяжна зацягваючы, выў,— пасля гэтага хутка прыбеглі аднекуль яшчэ такія ж невысокія злосныя звяры і разам абкружвалі, нападалі; нарэшце, правалтузіўшыся так з ночы да раніцы, адсталі ад яго і пагналі некуды маці. Відаць, вось так падклікае сабе памагатараў і гэты чорна-белы звер...

І праз брэх чуваць было, што гучныя крокі ўсё прыбліжаліся, цяжэлі, ад іх аж пачало, здаецца, бухаць у вушах; нарэшце заціхлі, у гэтую хвіліну змоўк і брэх — і спачатку халодны цень, а пасля і нешта вялікае, пахкае і лесам, дымам, смалою, і гэтым чорна-белым зверам, і зусім яшчэ нечым не звярыным, не дзікім, прысела над ім, мякка лэпнула па здаровым сцягне — ад чаго ласяня ўздрыгнула, моцна заплюшчваючы вочы і душою адчуваючы: ну, вось і няма сіл ратавацца, вось і прыйшла смерць!.. І яно абыякава падумала: што будзе, хай тое і будзе. Ад слабасці і адчаю апала галава, тыцнулася зубамі ў зямлю, аж забалелі вусны і набілася ў рот сырога пяску.

Яно плюшчыла вочы, аж уздрыгвалі бровы, сціскалася ў камячок, чакаючы ў любое месца цела балючага ўдару, але ўдару не было. І тады яно з цяжкасцю адплюшчылася і як скрозь вільготны туман, відаць, праз слёзы, убачыла, што сядзіць каля яго на каленях невядомы яму звер, трымаючы пярэднія ногі з доўгімі пальцамі высока над зямлёю. І гэтыя ногі, і твар звера былі белыя, зусім без шэрсці, добра кранутыя загарам. Доўгая шэрсць была толькі па круглай галаве з высокім белым ілбом.

— Дальбуг, плача па-чалавечаму...— як са здзіўленпем пачулася ад таго, і ласяня ўспомніла, што і ў лесе, і за лесам, за рэчкаю, ужо не раз чула такія далёкія галасы, здзіўлялася, які ж звер іх вымаўляе, хацелася пачунь лепш, убачыць таго, але маці зводзіла падалей, балюча таўхалася, каб яно ніколі не імкнулася ісці на гэтыя галасы, і вось яно цяпер пачула, убачыла, хто так гукае (пачула, але нічога не разумела, як не ведала, што гэта ніякі не звер, а чалавек, і не абы-які чалавек, а тутэйшы ляснік).— Ну, што з табою, маё цялятка? Ножку зламала, гойсаючы, ці матка цябе кінула?..— і яшчэ рукою палэпаў яго па спіне, ад чаго яно зноў заплюшчылася, задрыжала, сціснулася.

Той раптам, як толькі даткнуўся да раны, адхапіў — як ад агню — руку, якая стала чамусьці чырвона-яркай, зацёр яе аб зямлю.

— Ды вось яно што!..— усклікнуў ён.— Ваўке цябе парвалі... Беднае ты мае, бязвіннае...

І ён хуценька ўстаў, нарваў паблізу травы і ёю, прыціскаючы, выцер ніжэй раны, кінуў убок, зноў вырваў і працягнуў жмут да калена — услед за яго рухам нага запякла, зайшлася ад болю. Адляцеліся і зазвінелі мухі.

— Трэба ратаваць цябе, цяля маё,— сказаў ляснік, падсунуў пад жывот ласяняці спачатку адну, а пасля і другую руку, падцягнуў, выносячы з-пад куста, пасля падкінуў; высока падняў, што ў ласяняці не толькі абвіслі доўгія белаватыя ногі і не маглі дастаць зямлі, але і

закружылася ад непрывычкі галава, і панёс, блытаючыся ў роснай папараці, што па грудзі рабіла вільготнай вопратку носчыка.

Паперадзе іх пабег сабака — падаўся не скачкамі, аж выцягваючыся, як беглі сёння ваўкі, а задрабязіў, часта прыпыняючыся і шохаючы зямлю: там, прыходзячы з поля, жылі мышы, рыўся, выварочваючы чорна-жоўтыя купіны, стары крот.

За драбналессем, якое ўжо высыхала ад ранішняга, але вельмі цёплага сонца, пачалося знаёмае канюшыннае поле, дзе ласяня з маці не раз ласаваліся смачнаю травою, калі не было надта горача, то і ляжалі, адпачывалі, напіўшыся вады ў блізкай рэчцы і вяртаючыся ад яе ў лес.

Хутка яны цяпер падышлі да зарослай кустамі, аерам старой рэчкі, дзе закіданая гніллём вада была нясмачная, абагнулі яе і апынуліся ля амаль безбярэжнай, стромкай новай рэчкі-канавы, дзе яны пілі золкам ці зусім познім вечарам плыткую смачную ваду, за якой — у цемнаватай зелені і сярод мноства дамоў — чуліся тыя знаёмыя галасы. Яны з маці часта стаялі тут, на беразе, і з вялікай цікавасцю глядзелі туды, гадаючы, што там за жыццё...

Носчык прайшоў берагам і апынуўся ля кладкі, неакораных, але гладкіх зверху жэрдак, перакінутых з аднаго берага на другі. Ступіўшы, ён пагойдаўся і паволі, калышучыся, бокам падаўся на другі бераг, дзе яно ні разу не было: страх і боязь за сваё жыццё праходзілі, але незнаёмыя мясціны з дзіўнымі галасамі, з дзіўным, не лясным, пахам, таемная будучыня так расхвалявалі, што ад усяго гэтага ўзрушэння заслязіліся вочы і пачалі падаць з іх на зямлю буйныя кроплі...

## 2

Ляснік, прыйшоўшы дамоў не вуліцай, а сценкай, праз загадзя адчыненыя жонкай дзверы ўнёс ласяня ў хату, за парогам якой стаяла вялікая печ, дзе шугала полымя і кіпела вада ў гаршках. Тут стаяў зусім незнаемы для ласяняці дух, якім яшчэ там, у прылеску, пахнуў гэты чалавек.

Ласяня апусцілі і палажылі ў кут на цвёрдую падлогу, а сам носчык разагнуўся і памахаў, мусіць, здранцвелымі рукамі.

— Дзе ты яго ўзяў?— спытала невысокая поўненькая гаспадыня.— Такое ж яшчэ малюсенечкае...

— Падабраў у Кавалёвым бары,— адказаў муж, высокі, плячысты, сярэдніх гадоў мужчына.— Ваўке зад парвалі, а матку, відаць, уходалі. Каб яшчэ з гадзіну якую, то і яму капцы былі б: крывёю сышло...

Трэба спіртам абмыць рану ды падбелам прыкласці. Схадзі ты, Маня, нарві...

— Божа, ты мой божа!— пабедавала гаспадыня, збіраючыся выходзіць на двор.— Гэтакае маленечкае, колькі яшчэ там пажыло, а ўжо такі боль... Хай яе з такой доляй!.. Хоць дзікі звер, але як шкода...

Жанчына, накульгваючы, падалася з хаты, а мужчына падышоў да ляжанкі-печы, палэпаў па ёй, намацаў белую анучу, трасянуў яе, што пасыпаўся пыл, пагамтаў у руках, падышоў да вузкай высакаватай шафкі, адцягнуў верхняе шкло і дастаў бутэльку, у якой напалавіну было празрыстай вадкасці. Адкаркаваўшы зубамі бутэльку, ён лінуў з яе на анучку, якая ўвачавідкі памакрэла, што з яе ўпалі долу кроплі, запахлі незнаемым хмелем — намнога мацнейшым, чым пахне паслядажджовы лісцяны лес.

Паставіўшы на месца бутэльку, мужчына падышоў да яго, ласяняці, нагнуўся і прыклаў халодную анучку да раны — ад чаго яго сцягно, здаецца, апалілі агнём.

Яно дзіка замукала, спрабавала ўскочыць, але ляснік паклаў другую дужую руку на спіну і прытрымаў, супакойваючы: «Ну, пацярпі, маё цялятка, папячэ яшчэ троху і сціхне!..» — і вадзіў ды вадзіў, выціраючы, латкаю па ране і вакол яе, раз за разам перакручваючы анучку, хаваючы ў сярэдзіну камячка крывяныя плямы. Выціраў, трымаў спіну і сам ад нечага крывіўся, робячы зусім маленечкія вочкі.

Ласяня моцна-моцна заплюшчыла вочы і зайшлося ад болю, ад якога закалола ў скроні, думала, што вось то ўжо напраўду наступіў канец. Але пасля — і нават нечакана — боль пачаў пацішу слабець, пакідаючы толькі пра сябе напамінак, шчымлівы зуд,— і здалося, што параненая нага, якая торгала, палягчэла, стала лёгкая-лёгкая. Мужчына гладзіў яго па галаве, шыі — і яно сцішылася, ткнулася галавою да цвёрдага долу, стомлена, але з палёгкаю заплюшчыла вочы, адчуваючы, што будзе жыць, што небяспека праходзіць, прападае, а замест яе прыплывае спакой ды суцяшэнне, што стала менш балець, а пасля раптам захацелася есці: сёння маці не паспела яго пакарміць з-за ваўкоў, збегла недзе з поўным вымем, якое цяпер, можа, пырскае на зямлю... Ад успаміну пра цёплае салодкае малако ў ласяняці сабралася ў роце сліна, і тая, якую не паспела пракаўтнуць, пацякла на ніжнюю губу...

— Ці не естачкі ты хочаш?— лагодна запытаў ляснік.— Зараз знойдзем табе малачка, напоім, каб падужэў,— і адышоўся да белай шафкі.

Адчыніў дзверцы, узяў з налічкі збанок, трымаючы яго вялізнай рукою за горлачка, пакруціўся, нешта шукаючы, пасля ўзяў міску,

наліў у яе малака і паднёс, даў ласяняці. Яно пачула знаёмы малочны пах (хоць ён быў не зусім такі, як у мамы-ласіхі), але адразу ткнулася ў міску ды так няўдала, што свежае, відаць, яшчэ нядаўна надоенае, малако залілося ў ноздры, ад чаго прыйшлося некалькі разоў фыркнуць і апырскаць чалавека ды падлогу.

— Ды ты не ўмееш яшчэ піць з місы... Ты яшчэ, брат, зусім нягеглы,— усё так жа лагодна сказаў ляснік, устаў і зноў падаўся да шафкі.

Узяў там бутэльку і, нагінаючы, ільючы на стол, пачаў пераліваць у яе з міскі малако.

Ласяня, шкадуючы, што так хутка прапаў ласунак, аблізала языком вусны, бараду, адчуўшы, што і гэтае малако смачнае, з радасцю праглынула ўсё, што трапіла ў рот, яшчэ больш распаляючы голад.

Ляснік хутка вярнуўся, несучы ў руках бутэльку з чырвонаю соскаю, даў яе, халодную, мяккую, і ласяня, скрывіўшыся ад непрыемнага гумовага паху, пацягнула і адчула, што малако палілося ў рот тонкім струменьчыкам. Ад радасці яно ледзь не захлынулася, памкнулася ўсхапіцца, але яго працяў боль у назе, і прыйшлося аціхнуць, перачакаць, калі стане лягчэй, тады ўжо смактаць далей, выцягваючы шыю і стараючыся не выпусціць слізкай соскі.

І ўжо смокчучы, яно бачыла, як з другой, адгароджанай, палавіны хаты, адчыніўшы дзверы, зайшло двое заспаных босых дзяцей — худаваты, але высокі хлопчык гадоў сямі і поўненькая, у доўгай белай кашульцы дзяўчынка гадоў пяці. Спачатку, тручы ручкамі вочы, яны з дзівам пазіралі на бацьку і на яго, а пасля ажывіліся, пайшлі сюды хутка-хутка — і ў іх адразу прапаў сон, шырока адплюшчыліся вочы і паадкрываліся роцікі.

— Гэта другое цялятка?— запытала мякенькім, далікатным галасам дзяўчынка.— Дзе ты яго ўзяў?

Бацька нічога не адказваў, пасміхаўся.

— Гэта не цялятка,— сказаў хлопчык, пакручваючы на голым вострым плячуку шлейку ад майкі.— Гэта маленькі лось. Так, татусь?

— Так, дзеці,— сказаў ляснік.— І цяпер ён будзе жыць у нас, пакуль не вылечым яго.

— Лёсь, лёсь! — прысеўшы ля ласяняці і гладзячы яго маленькаю ручкаю па спіне, гаварыла дзяўчынка, а пасля зайшла з другога боку і пацягнулася да бутэлькі...— Дай я, татусь...— І як той згадзіўся, узяла бутэльку і трымала яе абедзвюма ручкамі.

Ласяня, з цікавасцю пазіраючы на маленькіх дзяцей, высмактала ўсё малако, нават доўга патрымала пустую соску, ад чаго тая засвіс-

тала, а пасля зліплася. Як забралі яе з рота, яно пацмокала языком, адчула, што зусім змарылася, што самі пачалі ліпнуцца вочы.

...Ноччу — пасля таго як яго рану прыклалі падбелам, зноў напаілі малаком і яно спала — прытрызнілася, што паблізу блукае маці, ціхенька падклікае яго — самотна мычыць.

Яно прахапілася, прыслухалася — мыканне прапала. Толькі, здаецца, дзьмухнуў, адбіўся ад сцяны вецер. Як яно суцішылася, пачынала засынаць — зноў пачулася жалобнае мыканне.

Ласяня напялася, абапёрлася на пярэднія калені, каб стаць на заднія ногі, а пасля падняць ужо адну і другую пярэднія, але задняя нага не ўпёрлася, як у лесе аб зямлю, а паехала, зарыпела капытом па падлозе. На нагу аб'ехала з плячэй старая фуфайка, і яно заблыталася ў ёй і ў падасланай, але ўжо збітай набок дзяружцы.

— Ужо хвост падняло, га? — пачуўшы яго грукат, азваўся гаспадар, які ў майцы і трусах прыйшоў сюды са спальпі і ўключыў святло, асляпіўшы зусім ласяня.— Ужо і сіла ест? Га? Гэта добра, але каб не нарабіла ты нам бяды, я адгараджу цябе,— і ён, прыпаднімаючы, прывалок перад сабою і паставіў наўскасяк высакаваты столік.— А заўтра, маё даражэнькае, я цябе ў дрывотню затарабаню. Там табе будзе воля...— пастаяў крыху, успёршыся грудзінай на столік, пагладзіў па спіне і, выключыўшы святло, пашлэпаў назад у спальню.

3

Прайшло пекалькі тыдняў.

Ласяня падрасло, падужала, пачула, што ў яго залячылася рана — спачатку зацягнулася цвёрдаю, тоўстаю, бураю ад крыві нарасцю, а пасля гэтая нарасць пачала сушэць, свярбець і адлушчвацца ды абвісаць.

У падпаветцы — на ахапку сена — яно спала ноччу, а днём гуляла па двары, пазнаёмілася з усімі яго насельнікамі. Палюбіла шчыра гаспадара, добрага і спагадлівага чалавека, мірна ўжылася з крышку страгаватаю і буркліваю гаспадыняю, падружылася з таварысцкім сабакам, са свавольнікам цялём, амаль равеснікам, з якім гойсала па двары; з катом, з курамі — драбнатой — яму было нецікава, і яно без ніякай злосці, толькі дзеля жарту не адганяла тых, а наўмысна бегала за імі, нясмелымі, пудкімі, бачачы, як яны баязліва ўцякаюць, і гаспадар, заўважыўшы гэта, у першы раз накрычаў, кажучы, што ката чорт не возьме, а вось курэй не трэба гэтак палохаць: яны і пер'е губляюць, і «адбіваюцца», не нясуцца. З вялікай — амаль з ласіху — каровай адразу ж, у першую хвіліну сустрэчы, ніякага сяброўства не выйшла: яно памкнулася да яе, да вымя, пачуўшы пах малака, але

тая балюча трэснула задняю нагою, і яно, плачучы ад болю, больш не падышло да яе, як і тая ганарліва не звяртала ніякай увагі.

Найбольш ласяня пасябравала з гаспадаровымі дзецьмі — з хлопчыкам і дзяўчынкаю. Яно не ведала, каго больш з іх любіла. Відаць, абаіх пароўну. З імі яно і дурэла, бегала па двары, брала з іхніх рук смачны хлеб, салодкія цукеркі і пернікі, ад іх яно атрымала смешную, нават дураслівую мянушку — Губаты.

Прыдумаў гэта хлопчык. Усё дзівіўся, што ў яго, ласяняці, такая гарбатая морда, абвіслая верхняя губа, а пасля і выдумаў: «Губаты!» Падклікалі яго адным з цялём клічам: «Цяля-цяля!» — а мянушку вось далі такую.

Спачатку называлі так дзеці, а пасля пачалі гэтак падклікаць і сталыя.

У адзін з апошніх летніх дзён, у яшчэ раннюю, сівую ад туману раніцу, да якой яго рана стала цвёрдай, зарубцавалася, ужо не трэскалася і не балела, толькі крышачку саднела, хоць так і не зарасла шэрсцю, чамусьці зрання прынёс яму вядро з пойлам не босы, яшчэ заспаны хлопчык, а сам гаспадар. Ён быў ужо ў аброшаных кірзавых ботах, старым пінжаку, на плечы якога начаплялася шмат лясной павуціны, і ўвесь ён пахнуў вільготнымі грыбамі.

Прынёс па паўвядра пойла яму і цяляці, якое сёння чамусьці ўсё яшчэ не выводзілі ў поле і з якім яны дасюль елі з цабэрка свежую траву.

Хлопчык заўсёды стаўляў перад ім вядро, апускаў у яго руку, і Губаты, ловячы пальцы, хлябтаў смачнае цёплае пойла, а пасля ўжо языком вылізваў наліплае да дна салодкае цеста. Цяпер Губаты тыцнуўся ў вядро, шукаючы мяккіх пальчыкаў, abліў да вачэй морду і, нічога не абмацаўшы, не мог піць, толькі выплёхваў усё долу.

Ляснік моўчкі пазіраў, але пальцаў сваіх не даваў і за такую марнату не крычаў. Стаяў і курыў зацяжкамі, моршчыўся. Быў ён сёння нейкі задумлівы, надта сур'ёзны.

Як цяля выпіла і вылізала сваю долю, ласяня абы-як гэтаксама апаражніла вядро, ляснік узяў з плота зматаны ланцуг, адзеў ашыйнік на цялячую шыю, адчыніў брамку і павёў яго з двара. У тыя разы, калі выводзіў цяля на пашу, зачыняў брамку перад самым носам Губатага, якому гэтаксама хацелася пайсці разам, не заставацца аднаму, а сёння чамусьці не паспяшаўся гэтага зрабіць, і Губаты — спачатку нясмела, як не верачы, што яму гэта можна, а пасля смялей — памкнуўся следам.

Яны падаліся па выцэментаванай сцежцы ля хаты; ідучы, Губаты ўбачыў, што ў запацелае ад цяпла акно пазірае гаспадыня, глядзіць

самотна і нават, здаецца, нечага плача — выцірае рагом белай хусцінкі вочы.

За яшчэ адною — лаўчэйшаю намнога — брамкаю амаль адразу пачаўся бела-шэры брук, на якім Губаты ледзь не спатыкнуўся, не могучы ісці па каменнях. За брукам ляжаў неабгароджаны вялізны — ад вуліцы да лесу — выган, амаль увесь ужо выгаралы ад сонца, рыжы, але мясцінамі, у лагчынках, яшчэ зеленаваты. Гаспадар прывёў іх да зелянейшай лапіны, па дарозе вырваўшы з зямлі калок, да якога, відаць, раней прывязвалі цяля.

Як гаспадар прыпыніўся, нагнуўся, пачаў забіваць каменем у дол сплясканы зверху калок, пятлёю надзеўшы яго на ланцуг, стала і ласяня, здзіўленае такім вялікім прасторам, над якім, здаецца, намнога пабольшала і блакітнае, з лёгкай парнасцю неба.

— Ну што, Губаты? — кінуўшы вобзем камень, ляснік падняўся, атрэпаў аб штаніны рукі, а пасля пагладзіў яго па спіне.— Стаў ты ўжо дужы, здаровенькі, то ідзі ў свой дом, так сказаць, і жыві, дзе ўсе твае сваякі жывуць... Бо цяперака, покуль ты яшчэ малое, табе добра ў нас, а скора будзе нядобра... Ідзі, покуль дзеці спяць...— сказаў так і падштурхнуў у зад.— Ідзі, звярок мілы, да свайго, а пра нас забудзь... Так будзе табе ж лепей...

Губаты адышоўся, пхнуў мызаю цяля — і яны, як штодня ў двары, іматнулі адсюль. Але хутка цяля, ірвануўшыся, стала: яго, напяўшыся, затрымаў ланцуг. Ляснік, які шлэпаў у ботах за імі, замахаў вялікімі рукамі — і Губаты, зусім не спалохаўшыся, а дурасліва і як дражнячыся, падскочыў, брыкнуў заднімі нагамі і гайцануў далей, імгненна п'янеючы ад вялікай прасторы, бегу, душой адчуваючы, як яму ўсяго гэтага дасюль не хапала.

За выганам пачаўся адразу малады лес, які знаёма запахнуў зеленню, смалой, расою,— і ў душы Губатага нешта як варухнулася, захацелася бегчы, і ён, ужо нічога не помнячы, не азіраючыся, мінуў маладняк і памчаў у глыб лесу. Стары сасоннік яшчэ болей завабіў нечым невядомым, родным, мілым, што ён адчуў такое вялікае шчасце, якое, здаецца, не толькі поўніла грудзі, але і ахмяліла зусім. Ён прабег яшчэ, тыцнуўся ў высокую траву і нечакана, зморшчыўшыся, спыніўся: гэта былі калючыя ажыны.

Губаты хутка выблытаўся назад, адчуваючы, як гараць агнём падрапаныя ногі, прайшоў крыху, асцярожна дакрануўся мордай да высакаватага густога ядлоўцавага куста — і зноў хуценька адскочыўся, адчуваючы, што запякла наколатая далікатная мыза. Ап'яненне воляй прайшло, і ён адчуў, што шмат чаго тут не ведае, а вось леснікоў двор

знае ўжо да драбніц, адчуў, што і лес сустрэў яго непрыхільна. Падаўся далей паволі, баючыся, каб зноў не наткнуцца на што калючае.

І тут ён пачуў, што яго жаласна кліча хлопчык: «Губаты, дзе ты, Губаты?» — а гэтаксама тоненька, як камар, плача дзяўчынка: ён зразумеў, што далека адбегся, пакінуў адных сваіх сяброў. Падумаў так і затрусіў назад.

Выскачыўшы з лесу, згледзеў, што ляснік трымае на руках і спрабуе несці дамоў дзяўчынку, якая вырываецца і румзае.

— Губаты, Губаты! — радасна закрычаў хлопчык — босы, у кароткіх трусіках ды майцы,— а пасля хутка-хутка пабег насустрач.

Убачыўшы гэта, ляснік апусціў на зямлю дзяўчынку ў кароценькай кашульцы, босую, і яна гэтаксама падалася сюды за хлопчыкам, крышку смешна віхляючы крываватымі ножкамі. Бегла і нешта радаснае крычала.

Яны сутыкнуліся з хлопчыкам і пакаціліся долу (Губаты падаў першы, каб не пакалечыць малога); хлопчык хутка ўсхапіўся, абняў за шыю, прытуліўся, шэпчучы: «Губаты мой! Губаценькі!» Падбегла, гопнулася на яго і дзяўчынка, гэтаксама абхапіла шыю мякенькімі маленькімі ручкамі, а пасля і прытулілася поўненькаю шчочкаю — і Губаты не вытрываў, заплакаў, што ў яго такія верныя, мілыя маленькія сябры...

— Ты маніў нам...— папракнуў хлопчык бацьку, калі той паволі падышоў сюды.— Губаты не ўцёк сам, а ты яго выпусціў. Як выпусціў бусла, зайчыкаў, дзікіх парасят... Але Губатага мы не адпусцім, ён будзе жыць у нас... Я яго буду карміць...

— І я буду кальміць...— паўтарыла за ім дзяўчынка, гэтаксама з папрокам пазіраючы на маўклівага, як вінаватага бацьку сваімі вялікімі вачамі, поўнымі слёз.— Ты нядоблі, татусь...

— Добра вы робіце, дзеці, і нядобра...— зморшчыўся, нарэшце азваўся ён.— Хараша і люба, што гледзіцё так Губатага, але блага, што трымаеце. Ён звер і павінен жыць у лесе. Там яго дом... Пасцель, яда, воля... Цяжка бывае дзікаму зверу, калі яго залішне прыручаць людзі... Гора бывае, бяда... Я ж ведаю...

Губаты, нічога не баючыся, падхапіўся, гарцануў і пабег да яшчэ аднаго сябрука — да цяляці. За ім, не слухаючы, а можа, зусім не разумеючы сталых, сур'ёзных бацькавых слоў, памчаліся і шчаслівыя дзеці.

4

Губаты — так ужо выйшла — застаўся ў лесніковай гаспадарцы. Летам і ранняй восенню ненавязаны пасвіўся з цялём на выгане, бе-

гаў у лес паласавацца лісцем і карою, прывык да вёскі, да машын, людзей, аббегаў усе ваколіцы, і да яго прывыклі, надта дзеці. Начаваў у падпаветцы.

На зіму яго паставілі ў невялікую загарадку ў хляве, да якога ён доўга не мог прывыкнуць: нейк муляла суседства з каровай і свіннямі. Тыя не хацелі падружыцца з ім — надта ж палахліва свінні рохкалі і пудзіліся яго,— цяжка было пераносіць пах гною і цеснату ў маленькай загарадцы, усё ж у душы яму хацелася волі, прастору, бегатні, чаго яму даводзілася мець вельмі рэдка і не памногу, толькі тады, калі выганялі паіць яго з каровай і цялём да абмёрзлай лёдам студні.

За зіму ён зусім змяніўся — выцягнуўся, пастрайнеў і памацнеў у нагах, ударам капытоў мог ужо адбіваць жэрдкі, падаўжэў у спіне ды пацяжэў, аброс густой, доўгай, амаль чорнай поўсцю, адчуў неспакойны сверб у галаве вышэй ілба — там, няйначай, раслі, касцянелі рогі.

Вясною, калі спала талая вада, патужэла вільготная халодная зямля і пачала ядрана пахнуць яшчэ нябачная маладая лістота, Губаты засумаваў, не мог больш стаяць у паменшанай ад гною загарадцы, многа есці, спаць ці паціху хадзіць па двары, як хадзілі цяжкая, сытая, палінялая карова і падрослы, пазласнелы і не такі ўжо сябрук бычок-выхваляка, а яго зноў, але мацней, як восенню, завабілі воля, прастор, лес і яшчэ нейкія незразумелыя жаданні, завабілі больш, калі адчуў, што і ён, падрослы, не так ужо цягнуўся дурэць з дзецьмі і тыя за зіму неяк да яго пахаладнелі, пачалі баяцца яго штуршкоў, ад якіх яны адляталі, як снапы.

І ён, калі апынаўся на двары, нервова хадзіў на ім, цёрся ля высокага плота, пакідаючы на стрэмках пабурэлую ўжо поўсць, а аднойчы пад'юшчыла гэтая самота, жаданне волі — і ён разагнаўся, стукнуўшыся галёнкай, перагойснуў загарод і радасна пабег па знаёмым выгане ў лес.

...Ляснік, як сонца паднялося над хатай, разліло маладое цяпло на сінім небе, уехаў у двор з калясьмі, увайшоў сюды, у хлеў, пагладзіў Губатага, якому надакучыла стаяць аднаму ў загарадцы, па шыі, а пасля амаль пячутна завязаў на яе пастронак і за яго, адч'ыніўшы перакошаныя варотцы, вывеў з пустога хлява на двор, прывязаў да калёс. Ён тыцнуўся да воза, панюхаў сена, галінкі з альховым і лазовым лісцем, шчыпнуў, але з неспакоем адчуў, што гаспадар сёння задумаў зрабіць з ім нешта дасюль яшчэ не вядомае.

Да воза падышлі гаспадыня, дзеці, моўчкі пазіралі на іх.

Гаспадар гэтаксама моўчкі сеў на воз, пацягнуў за лейцы — і маленькі рудаваты конік з белаватымі нагамі крануўся. Пастронак нацягнуўся — і павалок за сабою. Губаты, непакоячыся, але не адчу-

ваючы яшчэ ніякага страху, нехаця падаўся, здзіўляючыся, куды яго вядуць: спяшаўся за возам і не мог азірнуцца, убачыць, што гаспадыня з дзецьмі выйшлі на вуліцу і развітальна махаюць рукамі...

У лесе ляснік прыпыніўся, неяк крадучыся, падышоў, прылашчыў, даючы ўзяты з кішэні выкачаны ў махорку акраец хлеба, і нечакана накінуў яму на галаву мех. Ён спачатку спалохаўся неспадзяванай цемнаты, чакаючы раптоўнага ўдару па галаве, затрапятаўся, ірвануўся, але пастронак пераціснуў горла, і ён ледзь не задыхнуўся.

— Не бойся, Губаты,— заспакоіў яго ляснік.— Ніц благога я табе не зраблю...— зноў паехаў, прымусіўшы яго бегчы ўслед.

Ехалі яны так доўга. І па мяккай, і па тупкай, з карэннямі дарозе, у адным месцы перамінулі мост — Губаты там вельмі насцярожыўся, ішоў баязліва — пасля яшчэ многа, можа, гадзіны са тры, падаваліся то ўлева, то ўправа, затым паехалі лесам, па сухім імху і верасе, што Губаты некалькі разоў спатыкаўся аб пні і ў вырытых, мусіць, дзікамі ямінках.

Нарэшце ляснік прыпыніўся, падышоў да яго, зняў мех, ад якога ўвапрэлі галава і карак, адвязаў пастронак. Губаты паварочаў мызай, зафыркаў і адышоўся. Ляснік у гэты час махнуў вяроўчынай: уцякай, маўляў, вось твой дом, у якім ты цяпер павінен жыць!

Губаты не спалохаўся гэтага ўзмаху, ведаючы, што гаспадар ніколі яго не біў, але яшчэ далей адышоўся, аддуваючы нядобрую перамену да сябе, стаў і пачаў глядзець, што ж будзе далей, убачыў, што чалавек зноў садзіцца на воз і ад'язджае. Ён памкнуўся следам, не хочучы заставацца тут, у незнаемым лесе, адзін, але мужчына спыніўся, нагнуўся, падняў тоўстую, з аблезлай карой галіну і запусціў у яго.

— Пайшоў! — закрычаў ён, а пасля — ужо ціха — сказаў сабе: — Пайшоў, родны... Цяпер не прападзеш. Гэта летась, як быў малы і я шкадаваў разам з дзецьмі, баяўся, што не ўцалееш... Каб ты не прыбег, я наўмысля выпусціў не за нашымі Янковічамі, а прывёз сюды, у Налібацкую пушчу... Жыві тут сабе на здароўе... У нас табе не жыцце... І нам клапатэ з табою...

Губаты, пакрыўдзіўшыся, больш не памкнуўся наўздагон, адстаў, адвярнуўся і паціху пакрочыў па чужым, ціхім, зусім далёкім ад вёсак лесе, чуючы, як аддаляецца ляскат колаў. Але ён наўмысна, не ўслухоўваючыся, ішоў, куды вялі ногі.

...Ужо к вечару ён, не раз пад'еўшы і напіўшыся ў невялікай лужынцы зеленаватай нясмачнай вады, спалохаўшы зайца, сямейку цецерукоў, набіўся на лася.

Той, высокі, буры, рагаты, стаяў уперадзе і, падняўшы галаву, чакаў яго, а пасля злосна зафыркаў, грабянуў стройнаю дужаю нагою

зямлю. Губаты і спалохаўся, і радасна памкнуўся да свайго ляснога аднакрэвіча, але той, моцна раздзімаючы ноздры, грозна насупіўся, апусціў рагатую галаву, а пасля, бачачы, што аднаго яго пагрознага выгляду мала, подбегам падаўся насустрач. Губаты ледзь паспеў адскочыцца, ухіліцца ад вострых цвёрдых рогаў, зразумеўшы, што ён тут чужы, лішні, замінае, бо — хоць у лесе ўсяго шмат і ўсім любога хопіць — гэтаксама хоча мець тут нязводны харч, быць гаспадаром удалай мясціны... Таму вось так не хочуць, каб яшчэ быў і ён, ці, можа, і не супраць, каб быў, але каб блукаў недзе падалёку, у горшых мясцінах...

Губаты мусіў уцячы з багатага на лісце і траву глухога кутка, вярнуцца ў стары, а ля яго і малады сасновы лес, куды яго прывёў ляснік, думаючы, што трэба ўсё яшчэ шукаць і сабе лепшага прытулку. Нервова патаптаўся, здзіўляючыся і абураючыся, што яго тут так непрыхільна сустрэлі, а пасля зашыўся ў густую папараць і лёг, спрабуючы заснуць. Але не мог. Спачатку здавалася, што вельмі мулка ляжаць, ён шмат круціўся, поўзаў, выбіраючы мякчэйшае месца, пасля стала холадна, стыла ад зямлі, што ў яго збеглася, пакрылася буйнымі зярняткамі скура. А з густою, як ад накрытага на лес вялізнага гаршка, цемнатою прыйшоў страх — сполах ад адзіноты, ад савінага прарэзлівага крыку,— і ён засумаваў па цёплым хляве, па маленькай загарадцы, якіх яшчэ ўчора патаемна недалюбліваў, а цяпер так помніў, шкадаваў, хацеў зноў трапіць туды.

Яму не цярпелася ўскочыць і пабегчы туды, да людзей, і калі гэтая думка, ад якой аж зашумела ў галаве і нечым гарачым аблілося сэрца, ледзь не падняла на ногі, нечакана прыйшла другая, цвярозая, халодная, ад якой адліла кроў ад галавы і сэрца: падумалася, што можна не знайсці туды дарогі і — самае важнае — там ён зусім непатрэбны...

## 5

Прывыкаючы да лесу, кожнага мігу шукаючы ў ім сабе сябра, але ўсё яшчэ пастаянна ратуючыся бегам ад таго бурага і другіх вялікіх аднакрэвічаў, толькі маладой смеласцю ўрываючы ў іхніх кутках крыху лісця і травы, Губаты пачаў жыць у пушчы.

Ён пачаў накрысе дзічэць. Можа, і зусім здзічэў бы, вырас у дужага вялікага лася, заваяваў бы пакрысе сабе добрае для харчу, сну, гулянак, сям'і месца, меў бы сярод ласёў славу, калі б не людзі.

Губаты не мог яшчэ зусім ад іх адвыкнуць. Аднойчы, як пачуў неспадзявана дадёкія людскія галасы, ён, усхваляваны, радасны, нават адурнелы ад шчасця, пабег да іх на злом галавы праз стары лес. Знайшоў, убачыўшы некалькі жанчын у гумовых ботах, з клункамі і

граблямі. Чакаючы смачнага хлеба і аж пускаючы слінкі, кінуўся да іх, падбрыкваючы ад радасці нагамі, але яны, пачуўшы яго тупат, азірнуліся, нарабілі дзікага піску і сыпанулі хто куды. І як ён ні стараўся дагнаць якую кабету, прылашчыцца, усе ад яго ўцякалі, нема крычалі, азіраючыся (твары іх аж пасінелі ад страху), а пасля, асмеліўшыся, сабраліся разам, схаваліся за тоўстую хвою, злосна махалі на яго граблямі, кідалі галлё, зямлю...

...Гэтых двух маладжавых мужчын — высокага, чарнявага, гарбаносага на шырокім загарэлым твары і маларослага, рыжаватага, дробненькага па твары, у гумовых высотах ботах і фуфайках,— якія ішлі не па блізкай, тупкай пасля дажджу дарозе, а ціха, зладзеявата азіраючыся, падаліся лесам, Губаты ўбачыў першы.

Ён стаяў у яшчэ макраватым, парным алешніку і скуб лісце. Як лавіў ротам галінку і цягнуў да сябе, заплюшчваўся: дрэва траслося і абкідвала густымі кроплямі, ад якіх у яго была ўжо вільготная спіна. Убачыўшы мужчын, якія неслі ў апушчаных руках стрэльбы, паскі ад якіх амаль цягнуліся па зямлі, чапляліся за кусцікі, ён ужо не думаў выбягаць насустрач, але і не збіраўся ўцякаць. Паразважаў: няхай ідуць сабе на здароўе, куды ім трэба.

— Гавораць, што недзе во тут, у гэтым алехавым гайку, ходзіць той падлетак, ідзе да людзей...

— Страшнавата неяк, халера...— дрыготкім голасам прамовіў маларослы.— Закон жа ест строгі!..

— Бо ідзеш так у першы раз...— хіхікнуў высокі, змахваючы вольнаю рукою з твару мокрае павуцінне і паднімаючы вышэй стрэльбу.— Але паўплятаеш на поўную губу раз-другі дармавога смачнага мяса — і варанага, і паранага, і катлетак, і шметак,— то асмелішся, яшчэ панясешся ў лес... Стой! — Ён раптам стаў, як укамянеў, схапіў за плячо спадарожніка.— Дальбуг, вунь ён стаіць...

— Дзе? — пытаўся той, плюшчыў маленькія вочкі.

— Па кубельцу, брат, будзя...— прашаптаў высокі, ціха здымаючы з плечука сумку і апускаючы яе долу, падымаючы стрэльбу.— Так што не лгалі людзі, бачылі-такі...

Губаты ўсё стаяў і пазіраў, здзіўляючыся, што самі нарэшце ідуць да яго людзі, углядаюцца; ён пачуў пагрозлівы порахавы пах са ствалоў, але не збаяўся, помніў, што яшчэ чуйней пахла і леснікова стрэльба, якая ніколі не зрабіла яму нічога благога.

— Э-э, стралок!— грэбліва прашаптаў высокі мужчына меншаму.— Ды ў цябе рукі калоцяцца і губы дрыжаць, як у зайца... То я пальну... Калі не ўкладу, то ты тады бі...— і паволі, стараючыся не шумець, не рабіць лішніх рухаў, сціснуў поўныя вусны, што яны

пасінелі, прыціснуў прыклад да плечука, прыплюшчыў левае вока, паварочваючыся сам і ведучы ў яго бок ствалом.

Губаты дажаваў лісце, губляючы долу зялёную сліну, хацеў падацца адгэтуль і толькі сабраўся адводзіць галаву, як на міг пачуў, што нешта моцна ляснула, а пасля асляпіла, зваліла з ног, і больш ужо ён нічога пе мог уцяміць: яго ахутала глухая цемната...

1976

## ЗОЛКАЯ РАСА

1

...Калі ўгарэліся тоўстыя сухастоістыя, пакладзеныя адзін на адзін вываратні, звуголілася і спапялілася дробнае галлё, Здзіслаў паблізу сябе надзяўбаў рыдлёвачкай зямлі і ўскінуў яе на жар. Той адразу прытух, прычарнеў, а сыры пясок, грэючыся ды высыхаючы, пачаў шарэць, сыпацца праз вуглі на дол.

Гэтае невялікае, але яркае вогнішча палала на тупкім грудкупаляне ў густым, ад таго і зацішным стараватым хвоініку. Палымяныя языкі, іскры імкнуліся ўвысь, дзе адразу за цёплым і мільгатлівым паветрам усё ніжэй ды чарней згушчалася кастрычніцкая цемень, ухалоднівалася сыраватае неба. Калі вада, што выпарвалася з сыраватага камля, лілася на нямоцны яшчэ агонь, тушыла яго, дык цемра абрыньвалася ледзь не да зямлі, а калі агонь большаў, цёмная навісь адступала — і асветленая паляна мігам прастарнела.

Вакол вогнішча — на кучках назанашанага наноч сушняку — сядзелі Здзіслаў, яго жонка Валя, і паблізу яе стаяў ён, Мішук.

Муж і жонка Акаловічы паспускалі галовы, пазіралі моўчкі на шапатлівы агонь і, здаецца, ні пра што не думалі, хіба толькі з нейкім дзівам глядзелі на свае макраватыя штаны ды чаравікі. З іх цяпер — ад угрэву — цяплілася пара; Мішук зажмурваўся ад гарачыні, дыму, што выядаў вочы, нагінаў галаву над агнём і стараўся ўбачыць, ці не выкіпела вада ў падвешаным на сырой жардзіне кацялку — у імварыліся грыбы. І агонь, і пара, і дым пяклі ў шчокі ды ў лоб, але ён усё ж пабоўтаў лыжкай у кацялку і адчуў, што там яшчэ рэдка, яшчэ не будуць падгараць дробна пакрышаныя сыраежкі.

— Ну, вось і пара, браткі мае, бульбу пячы! — нарэшце нарушыў маўчанне, усміхнуўся Здзіслаў, падняўся і — нейкі вельмі ж тоўсты ў свае дваццаць дзевяць гадоў, у чаравіках, у джынсах, у самаробным світэры — падаўся да свайго жаўтаватага «Запарожца», што стаяў непадалёку, ля самай туга нацягнутай палаткі, — на ёй цяпер жоўта

адбіваўся бляск вогнішча, асвятляў, з неікаю прагаю выхопліваў з цемені.

Здзіслаў нагнуўся, лэпнуў раз-другі далонню па задніх — даволі ўжо з'езджаных — колах і, мусіць, адчуўшы, што яны нагрэліся, упёрся грудзінай і адапхнуў машыну далей. Пасля ўзяў з яе рэчмяшок і вярнуўся да агню.

— Гэта ж, браткі мае, адны прысмакі — печаная ў прыску бульба! — сказаў, прысеў ля яго, Мімука, развязваў некалі зялёны, а цяпер ужо шараваты ад старасці рэчмяшок і дастаў цэлафанавы мяшочак, завязаны капронавай белай ніткай. У ім было з паўвядзерца бульбы. — Зараз, браткі мае, пачастую вас, векавечных гараджан, лепшаю беларускаю стравою... Ласункам пастухоў і начлежнікаў — вялікіх рамантыкаў... Як і мы во сёння...

І Мішук, і Валя прамаўчалі. Толькі ён зірнуў на яе і ўбачыў, як яна сціснула вусны, усміхнулася, пацешылася з мужавага «браткі мае» ды яшчэ ад напаміну, што ён, яе гэты муж, некалі, у сваім вясковым маленстве, доўгі час быў падпасавічам — у кожныя летнія канікулы зарабляў так сабе на школьны касцюм ды на кнігі.

Здзіслаў не заўважыў гэтай жончынай усмешкі, распіхаў галінаю пад агнянымі паленамі чырвоныя вуглі, накідаў на іх месца бульбы, падгарнуў наверх прыску, пасля пастукаў галінаю па вываратнях — набіў гарачага вуголля.

— Пакрулюем, браткі мае!..

Здзіслаў жартаваў, хоць ніколі не быў надта вясёлым, кампанейскім, бо любіў пабыць сам-насам, падумаць ды памарыць, але цяпер, мусіць, стараўся развесяліць і яго, Мішука, і жонку: яны не вельмі хацелі ехаць з Мінска сюды, у восеньскую халаднаватую Налібацкую пушчу, ды начаваць у лесе. Валя збіралася сёння, у суботу, схадзіць на канцэрт прыезджага, не вельмі таленавітага, але ўсё ж прыезджага і моднага спевака, шкадавала збываць білет, што купілі ёй знаёмыя, а ён, Мішук, і ленаваўся ехаць, не маючы вялікай ахвоты збіраць грыбы, а пасля памагаць старэнькай матцы іх парадкаваць, і не надта хацеў быць у кампаніі чужой — трошкі дзіўнаватай — сям'і. Здзіслаў амаль сілаю вывалак яго з горада, каб і ён з'ездзіў у лес, — каб памог улагодзіць самалюбную, капрызную Валю: усе лічылі, што ён, Мішук, жартаўнік, умее развесяліць самых хмурных людзей, што ён да ўсяго гэтага яшчэ і вельмі хітры, ведае, што сказаць, а пра што лепш і памаўчаць.

Так, канечне, думаў і Здзіслаў: яны зналіся яшчэ са школы. Ведаў і хацеў, каб ён, Мішук, памог яму. Спадзяваўся і, відаць, нават падумаць не мог, што раптам ён не захоча памагаць і не захоча наўмысна:

бо яны былі ўжо не толькі даўнія сябры, але і мастакі-супернікі. Наравістая Валя не вельмі супакойвалася ды развясельвалася. За дзень і грыбоў добра назбірала, і расчырванелася на раней белаватым твары ад ветру і ад агню, але не магла дараваць мужу. Таму і цяпер сядзела ля кастра маўклівая. Са Здзіславам нават не гаварыла, як і не заўважала, што ён усяк хацеў падлагодзіцца.

Здзіслаў, крышку разгублены, што гаворыць, жартуе, а яны маўчаць, не слухаюць яго, дастаў з рэчмяшка загорнуты ў газету вялікі скрутак. Зняў верхнюю газету, разаслаў і, разгарнуўшы іншыя скрутачкі, паклаў на яе булку хлеба, ладны кавалак любовістага сала, салёныя гуркі, пляшку «Белавежскай».

— Зараз слаўна падзедуем, бо на прыродзе і апетыт лепшы! — ужо ў каторы раз пра адно і тое ж гаварыў ён, зноў пацёр рукі, падняўся і дастаў з кішэні штаноў «удалы» складанчык — ім сёння нарэзаў больш двух вёдзер ураджайных сёлета зялёнак, крапягоў, сыраежак ды апенек.

Як убачыў, што ўсе па-ранейшаму маўчаць, як без'языкія, толькі пасміхаюцца з яго гэтай гутаркі ды радасці, пазіраюць на агонь, адышоўся ўлева, у цемень, і — слепаваты, у акулярах, што, можа, прыпацелі, — пачаў абмацваць рукамі тонкія бярэзінкі ды алешынкі. Як было ледзь відаць, знайшоўшы тонкае, як на дубец, дрэўка, нагнуў яго, чыркнуў ножыкам на перагібе, падабраў і падаўся далей, знікаючы ў цемнаце.

Мішук зірнуў на надзьмутую Валю і ў душы ўсміхнуўся: так яму, Здзіславу-шчаслíўцу, і трэба! Ён даўно ўжо ўпотай, нават баючыся сам пра гэта думаць, не зусім шчыра ды добра зайздросціў Здзіславу.

Сем гадоў таму яны ў адзін год закончылі мастацкі факультэт тэатральна-мастацкага інстытута, сталі жывапісцамі. Яшчэ студэнтамі малявалі, і іхнія карціны траплялі на выстаўкі. Больш траплялі яго, Мішуковы, карціны. Сам гараджанін, ён ахвотна маляваў горад — заводы, працу рабочых на заводзе, новабудоўлі, — і старыя жывапісцы, крытыкі яго хвалілі, што ён сучасны, прысуджалі на конкурсах прэміі. Студэнтам і нават крышку пазней Здзіслаў быў не надта прыкметны: ён, жыўшы да сямі гадоў у вёсцы і навек, мусіць, не забыўшы ды палюбіўшы яе, маляваў рэчкі, лясы, вясковых людзей, і ўсе — студэнты, выкладчыкі, знатныя майстры — гаварылі, што ён несучасны, старамодны, шмат каго пераймае. Але Здзіслаў цярпліва рабіў сваё, прападаў у роднай вёсцы, накідваў тысячы эцюдаў прыроды, партрэтаў, маляваў карціны — і вось цяпер былыя выкладчыкі, крытыкі хваляць яго, гавораць, што ён і сучасны, і глыбокі. І яго веска «пайшла» па краіне, за мяжою, праславілася — Здзіслава пачалі

называць першым сярод маладых жывапісцаў. А да яго, Мішука, як прырасло гэтае другое месца, хоць ён і шмат маляваў, маляваў самыя новыя будоўлі, маладых — стомленых, але вясёлых — рабочых, і ўсё роўна ён быў другі. А сёлета шмат пакутаваў, бо бачыў, што ў жывапіс ідзе шмат таленавітых жывапісцаў і яны хутка, можа, адапхнуць яго. Гэта можна было яшчэ перажыць, выцерпець, узяцца за нешта новае для сябе, але цяжэй, а то і нельга было перамагчы іншае: ён, добра вывучыўшы ўсе Здзіславы карціны, нечакана ўбачыў — у іх ёсць шчырасць, душа, а вось у яго карцінах гэтага няма.

«Вось і рабі што хочаш... — і цяпер падумаў-пагадаў ён. — Здаецца, умею маляваць, але малюю блага. Нікому — а цяпер ужо і мне самому — не падабаюцца мае карціны... А здаецца ж, малюю пра самае-самае сучаснае, пра тое, што ва ўсіх на языку. Але кажуць, што філасофіі, псіхалогіі, душы няма... Можа, з'ездзіць куды і паглядзець што новае? У Сібір ці да маракоў, за мяжу — можа, там знайду і для сябе, і для іншых нешта свежае, глыбокае, калі не магу знайсці яго тут, дома?..»

А са Здзіславам была ў іх яшчэ адна далікатнасць. Валя. Некалі, студэнтамі, яны з Валяю крыху кахаліся. Яна тады гэтаксама вучылася ў тэатральна-мастацкім інстытуце, толькі на акцёрскім факультэце. Пасля, за год да заканчэння інстытута, нечакана выйшла замуж за свайго педагога, вядомага артыста. Але пажыла з ім нядоўга, гады два, разышлася і вось цяпер была са Здзіславам: ён кахаў яе яшчэ са студэнцтва.

Мішук яшчэ не ажаніўся, хоць дзяўчат — добрых, прыгожых — меў шмат. Тыя дзяўчаты павыходзілі замуж, а яму засталіся пажылаватыя равесніцы ці маладзенькія порсткія дзяўчаткі. Праўда, сёлета пазнаёміўся з метадысткай Палаца мастацтваў, студэнткай-завочніцай, пахадзіў крыху, і яна пакрысе даводзіла ўсё да вяселля, з чым ён пачаў ужо маўкліва згаджацца.

Таму сёння і па дарозе, і ўжо тут, у лесе, крышку з пометаю цешыўся: не ва ўсім шанцуе і Здзіславу, зменнае, няўтрымнае часамі гэтае шчасце!

Валя моўчкі пасядзела з хвіліну, пасля чагосьці ўсміхнулася, паднялася і — высакаватая, вельмі стройная ў чорным світэры, увабраным у новыя блакітныя джынсы, прыгожая — роўненька, высока ўздымаючы галаву і крышку какетліва віхляючы клубамі, падалася да машыны. Вярнулася адтуль хутка, з транзістарам, з джазавай музыкай. Як падышла, неяк хітра перахапіла яго позірк, насцярожылася, але ўсміхнулася. Такая — нейкая надта дзіўная — яна была заўсёды: за адну хвіліну магла і засмяяцца, ды не абы-як, а проста заліцца

смехам, магла жартаваць, кпіць, і тут жа — ні з таго ні з сяго, здаецца, — магла ўзлавацца, надзьмуцца ці заплакаць. Мішук часта быў у Здзіслава, дык бачыў гэта.

«Хоць, можа, — падумаў ён, — усе такія гэтыя артысты, гэты вельмі настраёвы народ, але ўсё ж, можа, і добра, што некалі мы з Валяю не пажаніліся. Змучыла б яна мяне, ды і я так не цярпеў бы, не патураў бы, як церпіць цяпер ды патурае Здзіслаў. Ці спрачаліся б век, ці... Не, няхай лепш яна будзе некаму жонка!..»

— І ў горадзе, і ў лесе сумна без кампаніі, — зноў усміхнулася Валя, перанесла ношку галля, на якім дагэтуль сядзела, бліжэй да яго і села. Зірнула гарэзна — і ён засаромеўся яе. — Табе не надакучыла наша маўчанка, Вовік?

— Вы сямейныя людзі, а я староннi чалавек, не маю права ўмешвацца... — пажартаваў Мішук. — Таму і я маўчу.

— Помсціш? — усміхнулася Валя. Яна і раней мела вельмі дапытлівы розум, магла быць і хітрай, пастарацца так гаварыць, пасміхацца, каб цяжка было некаму зразумець, што яна думае, але магла быць і адкрытай.

— Чаго мне помсціць? — пацiснуў ён плячыма. — Яшчэ раз шчыра прызнаюся: не хачу ўмешвацца ў ваша жыццё...

— Ну ладна, Вова, не будземо! — пажартавала яна. — І без лішняй гамонкі мы ўсё ведаем адно пра аднаго... — Валя дастала з задняй кішэні штаноў цыгарэты, патрэсла пачак, і калі з надорванага краёчка паказалася цыгарэціна, падала яму, узяла сама, ткнула яе ў агняную галавешку, закурыла і пусціла вялікі клуб дыму. — Як ведаеш, што мне вельмі цяжка са Здзіславам... Як, можа, і яму са мною... Адно нас ратуе, што мы мала бачымся: ён процьму часу сядзіць у вёсцы, а я шмат бываю на гастролях, жывём кожны сваім...

— Вы абое таленты, людзі мастацтва, абое павінны шмат чым ахвяраваць дзеля яго...

— Талент усё ж ён. Ды магутны талент, — сказала сур'ёзна Валя. — Я не бяздарная, але і не вельмі таленавітая. Але ўцягнулася, не магу без тэатра. І маю такія-сякія поспехі. А са Здзіславам нам цяжка стала, ён сам і далей хоча займацца сваім, а мяне стараецца прывязаць да дому. Проста трызніць, каб я радзіла яму сына... А я не асмельваюся: пайду з тэатра, перастану выходзіць на сцэну, страчу любоў да яе, страчу ўменне... Тады буду любіць дзіця, увесь час думаць пра яго, а цяпер я думаю толькі пра тэатр...

—Якраз яшчэ больш нешта ўведаеш, пабагацееш... — перапыніў яе Мішук. — Побыт больш асэнсуеш...

— Баюся я, Вова, гэтага побыту... — прызналася Валя. — Я ніколі не была і не буду гаспадыняй, добрай жонкай. Я люблю вольнае жыццё... Яму гэта не падабаецца, але ён любіць мяне і ўсё дазваляе... Усё даруе... Бо ён з тых магутных мужчын-пакутнікаў, што здольны дараваць. Ты вось не дараваў бы, не выцерпеў бы ўсіх маіх капрызаў і прыхамацей, а ён церпіць. Таму табе трэба вучыцца ў яго цярплівасці, гэта табе шмат і для творчасці дасць, навучыць нешта глыбей сказаць і ў тваіх трактарных одах... Не фатаграфіі рабіць, а тварыць мастацтва...

«Усе знаўцамі ды крытыкамі сталі, — злосна падумаў Мішук, зноў з самалюбствам думаючы пра свае няўдалыя карціны.

Болей ні Валя, ні ён не паспелі нічога сказаць; з трыма доўгімі дубцамі падышоў Здзіслаў, зірнуў і, як убачыў, што жонка ўжо не маркотная, зарадаваўся, кіўнуў на невялікі з белай рашоткаю транзістар:

— Ну і гэты прагрэс! Нават тут нельга ад яго ўцячы!..

Перанёс да іх сваю ношку галля і прысеў ля іх, радуючыся, што Валя павесялела, зняў акуляры і выцер іх аб світэр. З яго чаравікаў, калашын, што былі блізка ад агню, пачала віцца пара.

Падладзіў агонь, падгарнуў да яго адкочаныя галавешкі — пад імі паспела ўжо нагрэцца ды запарыцца, шэра засушыцца вільготная зямля, — тады выграб з прысаку бульбіну, памацаў пальцамі, зноў падапхнуў да агню.

— Зараз будзе і гатова, — шчасліва прамовіў ён. — А цяпер пячыце сала. Во гэта будзе смак! Куды там да яго вашым улюбёным сардэлкам ды дыетычнай каўбасе!

Адрэзаў ад булкі хлеба ладную лусту, пасля адчыкнуў ражон і падаў Валі. Тая моўчкі ўзяла і хлеб, і сала, апусціла ражон над самым агнём — і сала адразу ж засквірчэла, пачало рудзець ды чарнець, ліцца тлушчам на агонь, пахнуць, мусіць, на ўвесь лес.

—Падымай вышэй, а то спаліш, пакорміш паветра, — сказаў Здзіслаў, і Валя паслухалася, узняла ражон. — Сабе рэж сам, бо я не ведаю цяперашняга твайго апетыту, — кіўнуў Мішуку, устаў, жмурачыся, зірнуў у кацялок, тыцнуў туды раз-другі нажом, насадзіў на яго грыб, пахукаў і паспрабаваў на смак. Пасля абабраў дзве вялікія бульбіны, пакрышыў іх і ўкінуў у кацялок, нарэзаў дробненька сала і апусціў яго на вечка ад кацялка, паставіў на вуглі — заскварыць булён. Толькі тады пачаў ужо смажыць сала на ражончыку і сабе, раз за разам, як і яны ўсе, тыцкаючы скварку ў хлеб.

Як убачыў, што і Мішук, і Валя спяклі сала, Здзіслаў паклаў на газету свой ражончык, падаў яму пляшку, а сам абчарнелаю галінаю разгарнуў прысак, выкаціў з яго бульбіну.

— Спяклася! — усміхнуўся ён, выграб з прысаку некалькі з прыемным парным пахам бульбін, зморшчыўся ад іх гарачыні, пачаў абіраць, сыплючы сабе на калені чорную сажу. Аскроб — і жоўценькую бульбіну падаў Валі.

Тая спакойна, як усё гэта павінна толькі так і быць, узяла, не ўсміхнулася, не падзякавала. Але, здаецца, і тое, што яна ўзяла, было для Здзіслава вялікім шчасцем.

...Пасля, позняю ўжо ноччу, калі выпілі пляшку і шмат чаго ўсмак з'елі, Мішук і Здзіслаў адышліся ад агню ў глыб лесу.

—Дзякую, браток, — ляпаў яго па плячы Здзіслаў. — Сам не ведаеш, як ты памог мне сёння: бачыў, як Валя развесялілася?! Толькі здаецца, што яна не любіць прыроды, а на самай справе любіць. Дык як можна не любіць гэтай цішыні, гэтага смольнага паху?!

Лес напраўду вельмі чуйна пахнуў вільгаццю, смалою, грыбамі, што ад свежасці аж кружылася галава; паблізу іх, на рыжаватай кары старой хвойкі бліскалі чырвоныя сполахі, і яны, то адціскаючы імжыстую цемру, то адступаючы, свяцілі на ўвесь лес.

—Ды ладна, стары, не перабольшвай маіх заслуг, — адказаў Мішук. Ён зусім не захмялеў, але быў вельмі чуйны да ўсяго — здаецца, кожнаю жылкаю адчуваў і прыгажосць вогнішча сярод ночы, вабнасць гэтых далёкіх чырванаватых сполахаў, мігатлівай у святле агню імжы. У яго душы ўвесь час жыў, непакоіўся мастак, той пакуль што не мог зразумець усяго, што бачылі вочы ды адчувала душа, але трывожыўся, непакоіўся: усё гэта просценькае, звычайнае, як само жыцце, але ва усім гэтым ёсць нешта вечнае, глыбокае, прыгожае!

Мішук стаяў, здзіўляўся.

«Вось Здзіслаў маўчыць, пазіраючы на гэтыя дрэвы, агонь, але ўсё запамінае. І гэтая ноч, гэтае відовішча ўсплыве ў яго памяці некалі пазней, можа, і ў дні тугі, тугі па лесе, вогнішчы, печанай бульбе і смажаным на ражончыку сале — і тады ён намалюе вельмі добра. Ён такі — гэты Здзіслаў».

Мішук зноў адчуў прыгнечанасць перад Здзіславам, нібы ён цяпер стаяў не побач з сябрам-аднагодкам, а з «масцітым» мастаком.

—Цяжка ў нас усё з Валяю, — прызнаўся Здзіслаў. — Абое мы — яна сваё, а я сваё — любім мастацтва, паважаем гэтую любоў, але мы зусім нейкія чужыя. Чужыя як людзі. Можа, і таму... Ну, як табе сказаць? Я табе, брат, веру, таму ўсё скажу: каторы ўжо год жывём

разам, а дзіцяці мець не хоча. А я так хачу мець сына. Я хачу быць бацькам, хачу мець гэты клопат...

— Рашайце, стары, гэта ўсё самі, — разумеючы, сказаў Мішук. — Табе вось гэта, а мне, стары, можа, не менш цяжка. У мяне, стары, крызіс. Я стаю на раздарожжы: ці выйду на дарогу, ці буду блытацца і занепаду. Вось пытанне: быць ці не быць?

— Ты, браток, малюеш здорава, тэхніка ў цябе выключная, — прамовіў Здзіслаў, — але ты не ведаеш, што маляваць. Таму шукай нечага, старайся шмат-шмат маляваць. Бываюць жа дзве такія крайнасці: адзін ведае процьму чаго, што гэтага хапіла б на ўсё жыццё дзесяці мастакам, але не ўмее намаляваць, а другі ўмее маляваць, ды не мае гэткага багатага ведання. Вось і ў цябе ёсць такая закавыка... Банальшчыну гавару, але правільна...

— Гэтага я не падыму... — паківаў галавою Мішук, паказваючы на вогнішча. — Тут ужо ты — што рыба ў вадзе... Хоць ты мяне, відаць, недарэмна сюды прывёз...

Здзіслаў усміхнуўся і нічога не адказаў.

2

Назаўтра, калі Мішук прачнуўся і вылез з машыны (спачатку ён лёг спаць у мяшку на свежым паветры, але пасля, ноччу, змёрз і ўцёк у машыну), Здзіслава не было: паехаў да рэчкі.

Не азірнуўся, не бачыў, але чуў, як Валя выйшла з палаткі, з гультаяватай асалодай пацягнулася, а пасля, пазяхаючы і лэпаючы рукою па адкрытым роце, запытала:

— Куды панёсся наш рамантык?

—Па ваду, — не азіраючыся, адказаў Мішук, седзячы на галлі і пазіраючы на агонь. — Будзем зараз мыцца, людзьмі станавіцца.

Валя, як ён добра чуў, крадучыся падышла, нагнулася, прытулілася да яго спіны і абхапіла рукамі, сціснула іх у яго на грудзіне.

—Добрай раніцы табе... — ціха прамовіла, цмокнула яго ў шчаку.

—Добрай раніцы, — буркнуў ён. — Як спала? Сніла сцэну, гледачоў?

—Не, спала як забітая, — адказала яна, цмокнула яго ў вуха, ад чаго ў ім балюча зашчымела, а пасля і залажыла. — І вы, кавалеры, спалі як забітыя. Хоць бы хто з вас пабудзіў...

—Ты пра што гэта? — з жартоўнай строгасцю запытаў Мішук. — Ты, замужняя жанчына?

— Ладна, стары, кінь... — сказала яна, гэтаксама з жартам стукнула яму падагнутымі каленьмі ў спіну. — Хто-хто, а я ведаю

цябе, помню... Думаеш, не бачу, што ты ўсё яшчэ любіш мяне? Бачу. Толькі дарэмна злуешся, помсціш: мы можам лёгка вярнуць тое... Ну, чаго маўчыш? Не верыш? — Яна павярнула да сябе яго галаву — і ён, саромеючыся, міргаючы, мусіў зірнуць ёй у прыгожы і пасля сну твар, зноў убачыў у знаёмых вачах знаёмую гарэзнасць, той настрой, што заўсёды бывае ў яе, калі яна хоча кахаць і быць каханай.

Мішук прыплюшчыў вочы, даўся, каб яна пацалавала яго, але сам вельмі з неахвотаю адказаў на яе пацалунак, пасля выцерабіўся з яе ўчэпістых рук.

—Ты чаго? — не пазіраючы на яго, толькі прысеўшы на калені і ўткнуўшыся тварам яму ў грудзіну, спытала яна, нібы разгубілася, нібы засаромелася.

—Не трэба... — адказаў ён. — Зразумей мяне.

—Ну чаму? — прашаптала яна. — Няўжо я памыляюся, няўжо табе ненавісная?

—Не, — сказаў ён. — Ты мне вельмі падабаешся. Ты такая прыгожая, што не можаш не падабацца...

—Дык што замінае нам кахаць адно аднаго?..

— Здзіслаў...— прызнаўся Мішук.— Я зайздрошчу яму, нават парою ненавіджу яго за тое, што ён такі таленавіты, што ён так шмат робіць, так далека мінуў мяне, але я не магу яго абмануць. Яго нельга абманваць.

— Я паважаю яго як мастака, як чалавека, але не люблю... — прызналася яму і Валя. — Ды, відаць, цябе аднаго толькі і любіла... Але... Ды што гаварыць, як я не зберагла гэта каханне, на што яго... Вось цяпер і выходзіць: у цябе крызіс, я не кахаю Здзіслава, Здзіслаў пакутуе...

— Я сёлета ажанюся, — адказаў Мішук, — і ў мяне будзе сям'я. А з крызісам... Паглядзім... Не такі ўжо я няздара...

Мішук, чуючы, што Валя ці не плача, зірнуў долу і ўбачыў недалёка ля сябе на зямлі жоўты бярозавы ліст, што нейкім цудам заляцеў сюды, у хваёвы лес, пакрыўся за ноч сцюдзёнаю расою. Як прыгледзеўся, дык здзівіўся: спачатку здавалася, што гэтая золкая раса была сіваватая ад холаду, але на самай справе буйная кропля, што сабралася пасярэдзіне ліста, у ямачцы, была вельмі чыстая ды празрыстая.

1977

## «АДЛЮБЛЮ ЗА ЎСЮ МАЛАДОСЦЬ...»

Маладыя гады,
Маладыя жадання!
*Максім Багдановіч*

Неба, высокае, сіняе, вакол сонца белаватае, сцішэла і прымлела ад яркага святла. Недзе зусім невысока, як толькі пачыналася блакітная смуга, вісеў, заліваўся радаснаю песняю маленькі жаўручок. Любаваўся, мусіць, на густое цёмна-зялёнае жыта, дзе ў невялікай разорцы, можа, было яго гняздзечка.

Як Васіль ні ўзіраўся ўвысь, ніяк не мог згледзець вясёлага жаваранка, жмурыўся толькі ад белага святла, сінізны неба і адчуваў, што ад закінутай уверх галавы пачынае балець карак. Тады апусціў галаву, убачыў, што стала цёмна ў вачах; ён моцна заплюшчыў іх, але ўсё роўна яшчэ доўга плылі бела-жоўтыя плямы і густы блакіт чэрвеньскага чыстага неба.

Пастаяў з хвіліну, прывыкаючы да святла, і пайшоў далей па цвёрда ўтаптанай і выезджанай веласіпедамі сцежачцы ўздоўж дарогі, пазіраючы ўперад на сухі, аж пабялелы, пясок і на зялёныя прысады — яны стаялі справа і злева. Была радасць, што ён цяпер ідзе дадому, пабудзе крышку адзін, пасмуткуе, а пасля, увечары, калі вернуцца з працы людзі, зноў сустрэнецца з ёй, мілай і дарагой яму жанчынай, што за нейкі месяц здзівіла, акрыліла, так усцешыла сваёй чысцінёй і пяшчотай — што для яго, здаецца, зусім па-іншаму паказаўся гэты свет.

Васіль — прараб тутэйшага саўгаса — вяртаўся з канторы. Доўга, з раніцы да полудня, амаль не разгінаючыся, ні на хвіліну не ўстаючы, сядзеў там — у сваім маленькім сонечным пакоі,— пісаў, падлічваў, колькі і што зрабілі рабочыя, будуючы ў Асаўку новы двухпавярховы шаснаццацікватэрны дом.

Калі перапісаў усё на чысты ліст паперы, хутчэй панёс да дырэктара, бо той даўно падганяў яго з гэтаю работаю. Дле дырэктара не было ў канторы. У суседнім пакоі, куды ён цікнуў на ўсякі выпадак, сядзела за сталом і, нізка нагнуўшыся, нешта пісала дырэктарава жонка — галоўны эканаміст саўгаса, ды паблізу яе ляскала на машынцы сакратарка Нэлачка.

Васіль зайшоў, прысеў на новенькай канапе. Да яго адразу ж, адклаўшы сваю работу, усміхнуўшыся, відаць, радая, што ёсць з кім нарэшце пагаварыць, падсела дырэктарава жонка, пажылаватая добрая жанчына, адзетая ў старамодную жоўтую сукенку, з мноствам кліноў і ўсякіх гафтачак.

— Чула, што маецеся пайсці ў адпачынак? — запыталася яна.— Дык дзе думаеце сёлета адпачываць: ці ў вёсцы, у сваіх бацькоў, ці паедзеце куды на поўдзень?

Ён усміхнуўся: адчуваў, што гэтая гутарка была толькі зачэпкаю, бо дырэктарыха і сёння, як і вельмі часта дасюль, хацела, мусіць, пагаварыць з ім пра другое — пра яго жаніцьбу.

— Яшчэ і не ведаю добра,— адказаў ён.— Відаць, паеду дадому. Буду памагаць касіць і грэбці сена.

— «Дадому, дадому!»— пажартавала яна.— Пара падумаць ужо, каб тут ваш дом быў. Ну, Васіль Антонавіч,— яна зноў усміхнулася, хітра прыжмурыла вузенькія вочы, аж, здаецца, памаладзела ад гэтай сваёй гарэзнасці,— чаму вы пяты год у нас працуеце, а ніяк нявесты не падберацё? Ці ганарлівы вы ды пераборлівы, што ні адна настаўніца вам не спадабалася, ні адна канторская дзяўчына, ці?.. Ну, чаму?

Ён, усё разумеючы, гэтаксама ўсміхнуўся, нічога не адказаў. У вёсцы напраўду былі незамужнія — фельдшарыца, загадчыца пошты і дзве маладзенькія настаўніцы,— але ўсе яны былі не надта вабныя дзяўчаты. У канторы ж незамужняй была толькі адна Нэлачка — дзяўчына яго гадоў, вельмі поўная, мусіць, хваравітая на сэрца, ад таго заўсёды нейкая санлівая, белая на твары, добрая работніца, добрая характарам, але зусім непрыгожая.

Нэлачка пры той размове гэтаксама была ў пакоі, сядзела і друкавала. Праўдзівей сказаць, яна сядзела ля машынкі, але не друкавала, брала чыстую паперу, клала на яе капірку, зноў клала наверх паперу, раўняла, угінала галаву, і здавалася, не слухала іх, але аж палымнела на шчоках ад хвалявання: яна, як ён ужо ведаў, употайкі кахала яго і, канечне, спадзявалася, што ён урэшце возьме замуж толькі яе.

І дырэктарыха чамусьці вельмі старалася «звесці» яго з Нэлачкай.

Васіль не сказаў, што няма ў вёсцы прыгожых дзяўчат: не хацеў псаваць настрой Нэлачцы. Яна заўсёды была вельмі рада, калі ён загаворыць з ёю, усміхнецца: сумавала, мучылася, калі ён не падыходзіў да яе ці гаварыў, што няма тут такіх дзяўчат, якія яму падабаліся б,— тады яна хмурнела, сцішвалася, саромелася сваёй паўнаты і, здаецца, яшчэ горш брыдчэла, была нявабная.

— Ажанюся некалі, чаго спяшацца,— толькі ўсміхнуўся ён на развітанне.— Вось пабудую новы дом, сабе кватэру ў ім адляплю — і ажанюся.

Сказаў так, што сам аж паверыў, што застанецца, прыжывецца тут, куды трапіў пасля размеркавання, будзе жыць са сваёй каханай

— з ужо замужняй жанчынай. Хоць зусім не ведаў, як развяжацца той вузел, што ўжо завязаўся.

...Ішоў паціху, пыліў і чамусьці ўспомніў беленькую і тоненькую аднакурсніцу-красуню з рэдзенькімі пярэднімі зубамі, з прыгожымі светлымі валасамі. Яна была першай дзяўчынай, што ён пакахаў. Хадзіў з ёю ў кіно, у тэатры, адрываючы для гэтага на білеты і на марожанае грошы са стыпендыі, хадзілі разам у бібліятэку, перажывалі, хто як здае экзамены,— і паволі не толькі прывыклі адно да аднаго, але, здаецца, і пакахаліся. Вось ён аднойчы, ап'янелы ад шчасця, і завёў гутарку пра тое, каб ім пажаніцца.

«Ты што?— здзівілася яна і засмяялася. Ён ніколі дагэтуль не бачыў такой зняважлівай ды пагардлівай усмешкі.— Сам жа бачыш, хто і я, і ты... Абое студэнцікі, будучыя спецыялісты з сярэдняй адукацыяй... Прыедзем у якую вёску з чамаданамі: «Добры дзень вам. Мы Сцепановічы... А нам так адразу — кватэру, работу па спецыяльнасці»

«А чаго ж мы хадзілі столькі? — здзівіўся тады ён, думаючы, што яна не верыць яго шчырасці.— Я вось толькі з табой хачу жаніцца».

«Эх ты, жаніх! — яна з насмешкаю падціснула тоненькія вусны.— Я думала, што ты хлопец... А замуж, даражэнькі, я за цябе не пайду, бо ты хутка паедзеш у вёску... А я выйду замуж за юрыста ці за журналіста, бо яны далей раённага горада не паедуць... Вось крыху яшчэ пагуляю з табою і вазьму ў рукі нагледжанага...»

«Ты сур'ёзна?» — перасільваючы крыўду, злосць, спытаў ён.

«Канечне,— адказала яна.— Якія ж тут жарты? Але ты мне даспадобы. І ад сваіх тых слоў, што я раней гаварыла табе, я не адмаўляюся».

«Тады жадаю табе шчасця! — буркнуў ён сярдзіта.— А я табе не цацка, каб гэтак!..» — І пайшоў ад яе.

Праз год ён скончыў тэхнікум, прыехаў сходы, у невялікую вёску. Спярша, як астатні год і ў тэхнікуме, мучыўся, пакутаваў, не ведаў, як будзе жыць далей, ці здолее каго больш пакахаць. А пасля адчуў, што пакрысе забываецца тое, студэнцкае, можа, і не вартае яго памяці, каханне, як і не варта яго і яна, такая хітруня. Толькі пачаў недалюбліваць дзяўчат; а яшчэ пазней прапала і гэта пачуццё, ён неяк паволі паспакайнеў, надта тады, калі ад знаёмых пачуў, што яго былая сяброўка напраўду неўзабаве выйшла замуж за журналіста, паехала з ім у раённы горад, праз год нарадзіла дачку і атрымала кватэру, а яшчэ праз год, а можа, і раней, пачала паціху падгульваць з другімі. Сустрэўшы яго знаёмых, дапытвалася: «А як там ён, Васіль, жыве? У вёсцы? Добры хлопец быў, толькі не зусім разумеў жанчын...»

Пасля гэтага вось Васіль і супакоіўся, падумаў, што няма чаго крыўдзіцца ды шкадаваць: яна, тая беленькая, цвяроза думала, гадала пра свае сямейнае жыццё і, можа, вельмі з розумам, хоць і для яго чэрства, зрабіла, што адмовілася ад яго, бо была б з ім нешчаслівая, і ён вялікай радасці ад яе не меў бы.

Ён адразу ж, як толькі пачаў працаваць тут, скеміў, што вельмі падабаецца тутэйшай Нэлачцы, падабаецца тварам, паставаю, характарам ды паводзінамі — што ён добра працуе, умее ладзіць з людзьмі, амаль не п'е, дарэмна не растрачвае капейку. А яму не хацелася, каб яна глядзела на яго такім сталым, сур'ёзным ды гаспадарскім вокам, бо ўсё ж яшчэ хацелася нечага неабдуманага, пяшчотнага, нават узнёслага — той падлеткавай сляпой закаханасці, што некалі прыйшла да яго, калі ён сустрэў раней тую, беленькую...

Але тое, светлае, узнёслае, такое прыемна маладое, пачуццё ўжо да яго чамусьці не прыходзіла, і ён сумаваў па ім, як па нечым вельмі дарагім і незваротна страчаным. Думаў, што і ён нікога не пакахае, і на яго ніхто з дзяўчат больш не кіне вока — і пройдзе чалавечае шчасце побач, як гэта часта бывае.

...Сцежка павяла ля самых прысад. На ёй, як і на дарозе, быў відаць ад кустоў і высокіх дрэў цемнаваты мігатлівы цень, які рабіўся ўсё меншым — была палуднёвая пара. Гудзелі паблізу ля травы і кветак пчолы, ля лістоты тоўпіліся хмаркамі і тоненька зумкалі мошкі, недзе ў цяні адзінока разамлела пішчалі камары. Гарачае паветра пазвоньвала ад цішыні і спякоты.

Адразу за прысадамі, калі яны скончыліся і пачаўся лапінамі зялёны, а мясцінамі жоўты ад пяску выган, паказалася вёска з сухімі, аж белымі, стрэхамі і сценамі хат, светлымі платамі, кінуліся ў вочы зялёныя, крыху прыпыленыя сады, па якіх сярод густога лісця ледзь-ледзь бачылася маленькая крамяная завязь. Хутка Васіль убачыў хату, дзе ён кватараваў. У шчыце хаты зырка блішчала акенца, сляпіла вочы.

Васіль падумаў, што зойдзе зараз у гэты дом, скіне з сябе тэніску, майку, штаны, адзене трыко, возьме мяккі махровы ручнік і пойдзе босы на рэчку, што адсюль за вярсты дзве. Гаспадароў, канечне, цяпер няма, дык ён спакойна пераадзенецца, перакусіць.

Але хутка ўбачыў, што нехта дома. Адчынена і гайдаецца палавінка акна, вецер паднімае, хіне ў хату фіранку, чуецца гамонка. Ён бачыў гэта і адчуваў, як прыходзіць хваляванне, палымнеюць шчокі...

Калі адчыніў брамку і пайшоў па асфальтаванай сцежачцы да сянец, пачуў, як імкліва прарыпелі іх дзверы і на парозе паказалася гаспадыня Люда — маладая, гадамі крыху за трыццаць, высакаватая, у меру паўнаватая. Была яна ў кароткім халаце, што не закрываў поў-

ныя круглыя калені. Яна хутка са знаёмым гарэзным бляскам у вачах зірнула на яго і не здзівілася, што ён ідзе так рана дахаты, відаць, раней ужо ўбачыла яго праз акно. Молада і прыгожа ружавеючы на шчоках, спакойна падалася насустрач, несучы перад сабою цяжкаватую мядніцу, у якой стаяла невялікая каструля,— відаць, хацела выцягнуць вады з калодзежа, уліць яе ў мядніцу — ахаладзіць шчаўе.

Усміхнулася — і яе твар яшчэ больш пасвятлеў ды памаладзеў, папрыгажэў, бо не толькі з весялосцю, а і з пяшчотаю бліснулі яе чарнаватыя вочы, крануліся поўныя вусны з рэдзенькім белым пушком над імі, і ўся яна, лёгкая, загарэлая, мякка ступала, ідучы босымі нагамі па нагрэтым асфальце.

Прыблізіўшыся, Васіль прыкмеціў у яе вачах сполах, разгубленасць, але яна ішла спакойна. Толькі калі праходзіла побач, шапнула: «Ён дома...»

Прашаптала — а яго, Васіля, як халоднай вадой абліла. Ён разгубіўся, успыхнуў, аж застукала кроў у скроні, а яна зірнула на яго і, здаецца, бачачы, што яго з такім настроем нельга цяпер пускаць у хату, мінула яго, пайшла не спыняючыся ды не азіраючыся.

— Хадзеце памыйце рукі ды палуднаваць будзеце,— гаварыла голасна, каб пачулі ў хаце.— Гэта ж «студэнт» наш двухгадзінны водпуск атрымаў.

Васіль павярнуўся і пайшоў за ёю да калодзежа, гледзячы на яе і любуючыся.

Люда спакойна апусціла ў студню вядро. Затым выкручвала яго з вадою наверх, паднімала, апускала руку,— тады вельмі хвалююча падніміліся і апускаліся яе высокія грудзі, а сама яна яшчэ болей ружавела і рабілася ад гэтага прыгожай-прыгожай, такой вабнай, што нельга было адарваць ад яе вачэй.

Люда дастала вядро, і льючы яму на рукі ваду, нагнулася і ціхенька зашаптала:

— Загавары з ім неяк, што табе цяпер няёмка быць тут, што можаш перайсці да каго другога на час, пакуль ён не вернецца. Не ведае нічога, але надзьмуўся нечага... Не адашле, але супакоіцца.

Васіль падстаўляў пад халодную ваду рукі, мыўся і бачыў, як ляцяць пырскі долу, вільгатнеюць пясок і дробныя каменьчыкі, як яны, адплёскваючыся ад зямлі, трапляюць на яе ногі, і ён хваляваўся, што бачыць усё гэта. Ён апаласнуў рукі, твар, строс ваду і, не азіраючыся, пайшоў у хату. З парога ўбачыў на лаве ля акна невысокага, вузкага ў плячах і дробнага на твары гаспадара ў запыленых ботах і новай вялікаватай спяцоўцы (саўгас паслаў яго, трактарыста, вучыцца на аднамесячныя курсы на камбайнёра), з вузкім лобам і з

пышнымі чорнымі валасамі, старэйшага за жонку на гадоў восем. Гаспадар быў надта загарэлы на твары і ад таго яшчэ болей цяпер здаваўся пастарэлы, хмурны. Сядзеў і еў нехаця хлеб з салам.

Васіль, здаецца, спакойна, можа, нават залішне спакойна спачатку павітаўся з ім, выцер у парозе ручнікам твар, хвалюючыся і саромеючыся, падышоў да стала і парукаўся. Гаспадар нават не ўзняўся, моўчкі падаў руку, разгубіўшыся, з незадавальненнем зірнуў у вочы і хутка адвёў позірк.

— Выпі,— першы буркнуў ён і адліў з адкаркаванай пляшкі поўную чарку віна, нервова, аж уздрыгнулі ў яго рукі, наднёс яе яму, разліўшы крыху віна на настольнік, пасля наліў чарку сабе, больш не запрашаў, моўчкі выпіў, зморшчыўся і, апусціўшы галаву, пачаў закусваць.

У гэты час пад'ехала да хаты машына, прыпынілася і засігналіла.

— Гэта на мяне,— уздыхнуў, самотна буркнуў ён, адхіліў фіранку і зірнуў на двор, пажаваў, а тады моўчкі падняўся, выцер у парозе ручнікам вусны. Па-ранейшаму адводзіў позірк і маўчаў, шукаў сваю брылёўку.

— Сяргей...— прамовіў Васіль, гэтаксама падняўшыся.

Той выпрастаўся і, ужо здзівіўшыся, зірнуў яму ў вочы і не змог вытрымаць позірку, глянуў убок.

— Я вось падумаў: няёмка мне цяпер быць тут... Вас няма, пачнуць яшчэ людзі... Я перайду, можа, да каго, праз тыдзень будзе адпачынак, і тады я паеду адсюль...

— Чаго на тыдзень пераходзіць? — цяпер гэтаксама хвалюючыся, але з кожным мігам спакайнеючы, адказаў гаспадар і дадаў неяк весялей, ледзь не ўсміхнуўшыся: — Жыві... Ну, будзь здароў,— падышоў, ужо ўсміхнуўся, падаў руку, пацiснуў і, невысокі, дробненькі, паранейшаму самотны, падаўся на двор, дзе яго сустрэла Люда, падала падрыхтаваны загадзя вузельчык і павяла да машыны.

Васіль не захацеў пазіраць на іх — як яны будуць развітвацца, пазіраць а дно аднаму ў вочы,— пайшоў у другую палавіну хаты пераадзявацца, аднак адчуваў, як яго захліствае рэўнасць.

Ён цяпер, як ніколі, пазайздросціў, што такая мілая добрая Люда — чужая жонка.

Машына хутка завялася і адкацілася. Васіль зноў захваляваўся: пачуў, што Люда не запынілася на двары, адразу ж ідзе ў хату. Ён паспеў ужо сцягнуць з сябе тэніску і майку.

— Ты тут?— адчыпіла дзверы, зайшла і весела, як радая, што муж паехаў, запытала яна, зірнула з любасцю, усміхаючыся аднымі вачыма.

Потым падышла зусім блізка, прыпынілася — высакаватая, стройная, лёгкая. Васіль пазіраў на яе папунсавелы твар, гладка зачасаныя чорныя валасы, на даўгаватую шыю.

Яна, канечне, заўважыла яго гэты імклівы і пяшчотны позірк, але засталася стаяць паблізу, толькі ўсміхнулася:

— Ну, што ён табе сказаў?

— Што магу пажыць...

— Ну і добра,— шчасліва, ціха прамовіла яна, і ў гэтую хвіліну шчокі яе запылалі і яна хутка ступіла да яго, абняла пад пахі, прыціснулася. Запахла рэчкаю, сонцам, цяплом, як і тады, з месяц таму назад...

Ён гэтаксама абняў яе...

...Жыў ён тут другі месяц. Дасюль кватараваў у адной добрай сям'і непадалёку ад школы. Але нядаўна гаспадары прадалі хату, пераехалі ў горад, і ён мусіў шукаць новую кватэру.

Новы гаспадар, Людзін муж,— як гаварылі, як пасля ён убачыў і сам, чалавек хваравіты, маўклівы і скрытны,— адразу не хацеў браць яго на кватэру, гаварыў, што ў хаце двое малых дзяцей і яны будуць шумець, не дадуць яму нават спакойна пасядзець. Лепш яму знайсці прасторную хату ў пажылых людзей, дзе не было б дзятвы. Але Люда, неяк пільна паглядзеўшы на яго, маладога, разгубленага, сказала, што трэба паспачуваць і ўзяць на кватэру.

Першую пару Васіль жыў тут як бы ў баку ад гаспадароў, стараўся быць не надакучлівым кватарантам, не ўмешваўся ў іхнія гаворкі, надта тады, калі гаспадары чамусьці не ладзілі. Але з першай жа хвіліны кватаранства ўбачыў, што Люда мілая і вельмі вабная. У яе шмат у саўгасе і дома працы, няма калі надта глядзець за сабою, выхарошвацца, дык яна здаецца ад таго трошкі ўжо немаладою, нават стомленаю, але калі ў свята прыбярэцца, мае добры настрой — тады адразу маладзее, красуня пісаная. Як яна толькі і дасталася такому несамавітаму мужу.

Ён употай закахаўся ў сваю маладую гаспадыню, але стараўся не паказваць гэтага: ведаў, што ўсё гэта дарэмна. Але чым болей хацеў схаваць гэта, тым болей пачаў саромецца Люды, саромецца яе красы, саромецца з ёю гаварыць, жартаваць, пазіраць у вочы. А пасля заўважыў, што і яна чамусьці пачала чырванець перад ім, старацца не сустракацца позіркам. І чым болей яна старалася не заўважаць Васіля, тым болей чагосьці хмурыўся яе пажылаваты муж. І Васіль адчуваў, што неяк ненатуральна яна хоча гаварыць і жартаваць толькі з мужам, не пазіраючы на яго, Васіля, а разам з тым стараецца трапіць яму на вочы.

Недзе нядаўна, у маі, Васіль сядзеў пад вечар у сваім пакойчыку і складаў план работы на чэрвень. Уздрыгнуў, калі зайшла сюды Люда, абутая ў гумовікі, у апырсканай вадою куртцы (хадзіла на рэчку паласкаць бялізну), і спытала, колькі цяпер часу. Ён поспехам адказаў, але яна не адышлася, паправіла на галаве хустку, пахукала на халодныя і аж белыя ад вады рукі, прыблізілася і зазірнула на паперу, на якой ён пісаў. Яна нахілілася так блізка, што кранулася грудзьмі яго пляча. І гэты адзін дотык усхваляваў Васіля, і ён, можа, нават і не думаючы, паклаў ёй на спіну руку, прыхіліў і жартам пасадзіў яе сабе на калені.

— Што вы робіце?— ціха спалохалася яна, але ў вачах акрамя страху было і хваляванне, і гэтае хваляванне рабіла яго смелым.

Ён мацней прыгарнуў, наблізіў яе галаву да свайго твару і нечакана ўбачыў, што яна ўздыхнула, падалася, заплюшчыла вочы і, трапяткая, шукае вуснамі яго вуснаў...

— Апошнюю ночачку мы разам,— шаптала Люда праз пару дзён, лежачы на руцэ Васіля і часта цалуючы яго ў вусны.— Заўтра ты паедзеш і я застануся адна...

Васіль ціха ляжаў, бачыў у густой чэрвеньскай цемені светлаватыя вокны, праз шум крыві ў скронях чуў, як ціхенька іграе на кухні радыё, цікае паблізу на шафе будзільнік, адчуваў усё яшчэ на сваіх вуснах моцныя Людзіны пацалункі, на шыі — моцныя поціскі яе рук, чуў, здаецца, палымяныя яе шэпты...

— Адлюблю за ўсю сваю няўдалую маладосць...— шаптала Люда.— Хоць я цяпер вінаватая, але шчаслівая... Толькі вось не ведаю, як я буду без цябе ўсё лета, а можа, і ўвесь век... Не хачу таго, што было да цябе...

Васіль слухаў, а пасля адчуў, як яму на шыю капнулі слёзы; Люда крыху адсунулася і ўткнулася тварам у пацушку.

— Не трэба, дарагая мая...— папрасіў ён і пагладзіў яе па цёплым плячы.— Пакінь яго, і мы пажэнімся з табою, з'едзем адсюль, будзем разам і не будзем нікога баяцца...

— Радасць мая!— яна зноў прыблізілася, цалавала яго твар, плакала і прымушала глытаць яе салёныя слёзы.— Пражыла б я век, калі б не ты, і не ўбачыла б чалавечага шчасця...

Васіля працяў боль за яе, за яе жыццё, і гэты боль яшчэ пабольшыў ласку да каханай жанчыны. Яна без слоў зразумела яго гэты парыў, балюча сціснула рукамі яго за шыю, зашаптала: «Не адпушчу цябе нікуды!» — а пасля зашаптала яшчэ незразумелае, зноў палымнела, была неразумная і непамятлівая, жаданая, што дзеля гэтых хвілін можна было стрываць самыя вялікія цяжкасці...

— Васілёк, мілы Васілёк!— шаптала пасля, лежачы паблізу і стомлена раскінуўшы рукі.

Яны доўга ляжалі побач, цесна прытуліўшыся. Першаю пакраталася Люда, паднялася, села, узяла ў нагах збітае прасціpадла і накрылася, пацалавала яго ў шчаку.

— Паедзеш заўтра...— зноў успомніла пасля,— а я буду адна, буду ўспамінаць нашы гэтыя ночкі і плакаць...

— Я ж кажу табе... З'едзем.

— Як жа я паеду з табою?— прашаптала Люда.— Я ж не дзяўчынка, як і сам бачыш. Хата ёсць, гаспадарка, муж жывы, дзеці... Бог з ёю, нарэшце, з хатай, і ён пражыў бы без мяне, але дзеці... Ты ж будзеш ім айчым, а не бацька. А кінуць іх я не магу...

— Ды і я...

— Ты не тое...— перапыніла яго Люда.— Не злуйся, родны, але гэта так. Я табе буду мілая, але дзеці мае не так... Будзеш вось некалі мець сваіх, дык убачыш... Хай бог бы нас звёў раней, калі я яшчэ не замужам была: мы ж толькі адзін для аднаго... Такія былі б шчаслівыя...

— Тады цяжка нам будзе,— сказаў ён,— хутка вернецца ён — і ўсяго гэтага не будзе, і мы з табой зноў будзем таіцца...

— Выходзіць так,— прамовіла яна.— Я за яго па-добраму выйшла, не скажу, што не кахала. Здаецца, кахала. Першыя гады мы добра жылі, радаваліся, што дзеці здаровыя растуць, багацеем. Сам бачыш — і хата ў нас новая, добрая, і ў хаце ўсё ёсць. Усё чысценька, усюды парадачак... Але каторую пару мучыла мяне нешта, што не так жыву, што нечага вялікага і дарагога не бачу, што трачу нешта,— і я замаркоцілася... Убачыла цябе, маладога і такога ладнага, як ты з чамаданчыкам у руцэ прыйшоў прасіцца на кватэру, зірнула ў твае вочы, і, далібожачкі, затрапяталася мае сэрца, аж спужалася я: сыдуцца нашы сцежачкі... І баялася я цябе браць, але і не магла адмовіць... Вось і сышліся... Бабы нашы не дурныя, усё цяпер бачаць. Як прычэпяцца на рабоце: мужыка няма, а чаму такая вясёлая ды, гавораць, чаму змянілася зусім за апошні месяц, пахарашэла ды памаладзела, што і не пазнаць? Што я ім сказаць магу? Што напраўду стала з табою шчаслівая, убачыла тое, чаго раней не ведала... Не скажаш ім, нічога не скажаш, бо ніхто не зразумее, а толькі папракаць будзе... Чужаніца ты мне, а самы дарагі чалавек стаў, не магу я без цябе...

— А ты...

— Не адпушчу, не адпушчу,— не даслухаўшы, Люда абхапіла яго за шыю, прыгарнулася,— я яшчэ не адлюбіла за сваю маладосць, не вярнула, што страціла... А я ж яшчэ маладая, жыць вельмі хачу, чуеш,

жыць хачу...— шаптала і зноў пачала плакаць, бо добра, як і ён, ведала, што гаворыць адно, тое, што думае, а будзе, можа, зусім другое, тое, што даўно склалася і што змяніць вельмі і вельмі пялёгка, а то і няможна...

1975

# АПОВЕСЦІ

## ЖЫВЫ ПОКЛІЧ

*Прысвячаю маладым бацькам 1944 і 1945 гадоў*

### 1

Самалёты ляцелі адзін за адным, натужна гулі, і ад гэтага густога, настойлівага гулу, здаецца, трымцела ды звінела не толькі высокае неба, але і зямля. Калі яны наблізіліся, Васіль нібы аглухнуў: заклала ў вушах. Усё ранейшае — шапаценне пяску пад коламі, калёсны рып, птушыныя спевы, лясны ціхі звон — патанула ў гэтым магутным неспакоі.

Яніна закрыла твар далонямі і з насцярогаю прыціснулася да Васіля. Гэтыя насцярога ды боязь самалётаў заявіліся ў яе яшчэ ў блакаду, калі немцы пачалі бамбіць партызанскія лагеры ў Налібацкай пушчы, а таксама — сёлета, пасля нядаўніх кароткіх, але лютых баёў над Ружэвічамі. І ў тыя бамбёжкі, і ў гэтыя баі самалёты страшна вылі, скаланалі паветра і зямлю стрэламі ды выбухамі. Сёлета некалькі ахопленых агнём машын нават упала каля вёскі, адна — зусім на гародзе канцавой хаты. Ад упалага самалёта загінула сям'я, якая хавалася ў акопчыку, а ад узрыву і агню загарэлася некалькі блізкіх дамоў і ва ўсім засценку павыбівала шыбы ў вокнах.

Васіль прыпыніў каля густалістай бярэзіны каня і задраў галаву, стараючыся пазнаць: чые ў светлым, нават белаватым ад шчодрага сонца небе самалёты? Заўважылі зверху іх тут, на лясной дарозе, ці не? Паласнуць кулямётнаю чаргою ці не пазважаюць на адзінокую фурманку, паляцяць далей — сваім шляхам?

Самалёты, як здалося адгэтуль, з зямлі, былі шэразеленаватыя, з светлымі водбліскамі. Вось накрылі ценем, паказалі свае знакі — чырвоныя зорачкі з белаю акаймоўкаю. Праляцелі над імі, памкнуліся наперад, на захад. Гул, адбіваючыся ад зямлі, хваляваў-калыхаў паветра. Яно, парушанае ды ўстрывожанае, дрыжала, аж спявала-стагнала ад цяжару.

— Бамбавозы, «ПЕ-2»,— калі самалёты пагналі гул наперад і аддаліліся, з палёгкаю прамовіў ён.— Відаць, паляцелі на Ліду. На аэрадром.

Яніна, пачуўшы, чые самалёты, адсланіла твар, апусціла рукі на калені, але ўсё яшчэ з трывогаю тулілася да яго плечука і маўчала;

рэха суцішвалася і ўкладвалася, лес спакайнеў, хоць здавалася, нава-колле ўсё яшчэ звініць і гудзе — ён, гул, стаяў у вушах. І калі неў-забаве зноў крануліся, паехалі далей, дык даўгавата не было чуваць, што шапаціць сухі пясок пад коламі, рыпяць на выбоінах калёсы і пазвоньваюць на іх каструлі ды міскі ад нечаканых штуршкоў.

— А што, калі, як той-сёй кажа, вайна вернецца? — нечакана выразна сярод гэтай аглухласці ды ўтрапеласці запытала Яніна.

— Ты — што?! — усміхнуўся ён. Як чалавек, што добра ўсё ведаў і добра ва ўсім разбіраўся. Нібы стары дзед,— Цяперся ўжо сіла пера-ламала сілу... Чырвоная Армія прарвала нямецкую абарону, «Фатэр-лянд», узяла Гродна. На днях, кажуць, выганяць немцаў і з Брэста. Вайна пакоціцца па Польшчы. Да самой Германіі. А на яе ўжо, сама ж чула, болей месяца ідуць англійскія ды амерыканскія арміі...

— Усякае яшчэ можа быць...— прамовіла яна,— Брэст яшчэ ж пад немцамі. А Брэст той не так ужо і далека ад нас...

— Не. Вайна будзе ўжо там. Сама ж бачыш, як ляцяць гэтыя самалёты! Удзень! Нізка! Нічога не баяцца!

— Вачыма бачу, вушамі чую, але на сэрцы няма спакою...— шчыра прызналася яна.— Усё яшчэ страх у душы сядзіць...

Усе гэтыя дні маўчала пра сваю трывогу ды адну для абаіх небяспеку, а вось цяпер, у дарозе, не вытрывала, абзыўнулася. Відаць, тры гады, прапакутаваныя ў акупацыі, паклалі ў яе душы глыбокі след, напоўнілі надоўга кроў трывогаю ды страхам. Праўда, яна ўсё ж не паслухала маці, згадзілася ехаць у гэтую, сапраўды даволі яшчэ небяспечную дарогу з ім, маладым, толькі на год старэйшым мужам. Прасіў, настойваў — яна і падрадзілася пакінуць абжытую, але не зусім мілую кватэру ў Ружэвічах, вярнуцца на папялішча ў свае родныя, спаленыя ў блакаду Янковічы.

Ды які мог быць у яе, кабеты, спакой, калі яшчз паблізу ішлі баі (уночы, у цішыні, нават чуваць, як бухае за Налібацкаю пушчаю, калоціцца, стогне ад бомбавых выбухаў зямля, ды відаць, як там палымнее неба), калі яшчэ няма тут ладу, яснасці. Удзень ляціць, едзе, ідзе на захад адна сіла, а ўночы — яшчэ і іншая. Уночы пруць, даганяючы фронт, ацалелыя нямецкія часці, паліцэйскія, усякія цёмныя людзі, а таксама разбойнічаюць рабаўнікі. І цяпер — без вайны — усё яшчэ можна скласці галаву. Нават ненаўмысна і выпадкова. Асцеражнейшыя людзі цяпер вельмі пільныя. Лічы, далей свайго ганка не вытыркаюцца на чужыя вочы. Але ні Васіль, ні Яніна не паасцерагаліся, узгарэліся кінуцца, як у вір, у новы дзень.

— Выжылі ў вайну, дык выжывем і цяпер,— усміхнуўся ён, каб зноў падбадзёрыць Яніну.— Цяпер грэх загінуць. Ды збіраючыся доўга і шчасліва жыць...

— Упарты ж ты...— нязлосна, мякка папікнула яна.

— А хіба кепска, калі мужчына ўпарты ці настойлівы? — пагарэзаваў. Яна не ўтрывала, таксама ўсміхнулася, бо зразумела яго намёк, але пастаралася быць строгаю. Ды не паспела ні кіўнуць пальцам, ні штосьці сказаць болей: ён затуліў яе вусны сваімі.

Яніна не ўпарцілася, і на нейкую хвіліну абое заціхлі ў доўгім пацалунку, не зважаючы, што іхні конь запыніўся,— відаць, адчуў апушчаныя лейцы і са смакам ткнуўся да прыдарожнага дзікага сіняга лубіну: яго, лубіну, абапал дарогі было шмат.

— Ах, как хорошо-то! — нечакана сцёбнуў па іх блізкі мужчынскі голас.

Яніна і Васіль рэзка адхінуліся адно ад аднаго, зыркнулі на дарогу: што за людзі заявіліся тут нечакана?

З-за павароткі, з-за густых арэхавых кустоў адзін за адным выходзілі вайскоўцы. У ботах, у зялёных доўгіх плашч-палатках, але без пілотак. Усе загарэлыя, русявыя. Конь падняў галаву і нібы ўзрадаваўся падарожным. Пасля сам крануўся ім насустрач. Пад'ехаўшы бліжэй, Васіль заўважыў за густым арахоўем вытыркнуты цёмназялёны капот вайсковага грузавіка.

«Здаецца, чырвонаармейскі,— пільна ўзіраючыся, падумаў ён.— А можа, і не чырвонаармейскі. Цяпер шмат хто ў такой форме ходзіць, ездзіць на такіх машынах ці, наадварот, чырвонаармейцы, бывае, катаюцца на нямецкіх легкавіках ці матацыклах».

Першы вайсковец запыніў за вобраць рахманага каня, пасля, трымаючы правую руку пад плашч-палаткаю, падышоў, чэпка зірнуў на звязаныя ванзэлкі на калёсах, на іх, людзей. Сам ён быў маладжавы, з гладка выгаленымі шчокамі ды шырокім раздвоеным падбародкам.

— Хто такія? — запытаў. Рэзка, строга. Пазіраючы ўжо толькі яму, Васілю, у вочы.

— Бежанцы...— адказаў ён, адчуваючы, як ад хвалявання сціскае горла. Здаецца, і прывык ужо за вайну да сустрэч з незнаёмымі людзьмі, але ўсё роўна, бывае, новая сустрэча разгубіць, змусіць мацней, чым звычайна, забіцца сэрца. Можа, і ад таго, што кожны раз пры такой сустрэчы не ведаеш, што з табою будзе — ускочыш, як заяц, у пятлю ці выскачыш цэлы.

— Куды і чаго едзеце? — зноў гэтак жа строга запытаў вайсковец. Гаварыў ён па-руску.

— Вяртаемся ў сваю вёску.

— Куды? — не зводзячы пільнага позірку, дапытваў вайсковец. Іншыя вайскоўцы, падышоўшы, абступілі калёсы з усіх бакоў. Кожны трымаў правую руку пад плашчпалаткаю. Адзін з іх, самы малады, кірпаносы, з маладым захапленнем зірнуў на Яніну. Здаецца, аж здзівіўся, што ёсць такія прыгожыя кабеты.

— У Янковічы,— адказаў Васіль,— На хутар Амшарок. Яны за гэтым, крычатоўскім лесам.— Гаварыў, а сам пакутаваў ад загадкі: хто на самай справе яны, гэтыя вайскоўцы? што ім трэба? што яны зробяць з імі?

— Чаму не ў арміі?— пачулася новае строгае пытанне.— Дэзерцір?

— Мяне камісавалі,— патлумачыў Васіль.— Па хваробе...

Вайсковец дапытліва акінуў яго ўсяго позіркам.

— У мяне язва, — зноў растлумачыў,— а ўвесну была яшчэ і цяжкая жаўтуха...

— Ёсць дакументы? — ужо лагодней запытаў той.

Васіль дастаў з унутранай кішэні пінжака такія-сякія свае паперы, дзе было пасведчанне і пра яго камісацыю, і падаў чалавеку. Той пагартаў, паглядзеў, а пасля, не вяртаючы папер, азірнуўся, махнуў рукою — на міг яго плашч расхінуўся, і пад ім паказалася афіцэрская партупея з падвешаным кінжалам і з палявою сумкаю на баку. З-за арэшніку тут жа выйшаў невысокі паўцывільны — у ботах, у афіцэрскім галіфэ і сялянскім суконным фрэнчы, з новенькім аўтаматам у руцэ. Прыгледзеўшыся, Васіль адчуў палёгку: гэты чалавек быў добра знаёмы. Васюкоў, былы камандзір партызанскага атрада, былы (даваенны) і цяперашні старшыня Ружэвіцкага сельсавета. Казалі, усіх тутэйшых партызан перад ліпеньскім парадам у вызваленым Мінску сабралі ў Івянцы — каго пакінулі тут для гарнізоннай службы, хто паехаў на парад, а адтуль — на фронт, у тыл ці застаўся ў Мінску альбо ў іншых гарадах і вёсках на партыйнай і гаспадарчай рабоце.

— Ведаеце гэтых галубкоў?— паўазіраючыся і ў той жа час не спускаючы з іх позірку, запытаў вайсковец у Васюкова.— Не дэзерцір?

— Ведаю, таварыш капітан,— усміхнуўся той,— Не дэзерцір. Мясцовыя. Свае. Ён,— кіўнуў на Васіля,— памагаў нам. Зброю ў гаспадаровай кузні правіў, звесткі важныя даваў. Камісаваны...— І, падаючы Васілю руку, загаварыў да яго са здзіўленнем: — Вяртаешся ўжо дадому?

Васіль кіўнуў галавою.

— Смелы! — хітнуў галавою і Васюкоў.— Адзін! У такі час! На папялішча!

Вайсковец аддаў Васілю яго паперы.

— Учора ці сёння, можа, бачыў непадалёку вайсковых людзей з рацыяй? — ужо заклапочана запытаў у яго Васюкоў.

Васіль крутнуў галавою: не. Толькі цяпер разгледзеўся: вайскоўцы, а гэты капітан найбольш, не такія ўжо і строгія. Яны вельмі стомленыя: прыпухлыя, чырванаватыя ва ўсіх вочы, запалыя шчокі, лічы, цёмныя твары.

— Ты, хлопец, не бойся...— зноў абзыўнуўся каштан.— Ведаеш — гавары. Чым скарэй вылавім дыверсантаў, здраднікаў ды іншую пошасць — тым лягчэй, спакайней будзе і тылам нашай арміі, і вам, мясцовым. Ды трэба шчыра памагаць нашай, Савецкай уладзе, што пачынае цяпер аднаўляцца і тут...

— Ды ён, таварыш капітан, кажу, свядомы. Наш,— заступіўся за яго Васюкоў, таксама цяпер нясвежы, нават змардаваны.— Мы яму верым. Калі гаворыць, што не бачыў, дык і не бачыў. Я за яго ручаюся. Трэба дазволіць яму вярнуцца ў сваю вёску.

— Ладна, хлопец. Едзь, калі за цябе ручаюцца,— дазволіў вайсковец, адступіў.— Толькі, па-першае, трымай язык за зубамі, маўчы пра нас, як і не бачыў нічога, а па-другое, не лаві варон. Цяпер не самы лепшы час для любові...

Васіль, бянтэжачыся ды, відаць, заліваючыся чырванню, што біты-абабіты, але страціў пільнасць, тузнуў лейцамі каня. Той крануўся, навалок калёсы. Васюкоў закрочыў поруч з імі, абапіраючыся адной рукой на вышмальцаваную драбінку, а ў другой несучы новенькі, відаць, падараваны вайскоўцамі аўтамат.

— Будзеш бачыць на сваім хутары што падазронае — дай вестку ў Ружэвічы, у сельсавет,— прамовіў ён. Гаварыў найперш яму, Васілю. Як мужчына мужчыну.— Толькі абы-каму не гавары ўсё, а мне ці майму памочніку, Казлову. І яшчэ,— сказаў лагодна, нават пабацькоўску даверліва і павучальна,— праўду кажа гэты капітан: асцерагайся. І паганых людзей, і мін. Мін многа панакідана на полі, у лесе, па дарогах, а людзі, як сам ведаеш, цяпер тут усякія. І свае, і чужыя... Кажуць, і бандзюга Вяршок тут яшчэ блытаецца. І не адзін, а з хаўруснікамі. І сынок пана ляснічага, Крушынскі, акавец заядлы, аднекуль вынырнуў, шкодзіць тылам нашых войск і новай польскай арміі. Так што не спрыяльны яшчэ час, каб жыць адным на хутары. Беражыцеся. А беражонага, як кажуць, і бог сцеражэ...— Усміхнуўся, падаў на развітанне Васілю, а пасля і Яніне руку,— Напалохаў? Загнаў душу ў пяткі? Не хочацца павярнуцца назад, у Ружэвічы? Не?! Ну што ж, калі адчайныя — дык едзьце на сваю бацькаўшчыну, чапляйцеся і на папялішчы. Жывыя — дык і думайце пра жывое. Пускайце карэнне, ажыўляйце вёску і заводзьце новы янкоўскі род!

На жаль, я нічым вельмі памагчы вам не магу. Хіба што толькі гэтым...— дастаў з кішэні, падаў пісталет.— Бяры, Васіль, можа, і спатрэбіцца. Хоць лепш было б, каб не спатрэбіўся, каб перастала ўжо ўрэшце ўладарыць зброя...

Аблашчыў позіркам, адстаў і, можа, успамінаючы ў гэтую хвіліну сваю сям'ю, што жыла далека адгэтуль, на Пскоўшчыне, памахаў услед рукою.

## 2

Рыжы трухаў, трос галавою, адганяючы ад пакалечанага вока аваднёў і мух, што не давалі яму спакою ўсю дарогу, марудна цягнуў калёсы і зусім не зважаў, што вось нарэшце скончыўся крычатоўскі лес, пачалося налібацкае поле і паяснеў ды пабольшаў свет.

Канечне, Рыжы не мог ні заспяшацца, ні радасна зафыркаць, як звычайна радуецца жывёла, набліжаючыся да свайго жытла. Гэтак жа не мог узбудзіцца і сабака, Мурзік. Ён дасюль бег ззаду калёс, раз за разам запыняўся, збочваў, да нечага прынюхваючыся, абмінаў і шыбаваў паперадзе каня. Яны, і сталы Рыжы, і малады яшчэ Мурзік, дагэтуль ніколі не бачылі ні Янковіч, ні хутара Амшарка. Рыжы прыбіўся з-за свету — валок з-за Мінска сюды гармату, а пасля яго, параненага, падаравалі вайскоўцы Васілю, а Мурзік быў гаспадароў, ружэвіцкі, сабака і толькі па сваёй вялікай схільнасці да Васіля-кватаранта прычапіўся суправаджаць яго ў незнаемы шлях.

Цяжка было здагадацца, што адчувала якраз у гэтую хвіліну сцішэлая Яніна: яна была тутэйшая, з недалёкага хутара, з Ляйтарак, але ўсё ж не з Амшарка. Яна, здаецца, ужо супакоілася пасля нечаканых сустрэч з самалётамі і вайскоўцамі ў лесе і, схаваўшы лоб ад спякотнага сонца пад белаю хусткаю, са здзіўленнем і нават з аняменнем пазірала на вялікае, як акінуць вокам, янковіцкае поле. Яна ведала гэтыя ваколіцы і раней, але не бачыла іх якраз такімі. Яны цяпер былі стракатыя, нібы велізарны шматколерны дыван. Што толькі не расло тут! Палавелі жаўтавата-белыя лапікі малога, з дробным калоссем жыта, пшаніцы і ячменю, зеляненіся авёс і бульба, але яшчэ больш гусцеліся абшары пырніку, лебяды, высознага, у рост чалавека, асоту з шэрымі галоўкамі, жоўтых свірэпы і лубіну.

Ён жа, Васіль, адчуваючы пачасцелае сэрцабіццё, пазіраў не так на гэтае адзічэлае без людзей поле, дзе цяпер расло ўсё, што можа расці само па сабе пад сонцам, дажджом і ветрам, а болей кідаў позірк налева, дзе за вярсты дзве ўздоўж гэтага поля стаялі ліпы, бярозы, сады — усё, што засталося ад спаленых у блакаду Янковіч, а таксама і направа, дзе сям-там сярод поля ці перад самым лесам

бачыліся астраўкі бяроз, бэзу, садоў — усё, што ацалела ад былых хутарскіх хат. Наваколлі былі знаёмыя, родныя, але нібы ўжо і счужэлыя.

Хутар Амшарок, дзе жыла Васілёва сям'я да блакады, найбліжэйшы да вёскі, у полі. Яны цяпер і ехалі да яго — да старой зялёнай грушы-дзічкі, што ўкамлелася на некалішнім іхнім бульбяным полі, ссохлых, як было ўжо відаць, сліў і вішань і да напалавіну амярцвелай — знізу апаленай, чорнай, зверху зялёнай — бярэзіны, каля якой раней стаяла іхняе гумно. Дарога тут — а па ёй апошні год ніхто не ездзіў — таксама падзічэла: выбоіны, каляіны заплылі ў паводку і ў дажджы пяском, а міжкаляінне, узбочыны зараслі падарожнікам, гусінаю лапкаю і дзьмухаўцом. Тут, бадай, можна было ўжо і касіць.

За полем паказалася пагонка — дарога з вёскі на хутары ці з хутароў у вёску. За пагонкаю — невялікі поплаў. На ім Васіль і запыніў каня. Поплаў быў зялёна-рудаваты, крышку ўжо выгаралы ад ліпеньскага сонца, з перастаялаю травою. Рыжы адразу ж нагнуўся, ткнуўся да дзяцельніку. Хамут аб'ехаў яму на галаву, агаліўшы вільготную ад поту шыю.

— Вот і прыехалі, як кажа Васюкоў, на бацькаўшчыну...— сказаў Васіль. Па-ранейшаму крышку з наўмыснаю бадзёрасцю.

Яніна нічога не адказала, са смуткам зірнула на апаленыя, ад таго і пасохлыя, руда-чорныя слівы, што стаялі ўздоўж былога плота (цяпер воддаль ад папялішча,паваленага і чорнага, а паблізу згарэлага), на рэшткі выгаралых да сярэдзіны бярвёнаў і падвалін, на разбураную, без коміна, ужо не белую, а абмытую дажджамі, чорна-рудую печ. Далей, за селішчам, у полі мірна, як і заўсёды ўлетку, мігцела-мроілася паветра. Але Васіль толькі зірнуў туды і адразу ж адвёў вочы: здалося, што паветра калышацца не ад шчодрага сонца, а ад гарачага агню...

Пераадолеўшы даўні боль і пакуты, Васіль заварушыўся, ажывіўся. Каб не засмуткавала ды не адчаялася Яніна.

— Баішся нават злазіць з калёс? — спытаў нібы з жартам, хоць гэты жарт, можа, быў не зусім удалы,— Не бойся. Не прападзём. Зачэпімся, як кажа Васюкоў, і на папялішчы, пусцім карэнне...

Ён хацеў узяць Яніну на рукі ды гарэзна ссадзіць, як дзіця, з калёс, але яна не далася, як не давалася заўсёды, калі хацеў удзень, пры святле, прытуліць,— сама рухава саскочыла і — невысокая, худаватая, ад таго і дробная, нібы падлетак, босая — зашлэпала побач з ім да котлішча. Ішлі і абое адчувалі: патыхае нагрэтым ад сонца горкім дымам, пахам, хоць прайшло ж ужо нямала часу, як тут усё гарэла. Лічы, год. Дым ды горасць, відаць, выдыхвала папялішча, як часамі выдыхвае ці выкашлівае атруту хворы чалавек.

Ля пачарнелых камянёў у падмуроўцы былой хаты і хлява гусціліся лебяда, палын, дзікая мята, і камяні ляжалі,нібы чорныя авечкі ў траве, у цяні. На самім селішчы буйныя і дробныя галавешкі, попел былі прыплясканыя ўжо, змытыя ад чорнага бруду, паблізу печы рыжэлася вялікая пляміна — ад размяклай і расцеклай гліны. У былых градах, як убачыў Васіль, лапушылася пустазелле (хоць тое-сёе сярод яго ўчапілася і спажыўное — кусцікі цыбулі, маку, кропу, салаты). Пустазелле ўраслося і ў гародчыку, што некалі быў пры шчытавой, «вясковай», сцяне хаты. Але тут не яно, смелае, укамлелае, кідалася ў вочы, а — кветкі. Цёмна-бурачковыя і светла-ружовыя мальвы.

Кветак было нямала. Яніна ўгледзелася на іх і нібы здзівілася, нібы аж залюбавалася: хіба само па сабе магло сярод дзічыны заявіцца такое дзіўнае хараство?! А ў Васіля ў гэтую ўражлівую хвіліну млосна зайшлося сэрца: мальвы любіла маці. Як ні бурчэў некалі працавіты, дбайны, але крышку мармытлівы бацька, што «засмечваецца зямля», яна кожны год садзіла ў гародчыку кветкі, любіла ў вольную хвіліну прыпыніцца і зірнуць, пацешыцца на іх, не дазваляла нікому іх ламаць. Давала іх толькі каму-небудзь на вяселле. Усе ў вёсцы і на хутары ведалі, што яна любіць кветкі, дык, лічы, з усіх Янковіч дзяўчаты і маладыя кабеты прыходзілі да яе і па насенне, і па букеты. І не толькі па насенне ці букеты. Але і спячы тут торт, вышыць дарожку, звязаць свэтар альбо пашыць сукенку — маці была, як казалі, вялікая майстрыха, «кабета з залатымі рукамі...».

З одуму і журботы Васіля вывеў нечаканы пошчак: на паўмёртвай бярэзіне каля ўцалелай, але абгарэлай шпакоўні засвістаў шпак. Бач, людзей тут няма, а ён жыве! Сядзіць вунь чорны камячок на галінцы і нібы вітае іх сваёю песняю. І гэтае яго вітанне было вялікаю ласкаю ды пяшчотаю. Бо ўсё ж жывая душа ёсць паблізу — не цалкам вымерлае наваколле, не пустыня. Узрушаны, Васіль прайшоў уздоўж былога плота да лугавіны, дзе пасярод была яма з вадою (там яны мачылі каноплі). На лугавіне трава была, лічы, у пояс. Далей, да яміны, Васіль не пайшоў. Не захацеў таптаць траву.

Прыкінуў па-гаспадарску: калі скасіць усё, а пасля яшчэ і атаву, дык, бадай, і хопіць Рыжаму сена на зіму. Сена можна скідаць у стажок, а для Рыжага трэ будзе зрабіць невялікі ўцеплены буданчык. Вярнуўся. Да студні. Зруб яе быў напалову спалены, разбураны; калі ж Васіль зазірнуў усярэдзіну, дык убачыў: там шмат колля, саломы ды травы, але сярод смецця вабна і зазыўна паблісквае жывое вока.

— Відаць, найперш пачысцім студню, — нібы параіўся з Янінаю, калі і яна падышла сюды,— Будзе вада — будзе і ўсё астатняе. А пасля возьмемся капаць яму для зямлянкі. Так?

Яніна моўчкі пацiснула плячыма; трымаючыся за рукаво яго палатнянай кашулі, нагнулася і таксама з насцярогаю зазірнула ў калодзеж і тут жа адхiнулася — відаць, збаялася глыбіні.

— Божа, колькі нарасло дзічыны! — прамовіла, пазіраючы на двохрышча, а таксама і на былое прыгуменне, дзе буялі, раскашоўваліся загоны жоўтай піжмы, белых рамонкаў, зялёна-рудой сухадзяроўкі — дзікага палыну.

— Вельмі баішся заставацца тут, сярод дзічыны? — запытаў ён, па-свойму зразумеўшы яе адчайны ўздых.

Яніна прытулілася, даверліва прыхiліла да яго грудзіны галаву. Ён пагладзіў шорсткай далонню па яе загарэлай, але гладкай маладой шыі і па худаватым плячы.

— Я з табою не баюся...— прамовіла яна ў адказ,— Ты ж дужы, смелы.

— Не бойся, — і папрасіў, і запэўніў ён.— Зачэпімся. Тут жа ўсё сваё, наша. А сваё спрыяе, памагае стаць на ногі. Гэта на чужыне, кажуць, цяжка зачапіцца. Бо цяжка дабіцца, каб чужая зямля стала бацькаўшчынаю... Хоць, канечне, працы тут трэба будзе многа пакласці...

— Хіба мы старыя ці беларукія якія, што будзем баяцца работы? — адказала, ужо не з разгубленасцю, а з вераю ў яго і свае сілы.

— Ну, дык і пачнем прыжывацца,— сказаў ён, радуючыся, што Яніна паспакайнела.— Давай чысціць студню.

Неўзабаве Васіль спусціўся па зрубе ў калодзеж, узяўся падбіраць колле, звязваць, а Яніна вяроўкаю выцягвала наверх. Калі ачысцілі, тады па чарзе выбіралі драўляным вядром старую пратухлую ваду і вылівалі яе воддаль.

## 3

Сонца сёння, здаецца, зайшло зарана, нібы пашкадавала, каб яны не надарваліся: і Васіль, і Яніна не стаміліся, зусім не думалі пра стому — цягалі і цягалі ваду са студні, вылівалі, жадаючы, каб светлы дзень яшчэ доўга не канчаўся. Старой, нясмачнай вады вунь яшчэ колькі — амаль на цэлы круг.

Калі звечарэла, спахапіліся, пакінулі калодзеж у спакоі, пачалі дбаць пра начлег. Васіль насек паваленага абгарэлага частаколу (калі кратаў і сек, дык з большаю моцаю пахла гарэлым), расклаў паблізу калёс цяпельца. Пакуль ён напаіў Рыжага і перавязаў на новае месца на поплаве, Яніна прымайстравала каля агню саганкі з вадою: адзін, каб зварыць булён, другі, каб медь вар, памыць пасуду.

Пазней, калі са смакам пасёрбалі булёну — з маладой бульбы-самасейкі, са шчопаццю чырвонаармейскіх макаронаў, запраўленага чырвонаармейскаю тушонкаю,— пачалі рыхтавацца да сну.

Памыўшы пасуду, Яніна зладкавала на калёсах пасцель — падбіла ўзятае яшчэ ў Ружэвічах сена, дастала з клунка тое-сёе са свайго пасагу — дзяружку, падушкі і коўдру.

Васіль за тэты час схаваў у надзейным месцы торбу з харчам, патушыў цяпельца. Не варта, каб яно некаму — надта ліхому — кідалася здалёку ў вочы.

Без агню стала цёмна. З высі на ваколіцы адразу ж пала цемень, накрыла поле, блізкі лес, хутар, іх абаіх цішынёю. Гэтая цішыня была, амаль сказаць, нязвыклая. Бадай, страшнаватая. Здаецца, звыклыя, вабныя былі цёмнае неба, рэдкія далёкія зорачкі, а вось усё астатняе насцярожвала ды прыгнятала: па тым, што нідзе вакол не рыпалі вороты ці калодзежныя жураўлі, не чуўся чалавечы голас ці сабачы брэх, не тарахцелі калёсы альбо не даносіўся стук сякеры, адчувалася: вакол безжыццёвая, абязлюджаная прастора.

Вёска, хутар, калі яны з людзьмі, дык і цяпер, увечар, іншыя. Можа, таксама ціхія, але і ў цішыні ўсё роўна адчуваецца жыццё.

— Якая нямая ціш! — прашаптала Яніна, тулячыся да яго.— Нідзе ніякага гуку! Хоць бы кот дзе мяўкнуў ці нейчы крок пачуўся! Гэткая немата не меней страшная, чым гвалтоўная часіна, калі блізка страляюць ці паляць. Вусцішна.

— Вернуцца людзі з Германіі, асядуць — будзе ўсё па-людску, як і трэба,— супакоіў ён,— Зноў будзе гамана, смех, крыкі, песні...

— Калі яшчэ вернуцца! І ці вернуцца?

— Вайна скончыцца, усё ўляжацца, дык адразу і вернуцца.

— А ці адпусцяць іх? Ці тут прымуць? — у Яніным голасе пачулася трывога,— А можа, іх усіх там, не дай божа, замучаць ды паб'юць перад прыходам нашай арміі?

— Не можа быць, каб пазводзілі гэтулькі людзей, вёсак,— гэтая трывога нечакана перадалася і яму, кальнула шпількаю ў сэрца, але ён стараўся ёй не паддацца. Лягчэй нашмат жыць, калі сам сябе супакоіш, маеш моцны дух.— Яшчэ ж увесну, перад наступлением, присылал} каторыя ў Ружэвічы і ў іншыя вёскі весткі, пісьмы, пісалі, што маюць многа работы на нямецкіх заводах і фабрыках, у вёсках, бяспраўныя, але жывыя...

— Хіба дасі цяпер іхнім гаспадарам вялікую веру? Хіба тут, у нас, мала тыя пабілі люду? Каторыя вёскі, як нашы Янковічы і блізкія хутары, палілі без людзей, а ў каторых зганялі старых, малых у якое

гумно, запіралі і палілі ўсіх... А на канец вайны... Адзін бог ведае, што яны могуць вытварыць ад вялікай злосці...

Васіль таксама адчуваў: вогненны віхор пранёсся ўжо на роднай зямлі туды і назад, памчаўся да кастра, адкуль выскачыў. Але праўда, як кажа Яніна, хто ж ведае, што там, у нелюдзевай бярлозе, будзе, хто выжыве, а хто і не ўцалее? Канечне, апошні бой будзе жорсткі, люты. Канечне, можа быць нямала ахвяр — наўмысных і ненаўмысных. Як сярод салдат з розных бакоў, так і сярод цывільнага люду — тамтутэйшага і вывезенага,— так, можа, і сярод янкоўцаў. А з янкоўцамі павезлі туды яго маці, сястру, трох братоў (ён, Васіль, уцёк па дарозе і ў Германію не трапіў). Бацька памёр яшчэ тут, у няспаленай хаце, да блакады. Лічы, у адзін час з Яніініным бацькам. Каб на добры час, дык, можа, абодва і засталіся б жыць: адзін памёр ад нарыўнога зуба, а другі — ад запалення лёгкіх. Іх, канечне, загубіла не хвароба, а вайна, безурачоўе. Яніна маці засталася ў бежанстве, у Ружэвічах, а яе сына на тым тыдні ўзялі на фронт.

— Не дай бог, калі прыйдзецца адным жыць тут...— прамовіла Яніна.— Адным на ўсё хутарское і янкоўскае поле ці з чужымі, наезджымі, людзьмі...

Аж сшэрхла скура ад яе гэтых думак: праўда, калі раптам пагінуць на чужыне ўсе янкоўцы, дык яны застануцца тут адны, як сіроты ці як апошнія тутэйшыя насельнікі. Тады сапраўды Янковічы могуць і звесціся, калі раптам у іх, у яго і яе, не будзе дзяцей...

— Не. Душа чуе: і жывуць нашы людзі, і жывыя дадому вернуцца,— адказаў ён, цяпер ужо сам сябе падбадзёрваючы.— Інакш бог зусім ужо нелітасцівы... А мы першыя тут, як кажа Васюкоў, пачнем заводзіць новы, янкоўскі род...

— От кажаш...— папікнула.— Не гнявi без дай прычыны бога, калі хочаш, каб спрыяў...

— Хіба я гняўлю яго? Я ж прашу, каб быў літасцівы. І да ўсіх янкоўцаў, і да нас. Што мы дагэтуль найболей бачылі? Лічы, адны толькі калатнечы, звады, рабаўйіцтва, знявагі ды гора...

— А недзе ж там, высока і далека, рай,— відаць, з таемнасцю пазіраючы ў цёмнае неба, прамовіла яна задумліва.— Там легка, шчасліва, без калатнечы, звад, рабаўніцтва, без зняваг і гора жывуць душы, што не грашылі, а шмат напакутаваліся на зямлі... Недзе там сядзіць і Ён і, можа, нават цяпер пазірае на нас. Бачыць вакол поле, лес, папялішчы, але адны шустрыя ды не зусім мудрыя маладыя ўжо тут... Відаць, хітае галавою ад нашай залішняй смеласці...

— Не,— да яго скрозь стому, непрыемныя ды горкія трывогу і розныя хвалюючыя прадчуванні нечакана пад'шшчыла гарэзнасць.—

Ён хітае галавою па іншай прычыне: гэтыя маладыя — нібы старыя дзед і баба. Развважаюць, уздыхаюць, скардзяцца, наракаюць, баяцца ўсяго і зусім забыліся пра маладое...

Яніна на нейкую хвіліну замаўчала, здаецца, не чакаючы ад яго цяпер гэткіх гарэзных слоў, а пасля схамянулася, у яе быццам неспадзявана штосьці змянілася ў душы, прарвалася жывасЦь альбо гарэзнасць праз смутак, пакуты і боязь. Праўда, толькі яна была стражэйшая, затуліла яму рот пахкай ад дыму далонькай.

— Ты — што? — не то здзівілася, не то папікнула.— Хіба можна такія словы гаварыць?

Васіль хацеў адняць яе маленькую, але дужую далонь ад рота, каб яшчэ пажартаваць, пагарэзаваць нават дзеля нейкай палёгкі, а яна настойліва не паддавалася. Нават не заўважылі, як у гэтай нечаканай кароткай барацьбе палымяна ўспыхнула іхняя маладая кроў, апаліла іх гарачым, яшчэ амаль непарушаным маладым агпём. Паволі зніклі са свядомасці ноч, неба, зямля з усімі яе бедамі і клопатамі — міжволі цвердаватая, пахкая дымам далонька адкрыла яму рот, апынулася, здаецца, на яго шыі. Яніна перастала супраціўляцца, аддана прытулілася, і яны абое заціхлі ў пацалунку, што быў усё болей і болей слодычны, хмяліў, змушаў часцей біцца іхнія сэрцы, траціць сталую ўжо разважлівасць, змушаў забыцца на стрыманасць і свядомасць, шпурляў у полымя, што было ўсёперамагальным поклічам кахання і жыцця. Супраць гэтага покліча няможна ўстояць. Нават з усёй суровай рэчаіснасцю. Ён настойліва вабіў, клікаў у свае ўладанні.

— Мілы! Харошы мой! — праз хвіліну зашаптала Яніна.— Як я цябе люблю!

— І я цябе,— прашаптаў і ён, пасля, аддаўшыся ва ўладу таго покліча, яшчэ нешта прамармытаў пяшчотнае ды заціх, бо, здаецца, яны абое адарваліся ад гэтага хутара, грэшнай зямлі і птушкамі памчаліся ўвысь, у неба ці нават туды, дзе быў загадкавы, недасяжны, як кажуць, для зямнога чалавека рай.

Але такі ўжо чалавек, такія яго пачуцці, каханне, узнёсласць, шчасце, што яму зусім ненадоўга даецца нешта звышпачуццёвае і звышрадаснае, нябеснае, ён застаецца зямным, каб не забываўся, што ён якраз чалавек са сваімі, зямнымі, пачуццямі, клопатамі ды адчуваннямі. Неўзабаве тое «звыш» спала, знікла, маладая кроў пачала ўтаймоўвацца, разліваццца спакоем, радасцю па ўсім целе, але пяшчота, праўда, затрымалася. І калі Васілю хацелася памаўчаць, ціха перажыць урачыстасць жыцця і кахання, дык Яніна мела цягу пагаварыць, яшчэ папяшчоціцца, выказаць тое цёплае, сардэчнае, што

сабралася ў яе ўражлівай, добрай жаночай душы і чакала сваёй, адпаведнай для інтымнасці ды шчырасці, хвіліны.

— Васілёк, ты хочаш, каб у нас было дзіцятка? — ціха запытала яна.

— Хачу.

— І я вельмі-вельмі хачу,— узнёсла прамовіла.— Здаецца, аж бачу ўжо яго: маленькае, мілае, харошанькае... Малюсенькі носік, малюсенькія вочкі... А каго ты хочаш: дачку ці сына?

— Сына.

— Няхай першы будзе сын. Калі вырасце, ён стане гэтакі, як і ты: высокі, дужы, са светлымі валасамі, паглядны. А пасля яго будзе дачка. Можа, і надобная на мяне. А можа, і на цябе. Ты ж наглядны, дык няхай і яна будзе такая ж. Кажуць: калі дачка падобная на бацьку, дык шчаслівая. Я падобная на тату, дык і маю шчасце. Я даўно ўжо, яшчэ да вайны, хацела, каб якраз ты ўзяў мяне замуж, быў мой...

— А ў вёсцы ці ў вас, на хутары, калі былі танцы, дык уцякала ад мяне альбо сярдзітая была...

— Дурненькі мой,— пагладзіла далонню па яго грудзіне.— І не ўцякала, і не была сярдзітая. Я не хацела, каб ты і на другіх дзяўчат пазіраў, усміхаўся ім ці танцаваў з імі... І ў Ружэвічах не хацела, каб ты на каго зыркаў... Баялася, наварожвала, каб ты не прыстаў у прымы да гаспадаровай дачкі. Яна ж, як кошачка на смятану, на цябе пазірала, як сыч надзімалася, калі ты са мною танцаваў альбо мяне дадому падводзіў... І я дабілася свайго. Узяў мяне — я і шчаслівая. Не бяда, што цяпер цяжка, гаротна, няўтульна. Век так не будзе. Паспрыяе бог — і людзі нашы вернуцца з чужыны, і веска адбудуецца, і жыць будзем добра. Абы мы любілі, шанавалі адно аднаго. Дасць бог — і вайны больш ніколі не будзе. Бо ўжо ўвесь свет убачыў, колькі пакут, гора, страт прыносіць вайна. Людзі захочуць жыць у спакоі, у згодзе ды ў дастатку...

Яна шаптала — то расказвала, то пыталася пра нешта, што яе непакоіла,— а ён адказваў адным-двума словамі ці маўчаў. Таму абое нават і не заўважылі, як да іх падкраўся, змарыў сон.

Спалі яны ў першую ноч на сваёй бацькаўшчыне, напрацаваўшыся, на свежым паветры, соладка, але, мусіць, нядоўга: пабудзіў сабака. Ён улёгся нанач пад калясьмі, ляжаў ціха, але вось чагосьці заліўся брэхам.

Васіль падхапіўся. Не ўбачыў, а толькі пачуў у цемені-гушчэчы: Мурзік стаяў паблізу калёс і гаўкаў на пакрытае чарнатою поле.

— Што тут? — падхапіўшыся, са спалохам запытала Яніна.

— Нічога не відаць,— адказаў ён.~ Можа, цяўкае на зайца альбо на вожыка. Ці на якую аўчарку, што адбілася ад свайго гаспадара.

— Ваўкі! — усклікнула Яніна і са страхам прытулілася да яго.

Васіль таксама згледзеў: бліснулі непадалёку, відаць, ужо на пагонцы, агеньчыкі. Можа, і нейчыя іншыя — дзе тут разбярэшся ўночы ды спрасоння.

— Не бойся,— хутка апомніўшыся, супакоіў Васіль і дастаў з-пад падушкі падораны Васюковым пісталет.— Маем чым абараніцца.

— Кажуць, не надта цяпер ваўкі ды аўчаркі баяцца чалавека ці стрэлаў,— бліжэй тулячыся, ціха сказала яна.

Агеньчыкаў на пагонцы скупілася шмат. Ваўкі, здаецца. Можа, беглі па іхніх учарашніх слядах, вымкнуліся на пагонку — вынюхаць, хто тут заявіўся жывы, ці пачакаць новай важаковай каманды, што рабіць: нападаць ці не? Мурзік, адчуўшы страх, сцяўся, баязліва шуснуў пад калёсы; Рыжы на поплаве, здаецца, падхапіўся, таксама падаўся сюды, шукаючы ў іх, людзей, абароны.

— На нас ідуць...— задрыжэла Яніна.

Васіль падняў руку і стрэліў — туды, на пагонку, панёсся пагрозны агонь. Залажыла ў вушах ад гучнага стрэлу. Агеньчыкі замітусіліся, а пасля раптоўна зніклі ваўкі, здаецца, пашыбавалі па пагонцы ў вёску. Мурзік выскачыў з-пад калёс і ўжо смела загаўкаў услед пераможным брэхам.

— О божа! — уздыхнула Яніна.— Як б'ецца сэрца. Здаецца, выскачыць з грудзей... Не, я тут уночы адна ніколі не застануся...— і неўзабаве зноў насцярожылася, тузнула яго за руку.— Чуеш: тупат?!

Сапраўды, па дарозе ад крычатоўскага лесу хтосьці бег. І якраз сюды. Можа, яшчэ ваўкі перлі перад сабою ласіны статак. Але, кажуць жа, цяпер ласёў вельмі мала: выбілі за вайну людзі, нямала парвалі ваўкі ды аўчаркі.

Здаецца, тупат быў ужо на пагонцы. Бліснула адтуль святло. Доўгім яркім промнем. З ліхтарыка. Значыць, беглі сюды людзі. Здаецца, яны ўжо згледзелі іхнія калёсы, Рыжага, запаволіліся і закрочылі марудней, высвечваючы папялішча. Падыходзіла, здаецца, не меней дзесяці чалавек. Мурзік зноў шуснуў над калёсы. Ён быў хітры і навучаны за вайну сабака, не на кожнага чалавека брахаў.

— Хто такія? — за крокі два да іх запытаў пярэдні нечаканы госць. Загаварыў па-руску.

— Бежанцы,— адказаў Васіль, амаль нічога не бачачы: сляпіла вочы нацэленае на твар ліхтарнае святло.

— Хто страляў? — зноў пачуўся той жа строгі голас.— Каму быў сігнал?

— Я страляў,— прызнаўся Васіль,— Адганяў ад калёс ваўкоў ці аўчарак.

Чалавек, што пытаўся, тут жа загаварыў па-нямецку — прышэльцы заварушыліся, загергеталі. Васіль, крыху ведаючы нямецкую мову, нават тое-сёе зразумеў.

— Чую па гутарцы: тутэйшыя, беларусы,— сказаў перакладчык.— Кажуць: бежанцы.

— Відаць, бежанцы,— прамовіў нехта іншы, здаецца, стары ўжо чалавек,— Не падобна, каб былі ў засадзе ці за сігнальшчыкаў...

— Для іх вайна скончылася ўжо? — здзівіўся хтосьці іншы.— Вярнуліся сюды жыць? На пустэчу?!

— Чалавек, дружа, такі: жывы — пра жывое і думае...— зноў пачуўся старэчы голас.— А тутэйшыя людзі тым больш... Яны жывушчыя і трывушчыя, як жывёла... Зарыецца, як крот, у зямлю, будзе галодны, голы і босы, але выжыве... Пра іхнюю трывушчасць мне яшчэ бацька гаварыў: ён быў тут у тую, першую, вайну, нагледзеўся ўсяго...

Чалавек з ліхтарыкам падышоў бліжэй. Высокі, з аўтаматам у руцэ, у афіцэрскім мундзіры.

— Зброю сюды! — закамандаваў.

Васіль дастаў з-пад падушкі пісталет (калі ткнуў туды, не запомніў), падаў. Той выцягнуў руку, забраў, сунуў пісталет сабе ў кішэню галіфэ.

— Яшчэ маеш што? — запытаў і, калі Васіль адказаў, што цяпер абяззброены, ужо больш паспакайнела: — Тэта — Янковічы? Так?

Пачуўшы адказ, пачапіў аўтамат на плячук, дастаў з афіцэрскай сумкі карту, разаслаў на коўдры, на іхніх нагах і, накіраваўшы на яе святло, тыцнуў брудным пальцам у кружок.

— Тут — Пруды? Лявей — Налібакі? Так?

— Так,— пацвердзіў Васіль.

— Чырвонаармейцаў вось тут, у налібацкім лесе, бачыў? — загарнуўшы карту, запытаў яшчэ.

— Мы тут толькі першую ноч: і ехалі сюды крычатоўскім лесам, у налібацкім лесе не былі.

— А ў крычатоўскім лесе чырвонаармейцаў бачыў?

— Не.

— Калі бачыў, дык гавары. Заманіш у пастку — вернемся і расстраляем.

— Праўду кажу. Далібог.

— А з мілкай, як кажуць у вас, і ў шалашы рай? Га? — нечакана перамяніў гамонку перакладчык, хапнуў Яніну за грудзі.

Яна, у начной белай кашулі, з распушчанымі валасамі, віскнула ад болю і страху, схавалася за Васіля. Няпрошаныя госці ўсцешна зарагаталі.

— Можа, і варта было б, смяльчак, пацешыцца з тваёю мілкаю, пакінуць пра сябе памяць...— ухмыльнуўся высокі. — І наш афіцэр, і салдаты даўно ўжо не мелі ўцехі... Бач, ён тубылец, ужо пра дамашні прытулак дбае! Каму вайна, а каму ўжо і мір, уцеха...

Васіль змаўчаў. Няхай абы-што балбочуць, рагочуць, абы не чапалі.

— Ладна, лічыце, пашанцавала вам. Няма часу...— нібы даючы ім міласціну ці шчасце, прамовіў той,— Але водкуп возьмем: дайце нам паесці, папіць.

— Вада ў студні, але старая, нясмачная, а яды мы не маем самі...— адказаў Васіль,— Кажу ж, з бежанцаў мы, ды ўдзень нас аграбілі. Усё забралі.

— А чым жа харчуецеся? Травою?

— Мы яшчэ...

— Ладна, маўчы. Бачу: маніш, выкручваешся,— абарваў перакладчык і, павярнуўшыся да сваіх, сказаў ім па-нямецку, каб ішлі па каня.

— Пан, ён стары, паранены...— запаліўся, не зважаючы на асцярогу выратаваць Рыжага, Васіль.— Вам з яго толк малы...

— Гэта мы самі ўбачым,— буркнуў той. Нагнуўся, здаецца, адпіхнуў нагою баязлівага Мурзіка, выцягнуў з-пад калёс клунак, развязаў, выкуліў усё долу. Свецячы ліхтаром, выбраў не новыя, але яшчэ моцныя Васілёвы суконныя порткі, кашулю; сёй-той з хаўруснікаў высокага таксама нагнуўся, пачаў нешта выбіраць сабе.

Васіль моўчкі душыў у сабе злосць, бо ведаў: не варта храбрыцца.

Меў ужо горную, прыдбаную за акупацыю, навуку: брыкацца перад людзьмі са зброяю не трэба. Пастраляюць, паб'юць — і, не міргнуўшы вокам, не зашкадаваўшы, пойдуць далей сваёю дарогаю. Ім забіць чалавека — тое ж, што забіць і муху. З болем пазіраў толькі, як перабіралі іхнія транты, забіралі лепшае, як двое ці трое пайшлі па каня.

— Ладна,— зноў «міласціва» паўтарыў высокі, набраўшы сабе адзення, — брыкаліся, не хацелі мець Генеральбэцыркс Беларутэнію, жыць у Остландзе, знацца з культурнаю нацыяй, дык жывіце далей з бальшавікамі-азіятамі ды з крывадушнымі яўрэямі... Яны зробяць вам тут «рай». Паплачаце, не раз пашкадуеце...

Пасвяціў на студню — туды пабрылі прышэльцы. Выцягнулі бадню вады, паспрабавалі піць, але, не засмакаваўшы, злосна шпурнулі

бадню ў калодзеж, залаяліся і палапаталі праз поле на Налібакі — відаць, ідучы ўслед за фронтам, імкнуліся лясамі ды палявымі сцежкамі да Гродна. Павялі з сабою і Рыжага.

— О божачка! — толькі цяпер азвалася, застагнала Яніна.— Ну і ночка! Гэта ж маглі і забіць, і павесці з сабою... І паздзекавацца...

Васіль не адказаў. Пераадольваў сам і страх, і шкадобу па Рыжым, бо меў на каня вялікія надзеі. Які ж ён цяпер, без каня, гаспадар? Як стане на ногі? Што — на сабе будзе араць, вазіць з лесу дровы?

Больш у гэтую ноч і раніцу яны не спалі, праляжалі да світання, не заплюшчваючы вачэй.

**4**

Па апоўдні, як капалі яміну і раз за разам выкідвалі на бакі жоўты пясок, Васіль і Яніна, нібы і не азіраючыся, амаль разам заўважылі: з крычатоўскага лесу, прыгінаючыся, выйшлі два чалавекі — сярод жыта і асоту замільгалі іхнія галовы. А прыкмецілі таму, можа, што цяпер, напалоханыя ўночы, былі падобныя на птушак ці звяркоў: рабілі сваё, але ні на хвіліну не забывалі, не выпускалі з поля зроку наваколле.

На пагонку вымкнуліся знаёмыя людзі. Васюкоў і Казлоў. Нізка прыгінаючыся, ішлі якраз сюды, да папялішча.

Васіль і Яніна вылезлі з ямы, але па ўзмаху рукі Васюкова адразу ж прыселі паблізу горкі выкінутага пяску і прынесеных сёння Васілём, акораных ужо жэрдак — на кроквы і латы для будучай зямлянкі. Тут жа, ля жэрдак, павітаўшыся, селі Васюкоў і Казлоў, абодва з аўтаматамі, у афіцэрскіх хромавых ботах і галіфэ, у сялянскіх жупанах.

— Пераначавалі? — усміхнуўся Васюкоў, зняў брылёўку і хустачкаю выцер пот з высокага, напалову загарэлага, напалову белаватага лоба.

— Як бачыце, — адказаў Васіль.

— Ды бачу: жывыя,— прамовіў Васюкоў.— Малайцы! Варушыцеся! Студню пачысцілі ўжо, яміну на зямлянку скора выкапаеце... А дзе ж Рыжы? Схавалі?

— Рыжага ўжо няма,— запанурыўся Васіль.— Забралі ўночы немцы. Нагнаў чорт іх неспадзявана.

Васюкоў нічога не сказаў на гэта, пахітаў толькі галавою.

Вярнуўся з поля Мурзік, не забрахаў на гасцей, лёг паблізу на зямлю: усе былі яму знаёмыя. Па начных прыходах у Ружэвічы.

— Магу адным вас суцешыць. Па-першае, хутка схлыне гэтая навала, ачысціцца наша зямля ад акупантаў, а па-другое, як перадалі

нам сёння па рацыі, і ў гэтую ноч наш заслон нямала паланіў немцаў па важнай стратэгічнай да розе каля Несцеравіч і Налібак,— сказаў Васюкоў.— Так што, можа, папаліся і «вашыя». Цяпер будуць адбудоўваць гарады і вёскі, што разбурылі...— Зірнуў у Яніціны вочы. І пільна.— А апроч немцаў, заходзіў хто да вас? Gа знаёмых?

— Не,— амаль у адзін голас адказалі Васіль і Яніна.

Васюкоў хацеў яшчэ нешта запытаць, але ўбачыў у Яніціных вачах устрывожаную насцярожанасць, дык змаўчаў, перавёў позірк на Васіля.

— Маю для вас, маладажоны, прыемную неспадзяванку,— усміхнуўся.— Прынёс першы ваш сумесны новы, савецкі, дакумент,— дастаў з ніжняй кішэні жупана самадзялковую кніжачку. Здаецца, з выразаным аднекуль і наклееным гербам, з надпісамі на вокладцы на дзвюх мовах: «Свидетельство о браке», «Пасведчанне аб шлюбе». Падаў.— Віншую! Праўда, пакуль што і самаробны наш, сельсавецкі, дакумент, і прыходзіцца ўручаць зусім празаічна... Але, думаю, гэта не бяда. Наладзіць мірную работу раён — абмяняем на новы, сапраўдны, дакумент і ўручым урачыста... Галоўнае іншае: вы першая новая сям'я на вызваленай зямлі нашага сельсавета! Хоць і з рызыкаю, але чэпка стаіцё на зямлі! Малайцы! Як і ўсе беларусы, вы шматпакутныя, але жыццялюбныя, руплівыя, цягавітыя!

Новы, адзін на дваіх, дакумент узяў Васіль. Цеплынёю аблілося сэрца: паверылася, што нават і з гэтым самаробным дакументам павінна пачацца ў іх зусім новае жыццё. Не толькі, як кажуць, законнае, але сапраўднае, спакойнае, радаснае, якое яны бачылі ў марах і летась, і сёлета, калі, хочучы пажаніцца, з нецярпеннем чакалі канца доўгай вайны і пачатку мірных дзён.

— На добры толк, дык і не шкодзіла б замачыць такую важную падзею...— усміхнуўся Васюкоў, бачачы, што і сваёю ўвагай, і гэтым дакументам усцешыў маладажонаў.

— Трэба было б, але няма гарэлкі,-— збянтэжыўся Васіль.

— Нічога,— лагодна прамовіў госць.— Замочым пазней, нікуды гэта не збяжыць. Абы былі мы, а гарэлка, гулянкі будуць.— І зноў пільна зірнуў на Яніну, што тая аж збянтэжылася. І Васіль адчуў: нешта Васюкоў нядаўна не дагаварыў, штосьці яго вельмі непакоіць, ды толькі ён, здаецца, стрымліваецца ўсё гаварыць пры Яніне. Нібы ў доказ гэтага Васюкоў неўзабаве і прамовіў: — Маю да вас, маладыя людзі, яшчэ адну размову. Не дужа приемную, але вельмі сур'ёзную, адказную...

Зноў учэпіста зірнуў на Яніну, занытаў:

— Скажы, маладзічка, дзе твой брат?

Тая знерухомела, залыпала вейкамі, насцярожана зірнула на Васюкова. Янку яшчэ на тым тыдні з івянецкага прызыўнога пункта ўзялі на фронт. Яны, Яніна, яе маці, Васіль, усе разам адвозілі таго ў Івянец, развіталіся, жадалі яму добра ваяваць, застацца жывым і вяртацца дадому.

— Не заяўляўся часамі тут, каля вас?

Яніна пахітала галавою: не. Вусны яе плаксіва ўздрыгнулі. І да яго, Васіля, шыбнула цяплынь да галавы: ён адчуў нейкую бяду.

— Вось што, дарагія мае,— Васюкоў паклаў ім рукі на плечы.— Буду з вамі шчыры, як з сябрамі. Памагалі дагэтуль, памажыце і цяпер... Адным словам, як і самі бачыце, тут, на вызваленай зямлі, ідзе набор у Чырвоную Армію. Люд разумее патрэбы вайны, краіны, ідзе з патрыятычным настроем. Але ёсць і такія, што ўхіляюцца ад набору — падмалоджваюцца, прыбаўляюць сабе гады, хаваюцца, уцякаюць з часцей. І вельмі шкода, што сярод гэтых дэзерціраў ёсць добрыя людзі. Паліцаі, зламыснікі пусцілі чутку, што нашы цяпер помсцяць люду Заходняй Беларусі за тое, што ён не сышоў у бежанства, быў у акупацыі, паводзіўся адмыслова,і яшчэ нібы за тое-сёе... Маўляў, бяруць у Чырвоную Армію маладых мужчын і хлопцаў, партызан таксама і, нават не пераапранаючы, адразу ж кідаюць у бой — бярыце самі свае гарады ды вёскі... І, плятуць, цывільны люд, партызаны, нязвыклыя да адкрытых баёў, гінуць тысячамі... Дык вось, Яніна, ваш Янка паверыў гэтай хлусні і ўцёк са сваёй часці...

Васіль, жахаючыся ад таго, што натварыў швагер, анямеў; Яніна ад новай небяспекі, што заявілася над ёй і раднёю, збялела: небяспека была велізарная.

— Паверце, я таксама вельмі перажываю,— прамовіў Васюкоў,— па-першае, дэзерцірства — злачынства, па законах ваеннага часу караецца строга. Па-другое, у роспачы ці ў страху, разгубленасці Янка прыбіўся да банды Вяршка... А самі ведаеце, хто такі Вяршок. Адпеты бандзюга... Ён змусіць маладога хлопца стаць забойцам...

— О божа! — усклікнула Яніна і закрыла твар рукамі.

— Я не страшу,— сказаў Васюкоў.— Кажу ж, шчыра шкадую, што такое вытварыў Янка. Добры ж хлопец. Працавіты, шчыры, сарамлівы. Ды толькі во такі надумлівы ды... Я вас папрашу: зойдзе ён да вас — змусьце, упрасіце, каб напрамілы бог уцякаў ад Вяршка ды ішоў з пакаяннем у ваенкамат. Праўда, я не даклярую, што яму даруюць, але... Мне здаецца, у яго ёсць адзін маленечкі шанц. Яму трэба не толькі вярнуцца, пакаяцца, але і прывесці Вяршка з хеўраю. Альбо падказаць іхнія хады, схованку. Гэта будзе нялёгка зрабіць, але, паўтараю, я тут бачу нейкі шанц...

Яніна застагнала ад болю і адчаю, халадзеючы не толькі ад страху за Янкава жыццё, але і ад нейкай безвыходнасці.

— Вайна ёсць вайна,— уздыхнуў Васюкоў.— Канечне, гінуць на ёй людзі, але няпраўда, хлусня, што тых, хто быў у акупацыі, пасылаюць наўмысна на смерць. Для Чырвонай Арміі, для краіны кожнае чалавечае жыццё дарагое...

Слухаючы, Васіль цяпер зразумеў, чаму Васюкоў і Казлоў ішлі сюды прыгнуўшыся. Можа, і асцерагаліся Вяршка з шайкаю, можа, і не хацелі, каб іх тут бачылі, а па-трэцяе, можа, там, у лесе, употай запыніліся байцы, гатовыя ў любую хвіліну напасці на шайку. Няма спакою і бяспекі ні ўночы, ні ўдзень. Можа, яны з Янінай сёння які ўжо час пад нейчым пільным і незычлівым назіркам альбо нават і пад прыцэлам? А што будзе пасля таго, калі Васюкоў і Казлоў пойдуць адгэтуль, пакінуць іх безабароннымі? Што будзе ў гэтую ноч? З Вяршком не дай бог сустрэцца. Той — сапраўды забойца з забойцаў, карнік, нямала праліў людской крыві разам са сваімі гаспадарамі-акупантамі. А на яго, Васіля, у яго, пэўна ж, асабліва свярбяць рукі — за тое, што ён адмовіўся ісці служыць у паліцаі і не аддаў яму Яніну. Праўда, у Вяршка па ўсіх вёсках было шмат нявест і «жонак», але, канечне, той зламыснік за няўдачу затаіў не толькі злосць, але і помету...

— Яшчэ раз папрашу,— уздыхнуў Васюкоў, паціснуў ім плячукі.— Убачыце Янку — пагаварыце, памажыце ці на ват і змусьце яго адумацца, зрабіць іншы, высакародны, выбар. А Янка да вас зойдзе. І, можа, нават не адзін.

Васіль і Яніна падакляравалі, што, калі ўбачацца з Яикам, пагавораць з ім так, як трэба; Васюкоў і маўклівы Казлоў неўзабаве пакінулі хутар.

— Божа, што ён сабе надумаў? — сашчаміўшы калені рукамі, захітала галавою, забедавала Яніна.— І праўда ж, можа зусім марна ды ганебна скласці галаву... Выжыў у вайну, дык прападзе цяпер, пасля вайны. Малады, здаровы. У васемнаццаць гадоў.— Заплакала. З вачэй паплылі па загарэлых шчоках буйныя слёзы. Пасля паскардзілася: — Ну чаму ты, божа, такі нелітасцівы? Дзе ні ступі, куды ні павярніся, дык усюды адна бяда ды гора...

— Сам Янка вінаваты,— прамовіў Васіль, разумеючы, што не вельмі суцешвае Яніну, а яшчэ болей дадае ёй пакут.— Не ўцякаў бы — дык і не было б ніякай мітрэнгі. Можа, быў бы і шчаслівы — абмінула б куля, абмінуў бы і асколак...

Яніна маўчала, моўчкі плакала. Канечне, яна, кабета, сястра, вастрэй, балюча адчувала трывогу, пакуту як за брата, так і за маці: Янкаў учынак ніколечкі не ўсцешыць і тую, не прынясе радасці.

«Дзе ён цяпер можа быць? —падумаў Васіль пра швагра.— У ружэвіцкім лесе ці тут, у нашым? Хто ж яго ведае. Паспрабуй знайсці іголку ў стозе сена ды яшчэ такою неспрыяльнаю часінаю. Колькі ні сноўдай, можаш не напаткаць, а вось нарвацца на ліха, сам скласці галаву можаш лёгка і незваротна...»

Васіль моўчкі падняўся і зноў апусціўся ў яміну — колькі ні адчайвайся, ні пакутуй, а жыць, дбаць пра прытулак усё роўна трэба. Дзеўбануў рыдлёўкаю — яна заскрыгітала, адкалупнула толькі са жменьку рудаватага, лічы, ужо гліністага пяску.

Неўзабаве, наплакаўшыся, апусцілася ў яміну і Яніна, таксама пачала дзяўбаць рыдлёўкаю рудую цвердзь і выкідаць яе на насып.

## 5

Янінін і Васілёў лёс рашыўся сёлета ўвесну, калі пацяплелі ночы, пырснула маладзенькая, кволая зелянота на дрэвах.

У адзін з такіх позніх майскіх вечароў яны сядзелі на лаўцы каля Янінінага гаспадара і, як у ранейшыя вечары, шапталіся, па-маладому гарэзавалі. Абое аж уздрыгнулі, калі нечакана з ганка пачулі строгі голас Янінінай маці, старой Чапроўскай:

— Яня, ідзі ў хату! І ты, Вацік, зайдзі...

Паслухалі. Сціхлыя, наструненыя, пайшлі на кліч. Васіль тупаў з насцярогаю: ён, прызнацца, пабойваўся Янінінай маці — невысокай, худой, кульгавай старой кабеты. Яму які ўжо час і тады, калі хадзіў разам з Янінаю ў Янковічы ў старую, польскую, школу і, бывала, крыўдзіў яе, дробненькую, паглядную дзяўчынку (крыўдзіў нават па невядомай яму самому прычыне), і цяпер, калі прыйшлося разам ратавацца, шукаць прытулку ў Ружэвічах, паразумецца — здавалася: старая Чапроўская (хоць якая яна была старая?! Ёй ішоў яшчэ ўсяго толькі сорак другі год!) недалюблівае яго, зыркае спадылба, нібы на воўка, стараецца ні сустрэцца з ім, ні загаварыць. А калі спаткае выпадкова на дарозе ці мусіць пры людзях сказаць слова, дык не пазірае ў вочы, буркне нешта толькі для адчэпнага. Пагэтаму і ён намагаўся не трапляць ёй на вочы, не заходзіў у хату, дзе кватаравалі Чапроўскія. Хоць яна, старая, канечне, ведала, што яе Яніна «любіцца», як казалі ў Ружэвічах, з маладым бежанцам, сваім земляком. Цяпер Чапроўская, відаць, клікала іх на нейкі суд.

Яніна і Васіль зайшлі ў невялікую, на адзін пакой, хату, дзе на вокнах віселі цёмныя фіранкі, а на камінку тлела лучына. Чапроўская

сядзела ўжо пры стале, абапіраючыся на гладкую ядлоўцавую кавеньку; на другі бок стала прымайстраваўся светлавалосы Янка; на тапчане сядзелі гаспадары, Кажушкі.

— Садзіцеся, галубэ,— не то сярдзіта, не то лагодна прамовіла Чапроўская і паказала ім месца на лаве — паблізу сябе.

Яны паслухмяна селі. Нібы вінаватыя ці нібы сапраўды на нейкім судзе.

— Скажыце вы мне: праўда гэта ці не, што людзі гавораць? — рашуча запытала Чапроўская.— Што вы хадзілі да ксяндза і дамаўляліся, каб ён даў вам шлюб?

Васіль з трывогаю апусціў галаву: Чапроўская супраць таго, што яны «любяцца», думаюць пажаніцца? Па-другое, чаму яна пытаецца пра гэта не ў адной Яніны, але і ў яго? Што надумала яна? Разлучыць?

— Хадзілі, гаварылі...— нечакана смела прызналася Яніна.

Яе маці, бадай, разгубілася і з адчаем зірнула на іх абаіх. Васіль не падымаў галавы, але душою адчуваў гэты гіільны разгублены і адчайны позірк. Калі ж на міг асмеліўся падняць вочы, дык аж здзівіўся: сярдзітая кабета была цяпер зусім не сярдзітая, а разгубленая і нібы хацела заплакаць, чамусьці найбольш пазіраючы на яго рукі. Ён, бянтэжачыся, нібы які рабаўнік, не ведйў, дзе дзець іх, гэтыя свае рукі — вялізныя, з шырокімі, па лапаце, далонмі ды з ёмкімі пальцамі. Ад іх, таксама і ад шырозных плячэй ён здаваўся здаравідлам, мядзведзем, а Яніна побач з ім выглядала зусім дробная, кволая, як лань. Аж сцяўся ад адчування гэтай сваёй велічы, дужасці і, здаецца, няўклюднасці ды ад Янінінай кволасці. Адчуваў: з-за гэтай жа прычыны, мусіць, хоча цяпер і заплакаць Чапроўская,— бачыце, на яе дзіцятка квапіцца гэткі велікан.

— Каб не такі час, дык я не замінала б, не стаяла на вашай дарозе...— урэшце ціха і чулліва і, галоўнае, здаецца, сапраўды лагодна да Васіля сказала Чапроўская.— Няхай бы сыходзіліся і жылі сабе на здароўе, калі ўпадабалі адно аднаго. Я пра цябе, хлопец, нічога благога не скажу...

Ён, пачуўшы гэта, усцешыўся, здзівіўся: няўжо гэтая, як здавалася, вельмі строгая кабеціна не вастрыла і не вострыць на яго зуб?

— Як не скажу нічога благога ні пра тваіх дзеда і бабу, пра бацьку-нябожчыка. Гаспадарлівыя, талковыя, паважаныя ў вёсцы былі людзі. І на маці ні злосці, ні крыўды не маю. Гаротніца яна. На далёкім свеце цяпер недзе з дзецьмі пакутуе... Але ж...— гаворачы, Чапроўская адну руку пакінула на кавеньцы, другую прыклала да ўпалых грудзей,— Хіба цяпер, дзеці мае, думаць пра вяселле? Кажуць жа, скора Саветы наступаць пачнуць, будзе непадалёку вялікая біт-

ва... Хоць бы жывымі застацца... Людзі янкоўскія вывезеныя, вёска спаленая, пустая, дзікая... Мы яшчэ тут... Ці да галавы, кажу, ігрышча?! — І, бачачы, што нішто іх, моладзь, не палохае, папрасіла: — Пачакайце хоць крыху, дзеці мае, няхай усё ўтрасецца, уляжацца. Бо цяпер я вам і вяселля ніякага не зраблю. І няма з чаго, і няма дзе...

— Не трэба нам вяселля,— абзыўнулася Яніна,— Шлюб возьмем — і ўсё, жыць будзем...

— Што ты гаворыш, дачка?! — усклікнула маці.— Як жыць без вяселля?

Чапроўская з надзеяю і з мальбою зірнула на Янку: ты ж, сын, за гаспадара ў нас, дык памажы! Але той, малады, Васілёў сябрук, яшчэ ніжэй угнуў галаву, відаць, не ведаючы, што парадзіць у такой важнай справе.

— Яны, пані Зося, яшчэ не думаюць пра тое, пра што вы ўжо са сваёю мудрасцю талкуеце,— уставіў слова гаспадар, лысы, таўсматы, спагадны, але жартаўлівы, часамі нават кплівы чалавек.— У іх пра іншае думкі. Маладому з маладою маладое ў галаве...

Кабеты збянтэжыліся. Засаромеўся і Васіль. З-за свайго жаніхоўства. Нехта іншы, падумалася цяпер яму, нават маладзейшы, хірлявы, жаніўся да вайны ці ў вайну — рабіў усё па-чалавечаму, як і трэба, а вось падумаў ён пра жаніцьбу напрыканцы калатнечы — усё нібы дачасна, сорамна. Быццам спяшаецца, адно толькі грэшнае мае ў галаве.

— Божа ж мой! — пахітала сіваватаю галавой Чапроўская,— Ні двара ні кала, а думаюць сыходзіцца, жыць, сям'ю новую ладзіць...

— Можа, і не варта, пані Зося, баяцца ды наракаць,— зноў сказаў гаспадар. Але ўжо сур'ёзна, без кпінаў,— Абое маладыя, здаровыя, змалку навучаныя да работы. Па-другое, не такі ўжо і галец ваш зяць. Прыблукаў сюды летась з пустымі рукамі, голы як бізун. А цяпер мае свае калёсы, плуг, пілу, сякеру, косы. Мае каня. Не прапаў, адным словам, без бацькі ды маткі. Сам па сабе на ногі стаў. Малайчына! Парабкаваў, лічы, у Дошчачкі-скнары, быў малатабойцам у каваля, але сабраў, кажу, усё для гаспадаркі. Са сваёй долі, што зарабіў за восень і зіму, увесну пшаніцу пасеяў, картофлю пасадзіў... Сталы ўжо, адным словам, гаспадар. Не прападзе і сам, і дачка ваша за ім не загібее...— Не вытрываў, усміхнуўся.— Праўда, я думаў: да багацейкі, да гаспадаровай Данусі-мілусі, прылепіцца ў прымы. Крышку касавокая, гугнявая, але затое вунь з якім загуменнем, адна ў бацькоў, з добрым пасагам. Дошчачка, гешэфтуючы з волаг.цю, за вайну яшчэ болей абжыўся... А ён, кажу, выбраў такую, як і сам — бежанку, сірату...

Усе змаўчалі. Можа, і з-за зразумелай усім няёмкасці: Дошчачка, можа, і меў нейкія скрытный намеры, калі браў Васіля-бежанца на кватэру, і тая Дануся-гультайка, здаецца, была б рада, каб малады кватарант хіліўся да яе, але вось Васіль выбраў іншую.

— Бог сірот любіць, але шчасця, долі не дае,— праз хвіліну-другую ўздыхнула Чапроўская.

— Не бойцеся, не бядуйце, кажу, нані Зося. Абое спраўныя, не прападуць,— супакоіў Кажушка.— Харошая
пара, аж люба паглядзець: ён — багатыр, а яна — каралеўна... Можа, усё і добра будзе. А шчасце, я вам скажу, само і не даецца, за яго трэба нямала папакутаваць...

— Шчасце ці бяда, пане мой, можа, яшчэ вызначана кожнаму на родзе...— зноў цяжка ўздыхнула Чапроўская.— Я дык бяды колькі хочаш пазнала, а шчасця, як вы кажаце, лічы, і не бачыла яшчэ.

Назаўтра, калі ўжо ўсе ў Ружэвічах ведалі, што будуць браць шлюб маладыя бежанцы, Дошчачкі пасварыліся.

Васіль не чуў, за што тыя не паладзілі, колькі і што сказалі адно аднаму, але, падыходзячы пад полудзень да двара з канём (абганяў дагэтуль гаспадарову бульбу), залавіў толькі з-за сянец апошнія Дошчачкавы словы: «...гэта вы, баб'ё, такога спраўнага хлопца ўпусцілі. Ты, старая скнара, баялася лішняй лыжкі смятаны ці лішнюю лусту хлеба даць, вечна наракала, што ён жарэ не ў сябе, а ты, маладая, дурная. Падкацілася б, прыгрэла — дык і быў бы твой... Звязала б рукі ды ногі — нідзе не дзеўся б...»

Яніньі і Васілёвы бацькі некалі былі ў налібацкай парафіі, але Яніна і Васіль шлюб узялі ў тутэйшым, ружэвіцкім, касцёле (налібацкі касцёл разбурылі яшчэ летась, калі ішоў у Налібаках бой між партызанамі і нямецкім гарнізонам).

З халоднага касцёла і з-за строгай шэрай касцельнай агароджы Яніна і Васіль выйшлі на сонечны, цёплы і прасторны двор жонкаю і мужам. Урачыстыя, аспакайнелыя (скончыліся многія хваляванні), радыя, толькі крышку збянтэжаныя.

Спусціліся з касцельнай горкі, пайшлі па тупкай сцяжыне каля сухіх старых платоў, зялёных гародаў, садоў з густой крамянай завяззю і ціхіх, прымлелых ад яркага ліпеньскага сонца хат. Апроч дзяцей, лічы, нідзе нікога не было, але на іх, маладых, адхінуўшы фіранкі, пазіралі з кожнага акна. Гаспадыні, старыя дзяды і бабуль І, мабыць, усе яны не толькі здзіўляліся, што яны ў такую часіну ўзялі шлюб, але заўважалі, што на ім, Васілю, пазычаныя ў гаспадара хромавыя боты, гаспадаровага сына і чорны суконны касцюм — калі Васіль уцякаў у блакаду з абозу, што гналі немцы і ўласаўцы ў Стоўбцы да чыгункі,

дык, як і казаў Кажушка, пабег у чым стаіць. Здаецца, не пазіралі на іх толькі з тых акон у канцы вёскі, дзе замест шыб у некаторых хатах была фанера — шыбы павыбівала ад узрываў упалых тут падбітых самалётаў.

Лічы, у самым канцы вёскі на іхняй дарозе была высокая і доўгая драўляная будыніна, накрытая чырвонаю чарапіцаю. Тут за панамі была гміна, у нямецкую акупацыю — воласць. Цяпер, пасля адыходу немцаў, трэці ўжо дзень тут быў сельсавет. Над дзвярыма сельсавета, сведчачы пра новую ўладу, віселі неварухлівыя ад спякоты два сцягі — чырвоны і чырвона-зялёны. Праўда, самі сельсаветчыкі ўдзень былі ў сельсавеце, а нанач (мусіць, да прыходу чырвонаармейцаў) ішлі ў лес. Цяпер на ганку сельсавета стаяў вартавы, з сярэдзіны чуўся вясёлы гоман.

Неспадзявана ў расчыненае акно высунуўся светлавалосы, рыжаваты камісар Васюкоў, махнуў ім рукою: зайдзіце сюды! І пасля, калі яны зайшлі ў пакой, дзе Васюкоў сядзеў са сваімі таварышамі, пачулі прысаромліванне:

— Эх, Васіль! Эх, Яніна! Усё па-старому, па-даўнейшаму робіце. А ў нас тут ужо, як бачыце, новая, Савецкая, улада. Нават да прыходу Чырвонай Арміі. Дык і трэба ўжо рабіць усё па-новаму. Тут, у сельсавеце.

Тут, у старшынёўскім пакоі, абабітым выцвілымі, яшчэ нямецкімі бела-рудымі, у палосачкі сям-там ададранымі шпалерамі, але ўжо не са старым, а з новым партрэтам на сцяне (з партрэтам Сталіна), стаяў моцны дубовы стол, накрыты зялёным сукном і шклом, абапал сцен прыхінуліся крэслы з зялёнымі, сцёртымі сядзеннямі. На бліжэйшым да стала крэсле сядзеў таварыш Васюкова, Казлоў.

— Зараз мы вас абчалавечым як след,— усміхнуўся Васюкоў, дастаў з верхняй шуфляды стала тоўсты сшытак з цвёрдымі сінімі вокладкамі, закрэсліў на верхняй вокладцы нейкі нямецкі надпіс, пасля вырваў у сшытку некалькі спісаных першых старонак, сунуў іх у адну з шуфляд.— Назавём так: «Кніга рэгістрацыі грамадзянскіх шлюбаў». Так, пры сведках,— назваў сваё і таварышава прозвішча,— 5 ліпеня 1944 года пад нумарам адзін зарэгістраваны шлюб грамадзян Ружэвіцкага сельсавета Грыгарцэвіча Васіля Уладзіслававіча і Чапроўскап Яніны Іосіфаўны,— а пасля, калі запісаў год, месца, дзе яны нарадзіліся, колькі скончылі класаў школы, іхнюю нацыянальнасць, новае Янініна прозвішча і павіншаваў іх з «законным шлюбам», усміхнуўся Казлову: — Федзька, давай марш Мендэльсона.

Спакойны, нават марудлівы, русявы масквіч Казлоў дастаў з кішэні афіцэрскіх штаноў новенькі, белы, з карычневым дрэвам

трафейны губны гармонік, прыклаў да вуснаў і зайграў. Незвычайна ўрачыста, лічы, у прывыклых да нямецкіх маршаў і адвыклых за вайну ад сваёй ці вось такой музыкі вушах пачулася гэтая незнаемая, але шчырая, узнёслая мелодыя, здаецца, запаланіла, узвысіла ўсіх, і ў Васіля ў гэты момант аж сціснулася ў горле ад нахлынутай радасці і затоенай трывогі. Яніна, як заўважыў, не вытрывала, моўчкі заплакала.

— Сапраўды, аж усё ў душы перавярнулася...— калі аціхла музыка (праўда, узнёслы дух яе па-ранейшаму быў у пакоі), усхвалявана прамовіў Васюкоў. Відаць, гэты нечакана мірны, пасляваенны ўжо, сціплы і ў той жа час велічны абрад таксама ўразіў, расчуліў яго мужнае сэрца, што абнемагло ўжо ад вайны і яе суровага жыцця.— Усё будзе добра. Нашы вызвалілі ўжо Мінск. На днях будуць тут. Дык і правільна, трэба дбаць пра жыццё, пра будучыню...

Пацiснуў ім рукі, пацалаваў у шчокі.

— Віншую! — усміхнуўся і — мужчына, баец — не выцерпеў, сцёр даланёю буйную слязу, што выплыла і хутка пакацілася па выгаленай шчацэ. Стукнуў кулаком у сцяну, гукнуў: — Вольга! Нясі свае ягады.

Тут жа зайшла сюды радыстка Савельева — высокая, светлавалосая, у зялёнай спадніцы і гімнасцёрцы, падпяразаная салдацкім рэменем маладая дзябёлая дзяўчына. Перад сабою несла поўны кацялок спелых суніц. Высыпала іх на стале, на падрыхтаваным Васюковым чыстым лісце паперы. Суніцы запахлі лесам, сонцам, гарэлі на белым лісце чырвоным цяплом дабрыні і сардэчнасці.

Васюкоў у гэты час дастаў з-пад стала нямецкую паўтарачку з ромам, з ніжняй шуфляды — зялёныя кубкі.

— Грэх не замачыць такую падзею, — усміхнуўся, наліваючы пакрысе пітво ў пасуду.— Падарунак, праўда, уручыць цяпер не можам. Не ўдасца выставіць і шчодрых ласункаў. Затое шчыра, ад усёй душы пажадаем хуткага заканчэння вайны, міру, трывалай сям'і, любові, шчасця! — Патрымаў міг кубак з пітвом у руцэ, а пасля сказаў усміхаючыся: — Горка!

Услед за ім, ляскаючы далонямі, загаркавалі і ўзнёслыя Казлоў ды Савельева. Яніна і Васіль злёгку пацалаваліся.

Яніна дагэтуль яшчэ не піла ні гарэлкі, ні віна, дык памачыла толькі вусны, зморшчылася; Васіль пасля хваробы-жаўтухі таксама не ўжываў ніякага спіртнога пітва, але цяпер не мог ад яго адмовіцца.

Ром быў цёплы, адмыслова, не зусім прыемна, пахнуў, дык піўся з неахвотаю. Але Васхль, уздрыгваючы, лічы, пакрываючыся пупырышкамі, нібы ад холаду, апаражніў усё, адчуваючы, як апякло горла,

нутро, пайшла па жылах цеплыня і сёння — ці не без прывычкі — тут жа шыбнула ў галаву лёгкім хмелем.

— Частуйцеся,— запрасіла Савельева (яна выпіла сваю долю не зморшчыўшыся) і першая ўзяла колькі суНіn,.— Няхай у вашым жыццi, Янька і Васька, будзе шматшмат салодкага, як і гэтыя ягады...

Падзякаваўшы, Васіль укінуў у рот колькі суніц — яны сапраўды былі салодкія, прыемныя, перабілі досыць нясмачны пах рому. Усе астатнія таксама закусвалі суніцамі, усміхаліся, былі задаволеныя і радыя.

...Чапроўская блаславіла ды пацалавала іх яшчэ на ганку, запрасіла ў хату. Цяпер гэтая кабета, апранутая ў святочную чорную, з чырвонымі кветачкамі сукенку, абутая ў туфлі, хоць і плакала, але здалася зусім не строгая, вельмі лагодная, як і яго, Васілёва, маці.

— Кажушкі паехалі на сенакос, сказалі, што папрывецяць вас ужо ўвечар,— сказала яна.— Так што садзіцеся за стол, будзем палуднаваць. Во і мне трэба бегчы туды, да іх,— Калі падала па місцы гарачага, без мяса ды косткі, але добра забеленага смятанаю шчаўя, па лусце хлеба, запынілася каля стала і сказала маркотна: — Выбачайце, дзецi, што не частую як след, не прымаю гасцей... Што вяселле ваша як і не вяселле... Быў бы іншы час — дык усё было б па-другому, інакшаму...

— Нічога, мама,— жвава прамовіла Яніна, садзячыся за стол.— Затое нас добра пачаставалі ў сельсавеце. Нават і выпілі патроху.

— Хто ж вас так прывецiў? — не то ўзрадавалася, не то засмуткавала Чапроўская. Узрадавалася, відаць,
з-за таго, што іх, маладых, уважылі чужыя людзі, засмуткавала, пэўне, з-за таго, што, як сказала, не можа як след адсвяткаваць сама.

— Васюкоў,— адказала Яніна.

— Добры чалавек,— пахваліла яго Чапроўская,— дай бог яму добрае здароўе, доўгае жыцце...

Васіль моўчкі сёрбаў шчаўе і ў размову не ўступаў. Па-першае, ён бянтэжыўся перад Чапроўскаю, што ўжо не толькі пасягнуў на яе дачку, але ўжо і яе зяць, па-другое, ён зусім ап'янеў. На яго лобе, здаецца, выступіў густы пот. Ап'яненне гэтае, канечне, было часовае, неўзабаве той глыток рому, што ён выпіў, павінен быў разысціся, страціць сваю моц.

Адчуваючы, што разам з маці трэба ісці на сенакос і Яніне, Васіль неўзабаве падзякаваў Чапроўскай і меўся ісці да сваіх гаспадароў.

— Куды ж ты, сын, пойдзеш ужо? — хаваючы ад яго вочы, прамовіла Чапроўская і завіхнулася прыбраць са стала.— Ты ж не чужы ўжо нам. Свой... Мне — зяць, Яні — муж...

— Ды, казаў Дошчачка, пасля полудня па сена трэба ехаць,— пранікаючыся павагаю і падзякаю да Чапроўскай, сам дабрэючы, сказаў ён.

— Не прападзе ні Дошчачка, ні яго сена, — разважліва, здаецца, важка ацэньваючы коЖнае слова, адказала Чапроўская, але папаранейшаму не пазіраючы ім абаім у вочы,— Ідзіце адпачніце... Я вам у гумне на сене наслала...

Васіль ад неспадзяванасці зірнуў на Яніну: тая ў гэтую ж хвіліну густа ўспыхнула чырванню, адвяла ад яго позірк.

— Мы, можа, паможам вам, мама...— збянтэжана нрамовіла яна.

— Справімся і без вас,— здаецца, наўмысна страгавата сказала Чапроўская. Пасля, бачачы, што яны абое засаромеліся,як яшчэ малыя дзеці, хуценька падалася за печ і дадала ўжо адтуль:

— Ну, ідзіце. Я хачу пераапрануцца.

Яны паслухмяна выйшлі з хаты.

## 6

Хутарок Амшарок паспакайнеў (не ішлі ўночы немцы, не заяўляўся Вяршок з шайкаю) і заадно ажываў, культурнеў.

За некалькі дзён пасля таго, як пабылі Васюкоў і Казлоў з непрыемнымі навінамі, Яніна і Васіль выкапалі досыць прасторную і глыбокую яміну, абклалі жэрдкамі сцены, зрабілі палок, стол, лаўкі з расколаных ды абчасаных сякерай плашак, невялікае акенца, дзверы, разабралі печ на папялішчы і са старых, але яшчэ моцных цаглін склалі ў зямлянцы печачку з невялікаю плітою. Прымайстраваўшы да двух вянцоў зямлянкі надзейную і цёплую страху, аж залюбаваліся: спрытнае і ўтульнае выйшла жытло! Тут, як здалося ім, можна не толькі зімаваць, але і не баяцца ніякага марозу! Толькі трэба расстарацца для печы дроў і харчу для сябе. Там, увесну, можна будзе ўжо дбаць і пра хату.

Зладаваўшы жытло, не супакоіліся, не сядзелі склаўшы рукі. Пачалі чысціць былы склеп. Каб было дзе ўвосень схаваць гародніну, бульбу, што дадуць ім Кажушка і Дошчачка — іхнюю долю, а таксама і плату, што яны зарабілі за зіму, вясну і лета.

Склеп стаяў непадалёку ад хаты; дык у блакаду, калі гарэлі прыбудовы, не ўцалеў і ён: страха і ўсё — адзенне, бочкі, цабэркі, што былі пад страхою, дол, што быў з плашак і зляжалага кастравіння,— сатлела ды абвалілася. Агонь, лічы, нічога не пашкадаваў: сярпы, косы, што знайшліся ў попеле, былі перапаленыя, ужо непрыгодныя, а бочкі, што стаялі раней у пограбе, абгарэлі напалову, рассохліся.

Яніна і Васіль цягнулі ў гэтую хвіліну з лесу на калёсах бярвенне — на зрубік для склепа. Хоць не бралі з сабою драбінак, ляжанкі, бярвёны ляжалі толькі на расцягнутых перадку і задку калёс, але цягнуць было цяжка. І Васілю, што валок за аглоблі, і Яніне, што папіхала калёсы за заднюю ручку. А цяжэй на гэты раз было таму, што і стаміліся ўжо, і сонца смаліла неміласэрна, нібы стараючыся якраз за ліпень аддаць зямлі найбольш свайго цяпла, і паклалі на калёсы больш, чым раней. Каб не выбірацца яшчэ раз у лес, уздумалі ўзваліць не толькі тры чатырохметровыя сырыя сасновыя бярвёны, але і яшчэ пару верхавінак ды найбольш буйнога галля. Ведалі: усё — буйное і дробнае — спатрэбіцца.

У лесе і пасля па роўнай тупкай дарозе колы каціліся без вялікага намагання, але ў нізінцы, на павароце, дзе сабраўся нанесены ў паводкі і цяпер сыпкі без дажджоў пясок, забуксавалі. Як Васіль ні ўпінаўся, як ні падштурхоўвала Яніна, выскачыць з не такой ужо і вялікай лапіны пяску не маглі — хаваліся па спіцы колы. А за ёю, гэтай лапінаю, зноў была роўная і, самае важнае, ужо блізкая дарога да зямлянкі. Аж брала крыўда і злосць, што не хапала сілы, моцы, каб зрабіць рашучы рывок, што сабака, Мурзік, дагнаўшы іх, не запыніўся нават, не пазважаў, што ім цяжка, радасна пашыбаваў без запынку на хутар.

У адчаі ды нават у абурэнні Васіль азірнуўся: відаць, зусім слаба памагае Яніна. Ці жартам нават, можа, і пакеплівае — ускочыла, як і той раз, на бярвёны і едзе як пані. Не, упіраецца, пхне, аж крэкча. Але вось зморшчылася, нібы дакараючы, што ён, мужчына, не дасць рады, а пасля раптоўна напружаны, пачырванелы твар яе скрывіўся; яшчэ праз міг яна ўпала на адну руку на бярвенне, а другою схапілася за жывот.

Ён спачатку вельмі не захваляваўся, палічыў, што, мабыць, крыху перасілілася, дык хоча адпачыць. Але пасля адчуў: штосьці тут не так. Яніне якраз блага, бо цела яе нервова ўздрыгвае. Кінуў аглоблі ды падбег да яе.

Аклікнуў, але яна не варухнулася, не абзыўнулася. Здаецца, не магла нават разагнуцца, была нібы паралізаваная. Не пазважала, калі і дакрануўся да яе.

Напаўняючыся трывогаю, узяў яе на рукі. Уразіўся: твар яе, яшчэ нядаўна чырвоны ад натугі, белы-белы, вочы заплюшчаныя, а цела яе бязвольнае і цяжкае.

— Янінка...— са страхам паклікаў, прытуліў, не разумеючы, адкуль і чаго накінулася на яе нейкае ліха.

— Пакладзі... На траву,— ледзь чутна прашаптала яна і застагнала, нават заенчыла, сціскаючы зубамі вусны.

Выйшаў з пяску і паклаў яе на ўзбочыне — на дзірване. Каля самага поля, дзе сярод лебяды, пырніку сям-там кусцілася бульба — здаецца, на загоне Навіцкіх. Яніна адвярнулася, надгарнула пад сябе ногі, зрываючыся на плач, зусім не зважаючы на яго нытанні.

— Янінка! — Ён стаў на калені, гладзіў яе па галаве, руках, прасіў сказаць, дзе і што ёй баліць, сам ледзь не плакаў, праклінаючы той момант, калі згаджаўся, каб яна памагала яму ўскочваць ці падымаць на калёсы бярвенне, папіхала. Усё ж яна — кабета, не такая ў яе сіла, каб рабіць нароўні з мужчынам. Тады, пры рабоце, быў рад за кожную яе і маленькую помач, а цяпер во хоць укусі сябе за локаць за сваю неабачлівасць.
Няхай бы што з ім здарылася кепскае, а не з ёю.

— Баліць...— закрычала яна.— Ой, як баліць...

— Мілая мая, харошая,— прасіў ён.— Ну скажы, дзе і што табе баліць.

— Жывот...— нарэшце прызналася яна.— Рэжа... Як агнём гарыць...

Як пачуў, дык стала лягчэй. Можа, сапраўды перасілілася, крышку адпачне — і зноў стане на ногі. Іначай і быць не можа. Бо што ж ён тут, на хутары, ёй парадзіць, як выратуе ад болю. І, на шчасце, Яніне, здаецца, начало лягчэць. Яна заціхла, прыўзнялася нават, абцягнула на калені лёгкую, некалі бела-жоўтую, а цяпер выцвілую сукенку. Калі Васіль, азірнуўшыся, убачыў ды сказаў, што з лесу выйшла і ідзе па дарозе Чапроўская, дык Яніна нібы зусім ачуняла, ажывілася, досыць рэзка паднялася, хоць і хіснуўшыся, абаперлася на бярвенне.

— Нічога маме не кажы...— папрасіла-загадала.— Няхай думае, што мы адпачывалі... І пра каня не гавары праўды. Запытае сама — адкажам, што ўцёк...

Неўзабаве Чапроўская, несучы карзіну, дачыльгікала сюды. Кульгала, абапіраючыся на кавеньку, але ішла досыць хутка.

— Якая ты белая...— не павітаўшыся, занепакоілася яна, не зводзячы позірку з Яніны.— Блажыць?

— Відаць, перагрэлася на сонцы, дык вот крыху і пабялела,— паспрабавала ўсміхнуцца Яніна, але ўсмешка яе была не зусім вясёлая і гарэзная, як звычайна бывав пры добрым настроі.

— Ці не на сабе цягнеце вы сырняк? — здзівілася Чапроўская.— А дзе ж ваш конь? Ды во і вупражы нідзе ніякай не бачу...— і з падазронасцю зірнула на іх абаіх.

— Уцёк ад нас Рыжы,— стараючыся не пазіраць матцы ў вочы, сказала Яніна.— Ведама, чуж-чужаніца, як толькі сарваўся з прывязі, дык і марсянуў дадому. Ці нават і ў свет белы.

— Дык самі цягаеце такі ценжар? — пахітала галавою Чапроўская, а пасля і папікнула: — Ці не падурэлі вы?! Цягнучы за каня, і падарвацца можна. Ты ж,— зірнула на Яніну,— дзяўчына, а ты,— перавяла позірк на яго, — яшчз ж нядаўна на жаўтуху хварэў, печань у цябе слабая... Падарвяцё змоладу, так перасільваючыся, здароўе — белы свет мілы не будзе... Скідай, хлопец мой, бервяно во гэтае, самае тоўстае, потым яго забярэш...

Васіль паслухаў, залез на бярвёны, стаў адною нагою на пярэднюю ручку, другою — на сярэдняе бервяно, ухапіўся рукамі за камель крайняга бервяна і папхнуў яго між ног назад, пакуль не скінуў з передка. Пасля, злезшы, зайшоў за задок калёс, яшчэ, вышэй задняй ручкі, надняў узняты канец бервяна і скінуў яго долу, нагою адкаціў на ўзбочыну. Пакуль ён рабіў гэта, Чапроўская ўсё ўшчувала іх абаіх. У яе словах была праўда, але, канечне, няможна было цяпер, у такіх умовах, жыць па гэтай праўдзе. Хочаш ці не хочаш, але мусова трэба было якраз не спаць у шапку і не асцерагацца. Праўда, кабеты пасля злёгку падпіхнулі, і ён калёсы з двума бярвёнамі пацягнуў без вялікай натугі. Чапроўская ішла ззаду і ўсё ці то дакарала Яніну, ці пра нешта ў яе строга дапытвалася. Колькі разоў азірнуўшыся, Васіль бачыў, што Яніна нібы без ахвоты адказвае і ідзе, апусціўшы галаву.

На хутары Васіль з рэўнасцю чакаў, што скажа старая Чапроўская пра зямлянку — пра іхнюю сумесную работу ды пра іхняе першае ў іхнім жыцці сумеснае жытло. Але тая нічога не сказала, толькі з ахвотаю схавалася ад спякоты ў зямлянку, дастала з карзіны і выклала на стол звязаную хустку з яйкамі, абвязаны збанок (мусіць, з малаком), слоік смятаны, а таксама і боханчык вайсковага чорнага хлеба.

— Сядзьце, з'есце трохі,— лагодна ўжо прамовіла Чапроўская.

— Дзякую, мама,— сказала Яніна,— няхай Васіль перакусіць, а я прылягу,— і легла на палок.

— А што ж вы тут ясцё? — запытала Чапроўская.

— Ды не галадаем, мама.

— Бачу, што надта сытыя... Аж «ляўціць» усё і на адным, і на другім... Шчокі ўпалі, вачэй не відаць...

— Хлеб і тушонка, праўда, скончыліся,— прызналася Яніна,— але картофлю-самасейку капаем, булён ці шчаўе варым... Я нават шчаўе на зіму крышу...

— Зерне пражым,— дадаў Васіль, не могучы паадолець сліну, што гнала і гнала ў рот, калі ўбачыў такі вабны, смачны цешчын пачастунак.— Яблыкі-скараспелкі ходзім у Ляджа рваць... Там не згарэла, уцалела колькі яблынь... Увосень грыбоў на зіму насушым, грыбныя поліўкі будзем варыць...

— Адным словам, як паны жывяцё,— усміхнулася Чапроўская.

— Ды не прападзём, мама,— сказала Яніна.— Жылі людзі ў зямлянках, будзем жыць і мы.

— Я за свой век аж чатыры разы ў зямлянках жыла,— уздыхнуўшы, загаварыла госця, села пры стале.— Першы раз жыла, калі яшчэ малая была. Тады наша, яшчэ дзедава, хата ад маланкі згарэла — агонь палавіну Янковіч як языком злізаў. Пасля гэтага мы выбраліся з вёскі, пачалі жыць у Ляйтарках. Вось там, калі пачалася тая, першая, вайна з немцамі, нашу новую хату царскія салдаты на мост разабралі, змусілі зноў рабіць зямлянку. На трэці раз загналі ў зямлянку немцы, на чацвёрты — палякі... Цяпер вот, калі выганіць Кажушка, прыйдзецца пяты раз у зямлю рыцца...— горка пахітала галавою, зірнула нібы невідушча,— Іншы раз калі падумаеш, успомніш усё, дык аж дзіва альбо страх бярэ: божа, колькі чаго выпала на долю, колькі чаго можна выцерпець... А колькі яшчэ чаго наперадзе будзе... Босыя, без кала ł двара, без жаднай жывёлінкі, без гаспадара...

— А хіба Васіль ужо не гаспадар? — запытала Яніна, лежачы на палку і, здаецца, ужо ачуньваючы,— Хіба благую зрабіў зямлянку? Хіба не змайструе пазней хату?

— Зямлянка ў вас і праўда неблагая. Відаць, Вацік як быў у партызан, дык навучыўся ў іх,— усміхнулася Чапроўская, крышку падбадзёраная дачкою. Але тут жа, нешта ўспомніўшы, зноў засмуткавала, нават панікла.— Я і з-за вас, дзеці, начэй не сплю, але...— Зусім спахмурнела.— Бачу: будзеце жывыя — будзеце жыць. Не прападзіцё, як вы кажаце. А вот з-за Янака ўтрая мяне цяпер сон не бярэ...— Заплюскала вачыма, не стрымала слёз.— Я спачатку, калі вы прыйшлі і сказалі, што ён вытварыў, не паверыла. Думала: можа, нагаварылі людзі, бачылі ці не бачылі, а плятуць. Калі ўцёк, дык не павінен ён абы з кім туляцца, лаўкі, як кажаце, абіраць, на начальства цяперашняе кідацца... Аж учора чуем уночы стук у шыбіну. Выйшаў Кажушка ў сенцы і тут жа зноў ідзе ў хату. Вас, кажа мне, кліча Янак. У мяне і ногі памлелі, сэрца абарвалася: ускочыў-такі ў пастку, пайшоў па сабачай сцежцы недавярак... «Сыночак ты мой, сыночак,— кажу яму ў хаце,— хай бы ты лепш не радзіўся ці малы памёр... Што ж ты сам губіш сябе? Мяне без пары ў магілу гоніш? Род наш знеслаўляеш?! Яня з Вацікам вунь на бацькаўшчыне ўжо сваёй, жыць як людзі

пачалі, а ты... Ды ў той час, калі ўжо Брэсце на нашым баку...»— «Такая ўжо мая доля, мама,— адказвае,— Няма ўжо мне ходу назад. У арміі мяне расстраляюць. І Вяршок расстраляе, калі я сыду ад яго... Буду пакуль што хавацца, а потым, можа,з'еду куды...» — «Ідзі, злыдзень,— кажу,— да Васюкова, папрасі, каб заступіўся. Не ўхаваешся і не збяжыш, не ўратуешся нідзе...» Колькі ні прасіла, ні ўгаворвала, не паслухаў. Узяў чыстую бялізну і пайшоў з хаты ў ноч... Куды, чаго пайшоў, адзін чорт ведае...

Васіль і Яніна паныла маўчалі.

— Вацічак, сыночак,— нечакана толькі да яго загаварыла Чапроўская,— я цябе папрашу як сына... Яня сёння мне сказала, што Янак яшчэ ў вас не быў. Але я ведаю: ён прыйдзе сюды, не ўтрывае, каб не ўбачыць вас. Дык ты, сыночак, як мужчына пагавары з ім. Ты ж сталейшы, разумнейшы. Як кажа Яня, наш гаспадар ужо... Папрасі, змусь, каб адумаўся, не цягаўся з тым бандзюгам. Загубіць жа той яго...

Замаўчала, выцерла канцом белай хусткі слёзы.

— Канечне, пагаворым, мама,— падакляравала Яніна, таксама выціраючы слёзы.— Толькі ці паслухае ён і нас...

— Божачка мой родненькі,— забедавала Чапроўская,— ці ж трэба быць такім нелітасцівым? Як толькі нарадзіўся Янка, дык і маю з ім клопаты. Ды не толькі клопаты — бяссонныя ночы, слёзы, боль. Хіленькі, слабенечкі быў, доўга не мог падняць галоўкі, потым — на ножкі стаць, пайсці... Думалі: не выжыве. Але выжыў, акрыяў патроху, але доля яго ўсё роўна была няўдалая. То шкоду якую зробіць, то скалечыцца без дай прычыны: спатыкнецца на гладкай дарозе, са страхі ці з дзерава ўпадзе, нагу ці палец рукі куды падсуне — пад серп, пад касу, над якое кола... Пайшоў у школу — зноў бяда ды гора. То яго наб'юць смялейшыя дзеці, то настаўнік без дай прычыны прычэпіцца, то нешта паб'е ці перакуліць... Мы і вучылі, і крычалі, нават і білі з нябожчыкам Юзем — нічога не памагае. Ці маўчыць, ці плача... Думалі, гаварылі не раз: перарасце, паразумнее — зменіцца, талкавейшы стане. Аж ён і хлопцам не такі, як усе, стаў. Усе вясёлыя, гаманкія, борздкія, а ён усё задумлівы ды задумлівы, сцішлівы, а то нават нейкі і адрачоны. Як сам не ведае, чаго жыве, што робіць... Вот цяпер аднагодкі, маладзейшыя на фронт ідуць, хто рады, хто плача, а ён маўчыць... А я ж, маці, павінна была ведаць, што ён думаў, чаго хацеў, чаго баяўся... А я не ўведала, не пагаварыла добра...— Залілася слязьмі,— І ён ні разу не захацеў пагаварыць, усё таіўся... А цяпер, божа мой, каму — Вяршку даверыўся...

Чапроўская панаракала на вайну, на сваю жаночую і матчыну долю, паплакала, выяўляючы ўвесь свой боль.

Пасля, калі пахадзіла па двары, агледзела студню, вычышчаны склеп, выпаланы Янінаю гародчык, мальвы, луг, а таксама і блізкае поле з жытам, пшаніцай і бульбаю-самасейкаю, пачала збірацца дадому.

— Я ж вам, здаецца, казала, што Брэсце ўжо на нашым баку, вайна пайшла далей,— загаварыла на развітанне Чапроўская,— але зімаваць, будзьце пэўныя, будзеце тут адны. Людзі нашы яшчэ не скора вернуцца. Дык смела потым жніце з усяго янковіцкага поля жыта, пшаніцу, ячмень, выкопвайце картофлю — зімою як знойдзеце... Праўда, усё, што само насеялася, мізэрнае, але, што ні кажы, дабро...— Схамянулася: — Ага, ледзь не забылася. Дошчачка наказаў, каб сабаку яго прывяла.

Мурзік якраз, стоячы паблізу, залівіста гаўкаў на поле. Дарэчы, ужо каторы дзень, якую ноч запар ён на некага ўсё брэша. Спачатку думалі, што ён цяўкае на немцаў ці на Вяршка з шайкаю, але калі тыя не заяўляліся, дык рашылі, што, можа, брэша на вожыка якога альбо на ваўкоў. Шкода было Васілю аддаваць Мурзіка, бо і прывык да яго, і не ведаў, як заставацца тут, на хутары, без сабакі, без ніякай жывёлінкі. Але нічога не зробіш, мусіў паклікаць таго і ўзяць на вяровачку.

— Я, як сказаў мне пра гэта Дошчачка, хацела знайсці вам хоць якое шчаня,— прамовіла Чапроўская, бачачы, як Васіль і Яніна спахмурнелі, нібы сіроты.— Але не знайшла. Хто і мае, дык не дае. Трымае на развод, думае за гэта нешта ўзяць. Бо не кожны цяпер мае сабаку. Самі ведаеце, павыбівалі іх за вайну...

І калі, яшчэ раз наказаўшы, каб шанаваліся, не знясільваліся, не стараліся зрабіць за адзін дзень столькі, што трэба рабіць тры дні, падалася з хутара, дык Мурзік паплёўся з ёю нехаця, упіраючыся.

Яніна і Васіль доўга пазіралі ім услед са шкадаваннем ды са скрухаю.

Самотныя яны былі ўвесь астатні светлы дзень. Васіль моўчкі, прыцягнуўшы скінутае на дарозе бервяно, плазаваў камлюкі, Яніна таксама на адзіноце тупалася каля зямлянкі, гатавала вячэру. Толькі ўжо ў цёмны вечар, калі ляжалі на тапчане, парушылі затоенасць, разгаварыліся.

— Дык што табе сказала маці, калі я цягнуў калёсы, а вы ішлі ўслед? — запытаў ён.

— Ты што, чуў, што мама нешта мне гаварыла? — здзівілася Яніна.— Яна ж, лічы, шаптала...

— Не чуў, але здагадаўся. Яна, здаецца, гаманіла за нешта якраз на цябе.

— Бач, які здагадлівы,— прытулілася да яго.— Але жывы будзеш, калі і не ўведаеш. Яна мне пра мяне гаварыла...

— Пра што?

— Спі,— чамусьці не хацела прызнацца яна.— Ты ж натаміўся, адпачні.

— Лаяла, што выйшла за мяне замуж? Ці за тое, што згадзілася са мною ехаць без часу сюды?

— Ну і заяць! Цешча з усёю душою да яго, а ён, бач, які недаверлівы!— папікнула.— Кажу ж, мне пра мае гаварыла... Ну, па-жаночаму...

— А ты скажы, каб я ведаў,— настояў, не разумеючы, чаму Яніна штосьці недагаворвае.

— Ну і ўпарты! — лагодна прамовіла яна.— Ну, казала, што мне ўжо няможна ні цяжкае падымаць, ні саскокваць зверху, ні рэзка нагінацца... Іначай... ці мне што, ці яму, ну, казала, бывала, што кабеты і паміралі ад гэтага альбо вось так губілі тое, што насілі...

— Больш не будзеш ні бярвён падымаць, ні зямлі варочаць...

— Хочаш, каб я жыла? Сына табе нарадзіла?

— От кажаш! — падакараў.— Нашто ж тады гэтая зямлянка, калі... Я жыць без цябе не захачу...

— Ты праўда кахаеш мяне? І моцненька? — запытала яна з радасцю.

— Я ж табе казаў.

— А ты яшчэ раз скажы.

Ён таксама ад радасці ўсміхнуўся: ну і гэтыя кабеты! Вось дык любяць лагодныя, пяшчотныя словы, прызнанні ў каханні!

— Чаму ты маўчыш? Не кахаеш?

— Не,— зноў усміхнуўся.

— Які паганы! — прытворна пакрыўдзілася.— Я ведаю: ты, можа, ужо і каешся, што ўзяў мяне, можа, цяпер думаеш пра Данусю-пястусю. Хіба з ёю ты гэтак пакутаваў бы!

— Канечне, не гэтак...

— От бачыш! — цяпер, здаецца, пакрыўдзілася па-сапраўднаму ўжо. Яна, як і кожная маладая жонка, была вельмі раўнівая.

— З ёю пакутаваў бы ў дзесяць разоў больш...— прамовіў ён.— А з табою мне ўсякія накуты не страшный...

— Каб жа ты праўду казаў...— адпусцілася, але не спяшалася даравацъ яму яна. Папікнула: — Скупец! Шкадуеш добрае слова лішні

раз сказаць... Ты — мужчына, табе, можа, і не трэба тыя словы, а я ж — кабета, мне хочацца і гаварыць, і чуць ласкавае, далікатнае...

Дагаварыла і замерла; у гэтую ж хвіліну наструніўся і ён: здаецца, на двары штосьці піснула жывое. Прыслухаліся. Цяжка было даць веры, але мяўкаў кот. Жаласна, нібы просячыся ў хату. І адкуль ён тут узяўся?

Васіль устаў, адчыніў дзверцы і зірнуў у цемень. Спачатку нідзе не згледзеў ніякага ката, а пасля паблізу аплазаванага бервяна ўбачыў пару светла-карычневых вачэй. Напружыўшы зрок, абмацаў вачыма і невялікі камячок. Кот! Няўжо іхняя Мурка, якая была ў іх да блакады? Калі яна, дык як уцалела адна тут?

— Мурка! — паклікаў ён.— Гэта ты?

Агеньчыкі мільганулся, камячок варухнуўся і падаўся насустрач, увайшоў у зямлянку, зацёрся аб ногі і зноў жаласна замяўкаў, нібы заплакаў.

— Мурка! — узрадаваўся ён, падняў кошку на рукі.— Жывая! І не здзічэла, не забылася на нас! Дык гэта на цябе ўсе гэтыя дні брахаў Мурзік, адганяў цябе, бедную, ад нас? — Пагладзіў па спіне, а Мурка, шчаслівая, замурлыкала, тулячыся да грудзіны.— Жыві, Мурка, з намі, усё ж жывая душа. А па-другое, і твая тут дамоўка...

## 7

Мурзік (ён на трэці дзень збег ад свайго ружэвіцкага гаспадара і прымчаўся сюды, на хутар Амшарок) Ніяк не хацеў прымірыцца, што заявілася тут яшчэ адна жывая істота, знайшла прытулак і ласку. Ён пры першым жа выпадку нападаў на кошку, змушаў яе ці ратавацца бегам, несціся з усіх сіл ад зямлянкі ў поле, ці ўзабрацца і сядзець гадзінамі на бярэзіне альбо на грушы. Яніна і Васіль спрабавалі памірыць іх, прывучыць, што можна тут жыць ім абаім і што яны абаім ім рады, але скончыўся ліпень, пачаўся жнівень, а іхняя прымірэнчая спроба не ўдавалася. Каб паспачуваць Мурцы, мусілі навязаць Мурзіка каля склепа, пасяліць яго ў будцы, дазволіць кошцы хадзіць там, дзе яна хоча, без ніякай перашкоды заходзіць у зямлянку. Мурка, ці то засумаваўшы за год без людзей, ці то баючыся іх зноў страціць, лічы, не адступала ад Яніны і Васіля ні на крок: ідуць яны на поле, у лес альбо вяртаюцца, заходзяць у зяМлянку — яна пляцецца ўслед за імі. Лягуць спаць — і яна сцюцюрыцца ў іхніх нагах, ціхенька мурлыча ад шчасця. Мурзік панерваваўся колькі дзён — ліслівіў перад імі, гыркаў на кошку,— а пасля здаўся, падпарадкаваўшыся сваёй долі, хоць, канечне, затаіў прыкрую злосць на кошку.

Сёння ўвечар Яніна і Васіль позна не клаліся спаць. Яна пры святле лучыны, што тлела на пліце, латала яго падраную на локцях і разарваную пад пахамі кашулю, а ён тачыў бруском серп — па-першае, рабілі пры зямлянцы і ў самой зямлянцы не толькі ўдзень, але і ўвечар, а па-другое, заўтра з раніцы меліся пайсці на рэчку, на Сядзіўную, каб нажаць аеру. Ім, як і зямлянку, думалі накрыць склеп.

Абое, не змаўляючыся, аж уздрыгнулі, калі пачулі, што на двары нечакана забрахаў Мурзік. Яны кожны вечар чакалі сабачага брэху, дранцвелі, калі чулі яго, але сёння адразу ж разгубіліся ўдвая ці ўтрая, чым звычайна. Кожнаю жылкаю адчулі: цяпер Мурзік брэша не так, як раней цяўкаў на Мурку (а цяўкаў тады не вельмі пагрозна, смела ды з перавагаю сваёй сілы), цяпер жа ён нібы спалохаўся і забрахаў з адчаем, з перасцярогаю. Гэтак ён, як, бадай, і кожны сабака, падаваў голас удзень і ўночы ў Ружэвічах, калі заяўляліся нечакана незнаёмыя людзі. Ведаючы ўжо гэты нораў, адчулі: Мурзік брэша на людзей. І найхутчэй за ўсё прарочыць непажаданых — тых, каго яны чакалі ды баяліся ўсе гэтыя дні, пасля прыходу Васюкова і маці. Каб ішоў адзін Янка, дык Мурзік гэтак не перасцярагаў бы, бо ён, сабака разумны, навучаны-правучаны, помніў таго па Ружэвічах.

Бачачы, што Васіль збіраецца выйсці, Яніна хацела затрымаць яго. У яе вачах застыў спалох, і ўся яна наструнілася, нібы закамянела.

— Калі ўведалі пра нас, ідуць, дык ужо нікуды не ўцячэш, не схаваешся,— сказаў ён, адчуваючы, што трэба выйсці і суцішыць Мурзіка, бо той пазней можа заплаціць за свой гэты брэх і жыццём.

На дварэ было ўжо цёмна, халаднавата і, здаецца, расяна. Як ні ўзіраўся туды-сюды, нікога нідзе не ўбачыў, не пачуў.

— Ціха, Мурзік,— папрасіў, каб той не брахаў, не тупаў.— Маўчы.

Той паслухаў, сціх. Але па-ранейшаму стаяў галавою на Ляжджа — і Васіль зразумеў: адтуль, з прырэчных хутароў, нехта ідзе сюды. Неўзабаве Васіль, маючы абвостраны за вайну слых, учуў далёкія крокі. Нехта — і, канечне, не адзін — ішоў па тупкай пагонцы, што вяла з тых хутароў да Амшарка, а з Амшарка — у вёску. Непадалёку, ля поплаву, на муроўі, тупат заціх, і неўзабаве нехта адзін накіраваўся сюды. Ішоў лёгка, амаль нячутна. Пэўне, быў яшчэ малады. Па тым, што Мурзік паводзіўся досыць спакойна, Васіль зразумеў: ідзе не зусім чужаніца.

Не пачуўшы брэху, не выцерпела, выйшла з зямлянкі і Яніна.

— Ну, што тут? — не даходзячы да склепа крокі тры, запытала яна.

Васіль нічога не адказаў, ускінуў угору руку — яна, маючы добры зрок і слых, згледзела гэты яго перасцерагальны знак, замоўкла, затаілася, таксама прыслухоўваючыся.

Чалавек, пачуўшы Янініна запытанне, запаволіў хаду і, здаецца, клацнуў затворам пісталета. Запыніўся. Ці то сам ён усхвалявана дыхаў, ці яму здалося, але Васіль нібы адчуў чужое дыханне.

— Яня? — пачуўся глухаваты голас.

Яны абое выдыхнулі з сябе, здаецца, увесь цяжар: Янка.

— Мы,— адказала Яніна.

Янка рушыў зноў да іх, паўстаў у цемені перад імі невысокай таўсматай постаццю. Здаецца, ці ў фуфайцы, ці ў кароткім бушлаце.

— Вы адны? — не вітаючыся, запытаў ён.— Няма нікога чужога?

— Няма,— цяпер ужо адказаў Васіль.— Мы адны. На ўсю вёску і на ўсе хутары.

Янка, павярнуўшыся, свіснуў тры разы — тут жа з пагонкі сюды накіраваліся людзі. Падаў руку Васілю.

— Ну, здароў,— прамовіў. І праўда, як казала Чапроўская, пахнуў дымам, лесам. Як і лясны звер. Калі Васіль пацiснуў яму руку ў адказ, дык не то збянтэжана, не то храбрачыся, ухмыльнуўся: — Вось у госці да вас прыйшлі...

— Не госць ты, а валацужны сабака! — накінулася на яго Яніна.— Думает, мы так ужо і рады?! Чаго ты прыпёрся? Хавацца? Нас, маму ўцягнуць у пастку? Усіх разам загубіць захацеў?

— Што за шум, а дракі нет? — пачуўся ўжо блізка знаёмы голас, гол ас Вяршка.— Брата роднага сястра не хоча бачыць? Гоніць прэч?

Васіль тузнуў Яніну за руку: маўчы, не агрызайся. Яна сапраўды зацiхла, пазіраючы на няпрошаных гасцей: іх падыходзіла сюды трое. Усе высокія, мажныя. Мурзік загірчэў на іх, нутром чуючы нядобрае, але ні на кога не кінуўся, схаваўся ў будку.

— Ну, гутэн таг,— загуў басам Вяршок, мусіць, як воўк, усё добра бачачы і ў цемені. Усіх вайна змусіла быць заўсёды відушчымі і чуйнымі.— Не рады? Не тых чакалі? — здзекваючыся, раз за разам папраўляў на плечуку рэмень аўтамата. Ці то ад звычкі, ці то палохаў.— Чаго маўчыдё, як вады ў рот набралі? Мову адняло? Ці, можа, думаеце, як бы сігануць у Ружэвічы і заявіць на брата, на нас усіх свайму прыяцелю, Васюкову? Не раю НІ замышляць такое, ні бегчы... Раю быць гасціннымі... Так што запрашайце ў хату.

Першая моўчкі пайшла ў зямлянку Яніна, за ёю падаўся Янка, за ім — Вяршок і яшчэ адзін яго хаўруснік, трэці адышоўся і стаў воддаль ад зямлянкі — відаць, заступіў на варту.

— Добрая зямляначка! — спусціўшыся ўслед за ўсімі, Васіль пачуў Вяршкоў голас.— Лепшая, чым у нас. Утульнейшая.

Пры святле цяпер Васіль пазнаў незнаёмага чалавека: Крушынскі, сын панскага ляснічага. Усе лічылі, што ён яшчэ з трыццаць дзевятага года паехаў з сям'ёю на сваю бацькаўшчыну — у Познань, а ён, бач, туляецца тут. Як і Янка ды Вяршок, пахне сіверам, аж зрывае нос. Толькі тыя ў бушлатах, а ён у шынялі. Усе прыкідваюцца чырвонаармейцамі: Янка з пагонамі радавога, Крушынскі — яфрэйтара, а Вяршок — старшыны.

— Што — не красіф, брудны? — крыўляючыся, ухмыльнуўся Вяршок Яніне, бо яна, седзячы ўжо на палку, не зводзіла позірку з няпрошаных гасцей,— І не толькі цяпер не красіф, але і пасівеф ды палысеф,— шчыльней зацягнуў на акенцы цёмную фіраначку, зняў са спіны досыць пакоўны вайсковы пляцак, сеў справа на лаўцы, апусціў перад сабою долу пляцак і аўтамат. Калі сцягнуў з галавы пілотку і паклаў яе на калена, дык сапраўды было відаць, што паглыбелі на яго галаве залысіны, памаршчынеў лоб, а скроні ды густая шчэць на шчоках сіваватыя. У чорных невялікіх вачах яшчэ выразней застыла непрыязнь, і ад іх выпраменьваўся жудасны холад.

За апошнія гады змяніўся і Крушынскі. З гонкага хлопца стаў мажным мужчынам, таксама палысеў і пасівеў, а тонкі яго нос завастрыўся нібы ў піку, чамусьці скрывіліся тонкія нервовыя губы — ці не быў ён паранены ў левую шчаку. Крушынскі сеў каля стала, аўтамат свой паставіў пры вушаку дзвярэй.

Янка, яшчэ дзяцюк пры мужчынах, быў схуднелы, з запалымі вачыма, з доўгаю драпінаю на шчацэ, быццам ад удару нажа ці кінжала. Ён сеў на палку, але воддаль ад сястры. Васіль апусціўся на сaступкі пры ганку.

— Прыткія!— хітнуў галавою Вяршок.— Яшчэ зямля, лес пахнуць порахам, нідзе нікога, а вы ўжо гоп на гаспадарку! — Пасля нібы ўзрадаваўся: — Але не соладка, бачу, жывецца. Скура ды косці толькі на абаіх. Ці думалі, як кажуць, што пры вялікай любові і ў шалашы рай?

Васіль нічога не гаварыў у адказ, але адчуваў: не варта маўчаць. Набірае моц напружанне, гнятлівасць, і гэта можа неўзабаве выбухнуць.

— Не рады нам, такім гасцям,— зноў пахітаў галавою Вяршок, калі яму ніхто нічога не адказаў.— А мы ж на наваселле зайшлі. Павіншаваць. Са шлюбам, з зямлянкаю. І не з пустымі рукамі заявіліся, а з падарункамі і пачастункамі. Прыйшлі не браць, а даць. Гасцей,

што не абіраюць, а прыносяць добрыя падарункі, трэба ласкава прывячаць. Такія госці — божы даір...

Янка, адчуваючы няёмкасць за свайго верхаводу, за сваё хаўрусніцтва з ім, узяўся прыпальваць новую лучыну. Вяршок у гэты час нагнуўся, развязаў пляцак, дастаў з яго сінюю, з белым гарошкам хустку, сінюю сукенку з белым каўняром і з белымі манжэтамі на рукавах, чорныя, а ўсярэдзіне жоўтыя, з нейкімі белымі штампамі жаночыя туфлі на высокіх вузкіх абцасах, згарнуў усё у скрутак і шпурнуў на палок Яніне.

Тая несвядома злавіла ўжо на падоле ўсё, але трымала, здаецца, нібы палаючую галавешку, вось-вось могучы выпусціць яе з рук.

— Не бойся, не з цыпы якой садранае. З крамы,— ухмыльнуўся Вяршок,— Прыгодзіцца не цяпер, дык у чацвер... Голыя во абое, аблатаныя. Была б мая —дык не тое падарыў бы, увабраў бы як арцістку. А так лепшае аддаў адной цытры, каб хоць раз у месяц да мяне ў лес прыйшла... І табе, сапернік, прынёс тое-сёе,— вывалак з пляцака і падаў цывільны клёшны касцюм, здаецца, сіне-карычневага колеру, цёмную брылёўку і шэрую, у цёмныя клетачкі, кашулю. Усё адзенне было з падвешанымі на нітках цэтлікамі. Паклаў яго Васілю на калені,— Бяры. Таксама ўсё новае, няношанае. Меў злосць на вас, а цяпер, перагарэўшы, не маю. Не пайшоў са мною, аблапашылі мяне — ладна, не тое прападала ці прападзе... Наце і яшчэ тое, чаго цяпер не знойдзеце з агнём...— Гаворачы, дастаў з пляцака два кавалкі цёмнага мыла, некалькі карабкоў запалак, пачак солі. Гэта не падаў ні Яніне, ні Васілю, а паклаў побач, на лаўцы.— Перастанеце зыркаць спадылба, будзеце трымаць язык за зубамі, памагаць калі — дык яшчэ не тое прынясу... Я не галяк, а маю тое, што вам, можа, і не снілася. У мяне ляжаць закопаныя яўрэйскія сталовыя сервізы, сярэбраныя нажы і відэльцы, пярсцёнкі залатыя... Гэтае дабро — заўсёды дабро...

Падышоў да стала, адсунуў конаўку са снараднай гільзы, драўляныя лыжкі і выклаў два боханы чырвонаармейскага хлеба, тры бляшанкі кансерваў, колца вэнджанай кілбасы, салдацкую новую зялёную флягу.

— Вось як мы жывём! Як каралі! — пахваліўся, сеў на другі бок стала, загадаў: — Давай, гаспадыня, шыкуй усё. Папіруем. А ты,— навёў калючыя вочкі на Васіля,— падай вады, каб разводзіць спірт. І варушыцеся вы абое! Не чэрці ж мы ўрэшце! З адной плоці ды крыві! Хоць вы чысценькія, а мы — заплямленыя, але ўсё роўна на адной зямлі ходзім...

Пазней Яніна і Васіль адмовіліся ад пачастункаў («мы павячэралі ўжо»), Янка піў і еў мала, а налягалі на пітво і на ежу Вяршок ды Крушынскі.

Сын ляснічага маўчаў, быў нібы ад усяго адрачоны; Вяршок, падпіўшы, пачаў не прыдзірацца, як бывала раней, а сгіавядацца.

— Страшны, агідны я вам? — пачаў ён, праўда, з крыўдаю.— Нелюддзю, забойцам мяне лічыце? Сам бачу:
седзіцё як на іголках ды думаеце: «О божа! Калі цябе чорт панясе з хаты ды дзе ўходае, звядзе са свету?!» Канечне, інача бы сустракалі, калі не так, а іначай было на свеце... Не любілі б, клялі за вочы, але не нагарджалі б... Не смелі б... Не смелі б наказаць, што гідзіцеся... Бо ніхто перад начальствам не фанабэрыцца, усе хочуць яму дагадзіць...

Ён гаварыў, прынлюшчваў, нібы для прыцэлу, левае вока і, здаецца, па-ранейшаму ўніваўся сваёю ўладаю, уладаю аўтамата, сілы.

— Але ці думаў хто ў сорак першым, што так усё павернецца? — пахітаў галавою, зажмурыўся ад дыму, а можа, найбольш ад адчаю, што, мусіць, які ўжо час тачыў яму душу, нібы шашаль. І той адчай, відаць, не заглушвалі ні зверствы, ні оргіі, ні гарэлка.— Я верыў усёю душою: усё, канец Саветам. Будзе ў нас новая ўлада, новае жыццё. Не бальшавікі, не яўрэі будуць кіраваць, мець усе асалоды, а зусім іншыя сілы. Падумаў я сам сабе: «А чаму і я не магу вынырнуць наверх? Ну, хто быў я дагэтуль у сваёй Оршы? У дваццаць пяць гадоў? Грузчык. Вугаль, мяшкі з соллю цягаў, пуп надрываў. Меў толькі на пражытак, жыў у канурцы, быў гнаны і абсмяяны. А хіба я дурань, абэлтух? Не, я не дурань і не абэлтух. Я заўсёды быў кемны, цямлівы, мог бы інжынерам, урачом ці настаўнікам стаць. Але не стаў. Уся бяда была ў тым, што бацька мой быў поп. Засланіў ён мне дарогу ў навуку, да насад, нарадзіў і пусціў у свет на ганенні, здзекі ды пакуты. Дык не, цяпер, пры новай уладзе, не буду кузюркаю, пастараюся стаць чалавекам. Калі можна апраўдаць тое, чаму быў я такі раней, дык чаму няможна апраўдаць таго, што я хачу стаць іншым?! Адным словам, пайшоў у паліцыю. Сам. «Хачу,— сказаў там,— паслужыць новай уладзе. Шчыра, сумленна, каб яна хутчэй тут узяла моц». Абнюхалі, абмацалі — узялі. Стары мой, праўда, залямантаваў: «Ты — выхрыст, антыхрыстава семя, здраднік! Не смей здраджваць Радзіме, народу!» — І давай-давай далдоніць мне ледзь не бальшавіцкімі лозунгаМі. «Дурань ты стары! Мала цябе ціснулі!» — сказаў я толькі яму і пай шоу станавіцца чалавекам...

Вяршок заціх, наліў з флягі Крушынскаму, сабе ў кубкі спірту, дадаў вады з конаўкі, моўчкі, не запрашаючы, кульнуў, нанова закурыў.

— На службе я не хітраваў, не лайдачыў ці не віляў, як іншыя вілялі,— зноў загаварыў.— І там, і тут не шкадаваў ні бальшавікоў, ні яўрэяў, ні партызан і іх сем'яў, ні ўсякіх падазроных — нікога, хто хоць крыху нос вярнуў ад новай улады... Я і да цябе, галубок,— прыплюшчыў вока на Васіля,— дабіраўся, ды не паспеў. Нутром чуў, што ты ў гаспадаровай кузні не тое, што трэба, клеплеш, уночы людзей з лесу сустракаеш і сам у лес ходзіш... Ды і твой гаспадар, Дошчачка, мне намёкі пра гэта рабіў... Шчасце тваё: не паспеў... Немцы пасля «катла» пачалі рыхтавацца даваць драла, і я пачаў пра сябе больш думаць... Думаў разам з імі падацца. Я ж не дурань, ведаў і ведаю: тут мне канцы. Чамаданчыкі спакаваў, іду ў воласць, дзе адыходзіць на Навагрудак грузавік з чамаданамі афіцэраў. Толькі я ткнуўся, а адзін з іх штурхель мне ў грудзі: «Пшоль! Сваім ходам драпай, ты нам болей не трэба». Аж закалаціла мяне. Ах вы, свалата! Калі я верпа служыў, рабіў усю чорную работу, усталёўваў тут вашу ўладу, дык быў трэба, а цяпер ужо не трэба?! Зло, крыўда мяне ўзяла. Добра, думаю, што вам не толькі ў лыч далі, пыху збілі, але і рукі ды ногі вам пераламалі... Радасць мая гэтая, праўда, адмысловая была, бо не чакаў і не чакаю тут пераможцаў, бо яны нясуць мне толькі кулю ці пятлю... Адным словам, на Захад не пабег, як пабеглі іншыя. А што там рабіць? Кім там будзеш? Парабкам, халуём! Відаць, доля мая такая, каб быць гнаным, кузюркаю, а ўрэшце і загібець сабакам з ліхой памяццю... Але,— вочы яго страшна бліснулі,— не, не палезу сам у цятлю, не смальну сабе у скроню: пацешуся, нагуляю япічэ трохі, пакуль яшчэ час мой, час зброі... Яшчэ ў мяне многа зла, яшчэ не за ўсё я паквітаўся...

Зноў наліў Крушынскаму, сабе спірту, разбавіў вадою і зноў, не запрашаючы таго, выпіў, не закусіў.

— Ён, пан паручнік,— кіўнуў на Крушынскага,— іншы. Ён — рыцар! Ён усё меў, але ўсё страціў. Ён хоча ўсё вярнуць — маёнтак, багацце і яшчэ большае. Да д'ябла мне ён, я яго на ражне бачу, як і яго веру ды ідэю, бо я сам за сябе, але я цяпер з ім, служу яго гаспадару — польскаму лонданскаму цэнтру. ЭміграНцкаму буржуазнаму ўраду ці яшчэ як там, чорт яго ведае... Мне абы з кім хаўрусаваць, хоць з самім д'яблам, абы шкодзіць бальшавікам... Хоць і яго натугі марныя. Яму старой «Польскі ад можа да можа», «крэсаў» ніколі ўжо не бачыць. Будзе Польшча, але ўжо новая, бальшавіцкая, без эміграНцкай буржуазіі. Толку ад таго, што мы передаём усё па рацыі лонданскаму цэнтру пра тылы Чырвонай Арміі, ад нашых дыверсій мала. Чырвоную Армію ўжо не спыніш. Чорт яе ведае, адкуль у яе сіла... Ці бальшавікі трохжыльныя, ці ўвесь народ ідзе за імі ў агонь і ў ваду... Вы ж абое,—

паківаў пальцам на Васіля і Яніну,— таксама бальшавіку Васюкову прадаліся. Ён заваражыў вас сваімі байкамі пра будучы рай на гэтай зямлі... Толькі, я вам скажу, не спакушайцеся, не цешцеся, бо спачатку будзеце вялікі адказ трымаць... Вам за многае не даруюць... Вам, можа, прыйдзецца яшчэ і ў Сібір перасяліцца... Няхай во ён,— кіўнуў на Янку,— скажа, што чуў і бачыў на свае вочы...

— Дурань гэты «відушчы»,— не выцерпела, падала голас Яніна.— Хто дык за заслужанае зложыць сваю галаву, а ён — за дурноту...

— Думаеш: героем стаў бы? Пасмяротна быў бы ўзнагароджаны медалём? — аскаліў зубы Вяршок,— Не, мілка. Усе вы тут асуджаны...

— Калі ў каго рукі не ў крыві ды душа без бруду, дык і тут не прападзе,— рэзка адказала Яніна.— Калі ж хто акрываві́ўся чужою крывёю, аддаў чорту душу, дык і на тым свеце не будзе яму спакою...

— Во, галубок, у цябе систры да дык сястрыца! — пахітаў галавою Вяршок,— Судзіць, бэсціць... А ты яе шкадуеш. На днях, як мы прыйшлі сюды, на гэты хутар, дык ён,— кіўнуў на Янку, — рваўся памагчы вам, калі вы на сабе калёсы з лесам цягнулі. Аж пабялеў, калі мудрая сястрыца ўпіналася-ўпіналася ды ад натугі ножкі задрала. Каб не прыстрашыў, што пушчу нож у спіну, дык і ўдзень выбег бы з лесу...

— Адпусціце вы яго ці праганіце,— нечакана папрасіла Вяршка Яніна.— Вы самі за сябе адказ трымайце, а яго не калечце... Ён жа яшчэ зусім малады, не ведае, дзе праўда, а дзе мана, сам лезе ў пятлю... Маціўдаву, калі маеце ў душы хоць кроплю чалавечага, пашкадуйце...

— Перагарэла ў маёй душы ўсё чалавечае...— хмурна прамовіў Вяршок.— І ў яго паволі перагарыць. Раз сустрэўся з намі на адной сцежцы, дык з намі і да канца па адной дарозе будзе ісці... Як людзі кажуць? Пайшла душа па руках, дык у чорта будзе! Вось. А па-другое, як яго адпусціш? Ён жа ўжо ўсе нашы сцежкі, спраты ведае. Возьмуць яго за кіршэнь, страсянуць — дык ён, як ты, мілка, кажаш, малады, дурны, возьме і прадасць нас. Чалавек, калі яго апанаваў страх, на што хочаш гатовы, зноў і зноў можа прадаць сваю душу...

— Божачка, якое ліха! — забедавала Яніна, калі няпрошаныя госці перасцерагалі іх («Нават і не думайце ўдаваць нас, бо адплацім — перастраляем, і рука нават не дрыгне») і папляліся ў сваю ганебную дарогу.— Які нелюдзь гэты Вяршок! І праўда, нічога чалавечага, святога няма ў яго душы. Адна крыўда, злосць, помета ды ярасць у яго. Увесь свет вялікі ненавідзіць. Загубіць ён нашага дурня...

Яна ўсё яшчэ сядзела на палку, не слала пасцель, не прыбірала са стала, дзе засталіся астаткі ежы, што даўно пахла на ўсю зямлянку,

але — дзіва! — не вабіла, не гнала ў роце сліны. Можа, і таму, што яна была са злыдневых рук. Ківаючы галавою, Яніна сабрала з палка «прэзенты» і склала іх на лаўцы.

— А што будзем рабіць во з гэтым? — задумліва запытала.

— Гэта — паўбяды,— адказаў Васіль, таксама ўражаны, разгублены.— Усё гэта можам выкінуць, схаваць ці аддаць Васюкову. А вось важней іншае — сказаць ці не сказаць, што да нас прыходзілі такія госці?

Яніна вярнулася, зноў задумліва села на палку. Лучына на пліце дагарала, і ў зямлянцы браў моц паўзмрок.

— Выходзіць, трэба заяўляць на роднага брата...— ціха прамовіла яна.— Прыйдзе Васюкоў са сваімі людзьмі, заляжа, прыйдуць тыя — пачнецца страляніна... Адзін бог ведае, хто тады застанецца жывы, зложыць галаву... Калі ж, не дай божа, куля не абміне Янку, дык мама нам тады ніколі не даруе...

— А што ён у лесе выседзіць? — запытаў Васіль, перайшоўшы і сеўшы таксама на палок. Ля самай Яніны.— Уратуецца? Заслужыць дараванне? Не, не ўратуецца і не ўцячэ ад кары. Чым больш будзе хадзіць па крывых сцежках, вытвараць разам з тымі нелюдзямі, дык тым больш строгі пазней будзе для яго суд... Ды і нам цяжка ўвесь час жыць у страху...

— І нам, і яму можа быць смерць...— пахітала галавою Яніна,— Божа мой, чаму ты ўсё-такі нелітасцівы? Перажылі вайну, выцерпелі пекла, дык не, зноў
ні спакою, ні радасці няма. Нават цяпер, пасля вайны, возьмеш ды і складзеш галаву...

— А як іначай ўратаваць Янку? — запытаў ён ужо ў цемені, бо лучына патухла.— Бачыш, нават пагаварыць з ім не далі, не адпускаюць яго ад сябе ні на крок.

— Каб жа я ведала, як яго можна ўратаваць, дык...— усхліпнула, прытулілася да яго.— Адно толькі душа чуе: загубіць ён калі не нас, дык сябе... У такія маладыя гады, у такі час... Не пацешыцца, можа, ні сваёю хатаю, сямейкаю, а будзе змоладу сырую зямлю парыць...

— Дык утрая, я лічу, трэба паспрабаваць выратаваць яго...— ужо цвёрда сказаў Васіль,— Можа, удасца як адарваць яго ад шайкі, вярнуць да розуму. Будзем маўчаць, а ён рана-позна пападзецца, загіне — усё жыццё тады сябе не апраўдаеш, сабе не даруеш...

## 8

Засада трое сутак цярпліва чакала Вяршка, але дарма. Той ці вылежваўся ў сваёй бярлозе, ці недзе рабаваў альбо, можа, па-звяры-

наму і насцярожыўся — сюды ні ўдзень, ні ўночы не патыкаўся. Ад бяссоння ды напружанасці выбіліся з сіл і Яніна ды Васіль і Васюкоў з людзьмі.

На чацвёртыя суткі апоўначы Мурзік падаў перасцерагальны голас — спачатку гаўкнуў раз-другі ціха, нібы будзіў, а пасля трывожна забрахаў. І калі пачуў неспакой сабакі, і калі ўжо на цёмным двары адной рукою гладзіў яго па галаве і шыі, а ў другой, запацелай, сціскаў пісталет, Васіль аж дрыжэў: па-вар'яцку часта і шалёна закалацілася сэрца. Сама душа адчувала: хуткая сустрэча добра не скончыцца, акрываніць хутар, і адзін бог ведае, хто ўцалее, а каго неўзабаве і падкосіць куля. Па рыпу дзвярэй пачуў, што высунулася з зямлянкі Яніна: ёй там адной, відаць, вельмі страшна. Засыкаў — яна зноў схавалася, хоць, канечне, не супакоілася, таксама — а можа, яшчэ і больш — не магла суняць дрыжыкі.

Цёмная, амаль без зорак ноч, глухое наваколле, хутар застылі ў трывожным чаканні. Настала такая цішыня, што аж звінела ад яе ў вушах і, здаецца, не адчуваўся, а якраз чуўся стук сэрца.

Але вось у вушах нібы забухала: на пагонцы пачуліся крокі. І яны ўсё прыбліжаліся ды прыбліжаліся, скарачаючы шлях да няўмольна трагічнай хвіліны. На поплаве крокі заціхлі, а пасля ўзнавіліся: нехта ішоў сюды, да зямлянкі. І не адзін.

Васіль зусім разгубіўся: бурыўся іхні першы план, на які ён так спадзяваўся, і ўсё далейшае станавілася непрадбачанае. Па тым, па першым, плане Васіль павінен быў затрымаць, абяззброіць Янку і зацягнуць у зямлянку, каб выратаваць ад кулі, калі той зноў, як і мінулы раз, падыдзе адзін, а Васюкоў са сваімі людзьмі ў гэты час меўся ўзяць жывымі альбо знішчыць астатніх — адпетых злачынцаў. Цяпер, па іншым плане, Васілю трэба аглушыць альбо страляць у чужака, спадзеючыся, што Янка на яго, сйаяка, зброі не падыме. На словах, можа, усё выходзіла і гладка, але ці будзе ўсё так на самай справе?

Васюкоў з людзьмі затаіліся, і Васіль па постацях што набліжаліся, убачыў: ідуць сюды двое. Мурзік загірчэў, чуючы пагрозу, і Васіль наўмысна падаў голас: «Ціха, ціха, Мурзік», каб тыя яго пачулі.

— Гаспадар? — за крокаў пяць запытаў незнаемы.

— Я, — адказаў Васіль, хаваючы ў кішэню пісталет.— Сабаку во суцішваю.

— Чужых няма?

— Не,— прамовіў Васіль, баючыся, што сваім цяперашнім, здрадлівым голасам можа насцярожыць прышлых.

Постаці прыблізіліся. Адзін, крышку ніжэйшы, быў Янка, другі, высокі, ці не ў расхінутым шынялі, быў незнаемы. Па аблічччы падобны на таго, што ў той прыход стаяў на варце.

— Чаго так смярдзіць бензінам? — ужо зусім блізка запытаў незнаемы.— На машыне тут быў хто?

— Я знайшоў і прынёс дадому пустую каністру. Вот яна і пахне,— ледзь не заікаючыся ад хлусні ды напружанасці, замармытаў Васіль, здзіўляючыся, які чуйны ў прышлага нюх.

Пакуль Янка падаваў Васілю руку, незнаемы зазірнуў у зямлянку, засвяціў туды, усярэдзіну, ліхтарыкам — ад святла, што адбілася ад сцен зямлянкі, у праёме дзвярэй Васіль убачыў сагнутую постаць незнаёмца — сапраўды ў расхінутым шынялі, з аўтаматам у правай руцэ, у ботах. Патушыўшы святло, відаць сам на свае вочы ўбачыўшы, што чужых людзей няма, той гукнуў савою. Тут жа з пагонкі пачуліся жвавыя крокі.

Стоячы ля Янкі, Васіль адчуў: той падвыпіўшы. Значыць, недзе пілі і рашылі зайсці сюды. Васіль засунуў руку ў кішэню і намацаў пісталет, каб неўзабаве ціха дастаць альбо выхапіць яго і смалянуць рукаяткаю незнаёмца па карку. Але ці зваліш з ног, аглушыш такога спрактыкаванага, асцярожнага бугая?

У гэтую ж хвіліну нечакана ля лугавіны, за былым садам і плотам, успыхнуў агонь і, робячы вогненную дугу, упаў на поплаве, узвіўся слупам і высвеціў дваіх, Вяршка і Крушынскага, што спакойна ішлі да зямлянкі. Тыя аж аслупянелі ад нечаканасці, на міг у адзін час закрылі твары рукамі. Крушынскі нават трымаў у руцэ аўтамат. Пасля адскочыліся: загарэлася над імі зямля. Факел, намочаны ў бензіне і цяпер падпалены, удала ўцэліў у загадзя аблітае бензінам сена на поплаве.

— Рукі ўверх! Вы акружаны!— пачуўся голас Васюкова. З лугавіны.

Двое, Вяршок і Крушынскі, тут жа апамяталіся — відаць, ад звярынага страху — і з нечуваным спрытам пусцілі чэргі з аўтаматаў на лугавіну. У адказ ім бліснуў, панёсся агонь і з лугавіны, і ззаду — з поля. Амаль у адзін жа час абодва рухнулі на дол як падкошаныя — адзін ткнуўся носам, а другі, нібы пераламаўшыся,— гупнуў на спіну. Нехта з іх дзіка заенчыў.

Васіль ад нечаканасці, а то і разгубленасці, а заадно лішняе імгненне зірнуўшы на тых двух, што замітусіліся пры агні, згубіў спрыяльны момант: незнаёмец, а ўслед за ім і Янка, убачыўшы небяспеку, не страляючы, гойснулі ў супрацьлеглы бок — за склеп, у жыта. Яны былі выразна відаць пры святле, але цяпер Васіль бачыў

не так іхнія спіны, а ўсё яшчэ вялікія Янкавы вочы. Той, калі шухнуў на поплаве агонь, устрапянуўся і жудасна вырачыў вочы. Відаць, і ад небяспекі, і ад таго, што яны з Янінаю не перасцераглі яго ад засады.

— Янка! Лажыся! Падай! — закрычаў Васіль, але Янка не падаў, не лажыўся, пёр у поле,— Ян...— Зноў паклікаў ён, але голас яго патануў у аўтаматнай чарзе. Адтуль, з жыта, хлебяснуў аўтамат, выкінуўшы насустрач уцекачам агонь, і кулі заціўкалі ў Васіля каля вуха. Янка і незнаёмец быццам спатыкнуліся; Янка нібы стаў на дыбкі, выцягнуўся, а пасля кульнуўся на бок, незнаёмец, узмахнуўшы рукамі, гопнуўся ніцма.

Нечакана зноў стала ціха-ціха, толькі пры аслабелым святле пачулася, што пахне спалены порах. Да Вяршка і Крушынскага, да Янкі з незнаёмцам з усіх бакоў, прыгінаючыся, пабеглі людзі Васюкова.

— Гатовыя,— сказаў нехта задаволена на поплаве, падбіраючы з зямлі аўтаматы Вяршка і Крушынскага.

Падбіралі зброю і там, дзе ляжаў Янка.

Як не сваімі нагамі Васіль пасяшаўся туды і, дабегшы, пры зусім ужо слабым святле ўбачыў, што Янка шкрэбае праваю рукою па зямлі, глуха стогне. Скроня, шчака яго чамусьці цёмныя-цёмныя — відаць, куля трапіла яму ў галаву, і адтуль, з раны залівае шыю, твар кроў.

— Братцы,— пачулася ззаду, з-пад лугавіны.— Васюкоў забіты...

Тыя, што стаялі ля Вяршка і Крушынскага, пабеглі да таго месца, дзе ляжаў у засадзе Васюкоў; у гэтую ж хвіліну наваколле агаласілася пранізлівым жаночым енкам — з раскінутымі рукамі, галосячы, імчалася ад зямлянкі сюды, дзе стаяў Васіль, Яніна. Але, відаць, позна ўжо было як-небудзь памагчы яе брату...

## *ЭПІЛОГ*

— Ідзі на двор,— загадала Чапроўская,— Ты нічога не паможаш, толькі будзеш замінаць. Ды і не трэба табе, мужчыне, быць тут.

Васіль накінуў на плечы бушлат і яшчэ раз з жалем, са шкадобаю зірнуў на Яніну. Тая, у белай кашулі, накрытая самадзельнаю, пашытаю з усякіх каляровых кавалкаў коўдраю, не зважала ні на маці, ні на яго, моршчылася, нават курчылася ад болю і то стагнала, то лямантавала на ўсю зямлянку, аж, здаецца, сінеючы ў твары.

Ён паслухаў цешчу і выйшаў. Ён ведаў, што цешча (кабета, маці) лепш дагледзіць, паможа Яніне, дык не варта ёй надакучаць, таўчыся ў яе гіерад рукамі. Дзякуй богу, адпусцілася во, прыйшла і ўвесь гэты тыдзень жыве з імі: дагэтуль не толькі не прыходзіла сюды, але, лічы,

не гаварыла з імі, не дазваляла, каб паказваліся ёй на вочы і ў Ружэвічах. Яна лічыла, што і яны абое вінаватыя ў Янкавай пагібелі, не ўратаваўшы яго, маладога, няцямлівага. Ён як мог апраўдваўся, Яніна горка плакала, кленучыся, што яны рабілі ўсё толькі для таго, каб якраз адвесці Янку ад бяды, але старая не толькі пакрыўдзілася, а зацялася і нібы зненавідзела. Ніхто яе сюды цяпер не клікаў, сама прыйшла, здаецца, адпусцілася, палагаднела. Праўда, сынава пагібель не прайшла для яе незаўважна: зусім ссівела, пачала выглядаць старою бабуляй.

Васіль запыніўся каля зямлянкі. Тут, на дварэ, пасля зімовых маразоў, мяцеліц усталёўвалася пяшчотная сакавіцкая цяплынь. Неба было ўжо высокае, блакітнае, з кучмамі белых воблакаў, з амаладжаным яркім сонцам. Каля зямлянкі, склепа, стажка сена, а таксама ля паднавеса, дзе зімавала карова, якую наказаў ім даць перад смерцю Васюкоў, значыць, там, дзе быў зацішак, прыгрэвак, пачаў асядаць, раставаць снег і паказаліся першыя лапікі зямлі, што ўжо абуджалася, прагла волі, цяпла і жыцця. У паветры ўжо прыемна запахла яе жыццядайным водарам. Надыходзіла часіна вялікай паводкі, а таксама таго чаканага моманту, калі вось-вось павінны былі прыляцець сюды птушкі. Васіль найбольш любіў якраз такую пару, бо адчуваў абуджэнне, радасць у душы, а таксама прагу да працы, да зямлі, да песень, да нейкай новай надзеі ды веры.

Гэткае ж, узнёслае, пачуццё было ў яго і сёлета. Цяпер, праўда, у яго яшчэ быў і вялікі клопат. Усе яго думкі былі найперш пра Яніну; кожны яе адчайны енк, крык ці стогн болем адклікаўся ў яго душы, і заадно ён з нецярпеннем чакаў той хвіліны, калі зямлянка, іхняе жыццё азорацца святлом вялікага жывога покліч у, радасці ды шчасця, калі пасля гэтага зменіцца іхняя доля, зменяцца яны самі, калі сцвердзіцца вялікая і магутная загадка прыроды, свету і род чалавечы павялічыцца, каб не звясціся, а яшчэ болей і далей доўжыцца.

Вось Яніна надзвычай адчайна і доўга закрычала, здаецца, з усёй сілы, і ён, заміраючы, не мог выцерпець гэтага крыку, гэтага болю, заткнуў вушы пальцамі — хоць на хвіліначку нічога не чуць, думаць, што Яніне не толькі палягчэла, але і добра. Цяжка было адчуваць, што ты нічым не можаш памагчы любімаму чалавеку, які цяпер, рыхтуючыся даць новае жыццё, сам, бадай, развітваецца з гэтым светам. Без Янінінага крыку, таксама без ціхай песні капяжу, далікатнай мелодыі марозна-сонечнага паветра зазвінела ў вушах ці ў галаве, і ад гэтага настойлівага, неадчэпнага звону ці, можа, і ад хвалявання

задрыжэлі пальцы, рукі. А можа, яны закалаціліся па нейкай іншай, нават невядомай яму прычыне.

«Божа, памажы ёй»,— маліў ён у думках. Пасля не вытрываў адлучанасці, адклаў пальцы, каб зноў чуць тое, што робіцца ў зямлянцы, а таксама як ціхенька пяе прырода. І ў гэтую хвіліну аж скалануўся: замест Янінінага крыку пачуў тоненькі адчайна-патрабавальны піск. У яго памлелі ногі ды сэрца аблілося гарачынёю не то ад радасці, не то ад разгубленасці: нарадзілася дзіця! У яго ёсць сын ці дачка! Яны з Янінаю ўжо не маладыя хлопец і дзяўчына, а тата і мама!

Дзіця, паддаючыся нейкаму магутнаму вечнаму клічу, усё надавала і падавала свой голас, нібы сцвярджаючы: я — Чалавек, жыву, раз мне было суджана прыйсці на гэты свет! Перапаўняючыся радасцю, хваляваннем, Васіль з нецярпеннем чакаў таго шчаслівага моманту, калі яму можна будзе зайсці, зірнуць на яго, гэтага Чалавека, у якім пульсуе і яго кроў. Як бацька, ён адчуваў, што першае іхняе дзіця нарадзілася і ў цяжкі, і ў шчаслівы час — у год, калі скончыцца доўгая, шматпакутная ды шматкроўная вайна, прыйдзе Вялікая Перамога, усталюецца на роднай зямлі мір, хоць немаўляці разам з імі, бацькамі, прыйдзецца нямала сербануць ліха, пагараваць, пасніць перададзеных ад іх трывожных сноў... Нават аж сам здзівіўся, што да яго ў гэтыя хвіліны прыходзіць нейкае новае, узмужнелае, пачуццё, нейкая новая — ці не мудрэйшая — развага, нейкі новы, ужо бацькоўскі клопат.

Урэшце, калі ён ужо знемагаў ад нецярпення ўбачыць Яніну і дзіця, адчыніліся дзверы і з зямлянкі вызірнула Чапроўская.

— Заходзь, бацька,— усміхнулася яна і, калі Васіль уваходзіў, пазіраў на палок, на даўгаватую, бледную, з заплюшчанымі вачыма Яніну і невялікі скрутачак каля яе, дадала шчасліва: — Сына маеш... Так што не звядзецца род...

1983-1984

## ЮЛЯ

### 1

Юля хацела ўжо зваліць бярозу, апусціла на снег сякеру і, колькі мела сілы, націснула на ствол плечуком, пахіляла яго ў бакі — дрэва страсянулася, заківалася верхавінкаю, густа акрапіла Юлю талаю вадою, але ўтрымалася і не ўпала.

Тады яна абтаптала высокі наздраваты снег ля камля, абламала паблізу тонкія кусцікі, за якія чаплялася сякера, і пачала падсякаць

ствол, адчуваючы, як слабеюць, выпускаюць тапарышча рукі, як ныюць плечы і хутка-хутка, моцна стукае ў скронях.

Бяроза нарэшце хіснулася, нахілілася, павісела хвіліну на асіне, але не ўтрымалася, трэснула, садрала ля камля кару і паляцела долу. Юля задаволена разагнулася, усміхнулася, аблізнула сухія вусны, абмахнула мокрым, белым ад бярозавай кары рукавом пот, пастаяла хвіліну і, ледзьве паднімаючы сякеру, абцерабіла бярозу ад вецця, перасекла яе на палавіне і падягнула камель да саней.

Снег тут, у маладым лесе, ляжаў яшчэ глыбокі, рыхлы, пад ім збіралася вада — ногі правальваліся, на кані сюды нельга было пад'ехаць. Трэба было дягаць дровы за сотню крокаў.

Такой парой гаспадарліваму чалавеку і ў галаву не прыйшло б ехаць у лес. Але Юля спаліла ўсе дровы. Папрасіла каня, перагаварыла з лесніком і прыехала ў лес.

Нізка свяціла цёплае ўжо сонца, у зацішку ўгравала: блізка і чуйна цягнула адталаю зямлёю, спрэлым, сплеснелым лісцем, шыгаллем, чарнічнікам, верасам, травою — усім тым, што засыпаў восенню снег. Незразумела лёгкае было паветра з яшчэ няблізкім, кволым, але такім знаёмым свежым пахам вясны, і цяпер бярозавік, святло, высокае зіхаткое неба захваляваді, і Юля затрывожылася, быццам, калі растане, сцячэ ручайкамі апошні снег, вернуцца з песнямі, сваімі клопатамі птушкі, зацвіце, закрасуе зямля,— настане зусім іншая, больш дзівосная і шчаслівейшая пара...

Калі цягнула камель да саней, правальвалася, набірала ў боты снегу. Прывалакла, кінула паблізу сякеру і хацела прысесці, але не села: ведала, што тады цяжка будзе падняцца. Яна толькі нагнулася, згарнула счарнелы зверху снег, зачарпнула белага і лізнула яго.

— Не змёрз? — спытала ў сына, які сядзеў на санях і складаў з трэсачак хатку.

— Не,— адказаў Пецька.

— Прагаладаўся?

— Ага.

— Паедзем зараз, сынок,— сказала Юля.

— І я буду кіраваць канём?

— Ты, сынок,— суцешыла сына Юля і вярнулася па апошнюю на бярозавай палянцы верхавінку. Рашыла болей не секчы, хопіць...

Верхавіна была лёгкая, і Юля, пакуль амаль улегцы ішла з ёю адчула, што адышлі рукі і плечы, перастала стукаць у галаве. Калі дайшла, палажыла ўпоперак саней два палены і пачала накладаць на іх дровы.

Узлажыўшы бярэзнік на сані, абцягнула яго ланцугом, зашчапіла крукам за кольца другога канца, высекла, як гэта робяць мужчыны, тонкі кіёк, падсунула яго пад ланцуг, закруціла, колькі хапала сіл,— каб не гайдаліся, не развальваліся дровы. Сын таксама памагаў, мітусіўся пад рукамі, і яна радавалася, што выседзеў столькі ў лесе, не замінаў ёй.

«Хопіць на месяц паліць,— падумала,— а там пацяплее».

Сабрала растрэсенае канём сена, ускінула на сані, адвязала ад асіны лейцы, дала іх сыну, цмокнула на каня. Конь ірвануў прымёрзлыя да снегу сані, выцягнуўся, аж затрашчала дуга, але сарваў з месца, пайшоў павольна. Месцамі ён глыбока правальваўся, станавіўся, сын тузаў лейцамі — і конь выскокваў з глыбокага снегу, сам выбіраў цвярдзейшае месца.

На вялікіх светлых палянках снег раставаў, на іх падсыхала галлё, леташняя трава. Лясную ж дарогу выездзілі, выкаталі за зіму, цяпер на ёй яшчэ ляжаў тонкі цвёрды лёд, які паволі адтаваў, сцякаў вадою і блішчаў на сонцы. Узбоч дарогі снегу зусім не было, там было мокра, а на ўзгорках абсыхала, бялелася зямля — там бегалі ўжо неспакойныя мурашкі.

Не паспела Юля падумаць, што па такой дарозе ўжо не пара ездзіць у санях, як яны мігам саслізнулі на ўзбочыну, і адзін полаз зашаргацеў па пяску. Конь стаў. Юля сама тузала яго лейцамі — конь сцінаўся, ірваўся з месца, але выцягнуць цяжкія сані на дарогу не асільваў.

Яна адламала паблізу асінавую галіну, абцерабіла яе ад вецця і сцебанула каня — той ірвануўся, але саней нават не скрануў. Юля зноў дала сыну лейцы, папіхала сані і крычала на каня, пасля зайшла і хацела прыпадняць аселы, угрузлы бок — сані былі цяжкія, і падняць іх не хапала сілы.

— Мама, і я памагу,— азваўся Пецька.

— Сядзі, сынок,— папрасіла Юля, падышла і села ля яго.— Не здолеём мы з табой выпіхнуць на снег сані.

— А баба наша здолее? — спытаў сын.

— Каб была тут баба, то, відаць, далі б рады,— Юля ссадзіла сына, адпусціла ланцуг, каб скінуць на зямлю дровы, выехаць на цвёрдае ездавое месца і зноў нагрузіцца. Ужо адчапіла крук, скінула сякеру і сена, як убачыла лесніка Міколу, што выйшаў са стрэльбай за плячыма са старога лесу.

— Ці не задрамалі тут на сонцы? — усміхнуўся ён.

— Не выедзе во конь,— збянтэжылася Юля.

— Дзе ж ён тут табе выедзе,— сказаў Мікола, абышоў і агледзеў сані.— Тут і трактар не вывалача. Ужо трэба ў калёсах, маладзіца, ездзіць. Пажартаваў з цябе конюх, калі пасылаў з саньмі.

— Разгрузіцца, мусіць, трэба,— прамовіла Юля.

— Не трэба, лішняя работа толькі. Сячы голле і давай яго сюды,— сказаў Мікола.

Юля абсекла з бліжэйшай алешыны голле, збіла зялёны густы ядловец, маладую пушыстую елачку і падала ўсё Міколу. Той выцягнуў з-пад ланцуга верхнюю палку, падлажыў яе пад сані і паклікаў Пецьку: «Хадзі сюды, мужчынка!» Яны ўдвух прыпаднялі сані, а Юля падкінула пад палаз мокрае і слізкае галлё.

— Дужы ты, Пецька! — усміхнуўся Мікола, апусціў сані і сказаў Юлі паганяць каня.

Юля цмокнула, конь крануўся і лёгка выйшаў на ездавую дарогу.

— Дзякуй табе, Мікола,— усміхнулася, пашчаслівела Юля,— сама я не здагадалася б на такое.

— Ты сыну свайму дзякуй,— сказаў той,— добры ў цябе малец. Ды і во колькі дроў насек.

— Гэта не я сек, а мама,— засаромеўся Пецька.

— Мама твая магла б сама ў лес і не ездзіць,— сказаў Мікола,— мог бы ездзіць мужчына, каб маці...

Юля прамаўчала, адвярнулася, ускінула на дровы сена, пасадзіла сына і тузанула каня за лейцы.

— Я ўжо дужы, мама,— калі ад'ехаліся, азваўся Пецька.— Каб не я, то дзядзька Мікола не падняў бы саней.

— Ты ж мужчына, сынок,— усміхнулася Юля,— пяты гадок ужо табе.

— Я буду яшчэ больш есці, каб дужэць.

— Еш сынок.

— Тады буду адзін у лес ездзіць.

— Будзеш.

— І нікому не дам пакрыўдзіць цябе,— па-сталаму сказаў сын.

— Дзякуй, мой асілак,— Юля пацалавала Пецьку і накіравала каня па коўзкай цвёрдай дарозе, баючыся, каб зноў не саслізнулі на пясок сані.

## 2

Конь цягнуў пaціху сані, палазы слізгалі па лёдзе, рыпелі гужы — і Юля суцішылася, ішла, трымалася за бярозавы сук. Прыціх і Пецька, сядзеў на дровах, што верабей, і думаў аб нечым сваім.

Юлі ўспомнілася, што вось так было і раней: яе з сабою ў лес браў бацька, яна зносіла і паліла галле, а то гуляла па лесе, збірала ягады ці кветкі ці сядзела ля воза і чакала, калі паедуць дадому.

Бацька, зрабіўшы сваю работу, садзіў яе на воз, і яны ехалі дахаты. Ехала яна, а бацька ішоў, трымаўся за ўсаджаную ў палена сякеру, курыў і жартаваў. Працаваў ён моўчкі, любіў, каб яму не перашкаджалі, але пасля быў вясёлы.

Цяпер вось едзе на возе яе сын, а ідзе яна. Хоць, падумала, павінен ісці бацька гэтага дзіцяці, а цешыцца яздою — сын. Але ў Пецькі бацькі няма.

Юля спрабавала ўявіць, як жыла б яна з мужам. Відаць, не ездзіла б сама ў лес, не рэзала і не калола б дроў, не касіла і не арала б... Не памёр яе муж, жывы, працуе недзе; Пецька і не ўспамінае яго, відаць, забыўся, затое яна часта ўспамінае, думае, што нядобра разышліся. Не разводзіліся, паспрачаліся, яна сабрала чамадан, узяла дзіця і паехала да маці. Можа, і трэ было вярнуцца да мужа, але не дазваляе гонар: Генадзь не прыязджае і не піша ей, не просіць, каб вярнулася.

— Мама, мама, кветачка!

Яна прыпыніла каня і паглядзела, куды паказаў сын, на сонечнай палянцы ля старога, некалі абгарэлага, а цяпер цёплага лому відаць была блакітная пралеска. Юля зняла з дроў сына, і яны пайшлі да лому.

— Якая прыгожая! — здзівілася Юля. Як магла пры такім холадзе з'явіцца такая кволая кветка? Сарвала яе і падала сыну.— Не пахне, але колькі красы! Давай пашукаем яшчэ, збяром букецік.

Яны адышліся ад палянкі, абыходзілі лапіны снегу, але пралесак больш не знайшлі.

— Відаць, ты будзеш шчасліВенькі, мой мужчынка,— абняла сына за плечы Юля.

— Я буду дужы,— запярэчыў сын,— буду памагаць табе.

— І дужы будзеш,— супакоіла яго Юля,— але і дужаму, і нядужаму таксама шчасце трэба...

Сын, канечне, не разумеў яе, сядзеў на дровах і трымаў кветачку, кіравала канём Юля.

Калі выехалі з лесу, Юля ўбачыла маці. Тая, відаць, не магла дачакацца іх і выйшла насустрач.

— Трэ было не секчы столькі,— сказала старая.

— Прывязём, дык будзе,— адказала Юля.

— Я думала, заселі недзе. Якая пара, а вас няма.

— А я памагаў дзядзьку паднімаць сані,— пахваліўся Пецька.

— Жывы яшчэ, верабей? — усміхнулася бабуля.— Не змёрз?

— Не.

— Я ўжо і перажывала, што пусціла цябе ў лес. На во, пагрэйся,— яна дала ўнуку лусту хлеба, памазанага мёдам.

— Каб адна была, то сядзела б без дроў.— сказала Наталля, Юліна маці.

— Пасадзім бульбу, навозім дроў, каб на ўсю зіму было.

— Паедзеш, можа... Я ўжо сама неяк збяру ці папрашу каго.

Юля прамаўчала, не магла сказаць тое, што ведала, рашыла. Маці здагадвалася аб гэтым і болей не напамінала, думала, што дачка сама знае, што ёй рабіць.

— Анька прыехала,— сказала Наталля.

— Адна ці з сям'ёю?

— Адна.

З Анькаю Юля разам хадзіла ў школу, ездзіла па вярбоўцы на работу, там яны і выйшлі замуж: Юля — за Генадзя, шафера, Анька — за начальніка ўчастка.

У Юлі не ўдалася сям'я, Анька была шчаслівая — як пісала лісты, то хвалілася: «Жыву і жыць хочацца».

Юля ведала, што Анька прыйдзе вечарам, будзе хваліцца і растрывожыць душу. Юлі не хацелася з ёю сустракацца.

## 3

Як звечарэла і ў хатах запалілі святло, па-далікатнаму пастукаўся і зайшоў Мікола-ляснік. Юлінаму малому прынёс пакуначак пацёртых за дзень у кішэні, цёплых цукерак, старой — букецік блакітных пралесак.

— А табе, маладзіца, нічога няма,— усміхнуўся, шчыпнуў Юлю.— Ты сама мне тое-сёе вінавата...

— Сядай, Мікола, будзь госцем,— таксама ўсміхнулася Юля, змахнула ручнікам стол, схадзіла ў кладоўку і прынесла кавалак мёрзлага сала.

— Уключы плітку ды падсмаж сала,— сказала ёй маці.— Чалавек за дзень намёрзся, то яму цяпер пагрэцца трэба.

— Не трэба, цётка Наталля,— махнуў рукою Мікола, сеў ля стала.— Чалавек я свойскі, не ганарлівы. Што ёсць, тое і добра. Рэж, Юля, і мёрзлае... Хадзеце, цёця, вып'ем, каб дровы добра гарэлі.

— Хіба кропельку мне, сынок, ды за дровы,— старая сёння ахвотна згадзілася выпіць і сама капнула сабе ў шклянку.— Выпі, Міколка, яшчэ, можа, сухастою дасі. На падпалку. Сам ведаеш, без мужчыны жывём: я старая, а яна...

— Мама! — папрасіла Юля.— Перастаньце...

— Што — мама, што — перастаньце?!— не выцерпела, зазлавала маці.— Калі мама сама не папросіць чаго, то ты век не папросіш...

— Дадзім, цётка, якую сасёнку, не будзеце без дроў сядзець,— усміхнуўся Мікола.— Абсохне скора, то галля сабераце, сухастоіну якую павaліце. Свае ж людзі, суседзі...— Мікола ўжо недзе выпіў, пасядзеў крыху тут, у цёплай хаце, то яго добра разабрала. Стаў ён надта вясёлы і добры.— А ты, гаспадар малы, чаго на катовай горцы грэешся? Злазь, хадзі да нас!

— Намерзлася дзіця ў лесе, няхай адагрэецца,— заступілася за ўнука Наталля.

— Канём ужо спраўна кіруе,— сказаў Мікола,— і сані выпіхаў з пяску на лёд, так упёрся, ажно пачырванеў у твары... І Юля пачырванела...

— Мой ты сынок, Міколка,— пабедавала старая,— хіба бабе ў лес ездзіць, секчы ды пілаваць?

— І я, цётачка, ёй так казаў. Гавару: магла б сама ў лес не ездзіць, ля дому мужчынскую работу і не рабіць. Трэба толькі...— нахіліўся Мікола да Наталлі і зашаптаў ёй на вуха.— Трэба, цётка, зяця добрага браць. І лягчэй жыць будзе, і ёй весялей стане...

— Я ёй, Міколка, ніколі не замінала і цяпер не замінаю...— сказала Наталля і пабралася да ўнука на ляжанку.— Хай сама робіць, што хоча. Не маладзенькая, свой розум мае...

— І не піша зяць пісем, не збіраецца сюды прыехаць ці да сябе забраць? — спытаў Мікола.

— Дзе ён піша...— прамовіла старая.— Каб хацеў жыць разам, ужо даўно, як ты кажаш, прыехаў бы сюды, застаўся б ці да сябе паклікаў. Ой, Міколка, ты добры чалавек, нікому нічога не скажаш, дык я табе прызнаюся: як выйшла яна замуж, так і жыве! Чаго было ёй перціся на тыя заробкі, сыходзіцца з чужым чалавекам? Хіба тут работы не было ці свае хлопцы не маглі б замуж узяць? Не падумала вось добра...

— Перастаньце, мама,— незадаволена сказала Юля.

— Вось і ўся яе гаворка са мною. Перастаньце ды памаўчыце...— прамовіла Наталля.— Жыве як старая баба, хаваецца ад усіх. На днях тутэйшы настаўнік, такі талковы, сталы чалавек прыходзіў, мяне ды яе ўсё па бацьку называў, цукеркамі частаваў. Відаць, што хоча да нас у прымы прыстаць. Хай бы і брала яго. Дык дзе табе: сказала слова ды збегла з хаты... Шафёр барысаўскі, таксама важны чалавек, на тым тыдні сватаўся — і ў горад браў, і тут згаджаўся быць — адмовілася... Чакае нечага...

— Ой, мама, як надакучылі мне вашы песні! — сказала Юля і зірнула ў акно: ёй здалося, што хтосьці прайшоў па двары.

Яна ўстала, падышла да акна і паўглядалася, але нікога не заўважыла.

— Давай, Мікола, яшчэ вып'ем,— сказала яна.

— Давай, Юлька,— згадзіўся ён.— Люблю цябе за дабрату і сціпласць. Харошая, талковая ты баба. Звязалася во з нейкім круціхвостам, засмуціла сабе жысць. Каб некалі, як я бегаў за табою, не з'ехала, пайшла за мяне, то я цябе вельмі шанаваў бы. Усім людзям на зайздрасць мы з табой жылі б.

— За цябе, Мікола, я пайшла б, каб ведаць магла такую сваю цяперашняю долю,— прызналася Юля.— Але вось бяда: усяго не ведаеш спачатку...

У дзверы хаты далікатна пастукалі. Калі Юля запрасіла зайсці, дзверы адчыніліся і ў хату нясмела зайшла жонка Міколы, Любка,— невысокая, светлавалосая, вельмі раўнівая жанчына.

— Добры вечар!— стрымана прывіталася яна, непрыхільна агледзела мужа і Юлю.— Хадзем, Мікола, дадому.

— Прысядзь, жонка, выпі маю долю,— сказаў ён,— а то мне можа, ужо і мнагавата сёння будзе.

— Прысядзь, Любка,— запрасіла і Юля.

— Пайшлі, Мікола,— Любка стаяла ў парозе, маленькая, жаласная, з крыўдаю на вуснах і слязьмі ў вачах.— Хадзем, Мікола, нешта з нашым малым сталася...

— Я толькі што заходзіў дадому і бачыў: гуляе хлопец,— сказаў Мікола і не думаў паднімацца і ісці дахаты.

— Садзіся, Любка,— усміхнулася Юля, здагадваючыся, што зараз на душы ў суседкі.

Гэтая Юліна ўсмешка пакрыўдзіла госцю. Яна плюснула вачыма, усхліпнула і «ўзарвалася»:

— Я не спадзявалася на цябе, Юлька, што ты можаш такое... Чужых мужчын зманьваць, ад дзяцей бацьку забіраць... Красівая, маладая, вось яны і ліпнуць да цябе... І вам, цётка, брыдка: век пражылі, але патураеце...— вусны Любкі затрымцелі, яна не магла больш гаварыць, заплакала.

— Ты Юлькі не чапай, не лі на яе бруду! — узлаваўся, ускочыў з лавы Мікола,— ты яе не варта...

— А я раўняцца з такімі не хачу,— азвалася яго жонка,— не развялася са сваім мужам і другіх не зманьваю...

— Ну! — падскочыў да жонкі Мікола са сціснутымі кулакамі.

— Вар'ят! — закрылася тая рукамі, адскочыла.— Можаш і не ісці дахаты, да дзяцей сваіх. Цягайся па чужых хатах...— папракнула і выскачыла на двор.

— Ну і дурная! — Мікола прысеў на лаве і не мог ад злосці гаварыць.— Прыйдзе ж во ў галаву... Не злуйся ўжо, Юля...

— Я не злуюся...— спакойна сказала Юля, але відаць было, што спакой гэты вельмі вымушаны, за ім у душы хаваецца зусім іншае...

— Ты не засмучайся, Юлька,— прасіў Мікола,— я ўсё ўладжу.

— Толькі ты не шумі, дзетка, не чапай сваю кабету,— сказала Наталля,— можа, і навёў які паганы чалавек, пазласлівіў. А сэрда бабскае такое: паверыла, нават не падумала, ускіпела...

— Усё будзе добра, цётка,— паспрабаваў усміхнуцца Мікола. Відаць было, што ён усміхнуўся, каб не так супакоіць старую, як Юлю, якая маўчала, перажывала ўсё моўчкі.

Мікола закурыў, пасядзеў яшчэ крыху, пагаварыў, увесь час стараючыся перавесці гутарку на іншае, а пасля пайшоў дахаты.

Юля не ўставала з-за стала, сядзела аблакаціўшыся, абхапіўшы галаву рукамі. Заплюшчыла вочы, слухала, як звонка цікаў гадзіннік, ціха сядзелі на печы сын і маці, чула, як балюча стукае ў скроні, туманеюць, макрэюць шчокі...

## 4

Юля ўсхапілася на світанні, калі загудзелі правады і моцна зайграла радыё.

Яна выключыла прыёмнік, каб паспалі яшчэ маці і сын, выскачыла з цёплай пасцелі — і цяпер яе агарнуў холад; у галаве праяснілася: зноў лажыцца не варта, трэба пачынаць гаспадарскую работу.

— Я і сама ўжо ўстала б, паляжы яшчэ,— загудзела з печы маці.

— Ляжыце, мама.

— Я ўжо адляжала бакі на печы за свой век,— маці прыўзнялася, знайшла свае цёплыя валёнкі, абулася і спаўзла з чарэні.— Як ні палі, усё роўна холадна ў хаце,— сказала яна, пацяпнула плячыма.— Відаць, ператрухлела ўся. Даўно пара новую ставіць. Я дажыву і ў гэтай, а пра сябе ты ўжо сама думай.

Юля выпіла халоднага ўчарашняга кампоту, апранулася і выйшла на двор. Гулка стукнулі дзверы, на ганку Юлю працяло калючым холадам, яна нахвіліну прыплюшчыла вочы, стаілася, стараючыся адолець дрыготку. Ныла пасля ўчарашняга спіна, круціла паясніцу, балелі рукі.

Юля зайшла ў гумно, наскубла шорсткага халоднага сена, чуючы, як яно церпка пахне, занесла і ўкінула яго карове. Падабрала растрэсенае караваю, падчапіла віламі і ўскінула на вышкі — перамяшаецца з саломай, перарэжацца на сечку, абальецца цёплаю вадою, сыпнецца дзеля паху мукі — з'есць пасля карова, нідзе не дзенецца.

Потым Юля зайшла на дрывотню, набрала халодных, заінелых дроў. Звычайна яна ці маці прыносілі дровы ў хату вечарам, лажылі падсушваць на гарачы под. Учора забавіліся, забыліся пра іх.

Юля прынесла бярэмак дроў і скінула ля вілачніка, і яе работу перахапіла маці, нібы далей сама, як старэйшая, магла зрабіць лепш: узяла палена, палажыла яго ў печ, паблізу прыладзіла другое, накідала на іх астатнія.

Сукасты, гарбаценькі камлючок скаціўся на под, і маці паправіла яго, нават не чуючы, што даткнулася лбом да засажанага чалесніка, вычарніла лоб. Юля ўсміхнулася, але прамаўчала, ведала, што не трэба спыняць маці, адрываць ад такой няхітрай штодзённай, але радаснай работы: успыхнуць дровы, заліжа агонь паднябенне, ажыве хата... Юля наліла ў саганы вады, пачакала, пакуль маці налажыла дроў і запаліла. Тады Юля падняла, паставіла саганы на прыпек і пайшла па ваду.

Калі яна, пагаварыўшы крыху з суседкай, прынесла поўныя вёдры, маці ўжо наабірала і цёрла на дранікі бульбу.

Юля дастала з печы саганок, зачарпнула конаўкай цёплай вады, паліла на ручнік, узяла вядро і падалася ў хлеў. Абцёрла мокрым канцом ручніка вымя каровы, пасля абмахнула сухім, падставіла вядро і пачала даіць, слухаючы, як звонка б'е ў вядро малако.

Юля толькі нядаўна навучылася даіць карову, прызвычаілася да ўсялякай гаспадарскай вясковай работы — дзяўчынаю не хацелася, ды і маці аберагала, гаварыла: вучыся. Пабыла ў леспрамгасе, і толькі калі вярнулася дамоў, навучылася і ў лес ездзіць, і араць — вядома, як жыць у вёсцы без мужчыны. Аднагодкі яе не ўмелі рабіць такой работы, а яна ўмела: навучылася. Не раз трэ было і старацца, каб людзі менш бачылі, што цяжка.

Карова сёння дала многа малака, з паўвядра,— відаць, таму, што ўчора пахадзіла па двары, пагрэлася на сонцы і пачула вясну — ахватней вечарам апаражніла цэбар сечкі, выпіла тры вядры вады.

Юля прынесла малако ў хату, працадзіла.

— Макарону зварым ці рысу? — спытала маці.

— Зварыце што-небудзь,— адказала Юля.

— Не прыйшла во ўчора, не праведала, хоць і таварышкавалі некалі.

— Можа, стамілася за дарогу,— сказала Юля, ведаючы, што маці гаворыць пра Аньку.

— Не так, мусіць, стамілася, як гонару набралася,— запярэчыла старая.— Хваляцца Саладухі, што надта добра жыве, муж працавіты, добры, не курыць, не п'е, грошы вялікія прыносіць.

— Пашанцавала,— сказала Юля.— Шчасце ўсім пароўну не даецца: аднаму прываліць, другога абыдзе...

— Бацькам, канечне, добра, калі дзеці ладна жывуць,— прамовіла маці.— Сямёніха хвалілася ўчора ўсім, што надта дарагія хусткі ды валёнкі ёй дачка прывезла.

— Умты хіба? — спытала Юля.

— А чорт іх там бачыў, хунт яны там ці болей.

— Унты, мама, боты такія...

— А чорт яго ведае, як там па-вашаму, па-цяперашняму, хіба я, век са сваёй вёскі не выязджаючы, разбяруся. Як назавуць што, дык аж галава трашчыць,— сказала Наталля, адцягваючы далей ад агню саганок.— Але зайздросна слухаць, што ў некага ўсё ладна выходзіць.

— Хіба, мама, я не хачу шчасця? — спытала Юля.

— Бог цябе ведае, дачка,— сказала маці.— Жылі столькі гадоў, дзіця гадавалі і — не паладзілі... Па табе бачу: не голая, не галодная была, а вось як ты гаворыш, шчасця не маеш. Сядзіш цяпер, як і я, удава старая. Калі сама вінаватая, папрасіла б...

— Не так усё легка ў нас, як вы, мама, думаеце,— сказала Юля.

— Я толькі думаю, што сям'ю сваю зберагаць трэба,— адказала маці.

...Пад'еўшы, ведаючы, што сёння на работу ісці не трэба, Юля хацела пачакаць пакуль пацяплее, і прылегла.

Заснула яна хутка, адразу пачала сніць, што апынулася дзесьці ў цёмным, сырым месцы, пасля прыйшло на розум, што гэта іхні стары лес за Лысаю гарою.

Агледзеўшыся, яна ўбачыла, што трапіла на бярозавую палянку з вострымі пнямі. Яна прайшла па вытаптанай сцежцы і ўбачыла знаёмага каня, запрэжанага ў сані, а на іх многа бярозавых дроў, перавязаных ланцугом.

Конь сам крануўся з месца, пайшоў. Трымаючыся за дровы, пакрочыла і яна. Сані легка слізгалі па лёдзе, і так усё гэта было чуйна, што Юля сосну адчула лес, яго прахалоду, шчырае, нямоцнае яшчэ веснавое сонца. Конь стаў, забіў капытамі і чалавечым голасам

сказаў: «Чаму ж ты не кіравала мною? Я сам зусім не ведаў, як і куды мнеісці».

Юля паганяла каня, але ён не кратаўся з месца.

Нечакана выйшаў з-за дрэў чалавек, Юля глянула на яго і ледзь не звалілася з ног: гэта ішоў Гена, яе муж, і такі ён быў стомлены, што хістаўся, ледзь стаяў на нагах. Ён быў высокі, чорнавалосы, але цяпер з вострым носам, з такімі памутнелымі вачыма, што яна жахнулася. Ён трымаў у руках вядзерца са снегам і паказваў, каб яна высыпала снег пад полаз. Яна ўзяла вядзерца, а Гена ўпаў. Юля закрычала... і прахапілася...

«Гену кепска, вельмі кепска,— адыходзіла яна ад сну,— і ён, відаць, думаў пра мяне, можа, нават хацеў, каб я памагла яму»,— і гэтая думка цэлы дзень не выходзіла з галавы.

## 5

Управіўшыся па гаспадарцы, Наталля, ці Пётрычыха, як яе называлі суседзі, пайшла гуляць на вёску; Юля падмяла, выцерла ў хаце падлогу, пасля апранула малога і падалася з ім на двор.

Цёпла, ярка свяціла сонца, але ішоў тонкі, свежы холад ад зямлі — і было стыла, як і зімою ў сонечны марозны дзень, хоць ужо і гаварылі, што нехта бачыў, як ляцелі над полем буслы.

Юля вынесла з дрывотні пілу, старыя, пасечаныя і спілаваныя козлы, пастукала да іх сякерою — падагнала, змацавала ножкі, палажыла бярозу.

— Хадзі, мужчына, — усміхнуўшыся, паклікала сына,— разрэжам колькі пален.

Сын падбег, з радасцю хапіўся за пілу, цягаў, ірваў ці моцна ціснуў яе ўніз — піла выскоквала; пакуль адпілавалі паленца, бяроза была ў адных надрэзінах, але ўсё ж сын трымаўся і цягнуў за ручку, піла не ківалася па баках, і лягчэй было рэзаць, чым адной.

Першае палена сын памог разрэзаць з ахвотаю, на другім пачаў цягаць пілу павольней, пaглядаў на бакі, не мог дачакацца, калі маці дазволіць яму марсянуць на вуліцу. Юля ўгаворвала яго, абяцала купіць новыя штонікі. Пасля ўзлавалася і пачала крычаць. Сын насупіўся, цягаў пілу і хліпаў сабе ў нос.

— Што ты, дзеўка, дзіця мардуеш,— загаманіла маці, якая прыйшла нечакана дадому.— Самі разрэжам ці Маньчынага Пецьку папросім,— старая падышла і забрала з рук унука пілу.

Той заскакаў, што нечакана збавіўся ад прымусовай работы, і панёсся кудысьці на вуліцу, дзе даўно ўжо гукалі, смяяліся і крычалі дзеці.

— Разрэжам на заўтрашняе ды і не будзем больш— сказала Наталля,— схаджу я ў Малышкі, апытаю ў каго і куплю сена.

Юля памаўчала, і старая таксама больш не загаворвала, лічыла, што сказала ўсё ясна, моўчкі цягала пілу, думала штосьці сваё. Калі яна сказала «хопіць» і панесла ў дрывотню пілу, Юля ўзяла сякеру і пачала дзяўбаць палена. Калолася бяроза цяжка: была намёрзлая, маладая, цвёрдая, а сякера тупая, шчарбатая і адскоквала ад палена.

Выйшаў са свайго двара і павітаўся з ёю сусед Сцяпан.

Можна было папрасіць яго, мужчыну, навастрыць сякеру бруском ці напілкам.

Юля ведала: Сцяпан паспачуваў бы, мог бы даць нават сваю сякеру ці наладзіць гэту, усміхаўся б, слаўся б лістам: «Нясі, Юлька. Давай, Юлечка. Табе папраўлю, пастараюся».

Юля даўно ведала яго «ласку» і баялася яе, старалася ніколі не спатыкацца з гэтым мужчынам.

Вяскоўцы лічылі Сцяпана добрым, спагадлівым чалавекам, так думала пра суседа і Юля: жывучы блізка, ён часта па сваёй волі заходзіў разбіць тоўстае сукастае палена, разагнаць бульбы ці занесці ў склеп поўныя мяхі, пачысціць кнырчука ці зацягнуць у лыч парасяці драціну. Часта Сцяпан заходзіў вечарамі, асабліва зімовымі, адзін ці з жонкаю, пасядзець, пагаварыць, запрашаў на хрэсьбіны ці на свежаніну, яго таксама запрашалі.

Нядаўна, калі Наталля папрасіла яго памяняць прасла ў іхнім плоце, калі Юля памагала яму заразаць у слупах зарэзіны, Сцяпан, амаль аднагодак Юлі, бацька траіх дзяцей, усё жартаваў, кпіў з яе.

— Чаго ты не зжылася са сваім мужыком? — дапытваўся ён.

— Ростам малы быў,— адказала Юля.

— Калі не ў рост пайшоў, дык, відаць... Ого, малыя — дужыя мужчыны!

— Ідзі ты! — сказала Юля.— Распусціў язык, як пугу.

Пад вечар, калі выпілі за полуднем, Сцяпан асабліва жартаваў. Пасля, азірнуўшыся, падышоў да яе, шапнуў, каб сёння не спяшалася зашчэплівацца, калі добра ўцямнее.

Юля засмяялася і сказала, што позна яму падходжваць, калі ўжо жонку займеў, трое дзяцей на карку мае; хутка пара будзе сыну нявесту шукаць.

Сцяпан яшчэ пажартаваў, Юля слухала, пасля і забылася пра гэтыя жарты, палівала яму вечарам на рукі, зноў частавала і заплаціла за работу тры рублі. Сцяпан адмаўляўся, не браў, Наталля сама паклала яму грошы ў кішэню.

Той ноччу Юлі спаць не хацелася; схадзіла спярша да суседзяў на тэлевізар, пасля ляжала і думала пра кіно, пра свайго сына, што гадуецца без бацькі, прыносіць з вуліцы ўсялякія словы, з кожным днём становіцца ўсё больш непаслухмяным. Думала пра свайго мужа, як яны нечакана, дзіўна сустрэліся, жылі, як яна моцна кахала яго, а ён часамі не разумеў яе, не слухаўся, часта прыходзіў з работы позна, злаваўся, што яна залішне прыдзіраецца, хоча прыручыць да сваёй спадніцы, асароміць перад яго сябрамі... Яна гадала, як ён жыве цяпер, паправіўся ці па-ранейшаму такі шалапутны, помніць яе, сына ці забыўся пра іх... Ляжала, думала, як пачула ціхі стук у акно, пасля ў дзверы. Яна прыслухалася; стук ягачэ раз паўтарыўся.

Маці спала; Юля паднялася, накінула на сябе цёплую вялікую хустку і выйшла ў сені.

— Хто там? — спытала яна, але дзверы не адшчэплівала.

— Я,— пачула яна Сцяпанаў голас.

— Чаго табе?

— У мяне е пляшка віна.

— Позна ўжо, ідзі дадому,— сказала Юля,— ці адзін выпі.

— Выйдзі, Юлька, я хачу пагаварыць з табою.

— Ці не здурэў ты? Ідзі дадому,— сказала Юля і пайшла ў хату. Толькі цяпер яна здагадалася, што Сцяпан не жартаваў, сапраўды набіваўся ў «жаніхі»...

## 6

Юля дакалола астатнія палены, зложыла іх кастром на прыгуменні, каб выветрыліся; пасля набрала абярэмак і занесла на кухню.

У хаце было цёмна, ціха, і не хацелася заставацца тут, цягнула на халодны, з нізкім нияркім сонцам двор, дзе чулася вясна, радавала і трывожыла.

Юля хацела запаліць святло, пстрыкнула ўключальнікам — лямпачкі не загарэліся; відаць, электрык нечага адключыў святло на станцыі.

Хтосьці незнаемы затупаў на двары, доўга, не ведаючы, лэпаў па дзвярах, шукаў клямку. Юлька глянула і не пазнала нечаканую госцю, што зайшла ў хату. Адзета яна была не па-тутэйшаму, па-гарадскому: у тоўстым варсістым футры, бліскучых высокіх ботах, тоўстай пуховай хустцы, з моднай невялічкай сумачкай.

— Не пазнала? — усміхнулася, знаёма сказала госця.

Юлька таксама ўсміхалася, выцірала аб ручнік рукі
і прыглядалася.

— Анька?

Юля кінулася да былой сваёй сяброўкі, яны абняліся і моцна пацалаваліся.

— Я і не ведала, што ты дома,— сказала Анька, хоць словам яе цяжка было паверыць: ёй расказала недзе адразу ўсе вясковыя навіны яе маці.

— Дома, як бачыш,— прамовіла Юля.

— І даўно?

— Ды з восені жыву.

— І што ты робіш тут?

— Работы ёсць,— адказала Юля,— вару дзецям есці ў школьнай сталовай, бегаю дзень з чарпаком ля катлоў, памагаю маме па гаспадарцы. Учора ў лес па дровы ездзіла.

— А я, Юлька, ужо не змагла б са свіннямі ды каровамі...

— Ты ж вясковая, не гарадская...

— Ды адвыкла.

— Каб трэ было, то і навучылася б скора,— сказала Юля.— Але як ты жывеш?

— Ды не скарджуся. Жывая, здаровая, і дзеці растуць, у садзік ходзяць.

— Вялікія, мусіць, ужо твае хлопцы? — спытала Юля.

— Большаму шосты годзік, меншаму чацвёрты.

— Дзяўчынку яшчэ вам трэба.

— Што ты!— усміхнулася Анька.— Пракарміць ды адзець знайшлі б за што, але я вучыцца надумала, паступіла летась у інстытут, дык часу мне трэба многа.

— Ого! — здзівілася Юля.

— Ніякай жа спецыяльнасці няма, трэба вучыцца.

— Удалая ты,— сказала Юля, надрала з бярозы кары, налажыла ў грубку дроў, падпаліла, пачакала, пакуль угарыцца, тады зачыніла дзверцы і адкрыла паддувала — загуло, усхапіўся агонь, аблізаў палены. Анька прысела на лаве.

— У нас цеплавое,— азвалася яна.— Любата! Не трэба гэтых дроў. Цяпер, каб ты бачыла, як вырас наш горад... А Мішу майго павысілі, большы аклад, «Волгу» далі. Ведаеш, Іван, гэта шафёр яго, на работу мяне возіць і з работы забірае.

— Добра табе,— сказала Юля,— а я бегаю пяшком у Міланькі.

— Міша папаўнеў, салідны такі. Быў нядаўна ў Ленінградзе, паліто мне купіў, не дае вады піць, яблычнымі сокамі поіць.

— Глядзіць цябе.

— Ды не скарджуся, як другія. Што хачу, тое і маю. Можа табе што трэба дастаць?

— Дзякуй,— сказала Юля,— усё ў мяне таксама ёсць.

— Сумна табе, мусіць, тут жывецца? — спытала госця.

— Жыву, Анька,— Юлька ўстала, прынесла кавалак мёрзлага з зімы сала, каўбасы, нарэзала невялікімі скрылікамі, ускінула на скавараду і паставіла ў грубку.

— Святла няма...— цмокнула Аня.

— Гэта сёння нешта няма, так яно заўсёды гарыць,— як апраўдвалася Юля.— Цяпер добра жыць сталі. У каго сям'я рабочая ды на харошай рабоце стаяць, стараюцца, то па-гарадскому жывуць: тэлевізары, матацыклы, халадзільнікі маюць, каторыя настаўнікі ды экскаватаршчыкі «Жыгулі» ды «Запарожцы» пакуплялі. У хату зойдзеш — чысценька, чаго там толькі няма.

— Усё роўна ў вёсцы я ўжо не жыла б,— перабіла яе Аня.

— Цяпер нічога страшнага і тут няма,— не згадзілася з ёю Юля,— Ты адна прыехала дадому?

— Адна. Мішава работа не дазваляе абы-калі раскатвацца, ён такі заняты, так прылягае да сваіх спраў, што і на сям'ю мала глядзіць. Калі возьме водпуск, мы ўжо ў Крым паедзем. Ведаеш, я пятае лета запар туды паеду.

— Мне хоць бы раз за сваё жыццё паглядзець тыя курорты,— сказала Юля.

— Чаго ты са сваім разышлася? — спытала Анька.

— Ды я не разышлася...

— Піў ці біў цябе? Нечага ж вы з ім не паладзілі?

— Многа, Анька, расказваць,— сказала Юлька, апусціла вочы,— ды і наша ўсё гэта, усё роўна ты не зразумееш.

— Ты не перажывай,— прамовіла Анька,— калі кінуў цябе — ну і чорт з ім. Выйдзеш і за другога, яшчэ вартнейшага. Толькі трэба ў горад выязджаць і не сядзець тут, бо ў вёсцы з дзіцём нялёгка замуж выйсці, а ў горадзе добрыя людзі возьмуць.

— Ды не спяшаюся я другі раз замуж,— сказала Юля.— Мужа я знайду сабе, але ці знайду бацьку сыну?

— Гэтыя дзеці і трымаюць нас,— згадзілася Анька.— Мы і жывём цяпер дзеля іх, пра сябе не думаем.

Нечакана загарэлася святло. Юлька і Анька на хвіліну ад яркасці заплюшчылі вочы, асвоіліся, пасля разгледзелі адна адну.

— Ты пастарэла, Юлька.

— Хутка трыццаць год, дакуль жа тая маладосць ды краса будуць.

Грукнуўшы ў сенцах дзвярыма, у хату ўбег Пецька; убачыўшы незнаемую, утаропіўся і засаромлена стаў у парозе.

— Ой, які ж Ты мурзаценькі! — здзівілася Аня, дастала з кішэні плітку шакаладу і працягнула Пецю. Той апусціў вочы долу, саромеўся падысці і ўзяць гасцінец.

— Вазьмі, Пецька,— сказала Юля.

— Ой, які стыдун. Прападзеш такі! — паківала галавою Анька,— Бяры, малец, і падыдзі сюды, гляну, у каго ты ўдаўся: у маці ці ў бацечку свайго.

Аня не дачакалася, сама падышла і дала ў руку маломy шакаладку.

— Скажы дзякуй,— вучыла сына Юля.

Пецька маўчаў, не ўзнімаў ад падлогі вачэй, пасля прайшоў за грубку і схаваўся на печы.

— А мае хлопцы смелыя...— сказала Анька.

— Хадзі, сынок, памыемся нанач, а то чуў, як гарадская цётка пасміхалася з нас,— сказала Юля сыну, зняла яго амаль соннага з печы, калі Анька пахвалілася пра сябе, свайго мужа, лёгкае сваё жыццё, панавучаўшы, як Юлі лепей, крыху хітрэй жыць, і пайшла дахаты.

Юля наліла ў ночвы цёплай вады, раздзела і пасадзіла ў іх Пецьку, намыліла яму галаву, вушы, пацерла мачалкаю спіну.

— Каб ты, сынок, не капаўся ў пяску, заўсёды чысценькі быў, дык і маме менш работы было б,— гаварыла Юля,— а то ты ж зусім не слухаешся ні мяне, ні бабы, усё па-свойму робіш. Нялюдскі ты.

— А гэта цёця прыйдзе яшчэ? — спытаў сын.

— Прыйдзе, і калі ты будзеш чысценькі, харошы, то і зноў шакаладку прынясе.

— Я буду чысты, мама.

— Ну і добра,— сказала Юля, зняла з грубкі нагрэтую прасціну, загарнула, як маленькага, у яе Пецьку і панесла на ложак, выцерла, адзела новую майку, трусікі. Укрыла коўдрай, пацалавала сына ў лобік, хвіліну пастаяла, радуючыся, што такі вялікі, прыгожанькі яе сын, яе радасць, уцеха; як ёй бывае часам цяжка, нядобра, і сын яе суцешыць, супакоіць; ужо тое, што ён толькі жыве, як штодня гаворыць Юлі: не гаруй па сваім жыцці, каго ты страціла ці цябе страцілі— табе трэба жыць. Дзеля сына, дзеля яго жыцця. Юля цяпер разумела, што значыць маці жыць не для сябе, а для сваіх дзяцей.

Яна адышла ад сына, разгарнула ў стаяку жар, пабіла галавешкі, зліла ў вядро ваду з ночваў і вынесла яе на двор; хвіліну пачакала, пакуль прападзе ў грубцы сіні агонь, тады зачыніла юшку. Маці, відаць, засталася начаваць у сваякоў, паленавалася ноччу ісці дадому; Юля пачакала яе і зашчапіла дзверы.

— Мама,— прытуліўся да яе сын,— а дзе наш тата?

— Працуе, сынок.

— Ён прыедзе да нас?

— Прыедзе. І я ж чакаю яго,— сказала Юля.

— І мне веласіпед такі, як у Лёнькі, прывязе?— сын падняўся, з такой радасцю глянуў Юльцы ў вочы, што яна здзівілася, пасля зразумела ўсё і адчула, як кальнула ў сэрца, перавярнула нутро.

«Мой ты сынок,— падумала яна,— як жа табе хочацца бацькі!»

— Прывязе, Пецька,— сказала яму.

— І біцца тата не будзе, як дзядзька Сцяпан?

— Не будзе, сынок. Тата наш вельмі добры.

— А я веласіпеда Лёньку таксама не дам,— сказаў сын і лёг,— бо Лёнька б'ецца.

— Дасі, сынок, не трэба быць скупым і помслівым.

— Тады толькі адзін раз дам праехаць ад іхняй хаты да нашай,— сказаў сын.

— Ну, хоць раз, але трэба даць.

Сын хутка заснуў, усміхаўся. Яму, відаць, сніўся бацька, што нечакана прыехаў дадому і прывёз веласіпед.

## 7

...Калі цяплелі вясною ночы, густа пахла бэзам, травою, моладзь збіралася вечарамі ля ракі на тупкім лужку, дзе школьнікі зрабілі, вытапталі валейбольную пляцоўку. Вечарам тут былі танцы.

Тады, нават гадоў пятнаццаць ці дзесяць назад, у вёсцы было гусцей моладзі, праз кожную хату жылі падлеткі-хлопцы, незамужнія маладыя дзяўчаты, сталыя хлопцы-халасцякі; вёску пакідалі толькі тыя, хто ішоў у армію ці каго бралі замуж, і зусім мала было тых, хто з'язджаў кудысьці шукаць лепшай работы і пабагацець.

Музыканты былі свае, звычайна ігралі Сцяпан і Алесь; іх загадзя хлопцы частавалі, задобрывалі, і тады яны ігралі вальсы ды полькі напераменку цэлую ноч, да рання.

Юля падлеткам не прапускала ніводных танцаў, тоўпілася з дзецьмі вакол танцавальнай пляцоўкі. У дзевятым і асабліва ў дзесятым класе на яе пачалі заглядацца хлопцы, запрашаць у танцы, стараліся правесці яе дамоў. Асабліва вытанцоўваў ля яе кучаравы Мікола, што адслужыў ужо ў арміі і ўладкаваўся на работу ў тутэйшае лясніцтва. У вёсцы нават пагаворвалі, што ён, калі Юля скончыць школу, збіраецца заслаць да яе сватоў, ды толькі пабойваецца, ці аддасць Наталля замуж такую маладую дачку...

Зімою, як накручвала з поля снегу вышэй платоў, замятала пляцоўку, збіраліся доўгімі вечарамі ў хаце Сямёніхі.

Хата ў Сямёніхі была вялікая, на дзве прасторныя палавіны, пустая — гаспадыня жыла адна з дарослымі дочкамі; вось сюды і збіраліся павесяліцца, схаваўшыся ад бацькоў, сталыя і маладыя кавалеры, прыпляталіся цікаўныя жанкі — глянуць, хто паглядае на яе дачку ці на каго яна кідае позірк, ці проста наглядзецца і назапасіцца на заўтрашняе гутаркай.

Юля хацела прыгожа апранацца. Яе кароценькія, выцвілыя вучнёўскія ці перашытыя з матчыных старых плаццяў сукенкі, матчыны старамодныя туфлі — усё ёй не падабалася і не падыходзіла. Маці толькі што аддала замуж старэйшую дачку — Маньку, многа патрацілася на вяселле і не магла ва ўсім дагаджаць Юлі. Заспакойвала: «Самая меншая, паспееш яшчэ прыбрацца, хадзі ў тым, што ёсць, яшчэ ніхто на свеце не памёр, што модна не адзяваўся». Юля перажывала, але не крыўдзілася, разумела маці; яна прыпала да вучобы, да кніжак, многа чытала і марыла стаць настаўніцай, такой, як іхняя класная Паліна Міхайлаўна.

Юля позна сядзела зімовымі вечарамі, чытала, глядзела ў цёмнае, замёрзлае, з хітрымі ўзорамі акно, слухала, як дзіка вые на дварэ мяцеліца, нібы плача малое дзіця, як шорстка сыпле ў вокны снег.

Да яе часта, абсыпаная снегам, радасная, прыбягала сяброўка Аня.

Анька была любімая дачушка ў сям'і. Яна вельмі ганарылася, што адзявалася лепш не толькі за вучаніц, але і за настаўніц, што была прыгожая. Яна не засмучалася, што цягнулася на слабыя троечкі, і ўвесь час гарнулася сябраваць з Юляй, можа, толькі таму, што спісвала ў яе задачы, а мо і тайна зайздросціла, што Юля, як і яна, была такая самая прыгожая ды яшчэ добра вучылася: ёю не маглі нахваліцца настаўнікі...

Недзе зімою, калі прайшла пара мяцеліц, моцных марозаў, калі ўжо днём па-веснавому свяціла сонца і асядаў снег, Анька таксама зайшла да Юлі, паклікала гуляць.

— Не хочацца, Анька, — адмаўлялася Юля.

— Хадзем,— прасіла Аня,— ведаеш, сёння хлопцы з Восава прыйшлі, свайго музыканта прывялі.

— Хутка экзамены, трэба чытаць.

— Ты і так усё ведаеш, зубрыла,— сказала Анька.— Хадзі, я табе светлую блузку дам.

Анька здагадвалася, чаго не хапала Юльцы.

— Не трэба,— сказала Юля, хоць ёй тая блузка і вельмі падабалася: яна разумела, што ўся веска бачыла, ведала гэтую светленькую прыгожую блузку, і калі надзенеш яе, то ніхто не звядзе з яе вачэй, цэлы вечар будуць шаптацца, абгаворваць.

Тою зімою Юлька ўпарта адмаўлялася, і Анька бегла на танцы адна, але таго вечара Анька не выходзіла з хаты, настойвала, так прычапілася, што Юлька не вытрывала, загарнула кніжку, апранула, што мела лепшае, і пабегла з Анькаю да Сямёніхі, у хаце якой ужо сабралася вельмі многа моладзі.

...Юля многа танцавала ў той вечар вальсаў, полек. Бралі яе Сцяпан, Мікола, восаўскія хлопцы. Анька ўвесь вечар круцілася са сваім Лёнькам, выбягала з ім на двор, падоўгу недзе прападала, вярталася чырвоная ў твары, з дзіўным бляскам у вачах.

Юля танцавала і бачыла, як за ёю цікуе Мікола, чырванееццa, злуе, калі яе запрашаюць танцаваць восаўскія хлопцы. Яна гадала, чаго такі Мікола, чаму ён так адносіцца да яе, і калі пачынала здагадвацца, адчуваць сваім дзявочым сэрцам — ёй рабілася трывожна і страшна. Яна хацела забыць гэта, думаць пра штосьці іншае, але тое шчымлівае і страшнае ажывала, як ручаёк пад рыхлым снегам: недзе ціснецца, блукае, хоча вырвацца наверх і не вырываецца, блудзіць, толькі трывожыць душу...

Юля не кахала Міколу.

Калі Сцяпан зайграў развітальны марш і ўсе паразбіваліся на пары, павалілі з хаты, яна таксама выскачыла на двор. Хтосьці выбег за ёю. Яна азірнулася: апранаючыся, ішоў следам Мікола. Хутка дагнаў яе, пайшоў поруч.

Юля ніколі не перажывала столькі страху, як тады. Спяшалася ісці і не чула сваіх ног, моўчкі завіхаўся побач і Мікола. Толькі ля яе хаты схапіў за руку, затрымаў, прыгарнуў да сябе. Калі блізка пачулася яго дыханне, Юля зразумела, што Мікола хоча пацалаваць яе. Яна церабнулася, але ён трымаў моцна, гарнуў да сябе.

— Пусці, крычаць буду! — пагразіла яна.

— Юлечка, канчай сваю школу і выходзь за мяне...

— Пусці,— Юля не магла вырвацца і заплакала.

— Не буду, Юлька. Не злуйся, харошая. Сам бачу, што ты не для мяне,— Мікола выпусціў яе, і яна не пабыла больш на двары і хвіліны, пабегла ў хату.

— Рана пачала таньчыць, дзеўка. Бачыла праз акно, як ліпнула да Кастусёвага,— пагрозліва сказала з печы маці.— Глядзі, дзеўка...

...Восенню, калі Юля ўжо скончыла школу, не прайшла па конкурсе ў педагагічны інстытут, паехала з Анькаю ў суседні раён, стала працаваць у леспрамгасе.

Праз месяц сяброўкі напісалі, што Мікола згуляў вяселле, узяў дробненькую, непрыгожую, але гаспадарлівую дзяўчыну з суседняй вёскі.

**8**

— Сходзі ты, маладзейшая, да Саладухі,— сказала маці,— папрасі машыны, скажы, што на адзін толькі раз укінуць карове сена засталося.

— Схаджу,— згадзілася Юлька: Саладуха быў Аньчын бацька, старшыня калгаса, і Юльцы хацелася не толькі папрасіць машыны, але і пагаварыць з сяброўкай.

— Паслухай, як хваліцца будуць,— сказала маці,— усім не нахваліцца, што зяць дужа добры, па тры сотні палучае, машыну мае, ім надта добры падарунак прыслаў; а так ужо глядзіць Анечку, што халоднай вады не дасць напіцца.

Схіляла на вечар. Няярка і нячуйна прабівалася праз асмужаную шэрасць сонца, падхопліваўся нямоцны, але дзёрзкі вясновы марозік.

«Вясна! Колькі таго ўжо сена трэба, але бегай вось,— падумала Юля.— Калі б не мама, здала б я гэтую карову ў калгас ды выпісвала малако. І гора ніякага з сенам і падсцілам не ведала б».

Яе маці была не толькі старая гадамі, але і жыла падаўнейшаму, зусім не прызнавала, што нешта змянілася ў вёсцы і што трэба па-новаму жыць. Нават падумаць яна баялася, як гэта можна жыць без каровы, свінней, курэй, не хацела купляць тэлевізара: «Нічога я ў ім не разбіраюся, толькі грошы марна пераводзіць. Звініць во ў хаце радзіва, і гаворыць, і пяе — і хопіць. Памру, тады сабе што хочаш купляй».

Юля, калі хадзіла ў школу, спрачалася з маці, нават даказвала, што няма бога і чарцей на свеце. Маці злавалася, папракала: «Надта вы вучоныя сталі, разабраліся ва ўсім».

У хаце Саладухі гучала незнаемая музыка, відаць, навезла модных пласцінак Анька, цяпер сядзела, сумавала ў «дзярэўні» і круціла іх, забаўлялася.

На кухні нікога не было. Юля толькі дзеля прыліку далікатна пастукала і зайшла ў лепшую палавіну, пры такім шуме яе ўсё роўна ніхто не мог пачуць. Адразу ўбачыла засланы абрусам стол, хлеб, каўбасу на ім. Не паспела нічога падумаць ці здзівіцца (у старшыні госці частыя), глянула лявей і знежывела: за занавескамі Анька, з распушчанымі валасамі, босая, абдымалася з мужчынам, твару якога

не было відаць. Юля так разгубілася, што не магла нічога прамовіць. Яна выскачыла з хаты.

«Во табе яблычныя сокі...» — падумала яна, азірнулася, ці не бачыў яе хто. Калі выходзіла з двара, затрымалася, каб зашчапіць варотцы, і ўбачыла за гумном Саладухі незнаемую, з заглушаным маторам машыну.

## 9

Вечарам, калі Юля накарміла свіней, укінула карове астатняе сена і збіралася пайсці да суседкі на тэлевізар (было «харошае, пра любоў» кіно), нечакана прыйшла Анька.

— Гаварылі, ты да нас прыходзіла? — спытала Анька і ўважліва паглядзела Юлі ў вочы.

— Хадзіла,— разгубілася Юля,— хацела ў бацькі твайго машыны на гадзіну якую папрасіць, але ўбачыла чужы «козлік», пабаялася зайсці,— прыманіла Юля і адвяла ўбок свой позірк.

«Як сама вінавата ўсё роўна. Каб ты згарэў, такі характар!»

— Гэта з раёна... Мой даўні знаёмы, так сказаць,— сказала Анька.— Пагаварылі крыху. А ты што робіш?

— У кіно збіралася. Днём паўспамінала, як мы з табой у школу хадзілі, танцы рабілі.

— Ды і я не раз прыпомню, што някепска некалі было, весела мы жылі,— сказала Анька.— А я ўжо ад'язджаю заўтра.

— Гэта ўжо ўсе твае госці?

— Ай, растрывожылася сёння... Многа згубіла я, што не вучылася, паспяшыла замуж пайсці за Мішу,— сказала Анька.

— Цяпер можна ўсяго дабіцца, калі захочаш,— прамовіла Юля.— З нашай вёскі ўжо многа ў людзі павыходзіла: інжынерамі, урачамі, настаўнікамі робяць. Нават адзін паэт ёсць, кнігі выпускае. Я тож, каб больш глядзела на свае здольнасці, не паспяшалася з замужжам, магла б настаўніцай ці яшчэ кім быць.

— У мяне, Юлька, такое... Як табе сказаць... Ты, Юлька, даўняя мая сяброўка, нікому не скажаш, я табе даверуся, хоць у першы вечар я і табе не хацела казаць,— Анька нахілілася да Юлі.— Ты ж ведаеш майго Мішу... Глядзіць ён мяне, адзяе, але дзе дзенешся, калі ён старэйшы за мяне на дваццаць год, вечныя яго камандзіроўкі, работа ад цямна да цямна, нарады, канферэнцыі... Ды такі нейкі ўпарты, адданы, што толькі і бачыць, жыве сваёй работай. А мне яшчэ і трыццаці няма, і я жыць хачу...

«Ну і Анька! — пранеслася ў галаве ў Юлькі.— Не так ужо ў цябе ўсё ёсць, як ты ў першы дзень хвалілася».

— Толькі ж ты, Юлечка, нікому не гавары, а то разнясецца па вёсцы,— убачыўшы разгубленасць Юлькі, сказала Анька,— І ён бачыць стаў, што не люблю я яго.

— Двое ж дзяцей у вас,— паразважаўшы, нясмела сказала Юля.

— Вось дзеці і трымаюць,— прызналася Анька.— Я ўжо на многае рашылася б, але дзеці... Любяць яны яго, і ён без іх не можа. Але з кожным днём мне цяжэй быць з ім, нават глядзець не магу. Прыехаў сёння Коля, убачыліся, пасядзелі — і так растрывожылася я, што можна іначай жыць і лепш. І так сёння палаяла сябе, што не выйшла некалі за Колю, пабаялася, што век электрыкам будзе, прасядзіць жыццё на слупах... А яно вось як выйшла, во якім бокам абярнулася!

— Я думала, што я толькі адна нешчаслівая...— сказала Юлька.

— Мае ў тым і няшчасце, мусіць, што я доўга думала, што я шчаслівая,— сказала Анька,— пакуль жыццё само мне не паказала іншае... А цяпер і не ведаю, як гэты вузел развязаць.

— Не ведаю і я, Анька, што табе сказаць,— прамовіла Юля,— толькі я і раней баялася так, як ты, жыць. Каб яшчэ не мама, дзіця малое, то, можа, па-іншаму было б, а так я пра іх больш думаю, чым пра сябе, тапчуся дзень ля хаты і сапраўды нічога не бачу.

— Думала, супакоюся дома,— сказала Анька.— Супакоілася...

— Складанае жыццё чалавечае,— прамовіла Юля.

— Не складанае яно,— не згадзілася Анька,— гэта мы самі часам блытаем усё, а пасля на жыццё скардзімся.

— Можа быць,— уздыхнула Юля.

— Не можа, а сапраўды ўсё так. Толькі вось нешта прымушае нас рабіць такія крокі.

— Можа, таму гэта бывае, што думаем мы мала.

— Можа,— згадзілася Анька.

Паслухала Аню Юля і ўспомніла свайго мужа: любілі, пажаніліся, добра жылі, пасля выдумаў нехта, што яна здрадзіла яму, загуляла з Толікам, пагарачыўся, не захацеў разабрацца...

І яна ўзгарачылася, не стала апраўдвацца, пакрыўдзілася, што не паверыў, і прыехала да маці.

«І невядома, каго трэба тут вінаваціць. Толькі не жыццё,— падумала Юля.— Усяго ў жыцці мы дабіваемся самі: і добрага і нядобрага...»

## 10

...Зіма выдалася на дзіва халодная, мяцелістая і снежная; нават у сакавіку, калі праходзіць пара вялікіх завärух, модных, траскучых марозаў, паваліў буйны сыпкі снег, засыпаў, закідаў дарогі. Прапалі

набоістыя каляіны, якія выездзілі, дасюль, і снег тут, у лесе, асабліва стаў глыбокі, мяккі. Рабочыя правальваліся па пояс, цягалі па снезе пілы, вымакалі за дзень і не маглі за ноч высушыцца. Часцей сталі бачыць худых ласёў: выгаладваліся, стамляліся поўзаць па такім снезе і часта здаваліся, ляжалі на жыватах, цяжка саплі, пускаючы клубы пары. Стомленых ласёў падпільноўвалі рысі і скакалі проста на шыю. Вось і ўчора знайшлі хлопцы аб'едзенага старога лася...

Генадзь, адчуўшы, як мякка аселі колы, так жа мякка апусцілася машына, зразумеў, што з'ехаў са старой цвёрдай дарогі (ранішні яе след замяло),— ён сполашна крутнуў управа баранку, газануў, але было позна: цяжкі лесавоз раўнуў і ўгруз. Генадзь пагазаваў, пасля пабаяўся, што пасадзіць газоўкаю колы, зарыецца ў снег, збавіў газ і вылез з кабіны. Адразу ўбачыў, што прычэп, нагружаны тоўстай высакаствольнай хвояй, заваліўся на левы бок, левае кола задняга маста было ледзь відаць са снегу.

«Не маглі пазначыць вешкамі дарогу,— злосна падумаў Генадзь пра брыгадзіра, які не паслаў людзей ці вольнага, «выхаднога» шафера з такою работай,— цяпер усе чэрці на свеце не памогуць выехаць».

Сёння на гэтай трасе Генадзь быў адзін. Тыя разы паспяваў яшчэ ехаць па сваім ледзь прыкметным следзе, ды пад вечар снег пагусцеў, засыпаў дарогу. Іншыя шафёры з яго брыгады тралявалі сёння лес на Лысоўцы, іх перакінулі «рабіць» план: пацяплее, распусціць дарогі — тады доўгі будзе «прывал», пара «курортаў». Яго, як больш сталага, пакінулі тут аднаго.

— Пасядзім, Сцяпанавіч,— сказаў Генадзь, пастукаў нагою па скатах,— але дзела наша знаёмае, шафёрскае.

Ён закурыў, дастаў шуфель і пачаў адкідаць ад колаў снег. Азірнуўся: вакол стаяў высокі лес, не было чаго дробнага ссекчы пад колы. Адкінуўшы снег, Генадзь зноў пачаў газаваць, разгойдваць машыну. Матор натужліва роў, машына падавалася, пасля, як было відаць з кабіны, колы саслізнулі яшчэ лявей, зарыліся, болей нахіліўся прычэп, збіліся, з'ехалі на адзін бок бярвёны.

«Забі цябе гром з яснага неба! — вылаяўся Генадзь.— Газаваць больш не варта».

Ён вылез з кабіны і, правальваючыся ў снезе, абышоў і агледзеў прычэп. Як убачыў, што спаўзлі ўлева тоўстыя бярвёны, стала ясна: ніколі ён сам не выедзе, і не варта болей старацца выскачыць, бо і машыну сапсуе і перакуліцца можа. Трэба ісці, пакуль зусім не замяло ды не звечарэла, у брыгаду і папрасіць Жэньку, каб выцягнуў тралёвачным.

Нечакана ўверсе, на бярвенні, пачуўся кароткі глухаваты трэск. Генадзь, як толькі пачуў яго, адразу зразумеў: ланцуг не вытрымаў бярвёння, што спаўзло ў адзін бок, і парваўся; ён добра ведаў, што будзе за гэтым,— і не стаў азірацца, кінуўся ўцякаць ад прычэпа. Але глыбою снег не даў завіхнуцца, Генадзь паваліўся, і яго ногі тут жа накрыла тоўстымі цяжкімі бярвёнамі, якія падалі з прычэпа, круціліся, каціліся адно па адным.

Ламанула левая нага, моцна, ажно як шылам, кальнула ў галаве; Генадзь ціснуўся ў снег, баяўся, каб не пляснула зараз па галаве. Ён чуў боль у нагах, моцны, нясцерпны, падумаў, што снег глыбокі, пульхны і выратаваў яго. Каб не гэты снег, то яго раздушыла б на блін...

Пасля яму нічога не стала думацца, пацямнела ў вачах, забалела галава, потым ён адчуў, як пячэ ў шчокі снег, растае,— і яму стала лягчэй, тая часіна, калі ён мог страціць прытомнасць, прайшла.

Генадзь накратаў правую нагу і не адчуў яе. Здаецца, яна была цэлая, толькі яе моцна прыціснула, і яна анямела. Спрабаваў тузануць левую — і аж завыў ад болю, заплюшчыў вочы і паваліўся тварам у снег.

Калі апаў гэты вялікі боль, зразумеў, што з левай нагой нядобра: або вывіх, або пералом. Зноў крануўшы правую нагу, адчуў, што яна не баліць, яе толькі ўціснула ў снег, спрабаваў вырваць яе з-пад таўшчэзнага камля — не хапала на гэта сілы.

Генадзь абціснуў локцямі снег, каб ён быў цвярдзейшы, і спрабаваў падняцца, але тут жа зноў апаў долу: забыўшыся, незнарок крануў левую нагу. Асцерагаючыся, ён яшчэ болей абціснуў снег і пачаў аграбаць бліжэйшую да рук правую нагу, каб вылезці з-пад бярвення.

Калі ён усё ж торгаў левай нагой і тая моцна балела, спыняўся, чакаў, пакуль аціхне боль, тады зноў выграбаў з-пад правай нагі снег.

Гула мяцеліца, кідала сухім калючым снегам, які сыпаўся за каўнер, раставаў, апякаючы холадам спіну. Качанела левая рука, якой ён адкідваў снег; ён дасюль нават не думаў, што снег можа быць такім халодным, так паліць ледзяной лютасцю пальцы. Генадзь браў пальцы ў рот, грэў іх, лажыўся на бок і адпачываў, пасля зноў падымаўся, падпіраўся локцем правай рукі і вызваляў нагу, сцінаючы зубамі вусны...

Гудзеў матор, і Генадзь з радасцю падумаў, як добра, што ён не выключыў яго: надвор'е марознае, стылае, а вада не спушчана — магла замерзнуць.

Нарэшце ён выцягнуў з-пад бервяна правую нагу, паварушыўся і сцяўся ад болю: левая балела ўсё больш і больш, і яе вызваліць, падумаў ён, будзе цяжэй. Калі ўцямнеецца, яго павінны схапіцца,

павінны здагадацца, што ён недзе забуксаваў, і выехаць на трактары насустрач. Але калі яшчэ гэта будзе; каб былі жонка ці маці, блізкія, яны падумалі б пра яго хутчэй, а суседка яго можа і не папярэдзіць начальства, яна прывыкла, што ён вяртаецца дамоў позна, часамі і зусім не прыходзіць начаваць...

Ён адграбаў снег, дакуль мог сагнуцца; цямнела; мяцеліца, здаецца, суцішвалася, не сыпала снегам; халаднела, і ён адчуў, што памацнеў мароз. Генадзь прылёг на бок і рашыў адпачыць, а заадно і сагрэць руку. Дзьмухаў на яе — нічога не памагала, тады ён прасунуў яе да грудзей, абмяк увесь...

Успомнілася Юля. Ён нават здзівіўся, чаму яна ўспамінаецца яму тады, калі цяжка — калі ў яго непрыемнасці на рабоце, калі яго нехта пакрыўдзіць ці ён каго і яго тады асуджаюць.

«Мусіць, таму ўспамінаецца яна мне ў цяжкую часіну, што ў мяне няма цяпер таго блізкага чалавека, з якім я мог бы дзяліцца ўсім сваім запаветным, патаемным, а яна магла б усё зразумець і падтрымаць».

І ён палаяў сябе, што жыве вось так: мае жонку, дзіця, любіць іх, але набраўся нейкага гонару, самалюбства, а то і ўпартасці, не напіша Юлі, не папросіць вярнуцца.

«Ды не пісаць трэба,— падумаў ён,— трэба з'ездзіць да яе, сустрэцца, пагаварыць... Што скажаш, таго не напішаш, што напішаш, таго не скажаш... Трэба з'ездзіць, абавязкова з'ездзіць...»

І Генадзь, адчуваючы, што сагрэлася рука, падняўся, пачаў адкідаць снег. Ён адчуў, што не трэба было лажыцца, астываць, бо боль цяпер быў мацнейшы, працінаў усё цела.

«З'езджу... Адпрашуся на пару дзён і з'езджу».

...Агні ён убачыў, калі зусім ужо стаміўся, выбіўся з сіл.

«Цяпер будзем жыць, будзем жыць, усіх чарцей перажывём»,— радасна падумаў ён і апаў на снег, і апалі ўсе яго сілы, ён не чуў, як да яго падбеглі рабочыя, выцягнулі з-пад бервяна і панеслі да трактара, што стаяў зусім блізка, ціха гудзеў.

## 11

Генадзю выдалі бюлетэнь, загадалі ляжаць у пасцелі. Ніколі не хварэў ён, ні слаба, ні моцна, а вось цяпер пачуў прыкрае знясіленне, пякучы боль: гарэла нага — яе паламала ля костачкі.

Ён адзінока ляжаў і думаў, як нядобра ўсё выйшла, пасля, як ніколі, адчуў, што бесталкова ён жыве, ганіцца за жураўлямі ў небе. Калі падумаць, не трэба яму гэты леспрамгас, гэтыя вялікія лясы, трасы, грошы; даўно, відаць, варта было пакінуць сваё нікому не

патрэбнае кавалерства, глядзець сваю сям'ю ды жыць у згодзе, жыць для некага, не толькі дзеля сябе, і з прыемнасцю бачыць, што для цябе таксама нехта жыве.

Канечне, ад хлопцаў, з якімі столькі гадоў прарабіў, нялёгка будзе адвыкнуць. Зжывуся.

Ён востра цяпер адчуў, як нестае Юлі. Дзе яна, што робіць?

На грошы Юля кваплівая не была: колькі ні бубніў ён пра тысячы, пра машыну, яна не зайздросціла; калі паслухаў чужых плётак, прычапіўся, ударыў аднаго разу, узлавалася і з'ехала. Нядобра, канечне, з ёю выйшла, але не толькі ён вінаваты. Была яна нейкая дзіўная, вельмі ўжо вясковая, жыла па-свойму і хацела яго пасвойму перайначыць, і яна прымусіла ўзлавацца, падняць руку...

...Сябры прынеслі з сабой і павывальвалі на стол два боханы хлеба, кансервы, каўбасу. Самі распрануліся, паскідалі на ложак целагрэйкі. Хлопцы недзе ўжо дагэтуль добра падвыпілі, былі цяпер вясёлыя, добрыя, клапатлівыя.

— Як, стары, твая нага? — спытала Тонька, што таксама прыйшла з хлопцамі; яна расчырванелася ад марозу, гарэла тварам, што жар.

— Нармальна,— незадаволена сказаў Генадзь, паволі і нехаця падняўся з пасцелі, накінуў на плечы-кажух.

— А мы перажываем за цябе,— сказаў Жэнька, адкаркоўваючы пляшкі, Алік рэзаў лустачкамі хлеб, Толік дзёўб нажом кансервы, Тонька чысціла і наразала скрылёчкамі каўбасу.

— Не нам, рабочым людзям, хварэць,— сказала Тонька.— Мы яго хутка падымем на ногі, хутчэй нават за ўрачоў.

Падрыхтаваўшы закусь, хлопцы саставілі крэслы і паселі вакол стала.

Яны паднялі шклянкі, чокнуліся, паглядаючы, падбадзёрваючы адзін аднаго, але не пілі, усе глядзелі на Генадзя. Ён усміхнуўся, асцярожна падняў сваю шклянку, пакруціў яе, паднёс да рота, глытнуў крыху і паставіў на стол.

— Не!

— Так не пойдзе, так за сваё здароўе не п'юць! Нельга сабе зла пакідаць.

— Што з табою, Генік? — здзівілася Тоня, зноў падала Генадзю яго шклянку.— Выпі, Генка, я ж ведаю тваю сілу.

— Ты слаба, Тонька, ведаеш маю сілу, і не тую,— не гледзячы на дзяўчыну, сказаў Генадзь, адвёў яе руку з гарэлкай і кусануў каўбасы. Хлопцы паціснулі плячыма, глянулі адзін на аднаго, выпілі крыху, паставілі шклянкі і таксама пачалі закусваць.

Усе елі моўчкі. Даўно не было ў гэтай дружнай кампаніі такога няёмкага, незразумелага маўчання, даўно так ніхто не думаў доўга, якое ж сказаць слова.

— Паўторым,— азвалася Тонька і даліла ўсім у шклянкі, сабе зноў напалавініла.— За здароўе нашага слаўнага Генкі!

Сказала, адным махам выпіла ўсю гарэлку, толькі крактанула і, выцершы рукавом вусны, скрывілася і панюхала хлеб. Хлопцы выпілі, хто колькі асільваў, глядзелі на Генадзя. Той зноў толькі памачыў у гарэлцы губы і паставіў шклянку на стол.

— Ты што? — абурылася Тонька.— Чаго такі сёння не ў гуморы?

— Я рашыў больш не піць.

— З гэтага вечара,— хіхікнуў Жэнька.

— З гэтага вечара.

— Дык і давай вып'ем за тое, каб ты захаваў сваё нутро, чалавекам стаў,— падала Генадзю шклянку Тонька.

— За гэта я ўжо адпіў,— ён адвёў руку дзяўчыны.

— Во напалохаўся,— засмяялася Тонька.— Колькі ты ні асцерагайся, а пражывеш усё роўна столькі, колькі табе адведзена.

— Трэба нам, хлопцы, крыху разумней жыць,— спакойна сказаў Генадзь.— Робім мы добра, хваляць нас, але пасля работы вольны час свой абы-як праводзім. Я вось думаю, што многа я страціў у жыцці... Страціў добрага, самага чалавечага...

— І многа ты аб гэтым ужо думаў? — спытала Тонька.

— Ды нямала,— сказаў Генадзь.

— І што ты страціў?

— Многае,— прамовіў Генадзь, памаўчаў, нават не глянуў на яе, сам наліў усім і сабе поўныя шклянкі, асцярожна падняў сваю.

— Давайце, хлопцы, вып'ем астатні раз, каб мы болей не ганяліся за гэтым зеллем, нешта другое і лепшае бачылі. Давайце вып'ем, каб шчаслівыя былі, каб людзі ад нас ніколі не плакалі.

Усе выпілі.

— А цяпер, хлопцы, ідзіце. Я хачу пабыць адзін.

Сябры сёння не разумелі Генадзя, якога паважалі; маўчалі, лыпалі вачыма, гадалі, што ён задумаў.

Генадзь праскакаў на адной назе, адчыніў дзверы, і хлопцы высыпалі з хаты; толькі там, на зімовым двары, чуваць было, што яны перагаворваліся, стараліся дайсці да толку.

— Артыст ты, Генка!— усміхнулася Тонька,— Так разыграць сяброў.

Яна засталася, села на Генадзеў ложак, скінула з ног валёнкі.

— Апранайся, Тонька, і ідзі дадому,— сказаў Генадзь.— Не трэба гэта.

— Ты зусім нядобры, Генка,— пакрыўдзілася Тонька, — Я не люблю цябе.

— Тады ты не ведаеш, як можна любіць,— сказаў Генадзь,— а так ты і Аліка любіш, і таго карэспандэнта любіла, што ў лютым прыязджаў да нас...

— Дык хто я, па-твойму? Ну, скажы? — Тонька, расхваляваная, раззлаваная, устала і падышла да яго,— Культурны, не гаворыш. Тады скажы, назаві мне тую, што ўмее любіць.

— Юлька.

— І я цябе люблю, і даўно,— прыхінулася да яго.— Я добра бачу, бабскім сваім сэрцам чую, што ты яе не забыў, хаваеш у памяці, і я чакала таго дня, калі табе гэта ўсё надакучыць і ты захочаш па-іншаму жыць.— Тонька абхапіла яго рукамі.— Я хацела цябе ўсяляк утрымаць — і гарэлкаю, і ўсім... А з другімі нічога не было... Бачыла, што ты мяне не любіш, думаеш пра другую...

— Прабач, Тонька, ты харошая дзяўчына і будзеш шчаслівая.— Генадзь падняў дзяўчыну, глянуў ёй у вочы.— Жонка яна мне, хоць і хачу забыць яе, але не магу. Ды сын у мяне ёсць...

— Не забываецца яна, твая Юля?

— Не.

— А я?

— Ты, Тонька, добрая дзяўчына. Каб я быў халасцяком, то ніколі ад цябе не адмовіўся б. А так...

Тонька глянула на яго, жаласліва сціснула вусны і заплакала: бачыла — любіць ён сваю жонку, не забудзе...

## 12

— Мама, хадзі сюды,— убег у хату і паклікаў Пецька,— хадзі нешта пакажу.

Юля мыла посуд, паслухала сына і ўсміхнулася: заўсёды нешта заўважыць і выдумае ён, да чаго яна ніколі не дадумалася б. Неба было чыстае, днямі шэрыя, як попел, хмары, што нізка віселі над зямлёю, крануліся і папаўзлі на захад. Каторы ўжо дзень дыхала сакавіцкім цяплом.

— Глянь, мама,— паказаў сын на страху.

Яна паглядзела і ўбачыла зеленаватую гонту, што цяпер была мокрая, цёмная; толькі з краёў, дзе шастаў вецер, выдзімалася, высыхала.

— Ну, што? — здзівілася Юля.

— Ды ты на ваду глядзі,— падказаў сын.

Толькі цяпер Юля ўбачыла, што здзівіла сына: на сярэдзіне страхі, дзе быў раўчучок ад стрэшкі акенца, вада цякла ручайком, звонка лілася на зямлю, а на астатніх месцах страхі збіраліся кроплі, буйнелі, абвісалі і падалі ўніз.

— Бачыла? — спытаў сын.

— Бачыла,— усміхнулася Юля.

— Што вы там угледзелі? — пацікавілася маці, якая не выцерпела і таксама выйшла з хаты.

Юля паказала ёй на кроплі.

— Падзяцінелі: і сталая, і малое,— сказала маці і вярнулася ў хату, дадала адтуль: — Ідзі мый посуд, а то вада астыне.

— Ну, ты пaглядзі,— сказала Юля,— а я пайду, бо, чуеш, баба злуецца.

— Мама, я намалюю гэта.

— Намалюй, сынок, хто ж табе не дае,— усміхнулася Юля.— Калі ўбачыў, то намалюй.

Юля зайшла ў хату, узялася дамываць посуд, на душы ў яе было легка. Каб не маці, то і заспявала б.

— Сёння настаўніка вашага спаткала,— сказала Наталля— Затрымаў мяне, паздароўкаўся. Пра цябе распытваўся...

— Кіньце вы, мама.

— Гавару, што чула,— сказала маці.— Кажа: мне лягчэй з вамі гаварыць, як з Юльянай.

— Яму пара ўжо ўнукаў гадаваць, а не...

— Не такі ён ужо стары,— запярэчыла маці.

— Ну і не маладзёнак,— сказала Юля,— лысіна на галаве...

— Добры, кажуць людзі. Не п'е. Кажа: хацеў я з вашай Юльянай пагаварыць, але саромеюся.

— Яшчэ што! — абурылася Юля.

— Прыйдзе вечарам.

— Уцяку з хаты,— сказала Юля.— Не трэба ён мне.

— А я б на тваім месцы, дзеўка, не завіхалася гнаць такога чалавека,— прамовіла Наталля.— Жывеш зіму, а твой табе ніводнага пісьма не прыслаў, значыць, не трэба ты яму. Нядобры ён, я гэта і тады, на вяселлі вашым, бачыла, але што магла сказаць. Сама выбірала...

Юля адказала б нешта, але ля акна мільгануўся чалавек. Яна глянула: Уладзімір Сямёнавіч.

Зайшоў у хату, павітаўся.

Наталля запрасіла яго прысесці, загаварыла з ім пра надвор'е, пра школу, згаджалася, што не хочуць цяпер вучыцца дзеці.

Юля вымыла посуд, выпаласкала яго, з настаўнікам не загаварыла, хацела ўцячы з дому, але пасаромелася.

Пасля Наталля пачаставала госця. Мусіла з ім сесці і Юля, хоць і адмаўлялася выпіць, скардзілася, што баліць галава. Уладзімір Сямёнавіч, відаць, здагадаўся, што Наталля перагаварыла з дачкою і што Юля супроць, каб выйсці за яго.

— Я, Наталля Пятроўна, пайду, мусіць, ужо дадому,— пагаварыўшы са старою пра вёску, сказаў ён.

— Пасядзіце яшчэ,— гаварыла Наталля.— Ноч вялікая, выспіцеся.

— Ночы вялікія цяпер, але спаць не хочацца,— сказаў Уладзімір Сямёнавіч, паглядаючы на гладка прычасаную, у новай кофце Юлю, якая сумавала цэлы вечар, не піла, не ведала, дзе прыкласці рукі, куды глядзець.

— Пасядзіце яшчэ,— прасіла Наталля.

— Хіба з Юльянай Іванаўнай,— збянтэжыўся госць.

— Выпіце, пагаварыце,— запрашала Наталля, і пажылы, лысаваты Уладзімір Сямёнавіч запалаў, што падлетак, закруціўся на крэсле.

— Гаворка наша, Наталля Пятроўна, адна,— сказаў ён,— сталы я, у мае гады можна ўнукаў ужо мець, а ўсё ніяк не магу прыбіцца да якога берага, нясе мяне вада, кідае... Юльяна Іванаўна тож адна, нудзіцца. Гаруеце вы, гарую я... Трэба, каб вы ўзялі мяне ў сваю хату за гаспадара; вясковую работу я магу рабіць, мальца глядзець буду і вас, старую, не пакрыўджу.

— Дамаўляйцеся вы ўжо з маладою, мне жыць на гэтым свеце мала засталося,— сказала Наталля.— А яна няхай сама глядзіць, як жыць надалей, як хлопца на ногі падняць,— дабавіла, устала, палічыла, што сваё яна сказала, і палезла на печ, дзе, сцішыўшыся, натапырыўшыся, што верабей, сядзеў і назіраў за ўсім унук.

— Давайце сёння, Юльяна Іванаўна, усё рашаць,— саромеючыся, сказаў Уладзімір Сямёнавіч.— Знаёміцца нам не трэба, сябе хваліць тож. Не адзін месяц разам рабілі, ведаемся. Возьмеце — застануся ў вас, адмовіце — з'еду вясною, не магу я так больш. А дзіця глядзець буду, я ж не маладзёнак, што папракаць вас буду, ды сам такі: жанаты быў, не зжыўся з жонкаю, развяліся...

— Я веру вам, Уладзімір Сямёнавіч,— сказала Юля,— толькі вы якую настаўніцу, жанчыну разумнейшую, падбярыце сабе: жыццё наша вядомае, сялянскае... І работа мая такая, кухарская: абы дзецям смачна есці варыць.

— Я і сам вясковец, Юльяна Іванаўна, а вам другая і настаўніца не дакажа ні красою, ні работаю, ні розумам,— гаварыў Уладзімір Сямёнавіч і схіляў галаву. — Дужа вы чалавек добры, разумны, да чужога гора чулая. Добрыя людзі вамі не нахваляцца. Я пражыў ужо нямала, паглядзеў людзей, але такіх, як вы, мала сустракаў. Вам верыш адразу, вам цяжка адмовіць... Вяселля нам, Юльяна Іванаўна, вялікага можна не рабіць, не маладзенькія мы жаніхі, людзей весяліць не збіраемся, а сваякоў блізкіх вашых, настаўнікаў нашых можна паклікаць.

— Чаго ты маўчыш там? — азвалася з печы Наталля.— Скажы адно чалавеку — прымеш у гаспадары ці не? Я толькі скажу, што трэба думаць, як жыць,— гаварыла старая, папраўляючы сабе пасцель,— гэта ж не жыццё, што самой, бабе, у лес ездзіць, рэзаць, калоць дровы трэба, дзіця бязбацькавічам гадуецца.

— Ціха вы, мама,— сказала Юля.

— Я ў цябе нічога не разумею, параіць не магу,— пакрыўдзілася маці.

— Скажыце што, Юльяна Іванаўна...— папрасіў настаўнік.

— Няма мне вам што сказаць,— панурыла галаву Юля.— -Задумалі вы сур'ёзнае, сур'ёзнае хочаце, а ў мяне сын. Глядзець вы яго будзеце, але бацькам не станеце.

Уладзімір Сямёнавіч разгубіўся, сядзеў і не ведаў, што сказаць.

— Я не папракаю вас, але баюся...

— Я разумею вас, Юльяна Іванаўна. Вы — маці, а я бацькам некалі быў, я разумею вашу трывогу. Толькі цяжка вам адным...

— Ды неяк жа жыць будзем,— прамовіла Юля.— Што самі зробім, што людзі памогуць.

Яно так,— згадзіўся Уладзімір Сямёнавіч.— Прабачце. Я не думаў вас пакрыўдзіць, я хацеў, каб было як лепей і вам і мне.

— Не трэба,— сказала Юля, і ёй стала шкада пажылога чалавека, хоць не магла нічым хоць бы крыху памагчы яму.

— Ну, я пайду,— збянтэжана сказаў Уладзімір Сямёнавіч.

— Хачу да мамы! — тоненька азваўся з печы Пецька.

— Ляжы ты, смала! — загаварыла да ўнука старая. Малы заплакаў. У Юлі сцялася сэрца — здаецца, перавярнулася ўсё ўнутры.

— Прабачце, Уладзімір Сямёнавіч,— сказала настаўніку,— не магу я...

— Не апраўдвайцеся, я разумею ўсё,— папрасіў той.

— Не злуйцеся.

— Я не злуюся на вас, Юльяна Іванаўна,— сказаў настаўнік і пачаў апранацца.— Як не любіш, то ўсё не міла. Можа, і праўда, не

трэба нам неразважлівага кроку рабіць. Але я вам жадаю шчасця і вялікага кахання, вы варты яго,— Уладзімір Сямёнавіч узяў бяссільную руку Юлі, пацалаваў і хутка выйшаў з хаты.

— Ах ты, блазнюк! — закрычала раптам на ўнука Наталля.

— Хадзі сюды, сынок,— паклікала Юля.

Пецька саскочыў з печы і перабег да маці.

— Ну, дзеўка мая, лепшага табе ўжо не дасць бог,— сказала Наталля.— Пашкадаваў ён цябе яшчэ, пасылаў добрага чалавека, з дзіцём браў — сама адмовілася. Відаць, век будзеш гараваць з дзіцём, удавою. Не веру я, каб твой вярнуўся.

— Але ж не магу я за нялюбага ісці,— сказала Юля.— Ды і яго жыццё будзе якое...

— Глядзі сама, дзеўка. Я ж хачу толькі, каб табе добра было,— прамовіла маці.— Ды і дзіця не многа ўбачыць, калі будзе на стрэхі глядзець.

— Дасць бог, нешта ўбачыць,— сказала Юля.

## 13

Днём ярка выбліснула вясновае сонца, парадавала першым прыпёкам — мігам сагнала са стрэх апошні снег, пацяклі мутныя ручайкі. Сцены ўжо награваліся, сохлі, у зацішку, на прызбах, грэліся куры, спрабавалі капацца ў пяску, што таксама прасыхаў, бялеў і пыліўся.

Юля дастала з кубельца цяжкі кумпяк, за зіму прасолены, размяклы ад расолу, ачысціла яго, абхінула марляю, вынесла і навесіла на цвіку пад страхою. Убіла яшчэ колькі цвікоў і развесіла на іх каўбасы, паляндвіцу. Сёння, бачыла яна, каторыя прывозілі з лесу ядловец, падграбалі трэскі, ладзілі старыя курыльні — збіраліся вэндзіць.

Юля хацела падсушыць мяса і таксама прадыміць яго. Яна вельмі любіла вяндліну з хлебам ды са шчаўем, падпячы з яечкам, любіла гэты пах дыму, ядлоўцу; лічыў за лепшыя прысмакі вяндліну і Пецька.

Ён увесь час круціўся ля яе, выносіў сала з кубла, абчышчаў, стаяў на панадворку і не падпускаў вераб'ёў.

— Мама, дзядзя больш не прыйдзе да нас? — нешта ўздумалася пасля яму запытацца.

— Не, сынок, не прыйдзе,— адказал Юля.— Не трэба ён нам.

— І тата не прыедзе?

— А тата прыедзе і не забудзецца прывезці табе веласіпедзік,— немаведама чаму маніла сыну Юля, якая і сама не вельмі верыла, што Генадзь можа вярнуцца да яе.

— А дзе наш тата? — спытаў Пецька,— Баба гаварыла, што ён ніколі не прыедзе да нас.

— Няпраўда, сынок, прыедзе.

— Баба наша маніць?

— Не, сынок,— сказала Юля,— баба наша добрая, яна не маніць. Яна не ведае таты, таму і думае, што ён не прыедзе.

— А тата наш добры?

— Добры, сынок,— сказала Юля.— Толькі з дрэннымі людзьмі вадзіўся, не ведаў часамі, што робіць. Ды і ён цябе не ведае: каб бачыў, што ты такі высокі, прыгожы, то даўно прыехаў бы.

— А ты напішы яму, мама,— ажывіўся Пецька, бліснуў вачыма.— Ты ж цёці Мані пісьмы пасылаеш, то і яму напішы.

— Не, сынок, пісаць мы яму не будзем, некалі я табе скажу — чаму, цяпер ты яшчэ не разбярэшся ў гэтым... — Юля яшчэ штосьці хацела сказаць, але змоўкла: ішла паштарка. Тая павіталася, дастала з сумкі і аддала газету, але сумкі за плячо яшчэ не закінула, выцягнула пачак пісем, разабрала іх; Юля чакала, што будзе матчына пенсія, як паштарка дастала ліст.

«Манька наша прыслала»,— падумала Юля, узяла пісьмо, глянула на яго і — здзівілася: почырк, якім быў надпісаны адрас, здаўся ёй зусім незнаемым. Здаецца, яго яна ні разу не бачыла.

Відаць, ён быў чужы, незнаемы і паштарцы; яна стаяла, чакала, мусіць, што Юля скажа, ад каго ліст: заўсёды хацела ўсё ведаць. І яна знала, якім бацькам у вёсцы дзеці пішуць мала, а якім многа, ведала, якой дзяўчыне і колькі піша хлопец з арміі...

Але Юля не вельмі любіла хваліцца сваімі навінамі, расказваць пра сябе іншым, таму не разарвала канверт, а панесла яго ў хату.

Зацікаўленая сама, яна хуценька абарвала канверт, дастала ліст і пачала чытаць. Пецька стаяў ля стала і глядзеў на яе. І чым больш мяняўся яе твар, тым сын пільней глядзеў на яе.

Юля прабегла вачыма па пісьме, зноў пачала чытаць, удумваючыся, стараючыся разабраць кожнае слова; прачытаўшы, зразумела ўсё, жахнулася і схапілася ад страху, жалю за галаву, сціснула яе рукамі, зажмурыла вочы, чула, як моцна стукае кроў у скроні...

Нешта дапытваўся ў яе сын, тузаў за рукаў, але яна не магла пачуць малога: такое было нечаканае гора, што звалілася на яе...

— Мама, і гэта тата наш прыслаў?

— Тата,— не сваім, нейкім глухім голасам адказала яна.

— Баба, тата пісьмо прыслаў! — заскакаў Пецька, схапіў ліст і панёс бабулі.— А ты казала, што ён не напіша нам, не прывязе мне веласіпед.

Наталля ўзяла пісьмо, паднесла да вачэй, але не магла разабраць літар. Тады яна спаўзла з печы, дзе драмала нядаўна, дастала з шафы

свае старыя, падрапаныя Пецькам, з ніткамі замест дужак, акуляры, пачапіла іх на нос, паднесла ліст да акна і пачала голасна чытаць. Прачытала, зняла акуляры і паглядзела на Юлю, але тая не падымала ад стала галавы. Цяжка было разабраць: яна плакала ці так, без слёз, бедавала. Наталля падышла, палажыла ля Юлі пісьмо, села паблізу і глядзела на нядаўна вясёлую, цяпер такую нярадасную дачку.

— Захварэў, з'язджаць надумаўся... Хай едзе, косіць сабакам сена,— сказала маці.

— Гэта не ён пісаў,— азвалася Юля, не падымаючы галавы.

— Дзе ж ён сам напіша, сорамна, сабаку, было. Вось і папрасіў некага.

— Што вы, мама, гаворыце: сам ён можа напісаць, але другіх не папросіць, я яго ведаю,— сказала Юля і падняла галаву, на шчоках яе былі слёзы.

— Ведаеш ці не ведаеш, дзіця, але ссушыў ён цябе.— Маці ўстала, чамусьці не магла глядзець у вочы Юлі.— І цяпер во чарнець па ім будзеш.

— Паеду я, мама.

— Дзеўка, ён хворы, можа, які,— абярнулася, холадна бліснула вачыма маці. Юля аж сцялася ад гэтага халоднага позірку.— Не ведаў ён цябе дагэтуль, з дзіцём у свет пусціў, столькі гора табе прынёс, забудзь і ты пра яго.

— Што вы, мама, гаворыце? Хіба вытрываю я? — вымавіла Юля, а сама падумала са страхам: «Божа, што я ўчора нарабіць магла...»

— З тваім характарам лепш не радзіцца,— сказала Наталля.— А другая паказала б яму. Ужо як за такім жыць, дык лепш ніякага не мець. Чалавек сам учора да цябе прыходзіў, ды добры чалавек...

— Паеду я, мама,— сказала Юля.— Не будзе мне шчасця, нішто не будзе міла...

— Едзь,— згодна сказала маці.— Хіба я цябе трымаю? Я век патурала табе. Каб меней патурала, стражэйшая крыху была, і ты шчаслівейшая была б.

...Юля прыбралася, апранула, што мела лепшае, падвяла бровы, пафарбавала вусны, пакруцілася ля люстэрка, паўглядалася на сябе з сумам і затоенай радасцю.

Ля грубкі стаяла і ўважліва глядзела на яе Наталля, дробненькая, сівая, з парэпанымі рукамі. Ёй, непрыгожай ад старасці ды і ў маладосці не надзеленай красою, сціналася, балела сэрца, што дачка яе такая яшчэ маладая, прыгожая, як адзелася чыста, дык і ў горадзе, здаецца, такой красы не знойдзеш. Але старая не сказала пра гэта

дачцэ, паказвала, што злуецца, не хваліць, што тая надумалася рабіць па-свойму.

— Ну, будзьце здаровы! — Юля завязала хустку, яшчэ раз паглядзелася ў люстэрка.— Слухайся, сынок, бабулю.

— Вазьмі хлеба, каўбасы, з'ясі ў дарозе.

— Дзякуй, мама! — пасвятлела тварам Юля і пацалавала маці ў шчаку,— Добрая вы!

— Добрая! — змахнула фартухом слёзы маці.— Я ніколі, дзіця, табе ворагам не была. Едзь, калі надумалася.

— Паеду, мамачка!

Юля пацалавала сына і пайшла на аўтобус.

## 14

Суседзі трапіліся негаваркія, маўклівыя: старэнькі сівы дзядок прыхінуўся да сцяны і драмаў, і маладзенькая дзяўчына ўвесь час глядзела ў акно ці чытала.

Юля сядзела і думала; у дарозе, калі няма з кім пагаварыць, хораша і ясна ўспамінаецца, што было ды прайшло, ацэньваецца, якім яно было ці магло быць; таксама цягне памарыць, пагадаць, уявіць сваё жыццё і сябе лепшым, шчаслівейшым.

Юля думала пра Генадзя. Прачытаўшы ліст, яна крыху здзівілася, што ён не забыў яе, і па-жаночы спагадала: як ні злавалася, але не жадала чалавеку гора. Падумала, чаму Генадзь сам не напісаў ёй, не папрасіўся: верыў у сваю ранейшую выдумку ці пасаромеўся? Прасіў знаёмую напісаць ці яна сама даведалася, вышукала неяк яе адрас і напісала? Пасля падумалася, што, можа, ён цяжэй захварэў, чым як піша знаёмая.

...Звялі іх сцежкі неспадзявана, на танцах, як часта цяпер бывае гэта ў маладых. Генадзя, высокага, шырокага ў плячах, Юля бачыла ўпершыню ў клубе.

Анька таго ж вечара пайшла дамоў з сябруком Генадзевым. Юля не падала за хлопцамі, нават баялася іх, помніла перасцярогі маці.

У леспрамгасе многа хлопцаў, і чубатых, і лысых, і «рабацяг», і начальнікаў, спрабавалі загаворваць з ёю, падкочваліся з падарункамі, але, убачыўшы яе асцярогу, нават вясковую дзікаватасць, хутка адыходзілі.

Аднойчы Юлю на роўнай дарозе, як кажуць людзі, спаткала бяда: адною нядзеляю, калі асабліва было сонечна, ярка на дварэ, яна каталася з сяброўкамі на лыжах. Паехала з высокай гары, не ўтрымалася, кульнулася ў снег і вывіхнула руку.

Наверсе смяяліся, аж браліся за бакі. Калі яна, паспрабаваўшы падняцца, войкнула і зноў упала, усе затрывожыліся, пад'ехалі і абступілі яе.

Яна плакала. Генадзь скінуў з яе ног лыжы, узяў Юлю на рукі, панёс у пасёлак. Юля абшчапіла яго за шыю, сцінала зубы і ціха войкала ад болю, нават не саромелася, што яе нясе на руках хлопец, пра якога не зусім добра гавораць у пасёлку, якім страшаць пажылыя кабеты маладых неразважлівых дзяўчат. Яна захваляваласся, разгубілася, калі назаўтра Генадзь прыйшоў праведаць яе, прынёс цукеркі, варэнне.Ён пасядзеў ля яе хвілінку і хутка пайшоў. І Юля пашкадавала, што яна, такая сумная, не зацікавіла яго.

Неспадзявана Генадзь зноў наведаўся, а пасля перастаў хадзіць. Юля чакала яго, і хацела гэтай сустрэчы, і баялася яе. Яна нават баялася падумаць сабе, што нечакана закахалася ў незнаёмага хлопца.

...Помніцца, у той зімовы позні вечар было цёмна, шэрым здавалася поле, асабліва густым і чорным выдаваў лес, і не відаць было, як сыпаў ціхі начны снег; толькі пры святле, што падала з акон, бачылася, як цярусяцца сняжынкі, якія яны белыя і пушыстыя.

— Я сіраціна,— гаварыў Генадзь,— бацькі мяне згубілі ў вайну. Нават не ведаю, ці сапраўды я называюся Генадзем. Колькі ні пісаў ды людзей ні прасіў — так і невядома, адкуль з'явіўся, нібы бусел мяне ў два гады ў Мінск прынёс.

— Дык ты сам з Мінска? — спытала Юля.

— Відаць,— адказаў Генадзь.— Адзінокі во цяпер як пень.

— Затое ёсць сябры,— сказала Юля.

— І ты,— узрадаваўся Генадзь і прыхіліў яе да сябе.

Юля здзіўлялася, гадала, чаму ён такі чалавек: на людзях нахабны, сярдзіты, нават злосны, не можа жыць, каб не абразіць каго, а застаўшыся з ёю адзін, губляецца, саромеецца, загаворвае пра сваіх невядомых бацькоў, сваё няўдалае жыццё.

Тым вечарам яна ўпершыню зайшла на кватэру да Генадзя. Хлопцаў дома не было, паразбягаліся недзе па пасёлку. Юля і Генадзь гулялі ў шашкі, пілі гарачы чай.

Нечакана патухла святло. Стала вельмі цёмна, ціха, здаецца, нават чуваць было, як шаргацеў на двары снег.

Генадзь перасеў да Юлі, абняў яе за плечы. Ёй стала страшна, а Генадзь гладзіў яе валасы, ціснуў сваю шчаку да яе шчакі. Яна адчувала, як штосьці незнаёмае туманіць ёй галаву, і Генадзь, відаць, адчуваў гэта: пачаў моцна цалаваць яе.

— Пусці, Генадзь,— папрасіла яна, але такім ціхім, нязлосным голасам, што ён не звярнуў на гэта ніякай увагі, а можа, і зусім не чуў яе слоў. Юля не магла адштурхнуць яго...

## 15

Цягнік у Мінск прыбыў своечасова, спазніўся хіба на якія дзве-тры хвіліны.

Юля ўзяла свой чамаданчык і выйшла на перон. Сталіцу яна крыху ведала: прыязджала колькі разоў, ездзіла гасцяваць да цёткі. Цяпер яна выпіла з дарогі шклянку газіроўкі, падалася ў вакзал.

Білет ёй удалося ўзяць хутка. Перакусіла ў буфеце, пахадзіла па гулкіх залах і не магла нідзе знайсці месца, каб прысесці: усё пазаймалі людзі — сядзелі, драмалі ці чыталі газеты.

Юля падалася да кніжнага кіёска, каб купіць на дарогу якую кнігу, і ўбачыла знаёмы твар. Прыгледзелася, прыслухалася. Вельмі знаёмым здаўся ёй і голас.

Так, гэта была яе сяброўка, Анька.

Юлі здалося, што Анька таксама згледзела яе ў гэтую хвіліну, але паўглядалася толькі адно імгненне, тут жа адвярнулася, па-ранейшаму гаварыла з нейкай жанчынай.

— Аня! — Юля кранула сяброўку за руку.

Тая хутка павярнулася і так здзіўлялася, што Юля зразумела: Анька заўважыла яе раней, але не хацела сустракацца.

— Ой, Юлька! — прытворна ўзрадавалася Анька, абняла і пацалавала ў шчаку.— Так прыфранцілася, што я цябе не пазнала... Куды ты выбралася?

— Ой, Анечка,— уздыхнула Юля,— гора ў мяне. Вось еду па бядзе.

— Што такое?

— Гена ў бальніцы,— сказала Юля.

— Напісаў усё-такі?

— Знаёмая пісьмо прыслала, напісала, што мучыцца ён без нас даўно, зблажэў зусім...— Юля дастала з сумачкі пісьмо і падала Аньцы.

— Любіць ён цябе,— прачытаўшы, сказала тая,— Паспрачаліся вы, раз'ехаліся, думаў мо: едзь, выжыву і без цябе. Цяпер не вытрываў, ные сэрца, што недзе ёсць сын, ты, вось і перажывае. І ў цябе злосць, відаць, адышла...

— Адышла,— сказала Юля.

— Ты яшчэ ўсё можаш паправіць,— уздыхнула Анька.— Паспрачаліся, пажылі адно без другога і ўбачылі, што вам трэба быць толькі разам.

— Ну, а як ты жывеш, Анька? — спытала Юля.

— І не пытайся...

— Не памірыліся?

— А мы і не злаваліся, не спрачаліся,— сказала Анька.— Мы абое ўбачылі, што ўсё не так, як мы думалі. І мы мучымся, і дзеці сталі прыслухоўвацца. Пазіраюць на нас і здзіўляюцца...

— Ты яго зусім не любіш?

— Я яго, Юлька, ніколі не любіла,— прызналася Анька, — толькі спачатку думала — прывыкну, зжывуся, абы па-чалавечы жыць пачаць...

— Нялёгка табе,— паспачувала сяброўцы Юлька,— як і мне.

— Яшчэ можа і цяжэй. Ты хоць цяпер у штосьці верыш, на нешта спадзяешся...

— Я ніколі і не ганялася за лёгкім шчасцем,— сказала Юлька.— Жыла, верыла, кахала і даражыла гэтым каханнем, таму спадзявалася і цяпер спадзяюся на сваё шчасце.

— А я вось вузялок завязала, самой і развязаць прыйдзецца,— прамовіла Анька.— Ты цягнікам паедзеш?

— Цягнікам.

— Ну, шчасліва табе,— скупа ўсміхнулася Анька.— Калі любіш, то едзь, не любіш — лепш не ехаць.

— Паеду,— сказала Юля.

— Ну, дай табе бог шчаслівай долі.— Анька прыцягнула Юлю да сябе і пацалавала, хацела яшчэ, мусіць, штосьці пажадаць, але не сказала, адвярнулася; выцерла хустачкай вочы і пайшла ў горад.

Юля выйшла з вакзала і пачала глядзець услед Аньцы. Глядзела і здзіўлялася: Анька, прыгожая, стройная дасюль, шчаслівая, стала нейкая маленькая, згорбілася, і кожны, хто раней ведаў яе, відаць, цяпер здзівіўся б гэтаму.

## 16

Гарадскую бальніцу Юля знайшла хутка. Распытала, даехала з вакзала аўтобусам і прайшла крыху.

Убачыўшы бальніцу, разгубілася — не ведала, як сустрэцца з Генадзем, што сказаць яму. Ды як ён выглядае, трымаецца цяпер?

Прыпынілася ля варот, удыхнула на поўныя грудзі паветра, пастаралася аддыхацца, супакоіцца, прыдумаць, што сказаць. Тое, што прыходзіла ёй у галаву за дарогу, здавалася цяпер няёмкім, нядобрым, а то і недалікатным.

Юля пастаяла, так і не супакоіўшыся пайшла ў бальніцу. Яна думала, што цяпер на яе глядзяць з усіх акон, але хворыя, урачы хадзілі спакойна па двары і на яе не зважалі.

Юля зайшла ў бальніцу, патапталася. Убачыла маладую прыгожую дзяўчыну, якая сядзела за сталом і пісала,

— Добры дзень! — нясмела павіталася Юля.— Выбачайце, скажыце, як мне ўбачыць Генадзя Матусевіча?

— З якой палаты? — спытала дзяжурная.

— Я здалёку прыехала, не ведаю,— адказала Юля.

— Як прозвішча хворага?

Юля паўтарыла.

— А, ведаю,— ажывілася сястра, палажыла ручку,— гэта шафёр той.

— Скажыце, што з ім? — падалася да яе Юля.

— Не бойцеся, нічога страшнага,— заспакоіла яе дзяўчына,— звычайны пералом нагі.

— А я абы-што думала,— сказала Юля, села і выцерла лоб хустачкаю.— Ну, дзякуй богу, што добра ўсё.

— Вылечым вашага мужа,— прамовіла сястра.— Ваш чалавек сумаваў толькі, што да яго ніхто не прыходзіць.

— Я не ведала...— сказала Юля і апусціла вочы.— Сяброўка толькі на днях напісала...

— Вы хочаце яго пабачыць?

— Хачу,— сказала Юля, адзела белы халат, бальнічныя тапачкі і не сваімі, як драўлянымі, нагамі пайшла ўслед за сястрой...

— Вось,— сказала сястра і піхнула нечакана дзверы. Юля зайшла ў палату, адразу ўбачыла з правага боку пакоя накрытага прасцінаю чалавека, які ляжаў тварам уніз.

— Матусевіч! — паклікала сястра.

Хворы і не варухнуўся.

— Спіць,— сказала дзяўчына.— Вы пасядзіце, адпачніце.

Калі сястра выйшла і зачыніла за сабою дзверы, Юля ўзяла крэсла, ціхенька паставіла яго ля ложка, села.

Генадзь павярнуўся, прасціна спаўзла з яго плячэй, і Юля ўбачыла знаёмы твар, толькі ёй здалося, што на ім з'явілася болей маршчынак. Паўглядаўшыся, яна ўбачыла на яго скронях сівую валасінку.

— Спі, Генка,— прашаптала яна, нахілілася і пацалавала мужа ў скронь.

Генадзь падняў галаву, глянуў на яе. Юля таксама глядзела на Генадзя, але паступова бачыла яго менш і менш: вочы засцілалі слёзы, яна нават сама не ведала, чаго плакала.

— Юля! — выдыхнуў Генадзь.

— Я, Генка,— сказала яна, падалася, і яны модна пацалаваліся.

— Калі ты прыехала?

— Толькі што,— прамовіла Юля.— Прыехала ў Вішнёўку, хата на замку. Сказалі суседкі, што тут ты... Напалохаў ты мяне...

— Адкуль ты ўведала?

— Суседка напісала,— сказала Юля.— Што ты зрабіў з нагою?

— Дрэвам прыціснула ў лесе. Ты адна прыехала?

— Адна. Пашкадавала Пецьку разводдзем цягаць.

— Як ён там?

— Добра. Гуляе з бабаю, а я на работу ў школу хаджу.

— Нядобра ў нас выйшла,— сказаў Генадзь.

— Пецька падрос, поўненькі такі,— Юля дастала з сумачкі здымак і падала мужу.— Усё не можа дачакацца, калі татка прыедзе і веласіпедзік прывязе.— Пасля яна не вытрымала і хліпнула: — Толькі крыўдзяць яго дзеці...

Генадзь узяў здымак, моўчкі глядзеў на свайго сына, і відаць было, як у яго калаціліся рукі. Ён пазіраў доўга, з нейкім добрым замілаваннем.

— Чаму крыўдзяць? — спытаў ён.

— Бязбацькавіч...

— Ляжаў я тут і думаў: папраўлюся, стану хадзіць — паеду да вас, трэба разабрацца... — гаварыў Генадзь, і Юля адчула, што перадумаў шмат за тэты час і ён.— А я ўжо і забыўся, які Пецька... Ляжу, успамінаю і не магу ўбачыць...

— Вялікі. Спрабуе маляваць,— усміхнулася Юля.— Са мною ў лес ездзіць, пілуе дровы.

— Нашто ты яго мучыш?

— Сам просіцца. Кажа: «Мама, вырасту, падужэю, буду за цябе рабіць, не дазволю крыўдзіць цябе...» — Юля расказвала і расчулена плакала.— Каб не ён, то мне і цяжка было б, а так пагаворым, загуляемся — лягчэе на душы...

— А я адзін быў,— прамовіў Генадзь, і Юлі стала шкода яго, як і сына.

— Ты, Генка, і цяпер верыш таму, што гаварылі пра мяне? — спытала яна.

Генадзь пачырванеў, не ведаў, што сказаць.

— Не было нічога,— сказала Юля. Хваліўся Толя, а людзі паўтаралі яго словы, прыбольшвалі.

— Вінаваты я моцна... Не магу табе ў вочы глядзець...

— Разлюбіў ці другую маеш? — насцярожылася яна.

— Не маю я другой,— сказаў Генадзь,— але што гаварыць. На, пачытай вось,— і ён выхапіў з-пад падушкі ліст і падаў Юлі.

«...Я тож, Гена, надумаўся выязджаць адсюль,— чытала Юля.— Ты, стары, не памыляешся: трэба пачынаць жыць інакш, па-чалавечы. Жыццё даецца нам адзін раз, і трэба яго добра пражыць.

Заехаць развітацца да цябе не магу. Прызнацца, часу хапае, і гадзін колькі пахадзіў ля тваёй бальніцы. Рашыў перадаць гэта пісьмо, не магу асмеліцца сустрэцца з табой. Ты прабач, стары; мы былі добрымі сябрамі, нямала разам папрацавалі, але я не заеду пацiснуць табе лапу.

Многа гадоў я быў вялікім дурасліўцам, такім жа, як і ты, я зайздросціў табе і па зайздрасці адпаліў адну агіднасць. Ты, канечне, помніш, не забыў яшчэ Юлю. Ты хадзіў з ёю, ажаніўся, а я кіпеў, праклінаў цябе, бо яна і мне падабалася. Адбіць яе ў цябе я не мог, дык вось па дурной галаве я рашыў звесці вас. Я наўмысна аднойчы пры выпіўцы, ведаючы твой гарачы характар, тваю помслівасць, нагаварыў пры хлопцах на Юлю...

І на тую сустрэчу яна прыйшла не дзеля мяне, а дзеля цябе; ёй я сказаў, што выклікаеш ты, а цябе я падкалоў: прыходзь, глянь, як буду сустракацца з тваёй «улюблёнай, чэсненькай...»

Юля не стала далей чытаць, успомніла Толіка, рыжага шафера, Генадзевага сябра, які сапраўды спрабаваў, калі яна была ў леспрамгасе, бегаць за ёю.

— Ну, вось і добра,— сказала Юля.— З крыўды я не выскачыла замуж, а ты ведаеш, што я не вінавата, што не падманьвала цябе.

— Думаеш, мне лягчэй ад гэтага? — спытаў Генадзь.

— Я тож добрая была...— сказала Юля.— Не пагаварыла з табою, сабрала манаткі і з'ехала.

— Не варты я цябе, Юля.

— Ты пра сына не думаеш,— папракнула Юля.— Каб думаў, шкадаваў, то не дапусціў бы, каб яго бэнсем называлі. — Юля закусіла вусны, адвярнулася.— Пра мяне тож падумаць не хочаш... Гавару ж табе, знаходзіліся людзі, заступаліся, бралі, а мне так хацелася, каб у дзіцяці родны бацька быў, каб і я, маладая, шчасця паглядзела. А аднаму — сам ведаеш, як жыць...

— Прабач, Юля! — Генадзь схапіў яе пасiвераныя, паабдзіраныя таркаю, не раз парэзаныя нажом рукі і стаў цалаваць іх, закрыў імі свой твар. І яна ўпершыню ўбачыла, як скупа, але моцна можа плакаць мужчына.

— Ой, я і забылася! — схапілася Юля, узяла сумку і дастала адтуль кольца каўбасы, булку хлеба, агуркі і слоік соку.

Генадзь расчулена ўсміхаўся, выціраў вочы і дзякаваў.

— Спрабуй, сама рабіла,— частавала яго каўбасою Юля.— Мацуйся, каб хутчэй стаў на ногі. Я ў цябе і не спытала,— працягвала яна і складала ў столік прыпасы,— як ты падлез пад тое дрэва?

— Засела машына, нахілілася, я аглядаў яе, а ланцуг ў гэты час не вытрымаў.

— О божа! І ты адзін толькі быў у лесе?

— Адзін,— усміхнуўся Генадзь.

— Мог бы і змерзнуць пад бярвеннем,— сказала Юля, і ёй стала страшна.

— Я сам амаль выбраўся, ды і хлопцы, не дачакаўшыся мяне, выехалі насустрач.

— Дзякуй богу, што ўсё так добра абышлося,— узрадавалася Юля.— Магло і горай быць. Аж страшна падумаць.

— Спачатку дома ляжаў,— расказваў Генадзь,— пасля, калі нядобра ступіў і разбалелася нага, сюды забралі, сказалі ляжаць.

— І сам есці варыў сабе? — здзівілася Юля.

— Надзя карміла. Зварыць дома булёну і мне ў місачцы нясе... Грошы пасля даваў, не ўзяла.

— Надзя — добрая жанчына,— сказала Юля — ведала сваю суседку,— Ну, а я, мусіць, паеду, бо на цягнік спазнюся.

— Куды паедзеш? — спытаў Генадзь і захваляваўся.

— Паеду ў Вішнёўку, пагляджу кватэру, пасля з'езджу да мамы, забяру Пецьку.

— Толькі хутчэй, Юлька, не затрымлівайся,— Генадзь прыцягнуў яе і абняў.— Надакучыла мне аднаму...

— І мне,— прызналася Юля,— і па табе засумавала...

— А я, каб ты ведала...— Генадзь моцна пацалаваў яе і не адпускаў ад сябе.

— Ну, добра, Генка,— прашаптала яна,— я хуценька. Толькі хацелася б маме памагчы бульбу садзіць і дроў навазіць.

— Паздаравею — удваіх тады паедзем.

— Ну, добра, не затрымаюся. На гэтым жа тыдні з сынам у цябе будзем,— абяцала Юля.— Хопіць, набылася адна...

Генадзь аддаў ключы ад кватэры, якую ім летась даў леспрамгас, і Юля выйшла з палаты.

...Разгубленая, радасная, Юля стаяла ў сваёй кватэры, на кухні, у якой не была з восені. Трымала ў руках сумку і не здагадвалася яе пакласці, як не надумалася і сесці, і глядзела на ўсё знаёмае, сваё.

На тым жа месцы, на цвічку ля дзвярэй, вісела яе фуфайка, без аднаго гузіка, з вышмальцаванымі локцямі, ледзь вышэй яе звінеў лічыльнік, на якім ляжала парудзелая разліковая кніжка.

На лаве стаяў посуд; кантэйнер быў адчынены, у ім ляжала булка сухога хлеба.

Юля зайшла ў другую палавіну хаты, убачыла такія ж, як і на кухні, цёмныя фіранкі, запыленую накрыўку на тэлевізары.

На стале стаяў будзільнік і не цікаў, і ад таго ў хаце было так ціха, што яна пачула, як вые ў коміне вецер. Глянула на грубку: каля дзверцаў адскочыла гліна, і часта, відаць, з-за гэтага дыміла — быў цёмны стаяк.

«Што значыць, калі хата пабыла на замку»,— падумала Юля, падышла да стала і завяла гадзіннік. Адразу прапала цішыня.

Тады яна адчыніла дзверы, каб праветрылася хата, палажыла сумку, узяла вядро і пайшла па ваду. Пашаравала вядро і некалькі разоў выпаласкала яго. Наліла поўнае вады і прынесла ў хату. На месцы, пад столікам, ляжала іануча мыць падлогу.

Намачыла венік і спырскала хату. Тады зняла з акон фіранкі, паразбірала пасцелі і пачала выціраць з шафы, плафона, сцен пыл, сабрала і запхнула ў грубку старый газеты.

Успомніла пра свой і Генадзеў партрэты, што віселі ў спальні. Рамка і шкло былі так запылены, што не відаць было твараў. Юля абцерла фартухом — партрэты ажылі, а яна, здаецца, на здымку ўсміхалася; недзе здалёку, з вачэй бачыўся шчаслівы смех.

Пасля яна стала мыць падлогу. Падумала, што трэ было прынесці вады ў чыстым вядры і паставіць грэць — мыць посуд. Пайшла на кухню і не ўбачыла гэтага вядра — можа, узяла суседка, але да яе заходзіць не хацелася. Можна прынесці вады і ў чайніку ці каструлі.

Яна пачала выціраць падлогу, і тая свежа блішчала, ажно можна было глядзецца.

## 17

Юля зірнула на Генадзя — высокага, у выцертым асеннім паліто, вушанцы — і падумала, якая яна ўсё-такі дзіўная: столькі гаравала, чакала ўсё Генадзя, верыла, што пачнуць добра жыць, адыдзе ўсялякая горыч.

А Генадзь, стомлены дарогай, непаголены, вельмі ўжо смешны ў караткаватых штанах, худы і слабы ад хваробы, спакойна ішоў, углядаўся ў незнаёмыя мясціны, штосьці думаў сваё... І такіх людзей, як ён, звычайных, нечакана падумала яна, відаць, ёсць многа на свеце.

«А ён самы харошы, і толькі адна я, можа, гэта ведаю»,— Юля тарганула Генадзя за рукаў.

...Нечакана мяккая вясновая цішыня прарвалася — палілася па наваколлі шчырая і радасная песня. Юля і Генадзь глянулі ўверх: недзе зусім блізка, у сіняй бездані неба, звонка і чыста выспеўвалі нябачныя жаўранкі, радуючыся, што прыляцелі з далёкіх краін у родную старану, на свае знаёмыя палі, перацярпеўшы ростань, вялікую дарогу, а цяпер пачынаюць нанова жыць.

1971

# БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Генрых Вацлававіч Далідовіч нарадзіўся 1 чэрвеня 1946 года ў вёсцы Янковічы Стаўбцоўскага раёна ў сям'і каваля.

Закончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна.

У 1968-1973 гадах служыў у Савецкай Арміі, працаваў настаўнікам, завучам Шабыньскай васьмігадовай школы на Барысаўшчыне. З 1973 года — супрацоўнік аддзела прозы часопіса «Полымя», з 1979 г.— намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць».

Удзельнік VI Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў і IV нарады маладых пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі. Першае апавяданне надрукаваў у 1966 годзе ў стаўбцоўскай раённай газеце «Прамень». Аўтар кніг прозы «Дажджы над вёскай» (1974), «Цяпло на першацвет» (1976), «Маладыя гады» (1979), «Міланькі» (1980), «На новы парог» (1983), «Станаўленне» (1985), «Гаспадар-камень» (1987), у перакладзе на рускую мову — «Тепло на первоцвет» (1978), «Осенняя перекличка» (1981).

Асобныя творы перакладаліся на ўкраінскую, казахскую, узбекскую, таджыкскую, асецінскую, англійскую, іспанскую, польскую, балгарскую, славацкую мовы.

## ЗМЕСТ

**Далідовіч Г.**

Міг маладосці: Апавяданні, аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 439 с., 1 л. партр.— (Б-ка беларус. прозы).

У кнігу ўвайшлі лепшыя апавяданні і аповесці.

Пераважная большасць апавяданняў пра сучаснасць, пра моладзь. Аўтара цікавяць характары шчырыя, сумленныя, здольныя з адказнасцю жыць і працаваць, імкнуцца да дабрыні і духоўнага ўзбагачэння. З асаблівай узрушанасцю даследуецца таемны і чароўны свет пачуццяў.

Аповесці разнатэмныя: «Жывы покліч» — пра станаўленне маладой сям'і ў пасляваенны час, «Юля» — пра лёс маладой жанчыны, якая змагаецца за сваё шчасце.